# Славутыя імёны Бацькаўшчыны

## Выпуск другі

МІНСК
БЕЛАРУСКІ ФОНД КУЛЬТУРЫ
2003

УДК 929 (476) (082)
ББК 63.3 (4Беи)-8
С47

Серыя заснавана ў 2000 годзе

*Зборнік складзены з лепшых прац, якія выкананы ў Грамадскім аб'яднанні «Беларускі фонд культуры» пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь*



Укладанне
*УЛАДЗІМІРА ГІЛЕПА, АНАТОЛЯ ГРЫЦКЕВІЧА, ВАСІЛЯ КУШНЕРА, ВАЛЯНЦІНЫ БАСАВАЙ*

Славутыя імёны Бацькаўшчыны: Зборнік. Вып. 2/ Уклад.
С47 У. Гілеп і інш; Рэдкал.: А. Грыцкевіч (гал. рэд.) і інш. — Мн.: БФК, 2003. — 384 с.

ISBN 985-6523-11-7 (Вып. 2).
ISBN 985-6523-06-0.

Зборнік складаецца з навуковых даследаванняў жыццёвага і творчага шляху тых дзяржаўных, палітычных, грамадскіх, ваенных дзеячаў, мецэнатаў, дзеячаў культуры, навукі, якія нарадзіліся і жылі на Беларусі, а таксама вылучыліся сваім талентам і здольнасцю ў іншых краінах, але да гэтага часу малавядомы або зусім невядомы на радзіме.

Выданне разлічана на навукоўцаў, выкладчыкаў навучальных устаноў, школ, студэнтаў, а таксама аматараў беларускай даўніны.

УДК 929 (476) (082)
ББК 63.3 (4Беи)-8

ISBN 985-6523-11-7 (Вып. 2)
ISBN 985-6523-06-0

# Славутыя імёны Бацькаўшчыны

Яшчэ ў 1998 годзе Беларускі фонд культуры пачаў распрацоўку праекта «Славутыя імёны Бацькаўшчыны». Праект быў падтрыманы дзяржаўнымі органамі, і для яго выканання былі прыцягнуты навукоўцы і творчыя работнікі. У 2000 годзе выйшаў з друку першы выпуск зборніка навуковых артыкулаў-біяграм дзяржаўных, палітычных, грамадскіх і вайсковых дзеячаў, мецэнатаў, дзеячаў культуры, навукі, якія нарадзіліся і жылі ў Беларусі, а таксама праявілі свае таленты і здольнасці ў іншых краінах. Значная іх частка была малавядома або і зусім невядома на радзіме.

Пры ўкладанні зборніка былі прыняты прынцыпы навуковасці, аб'ектыўнасці і гістарычнасці пры напісанні біяграфічных нарысаў. Выкарыстоўваліся біяграфічныя звесткі з розных даследаванняў, кніг і матэрыялаў прэсы, пераважна сур'ёзных выданняў, а таксама архіўныя матэрыялы.

Паводле прынятай праграмы ў першым выпуску была аддадзена перавага гістарычным постацям ад XII да XIX стагоддзяў уключна. Некаторыя біяграмы былі ўвогуле апублікаваны ўпершыню.

Беларускі фонд культуры прадстаўляе цяпер другі выпуск гэтага выдання. Задачы і прынцыпы ўкладання засталіся тымі ж. Галоўнай задачай з'яўляецца знаёмства ўсіх тых, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі, з постацямі актыўных дзеячаў у розных галінах палітычнага, грамадскага і культурнага жыцця Беларусі мінулых стагоддзяў.

Калектывам аўтараў падрыхтаваны новы зборнік артыкулаў аб дзеячах XI–XIX стагоддзяў.

Пра некаторых з гэтых асоб ужо напісаны артыкулы і выпушчаны кнігі. Аднак часцей за ўсё яны мелі характар папулярных нарысаў або аўтары звярталі ўвагу на пэўныя падзеі, звязаныя з дзейнасцю гэтых асоб, без дастаткова поўнай характарыстыкі іх унёску ў палітычнае, эканамічнае і духоўнае жыццё краіны. Частка персанажаў гэтых выпускаў увогуле разглядалася ў якасці вядомых дзеячаў суседніх краін. Таму выданне «Славутых імёнаў Бацькаўшчыны» мае дачыненне і да другога праекта Беларускага фонду культуры – «Вяртання нацыянальных культурных каштоўнасцей».

Пры ўкладанні і напісанні артыкулаў аўтарам і рэдакцыйнай калегіі давялося сутыкнуцца з пэўнымі цяжкасцямі, са стэрэатыпамі ў папулярных выданнях ранейшага і сучаснага перыяду. Ад гэтых стэрэатыпаў, часткова і ад міфаў, пры сур'ёзных публікацыях прыходзіцца адмаўляцца.

Так, вядома, што полацкі князь Усяслаў Брачыслававіч меў мянушку Чарадзей. Аднак нікому з яго сучаснікаў і ў галаву не прыходзіла думка звяртацца да яго «Усяслаў Чарадзей» або «Чарадзей», бо за гэта можна было б панесці суровае пакаранне як за абразу хрысціянскага князя. Аб'ектыўна і сёння такая мянушка ў сур'ёзных навуковых выданнях не павінна прысутнічаць на кожным кроку.

Яшчэ адным міфам, ад якога трэба адмовіцца ў сур'ёзнай навуковай публікацыі, з'яўляецца навязанае пасмяротна імя Кастусь герою і кіраўніку нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 года ў Беларусі і Літве Вікенцію (Вікенцію Канстанціну) Каліноўскаму. Першым з беларускіх гісторыкаў Каліноўскага назваў Кастусём у сваім «Кароткім нарысе гісторыі Беларусі» Усевалад Ігнатоўскі, член бюро ЦК кампартыі Беларусі, у свой час адзін з кіраўнікоў партызанскага руху супраць польскіх войск у 1920 годзе. Усевалад Ігнатоўскі, зыходзячы хіба з таго меркавання, што імя Вікенці не беларускае, а польскае (хаця зрэдку ўжываецца і праваслаўнымі), вырашыў пасмяротна перайменаваць нацыянальнага героя Беларусі Вікенція Канстанціна Каліноўскага толькі ў Канстанціна (каб той не быў палякам), бо ў час напісання сваёй працы ён вёў барацьбу з палякамі. Аднак ва ўсіх сваіх асабістых дакументах Каліноўскі ўжываў

імя Вікенці. Імя Кастусь патрэбна было Ігнатоўскаму, каб пераўтварыць Вікенція Каліноўскага ў правадыра сялянскага паўстання 1863 года, якое сялянскім па сутнасці сваёй не было.

Міф аб сялянскім паўстанні 1863 года абвяргаецца гістарычнымі даследаваннямі. Дастаткова зазірнуць у Беларускую Савецкую Энцыклапедыю, каб пераканацца ў шляхецкім характары паўстання 1863 года на Беларусі: 70 працэнтаў удзельнікаў паўстання складалі дваране (галоўным чынам дробныя чыноўнікі, інтэлігенцыя, малазямельная і беззямельная шляхта) і толькі 18 працэнтаў — сяляне (у большасці ў Гродзенскай губерні). Асноўная маса беларускага сялянства за паўстанцамі не пайшла, нягледзячы на заклікі Каліноўскага і яго «Мужыцкай праўды». Царызму нават удалося накіраваць беларускіх праваслаўных сялян, унушаючы ім, што яны рускія, супраць паўстанцаў-палякаў. Дайшло да парадаксальнай сітуацыі, калі пануючы клас рускага дваранства ўзбройваў прыгнечаных сялян, накіроўваючы іх супраць другой часткі дваранства (апалячанага беларускага і польскага).

Легенда пра імя Кастусь вельмі нагадвае гісторыю з «палепшаным» імем Францішка Скарыны, якога ў 1940–1950 гады XX стагоддзя трэба было абавязкова называць Георгіем, каб ён быў праваслаўным беларусам, хаця Георгіем Скарына ніколі не быў. Усе гэтыя пасмяротныя перайменаванні з'яўляюцца далёкімі вынікамі русіфікатарскай палітыкі царскіх улад на Беларусі.

Рэдакцыйная калегія выдання «Славутыя імёны Бацькаўшчыны» прытрымліваецца тых жа прынцыпаў у падборы біяграм і падрыхтоўцы іх да напісання з навуковага, па магчымасці больш аб'ектыўнага і ў той жа час папулярнага, энцыклапедычнага падыходу да кожнай з выбраных постацей. Тэкст кожнага біяграфічнага артыкула абапіраецца на літаратурныя звесткі і часам архіўны матэрыял. Адначасова ўлічаны і сучасны стан развіцця навукі, і цяперашнія ацэнкі дзеячаў мінулага. Даволі часта аўтары артыкулаў з'яўляюцца і аўтарамі даследаванняў, кніг, навуковых і энцыклапедычных артыкулаў пра палітычных, дзяржаўных, грамадскіх, культурных дзеячаў нашага мінулага. Таму Беларускі фонд культуры працягвае супрацоўнічаць з тымі аўтарамі, якія з'яўляюцца кваліфікаванымі спецыялістамі ў абранай імі галіне навуковай дзейнасці.

Пры выданні другога выпуску «Славутых імёнаў Бацькаўшчыны» захавалася правіла беражлівых адносін да тэксту, які прапанавалі аўтары, зрабіўшы папраўкі толькі ў самых неабходных выпадках, каб улічыць сучасны стан навуковых даследаванняў і навуковыя патрабаванні. Аўтарскі стыль біяграм практычна застаўся некранутым. Адносна хранагалічных межаў выдання рэдакцыйная калегія захавала тую ж праграму, што і ў першым выпуску.

Далейшая распрацоўка праекта на навуковай аснове мае важнае значэнне ў адраджэнні і прапагандзе гістарычнай, культурнай і духоўнай спадчыны беларускага народа.

Рэдакцыйная калегія зборніка «Славутыя імёны Бацькаўшчыны» паставіла перад сабой задачу выдаць не толькі даведнік біяграм навуковага характару, але і практычны дапаможнік для выкладчыкаў, настаўнікаў, студэнтаў і навучэнцаў вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў нашай краіны.

Беларускі фонд культуры плануе выданне трэцяга выпуску зборніка «Славутыя імёны Бацькаўшчыны», каб вярнуць беларускай гісторыі многія іншыя гістарычныя постаці, над чым працягвае працаваць адпаведная камісія фонду.

*Анатоль Грыцкевіч,*
*доктар гістарычных навук, прафесар,*
*старшыня камісіі «Славутыя імёны Бацькаўшчыны»*
*Беларускага фонду культуры*

## Усяслаў Брачыслававіч «ЧАРАДЗЕЙ» (каля 1029–1101)



олацкая княжацкая дынастыя на працягу сваёй 400-гадовай гісторыі мела два назовы — Рагвалодавічы і Усяславічы. Рагвалодавічамі князі называліся ў асноўным у X—XI стагоддзях. Усяславічамі — у XII—XIII стагоддзях. Гэта не дзіўна, бо Усяслаў Брачыслававіч, як і яго прадзед Рагвалод, былі самыя вядомыя з усёй дынастыі. Рагвалод — першы полацкі князь, які прыгадваецца ў летапісных крыніцах пад 980 годам, а паводле меркавання некаторых гісторыкаў — пад 970 годам.

Лёс Рагвалода і яго княства быў незайздросны, трагічны. І гэта сталася адной з прычын варожасці полацкіх і кіеўскіх князёў. Сын Ізяслава Брачыслаў пачаў працу па адраджэнні былой моцы і славы Полацкай зямлі. Пасля смерці кіеўскага вялікага князя Уладзіміра Святаславіча ў 1015 годзе ўся «шматковая і нетрывалая імперыя Рурыкавічаў» была падзелена паміж яго нашчадкамі. Сярод іх найбольш магутнымі былі сыны Яраслаў, князь Наўгародскі, Мсціслаў, князь Тмутараканскі і ўнук Брачыслаў, князь Полацкі.

Вось у такі складаны і супярэчлівы час у Брачыслава Полацкага і нарадзіўся сын Усяслаў. Для Полацкай зямлі гэта быў перыяд адноснага спакою. Набыўшы статус незалежнасці, дзяржава толькі набіралася моцы, вызначаліся яе межы, да якіх з розных бакоў падбіраўся ўжо кіеўскі князь Яраслаў. Але адкрыта на абвастрэнне ён не ішоў, бо адчуваў, што Полацк здолее адстаяць свае інтарэсы.

Год 1044. «У гэты час памёр Брачыслаў, князь полацкі, сын Ізяслава, унук Уладзіміра, бацька Усяслава, і Усяслаў, сын яго,

сеў на стале». Усё звычайна… аднак дзівосная вестка аб нараджэнні Усяслава дайшла да нас праз усе нягоды і дагэтуль чаруе сваёй загадкавасцю. Вось як далей апавядае летапіс: «Маці ж яго нарадзіла ад чарадзейства. Калі маці яго нарадзіла, на галаве яго была язьвена. І сказалі вешчуны яго маці: «Гэтую сарочку навяжы на яго, няхай носіць яе да смерці». І носіць яе на сабе Усяслаў і сёння, таму і нялітасцівы ён на кровапраліцце».

Як ні дзіўна, але працей здагадацца, што за «язьвена» была на галаве князя ад нараджэння. Гэтаму ёсць тры тлумачэнні. Некаторыя гісторыкі (В. Я. Данілевіч, М. В. Каяловіч) лічылі, што гэта быў каўтун. Другія (Д. С. Ліхачоў, Б. А. Рыбакоў) — што рэшткі зародкавай абалонкі, амніёну (так званая сарочка, з якой калі-нікалі нараджаюцца дзеці). Трэція схільны думаць, што гэта быў радзімы знак на галаве, ці Божая знатамка. Мы схіляемся да другога тлумачэння, бо, адпаведна тэксту, толькі ў такім выпадку гэтую «язьвену» можна было навязаць на галаву дзіцяці і насіць у якасці талісмана.

У вядомай старажытнай быліне «Волхв Усяславіч» ёсць наступныя радкі:

«Стаў сабе Волхв ён дружыну прыбіраць:
Дружыну прыбіраў у тры гады,
Ён набраў дружыну сабе сем тысяч,
Сам ён, Волхв, у пятнаццаць гадоў,
І ўся дружына яго па пятнаццаць гадоў».

Калі князь пачынаў збіраць дружыну? Калі збіраўся ў паход або калі станавіўся паўнапраўным валадаром — стольным князем. У апошнім выпадку, адпаведна сярэднявечнаму рыцарскаму кодэксу, дружына прыносіла новаму князю клятву на вернасць. Менавіта пра гэта апавядае быліна.

Малады ўзрост князя не павінен здзіўляць. У тыя часы гэта было нармальнай з'явай. Варта прыгадаць, напрыклад, што Аляксандр Яраслававіч Неўскі стаў наўгародскім князем ва ўзросце 16 гадоў. Зразумела, што былінны ўзрост пятнаццаць гадоў можа быць чыста ўмоўным. У якасці гістарычнага факта ім карыстацца нельга. І тым не менш…

Зробім просты матэматычны разлік. Вядома дакладна з летапісаў, што Усяслаў стаў полацкім князем па смерці бацькі Брачыслава ў 1044 годзе. Калі ад 1044 адняць 15, то атрымаем 1029. А зараз давайце паглядзім, што ў гэты час адбывалася на Кіеўскай Русі.

Калі ісці гістарычным шляхам услед за летапісамі, то 16 гадоў, якія мінулі пасля ўзыходжання Усяслава на полацкі пасад, нічым для гэтай зямлі не вызначаліся. За гэты час у Кіеве памірае жонка Яраслава Мудрага грачанка Ірына, пасля — сын Уладзімір, а ў 1054 годзе і сам Яраслаў. Перад смерцю князь паспеў падзяліць усе землі паміж сваімі сынамі. Старэйшаму, Ізяславу, дастаўся Кіеў, Святаславу — Чарнігаў, Усеваладу — Пераяслаўль, Ігару — Уладзімір-Валынскі, Вячаславу — Смаленск. Праз тры гады памёр Вячаслаў. У Смаленску браты пасадзілі Ігара, які памёр у 1060 годзе.

Калі вядомыя сёння летапісы нічога не гавораць пра дзейнасць Усяслава тых гадоў, то аб некаторых звестках можна даведацца з іншых крыніц, напрыклад археалагічных.

Якім быў Полацк IX—X стагоддзяў, мы ведаем. Гэта — невялікае гарадзішча плошчаю каля аднаго гектара і паселішча вакол яго, каля сямі гектараў. Да сярэдзіны XI стагоддзя істотных змен у тапаграфіі горада не адбывалася. Хіба што павялічыўся вакольны горад — да 20 гектараў. А вось у сярэдзіне — другой палове XI стагоддзя выгляд Полацка рэзка мяняецца. Па загаду Усяслава Чарадзея палачане і жыхары воласці будуюць новы замак — дзядзінец. Назву яму даюць Вышні замак. На прыгожым узвышшы, у самай сутоцы Палаты і Дзвіны, раўняюць пляцоўку, падвозяць бярвенне, гліну, вапну. Хто ведае, колькі людзей сышлося на тую старадаўнюю талаку! Ды толькі работа віравала такімі тэмпамі, што нам, сённяшнім, не грэх бы і павучыцца.

На той час ва Усходняй Еўропе ўжо было некалькі цэркваў у буйных гарадах: Дзесяцінная і Сафійскі сабор у Кіеве, Сафійскі сабор у Ноўгарадзе. Першыя храмы былі не столькі сімваламі хрысціянскага веравызнання, колькі неадлучнай часткай вялікакняжацкай улады. Глыбокі сэнс самой хрысціянскай бажніцы ў яе сабornасці — усё збіраецца разам пад яе сутарэннем, як ва ўлонні царквы, дзеля спасціжэння Бога, выратавання сваёй душы і душы бліжняга. Сабornасць — ідэя аб'яднання людзей, іх фізічных і духоўных сіл. Вось чаму хрысціянства прыйшлося так натуральна да часу, калі складаліся розныя дзяржаўнасці ва Усходняй Еўропе. Царква дапамагала людзям у яднанні, заклікала іх да мірнага суіснавання. Гэтыя памкненні імпанавалі розным князям, валадарам розных земляў. Не быў выключэннем і Усяслаў.

Не ,зіўна, што ў якасці ўзору для галоўнага храма Полацка быў аб, аны Сафійскі сабор. Такія саборы былі ўжо ў

Канстанцінопалі — Царградзе, у Ахрыдзе, Кіеве і Ноўгарадзе. Канстанцінопальская Сафія была збудавана пры імператары Юстыніяне ў 532—537 гадах. Такі тып і назоў храма былі характэрны для таго часу. Варта прыгадаць, што нават знакаміты афінскі Парфенон,ператвораны ў хрысціянскую бажніцу, таксама быў прысвечаны Святой Сафіі. Сафійскі храм у Ахрыдзе быў збудаваны ў Х стагоддзі, у Кіеве пабудаваны візантыйска-балгарскімі майстрамі не пазней як у 30-х гадах XI стагоддзя, наўгародская Сафія — ў 1045—1050 гадах.

Аднак, каб будаваць храмы, Усяслаў мусіў атрымаць дасканалую на той час адукацыю. Гэта, безумоўна, было прывілеем толькі найвышэйшых членаў грамадства.

Грамату і навуку князь спасцігаў з маленства, яшчэ пры жыцці бацькі Брачыслава. Адукацыя ў княжацкіх сем'ях па тым часе была самай дасканалай. Параўнаць яе можна было толькі з выхаваннем у манастырах. Але калі ў манастырах перавага аддавалася чытанню і пісанню адпаведна Бібліі і апакрыфічных твораў айцоў царквы, то для князя гэта была яшчэ і валадарская, дружынная навука. Паводле кодэксу рыцарскага гонару, які быў шырока распаўсюджаны ва ўсёй Еўропе, князь мусіў дасканала валодаць усімі відамі тагачаснай зброі. Сапраўдным ваяром лічыўся той, хто сядзеў на кані лепш, чым хадзіў па зямлі.

Адукацыю князёў, у тым ліку і Усяслава, слушна будзе звязаць з пашырэннем і развіццём хрысціянства на Полаччыне. Да таго часу, як Чарадзей стаў вялікім князем полацкім, у горадзе ўжо існавала епіскапія і, зразумела, былі хрысціянскія храмы. Пад 1092 годам летапіс прыгадвае полацкага епіскапа Нічыпара, які з цягам часу стаў кіеўскім мітрапалітам.

Калі была спасцігнута «тэарэтычная» навука, вызначаны межы княства, умацаваны гарады, надышоў час Усяслава паспрабаваць сябе ў справе. Хутка здарылася і нагода. Да паўднёвых кіеўскіх зямель наблізіліся стэпавікі — торкі. Раней Кіеву пагражалі з поўдня печанегі, але зараз паўсталі ворагі не менш небяспечныя. Кіеўскія князі браты Яраславічы (дваюрадныя дзядзькі Усяслава) — Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад — у 1060 годзе запрасілі Усяслава ўзяць удзел у паходзе на торкаў. Каб перамагчы качэўнікаў, патрэбны былі вялікія сілы, і войска Усяслава было дарэчы. Полацкі князь не мог адмовіць Яраславічам, тым больш што падстаў для гэтага не было, а дамова паміж іх бацькамі — князямі Яраславам і Брачыславам — толькі спрыяла міру, усталяванаму апошнімі гадамі на ўсіх усходнеславянскіх землях.

М. Ермаловіч мяркуе, што адной з умоў, на якіх Усяслаў удзельнічаў у паходзе, была дамоўленасць, што пасля смерці смаленскага князя Ігара да Полаччыны адыдуць гарады Копысь і Орша. Але, як піша сам даследчык, крыніцамі гэта не пацвярджаецца. Тым не менш, такая дамоўленасць магла існаваць. Гарады Орша і Копысь стаялі на самай мяжы Полаччыны і Смаленшчыны. На працягу гісторыі феадальных часоў яны не аднойчы мянялі сваю прыналежнасць да той ці іншай зямлі. Але, акрамя сур'ёзных палітычных мэт паходу, варта ўлічыць і чыста суб'ектыўныя, чалавечыя.

Усяславу гэтым часам было каля 31 года. Малады, разумны, дужы, ён меў добрую дружыну, моцнае княства. Ці мог ён доўга сядзець дома без сур'ёзнай справы? Трэба было выпрабаваць сваю сілу, сваё войска, разведаць, на што знатныя дзядзькі — Яраславічы. Апрача таго, аб'яднаўшыся, князі выставілі такую вялікую сілу, што нават летапісец напісаў: «незлічонае войска». Яны маглі спадзявацца на хуткую і лёгкую перамогу. Так яно і адбылося: торкі фактычна разбегліся, убачыўшы аб'яднаныя княжацкія дружыны. Князям — гонар, дружыне — слава.

Спакой на Полацкай зямлі доўжыўся яшчэ пяць гадоў. Пасля паходу на торкаў Усяслаў Чарадзей бавіў час у стольным Полацку. Можна меркаваць, што пры апошняй сустрэчы з дзядзькамі паміж Полацкам і Кіевам была дасягнута нейкая дамоўленасць аб падзеле сфер уплыву. Магчыма, ужо тады Усяслаў Чарадзей адстойваў прынцып, які толькі праз 37 гадоў на Любецкім з'ездзе князёў прагучыць як закон: «Кожны хай трымае вотчыну сваю».

Пасля смерці смаленскага князя Вячаслава Яраславіча і ўладзімірскага Ігара Яраславіча ў 1060 годзе дзядзькі-Яраславічы падзялілі іх удзелы паміж сабою. У тым ліку і Смаленск. Горад стаў цалкам залежаць ад Кіева.

Яраславічы пакрыўдзілі сваіх пляменнікаў, перадзяліўшы спадчыну Яраслава Мудрага, і акрамя Усяслава Полацкага ім не было да каго звярнуцца. Тым больш, што Усяслаў Чарадзей трывала стаяў на пазіцыях свайго бацькі Брачыслава ў пытанні незалежнасці і самастойнасці княстваў. У такой сітуацыі Усяслаў Полацкі быў не проста трацейскім суддзёй, але і зацікаўленай асобай.

Адстойваючы прынцыпы княжацкага гонару, Усяслаў не мог не падтрымаць сваіх збратдзетных і трохкаленных братоў. Вось чаму, калі ў 1064 годзе Яраславічы прымусілі бегчы з Ноўгарада у Тмутаракань Расціслава Уладзіміравіча (сына старэйшага сва то брата), на наступны год Усяслаў Чарадзей «пача рать держ ти».

Першы паход Усяслававых дружын быў скіраваны ў 1065 годзе на Пскоў. І не дзіўна, бо гэты горад у непасрэднай блізкасці і залежнасці ад Ноўгарада мог стаць, па слушнай заўвазе М. Ермаловіча, плацдармам для нападу на Полацк і яго навакольныя землі. Да горада былі падцягнуты вялікія сілы, муры мязджэрылі сценабітнымі парокамі. Нягледзячы на магутны наступ, пскоўскі замак застаўся непрыступным. Але думаецца, што ва Усяслава не было мэты абавязкова захапіць горад. Паход на Пскоў стаўся папярэджаннем для Яраславічаў аб магчымых выніках іх бяздумнай палітыкі. Пскоўскі эпізод з'явіўся нібы прэлюдыяй да паходу на Ноўгарад.

Аднак Усяслаў Чарадзей не спяшаўся нападаць на Ноўгарад. Паводле «Аповесці мінулых часоў», ён адступіў ад Пскова, а паводле Акадэмічнага летапісу, спыніўся ў Копысі, дзе стаў збіраць новае войска. Толькі ў 1066 годзе ён рушыў на Ноўгарад. Але, відаць, трохі спазніўся. Там ужо Мсціслаў паспеў зараняць княжацкі пасад. Магчыма таму аблога і захоп Ноўгарада былі жорсткія і крывавыя.

Паводле летапісу, Усяслаў захапіў Ноўгарад і спаліў яго да Нераўскага канца, захапіў у палон жанчын і дзяцей, паздымаў з наўгародскай Сафіі званы і панікадзілы. У апошнім, вядома, можна сумнявацца, ведаючы, як зычліва ставіліся да Усяслава Чарадзея святары. Але ж пра гэта паведамляюць наўгародскія летапісы і вельмі падрабязна. На нашу думку, будаўніцтва храма ў Полацку і адначасовае рабаванне святой Сафіі у Ноўгарадзе, пры ўсёй супярэчнасці, адпавядала няўстойліваму хрысціянска-язычніцкаму веравызнанню Усяслава. Ён быў хрысціянінам больш па неабходнасці, чым па перакананні, і язычнікам у душы. А таму яго сумленне дазваляла рабаваць чужыя храмы.

Захопам Ноўгарада Усяслаў «разбіў славу Яраслава», як апавядае «Слова аб Паходзе Ігара», бо менавіта Ноўгарад доўгі час лічыўся апірышчам Яраслава Мудрага, адпаведна — і яго нашчадкаў.

«Яраславічы тры — Ізяслаў, Святаслаў, Усевалад,— сабраўшы разам войскі свае, рушылі на Усяслава, калі была вялікая зіма, і прыйшлі да Менска. А менчукі зачыніліся ў горадзе, і браты ўзялі Менск, забілі мужчын, а жонак і дзяцей забралі ў здабычу і пайшлі да Нямігі. Усяслаў таксама выступіў супроць, і, сустрэўшыся на Нямізе месяца сакавіка ў трэці дзень, пайшлі яны адны супроць другіх. І быў снег вялікі, і была сеча лютая, і загінулі многія. І перамог Ізяслаў, Святаслаў, Усевалад, а Усяслаў уцёк».

Гэтая бітва была адной з самых жудасных на некалькі стагоддзяў. Нават у канцы XII стагоддзя аўтар «Слова...» прыгадвае яе з болем і горыччу:

«На Нямізе галовы сцелюць снапамі,
харалужнымі малоцяць цапамі,
жыццё кладуць на таку злюцела,
веюць душу ад цела.
Нямігі крывавыя берагі
не збожжам былі засеяны зноў —
засеяны косцьмі рускіх сыноў».

Аднак для абодвух бакоў бітва была безпераможная. Загінула безліч людзей трэцяга сакавіка 1067 года. І ні ў кога не было моцы змагацца далей. Усяслаў адышоў да Полацка, а Яраславічі ўскрайкамі, паўднёвымі межамі Полаччыны рушылі ў бок Смаленска. Праз чатыры месяцы з новым войскам Яраславічы ўжо стаялі каля Оршы на беразе Дняпра. Адтуль яны і запрасілі полацкага валадара на перамовы, цалуючы Крыж Святы, што не зробяць яму благога: «Прыйдзі да нас, не зробім табе зла».

Усяслаў, спадзеючыся на крыжацалаванне, пераплыў у чоўне Днепр разам з двума малалетнімі сынамі. Калі ён увайшоў услед за Ізяславам у шацёр, яго схапілі. Разам з сынамі Усяслава як вязня павезлі ў Кіеў і засадзілі ў турму-поруб.

Клятваадступніцтва Яраславічаў — яскравы доказ вераломнай палітыкі Кіева, які не грэбаваў ніякімі метадамі. Вядомае выслоўе, што ўсе сродкі добрыя ў дасягненні мэты, можна лічыць дэвізам трыумвіраў на працягу ўсёй іх дзейнасці. Перамовы «на Ршы» не адбыліся. Але і клятваадступніцтва Яраславічаў не мінулася ім. У наступным, 1068 годзе, на паўднёвыя кіеўскія землі абрынуліся незлічоныя орды полаўцаў. Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад выйшлі ім насустрач, але 15 верасня 1068 года на рацэ Альце былі разбіты.

Следам за гэтым паведамленнем у летапісе ідзе «Павучанне аб кары Божай», якое прыпісваецца Феадосію Пячэрскаму— ігумену, духоўнаму саюзніку Усяслава. Яно накіравана супраць клятваадступнікаў, г. зн. Яраславічаў, якія парушылі крыжацалаванне.

Усяславу было наканавана прасядзець разам з сынамі ў порубе 14 месяцаў і 5 дзён замест пажыццёвай няволі, як меркавалі Яраславічы. Разбітыя на Альце «за грахі», тры браты пабеглі хавацца ў свае гарады: Святаслаў — у Чарнігаў, а Ізяслаў разам

з Усеваладам і рэшткамі дружыны прыйшлі да Кіева. Палавецкая пагроза заставалася, а таму кіяўляне сабраліся на веча на гандлёвым пляцы кіеўскага Падола і там патрабавалі ад князя Ізяслава коней і зброю. Князь адмовіў. Тады натоўп з Падола рушыў на двор ваяводы Каснячкі і разрабаваў яго. Па тым, як Каснячка збег, калі да яго прыйшлі гараджане, можна меркаваць, што гэтак жа баязліва ён паводзіў сябе і на Альце.

Але вось абураны натоўп «выпадкова» апынуўся каля дворышча Брачыслава, таго самага, якое было заснавана бацькам Усяслава Чарадзея. Зараз гэта быў не толькі гандлёвы полацкі двор у Кіеве, але і своеасаблівае «прадстаўніцтва» палачан на Кіеўшчыне. Тут, каля дворышча Брачыслава, і ўзнікла думка: «Пойдзем, высадзім дружыну са склепа — вызвалім Усяслава з поруба-турмы». Натоўп падзяліўся на дзве часткі: адна пайшла да поруба, другая — па «мосце», вымашчаным насціле, на княжацкі двор. Вязніца полацкага князя і яго сыноў імгненна была раскідана па бярвеннях. Там жа на Падоле Усяслаў быў агалошаны вялікім князем кіеўскім. Ізяславу нічога не заставалася, як, прыхапіўшы дзяржаўную казну, збегчы. Так Усяслаў Полацкі стаў вялікім князем усіх «рускіх зямель».

Што было ў наступныя месяцы, як кіраваў Усяслаў Чарадзей у Кіеве — мы не ведаем. Вучоныя схіляюцца да думкі, што ён знайшоў коней і зброю ( дзеля чаго сягаў ажно да Тмутаракані — сённяшняй Тамані) і адбіў напад ворагаў.

Але яго ўласны вораг — выгнаны Ізяслаў — не драмаў. Паводле выказвання акадэміка Б. Грэкава, «Ізяслаў здраджваў інтарэсам Русі, шукаў дапамогі ў Заходняй Еўропе». І гэта было сапраўды так. Па дапамогу Ізяслаў разам са сваёй дружынай найперш кінуўся да свайго стрыечнага брата — польскага князя Баляслава II Смелага. Баляслаў сабраў вялікае войска і разам з Ізяславам і яго дружынай праз сем месяцаў рушыў на Кіеў, каб вярнуць Ізяславу княжацкі пасад.

Насустрач гэтаму войску з Кіева ў бок Белгарада выйшла войска на чале з Усяславам. «І прыйшоў Усяслаў да Белгарада (на захад ад Кіева), а калі настала ноч, ён употай ад кіян уцёк з Белгарада да Полацка». Як сведчыць расійскі гісторык В. Тацішчаў, Усяслаў не верыў кіяўлянам і ўцёк у сталіцу свайго княства, дзе меў пэўную падтрымку у баярства і гараджан.

Нечаканаю была развязка княжання Усяслава ў Кіеве. Дагэтуль ніхто не змог пераканаўча растлумачыць, чаму ён добраахвотна адмовіўся ад такога прэстыжнага валадарства. Аднак ...

На працягу ўсёй гісторыі мы назіраем у полацкіх князёў абвостранае пачуццё Радзімы, Бацькаўшчыны. Верагодна, не

магло яно абмінуць і Усяслава. Зразумела, што пачуццё — не навуковы доказ. Але, не ўлічваючы агульначалавечых каштоўнасцей, людской маралі, мы ніколі не зможам да канца зразумець сваёй гісторыі.

Вось чаму князь-пярэварацень, шчаслівец і пакутнік імчыць на родную зямлю — Полаччыну.

«Дружына спіць, дык Волхв не спіць:
Ён абернецца шэрым воўкам,
Бегае, скача па цёмных лясах і кустоўі,
А б'е ён звяроў рагатых,
Ды і воўку, мядзведзю спуску не дае».

Так апавядае быліна «Волхв Усяславіч», прысвечаная полацкаму князю.

Але і ў родным Полацку не знайшоў Чарадзей спакою. У тым жа годзе Ізяслаў, накіраваўшы да Полацка сваё войска, прымусіў бегчы яго са сталіцы радавога княства. Паводле Наўгародскага Першага летапісу, Усяслаў уцёк да фінскага племя водзі (на паўднёвым беразе Фінскага заліву, на захад ад Нявы), паводле іншых крыніц — да варагаў.

23 кастрычніка 1069 года ў пятніцу ў 6 гадзін пад Ноўгарадам з'явілася водскае войска на чале з Усяславам Чарадзеем. Хто каго падбухторыў на гэты паход — Усяслаў водзь ці водзь Усяслава— невядома. Пайсці разам з ваджанамі на Ноўгарад ва Усяслава Чарадзея былі свае падставы. Па-першае, Ноўгарад — старадаўні вораг Полацка і канкурэнт на гандлёвым шляху «з вараг у грэкі», адкуль заўсёды была пагроза; па-другое, у горадзе тым часам сядзеў яго зацяты вораг — князь Глеб (той самы Глеб, якога Усяслаў выгнаў з Ноўгарада ў 1066 годзе, а пасля з Тмутаракані ў 1068—1069 гадах); па-трэцяе, у 1069 годзе ў Ноўгарадзе з'явіўся вяшчун, які выступіў супраць наўгародскага епіскапа Фёдара.

Мяркуючы па летапісным сказе: «... князь жа Глеб і дружына яго сталі каля епіскапа, а людзі ўсе ішлі за вешчуном» — большасць насельніцтва падтрымала вешчуна. Князь і епіскап засталіся фактычна ў адзіноце. Убачыўшы такое становішча, наўгародскі князь узяў пад кашулю сякеру і падышоў да вешчуна. Пасля кароткай размовы Глеб выхапіў сякеру і засек вешчуна. Той упаў мёртвы, а людзі разышліся.

Вось такое складанае становішча было ў той час у Ноўгарадзе, калі на яго з водскім войскам рушыў Усяслаў Чарадзей. 26 кастрычніка ў 6 гадзін войска князя Глеба сустрэлася з войскам

Усяслава каля Зверынца на рацэ Гзені. Для наўгародцаў гэта сустрэча не была нечаканай, а таму абодва войскі амаль адразу ўступілі ў бітву. Як апавядае летапісец, «ваджанам была вялікая сеча і загінула іх шмат без ліку». Князь Усяслаў трапіў у палон. Але яго адразу ж адпусцілі «дзеля Бога», што надзвычай цікава. Да гэтага часу гісторыкі асабліва не зважалі на такі факт. Чаму Усяслава адпусцілі? На нашу думку, падобнае магло здарыцца толькі з незвычайна паважлівых адносін да князя, да яго дзейнасці і як палітычнага лідэра, і як абаронцы старых няпісаных законаў, а таксама як да пакутніка за сваю праўду і веру.

Пасля паражэння на Гзені імя Усяслава на два гады знікае са старонак летапісаў. Відаць, мы не памылімся, калі скажам, што гэтыя гады Усяслаў знаходзіўся сярод балцкіх плямёнаў, бо нездарма ж у 1071 годзе мы бачым яго пад Полацкам з войскам літоўцаў, саюзных яму эстаў, ліваў, латгалаў і семігалаў. «Выгнаў Усяслаў Святаполка з Полацка», — вось і ўсё, што кажа летапіс. Відаць, гэта была лёгкая перамога, якая, тым не менш, не абяцала Усяславу лёгкага жыцця.

Князь кіеўскі Ізяслаў не пакінуў без увагі ўсталяванне Чарадзея ў Полацку. Барацьбу з Усяславам узначаліў брат Святаполка, старэйшы сын Ізяслава — Яраполк. У 1071 годзе Яраполк разбівае Усяслава пад Галацічаскам (гэты горад не знойдзены археолагамі дагэтуль). Але гэтая перамога не мела істотных вынікаў ні для Полацка, ні для Кіева. Адбылося прыкладна тое, што і пасля бітвы на Нямізе. У Яраполка не хапіла моцы, каб вярнуць Кіеву Полацк, а ва Усяслава проста не было патрэбы ісці на Кіеў ці за межы свайго княства.

На прасторах Усходняй Еўропы віравала бурнае палітычнае жыццё. Пасля смерці Ізяслава Яраславіча на Няжацінай Ніве ў 1078 годзе адзінаўладным гаспадаром Кіева стаў брат Ізяслава, чарнігаўскі князь Усевалад Яраславіч. Сыну яго, Уладзіміру Манамаху, чарнігаўскаму і смаленскаму князю, не давала спакою слава Уладзіміра-Хрысціцеля і фанатычна-неадчэпная ідэя стварэння новай імперыі. Ажно да самай смерці ў 1125 годзе ледзь не кожнае «лета» хадзіў Манамах паходамі на суседнія княствы. Дабіраўся ён і да Полацкай зямлі. У адказ на паход Уладзіміра Манамаха на Полацк у 1077 годзе, які быў адбіты, полацкі князь у 1078 годзе зрабіў паход на Смаленск і спаліў горад. У сваю чаргу Уладзімір Манамах з чарнігаўскім войскам напаў на Полацкую зямлю і «папаліў зямлю і паваяваў яе да Лукомля і да Лагожска, пасля на Друцк пайшоў вайною і зноў вярнуўся ў Чарнігаў». Уладзімір Манамах восенню 1084 года хадзіў

з чарнігаўцамі і з полаўцамі да Менску, яны захапілі горад і не пакінулі ў ім «ні чалядзіны, ні жывёліны», як сведчыць летапіс.

Тым часам у Полацку гадаваліся нашчадкі Усяслава. Розныя даследчыкі налічваюць 6, а то і 7 сыноў Усяслава: Давыд, Глеб, Раман, Расціслаў, Святаслаў-Георгій, Рагвалод-Барыс. Апошняга, князя Рагвалода-Барыса, некаторыя лічаць за дваіх — Рагвалода і Барыса. Дакладны час нараджэння князевічаў невядомы. Акрамя, бадай, Расціслава. Пад 1070 годам у Іпацьеўскім летапісе па Хлебнікаўскім і Пагодзінскім спісах адзначана: «Нарадзіўся ва Усяслава сын, і назвалі яго імем Расціслаў». Але па другіх спісах гэтага летапісу сын нарадзіўся не ва Усяслава, а ва Усевалада. Усе ж астатнія князевічы з'яўляюцца на старонках старажытных пісьмовых крыніц толькі пасля смерці бацькі — Усяслава Чарадзея. Гэта і не дзіўна, бо побач з ім, такой незвычайнай гістарычнай постаццю, сыны, безумоўна, былі ў цені. Няма сумневу, што ўсе яны з маленства выхоўваліся гэтак жа, як калісьці сам Усяслаў. З малаком маці яны ўвабралі ваярскую і валадарскую навуку. І не толькі яе.

Дзякуючы празорлівай палітыцы Усяслава, яго дзяржава стала недасягальнай для валадароў зямных. Але тое, што не маглі зрабіць яны, было па сілах уладару нябеснаму — Богу. Ці не з гэтым звязана апошняя «прыпеўка», якую праспяваў Усяславу славуты Баян:

«Ні хітраму,
ні спрытнаму,
ні чарадзею дасціпнаму
суда божага не мінуць».

Адзіны суд, якому быў падуладны Усяслаў Чарадзей, — суд Божы. Перад ім шматпакутны і ўдачлівы полацкі князь неўзабаве і паўстаў. Першая нататка, з якой пачынаюцца летапісныя артыкулы 1101 года, такая: «Спачыў на векі Усяслаў, князь Полацкі, месяца красавіка, у чатырнаццаты дзень, дзевяць гадзін дня, у сераду». Незвычайная для летапісаў дакладнасць, але ж і незвычайная для гісторыі постаць — Усяслаў Брачыслававіч Чарадзей, князь полацкі.

За чатыры гады да смерці Усяслава, у 1097 годзе, у Любечы сабраліся ўсходнеславянскія князі, каб абвясціць даўно наспелы і абмыты крывёю прынцып: «Адгэтуль маем у адзіным сэрцы і захоўваем Рускія землі; кожны ды трымае вотчыну сваю». На гэтым з'ездзе не было ні Усяслава Чарадзея, ні яго

сыноў. Чаму? Ды проста таму, што гэты самы прынцып — «кожны ды трымае вотчыну сваю» — ён абвясціў яшчэ ў 1065 годзе, і да 1097 года для Усяслава, як і для ўсёй Полаччыны, ён даўно быў здзейснены. Яму не было чаго дзяліць з астатнімі князямі. А мяркуючы па тым, што на з'ездзе дзялілі «Рускую зямлю», Усяслаў Чарадзей гэткай сваю Полаччыну не лічыў. Тое, што даўно здзейснілася на Полаччыне як значны прагрэсіўны крок наперад, цяжка, з крывёю ўжывалася ў нетрах астатніх усходнеславянскіх, «рускіх», зямель.

Не паспелі князі ў Любечы зрабіць дамову, як зноў павыцягвалі з похваў свае мячы і пачалі зацята біцца на злом галавы. Урэшце, давялося збіраць другі з'езд у 1100 годзе ва Увецічах (Віцічаве), а пасля яшчэ адзін — у 1103 годзе каля Долабскага возера. Але і яны не спынілі міжусобіцы князёў. Як пры жыцці Усяслава, так і пасля яго смерці палачане не прысутнічалі ні на адным з гэтых з'ездаў. Сапраўды, хто ж гэта паедзе да чужакоў, каб дзяліць бацькаву зямлю? Хіба што ў госці. Але, відаць, і госці тыя былі не даспадобы полацкім князям — ні старым, ні маладым. Бо яны мелі тое, што было адваявана імі ў крывавых лютых сутычках з ворагам і па чалавечых і Божых законах належала толькі ім: Славу, Зямлю, Волю і ўсё тое, што месціцца ў вялікім і ёмістым слове — БАЦЬКАЎШЧЫНА.

*Літаратура*

*Алексеев Л. В.* Полоцкая земля в IX – XIII вв. Очерки истории Северной Белоруссии. М., 1966.

*Ермаловіч М.* Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990.

*Леонардов Д. С.* Полоцкий князь Всеслав и его время // Полоцко-Витебская старина. Вып. 2. Витебск, 1912; Вып. 3. 1916.

*Рыбаков Б.А.* Древняя Русь: Сказания. Былины. Летописи. М., 1963.

*Тарасаў С. В.* Чарадзей з сёмага веку Траяна: Усяслаў Полацкі. Мн., 1991.

*Чаропка В.* Імя ў летапісе. Мн., 1994.

*Сяргей Тарасаў*

# МІНДОЎГ
## (каля 1195–1263)

У сярэдзіне XIII стагоддзя ва Усходняй Еўропе ўзнікла новая феадальная дзяржава, якой было наканавана існаваць некалькі стагоддзяў. Першапачатковым яе ядром былі беларускія землі верхняга і сярэдняга Панямоння, так званая Чорная Русь (перш за ўсё Наваградскае княства), ці гістарычная Літва, землі па верхнім цячэнні Віліі (цяперашнія раёны Вілейкі і Смаргоні) і бліжэйшыя землі Аўкштайціі. Часова ў XIII стагоддзі да яе далучылася і Жамойція. У гэты перыяд дзяржава называлася Вялікае княства Літоўскае, або Вялікае княства Навагародскае (паводле летапісаў). У XIV стагоддзі дзяржава атрымлівае сталую назву Вялікае княства Літоўскае і Рускае, да якога ў 50-х гадах XV стагоддзя (пасля ўваходжання ў яго склад Жамойціі) было дададзена «і Жамойцкае». У беларускай гістарычнай літаратуры 20-х гадоў XX стагоддзя назва дзяржавы была прынята як Беларуска-Літоўскае гаспадарства на чале з вялікім князем — гаспадаром.

Вялікае княства Літоўскае, або Беларуска-Літоўская дзяржава, узнікла на беларускіх землях са сваёй сталіцай у беларускім горадзе Наваградку. Стварэнне гэтай дзяржавы адбывалася ва ўмовах няспыннай барацьбы з агрэсіяй нямецкіх рыцараў-крыжакоў і пад пагрозай мангола-татарскага нашэсця. Уключэнне беларускіх зямель у склад новастворанай у сярэдзіне XIII стагоддзя дзяржавы мела добраахвотны характар. Яно ажыццяўлялася праз пагадненні вялікіх князёў літоўскіх з мясцовымі князямі і беларускім баярствам. Прынцыпам далучэння было наступнае абавязацельства вялікага князя кожнай далучанай да дзяржавы зямлі: «мы старыны не рухаем, а навіны не ўводзім». Такім чынам, мясцовае баярства і гараджане бела-

рускіх, а потым і ўкраінскіх зямель захоўвалі былыя ільготы, прывілеі, пэўнае самакіраванне і сваё звычаёвае права (пакуль з XV стагоддзя не пачало ўводзіцца агульназемскае, агульнадзяржаўнае права).

Гістарычныя крыніцы сведчаць, што вытокі беларускай дзяржаўнасці адносяцца да часу ўтварэння Полацкага і Тураўскага княстваў, а пазней Гарадзенскага, Навагародскага, Смаленскага (нагадаем, што яно спачатку мела тэрыторыю да сярэдняга цячэння Дняпра на захадзе) ды іншых. За гэты (перш) перыяд беларускай дзяржаўнасці была створана матэрыяльная і духоўная культура, якая стала падмуркам дзяржаваўтваральных працэсаў на беларускіх землях у XIII—XIV стагоддзях.

Заснавальнікам Вялікага княства Літоўскага быў Міндоўг, першы вялікі князь Беларуска-Літоўскай дзяржавы, а таксама першы і адзіны яе кароль. Звестак пра яго паходжанне мала, а пра месца і дату нараджэння зусім няма. Першая згадка аб Міндоўгу адносіцца да 1219 года, калі ў Галіцка-Валынскім летапісе ён называецца адным са «старэйшых» князёў Літвы. Таму можна меркаваць, што ён нарадзіўся ў канцы XII стагоддзя. Дата ж яго смерці вядома — 1263 год.

Пра яго паходжанне ёсць дзве версіі. Пэўная частка беларускіх гісторыкаў лічыць яго нашчадкам віленскіх князёў у Літве, якія ў сваю чаргу былі нашчадкамі полацкіх князёў. Паводле гэтай версіі, Міндоўг быў нашчадкам Маўкольда, сына полацкага князя Расціслава Рагвалодавіча, які жыў у XII стагоддзі. Яго сыны Давіл і Маўкольд, паводле Васкрасенскага летапісу, былі запрошаны з Канстанцінопаля жыхарамі Вільні на трон, і ад іх пайшла дынастыя вялікіх князёў літоўскіх і рускіх. Гэту версію актыўна падтрымаў М. Ермаловіч і яго прыхільнікі. Аднак трэба адзначыць, што Васкрасенскі летапіс маскоўскай арыентацыі позні. Ён адносіцца да сярэдзіны XVI стагоддзя (на падставе Маскоўскага зводу 1479 года ў рэдакцыі 1526 года і Растоўскага зводу 1489—1503 гадоў), калі маскоўскія вялікія князі, пачынаючы з Івана III, актыўна пачалі прэтэндаваць на беларускія і ўкраінскія землі. У іншых, ранейшых летапісах, ні Расціслаў Рагвалодавіч, ні Давіл з Маўкольдам не згадваюцца, таму і лічацца ў гістарычнай навуцы фігурамі міфічнымі.

Больш таго. Версія аб паходжанні вялікіх князёў літоўскіх ад полацкіх князёў была ўпершыню прадстаўлена расійскай імператрыцай Кацярынай II у яе гістарычным творы аб паходжанні вялікіх князёў літоўскіх ад полацкіх князёў. Паколькі

Кацярына II, як і ўсе расійскія імператары і цары маскоўскія, лічыла сябе законнай спадкаемцай вялікіх князёў кіеўскіх, полацкіх і іншых, то гэта версія, прынятая афіцыйнымі расійскімі гісторыкамі, служыла абгрунтаваннем падзелаў Рэчы Паспалітай і законных правоў Расійскай імперыі на спадчыну дынастыі Рурыкавічаў ва ўсіх іх княствах, у тым ліку і на тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага.

Другая навуковая версія паходжання Міндоўга (паводле сучасных яму крыжацкіх хронік) лічыць яго сынам аднаго з уладароў (кунігасаў, князёў) у Літве. Упершыню Міндоўг разам са сваім старэйшым братам Даўспрункам упамінаюцца ў Галіцка-Валынскім летапісе ў 1219 годзе ў ліку 21 «старэйшага» князя Літвы, Жамойціі, Дзялтувы і іншых тэрыторый, калі князі гэтай канфедэрацыі зямель заключылі мірны дагавор з галіцка-валынскімі князямі Данілам і Васільком. У гэтым дагаворы Міндоўг названы чацвёртым сярод пяці «старэйшых» князёў Літвы. Паводле Лівонскай хронікі, бацька Міндоўга быў «магутным каралём» (адным са значных літоўскіх князёў). У пазнейшых летапісах бацьку Міндоўга называлі Рынгольдам. Такім чынам, ужо ў маладосці Міндоўг меў значны палітычны уплыў ў Літве. Да сярэдзіны 30-х гадоў XIII стагоддзя ён умацоўвае сваю ўладу у літоўскіх землях, абапіраючыся на сваяцкія сувязі з князямі Жамойціі. Яшчэ раз летапіс згадвае Міндоўга ў 1236 годзе. У той час ён быў у саюзе з князем Данілам Галіцкім і выступаў супраць мазавецкага князя Конрада. Як сведчыць летапіс, князь Даніїл «навёў Літву Міндоўга Ізяслава Наваградскага на Канрада Мазавецкага». Гэты кароткі запіс беларускія гісторыкі, пачынаючы з М. Ермаловіча, тлумачаць тым, што Літва Міндоўга (не ўся Літва і тым больш Аўкштайція) належала Міндоўгу, а сам ён быў у залежнасці ад наваградскага князя Ізяслава. Хлебнікаўскі і Пагодзінскі спісы Іпацьеўскага летапісу называюць і галоўны горад тагачаснага княства Міндоўга — Руту (інакш Варуту), які знаходзіўся ў Панямонні. Месцазнаходжанне гэтага горада-крэпасці не высветлена.

Шлях Міндоўга да аб'яднання пад сваёй уладай літоўскіх зямель быў жорсткім і крывавым. Частка князёў-праціўнікаў была ім выгнана: хто ўцякаў да крыжакоў, прымаў хрысціянства і нападаў на літоўскія і жамойцкія землі, хто ў беларускія землі, займаючы княскія пасады, а хто і ў Вялікую Русь (як гэта пазней зрабіў нальшчанскі князь Даўмонт). Частку князёў Міндоўг падпарадкаваў сабе, а частку знішчыў. Па сведчанні

Іпацьеўскага летапісу, Міндоўг «пачаў княжыць адзін ва ўсёй зямлі Літоўскай». Нагадаем, што тагачасная Літва займала адносна невялікую тэрыторыю паўднёвай часткі цяперашняга беларуска-літоўскага памежжа.

У 1238 годзе з летапісаў і хронік знікае імя Даўспрунка, старэйшага брата Міндоўга, і ён намагаецца ўзяць вышэйшую ўладу пасля брата. Аднак гэтаму супраціўляліся сыны Даўспрунка — Таўцівіл і Эдывіл, якіх падтрымліваў іх дзядзька па матчынай лініі жамойцкі князь Выкінт. У Жамойціі адбывалася таксама стварэнне дзяржавы, якая пашырала свае ўплывы на Аўкштайцію (усходнюю частку цяперашняй Літвы). Аўтарытэт Выкінта асабліва ўзрос пасля бліскучай перамогі жамойцкага войска над крыжакамі-мечаносцамі 22 верасня 1236 года ў бітве пад Шаўляй. У гэтай бітве загінуў магістр Ордэна мечаносцаў Фолькевін і шмат рыцараў. У 1237 годзе Тэўтонскі ордэн у Прусіі і Ордэн мечаносцаў (Лівонскі ордэн) у Лівоніі аб'ядналіся.

На поўдзень ад «Літвы Міндоўга» знаходзілася моцнае на той час Навагародскае княства са сваім князем Ізяславам. Яно аб'ядноўвала таксама Слонімскую, Ваўкавыскую і Гарадзенскую землі. Міндоўг быў саюзнікам гэтай дзяржавы. Аб гэтым сведчыць сумесны паход дружын Ізяслава і Міндоўга на Мазовію ў 1236 годзе. Адначасова ён з'яўляўся саюзнікам галіцка-валынскага князя Данілы Раманавіча. Ужо ў гэты час былі ўмовы для аб'яднання Галіцка-Валынскай Русі з Чорнай Руссю. Аднак незалежнасць Наваградскага княства ў канцы 30-х — пачатку 40-х гадоў XIII стагоддзя ўдалося адстаяць. Гэтаму таксама садзейнічалі знешнія абставіны. На землі Русі, перш за ўсё Уладзіміра-Суздальскай, а потым на Кіеў, Чарнігаў, Галіцка-Валынскае княства напалі мангола-татары, якія падпарадкавалі іх сабе. Гэта аслабіла націск Галіцка-Валынскага княства на землі Чорнай Русі. Навагародскае княства ў гэты час было забяспечана і з паўночнага ўсходу: на Полацкае княства пачаўся націск з боку Лівонскага ордэна. Такім чынам, на пэўны час Наваградак здолеў адстаяць сваю самастойнасць.

Больш таго, у Галіцка-Валынскім княстве ішла феадальная вайна паміж Данілам Раманавічам і венгерскім каралевічам Андрэем, жанатым з дачкой ранейшага галіцкага князя Мсціслава. У гэтай вайне ўдзельнічалі і войскі Міндоўга на баку Данілы Раманавіча. Рашаючая бітва за галіцка-валынскую спадчыну адбылася 17 жніўня 1245 года пад Яраславам (на рацэ Сан), якую выйграў Даніла Раманавіч. У гэтай бітве удзельнічалі і воіны Міндоўга.

А ў літоўскіх землях Міндоўг паступова набіраў сілу. Выкінт не здолеў утварыць дзяржаву ў Жамойціі і вымушаны быў прызнаць вярхоўную ўладу Міндоўга. Да 1246 года Міндоўг перамог князёў Булевічаў. У летапісе было запісана, што загінулі «Вішымунт, яго жа забіў Міндоўг і жонку яго ўзяў і братоў яго забіў Эдзівіла і Спрудзейку». Нальшчанская зямля (цяпер паўночная частка беларуска-літоўскага памежжа), дзе князем быў Даўмонт, швагер Міндоўга, ужо з 1238 года прызнавала над сабой уладу Міндоўга. Так, у 1238 годзе па закліку галіцка-валынскага князя Даніла Міндоўг накіраваў Даўмонта на польскія землі. Вярхоўнай уладзе Міндоўга падпарадкаваліся князі Рушковічы і князі з Дзяволтвы (вобласці на захад ад Нальшчанскай зямлі) Бікшы і Лічэйка. Такім чынам, улада Міндоўга пашырылася на значную частку літоўскіх зямель.

Каб умацаваць сваю ўладу, Міндоўг заключыў саюз з куршамі (балцкім племенем, што знаходзілася на тэрыторыі цяперашняй заходняй Латвіі), якія вялі барацьбу супраць Лівонскага ордэна. У 1244 годзе ён прыйшоў на дапамогу куршам са сваім, паводле Рыфмаванай хронікі, 30-тысячным войскам. Была ўзята ў аблогу крэпасць крыжакоў Амботэн. Аблога цягнулася пяць тыдняў, але беспаспяхова. З Гольдынгена на дапамогу крэпасці прыйшоў атрад ордэнскага войска з 500 воінаў. Калі Міндоўг пачаў штурм крэпасці, крыжакі нечакана з лесу напалі на войска Міндоўга. І з крэпасці была зроблена вылазка. У войску Міндоўга пачалася паніка, яго воіны кінуліся наўцёкі. На полі бою палегла 1 500 воінаў Міндоўга. Крыжакі рушылі ўслед за Міндоўгам, якому ўдалося дабрацца да свайго горада (Руты ці Варуты), дзе ён здолеў абараніцца ад ворага.

Паражэнне Міндоўга выкарысталі апазіцыйна настроеныя да яго літоўскія князі і баяры. Супраць Міндоўга паўсталі пляменнікі Таўцівіл і Эдзівіл і іх дзядзька па матчынай лініі, жамойцкі князь Выкінт. Яны звярнуліся з просьбай аб дапамозе ў барацьбе супраць Міндоўга да Польшчы, Галіцка-Валынскага княства і Лівонскага ордэна, абяцаючы прыняць хрысціянства.

Менавіта ў гэты час выгнаны з Літвы Міндоўг заключыў саюз з баярствам Наваградскага княства і стаў князем наваградскім, прыбыўшы ў сталіцу княства разам са сваёй дружынай. М. Ермаловіч датуе пачатак княжання Міндоўга ў Наваградку канцом 1246 ці пачаткам 1247 года.

Пачалося ўмацаванне сваёй улады. Міндоўгу ўдалося ў 1248 –1249 гадах выцесніць сваякоў з Літвы. Яго пляменнікі занялі Полацк, дзе пачаў княжыць Таўцівіл. У 1248 годзе

Міндоўг на чале беларускіх і літоўскіх дружын зрабіў паход на Літву, захапіўшы іх вотчыны (у летапісе «заняў Літву»). Спроба Міндоўга арганізаваць забойства сваіх блізкіх сваякоў не ўдалася. Урэшце Таўцівіл уцёк у Галіцка-Валынскае княства, а пазней паехаў у Рыгу, дзе быў ахрышчаны па каталіцкаму абраду і ўтрымліваўся як магчымы прэтэндэнт на пасаду вялікага князя.

Пасля падзей 1248 года, г. зн. выгнання пляменнікаў з Літвы і захопу іх уладанняў, Міндоўгу прыйшлося займацца пытаннямі знешняй палітыкі. Дагэтуль мірныя адносіны з Галіцка-Валынскім княствам змяніліся перыядам канфрантацыі з ім. У 1249 годзе Даніла і Васілька Раманавічы стварылі варожую ў дачыненні да Міндоўга кааліцыю. У яе склад увайшлі амаль усе суседнія землі, за выключэннем Полацка — Яцвязь (зямля яцвягаў), Жамойція, Лівонскі ордэн, нават войскі полаўцаў. Толькі польскі князь Баляслаў Сарамлівы адмовіўся ад удзелу ў кааліцыі. Такім чынам, ад самага пачатку існавання нашай Беларуска-Літоўскай дзяржавы са сталіцай у Наваградку ёй прыйшлося праводзіць актыўную знешнюю палітыку па некалькіх напрамках. Са стварэннем новай дзяржавы ва Усходняй Еўропе склалася новая геапалітычная сітуацыя. Гэтай дзяржаве адразу прыйшлося весці войны, уступаць у перамовы. Міндоўг намагаўся выкарыстоўваць розныя абставіны, каб захаваць сваю ўладу і самастойнасць Беларуска-Літоўскай дзяржавы.

У 1249 —1250 гадах адбыўся паход Данілы і Васілька Раманавічаў са сваімі саюзнікамі на Наваградскае княства. «І многае ваяванне было між імі». Руйнаваліся гарады, гарэлі сёлы, забівалі і бралі ў палон жыхароў. Разам з галіцка-валынскімі князямі выступілі лівонскія рыцары, яцвягі, паўднёвая Жамойція. У летапісе было сказана: «узяўшы гарады многія, вярнуліся дадому». Наваградак ворагам узяць не ўдалося, аднак зямля Наваградская была спустошана.

У 1250 годзе адбыўся новы паход саюзнікаў. Пляменнік Міндоўга Таўцівіл выступіў з Валыні на чале галіцка-валынскага войска. Лівонскае войска на чале з ландмайстрам Андрэем фон Сцірляндам ішло з поўначы праз Нальшаны. Менавіта пасля гэтага паходу Таўцівіл і паехаў у Рыгу, дзе быў ахрышчаны.

Міндоўгу трэба было нейкім чынам выйсці з крытычнага становішча, захаваць самастойнасць Беларуска-Літоўскай дзяржавы і разбурыць кааліцыю варожых сіл. Ён пачаў перамовы з Лівонскім ордэнам. Паколькі крыжакі ваявалі з язычнікамі з мэтай іх хрышчэння, то Міндоўг прыняў умовы ландмайстра

Андрэя фон Сцірлянда прыняць хрысціянства і паслаць пасольства да папы рымскага. Андрэй фон Сцірлянд сказаў Міндоўгу: «Не выратуешся і не пераможаш ворага, калі не пашлеш да папы і не прымеш хрысціянства». Міндоўг абяцаў Сцірлянду, што прыме хрысціянства і прасіў, каб ён хадайнічаў перад папай, каб князя і княгіню (яго з жонкай) адразу пасля хрышчэння каранавалі як хрысціянскага караля і каралеву. Андрэй фон Сцірлянд абяцаў яму гэта. Такім чынам, Лівонскі ордэн станавіўся пасрэднікам у адносінах паміж рымскім папай і Міндоўгам. Тым самым з ворага ён ператвараўся ў саюзніка Міндоўга. Варожая кааліцыя развальвалася.

У Рым разам з ордэнскімі пасламі адправіўся і баярын Міндоўга Парнус. Папа рымскі Інакенці IV узяў пад сваю пратэкцыю Міндоўга з жонкай і малодшымі сынамі Руклем і Рэпеклем.

У Мілан, дзе ў той час знаходзіўся папа рымскі, разам з ордэнскімі пасламі было накіравана пасольства з лістамі ад Міндоўга з просьбай прыняць яго пад апеку папы. Папа рымскі Інакенці IV прыслаў Міндоўгу булу, у якой гаварылася: «каралеўства літоўскае і ўсе землі, якія здабыў ад няверных або ў будучым мог здабыць на права і ўласнасць святога Пятра і яго (Апостальскай сталіцы і Міндоўга. — **А. Г.**) з жонкай, сынамі і ўсім дваром пад пратэкцыю і апеку Апостальскай сталіцы вырашылі ўзяць». Папа накіраваў таксама булу да рыжскага арцыбіскупа і біскупаў эзэльскага і дэрпцкага, каб яны дапамагалі «каралю літоўскаму, які жадае павярнуць язычнікаў да веры». Папа называў Міндоўга «сынам святога Рымскага касцёла». Упершыню папа назваў Міндоўга каралём, прызнаўшы такім чынам Літоўскую дзяржаву на беларускай зямлі каралеўствам.

На пачатку 1251 года пасля папярэдніх перамоў у Навагрудак прыбыла місія, упаўнаважаная папай рымскім Інакенціем IV для правядзення абраду хрышчэння Міндоўга, яго жонкі Марты (вядома яе хрысціянскае імя), двух малодшых сыноў і тых дружыннікаў-літоўцаў, якія былі язычнікамі. Папская була паведамляе аб вялікай колькасці ахрышчаных. Міндоўг, яго блізкія, літоўская дружына прынялі хрышчэнне паводле заходняга (рымскага) абраду. Па даручэнні папы рымскага абрад хрышчэння ў Навагрудку праводзіў Хрысціян, прэсвітэр Лівонскага ордэна.

Пераход у каталіцтва Міндоўга, яго двара і той часткі войска, што складалася з літоўцаў-язычнікаў, рэзка змяніў знешнепалітычную сітуацыю новай дзяржавы. Адзін з моцных вора-

гаў ператварыўся ў саюзніка. Варожая кааліцыя распалася. Новая Беларуска-Літоўская дзяржава ліквідавала небяспеку сваёй незалежнасці.

У тым жа 1251 годзе разгарнуліся ваенныя дзеянні ў самой Літве. Міндоўг са сваім войскам, вытрымаўшы аблогу ў крэпасці Варута, зрабіў паход у Жамойцію, дзе ў бітве ля крэпасці Твірэмет загінуў яго вораг, князь Выкінт. Падчас гэтага паходу ў адной з сутычак палавецкі воін параніў Міндоўга, і вялікі князь мусіў вярнуцца дадому.

Беларуска-літоўскае войска Міндоўга, якому ў гэтай вайне дапамагалі лівонскія рыцары, адбіла наступ варожай кааліцыі. З яе выйшлі яцвягі і жамойты, прыхільнікі пляменніка Міндоўга Таўцівіла. Іх князёў і баяр Міндоўг падкупіў серабром.

Становішча Міндоўга ў Літве ўмацавалася. Палепшылася і становішча Беларуска-Літоўскай дзяржавы ў барацьбе з тагачасным галоўным праціўнікам — Галіцка-Валынскім княствам, якое працягвала вайну супраць Міндоўга, бо па-ранейшаму намагалася далучыць Наваградскую зямлю да сваёй дзяржавы.

Звычайна гісторыкі падкрэсліваюць тактычную перамогу Міндоўга пры заключэнні пагаднення з крыжакамі. Аднак трэба прызнаць, што і крыжакі мелі карысць ад саюза з Міндоўгам. Міндоўг саступаў на карысць крыжакоў частку земляў жамойтаў і селонаў (дарэчы, якія яму не належалі). А гэта давала прававую магчымасць крыжакам заваёўваць землі балцкіх плямёнаў. Акрамя таго, Міндоўг абавязваўся не дапамагаць, як было раней, жамойтам і куршам.

Сучасныя беларускія гісторыкі зусім не згадваюць словы летапісца з Галіцка-Валынскага летапісу (паводле Іпацьеўскага спісу) пра ўяўнае і вымушанае прыняцце хрысціянства Міндоўгам. Дарэчы, такое ўяўнае прыняцце хрысціянства рабілі і прускія князі, каб на пэўны перыяд выратаваць свае землі ад пагромаў насельніцтва, якія ўчынялі крыжакі Тэўтонскага ордэна. Летапісец гаворыць пра Міндоўга: «Хрышчэнне яго было ліслівае, таму што патаемна ён не спыняў прыносіць ахвяры былым сваім багам, спальваў мерцвякоў; а калі ён выязджае на паляванне і заяц перабяжыць дарогу, то ні за што не пойдзе ў лес, не асмеліцца і галінку зламаць там». Польскі гісторык, знаўца гісторыі Вялікага княства Літоўскага, Генрых Лаўмяньскі адзначыў, што язычніцкі літоўскі князь спалучаў у сабе і пэўныя функцыі жраца, бо прыносіць ахвяры багам меў права толькі чалавек, які ведаў жрэцкія таямніцы.

Нягледзячы на распад кааліцыі, Галіцка-Валынская дзяр-

жава працягвала вайну з Наваградскім вялікім княствам, паранейшаму намагаючыся далучыць да сябе яго тэрыторыю. Гэты ваенны канфлікт цягнуўся з 1248 да 1254 года. Як заўсёды бывала ў той час, ваенныя дзеянні на некаторы перыяд перапыняліся з-за розных прычын: пасля жорсткай бітвы са значнымі стратамі трэба было сабраць новыя сілы, або наступала зіма, калі ваяваць не так зручна, як улетку, і інш.

У 1251—1252 гадах галіцка-валынскія князі зноў хадзілі на Наваградак. Па дарозе яны прымусілі пінскіх князёў далучыцца да свайго войска. Паблізу ад мяжы паміж Пінскім і Наваградскім княствамі яны сутыкнуліся з перадавым атрадам войска Міндоўга, і таямніца іх налёту была выкрыта. На рацэ Шчары Даніла Раманавіч правёў вайсковую раду. Нягледзячы на нежаданне сваіх воінаў, ён угаварыў іх працягваць паход, які скончыўся рабаваннем Навагрadскай зямлі: «паланілі ўсю зямлю Навагародскую». У 1252 годзе войска князя Васількі Раманавіча і яго пляменніка Рамана Данілавіча захапіла Гародню. Хутка пасля гэтага войска Данілы Раманавіча напала на літоўскую зямлю. У сваю чаргу сын Міндоўга Войшалк напаў на ваколіцы Турыйска на Валыні.

У 1252 годзе Міндоўг прапанаваў князю Данілу мір, аднак гэта прапанова была адвергнута. У канцы года войска Данілы Раманавіча зноў пайшло на Наваградак. Зноў некалькі дзён варожыя войскі рабавалі Наваградскую зямлю і адышлі назад. Такім чынам, Галіцка-Валынская дзяржава, нават і без былых саюзнікаў, вяла наступальную вайну. Міндоўгу прыходзілася адбівацца ад непрыяцеля.

Наступствам хрышчэння Міндоўга была падрыхтоўка да яго каранацыі. Яшчэ падчас пасольства баяр Міндоўга да папы яны прасілі ў Інакенція IV дазволу на каранацыю князя навагародскага каралеўскаю каронаю і атрымалі згоду. Прадстаўніком Апостальскай сталіцы, якому Інакенці IV даручыў каранаваць Міндоўга, стаў хэлмінскі біскуп Генрых. Каранацыя адбылася не адразу, бо Міндоўг працягваў весці вайну супраць Галіцка-Валынскай дзяржавы. Зручны для каранацыі момант надарыўся пазней, улетку 1253 года.

Урэшце ў Наваградак прыбыла ўрачыстая місія, упаўнаважаная рымскай курыяй каранаваць Міндоўга каралеўскай каронай. Узначальваў яе хелмінскі біскуп Генрых. Суправаджалі місію лівонскія рыцары на чале з ландмайстрам (магістрам). Менавіта ландмайстар Андрэй фон Сцірлянд перад прыездам у Наваградак загадаў у Рызе зрабіць дзве ўпрыгожаныя каштоў-

ымі камянямі кароны — адну для Міндоўга, другую — для яго жонкі Марты.

Урачыстая каранацыя адбылася 6 ліпеня 1253 года і праводзілася па правілах, што існавалі ў Еўропе ўжо некалькі стагоддзяў. Міндоўг і яго жонка былі належным чынам апрануты (каранацыйныя сандалі, белае адзенне). Караля памазвалі адмысловым араматычным алеем (мірам). Міндоўгу быў уручаны каралеўскі пярсцёнак. Біскуп Генрых каранаваў Міндоўга і Марту каралеўскімі каронамі і перадаў дабраславенне папы Інакенція IV. Каранацыя Міндоўга мела міжнароднае значэнне і была адзначана ў тагачасных летапісах і хроніках. У Іпацьеўскім летапісе ёсць кароткі запіс: «В лето 6760». «У той жа год вялікі князь літоўскі Міндоўг каранаваны быў на каралеўства літоўскае ў Наваградку, з багаслаўленнем Папы Інакенція, праз Генрыха, біскупа хелмінскага, у Прусах кардынала папскага».

Каб захаваць пераемнасць дынастыі, Міндоўг вырашыў дадаткова каранаваць аднаго са сваіх сыноў і звярнуўся да папы з такой просьбай. Паколькі старэйшы сын Міндоўга ад першай жонкі — Войшалк — раней ахрысціўся паводле ўсходняга (праваслаўнага) абраду і стаў манахам, хутчэй за ўсё Міндоўг прасіў аб зацвярджэнні каралевічам і каранацыі яго малодшага сына Руклі (ад Марты). У адказ на просьбу Міндоўга ужо наступны папа рымскі Аляксандр IV (які займаў папскі пасад з 1254 да 1261 года) выказаў сваю згоду на каранацыю каралевіча ў буле ад 6 сакавіка 1255 года (праўда, у буле няма імені каралевіча). Адначасова папа ў асобным лісце ад імя Апостальскай сталіцы зацвярджаў за Міндоўгам усе яго ўладанні. Звестак аб каранацыі каралевіча няма.

Каб не падпарадкавацца рыжскаму арцыбіскупу, Міндоўг яшчэ раней прасіў папу рымскага ўтварыць асобную дыяцэзію (біскупства) для свайго каралеўства. Ужо 17 ліпеня 1251 года папа Інакенці IV даручыў хелмінскаму біскупу знайсці кандыдатуру на пасаду біскупа Літвы. З-за вайны з Галіцка-Валынскім княствам гэта справа зацягнулася.

Па просьбе караля Міндоўга першым біскупам у Наваградку з 1252 года стаў Хрысціян, які раней ахрысціў Міндоўга. Новая дыяцэзія перайшла ў непасрэдную юрысдыкцыю Апостальскай сталіцы. Праз некалькі гадоў біскупства было павышана да рангу арцыбіскупства (ужо пры папе Аляксандры IV).

На землях Чорнай Русі, дзе было шмат праваслаўнага насельніцтва, пачало пашырацца хрысціянства. Сын Міндоўга Войшалк пабудаваў недалёка ад Наваградка Лаўрышаўскі пра-

васлаўны манастыр. У гэты час на захадзе беларускіх зямель у Гародні, Ваўкавыску і Слоніме былі пабудаваны крэпасці і храмы.

І каранацыя Міндоўга, і стварэнне асобнай дыяцэзіі для дзяржавы з падпарадкаваннем рымскай курыі ўмацавалі становішча Беларуска-Літоўскага каралеўства. Яны з'явіліся актамі дзяржаўнага значэння, прызнанымі Апостальскай сталіцай і еўрапейскімі дзяржавамі. Нават далейшыя палітычныя падзеі не змянілі стасункаў гэтых краін з новай дзяржавай. Яна была прызнана ў Еўропе, і хоць пераемнікі Міндоўга не насілі каралеўскага тытулу, аднак у гісторыі гэты дзяржаўны акт застаўся як сцвярджэнне існавання самастойнай беларускай дзяржавы са сталіцай у Навагрудку.

Вайна з Галіцка-Валынскім княствам працягвалася і пасля каранацыі Міндоўга, хаця ў Данілы Раманавіча былі і іншыя клопаты: пераадоленне цяжкіх наступстваў мангола-татарскага нашэсця, барацьба за аўстрыйскую спадчыну. Каб умацаваць сваё становішча і стварыць кааліцыю супраць мангола-татар, Даніла Раманавіч у снежні 1253 года (па іншых звестках — у 1254 г.) у Драгічыне быў каранаваны па даручэнні рымскага папы Інакенція IV каронай караля галіцкага і ўладзімірскага (на Валыні). Ваенныя дзеянні працягваліся і ў 1254 годзе, калі галіцкі кароль Даніла арганізаваў яшчэ адзін паход «на Літву, на Наваградак».

Пасля гэтага паходу Даніла заключыў з Міндоўгам мір. Цяжкая вайна 1248 —1254 гадоў скончылася. Трэба прызнаць, што дзяржава Міндоўга ў выніку заключэння міру трапіла ў залежнасць ад Галіцка-Валынскага каралеўства. Па ўмовах міру, які заключыў ад імя Міндоўга і ад сябе Войшалк, сын Данілы Раманавіча Шварн, або Шварна (Сварамір) ажаніўся з дачкою Міндоўга. Сын караля Данілы Раман атрымаў у валоданне «Наваградак ад Міндоўга і ад сябе (г. зн. ад Войшалка. — А. Г.), Васлонім і Валкавыеск, і ўсе гарады». Такім чынам, беларуская частка дзяржавы Міндоўга была перададзена галіцкаму князю Раману Данілавічу, які, дарэчы, быў зяцем ваўкавыскага князя Глеба. У Міндоўга заставалася частка яго літоўскіх зямель і вярхавенства над Панямоннем, праўда, больш намінальнае. Захоўваліся ў яго прыязныя адносіны з Лівонскім ордэнам і Апостальскай сталіцай. На захадзе з яцвягамі і жамойтамі адносіны былі напружаныя, а часам і варожыя (асабліва з яцвягамі).

Жамойція аддзялілася ад Літвы і неўзабаве там стаў княжыць Транята, сын сястры Міндоўга і яго ворага Выкінта. Але

спачатку Траната ставіўся лаяльна да Міндоўга, бо быў прыхільнікам барацьбы ■ крыжакамі і разлічваў на яго дапамогу. Такое становішча было нетрывалым, і агульная канструкцыя дзяржавы праз некалькі гадоў змянілася. За гэты час Міндоўг выдаў шэраг актаў на карысць Лівонскага ордэна. Так, у ліпені 1253 года ён падараваў Лівонскаму ордэну землі ў Жамойціі, такое ж падараванне ён зрабіў у 1254 годзе літоўскаму біскупу Хрысціяну, у 1255 годзе — Лівонскаму ордэну землі ў Селоніі (паўднёвая частка Латвіі на захад ад Дзвіны), у 1259 годзе — Лівонскаму ордэну Дайноўскай зямлі (на поўнач ад Гародні, па правым беразе Нёмана) і Скаловіі (у Прусіі). Усе гэтыя падараванні былі за кошт тых тэрыторый, якія фактычна Міндоўгу не падпарадкоўваліся. А гэта выклікала не толькі незадавальненне жыхароў гэтых зямель, але і адкрытае супраціўленне крыжакам і Міндоўгу. Таму ён страчваў уладу ў Жамойціі і Літве.

Новае выпрабаванне сустрэла Беларуска-Літоўскую дзяржаву ў 1258 годзе. У Галіцка-Валынскую дзяржаву прыйшло вялікае мангола-татарскае войска на чале з палкаводцам Бурундаем. Ён прымусіў Данілу Галіцкага далучыць яго палкі да татарскага войска і ажыццявіў паход на Літву. Былі спустошаны Аўкштайція і Нальшанская зямля, а Даніла напаў на Чорную Русь. У адказ сын Міндоўга Войшалк і яго новы саюзнік, ужо полацкі князь Таўцівіл, захапілі Наваградак, дзе Войшалк зноў стаў князем. Князь Раман Данілавіч быў захоплены ў палон і, верагодна, забіты па загаду Войшалка. Была адноўлена незалежнасць Літоўскага каралеўства ад Галіцка-Валынскай дзяржавы.

У 1260 годзе адбылося паўстанне ў Жамойціі і ў зямлі куршаў і земгалаў. Гэта быў адказ мясцовых балцкіх плямён на крыжовы паход рыцараў Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў на іх землі. 13 ліпеня 1260 года ля возера Дурбе (у Паўднёва-Заходняй Латвіі) жамойты і куршы разграмілі рыцарскае войска. Пасля гэтай перамогі паўстанне разгарэлася яшчэ больш. Жамойцкі князь Траната прыбыў да Міндоўга і перадаў яму незадавальненне жамойцкіх феадалаў яго саюзам з крыжакамі, прапанаваў вярнуцца ў язычніцтва, парваць саюз з ордэнам і пачаць супраць яго вайну. Траната таксама абяцаў пасля поўнай перамогі над крыжакамі перадаць Міндоўгу усю вярхоўную ўладу ў Жамойціі, Куроніі і Лівоніі. Маючы такую перспектыву, Міндоўг, які патаемна працягваў служыць язычніцкім багам, адрокся ад веры Хрыстовай і адкрыта зноў стаў язычнікам (апастазія).

Міндоўг спачатку разважаў над такой прапановай. Ведаю-

чы пра намеры мужа, Марта адгаворвала яго ад змены палітыкі саюза з крыжакамі. Яна нават папярэдзіла аб здрадзе, якая рыхтавалася, рыцара Зіверта, які знаходзіўся на каралеўскім двары і з якім яна сябравала. Больш таго, яна дамаглася, каб Міндоўг свабодна выпусціў Зіверта ў Рыгу і каб адкрыта абвясціў вайну немцам. Марта засталася каталічкай і спрабавала схіліць Міндоўга вярнуцца ў каталіцтва, але дарэмна. Міндоўг павёў свае войскі на дапамогу жамойтам і куршам. У Куроніі (немцы называлі яе Курляндыяй) яго войскі занялі крыжацкія крэпасці Сіцэліс, Георгенбург, Добен. У адказ крыжакі з мазавецкімі і вялікапольскімі князямі ў студзені 1261 года напалі на літоўскія землі, але былі адбіты.

Становішча Літоўскага каралеўства рэзка змянілася. Адмова Міндоўга ад хрысціянства прывяла да заняпаду каталіцкага касцёла ў дзяржаве і ліквідацыі каталіцкай дыяцэзіі. Праваслаўная царква ўтрымалася дзякуючы таму, што Войшалк быў праваслаўным і да таго ж манахам. Аднак язычніцтва ў краіне зноў набыло моцныя пазіцыі.

Пасля разрыву адносін з Ордэнам у 1262 годзе Міндоўг заключыў саюз з Вялікім Ноўгарадам, а таксама пагадненне аб барацьбе супраць крыжакоў з прусамі і яцвягамі. Літоўскае войска зноў напала на Мазавецкае княства. У бітве 23 чэрвеня 1262 года загінуў мазавецкі князь Земавіт, а яго сын Конрад трапіў у палон. У 1262 годзе Міндоўг разам з Транятам арганізаваў паход на крэпасць Вендэн (у Латвіі).

Здавалася, што ўлада Міндоўга мацнее і хутка здзейсніцца яго план панавання ва ўсёй усходняй Прыбалтыцы. Ён вёў барацьбу і супраць галіцкіх князёў. Пачаў барацьбу супраць берасцейскага князя Васілька Раманавіча, аднак яго войска было поўнасцю разбіта войскам галіцкага караля Данілы Раманавіча. У сваёй краіне Міндоўг пачаў праводзіць жорсткую палітыку. У Хроніцы Быхаўца пра гэта гаворыцца: «Княжачы ў зямлі Літоўскай, пачаў ён збіваць братоў сваіх ды сыноўцаў, а некаторых выгнаў з зямлі, і пачаў княжыць ува ўсёй зямлі Літоўскай адзін, і пачаў ганарыцца вельмі, узнёсся славаю ды гордасцю вялікаю, не трываючы супраць сябе нікога».

У 1263 годзе памерла жонка Міндоўга Марта. Ён запрасіў да сябе яе сястру, што была замужам за нальшчанскім князем Даўмонтам, каб аплакваць нябожчыцу. Калі ж яна прыехала, то амаль сілай прымусіў выйсці за яго замуж. Гэта, зразумела, варожа настроіла Даўмонта да Міндоўга.

Кіраваннем Міндоўга былі незадаволены жамойцкія князі на чале з Транятам і полацкі князь Таўцівіл. У выніку змовы быў падрыхтаваны план забойства Міндоўга, які ўжо не адпавядаў інтарэсам феадальнай знаці і князёў. У 1263 годзе Міндоўг арганізаваў паход за Днепр супраць бранскага князя Рамана. Падчас паходу Даўмонт са сваімі воінамі дагнаў Міндоўга і забіў яго разам з абодвума малодшымі сынамі Руклем і Рэпеклем. Пачалася феадальная вайна за ўладу. Войшалк выратаваўся і на некаторы час уцёк у Пінск. Уладу ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве захапіў Транята, які, каб пазбавіцца ад прэтэндэнта на вялікакняжацкі трон, забіў полацкага князя Таўцівіла. Аднак у 1264 годзе сам Транята быў забіты змоўшчыкамі, прыхільнікамі Міндоўга і яго сына Войшалка. Арганізатарам забойства быў Войшалк, які і стаў наступным вялікім князем. Пачаўся перыяд аслаблення дзяржавы. Палітычны крызіс працягваўся некалькі гадоў.

Значэнне Міндоўга ў гісторыі Беларусі і Літвы, нягледзячы на многія адмоўныя рысы гэтай гістарычнай постаці, вялікае. Пасля полацкага перыяду беларускай дзяржаўнасці менавіта з Міндоўга пачаўся новы перыяд у гісторыі нашай краіны — стварэнне новай Беларуска-Літоўскай дзяржавы, якая існавала з сярэдзіны XIII да канца XVIII стагоддзя.

*Літаратура*

Беларускія летапісы і хронікі. Мн., 1997.
*Ермаловіч М.* Старажытная Беларусь. Полацкі і Новагародскі перыяды. Мн., 1990.
*Краўцэвіч А. К.* Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. Rzeszów, 2000.
*Łowmiński H.* Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983.
*Ochmański J.* Historia Litwy. Wrocław ect., 1967.
*Соловьев С. М.* Сочинения. Книга II. М., 1988.

*Анатоль Грыцкевіч*

# Канстанцін Іванавіч АСТРОЖСКІ (каля 1460–1530)



нязь Канстанцін Іванавіч Астрожскі — славуты палкаводзец Беларуска-Літоўскай дзяржавы, дзяржаўны дзеяч, актыўны абаронца праваслаўя. Меў уласны радавы герб, у якім спалучаліся два гербы: уверсе гербавага шчыта размешчана палова скіраванай дагары белай стралы на белай дузе паўкругам (герб Агончык), унізе — залаты маладзік ражкамі ўгару, а паміж стралой з паўкругам і маладзіком залатая шасціканцовая зорка (герб Ляліва). Поле герба блакітнае.

Паводле старажытных царкоўных кніг у Кіеве, княжацкі род Астрожскіх паходзіць з тураўскіх князёў, нашчадкаў Святаполка Ізяславіча, які ў 1093—1113 гадах займаў кіеўскі вялікакняжацкі пасад. Першым з вядомых князёў з гэтым прозвішчам быў Даніла Астрожскі (каля 1320 — каля 1386). Род атрымаў сваё прозвішча ад першапачатковага радавога маёнтка Астрог на Валыні (цяпер горад у Ровенскай вобласці). Княжацкі род Астрожскіх скончыўся ў мужчынскіх пакаленнях у 1620 годзе, а яго маёнткі (Астрожская ардынацыя) перайшлі да князёў Заслаўскіх (цэнтр маёнтка — горад Ізяслаў), малодшай галіны Астрожскіх, якая змяніла сваё прозвішча з-за назвы сваёй рэзідэнцыі. Князі Заслаўскія згаслі ў мужчынскім родзе ў 1682 годзе.

Прадстаўнікі роду Астрожскіх займалі адміністрацыйныя пасады ў Вялікім княстве Літоўскім у канцы XIV — пачатку XV стагоддзя. Так, прадзед Канстанціна Астрожскага Фёдар (каля 1360 — каля 1438) быў намеснікам луцкім, дзед Васіль (каля 1390 — каля 1450) — намеснікам тураўскім. Бацька нашага сла-



2. Зак.2059

вутага палкаводца Іван Васільевіч (каля 1430 — пасля 1465) у 1454 годзе ў бітве пад Церабоўляй разграміў войска крымскіх татар. Іван Астрожскі падзяліў маёнткі з малодшым братам Юрыем (памёр каля 1500 г.), родапачынальнікам князёў Заслаўскіх (на Валыні). Старэйшы брат Канстанціна — Міхаіл Астрожскі — быў таксама старостам луцкім. Маці Канстанціна Астрожскага была дачкою князя Івана Уладзіміравіча Бельскага і ўнучкай кіеўскага (потым капыльскага і слуцкага) князя Уладзіміра Альгердавіча. Такім чынам, сам Канстанцін Іванавіч Астрожскі належаў да арыстакратыі Вялікага княства Літоўскага і быў нашчадкам Альгерда па жаночай лініі.

У няпоўных сем гадоў Канстанцін страціў бацькоў, і яго выхаваннем займаліся старэйшы брат Міхаіл і баяры, якія знаходзіліся ў іх маёнтку. Баярамі ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве называліся сярэднія і дробныя феадалы, якія былі васаламі вялікага князя ці буйных магнатаў. У 1486 і 1489 гадах браты Міхаіл і Канстанцін Астрожскія знаходзіліся ў Вільні пры двары вялікага князя Казіміра Ягайлавіча.

У 1486 —1490 гадах малады князь Канстанцін Астрожскі ўдзельнічаў у баях супраць крымскіх татар, якія пачалі рэгулярна нападаць на украінскія землі. У 1491 годзе ён праявіў свае камандныя здольнасці, калі конніца Вялікага княства Літоўскага на чале з князем Сямёнам Гальшанскім разграміла войска крымскіх татар пад Ізяславам. У 1492 —1494 гадах Канстанцін Астрожскі ўдзельнічаў таксама ў вайне з Маскоўскім вялікім княствам.

У лютым 1495 года князь К. І. Астрожскі ў складзе 60 асоб дэлегацыі ад паноў Вялікага княства Літоўскага сустракаў у мястэчку Маркаў (цяпер Маладзечанскі раён) нявесту вялікага князя Аляксандра Казіміравіча — князёўну маскоўскую Алену Іванаўну, дачку Івана III.

У наступня гады Канстанцін Астрожскі зноў удзельнічаў ў баях з крымскімі татарамі. У 1496 годзе ён кіраваў абаронай горада Роўна ад іх нападу, а вясной 1497 года разам з братам Міхаілам адбіваў набег татарскіх загонаў на Валынь і на Палессе каля Мазыра. Войскі на чале з братамі Астрожскімі дагналі крымскіх татар ужо на Брацлаўшчыне, над ракой Сарокай, дзе разграмілі іх, забілі 340 воінаў і вызвалілі ясыр (палонную моладзь, якую татары вялі ў Крым, каб прадаць у рабства). Улетку таго ж года князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі ўдзельнічаў у агульнай адпраўцы воінаў Вялікага княства Літоўскага і Польшчы на ўзбярэжжа Чорнага мора пад камандаваннем

польскага караля Яна Ольбрахта. У канцы ліпеня 1497 года вайсковыя атрады Канстанціна Астрожскага разбілі пад Ачакавам войскі ханскага сына Мехмет Гірэя, а сам крымскі царэвіч (як тады у беларускіх летапісах называлі ханскіх сыноў) трапіў у палон. Менавіта за шэраг перамог над крымскімі татарамі ўлетку 1497 года вялікі князь літоўскі Аляксандр Казіміравіч надаў К. І. Астрожскаму тытул гетмана найвышэйшага Вялікага княства Літоўскага. У гэтым жа годзе Канстанцін Астрожскі атрымаў Брацлаўскае, Звінагродскае і Вінніцкае староствы з замкамі ў Падоліі. Гэта стварала магчымасць збіраць тут сілы для адпору набегам крымскіх татар.

За гады барацьбы з крымскімі татарамі К. Астрожскі набыў баявы вопыт (але з праціўнікам, слаба арганізаваным і дрэнна ўзброеным). Ды і тэатр ваенных дзеянняў быў вялікі, на шырокіх стэпавых прасторах. Вопыт быў аднабаковы. Імператарскі пасол С. Герберштэйн, які праязджаў праз Беларусь у Маскву, занатаваў у сваіх запісках, што князь К. І. Астрожскі шмат разоў граміў татар, прымяняючы адмысловую тактыку. Ён не ішоў насустрач, калі іх ватага ішла рабаваць, а нападаў, калі яны ўжо набралі здабычу. Калі татары даходзілі да бяспечнага, як ім здавалася, месца і спыняліся на адпачынак, К. Астрожскі нападаў на іх знянацку. Перад нападам ён забараняў сваім воінам распальваць агні, а ежу загадваў рыхтаваць загадзя. Усё гэта рабілася з вялікай асцярогай, і напад быў заўсёды для ворага нечаканым. Нападаў К. Астрожскі на досвітку. Такая тактыка прыводзіла да поўнага разгрому ворага.

А ў гэты час стасункі паміж Маскоўскай дзяржавай і Вялікім княствам Літоўскім пагоршыліся. Іван III прэтэндаваў на Кіеў, Чарнігаў і іншыя украінскія і беларускія тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. Для паспяховага вядзення вайны ён заключыў саюз з крымскім ханам Менглі Гірэем. Вясной 1500 года Іван III абвясціў вайну і пачаў наступ на тэрыторыю Украіны і Беларусі. Падчас паходу, які пачаўся ў маі, маскоўскім войскам былі заняты гарады Бранск, Пуціўль, Мцэнск, Старадуб, Гомель, Любеч, Ноўгарад-Северскі. Такім чынам, была занята паўднёвая частка Смаленскай зямлі, Чарнігава-Старадубскае і Ноўгарад-Северскае княствы і іншыя тэрыторыі.

Вялікі князь Аляксандр Казіміравіч накіраваў для абароны Смаленска, якому пагражала маскоўскае войска, гетмана найвышэйшага Канстанціна Іванавіча Астрожскага і дворнага маршалка Грыгорыя Осцікавіча з атрадамі князёў і паноў. Войска К. І. Астрожскага было невялікім. Яно налічвала, паводле

М. Стрыйкоўскага, усяго тры з паловай тысячы коннікаў. У канцы чэрвеня 1500 года Астрожскі ўвайшоў у Смаленск. Тут яго войска павялічылася да чатырох з паловай тысяч коннікаў, уключыўшы ў свой склад атрады смаленскага ваяводы Станіслава Кішкі.

А ў гэты час маскоўскае войска на чале з баярынам Юрыем Захаравічам Кошкіным (продкам баяр Раманавых, а потым і маскоўскіх цароў) сабралася каля Дарагабужа над ракой Ведрашу. Да яго далучыліся новыя войскі. Маскоўскае войска налічвала цяпер 40 тысяч чалавек. Камандаваў ім ваявода князь Даніла Шчэня-Патрыкееў.

Праз тыдзень пасля прыходу ў Смаленск К. Астрожскі рушыў насустрач ворагу. Нягледзячы на вялікую перавагу праціўніка, на нарадзе ён вырашыў атакаваць ворага, але зрабіць гэта нечакана. Атрады яго войска звярнулі з дарогі і прайшлі праз густы лес і балоты. 14 ліпеня 1500 года адбылася бітва. Маскоўскія палкі стаялі на правым беразе Ведрашы, на шырокім Міцькавым полі, ля вёскі Лапаціна. Убачыўшы непрыяцеля, які выходзіў з лесу, маскоўскія воіны перадавога палка пераправіліся праз раку на левы бераг і пачалі бой да падыходу асноўных сіл К. Астрожскага. Конніца гетмана пасля выхаду з лесу адразу перастройвалася ў баявыя парадкі і ўводзілася ў бой. Маскоўскі перадавы полк быў разбіты. Беларуская конніца пераправілася на правы бераг Ведрашы і атакавала галоўныя сілы ваяводы Данілы Шчэні-Патрыкеева.

На правым беразе Ведрашы адбылася галоўная бітва, якая цягнулася амаль цэлы дзень. У Хроніцы Быхаўца яна апісваецца так: «Літва ж, падышоўшы хутка да ракі, у спешцы перайшла яе, пайшла за раку і пачала моцна біцца. Маскоўцы, думаючы, што ліцвіны ідуць на іх з лесу з вялікай сілай і што яны так смела ідуць, спадзеючыся на сваю сілу, і таму не рызыкавалі біцца з імі смела і ледзьве не пабеглі ўсе, але потым пабачылі і зразумелі маскоўцы, што ўжо ўсе выйшлі ў поле, што ліцвінаў няшмат». Бітва ўжо працягвалася з перавагай маскоўскага войска: «Убачыўшы мужны і смелы наступ, здзіўляліся, а потым, калі пабачылі ўсіх, маскоўцы ўсе адзінадушна і моцна пайшлі насустрач ім. Ліцвіны ж біліся, але ж пабачыўшы, што маскоўцаў шмат, а іх мала, не здолелі больш стаяць перад імі і пабеглі. Маскоўцы ж пагналіся за імі, многіх пабілі, а іншых жывымі забралі». Беларускі летапісец паведамляе, што ў палон трапілі сам гетман найвышэйшы князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі, пан Грыгорый Станіслававіч Осцікавіч, пан Літавор Храптовіч,

пан Мікалай Глябовіч, пан Мікалай Зяноўевіч і іншыя. Збеглі толькі некалькі соцень коннікаў з ваяводам С. Кішкам. Аднак і маскоўскае войска страціла нямала ваяроў. Маскоўскія ваяводы папрасілі ў Івана III падмацавання. Перамога маскоўскага войска ў 1500 годзе была першай вялікай перамогай над войскам Вялікага княства Літоўскага ў палявой бітве, якіх раней маскоўскія ваяводы намагаліся пазбягаць.

У лютым 1501 года палоннага гетмана прывезлі ў Маскву і пасялілі ў асобным доме, дзе ён нават прымаў паслоў Вялікага княства Літоўскага, якія прыехалі ў Маскву для мірных перамоў, што, праўда, удалося не адразу.

Калі ў 1503 годзе паміж Маскоўскім вялікім княствам і Беларуска-Літоўскай дзяржавай было падпісана замірэнне, маскоўскі вялікі князь Іван III не вызваліў Астрожскага з палону. Іван III хацеў выкарыстаць вайсковы талент палкаводца і прапанаваў яму ўзначаліць маскоўскае войска супраць татар, абяцаючы вялікія маёнткі. Доўгі час Канстанцін Астрожскі адмаўляўся прыняць умовы маскоўскага вялікага князя. Але пасля смерці Івана III, ўжо на пачатку кіравання Васіля III, ён урэшце даў сваю згоду і 18 кастрычніка 1506 года падпісаў прысягу з абавязкам служыць маскоўскаму вялікаму князю. Новаму маскоўскаму ваяводу далі камандаванне памежнымі сіламі, якія баранілі паўднёвую граніцу Маскоўскага вялікага княства ад татарскіх набегаў. Нагляд за К. Астрожскім быў аслаблены.

Гэта і скарыстаў новы маскоўскі ваявода. У жніўні 1507 года Канстанцін Астрожскі выехаў з Масквы на Северскую Украіну, каб агледзець падпарадкаваныя яму войскі. Аднак замест кантролю памежных гарнізонаў ён разам з верным слугой, пераапрануўшыся ў «простае адзенне», уцёк на радзіму «татарскімі шляхамі», мінуючы гарады і людныя дарогі. З яго ўцёкамі звязана легенда. У нейкім сяле, яшчэ на тэрыторыі Маскоўскай дзяржавы, ён, як глыбока веруючы праваслаўны, спыніўся, каб памаліцца ў царкве ў час нядзельнай службы, а сваму слузе загадаў ехаць далей. У гэты час ў сяло прыскакала пагоня і, даведаўшыся, што нейкі чалавек нядаўна праехаў тут, паімчалася за ім. А Канстанцін Астрожскі пасля царкоўнай службы паехаў іншым шляхам і дабраўся да мяжы. 25 верасня 1507 года ён прыбыў у Вільню.

Новы вялікі князь (і кароль польскі) Жыгімонт Казіміравіч прыняў К. Астрожскага дастойна. Яму была вернута пасада гетмана найвышэйшага і дадзены новыя пасады старосты луцкага і маршалка Валынскай зямлі. Былі вернуты і ранейшыя старо-

ствы: Брацлаўскае, Звінагродскае і Вінніцкае. Канстанцін Астрожскі зноў заняў ганаровае месца ў асяроддзі кіраўнічай эліты Вялікага княства Літоўскага.

Падчас вайны 1507 — 1508 гадоў паміж Маскоўскай дзяржавай і Вялікім княствам Літоўскім Канстанцін Іванавіч Астрожскі зноў камандаваў войскамі. У маі 1508 года ён выступіў супраць атрадаў Міхаіла Глінскага, які падняў мяцеж і ўстанавіў саюзныя адносіны з Маскоўскай дзяржавай. Коннікі К. І. Астрожскага занялі Мазыр, адзін з галоўных асяродкаў М. Л. Глінскага. У Беларусь прыбыў вялікі князь і кароль Жыгімонт Стары з невялікім польскім войскам. У Наваградку саюзныя сілы аб'ядналіся. 5 чэрвеня 1508 года іх галоўнакамандуючым быў прызначаны Канстанцін Астрожскі. Войска рушыла на Мінск, які быў у аблозе М. Л. Глінскага. Глінскі быў вымушаны зняць аблогу і адступіць да Барысава, а адтуль да Оршы, дзе яго атрады аб'ядналіся з маскоўскім войскам. 13 ліпеня 1508 года войска Вялікага княства Літоўскага (каля 10 тысяч конніцы) і польскае войска на чале з люблінскім ваяводам Мікалаем Фірлеем (5 тысяч пяхоты і конніцы) дайшлі да Оршы. Хаця за Дняпром стаяла 50-тысячнае маскоўскае войска на чале з ваяводам Данілам Шчэнем і Грыгорыем Захар'іным, якія камандавалі ў бітве пад Ведрашшу, генеральнай бітвы не адбылося, таму што маскоўскія ваяводы пазбягалі яе і адступілі на ўсход. 1 жніўня саюзная армія ўвайшла ў Смаленск, моцную крэпасць Беларуска-Літоўскай дзяржавы на ўсходзе. Аднак і тут вялікай бітвы не адбылося. Дзейнічалі невялікія атрады абодвух бакоў у памежных мясцовасцях.

8 кастрычніка 1508 года было заключана мірнае пагадненне паміж Маскоўскай дзяржавай і Вялікім княствам Літоўскім. Аднак ваенныя дзеянні яшчэ не скончыліся. Жыгімонт Стары накіраваў войска Канстанціна Астрожскага на Мазыр, зноў заняты атрадамі М. Глінскага. З некалькімі тысячамі конніцы К. І. Астрожскі зрабіў марш на Палессе. Каля Слуцка яго войска разбіла галоўныя сілы крымскіх татар, саюзнікаў М. Глінскага і Масквы. А ў наступныя некалькі дзён былі разгромлены і рэшткі татарскага войска. Потым гетман рушыў на Мазыр, але М. Глінскага там не заспеў, бо той са сваімі братамі і прыхільнікамі ўжо ад'ехаў у Маскву. Неўзабаве маёнткі М. Глінскага былі канфіскаваны, і Тураў з акругай вялікі князь перадаў у валоданне Канстанціну Астрожскаму.

У 1509 годзе ўжо немалады князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі ажаніўся з князёўнай Таццянай Сямёнаўнай Гальшан-

скай са старажытнага праваслаўнага роду (памерла ў 1522 г.).

Яго зямельныя ўладанні ў Беларусі павялічыліся. Акрамя староставаў і маёнткаў на Валыні, К. І. Астрожскі меў багаты маёнтак Дзяцел (сучаснае Дзятлава), Ахонава і возера Свіцязь каля Навагрудка, Копысь. У пасаг за жонкай Таццянай Сямёнаўнай Гальшанскай ён атрымаў частку маёнткаў Гальшаны і Глуск, а таксама Смалявічы, Жыцін на Пцічы, Шашолы і Свіраны. У 1516 годзе ў спадчыну (як унук князя Івана Бельскага) атрымаў Славенск каля Валожына, Лемніцу і Палонну ў Віцебскім ваяводстве. У 1522 годзе ён атрымаў Смаляны, а таксама набыў Тарасаў пад Мінскам, Нізгалава і Сушу ў Полацкім ваяводстве.

Жонка Канстанціна Астрожскага была дачкой навагрудскага ваяводы і сястрой віленскага кашталяна князя Аляксандра Гальшанскага. Пасля смерці Аляксандра Гальшанскага князь Канстанцін Астрожскі ў чэрвені 1511 года атрымаў яго тытул віленскага кашталяна. Такім чынам, Канстанцін Іванавіч Астрожскі ўвайшоў у склад самай вярхушкі дзяржаўнага кіраўніцтва: не толькі ў склад паноў-рады Беларуска-Літоўскай дзяржавы, а нават у яе «пярэднюю лавіцу», г. зн. у вузкае кола кіраўнікоў дзяржавы. У гэты ж час Канстанцін Астрожскі адбудаваў Прачысценскую саборную царкву ў Вільні і фундаваў будаўніцтва царквы ў Тураве. У 1511 годзе ён разам з мітрапалітам Іосіфам дамогся ў вялікага князя Жыгімонта пацвярджэння прывілеяў праваслаўнай царкве ў дзяржаве.

Канстанцін Іванавіч Астрожскі у 1509 і 1511 гадах адбіваў напады загонаў крымскіх татар на Валынь і нават на беларускія землі. Так, у 1509 годзе татары праз Брацлаўшчыну і Падолію ўварваліся ў Галіччыну, якая з сярэдзіны XIV стагоддзя ўваходзіла ў склад Польскага каралеўства. Адбіваць гэты напад К. Астрожскаму давялося разам з гетманам каронным і кракаўскім ваяводам Мікалаем Камянецкім. У 1510 годзе былі нанесены паражэнні татарам каля Кіева, Оўруча і Брацлава.

Вясной 1512 года крымскі хан Менглі-Гірэй, саюзнік маскоўскага вялікага князя Васіля III, зноў накіраваў на ўкраінскія землі татарскае войска. І зноў супраць ворага выступілі войскі саюзных дзяржаў пад камандаваннем К. Астрожскага і М. Камянецкага. К. Астрожскі быў галоўнакамандуючым. Сваё 5-тысячнае войска ён павёў на галоўны татарскі лагер (кош) недалёка ад Вішняўца на Валыні. Татар было 25 тысяч. Бітва адбылася 28 красавіка 1512 года. Першымі напалі татары. Яны спрабавалі завесці конніцу Астрожскага ў поле, змяшаць яе

шэрагі, а потым флангавымі і тылавымі атакамі разбіць і знішчыць. Калі націск удалося адбіць, контратака войска Вялікага княства Літоўскага і ўдар у фланг польскіх харугваў прывялі да разгрому татарскай арміі. Гэтаму дапамаглі і дзеянні артылерыі, якая масава знішчала коннікаў непрыяцеля. Было забіта 5 тысяч татар. З лагера непрыяцеля было вызвалена 16 тысяч палонных, узяты 10 тысяч коней і нарабаваныя татарамі багацці. Пасля перамогі Канстанціна Астрожскага пад Вішняўцом (інакш яе называлі бітвай пад Лапушнай) крымскія татары не нападалі на тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага тры гады.

Восенню 1512 года пачалася новая вайна Маскоўскай дзяржавы супраць Вялікага княства Літоўскага, якая працягвалася да 1522 года. Маскоўскае войска рушыла да беларускай крэпасці Смаленск, цэнтра Смаленскага ваяводства. Але штурмы горада вынікаў не далі, і Васіль III з войскам вярнуўся ў Маскву. Маскоўскія ваяводы правялі рэйды ўглыб тэрыторыі Беларусі — у раёны Оршы, Друцка, Барысава, даходзілі да Мінска, Віцебска, Браслава. Але і гэтыя войскі адступілі.

Другая кампанія маскоўскай арміі супраць Беларуска-Літоўскай дзяржавы пачалася ўлетку 1513 года. Новая аблога Смаленска таксама была беспаспяховай. Зноў, разрабаваўшы ваколіцы горада, вялікі князь Васіль Іванавіч загадаў сваёй арміі вярнуцца ў Маскву (лістапад 1513 г.) Няўдача была выклікана прыбыццём на тэатр ваенных дзеянняў войска Вялікага княства Літоўскага, якое было ўзмоцнена наёмнымі сіламі з Польшчы. Гэтым войскам камандаваў гетман найвышэйшы Канстанцін Іванавіч Астрожскі. Ён каля Оршы разбіў вялікае маскоўскае войска, якое ішло да іх галоўных сіл, што аблажылі Смаленск, і атрымаў яшчэ некалькі перамог.

Трэцяя кампанія пачатковага перыяду вайны характарызавалася лепшай падрыхтоўкай маскоўскага войска. 16 мая 1514 года пачалася новая аблога Смаленска маскоўскімі войскамі, якія мелі 300 гармат. Некалькі штурмаў горада было адбіта гарнізонам на чале са смаленскім ваяводам Юрыем Андрэевічам Салагубам. Маскоўскае войска панесла вялікія страты. Тады князь Міхаіл Львовіч Глінскі, які яшчэ ў 1508 годзе перайшоў на службу да Васіля III, угаварыў жыхароў горада капітуляваць. Яны згадзіліся, бо таксама панеслі страты. Капітуляцыя Смаленска адбылася 30 ліпеня 1514 года. Смаляне атрымалі права выехаць у Вялікае княства Літоўскае, што частка жыхароў і выкарыстала.

Пасля захопу Смаленска Васіль III загадаў 80-тысячнаму коннаму войску накіравацца ўглыб Беларусі. Яно прасоўвалася да Оршы і Друцка, а потым у віленскім напрамку. Маскоўская конніца складалася з баяр і людзей вайсковых (дваран і дзяцей баярскіх). На чале гэтага войска стаялі галоўныя ваяводы — баярын Іван Андрэевіч Чаляднін і баярын князь Міхаіл Іванавіч Булгакаў-Голіца, продак князёў Галіцыных.

Каб папярэдзіць наступ вялікай маскоўскай арміі, вялікі князь літоўскі і рускі (ён жа кароль польскі) Жыгімонт Казіміравіч, які з невялікімі сіламі (4 тысячы жаўнераў) застаўся ў Барысаве, накіраваў насустрач маскоўскім баярам войска пад камандаваннем найвышэйшага гетмана князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага. Паводле даных расійскага гісторыка М. К. Любаўскага, у гэтым войску польскіх коннікаў было 4 тысячы, а астатнія польскія жаўнеры не паспелі да войска (частка засталася з каралём у Барысаве, частка была ў Брэсце). Украінскія атрады трымалі абарону мяжы на поўдні ад крымскіх татар, літоўскія — на мяжы з Тэўтонскім ордэнам у Прусіі. Такім чынам, значную частку войск К. І. Астрожскага складалі беларускія рыцары (баяры-шляхта).

Расійскі гісторык С. М. Салаўёў адзначыў, што ў маскоўскіх ваяводаў было 80 тысяч войска, а ў князя Канстанціна Астрожскага — не болей 30 тысяч. Гэтыя лічбы прыводзяцца як у рускіх летапісах, так і ў звестках іншаземцаў. Такія ж яны ў хроніках М. Стрыйкоўскага і А. Гваньіні. Згаджаюцца з гэтымі лічбамі і вайсковыя гісторыкі XX стагоддзя.

У войску К. І. Астрожскага атрадамі лёгкай конніцы (з лёгкім узбраеннем) камандаваў дасведчаны палкаводзец Юрый Мікалаевіч Радзівіл, староста гарадзенскі і падчашы літоўскі. Асобныя атрады ўзначальваў Іван Багданавіч Сапега, пісар гаспадарскі і гараднічы троцкі.

Першы бой адбыўся на левым беразе Бярэзіны пры пераправе цераз раку войска князя К. Астрожскага. Папярэдне ён правёў артылерыйскую стральбу з гармат і гакаўніц (пішчаляў), нанёсшы страты непрыяцелю. Гэта бітва адбылася 27 жніўня 1514 года. Падчас бою некалькі маскоўскіх палкоў было разбіта. На наступны дзень авангард арміі К. І. Астрожскага нанёс паражэнне маскоўскім атрадам у баі над ракою Бобр і 1 верасня дасягнуў ракі Друць. Тут атрады Івана Багданавіча Сапегі нанеслі паражэнне тром маскоўскім палкам. Было забіта некалькі соцень воінаў, шмат узята ў палон.

Тады галоўны маскоўскі ваявода Іван Чаляднін з усімі сваімі

войскамі адступіў за Днепр і выбраў для наступнай, галоўнай бітвы, добрае месца на яго левым беразе. Тут паміж Оршай і Дуброўнай ля ракі Крапіўны на вялікім полі і размясцілася маскоўскае войска — на ўзгорках каля вёсак Пугайлава і Рукліна, злева ад лесу на рацэ Днепр ля вёскі Рукліна, пакінуўшы свабодную прастору для непрыяцеля ў лукавіне Дняпра на яго левым беразе каля Оршы. Менавіта тут І. А. Чаляднін планаваў даць генеральны бой гэтай кампаніі, а можа і ўсёй вайны, разбіць меншага па колькасці амаль утрая непрыяцеля, захапіць палонных і скончыць перамогай вайну.

Канстанцін Астрожскі таксама вырашыў даць тут бой, нягледзячы на свае параўнальна малыя сілы. Ён лічыў, што адной вярсты ад Дняпра дастаткова, каб разгарнуць свае сілы. Быў і псіхалагічны разлік для свайго войска — немагчымасць адступлення да бліжэйшых крутых берагоў Дняпра.

7 верасня 1514 года войска Астрожскага наблізілася да Дняпра ў раёне Оршы. Гетман вырашыў не рызыкаваць, бо пераправу цераз раку пільнавалі конныя атрады ворага. Не жадаючы фарсіраваць раку пад стрэламі маскоўскіх лучнікаў, князь Астрожскі правёў тут дэманстратыўны манеўр, намагаючыся паказаць маскоўскім ваяводам, што пераправа беларускага войска адбудзецца менавіта тут. Таму Канстанцін Астрожскі пад заслонай сваіх жаўнераў пераправіў у гэтым месцы ўброд толькі некалькі тысяч коннікаў. Але маскоўскія ваяводы бяздзейнічалі, чакаючы, пакуль не падыйдзе да пераправы ўсё беларускае войска, каб потым адным ударам знішчыць яго цалкам. Увечары Астрожскі перасунуў па віцебскай дарозе ўсё сваё войска крыху на поўнач ад Оршы і спыніўся на правым беразе Дняпра.

Уноч на 8 верасня Канстанцін Астрожскі загадаў пабудаваць цераз Днепр у гэтым месцы два пантонныя масты. Яны былі зроблены са шчыльна заканапачаных і звязаных паміж сабой пустых бочак. Для пераправы скарысталі таксама плыты і лодкі з суцэльным насцілам з плеценага чароту, каб колы гармат не грукалі. У балоцістых мясцінах ля ракі былі зроблены гаці з паваленых і звязаных дрэў. Конніца войска князя Астрожскага пераправілася цераз Днепр па вузенькім бродзе недалёка ад Аршанскай крэпасці, страціўшы пры гэтым толькі аднаго конніка, які патануў. На працягу ночы па двух пантонных мастах была перапраўлена ўся пяхота і артылерыя войска Вялікага княства Літоўскага ў раён вёскі Пашына, што знаходзілася ў лукавіне Дняпра.

Бітва ў полі на беразе Дняпра, за пяць вёрст ад Оршы, адбы-

лася 8 верасня 1514 года. Гэты дзень увайшоў у гісторыю як Дзень беларускай вайсковай славы.

У маскоўскім войску галоўным ваяводам быў Іван Чаляднін, другім самастойным ваяводам — князь Міхаіл Булгакаў-Голіца. Чаляднін паставіў раніцай усё сваё войска ў баявы парадак у тры расцягнутыя лініі. На флангах — конныя атрады, каб падчас бою яны зайшлі ў тыл ворагу. Наперадзе стаяў полк перадавой стражы. У цэнтры — маскоўскі вялікі полк, па фронце шырынёй 5 кіламетраў, на правым фланзе — полк правай рукі, на левым, каля вёскі Рукліна, — полк левай рукі. На пагорку ў цэнтры, за вялікім палком, стаяў полк тылавой стражы (рэзерв). Маскоўскае войска выступала пад белым сцягам (белы колер — адзін з улюбёных у славян).

Усе маскоўскія палкі былі конныя. Цяжкіх гармат маскоўскія войскі не мелі, бо вялікі князь Васіль III загадаў пакінуць іх у захопленых замках. Але, як сведчыць гісторык М. М. Карамзін, «агнястрэльны снарад» у маскоўскім войску быў. Галоўны ваявода расцягнуў свае сілы таму, што яны амаль утрая перавышалі войска Канстанціна Астрожскага. Ён вырашыў акружыць праціўніка, разбіць яго і скінуць рэшткі разбітых харугваў у Днепр. Таму маскоўскае войска расцягнулася па лініях і стварылася магчымасць прарваць іх. Але адзіны сапраўдны кіраўнік у маскоўскім войску адсутнічаў, бо Іван Чаляднін быў толькі фармальным галоўнакамандуючым, а кожны з двух галоўных ваяводаў камандаваў сваімі вайскамі самастойна. Гэта паўплывала на ход і вынікі бітвы пад Оршай. Адбілася на ходзе бітвы і тое, што ў маскоўцаў не было артылерыі. Да таго ж, яны, заспакоеныя сваёй колькаснай перавагай, былі ўпэўнены ў перамозе. Таму іх галоўныя ваяводы і ваяводы ніжэйшага рангу своечасова не заўважылі небяспекі, а калі яна выявілася падчас бітвы, то было ўжо позна.

Войска Канстанціна Астрожскага заняло баявыя пазіцыі па абодвух баках яра, які ішоў ад вёскі Пугайлава да пераправы цераз Днепр. Яны сталі паводле свайго старога баявога звычаю: наперадзе знаходзіліся два палкі беларускай конніцы на чале з самім К. І. Астрожскім і польскай конніцы на чале з Войцэхам Сампалінскім. Паміж імі стаяла пяхота са стрэльбамі і пішчалямі. У другой лініі стаялі яшчэ два палкі: беларускай конніцы Юрыя Радзівіла і польскай Януша Свярчоўскага. На правым і левым флангах стаялі па тры дапаможныя (рэзервныя) палкі беларускай конніцы, якія складаліся з лёгка ўзброеных харугваў. На краі правага крыла К. Астрожскі размясціў ва ўкрыцці пад

аховай лесу і паблізу ад берага Дняпра ўсе гарматы і частку пяхоты з рушніцамі (пішчалямі, самапаламі). Увогуле войска Астрожскага было сцягнута ў моцныя і згрупаваныя атрады, гатовыя прабіць расцягнутыя лініі ворага.

Як сведчыць батальная карціна «Бітва пад Оршай» (намалявана каля 1520 г., знаходзіцца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве), К. І. Астрожскі быў апрануты ў баявое адзенне з шабляю ў каштоўных ножнах. Падчас бітвы беларускае войска выступала пад дзяржаўным сцягам чырвонага колеру з сярэбранай выявай Пагоні на адным баку і сярэбранай выявай Багародзіцы з дзіцяткам Ісусам на другім. Побач з гетманам найвышэйшым неслі і другі, гетманскі, сцяг блакітнага колеру. З аднаго боку на ім была Пагоня ў чырвоным полі, з другога — абраз святога Станіслава. Асобныя паны мелі ў атрадах (дружынах) свае ўласныя сцягі. Так, на карціне ў руцэ аднаго з вершнікаў можна разгледзець чырвоны штандар з выявай герба Радзівілаў — трох паляўнічых ражкоў. У кожнага з беларускіх вершнікаў, паводле той карціны, у руцэ была доўгая дзіда з белым сцяжком-вымпелам, уздоўж якога пасярэдзіне праходзіць адна вузкая чырвоная палоска, якая перакрыжоўваецца бліжэй да дрэўка другой чырвонай палоскай. Гэта прадвеснік нашага гістарычнага бел-чырвона-белага сцяга.

У пятніцу 8 верасня 1514 года «на Рожество Пресвятыя Богородицы» а 9-й гадзіне раніцы войска князя Канстанціна Івавіча Астрожскага было ўжо пастаўлена ў баявых парадках на поле бітвы. Як тады рабілася, перад бітвай святары з абодвух бакоў адслужылі малебен за перамогу. Пры гэтым трэба нагадаць, што ў беларускім войску, таксама як і ў маскоўскім, за перамогу маліліся праваслаўныя святары і воіны. Большасць у войску К. І. Астрожскага, як і ён сам, складалі праваслаўныя баяры-шляхта. У атрадах яго войска маліліся і ксяндзы, бо ў войску было нямала католікаў.

Пасля малітвы абодва крылы маскоўскай арміі крыху адышлі ад асноўнага войска, каб потым акружыць ворага з тылу. Галоўныя ж маскоўскія сілы засталіся ў баявых парадках у сярэдзіне поля, а некаторыя атрады нават прасунуліся наперад, каб выклікаць ворага на бой. Пасля гэтага пачаліся «гарцы» — асобныя паядынкі паміж вершнікамі з абодвух бакоў, каб заахвоціць астатніх воінаў да бітвы.

З невялікай прамовай па-беларуску да сваіх рыцараў звярнуўся Канстанцін Астрожскі. Ён нагадаў пра слаўныя баявыя традыцыі продкаў, заклікаў быць мужнымі, абараняць ад вора-

га Бацькаўшчыну. Пасля прамовы Астрожскі загадаў конным палкам вольна рушыць наперад. Гэта маскоўскія ваяводы палічылі сігналам да дзеяння. Затрубілі трубы, ударылі бубны. Сцягі і прапорцы (сцяжкі) распусцілі да бою.

Атаку пачаў полк правай рукі маскоўскага войска на чале з князем Міхаілам Іванавічам Булгакавым-Голіцам. Асобныя атрады І. Чаляднін паслаў на флангі, каб адразу зайсці ў тыл ворагу. Адбіўшы атаку непрыяцеля, беларускія коннікі, якія атрымалі падмацаванне, пачалі самі наступаць. Полк Сампалінскага, які складаўся з цяжкай кавалерыі, адпаведна ўзброенай і з моцнымі даспехамі, праскочыўшы галопам перад фронтам беларускага палка, што заняў пазіцыю ў цэнтры поля бітвы, нанёс ворагу ўдар па флангу. Польскія коннікі з доўгімі дзідамі валілі з коней маскоўскіх воінаў. М. Стрыйкоўскі распавядае, што ў паветры свісталі стрэлы, чуўся звон шабель, гучалі стрэлы з агністрэльнай зброі. Коннікі набіралі тэмп, уразаліся ў шэрагі маскоўскага войска. Разгарэлася жорсткая бітва.

Князь Міхаіл Булгакаў-Голіца таксама атрымаў падмацаванне і ўзнавіў шэрагі свайго фронту. Маскоўскія сілы на правым флангу пачалі другую атаку. Беларускія рыцары і польскія саюзнікі ўстаялі. Але нечакана яны расступіліся, і вораг апынуўся перад пяхотай. Пяхота, страляючы з рушніц (пішчаляў), збіла з коней шмат маскоўцаў. Шэрагі маскоўскага палка памяшаліся. У гэты момант Канстанцін Астрожскі звярнуўся да рыцараў: «Гэй! Вось цяпер наперад, дзеці!» (Для таго часу ён быў ужо стары. Яму было 54 гады). Ён казаў ім пра ўжо недалёкую перамогу і трыумф, пра тое, што непрыяцель ужо «млее». Заклікаў «мілых братоў» аднавіць мужнасць у гэтай хвілі: «Цяпер будзьце мужамі, няхай кожны адновіць дзельнасць, бо шэрагі непрыяцеля ўжо паблыталіся. На нашым баку стаіць сам Бог і дадае нам з неба абарону». Астрожскі заклікаў усіх ісці смела ў бой за ім, бо ён першы ставіць сваю галаву ў ахвяру і першы ідзе ў атаку на ворага з шабляй у руцэ, каб яе акрываваць. Ён напомніў рыцарам пра слаўныя бітвы іх продкаў і каб яны чуліся сынамі сваіх бацькоў. Асаблівасці прамовы, перададзенай храністам, паказваюць, што яна была сказана па-беларуску. Гэтая прамова славутага палкаводца псіхалагічна ўздзейнічала на беларускіх воінаў, і па яго закліку яны рушылі ў атаку.

Зноў пачалася жорсткая бітва. Канстанцін Астрожскі, размахваючы гетманскай булавой, зноў вёў у атаку сваіх рыцараў. Яны збівалі ворага дзідамі і рубілі мячамі. Урэшце маскоўская конніца Булгакава-Голіцы была зламана, разбіта і ў беспа-

радку кінулася наўцёкі. Беларуская конніца і полк Сампалінскага ўварваліся ў другую лінію маскоўскага войска. Яны гналі рэшткі маскоўскага палка правай рукі і забівалі ўцекачоў, ужо нядатных весці бой.

Аднак Чаляднін не дапамог Булгакаву-Галіцы. Гэта тлумачыцца саперніцтвам паміж маскоўскімі галоўнымі ваяводамі і жаданнем кожнага з іх атрымаць перамогу самастойна, каб выслужыцца перад вялікім князем. Нават пасля разгрому войска, якім камандаваў Булгакаў-Голіца, у Чаляднiна заставалася воінаў больш, чым у Канстанціна Астрожскага.

Яшчэ раней Іван Чаляднін накіраваў свой полк левай рукі у наступ на супрацьлеглае, правае крыло войска Канстанціна Астрожскага. Аднак гэты наступ быў не вельмі моцны і выконваўся нерашуча. Гэта дало магчымасць беларускай лёгкай кавалерыі на працягу доўгага часу адбіваць атакі маскоўскага войска на гэтым флангу. Ён чакаў, калі ў бой супраць палка правай рукі ўцягнуцца ўсе харугвы беларускай лёгкай конніцы, каб ударыць ім у тыл і адным моцным ударам разбіць іх.

Урэшце Івану Чаляднiну здалося, што ён перамагае. У нейкі момант бітвы ён убачыў, што беларуская конніца перад ім спыніла свае контратакі і па загаду Канстанціна Астрожскага пачала адступаць, а потым зусім кінулася ўцякаць. Тады Чаляднін, перакананы ў сваёй перамозе, кінуў у бой усе свае сілы. Аднак у пэўны момант, недалёка ад лесу і кустоў у тыле войска Канстанціна Астрожскага, раптам па камандзе гетмана (ён падняў булаву, а за ім палкоўнікі паднялі свае шастапёры) конніца падзялілася на дзве часткі, якія хутка скочылі направа і налева. Уся бязладная маса маскоўскіх вершнікаў аказалася перад гарматамі і пяхотай, што былі ў кустах на ўскраіне лесу і ўжо даўно падрыхтаваліся да аднаго моцнага залпу. Пярэднія і заднія рады маскоўскай конніцы былі расстраляны пасля першага залпу і далейшых стрэлаў гармат і рушніц. Маскоўскія атрады панеслі вялікія страты ў людзях і конях.

Гэта вайсковая хітрасць, якую Канстанцін Астрожскі прымяніў яшчэ ў бітве з крымскімі татарамі 28 красавіка 1512 года каля Вішняўца на Валыні, і стала пераломным момантам Аршанскай бітвы. Пасля расстрэлу гарматамі лавіны маскоўскага войска ў яго шэрагах пачалася паніка і яно кінулася наўцёкі. Цяпер ужо ўцякалі рэшткі абодвух флангаў маскоўскага войска. Спачатку І. Чаляднін спрабаваў угаварыць сваіх коннікаў затрымацца. Аднак яго ўжо ніхто не слухаў. Валынскі кароткі летапіс сведчыць, што Аршанская бітва працягвалася тры гадзіны.

Пасол германскага імператара да Васіля III барон Сігізмунд Герберштэйн, едучы ў Маскву, наведаў у Вільні ў 1517 годзе палонных І. А. Чалядніна і М. І. Булгакава-Голіцу і размаўляў з імі пра бітву пад Оршай. У сваіх запісках ён расказвае пра манеўр К. Астрожскага, што навёў непрыяцеля на гарматы, і пра разгром маскоўскага войска: «Літоўцы, наўмысна адступіўшы да таго месца, дзе ў іх былі схаваны гарматы, накіравалі іх супраць маскавітаў, якія насядалі, і паразілі іх заднія шэрагі, што выстраіліся ў рэзерве, але занадта скучаныя, унеслі замяшанне ў іх шэрагі і рассеялі. Так нечаканы баявы прыём прывёў маскавітаў у жах, бо яны лічылі, што ў небяспецы знаходзіцца першы рад, які б'ецца з ворагам, прыйшоўшы ў замяшанне і лічачы, што першыя шэрагі ўжо разбіты, яны кінуліся наўцёкі. Літоўцы, разгарнуўшы і накіраваўшы ўсе свае сілы, пераследавалі іх, гналі і забівалі. Убачыўшы гэтыя ўцёкі, адступілі і абодва рускія флангі. Толькі ноч і лясы спынілі гэтае вынішчэнне».

М. Стрыйкоўскі таксама прыводзіць жахлівыя сцэны гэтых уцёкаў. У паніцы маскоўскія коннікі ўцякалі ў лясы, балоты, кідаліся ў Днепр і танулі. А пераможцы гналі іх і забівалі. Параненыя крычалі ім: «Не сечи голову!», а цяжка параненыя: «Добей!» Кроў забітых была не толькі на палях, але і сцякала ў раку Крапіўну, вада ў якой стала крывавай. А. Гваньіні вобразна адзначыў, што рака Крапіўна паміж Оршай і Дуброўнай з-за вялікай колькасці трупаў замарудзіла свой бег. Шмат маскоўцаў падчас уцёкаў патанула ў рацэ. М. Бельскі распавядае, што бітва цягнулася аж да захаду сонца. Коннікі К. Астрожскага працягвалі праследаванне ажно да васьмі літоўскіх міляў (на 60 кіламетраў). Адны з беларускіх вершнікаў вярнуліся назад апоўначы, іншыя нават назаўтра. З сабою яны вялі вялікую колькасць палонных.

М. М. Карамзін і С. М. Салаўёў прыводзяць лічбу забітых воінаў: 30 тысяч чалавек; храністы М. Стрыйкоўскі, М. Бельскі і летапісы ўдакладняюць лічбу забітых на полі бою, ва ўцёках і тых, хто загінуў, — 40 тысяч чалавек. Страты маскоўскага войска палоннымі перавышалі 5 тысяч чалавек. У палон трапілі галоўныя ваяводы І. Чалязнін і М. Булгакаў-Голіца, 8 вярхоўных ваяводаў, 37 начальнікаў ніжэйшага рангу, 2 тысячы дзяцей баярскіх і больш за 2 тысячы іншых воінаў. 20 тысяч трафейных коней і палова вайсковага абозу былі перададзены пераможцам. Сярод вайсковых трафеяў былі ўсе маскоўскія сцягі і агнястрэльная зброя. Трыумф князя Канстанціна Астрожскага і ўсяго войска Беларуска-Літоўскай дзяржавы быў поўны. Гэта

перамога стала іх рэваншам за паражэнне на рацэ Ведраш у 1500 годзе.

Як сведчыць М. Бельскі, страты войска пераможцаў былі невялікія. Загінулі толькі чатыры знатныя паны, а рыцараў — каля пяцісот чалавек. Колькасць загінуўшых простага паходжання ён не прыводзіць. М. Стрыйкоўскі нагадвае, што загінулі чатыры паны, а шляхты і простых жаўнераў крыху больш за чатырыста. Затое ў гэтай бітве было шмат параненых.

На наступны дзень святкавалі перамогу. Быў адслужаны праваслаўны малебен у «чэсць святой Троіцы і на хвалу Госпада Бога» і каталіцкі малебен. Падчас урачыстага абеду, на які былі прыведзены палонныя ваяводы, Канстанцін Астрожскі павіншаваў сваіх ваяводаў, ротмістраў і рыцараў з перамогай. Пазней, 3 снежня 1514 года, кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт наладзіў у Вільні ўрачысты прыём у гонар гетмана Астрожскага і рыцараў-пераможцаў. У Германіі быў выдадзены друкаваны лісток пра бітву пад Оршай.

Пасля гэтай бітвы Канстанцін Астрожскі зрабіў у Вільні багатую фундацыю (уклад) царкве Свята-Духаўскага манастыра ў падзяку Богу за дараваную яму перамогу. У памяць гэтай фундацыі была звонку прымацавана мармуровая дошка з надпісам па-беларуску.

А вайна працягвалася. Дуброўна, Мсціслаў і Крычаў адразу ж перайшлі на бок караля. Знаць Смаленска на чале з епіскапам Варсанофіем вырашыла таксама здаць горад, аднак змова была раскрыта. Калі К. Астрожскі з 6-тысячным войскам і часткаю лёгкай артылерыі падышоў да Смаленска і спрабаваў узяць горад, маскоўскі ваявода князь Васіль Шуйскі загадаў павесіць на сценах горада ўдзельнікаў змовы, даючы зразумець Астрожскаму, што яго саюзнікаў у горадзе ўжо няма. Набліжаліся зімовыя халады, і К. Астрожскі вымушаны быў адступіць і пасля заканчэння пахода ўрачыста вярнуўся ў Вільню.

Бітва пад Оршай пакінула глыбокі след у тагачаснай беларускай, украінскай і польскай літаратуры. Перш за ўсё яе аднатавалі сучасныя ёй хронікі і летапісы. У Валынскім кароткім летапісе была змешчана «Пахвала князю Астрожскаму».

З таго ж часу захавалася беларуская народная песня пра перамогу пад Оршай «Ой, у нядзельку параненька ўзышло сонца хмарненька», якая заканчвалася словамі «Слава Воршы, ўжо не горша. Слаўся, пан Астрожскі».

Перамога пад Оршай мела значныя міжнародныя наступствы. Імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Максіміліян ад-

мовіўся падпісаць саюзны дагавор з Маскоўскім вялікім княствам, накіраваны супраць Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. А ў 1515 годзе Максіміліян, Жыгімонт і яго брат, венгерскі кароль Уладзіслаў, падпісалі дамову аб прыязных адносінах паміж іх краінамі.

Канстанцін Астрожскі ўдзельнічаў у ваенных дзеяннях і ў наступных кампаніях вайны 1512—1522 гадоў. Улетку 1517 года ён са сваім войскам, у якое былі ўключаны наёмныя польскія і чэшскія атрады Я. Свярчоўскага, дзейнічаў у Северскай зямлі. А ў верасні 1517 года палкі К. Астрожскага разам з атрадам Я. Свярчоўскага напалі ■ Полацка на Пскоўскую зямлю. Аблога Апочкі атрадамі Свярчоўскага вынікаў не дала, і К. Астрожскі ў кастрычніку 1517 года вымушаны быў адступіць.

У ліпені 1519 года на Кіеўскую зямлю, Валынь, Галіччыну і польскія землі ля Любліна напалі саюзнікі Васіля III — крымскія татары. На чале 40-тысячнай арды стаяў Багатыр-Салтан. Татары забівалі жыхароў, рабавалі маёмасць, бралі палонных для продажу ў рабства. Сабралася войска з польскай і валынскай, ■ таксама беларускай і літоўскай шляхты. Камандаваў 7-тысячным войскам Канстанцін Астрожскі. Ён пераняў татарскае войска на зваротным шляху, калі яно ўжо вярталася са здабычай.

Пад Сокалем 2 жніўня 1519 года адбылася бітва. Астрожскі прапанаваў польскім камандуючым — маршалку кароннаму Станіславу Хадэцкаму і падольскаму ваяводу Марціну Камянецкаму — не пачынаць атаку да таго часу, пакуль татары не пачнуць перапраўляцца праз Заходні Буг, і біць іх па частках на абодвух берагах ракі. Аднак польскія камандуючыя не падпарадкаваліся Астрожскаму і, перайшоўшы раку, пачалі бой ля спаленага мястэчка ў нізкім месцы, дзе не маглі разгарнуць палкі сваёй цяжкай конніцы. Каб польскія палкі не былі цалкам знішчаны, К. Астрожскі вымушаны быў таксама прыняць бой. Хоць польскія харугвы здолелі дзякуючы дапамозе Астрожскага разгарнуць фронт, аднак ініцыятыва была страчана, саюзнае войска было амаль цалкам акружана, і бітва ля Сокаля скончылася цяжкім паражэннем. На полі бою засталося 1 200 забітых. К. Астрожскі разам з польскімі камандуючымі і значнай часткай сваіх сіл здолеў прабіцца праз шэрагі ворага і ўцячы. Вайна заканчвалася. Першымі выйшлі з яе саюзнікі Васіля III. У 1520 годзе мірнае пагадненне з Жыгімонтам Казіміравічам падпісаў крымскі хан Мехмет Гірэй, у 1521 годзе — Тэўтонскі ордэн. У 1522 годзе ў Маскве было падпісана пагадненне аб замірэнні на пяць гадоў. Смаленск застаўся ў маскоўскага вяліка-

га князя, шматлікія палонныя — у Вялікім княстве Літоўскім.

Канстанцін Іванавіч Астрожскі цяпер больш займаўся дзяржаўнымі справамі, часта бываў у Польшчы. Ён яшчэ больш зблізіўся з каралём і вялікім князем Жыгімонтам Старым. Яшчэ ў красавіку 1518 года ён сустракаў недалёка ад мяжы новую жонку караля Бону Сфорца, якая ехала ў Кракаў праз Чэхію. Астрожскі браў удзел у шлюбных і каранацыйных урачыстасцях. Ён стаў адным з прыбліжаных да каралевы Боны дзеячаў.

25 сакавіка 1522 года, улічваючы заслугі Канстанціна Іванавіча Астрожскага перад сваёй краінай, падчас вальнага (агульнага) сойму Вялікага княства Літоўскага ў Гародні па просьбе паноў-рады вялікі князь Жыгімонт Казіміравіч падпісаў грамату аб наданні гетману К. І. Астрожскаму годнасці троцкага ваяводы (гэта была другая па значэнні пасада пасля пасады віленскага ваяводы). Князь К. І. Астрожскі вызваляўся ад пасады старосты луцкага і маршалка Валынскай зямлі, але заставаўся гетманам найвышэйшым і старостам брацлаўскім і вінніцкім.

17 жніўня 1522 года гетман К. Астрожскі атрымаў новую грамату ад вялікага князя Жыгімонта, якой яму давалася права запячатваць свае лісты чырвоным воскам (а не зялёным), што ў тыя часы дазвалялася толькі сваякам вялікага князя і нашчадкам вялікіх князёў.

Ва ўнутрыпалітычных стасунках у Беларуска-Літоўскай дзяржаве князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі карыстаўся аўтарытэтам сярод паноў-рады і магнатаў. Ён быў прыхільнікам умацавання ваенна-палітычнага саюза паміж Вялікім княствам Літоўскім і Польшчай, бо лічыў, што дзякуючы саюзу можна было бараніць Беларусь і Украіну ад пастаянных нападаў крымскіх татар і маскоўскіх войск. Карыстаўся ён і папулярнасцю ў асяроддзі польскіх магнатаў і шляхты за свае вайсковыя перамогі.

У канцы 10-х — пачатку 20-х гадоў XVI стагоддзя ў вышэйшых колах Беларуска-Літоўскай дзяржавы разгарэўся канфлікт паміж дзвюма групоўкамі магнатаў, якія ўваходзілі ў склад паноў-рады. Адну групоўку ўзначальваў Ольбрахт Гаштольд (памёр у 1539 г.), ваявода троцкі з 1519 года, а з 1522 — ваявода віленскі і адначасова канцлер Вялікага княства Літоўскага. Гэтая групоўка выступала за поўную незалежнасць дзяржавы і супраць уніі з Польшчай. Другую групоўку ўзначальваў віленскі ваявода і канцлер Вялікага княства Літоўскага Мікалай Мікалаевіч Радзівіл (памёр у 1521 г.), прыхільнік захавання саюза з Польшчай. Спачатку Канстанціну Астрожскаму ўда-

валася захаваць добрыя стасункі з абодвума магнатамі і іх групоўкамі. Калі варожасць паміж абедзвюма групоўкамі пагражала пачаткам грамадзянскай вайны ў дзяржаве, якая яшчэ вяла вайну з Маскоўскім вялікім княствам, князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі спрабаваў неяк памірыць варагуючыя бакі на з'ездзе ў Мінску ў 1520 годзе, але дарэмна.

На некаторы час канфлікт быў сцішаны. Пасля смерці князя Мікалая Радзівіла ў 1521 годзе пасады канцлера і віленскага ваяводы атрымаў Ольбрахт Гаштольд, ■ былую яго пасаду троцкага ваяводы — Канстанцін Астрожскі, які ўзмацніў сувязь з сынамі Мікалая Радзівіла — Янам, старостам жамойцкім, і Мікалаем, біскупам жамойцкім, і братам М. Радзівіла — Юрыем Радзівілам, гетманам надворным і кашталянам троцкім, з якім не раз удзельнічаў у бітвах з ворагамі.

Аднак нейтральную пазіцыю К. Астрожскаму ўдалося ўтрымліваць нядоўга. Калі ён даведаўся пра план маладой каралевы Боны аб папярэднім абранні на пасад вялікага князя літоўскага і рускага яе двухгадовага сына Жыгімонта Аўгуста яшчэ пры жыцці бацькі, Жыгімонта Старога, і без згоды польскага боку, то выступіў супраць плана, бо бачыў у ім інструмент распаду дзяржаўнай уніі. Яго падтрымала некалькі магнатаў. Калі не ўдалося ўгаварыць караля адмовіцца ад плана, К. Астрожскі 4 снежня 1522 года прыняў удзел у сойме, на якім Жыгімонту Аўгусту фармальна абяцалася, што ён будзе абраны вялікім князем (быў абраны ў 1529 г.).

З гэтага моманту Канстанцін Астрожскі сам узначаліў палітычную групоўку магнатаў, якая выступала супраць Ольбрахта Гаштольда і яго групоўкі. Вакол яго гуртаваліся такія прадстаўнікі магнацкіх сем'яў, як Грыгорый Осцікавіч, Юрый Алелькавіч, Іван Сапега, Радзівілы. Гэта былі прыхільнікі ўтрымання саюза з Польшчай. Але не толькі палітычныя погляды, але і барацьба за ўладу таксама ўплывала на іх актыўнасць і ўвогуле на палітычную сітуацыю ў краіне. Узаемныя абвінавачванні, наезды, судовыя працэсы паралізавалі дзейнасць дзяржаўнага апарату. У справу вырашэння канфлікту ўмяшаўся сам вялікі князь. Аднак прымірыць абедзьве групоўкі не здолеў і ён.

Пасля смерці першай жонкі, Тацяны Сямёнаўны з роду Гальшанскіх (у ліпені 1522 г.), Канстанцін Іванавіч Астрожскі ў 63-гадовым узросце ажаніўся другі раз (у 1523 г.). Другая жонка, Аляксандра Сямёнаўна Алелькавіч, была таксама княжацкага роду (прамы нашчадак Альгерда). Яна была сястрой слуц-

кага князя Юрыя Сямёнавіча Алелькавіча, які ўваходзіў у магнацкую групоўку К. І. Астрожскага.

Пры заключэнні шлюбу Канстанцін Астрожскі даў ліст сваякам нявесты, у якім абавязваўся даць жонцы вена (пажыццёвае права валодання пэўнымі маёнткамі) з трэці ўсіх сваіх маёнткаў. Князь Юрый Алелькавіч павінен быў выдаць К. Астрожскаму багаты пасаг нявесты: тры тысячы коп грошаў літоўскіх ды яшчэ тысячу чырвоных венгерскіх злотых. Сын Ілля ад першага шлюбу і дзеці ад другога шлюбу павінны былі атрымаць роўныя долі спадчыны.

У гэты час Канстанцін Іванавіч Астрожскі быў другім па багацці (пасля Ольбрахта Гаштольда) магнатам Вялікага княства Літоўскага. У 1528 годзе ён выставіў 426 коннікаў са сваіх маёнткаў (ад колькасці сялянскіх службаў) у войска Вялікага княства Літоўскага (Гаштольд 466 коннікаў). Акрамя валынскіх маёнткаў, у Беларусі яму належалі Смалявічы і Тарасаў у Мінскім павеце, Балажэвічы, Капцэвічы і Шастовічы ў Мазырскім, Анохаў у Наваградскім, Дзятлаў, Тураў, возера Свіцязь з навакольнымі вёскамі, двор у Мінску. У яго маёнтках налічвалася больш за 40 тысяч мяшчан і сялян. У 1524 годзе ён дамогся для свайго горада Астрога самакіравання паводле магдэбургскага права. Працягваў дапамагаць царкве будаваць храмы ў сваіх маёнтках, а таксама дамагаўся ў вялікага князя новых прывілеяў Праваслаўнай царкве ў Вялікім княстве Літоўскім. Быў заснавальнікам скрыпторыяў па вырабу рукапісных кніг. Фактычна К. І. Астрожскі стаў галоўным патронам Праваслаўнай царквы ў дзяржаве.

У апошнія гады свайго жыцця Канстанцін Іванавіч Астрожскі зноў удзельнічаў у паходах, камандаваў войскам у баях з крымскімі татарамі.

У 1524 годзе крымскі хан двойчы нападаў на Падолію, Валынь і Галіччыну. К. Астрожскі разам з гетманам вялікім каронным Мікалаем Фірлеем спрабаваў перакрыць шлях крымскім татарам, аднак з-за малых сіл яны не здолелі іх стрымаць. Восенню 1524 года ён быў запрошаны ў Кракаў, а потым у Львоў, каб падрыхтаваць польскае войска для барацьбы супраць магчымага ўварвання ў Заходнюю Украіну турэцкай і татарскай конніцы.

Узімку 1526—1527 гадоў на Валынь і Кіеўскае Палессе зноў уварваліся крымскія татары. Канстанцін Астрожскі сабраў невялікае войска пад Астрогам. Да яго прыйшлі са сваімі атрадамі князь Юрый Алелькавіч і Астафій Дашковіч. У сту-

дзені 1527 года яны рушылі на татар, якія ўжо вярталіся назад са здабычай і палоннымі. 27 студзеня 1527 года ўжо за Кіевам, над ракой Альшаніцай, войска Канстанціна Астрожскага знянацку напала на татарскі кош (галоўны лагер), дзе было 20 тысяч чалавек, разграміла ворага і вызваліла ясыр (палонных). Пасля гэтай перамогі, пра якую ў Нюрнбергу была выдадзена брашура, кароль Жыгімонт Стары наладзіў К. І. Астрожскаму яшчэ адну трыумфальную сустрэчу, на гэты раз у Кракаве.

Канстанцін Астрожскі прымаў удзел у сойме ў Вільні, на якім 18 кастрычніка 1529 года быў абвешчаны вялікім князем літоўскім Жыгімонт Аўгуст. У тым жа годзе ў складзе камісараў ад Вялікага княства Літоўскага ён вёў перамовы з Польшчай аб больш дакладным вызначэнні дзяржаўнай мяжы паміж дзвюма краінамі.

Памёр Канстанцін Іванавіч Астрожскі 10 жніўня 1530 года (паводле звестак гісторыка В. Пацехі) і згодна з яго звычаннем быў пахаваны ў Кіева-Пячэрскім манастыры.

Ад першай жонкі ён пакінуў сына Іллю (1510—1539), які быў старостам брацлаўскім і вінніцкім. Ад другой жонкі меў сына Канстанціна Васіля (1527—1608), пазней старосты ўладзімірскага і маршалка Валынскай зямлі, а потым — кіеўскага ваяводы, і дачку Соф'ю, якая памерла ў дзяцінстве.

Канстанцін Астрожскі ўвайшоў у гісторыю як славуты палкаводзец. М. Стрыйкоўскі ў сваёй «Хроніцы» назваў яго «другім Ганібалам».

*Літаратура*

*Charkiewicz W.* «Scypion Ruski» Konstanty Iwanowicz książę Ostrogski. Wilno, 1934.

*Грыцкевіч А.* Бітва пад Оршай 8 верасня 1514 г. // Спадчына. 1992. № 6.

*Herbst St.* Bitwa nad Wiedroszą 1500 roku // Wieki średnie. Prace ofiarowane Tadeuszowi Manteufflowi. Warszawa, 1962.

*Сагановіч Г.* Айчыну сваю баронячы. Канстанцін Астрожскі. Мн., 1992.

*Stryjkowski M.* Kronika polska, litewska, żmudzka i wszystkiej Rusi. Tom II. Warszawa, 1846.

*Wojciechowski Z.* Zygmunt Stary (1506—1548). Warszawa, 1979.

*Wojtkowiak Z.* Ostrogski Konstanty Iwanowicz // Polski Słownik Biograficzny. Tom XXIV. Wrocław, 1979.

*Анатоль Грыцкевіч*

# Грыгорый ХАДКЕВІЧ (1510–1572)



рыгорый Аляксандравіч Хадкевіч (нарадзіўся каля 1510 г. — памёр 12 лістапада 1573 г.), або Грэгорый (як ён пісаўся ў дакументах XVI ст.), герба Касьцеша (на чырвоным фоне выява стралы з раздвоеным заканчэннем, накіраванай угору і перакрыжаванай пасярэдзіне). Герб Грыгорыя Хадкевіча адрозніваўся ад герба яго сваяка Яна Караля Хадкевіча (грыф з мячом), бо герб апошняга складаўся з дзвюх частак — левай, Касьцеша, і правай — уласна грыф з мячом. Грыгорый Хадкевіч — вядомы дзяржаўны і вайсковы дзеяч Беларуска-Літоўскай дзяржавы і Рэчы Паспалітай.

Ён паходзіў са стражытнай баярскай сям'і, родапачынальнікам якой быў баярын з Кіеўскай зямлі Ходар (Фёдар) Юр'евіч, або Ходка, Ходзька, вядомы ў 1431—1447 гадах. Ад імені гэтага продка род назваўся Хадкевічамі. Ён быў праваслаўны, як і шмат магнацкіх родаў Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Грыгорый Хадкевіч належаў да самай старэйшай галіны роду, якая мела маёнткі ў Беларусі і на Падляшшы, аднак графскага тытула (у адрозненне ад быхаўскай галіны Яна Караля Хадкевіча) не мела. Грыгорый Хадкевіч прыходзіўся праўнукам родапачынальніку Ходку Юр'евічу. Быў адным з чатырох сыноў Аляксандра Іванавіча Хадкевіча (каля 1457—1549), ваяводы навагрудскага і старосты брэсцкага і кнышынскага, і князёўны Васілісы Яраславічаўны (з малодшай галіны вялікіх князёў маскоўскіх з Малаяраслаўца, прадстаўнікі якой выехалі ў Беларусь). Дзед Грыгорыя Хадкевіча, Іван Хадкевіч (памёр у 1484 г.), быў вайсковым дзеячам і кіеўскім ваяводам, у 1482 годзе пры абароне Кіева быў захоплены ў палон, дзе і памёр.

У юнацтве і маладосці Грыгорый Хадкевіч разам з бацькам часта бываў у Кракаве пры каралеўскім двары. Гэта потым пацвердзіў кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст у адным са сваіх прывілеяў: «з млодости лет своих на дворе нашом уховывашыся...».

У маладыя гады Грыгорый Хадкевіч пачаў набываць баявы вопыт у стэпах Украіны, змагаючыся з набегамі крымскіх татар. У Кракаве ён блізка сышоўся з Жыгімонтам Аўгустам. Таму, калі ў 1544 годзе кароль Жыгімонт Стары перадаў свайму сыну Жыгімонту Аўгусту кіраванне Вялікім княствам Літоўскім, у асяроддзі маладога вялікага князя апынуўся і Г. Хадкевіч. У 1544 годзе ён атрымаў пасаду падкаморыя Вялікага княства Літоўскага, функцыі якога выконваў да 1559 года.

У 1546 годзе Г. Хадкевіч стаў старостам ковенскім і дзяржаўцам вількейскім у Літве. Але хутка перайшоў у шэрагі апазіцыі. Разам з братамі — Геранімам, кашталянам троцкім і старостам жамойцкім, і Юрыем, стольнікам Вялікага княства Літоўскага, — ён выступіў супраць шлюбу Жыгімонта Аўгуста з Барбарай Радзівіл, не жадаючы ўзмацнення групоўкі Радзівілаў пры віленскім двары. Аднак пасля смерці каралевы польскай і вялікай княгіні літоўскай Барбары (8 мая 1551 г.) Хадкевіч зноў знаходзіўся ў атачэнні Жыгімонта Аўгуста, хаця з Радзівіламі Хадкевічы заставаліся сапернікамі сярод палітычнай эліты Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Ужо ў 1551 годзе ён становіцца дзяржаўцам кармялоўскім і румшышскім (зноў у Літве).

Далей Грыгорый Хадкевіч робіць бліскучую кар'еру. У 1554 годзе ён прызначаецца Жыгімонтам Аўгустам на пасаду віцебскага ваяводы і тым самым уваходзіць у найвышэйшы дзяржаўны орган Вялікага княства Літоўскага і Рускага — раду паноў (паны-раду). Праз год ён пераводзіцца на пасаду кіеўскага ваяводы — для ўмацавання Кіева і абароны тэрыторыі Кіеўскага ваяводства ад магчымага нападу войск цара Івана Грознага, бо ўжо існавала небяспека неспадзяванага нападу Маскоўскай дзяржавы на тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага.

16 верасня 1559 года вялікі князь Жыгімонт Аўгуст надаў яму больш высокую годнасць — кашталяна троцкага (адну з найвышэйшых і ганаровых пасад у дзяржаве).

Разам з дзяржаўнай дзейнасцю Грыгорый Хадкевіч удасканальваў свой баявы вопыт. Знаходзячыся на пасадзе кіеўскага ваяводы, ён неаднаразова адбіваў напады крымскіх татар на украінскія землі. У адным з пазнейшых прывілеяў было напісана, што на чале жаўнераў «на працягу некалькіх гадоў у небяс-

печныя часы на Украіне і ў Дзікіх Палях знаходзячыся, ён разважліва, мужна і пастаянна з тым моцным і хуткім непрыяцелем змагаўся».

Вайсковая дзейнасць Грыгорыя Аляксандравіча Хадкевіча стала больш актыўнай падчас Лівонскай (Інфлянцкай) вайны, у якую была ўцягнута Беларуска-Літоўская дзяржава. Наданне Хадкевічу пасады троцкага кашталяна было звязана менавіта з выкарыстаннем яго не толькі дзяржаўнага, але і вайсковага вопыту на паўночных і усходніх межах Беларуска-Літоўскай дзяржавы.

Грыгорый Хадкевіч удзельнічаў у летняй кампаніі 1561 года, падчас якой войска Вялікага княства Літоўскага ўпершыню перайшло ў наступ на тэрыторыі Інфлянтаў і пад камандаваннем гетмана найвышэйшага Мікалая Радзівіла Рудога ўзяло заняты раней маскоўскімі войскамі замак Тарваст (у Паўднёвай Эстоніі). Пасля заканчэння ваеннай кампаніі 1561 года Грыгорый Хадкевіч 9 лістапада 1561 года атрымаў ад Жыгімонта Аўгуста вайсковую пасаду гетмана дворнага Вялікага княства Літоўскага (другую па значэнні вышэйшую вайсковую пасаду таго часу). Адначасова ён атрымаў пад сваё камандаванне паспалітае рушэнне (шляхецкае апалчэнне) Жамойцкай зямлі.

З усімі гэтымі сіламі гетман дворны Грыгорый Хадкевіч у пачатку 1562 года зноў рушыў на барацьбу з маскоўскімі атрадамі, якія спусташалі тэрыторыю Інфлянтаў (Лівоніі). Знаходзячыся ў Лівоніі, Грыгорый Хадкевіч распачаў перамовы з маскоўскім ваяводам у Дэрпце (Тарту) І. П. Чалядніным «як праваслаўны з праваслаўным» аб заключэнні перамір'я, якое ўрэшце і было заключана ў гэтым рэгіёне. Атрымаўшы ад Чаляднiна вестку аб гатоўнасці цара Івана IV да перамоў аб міры, Г. Хадкевіч пакінуў свае войска, даручыўшы камандаванне князю Аляксандру Палубінскаму, а сам вярнуўся ў Вільню, каб пераканаць Жыгімонта Аўгуста ў неабходнасці заключэння міру і накіраванні адмысловага пасольства ў Маскву.

Аднак гэтую спробу заключыць мір з Маскоўскай дзяржавай сарваў сам цар Іван IV. Не зважаючы на заключанае ў Інфлянтах перамір'е, ён вясной 1562 года кінуў свае войскі на Віцебскае ваяводства. Маскоўскія атрады «агнём і мечам» прайшліся па ўсходніх раёнах Беларусі ад Віцебска да Шклова. Былі спустошаны ваколіцы Віцебска, Дуброўны, Оршы, Копысі, Шклова. Ваявода князь Пётр Абаленскі-Сярэбраны разбіў атрад беларуска-літоўскага войска каля Мсціслава, а князь А. М. Курбскі спаліў прадмесці Віцебска. Праўда, у адказ на гэту аперацыю

рускіх войск, якая мела разведвальны і дэманстрацыйны характар (у параўнанні з бітвамі ў большым маштабе), атрады беларуска-літоўскага войска зрабілі ўдалы набег на Смаленшчыну і пад Веліж.

У сувязі з гэтымі падзеямі гетман дворны Г. Хадкевіч зноў узначаліў жамойцкае апалчэнне і рушыў улетку 1562 года на фронт у Інфлянты. Ён камандаваў атрадамі жамойцкай шляхты і некалькімі ротамі наёмных жаўнераў. У Інфлянтах войска на чале з гетманам дворным Грыгорыем Хадкевічам у канцы 1562 года аб'ядналася з войскам гетмана найвышэйшага Беларуска-Літоўскай дзяржавы Мікалая Радзівіла Рудога, каб пайсці на мяжу з Маскоўскім царствам і абараніць Беларусь ад магчымага ўварвання на яе тэрыторыю войска цара Івана Грознага. Аднак шляхецкае апалчэнне Жамойціі (якой напад маскоўскага войска непасрэдна не пагражаў) разышлося па дамах. Астатнія сілы беларуска-літоўскага войска не здолелі прадухіліць напад моцнай і добра забяспечанай арміі маскоўскага цара.

31 студзеня 1563 года Полацк быў акружаны маскоўскім войскам, якое складалася больш чым з 60 тысяч чалавек і мела 200 гармат. Пачалася аблога горада і мужная абарона яго гарнізона і жыхароў. Абодва гетманы, М. Радзівіл і Г. Хадкевіч, мелі пад сваім камандаваннем толькі 3 400 чалавек конніцы і некалькі соцень пехацінцаў — разам крыху больш за 4 тысячы чалавек — і не змаглі дапамагчы Полацку. Пасля двух тыдняў мужнай абароны 15 лютага 1563 года Полацк капітуляваў.

Каб уратаваць становішча дзяржавы, адразу пасля ўзяцця Полацка царом Іванам Васільевічам, са свайго вайсковага лагера абодва гетманы і канцлер Вялікага княства Літоўскага Мікалай Радзівіл Чорны (які быў разам з імі), а таксама сябры паноў-рады выслалі да цара і Баярскай думы Расіі ліст з просьбай аб перамір'і. Заняты ўпарадкаваннем маскоўскіх сіл у Полацку і наваколлі, цар Іван Грозны і яго баяры далі згоду. Было заключана перамір'е спачатку да 15 жніўня 1563 года, а потым падоўжана да 1 лістапада. Перамовы аб наступным падаўжэнні перамір'я ўжо ў Маскве, якія вялі брат Грыгорыя Юрый Хадкевіч і Рыгор Валовіч, не далі вынікаў, бо цар выставіў непрымальныя ўмовы: заключэнне міру на 10—15 гадоў, уступку Расіі Інфлянтаў, а таксама беларускіх і украінскіх зямель. Атрымаўшы адмоўны адказ, Іван Грозны збавіў патрабаванні: хацеў забраць толькі Лівонію і Полацк.

Падчас гэтых перамоў і часовага перамір'я абодва гетманы былі заняты новымі наборамі ў войска і падрыхтоўкай да абаро-

ны тэрыторыі Беларусі. Ваенная кампанія 1564 года планавалася Іванам Грозным (які ў Беларусі пасля жахлівага пакарання жыхароў Полацка і навакольных тэрыторый атрымаў мянушку Жахлівы) з тым, каб захапіць Беларуска-Літоўскую дзяржаву. Дзеля гэтага маскоўскія войскі з розных бакоў павінны былі злучыцца ў раёне Друцка («на Друцкіх палях») і адтуль наступаць у напрамку Менска, Наваградка і Вільні. Аднак маскоўскія ваяводы не паспелі аб'яднаць свае войскі.

Беларуска-літоўскае войска іх апярэдзіла. У студзені 1564 года князь Пётр Іванавіч Шуйскі выйшаў з Полацка з 30-тысячным войскам і спыніўся ў полі ля вёскі Іванск (на рацэ Уле). Каб не даць арміі П. Шуйскага злучыцца з яшчэ большай, 50-тысячнай арміяй князя Пятра Сямёнавіча Абаленскага-Сярэбранага, якая стаяла з вялікім абозам каля Оршы над ракой Крапіўнай (на тым месцы, дзе адбылася Аршанская бітва 1514 года), гетман вялікі і троцкі ваявода Мікалай Юр'евіч Радзівіл хутка сабраў невялікае войска і рушыў насустрач ворагу. Усяго ў войску, як адзначае Марцін Бельскі ў сваёй «Хроніцы», было «да дзесяці тысяч людзей да бою годных»; акрамя шляхты ў войску былі казакі і сяляне са зруйнаваных маскоўскімі войскамі вёсак усходняй часткі Беларусі. Мацей Стрыйкоўскі ў сваёй «Хроніцы» гаворыць толькі пра «дзельных панят і рыцарства літоўскае і рускае не болей, да бою годных, чым у чатыры тысячы».

Галоўнае камандаванне войскам было, зразумела, у гетмана найвышэйшага Мікалая Радзівіла Рудога. Але перадавым палком гэтага войска, які павінен быў пачынаць атаку, камандаваў гетман польны і кашталян троцкі Грыгорый Хадкевіч. Яго роля ў бітве была важнай. У сераду вечарам, 26 студзеня 1564 года, адбылася бітва над ракою Улай. Беларуска-літоўскае войска знянацку напала на маскоўскі вайсковы лагер на Іваньскіх палях. Войска Пятра Іванавіча Шуйскага не паспела стаць у баявы парадак, калі на яго ўжо абрынулася беларуская конніца.

На чале перадавога палка, які складаўся з найлепшых конных рот войска Вялікага княства Літоўскага, Грыгорый Хадкевіч першы напаў на сілы праціўніка, якія пераважалі па колькасці. Уступны бой быў выйграны. У гэтай атацы ў яго палку амаль не было страт. Першы бой паўплываў на настрой усяго беларуска-літоўскага войска.

Вечар і ноч былі ясныя, свяціў месяц, і, як пісаў М. Бельскі, войска гетманаў «секла маскалёў», а потым кінулася ў пагоню за тымі, хто ўцякаў. На полі і падчас пагоні загінула 25 тысяч маскоўскіх воінаў. У Полацк уцякло толькі 5 тысяч чалавек, у

большасці параненых. Многіх уцекачоў пабілі казакі і сяляне, якія ўжо зведалі цяжар маскоўскай акупацыі. Сам галоўны ваявода Пётр Шуйскі быў забіты сякерай невядомым селянінам. Потым яго ўрачыста пахавалі ў Вільні, у царкве Прачыстай Багародзіцы. А ў Расіі, як гэта часта было ў перадапрычныя і апрычныя гады, весткі аб вайсковых паразах сталі сігналам для новых рэпрэсій.

Праз некаторы час вялікі князь Жыгімонт Аўгуст узнагародзіў пераможцаў. Князь Мікалай Радзівіл Руды пасля смерці ў 1565 годзе свайго стрыечнага брата Мікалая Радзівіла Чорнага ў 1566 годзе атрымаў вакантныя пасады ваяводы віленскага і канцлера Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Адначасова Жыгімонт Аўгуст вызваліў Мікалая Радзівіла ад пасады найвышэйшага гетмана, перадаўшы яе ў сакавіку 1566 года Грыгорыю Хадкевічу, які яшчэ ў 1564 годзе атрымаў пасаду віленскага кашталяна (што лічылася адной з галоўных пасад у дзяржаве).

Атрымаўшы галоўнае камандаванне ў войску Беларуска-Літоўскай дзяржавы, Грыгорый Хадкевіч займаўся пераважна арганізацыяй войска і забеспячэння абароны краіны. Сучаснікі лічылі, што ён з'яўляўся аўтарам самых старадаўніх гетманскіх артыкулаў, у якіх была вызначана функцыя гетманскай улады ў войску, запісаны правы і абавязкі гетманаў. Шмат часу прысвяціў Грыгорый Хадкевіч узмацненню і пабудове памежных замкаў паблізу граніцы з Маскоўскай дзяржавай. Ён шмат ездзіў па краіне ў памежныя мясцовасці, інспектаваў гарнізоны, папаўняў іх свежымі сіламі, займаўся забеспячэннем іх зброяй, амуніцыяй і своечасовай выплатай грошай за вайсковую службу.

Непасрэдна ў ваенных дзеяннях камандавалі групамі войск бліжэйшыя памочнікі гетмана найвышэйшага. Адным з іх быў яго пляменнік Ян Геранімавіч Хадкевіч (1537—1579), староста жамойцкі і маршалак вялікі Беларуска-Літоўскай дзяржавы, які атрымаў пасады адміністратара Інфлянтаў і гетмана інфлянцкага. Другім памочнікам быў зяць Грыгорыя Хадкевіча — князь Раман Фёдаравіч Сангушка (1537—1571), брацлаўскі ваявода на Украіне, які выконваў абавязкі гетмана дворнага («спраўца гетмана дворнага»). Асабліва вылучаўся ў баях з маскоўскімі войскамі Раман Сангушка. Грыгорый Хадкевіч у сваіх лістах зяцю даваў парады і ўказанні, як весці барацьбу з непрыяцелем. У 1567 і 1568 гадах абодва палкаводцы — Ян Хадкевіч і Раман Сангушка — атрымалі шэраг перамог у баях з праціўнікам. Атрыманыя Раманам Сангушкам ад цесця парады і ўка-

занні дапамаглі яму атрымаць перамогу пад Чашнікамі на Іваньскіх палях 21 ліпеня 1567 года і пры ўзяцці крэпасці Ула (у ноч з 20 на 21 верасня 1568 г.).

Увосень 1567 года Грыгорый Хадкевіч удзельнічаў у вялікім зборы апалчэння беларуска-літоўскай шляхты каля Радашковічаў у вайсковым лагеры пад Красным Сялом. Тут ён правёў агляд шляхецкага апалчэння і перапіс (попіс) войска. Сам ён са сваіх маёнткаў, паводле норм попісу ў залежнасці ад колькасці сялянскіх гаспадарак у валоданнях (1 конніка з 10 службаў), выставіў у войска 300 коннікаў па-гусарску і 150 пешых драбаў (жаўнераў). Адначасова з попісам шляхецкага войска, які цягнуўся з чэрвеня 1567 да пачатку студзеня 1568 года, Грыгорый Хадкевіч рыхтаваў генеральны паход на Маскву, каб адным моцным ударам разбіць маскоўскае войска і выйграць вайну. Паход павінен быў узначаліць сам вялікі князь Беларуска-Літоўскай дзяржавы Жыгімонт Аўгуст. План наступу на праціўніка ўжо пачаў здзяйсняцца. Жыгімонт Аўгуст выслаў гетмана найвышэйшага Грыгорыя Хадкевіча з перадавымі атрадамі на памежжа з Маскоўскай дзяржавай. Аднак агульны наступ у межы Расіі зацягнуўся з-за нерашучасці вялікага князя, а з пачаткам зімы план генеральнага наступу быў адкладзены.

Агульная сітуацыя ў Вялікім княстве Літоўскім і Рускім не дазваляла надоўга праводзіць мабілізацыю шляхты. У дзяржаўным скарбе не хапала грошай для вядзення вайны. Адчуваліся і вялікія страты сярод мірнага насельніцтва ва Усходняй Беларусі пасля паходаў на яе маскоўскіх войск. У Маскоўскай дзяржаве сілы таксама паступова вычэрпваліся. Маскоўскія войскі ў Беларусі і ў Лівоніі неслі вялікія страты ў баях. Да пагаршэння сітуацыі прычыніліся і масавыя рэпрэсіі, якія разгарнуў Іван Жахлівы, пачаўшы палітыку апрычніны. Пастаянныя масавыя забойствы адбываліся ў самой Маскве, іншых гарадах і вёсках, а таксама на фронце. Усё гэта спыніла напал баявых дзеянняў. Урэшце 22 ліпеня 1570 года было падпісана пагадненне аб трохгадовым перамір'і, якое Жыгімонт Аўгуст ратыфікаваў у 1571 годзе.

Гетман найвышэйшы Грыгорый Хадкевіч як віленскі кашталян (сябра паноў-рады) у апошнія гады свайго жыцця шмат увагі прысвячаў дзяржаўным справам. У гэты час востра паўстала пытанне аб далейшым лёсе дзяржавы. Працяглая вайна з Расіяй вельмі дорага абыходзілася краіне і яе насельніцтву. Пад пагрозай страты дзяржаўнасці аказалася беларуска-літоўскае грамадства.

Ужо ў сярэдзіне 60-х гадоў XVI стагоддзя паўстала пытанне аб больш цесным саюзе паміж Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім, Рускім і Жамойцкім. Цяжкая вайна з Маскоўскай дзяржавай прыспешвала вырашэнне гэтага важнага для краіны пытання. Перадумовамі уніі было доўгае існаванне асабістай уніі Вялікага княства Літоўскага і Польшчы (звычайна з адным і тым жа манархам для кожнай дзяржавы), паступовае збліжэнне палітычных і дзяржаўных правоў і ўстаноў абедзвюх краін, палітычнага менталітэту пануючага класа шляхты ў абедзвюх дзяржавах, у асноўным адзіная палітыка ў міжнародных адносінах, адзіная структура каталіцкага касцёла. Асноўная частка феадальнага саслоўя Беларусі — сярэдняя і дробная шляхта, знясіленая вайной з Маскоўскай дзяржавай, шукала саюзніка ў Польшчы. Беларуская шляхта, у большасці праваслаўная, рашуча выступала супраць далучэння яе тэрыторыі да Маскоўскага царства і ўсімі сіламі змагалася супраць маскоўскай агрэсіі. Перспектыву далучэння да Расіі яна не ўспрымала зусім, у тым ліку і з-за таго, што ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве правы шляхты (пераважна маёмасныя) былі значна большымі, чым у дваран Маскоўскай дзяржавы. У Вялікім княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім шляхта карысталася асабістай недатыкальнасцю, чаго зусім не было ў Маскоўскай дзяржаве. Шляхта дамаглася мясцовага самакіравання (соймікі ў паветах і павятовыя суды). У Беларуска-Літоўскай дзяржаве не было самадзяржаўнага рэжыму, як у Маскоўскай дзяржаве.

Польская шляхта і магнаты былі рашучымі прыхільнікамі уніі. Польшча намагалася шляхам інкарпарацыі поўнасцю падпарадкаваць сабе Беларуска-Літоўскую дзяржаву. Польская шляхта разлічвала атрымаць новыя маёнткі і новыя дзяржаўныя пасады. Прыхільнікам дзяржаўнай уніі быў і кароль польскі і вялікі князь літоўскі і рускі Жыгімонт Аўгуст. Ён быў апошнім з дынастыі Ягайлы, не меў нашчадкаў. Пасля яго смерці саюз паміж Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім мог быць ліквідаваны. Аднак сярод беларускай і літоўскай шляхты была моцная групоўка магнатаў і заможнай шляхты, якія супраціўляліся заключэнню дзяржаўнай уніі. Гэта групоўка не хацела страты незалежнасці і дзяржаўнага суверэнітэту. Магнаты і частка шляхты не згаджаліся на аб'яднанне з Польшчай.

У асяроддзі саслоўя феадалаў Беларуска-Літоўскай дзяржавы пачалася барацьба па кардынальным пытанні: аб'ядноўвацца ці не аб'ядноўвацца з Польшчай у новай саюзнай дзяржаве. Ужо 13 верасня 1562 года пасля паходу і перад роспускам вайс-

ковага апалчэння шляхта Беларусі ў вайсковым лагеры каля Віцебска прыняла і накіравала ў Вільню да вялікага князя Жыгімонта Аўгуста акт з прапановаю заключыць унію з Польшчай, каб мець агульныя соймы з польскай шляхтай, разам выбіраць караля і, галоўнае, карыстацца аднолькавымі правамі з польскай шляхтай і разам абараняцца ад ворагаў. Беларуская шляхта звярнулася таксама з гэтай прапановай да жамойцкай шляхты, якая не ўдзельнічала ў ваенных дзеяннях на тэрыторыі Беларусі і якой у вайсковым лагеры не было. Такім чынам, беларуская шляхта была ініцыятарам дзяржаўнай уніі Вялікага княства Літоўскага з Польшчай.

Беларускія і літоўскія магнаты на чале з Мікалаем Янавічам Радзівілам Чорным, віленскім ваяводам, канцлерам і маршалкам вялікім, выступілі супраць уніі з Польшчай. Таму вырашэнне пытання аб уніі зацягнулася на некалькі гадоў.

Грыгорый Аляксандравіч Хадкевіч уключыўся ў палітычную барацьбу. Ён, дасведчаны палкаводзец і ўдзельнік Інфлянцкай вайны, добра разумеў усю небяспеку для існавання Беларуска-Літоўскай дзяржавы з боку Маскоўскага царства. У адрозненне ад стрыечных братоў Мікалая Радзівіла Чорнага і Мікалая Радзівіла Рудога, якія займалі ўстойлівыя незалежніцкія пазіцыі і не пагаджаліся на унію з Польшчай, ён не ўхіляўся ад дыскусіі аб умовах уніі, разумеючы, што палітычныя абставіны, пазіцыя беларускай шляхты і націск з боку вялікага князя Жыгімонта Аўгуста і польскіх палітычных колаў вымушаюць палітычнае кіраўніцтва Беларуска-Літоўскай дзяржавы згадзіцца з аб'яднаннем Польшчы і Вялікага княства Літоўскага.

Грыгорый Хадкевіч разам з малодшым братам Юрыем Аляксандравічам Хадкевічам, кашталянам троцкім, і пляменнікам Янам Геранімавічам Хадкевічам, маршалкам вялікім Вялікага княства Літоўскага, прапанаваў свой праект уніі, больш прыяльны для Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Ён быў як сябра паноў-рады Вялікага княства Літоўскага адным з удзельнікаў Люблінскага сойму 1569 года, на якім вырашалася пытанне аб уніі.

Агульны сойм дэпутатаў і сенатараў сабраўся ў Любліне 10 студзеня 1569 года. Спачатку дэпутаты абедзьвюх дзяржаў засядалі асобна. Магнаты Вялікага княства Літоўскага выступалі супраць больш цеснай уніі з Польшчай, прапануючы фактычна абарончы саюз. Польскія дэпутаты звярнуліся да караля Жыгімонта Аўгуста, каб сойм засядаў разам. Аднак у канцы лютага 1569 года наступіў крызіс. Большасць дэпутатаў Вялікага кня-

ства Літоўскага (у тым ліку амаль усе магнаты), не згаджаючыся з польскім праектам уніі, пакінула Люблін. Пакінуў сойм і Грыгорый Хадкевіч.

Тады польскія сенатары і дэпутаты паставілі перад Жыгімонтам Аўгустам пытанне аб вылучэнні са складу Беларуска-Літоўскай дзяржавы Падляшша і Валыні і далучэння гэтых ваяводстваў да Польшчы, тым больш, што мясцовая шляхта была згодна на гэта далучэнне, спадзеючыся на пашырэнне сваіх правоў і прывілеяў. 5 сакавіка 1569 года кароль выдаў акт аб далучэнні Падляшша да Польшчы, а сойм разам з падляшскімі дэпутатамі прыняў канчатковае рашэнне пра далучэнне Падляшскага ваяводства да Кароны Польскай. Паны-рада Вялікага княства Літоўскага, у склад якіх уваходзіў Грыгорый Хадкевіч, заявілі пратэст, аднак большасць шляхты іх не падтрымала. Дэпутатам ад Беларуска-Літоўскай дзяржавы быў устаноўлены тэрмін вяртання. Некаторыя магнаты, якія пратэставалі супраць пазбаўлення Вялікага княства Літоўскага пэўных тэрыторый і супраць праекта фактычнай інкарпарацыі Беларуска-Літоўскай дзяржавы ў склад Польшчы, былі пазбаўлены каралём (і вялікім князем) сваіх пасад і месца ў Радзе Вялікага княства Літоўскага. Астатнія дэпутаты вярнуліся ў Люблін. Вярнуўся і Грыгорый Аляксандравіч Хадкевіч.

Пасля вяртання дэпутатаў сітуацыя было ўжо іншай. 10 мая 1569 года Жыгімонт Аўгуст склікаў павятовыя соймікі Вялікага княства Літоўскага, на якіх шляхта дала згоду на падпісанне уніі з Польшчай. Пасля новага абмеркавання акт Люблінскай уніі быў канчаткова зацверджаны соймам 1 ліпеня 1569 года (у тым ліку і Грыгорыем Хадкевічам). Кароль падпісаў акт 4 ліпеня. К гэтаму часу тэрыторыя Вялікага княства Літоўскага зменшылася да этнічнай беларускай і літоўскай тэрыторый. Актамі Люблінскай уніі абвяшчалася аб'яднанне на аснове роўнасці Польшчы (Кароны) і Вялікага княства Літоўскага (Літвы, або Княства) у федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую. Люблінская унія была кампрамісам феадалаў Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, у выніку якога ўтварылася больш моцная дзяржава. Унія замацавала палітычнае адзінства абедзвюх дзяржаў, узмацніла працэсы іх эканамічнага і культурнага збліжэння. Клас феадалаў Беларуска-Літоўскай дзяржавы ў цэлым выйграў ад заключэння уніі. Скончылася перамогай Лівонская вайна. Разам з тым Люблінская унія аблегчыла паланізацыю беларуска-літоўскай шляхты і часткі гараджан.

Грыгорый Хадкевіч як сябра паноў-рады Вялікага княства Літоўскага ўвайшоў у склад сената, вышэйшай палаты сойму

Рэчы Паспалітай. Аднак актыўнага ўдзелу ў яго пасяджэннях ён не прымаў, бо ў апошнія гады часта хварэў. З гэтай жа прычыны ён не камандаваў і войскам, тым больш што дзейнічаў тэрмін перамір'я ў вайне з Маскоўскай дзяржавай. Выконваў абавязкі камандуючага войскам яго старэйшы сын Андрэй Грыгор'евіч, падстолі Вялікага княства Літоўскага.

Грыгорый Аляксандравіч Хадкевіч быў прадстаўніком беларускага магнацтва і па паходжанні, і па культуры. (Паходзіў з сям'і, якая належала да праваслаўя.) Нягледзячы на поспехі Рэфармацыі, якая ў Беларусі пашырылася на многія каталіцкія і праваслаўныя сем'і магнатаў і шляхты, ён заставаўся верным праваслаўю да канца жыцця. У сваёй карэспандэнцыі ён ужываў беларускую мову і пісаў лісты кірыліцаю. Маючы багатыя маёнткі, падтрымліваў Праваслаўную царкву.

Грыгорый Хадкевіч валодаў маёнткамі ў Падляшскім ваяводстве. Тут асяродкам яго латыфундыі стаў горад Заблудаў. Ён дамогся ў праваслаўнага мітрапаліта ўтварэння ў межах мітрапаліцкай епархіі (цэнтр якой быў у Вільні) асобнай падляшскай пратапопіі з цэнтрам у Заблудаве і сам стаў яе патронам (свецкім зверхнікам) з правам кантролю за дзейнасцю святароў і нават прызначэння іх з яго згоды. Г. Хадкевіч, як патрон і апякун Царквы, дапамагаў ёй грашыма. Тэрыторыя пратапопіі была пашырана на паўночную частку Падляшскага ваяводства. У гэтай частцы ваяводства культурна-рэлігійнымі асяродкамі сталі праваслаўны манастыр у Супраслі (фундатарам якога быў бацька Г. Хадкевіча) з яго багатай бібліятэкай з кнігамі і рукапісамі, у тым ліку хронікамі са звесткамі з гісторыі Беларусі. Гэтай бібліятэкай карысталіся рэлігійныя і палітычныя дзеячы, аўтары літаратурных твораў. Працаваў у бібліятэцы і вядомы храніст Мацей Стрыйкоўскі. Былі тут і вядомы царкоўны дзеяч Арцемій, князь Андрэй Курбскі, Астафі Валовіч. Супрасльскі манастыр падтрымліваў пастаянныя сувязі з іншымі асяродкамі праваслаўя ў Вялікім княстве Літоўскім, у прыватнасці, са Слуцкам, рэзідэнцыяй праваслаўных князёў Алелькавічаў, сваякоў дынастыі Ягелонаў. У 1568—1572 гадах у Заблудаве знаходзіўся Іван Фёдараў, дзе пры падтрымцы Г. Хадкевіча заснаваў Заблудаўскую кірылічную друкарню (1568—1570), у якой разам з Пятром Мсціслаўцам выдаў «Евангелле вучыльнае» і «Псалтыр з Часаслоўцам».

У Заблудаве Грыгорый Хадкевіч утварыў шпіталь для бедных, быў фундатарам цэркваў у сваіх маёнтках. Ён меў у сваім распараджэнні і дзяржаўныя уладанні (староствы) як своеасаб-

лівую плату за выкананне дзяржаўных функцый (быў старостам ковенскім, магілёўскім, тыкоцінскім, гродзенскім, дзяржаўцам румшышскім, кармялоўскім і вількейскім).

Ажаніўся Грыгорый Хадкевіч у 1538 годзе з князёўнай Кацярынай Іванаўнай Вішнявецкай, старасцянкай (дачкой старосты) чачэрскай і прапойскай, сваячкай князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага, унучкай сястры знакамітага палкаводца. Ад гэтага шлюбу ў яго было два сыны і тры дачкі. Старэйшы сын Андрэй (1539—1575), падстолі Вялікага княства Літоўскага, у шлюб не ўступаў. Малодшы Аляксандр (каля 1540—1578) быў старостам гродзенскім і магілёўскім. Дзяцей не меў. Дачка Аляксандра была замужам за палкаводцам, гетманам дворным князем Раманам Сангушкам. Сярэдняя дачка Ганна ў першым шлюбе была замужам за кашталянам кіеўскім Паўлам Сапегам, у другім — за віленскім кашталянам Паўлам Пацам. Малодшая дачка — за смаленскім ваяводам Філонам Кмітам-Чарнобыльскім.

Памёр Грыгорый Аляксандравіч Хадкевіч 12 лістапада 1572 года ў Заблудаве. Хаця ёсць звесткі з тагачасных мемуараў, што ён памёр у лістападзе 1573 года. Быў пахаваны ў царкве Заблудаўскага манастыра. У гісторыю Беларусі увайшоў як адзін з выдатных дзеячаў сярэдзіны XVI стагоддзя, як вайсковец, палітык, мецэнат і фундатар праваслаўных цэркваў.

*Крыніцы*

*Stryjkowski M.* Goniec cnoty. Kraków, 1574.

*Stryjkowski M.* Kronika polska, litewska, żmudzka i wszystkiej Rusi. Warszawa, 1846. Tom II.

*Літаратура*

*Jasnowski J.* Chodkiewicz Grzegorz (Hrehory) // Polski Słownik Biograficzny. Kraków, 1937. T. III. S. 358—359.

*Lulewicz H.* Grzegorz (Hrehory) Chodkiewicz // Hetmani Rzeczypospolitej Obojga Narodów. Warszawa, 1995. S. 419—425.

*Mironowicz A.* Podlaskie ósrodki i organizacje prawosławne w XVI i XVII wieku. Białystok, 1991.

*Анатоль Грыцкевіч*

3. Зак.2059

# Юрый Юр'евіч АЛЕЛЬКАВІЧ (каля 1531–1578)



Юрый Юр'евіч Алелькавіч (каля 1531 г. — памёр 9 лістапада 1578 г.), слуцкі князь, адзін з багацейшых магнатаў Беларусі XVI стагоддзя, апякун праваслаўнай царквы ў Слуцкім княстве і ў Вялікім княстве Літоўскім, мецэнат, палкаводзец. Меў радавы герб Пагоня, які належаў нашчадкам вялікіх князёў.

Князь Юрый Алелькавіч паходзіў са старажытнага роду. Яго продкам быў кіеўскі князь Уладзімір Альгердавіч, якому бацька, вялікі князь Альгерд, перадаў Кіеўскае княства пасля яго вызвалення з-пад улады Залатой Арды ў 1362 годзе. У 1395 годзе вялікі князь Вітаўт пазбавіў свайго стрыечнага брата кіеўскага ўдзелу і перадаў яму ў 1398 годзе Капыльскае княства, у склад якога тады ўваходзіў і Слуцк. Сынам Уладзіміра Альгердавіча быў Алелька (Аляксандр), нашчадкі якога называліся Алелькавічамі. Праз некалькі дзесяцігоддзяў, у сярэдзіне XV стагоддзя, сталіца княства была перанесена ў Слуцк, і княства стала называцца Слуцкім.

Слуцкае княства займала тэрыторыю да ракі Нёман на поўначы, ракі Лань на захадзе, ракі Пціч на ўсходзе і ракі Прыпяць на поўдні. У склад княства ўваходзілі гарады Слуцк і Капыль — цэнтр маленькага Капыльскага княства, адміністрацыйнай адзінкі Слуцкага княства, мястэчкі Цімкавічы, Грэск, Таль, Пагост, Любань і толькі ў XVI стагоддзі Петрыкаў (Петрыковічы). Слуцкае княства заставалася да канца XVIII стагоддзя унікальнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкай Вялікага княства Літоўскага, якое ўваходзіла ў склад Навагрудскага павета. Адначасова Слуцкае княства захоўвала рысы васальнага

ўдзельнага княства ў адміністрацыйнай, судовай і вайсковай структурах кіравання, свае асобныя ўстановы. Кіраваў Слуцкім княствам князь з дапамогай баярскай рады. У князя былі свае васалы — князі, баяры і слугі путныя, якія атрымлівалі за службу (вайсковую і адміністрацыйную) невялікія маёнткі. У валасцях кіравалі намеснікі князя. У XVI стагоддзі Слуцкае княства паступова ператварылася ў вялікую феадальную вотчыну, але захавала рысы ўдзельнага княства, ва ўнутраныя справы якога вялікакняжацкая ўлада не ўмешвалася.

Юрый Юр'евіч Алелькавіч быў праўнукам князя Алелькі Уладзіміравіча (памёр у 1454 г.) і старэйшым сынам князя Юрыя Сямёнавіча Алелькавіча (каля 1492—1542) і княгіні Алены (у дакументах Олены) Радзівіл, (памерла ў 1546 г.), дачкі князя Мікалая Мікалаевіча Радзівіла, ваяводы віленскага і канцлера Вялікага княства Літоўскага, са старэйшай «ганёндзскай» лініі гэтага роду. Родная цётка Юрыя, Аляксандра, была другой жонкай гетмана Канстанціна Астрожскага. Ад бацькі князю Юрыю Юр'евічу дасталося не толькі Слуцкае княства, але і розныя маёнткі ў іншых паветах Вялікага княства Літоўскага. Некаторыя гісторыкі XIX стагоддзя называлі яго, паводле феадальных традыцый, Юрыем II.

Пасля смерці маці Юрый Алелькавіч афіцыйна апекаваўся яе малодшым братам Сямёнам (памёр у 1560 г.) і сястрой Соф'яй (памерла ў 1571 г.). Паводле феадальнай традыцыі, ён, як нашчадак Альгерда, займаў сталае месца ў складзе паноў-рады Вялікага княства Літоўскага, дзе засядаў у «першай лавіцы» з 5—7 чалавек (яна вырашала найбольш важныя пытанні дзяржаўнай палітыкі да агульнага абмеркавання ў агульным складзе паноў-рады). Вялікі князь, згодна са сваім звычаем, запрашаў Юрыя Алелькавіча на пасяджэнні асабістым лістом кожны раз. Запячатваў свае лісты князь Юрый Юр'евіч пячаткай з чырвонага воску як прадстаўнік пануючай у дзяржаве дынастыі.

Пра багацце маёнткаў Юрыя Алелькавіча сведчыць і колькасць коннікаў і жаўнераў, якіх ён выстаўляў ад сялянскіх служб і дымоў. Так, у 1557 годзе, падчас канфлікту паміж Вялікім княствам Літоўскім і Лівонскім ордэнам, у склад войска Вялікага княства Лтоўскага Юрый Алелькавіч і яго брат Сямён прывялі ў вайсковы лагер каля Пасволя (паблізу ад мяжы з Лівонскім ордэнам) «чатыры тысячы коннікаў і пешага рыцарства, добра ўзброенага». Аднаго конніка федалы тады павінны былі выстаўляць у апалчэнне (земскую службу) з 10 сялянскіх «службаў» (у «службе» было 3—4 сялянскія «дымы» або два-

ры). Падчас панавання Юрыя Алелькавіча ў 1566 годзе быў складзены інвентар (перапіс) княжацкіх і маленькіх маёнткаў, якія былі перададзены за службу небагатай шляхце і путным баярам, якія мелі ад 1—2 да 7 — 10 служб. Сярод такіх ваенна-служылых людзей, якія выходзілі ў паходы самі, без дадатковых воінаў, сустракаюцца вядомыя на Случчыне ў XVI—XVIII стагоддзях прозвішчы Быхавец, Ванькові́ч, Багушэвіч, Машчыц (Машчыцкі), Вячэрыц (Вечар), Бокша, Шуляк (Шулякоўскі), Казаковіч, Ляўковіч, Булгарын, Грыцкевіч, Пуцята, Капцэвіч. Гэта самы стары інвентар Слуцкага княства, які захаваўся. У 1572 годзе, напрыклад, ваенна-служылы шляхціц слуцкага князя Валерыян Сакалоўскі выстаўляў у паход князю 6 «пахолкаў» на конях, 1 пешага, а сам ён быў 9-м на кані.

Маючы вялікае багацце, Юрый Алелькавіч даваў вялікаму князю Жыгімонту Аўгусту грашовыя пазыкі і атрымліваў у заклад буйныя зямельныя ўладанні. Так, у 1559 годзе ён пазычыў Жыгімонту Аўгусту 7 тысяч коп грошаў літоўскіх (у кожнай капе было 60 сярэбраных грошаў) і атрымаў у заклад Пінскае княства, якім ён кіраваў і часова атрымліваў ад яго даходы. Праз два гады вялікі князь вярнуў доўг, і Юрый Алелькавіч аддаў дзяржаве Пінскае княства. Аднак праз некалькі месяцаў, ва ўмовах Лівонскай вайны, Жыгімонту Аўгусту патрабавалася новая пазыка. У 1561 годзе ён папрасіў у слуцкага князя ўжо 12 тысяч коп грошаў, а ўзамен аддаў яму ў часовае валоданне багатае Бабруйскае староства з правам атрымання даходаў. Бабруйскае староства засталося ў закладзе ў князя Юрыя Алелькавіча да канца яго жыцця, бо ён пазычыў яшчэ 10 тысяч злотых каралю Стэфану Баторыю за працяг закладу Бабруйскага староства.

Князь Юрый Юр'евіч Алелькавіч браў чынны ўдзел у Лівонскай вайне на чале свайго войска, якое складалася з ваенна-служылых людзей, — шляхты і путных баяр, што атрымлівалі ад князя маёнткі з правам абавязковай службы. Так, падчас паходаў у Лівонію ў 1564 годзе слуцкі князь узначаліў сваё войска, якое складалася з 1 200 гусараў і казакоў, 900 жаўнераў-пехацінцаў і 100 стральцоў. Падчас попісу (перапісу) войска Вялікага княства Літоўскага вясной 1567 года ў Маладзечне князь Юрый Юр'евіч Алелькавіч выставіў атрады ў 478 коннікаў і 300 пехацінцаў. Потым з гэтым войскам удзельнічаў у ваенных дзеяннях.

Юрый Алелькавіч належаў да той групоўкі магнатаў, якая была схільна да заключэння больш цеснай дзяржаўнай уніі з Польшчай з-за вялікай небяспекі для Беларуска-Літоўскай дзяр-

жавы з боку Маскоўскага царства падчас Лівонскай вайны. Гэтая групоўка падтрымлівала большую частку беларускай шляхты, якая была прыхільніцай уніі.

Аднак Юрый Алелькавіч актыўна за унію не выступаў і ў Люблінскім сойме 1569 года з-за хваробы не ўдзельнічаў. Калі ж да яго прыехалі каралеўскія камісары прыняць у яго прысягу на вернасць каралю Жыгімонту Аўгусту (ужо не як вялікаму князю) і нядаўна створанай федэратыўнай дзяржаве Рэчы Паспалітай, то Юрый Алелькавіч адмовіўся прынесці прысягу. Тлумачыў сваю адмову тым, што ён быў у агульным спісе шляхты Вялікага княства Літоўскага, а не ў спісе тых, хто прысягае ў каронннай радзе. Паводле ўмоў Люблінскай уніі ў склад сената — вышэйшай палаты сойму — Рэчы Паспалітай увайшоў не ўвесь склад паноў-рады Беларуска-Літоўскай дзяржавы, а толькі вызначаныя (дарэчы, як і Польшчы) сенатары згодна з іх вышэйшымі пасадамі. Выключнае права ўдзельнічаць у сенаце слуцкага князя як бліжэйшага сваяка дынастыі Ягелонаў скончылася з прыняццем Люблінскай уніі, бо каралеўская карона ў новай федэратыўнай дзяржаве была не спадчыннай, як у Вялікім княстве Літоўскім (хаця вялікага князя фармальна выбіралі з бліжэйшых прадстаўнікоў вялікакняжацкай сям'і), а выбарнай пажыццёва для караля. Аднак прэтэнзіі Юрыя Алелькавіча на месца ў сенаце былі адхілены.

Юрый Алелькавіч з гэтым пагадзіцца не мог. Цяпер ён хутчэй за ўсё шкадаваў, што пагадзіўся падтрымаць заключэнне уніі. Палітычнае значэнне слуцкага князя пасля Люблінскай уніі прыкметна падае. Юрый Алелькавіч з 1572 года намагаўся дабіцца месца ў сенаце Рэчы Паспалітай. Ад яго імя на сойме ў Варшаве выступаў кіеўскі ваявода Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі, але і ў гэты раз слуцкаму князю было адмоўлена. Радзівілы і Хадкевічы, якія ставіліся непрыхільна да Юрыя Алелькавіча, выкарысталі гэтыя абставіны, каб адсунуць яго ад удзелу ў палітычным жыцці Вялікага княства Літоўскага. У сваю чаргу Юрый Алелькавіч абвінаваціў у дзяржаўнай здрадзе і спробе ліквідаваць унію Польшчы і Літвы Радзівілаў і Хадкевічаў, якія ад імя рады Вялікага княства Літоўскага ў 1572 годзе (пасля смерці караля Жыгімонта Аўгуста) склалі грамату аб прапанове абрання на трон другога сына цара Івана Жахлівага — царэвіча Фёдара. У 1573 годзе Юрый Алелькавіч выслаў ліст на канвакацыйны (перадвыбарчы) сойм да сената, у якім абвінаваціў у здрадзе уніі некаторых сенатараў з Вялікага княства Літоўскага, дадаўшы іх ліст да цара аб абранні Фёдара на літоўскі пасад, і прасіў сенат забяспечыць абарону Слуцкага княства.

Урэшце на элекцыйны (выбарчы) сойм у Варшаве Юрый Алелькавіч з'явіўся 2 красавіка 1573 года са сваім конным войскам і зноў патрабаваў месца ў сенаце, спасылаючыся, што польскія сенатары гэтае месца яму абяцалі, супраць чаго выступілі сенатары ад Вялікага княства Літоўскага, якія публічна заявілі, што «ані князі крэслы ў сенаце не атрымоўваюць у спадчыну, ані князь слуцкі не мае якога-небудзь пісьма з абяцаннем гэтага месца, за выключэннем такога, якое выдадзена ноччу і з дапамогай подкупу». Аднак галоўным аргументам было тое, што князь Юрый Алелькавіч страціў месца ў сенаце па той прычыне, што не прысутнічаў на Люблінскім сойме, на якім «Слуцк быў запісаны да Наваградскага ваяводства». Юрый Алелькавіч спрабаваў яшчэ двойчы, 1 і 4 мая, дамагчыся жаданага месца ў сенаце. Але Мікалай Радзівіл Руды, ваявода віленскі і канцлер Вялікага княства Літоўскага, і Ян Хадкевіч, маршалак вялікі Вялікага княства Літоўскага, паставілі ў баявую гатоўнасць свае ўзброеныя атрады, і слуцкі князь мусіў адступіць. Сенатары ад Кароны (Польшчы) выступілі пасрэднікамі паміж абодвума бакамі, і Юрый Алелькавіч згадзіўся на адкладанне справы, якую павінен вырашыць будучы кароль, а сам князь заняў месца сярод дэпутатаў «пасольскай ізбы», ніжэйшай палаты сойму, разам з дэпутатамі («пасламі») ад Наваградскага ваяводства. Пры абранні караля Юрый Алелькавіч падтрымаў маршалка вялікага кароннага Яна Фірлея, які выступіў супраць абрання на трон Генрыха Валуа. Калі большасць сойму абрала Генрыха Валуа каралём, то ў ноч на 11 мая 1573 года (перад самым абвяшчэннем вынікаў выбараў) прыхільнікі Яна Фірлея і Юрый Алелькавіч са сваімі атрадамі выехалі ў ваколіцы Варшавы, у раён Грохава.

Справа пра месца ў сенаце для слуцкага князя працягвалася і ў наступныя гады. Пасля ўцёкаў караля Генрыха Валуа ў Францыю, каб заняць французскі трон пасля смерці яго старэйшага брата Карла IX, наступіла новае бескаралеўе. Трэба было абіраць ужо новага караля. Як у Польшчы, так і ў Вялікім княстве Літоўскім утварыліся групоўкі магнатаў і шляхты. У Беларуска-Літоўскай дзяржаве прааўстрыйскую групоўку ўзначаліў Ян Хадкевіч, вялікі маршалак і віленскі кашталян. Ён спрабаваў уключыць у сваю групоўку Юрыя Алелькавіча, разлічваючы, што той прывядзе з сабой на выбары 7-тысячнае войска (калі праўдзе мабілізацыю ў сваім княстве ды іншых маёнтках). Ян Хадкевіч нават хадайнічаў у сенаце аб увядзенні ў яго склад Юрыя Алелькавіча. Аднак на гэты раз яму адмовілі сенатары ад

Кароны, якія прапанавалі слуцкаму князю самому з'явіцца ў сенат і даводзіць свае правы. Аднак Юрый Алелькавіч на элекцыйны сойм ў 1575 годзе ў Варшаву не з'явіўся, хаця нейкае паразуменне ў яго з Мікалаем Радзівілам Рудым адбылося.

Каб пашырыць кола сваіх прыхільнікаў у Вялікім княстве Літоўскім, мець сродкі для працягу Лівонскай вайны, новаабраны кароль Стэфан Баторый разам з сенатарамі ў сакавіку 1577 года ўключыў Юрыя Алелькавіча персанальна ў склад сената Рэчы Паспалітай ад Вялікага княства Літоўскага. Але Юрый Алелькавіч мусіў «з цяжкай няволяй» пазычыць каралю 10 тысяч злотых. Гэтая сума была дадаткова запісана яму пажыццёва на Бабруйскае староства і з гарантыяй пажыццёвага карыстання староствам яго старэйшаму сыну Юрыю.

Юрый Юр'евіч Алелькавіч у гэты ж час займаўся гаспадарчымі і сямейнымі справамі, якія былі цесна звязаны паміж сабой. Так, ён правёў падзел маёнткаў з братам Сямёнам Юр'евічам (інакш Сямён II). Спачатку яны валодалі Слуцкім княствам разам, а ў 1557 годзе падпісалі акт падзелу, зацверджаны вялікім князем Жыгімонтам Аўгустам. Юрый атрымаў, паводле гэтага акта, Верхні замак у Слуцку з паловаю горада і 12 маёнткаў з падпарадкаванымі ім вёскамі. Сярод гэтых маёнткаў былі Цімкавічы, Пагост, Івань, Амговічы, Мецяевічы, Ярэмічы, Турэц, а таксама ля самага Слуцка Востраў і Новы Двор (якія пазней сталі яго прадмесцямі). Сямён Юр'евіч атрымаў Ніжні замак у Слуцку, 10 маёнткаў і 6 дворцаў (маленькіх панскіх двароў — цэнтраў гаспадаркі). Сярод іх Вясея, Баслаўцы, Быстрыца, Старыца, Стары Капыль, Грозаў, Бялевічы, Сарокі, Полстынь. У 1560 годзе Сямён Юр'евіч памёр без нашчадкаў, і ўсе яго валоданні перайшлі да брата. За час асобнага кіравання часткамі горада і княства існавалі асобныя ўлады. Цікава, што гэта нікога не здзіўляла, бо кожны з князёў павінен быў мець сваю ўласную адміністрацыю.

Паступова да канца XVI стагоддзя слуцкія князі былі цалкам ўраўнаваны ў правах з астатняй шляхтай у маштабе ўсёй дзяржавы і ператварыліся ва ўладальнікаў буйных маёнткаў-латыфундый. Але ў сваім княстве яны захоўвалі вялікую ўладу. Юрый Юр'евіч Алелькавіч і ў другой палове XVI стагоддзя заставаўся адным з буйнейшых магнатаў дзяржавы. У складзеным у 1574 годзе апісанні Рэчы Паспалітай пра гэта гаворыцца: «Знаходзяцца ў Літве славутыя князі і паны; першае месца сярод іх трымае князь Слуцкі, якога ў дачыненнях да багацця можна параўноўваць не з адным італьянскім або нямецкім князем».

У 1558 годзе Юрый Юр'евіч Алелькавіч як старэйшы брат выдаў сваю сястру Соф'ю замуж за Юрыя Аляксандравіча Хадкевіча, малодшага брата вядомага дзяржаўнага дзеяча і палкаводца Грыгорыя Аляксандравіча Хадкевіча. Юрый Хадкевіч меў тытул крайчага Вялікага княства Літоўскага, а ў 1566 годзе атрымаў тытул кашталяна троцкага і ўвайшоў у склад паноў-рады. Ён таксама быў старостам бельскім, ашмянскім і пуньскім. Так магнат выдаў сястру за іншага магната. Ад гэтага шлюбу нарадзіліся двое сыноў і дачка. Малодшы сын, пляменнік князя слуцкага, Геранім Юр'евіч Хадкевіч (1560—1617) потым быў вядомым дзяржаўным дзеячам, ваяводам мсціслаўскім, а пасля кашталянам віленскім. Як блізкі сваяк Алелькавічаў, ён апекаваўся ў канцы XVI стагоддзя апошняй з роду Алелькавічаў — Соф'яй Слуцкай.

Сам Юрый Юр'евіч Алелькавіч у 1558 годзе ажаніўся з Кацярынай Тэнчынскай (1544—1592), каталічкай, дачкой польскага магната графа Станіслава Тэнчынскага, ваяводы кракаўскага (першага сярод ваяводаў у Польшчы). А маці яе, Ганна, была з беларускага праваслаўнага роду Богушаў. Кацярыну Тэнчынскую ў 14-гадовым узросце выдалі замуж. Юрыю Юр'евічу Алелькавічу было 27 гадоў. Шлюб адбыўся нягледзячы на тое, што жаніх быў праваслаўны, а нявеста каталічкай. Змешаныя шлюбы часта здараліся сярод магнатаў. У наступным годзе Кацярына нарадзіла першага сына Юрыя, або Юрыя III (1559—1586), потым яшчэ двух: Сымона (1560—1592), з 1580 года Яна-Сымона, і Аляксандра (1563—1591), з якімі і скончыўся род Алелькавічаў у мужчынскім пакаленні. Толькі ў старэйшага, Юрыя Юр'евіча, засталася маленькая дачка Соф'я, вядомая цяпер як святая ў Беларускай праваслаўнай царкве. Пасля яна была аддадзена замуж за князя Януша Радзівіла, аднаго з кіраўнікоў кальвіністаў (рэфарматаў) у Вялікім княстве Літоўскім.

Пасля смерці мужа ў 1578 годзе Кацярына, княгіня слуцкая, некалькі гадоў знаходзілася ў Слуцку і выхоўвала дзяцей. У 1581 годзе ва ўзросце 37 гадоў (што для таго часу быў ужо немалады ўзрост) багатая ўдава выйшла замуж за таксама багатага ўдаўца, маладзейшага за яе на тры гады, гетмана польнага (палявога) Вялікага княства Літоўскага, кашталяна троцкага і падканцлера, князя «на Біржах і Дубінках» Крыштофа Мікалая Радзівіла (1547—1603), які жаніўся ўжо трэці раз. Выйшла яна замуж наперакор сваім сынам, якія не згаджаліся на яе шлюб з-за матэрыяльных матываў. Неўзабаве Радзівіл стаў віленскім ваяводам і гетманам вялікім. Да шлюбу з Кацярынай ён па вера-

вызнанню быў кальвіністам (рэфарматам), але з-за намоў жонкі перайшоў у каталіцтва. Княгіня Кацярына стала маці яшчэ двух дзяцей: Крыштофа (1585—1640) і Гальшкі (1583—1611), якая выйшла замуж за канцлера Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегу. Такім чынам, апошнія слуцкія князі Алелькавічы сталі блізкімі сваякамі Радзівілаў біржанскай лініі і Сапегаў.

Сын княгіні Кацярыны ад другога шлюбу Крыштоф Радзівіл стаў таксама вялікім гетманам. Памерла княгіня Кацярына (цяпер ужо Радзівіл) 19 сакавіка 1592 года ў Вільні ва ўзросце 48 гадоў, праз 10 дзён пасля смерці свайго апошняга сына ад першага шлюбу Яна Сымона Алелькавіча (двое памерлі раней), з якім скончыўся род Алелькавічаў у мужчынскіх пакаленнях.

Ад 1580 года ў Нацыянальным музеі ў Варшаве захаваўся партрэт слуцкай княгіні Кацярыны, вытрыманы ў цёмных танах. Апісанне гэтага партрэта і яго выявы былі прыведзены ў адмысловых артыкулах (гл.: Партрэт Кацярыны Слуцкай// ЛіМ. 1972. № 24; Гісторыя невядомага партрэта // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1976. № 3.)

Да канца свайго жыцця князь слуцкі Юрый Юр'евіч Алелькавіч павялічыў свае багатыя ўладанні. Акрамя Слуцкага княства, ён меў атрыманыя ад жонкі ў пасаг маёнткі ў Падляшскім ваяводстве, якое да Люблінскай уніі 1569 года ўваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага, а падчас Люблінскага сойму ўвайшло ў склад Польшчы. Гэта былі гарады Сямятычы і 7 вёсак, Орля і 13 вёсак. У Люблінскім ваяводстве яму належалі Батож і Краснік. На Падляшшы Юрый Алелькавіч меў і свае ўласныя маёнткі — мястэчка Ванева, 6 фальваркаў і 18 вёсак, а на поўначы Гродзенскага павета маёнткі Вяйсеі і Голны. У 1568 годзе Юрый Алелькавіч надаў у Слуцкім княстве гарадскія правы сёлам Ленін і Пясочнае, якія атрымалі статус мястэчак з вызваленнем іх жыхароў ад розных сялянскіх павіннасцей. У 1572 годзе ён надаў статус мястэчка сялу Тонава ў Мінскім павеце.

Згодна з традыцыямі ўдзельнага князя і багатага землеўладальніка Юрый Алелькавіч быў патронам (пратэктарам) і апекуном праваслаўнай царквы ў сваім княстве і маёнтках. Род Алелькавічаў быў ад часоў Альгерда праваслаўным. Амаль усё насельніцтва Слуцкага княства (за выключэннем некаторых шляхціцаў ці прыезджых людзей) было праваслаўным. Слуцкае княства на працягу стагоддзяў і ў далейшым заставалася моцнай апорай праваслаўя. Зразумела, што за некалькі стагоддзяў язычніцтва даўно адышло ў нябыт, хаця некаторыя рэшткі

яго ў народных звычаях захаваліся. Адным з моцных цэнтраў праваслаўя быў Свята-Троіцкі (Трайчанскі) манастыр, які з XV стагоддзя знаходзіўся ў прадмесці Слуцка Трайчанах.

Князь надаваў Троіцкаму манастыру землі з сялянамі. Нават у Слуцку існавалі кварталы («юрысдыкі»), якія належалі Троіцкаму і іншым манастырам і цэрквам, а жыхары гэтых юрысдык плацілі чынш і выконвалі павіннасці манастыру або царкве. Так, у інвентары 1566 года Слуцка і Слуцкага княства адзначаны «людзі манастыра св. Троіцы, якія ў горадзе Слуцку пражываюць», сяляне гэтага ж манастыра ў сёлах Пацковічы, Рэдкавічы, Шыпіловічы, Ямінск, Велічкавічы — усяго 52, 5 службы (157 двароў), сяляне слуцкага праваслаўнага Ільінскага манастыра ў сяле Цярушкі — 6 службаў (18 двароў), у «папа Васкрасенскай царквы ў Слуцку» — сяляне ў сёлах Мялешкавічы і Пасека — 9 службаў (27 двароў), у "папа Мікольскай царквы" — 1 служба, у "папа Спаскай царквы" — 2,5 службы, у "папа Варварынскай царквы" — 3,5 службы, у "папа Пагоскага" — 0,5 службы і г.д. "Людзі Морачскага манастыра" складалі 3 службы.

Слуцкі князь быў з даўніх часоў і патронам каталіцкага касцёла ў Слуцку (тады адзінага ў княстве). Таму Слуцкай плебаніі з даўніх наданняў у Слуцкім княстве ў сёлах Пасека, Асавец, Пласток і Цябусы было разам 17,5 сялянскіх служб (52 двары). Больш каталіцкай царкве тады нічога не належала.

Юрый Алелькавіч быў мецэнатам, які стварыў пры сваім двары ў Слуцку асяродак тагачаснай беларускай культуры. Пры яго двары існавала багатая бібліятэка з кніг і рукапісаў, якой карысталіся тагачасныя аўтары пры напісанні сваіх твораў. Так, у 1576 —1578 гадах пры двары Юрыя Алелькавіча гасціў польскі гісторык і паэт Мацей Стрыйкоўскі. На аснове кніг, рукапісаў і летапісаў (якія да нас не дайшлі) ён пісаў сваю знакамітую "Хроніку польскую, літоўскую, жамойцкую і ўсяе Русі", якая выйшла з друку ў 1582 годзе і стала першай друкаванай гісторыяй Вялікага княства Літоўскага.

Сярод старажытных дакументаў, што захоўваліся ў бібліятэцы Юрыя Алелькавіча, быў і Слуцкі летапіс, інакш Увараўскі летапіс (які ў XX стагоддзі змешчаны ў 17 і 35 тамах «Поўнага збору рускіх летапісаў»). Знаходзіўся тут і Слуцкі летапіс пачатку XVI стагоддзя пра адбудову горада Слуцка княгіняй Анастасіяй (удавой Сямёна Алелькавіча) пасля знішчэння яго крымскімі татарамі, ад якога засталося некалькі радкоў у дакуменце Радзівілаўскага архіва ў Архіве старажытных актаў у

Варшаве. Глыбока рэлігійная і патрыятычна выхаваная княгіня Анастасія пабудавала ў 1509 годзе у «высокім горадзе» (замку, які захаваўся пасля ўзяцця Слуцка крымскімі татарамі) саборную царкву Прасвятой Багародзіцы.

У Трайчанскім манастыры існаваў скрыпторый (перапісная майстэрня), дзе манахі перапісвалі кнігі духоўнага зместу і ў другой палове XVI стагоддзя. Асобна трэба адзначыць з рукапісных кніг «Слуцкі памяннік» (памінальнік) у некалькіх экземплярах, які быў распачаты ў 1517 годзе і працягваў запаўняцца аж да XVIII стагоддзя. На першых старонках былі запісаны для памінання ў царкве ўсе князі, княгіні, малыя княжычы і князёўны. На іншых — імёны з сем'яў баяр (шляхты) і найбольш радавітых мяшчан Слуцка. Рукапісныя кнігі захоўваліся ў пераплеценым выглядзе. Пісаліся яны на царкоўнаславянскай мове з вялікай прымессю беларускіх слоў, а «Памяннік» — на беларускай мове.

Як асяродак беларускай праваслаўнай культуры двор вялікага князя Юрыя Алелькавіча быў вядомы ў бліжэйшых да Беларусі краінах ужо ў 50—60-х гадах XVI стагоддзя. У другой палове 50-х гадоў у Слуцку пры двары князя пасяліўся вядомы маскоўскі царкоўны дзеяч і публіцыст Арцемій, прадстаўнік рэлігійнага вальнадумства і прыхільнік несцяжацельскай плыні ў Рускай праваслаўнай царкве, які ў 1555 годзе быў вымушаны ўцячы з Маскоўскай дзяржавы з-за сваёй крытыкі кіраўніцтва праваслаўнай царквы. Ён выступаў у Расіі супраць прыхільнікаў манастырскага землеўладання, бо назапашванне царкоўных багаццяў і зямельных уладанняў, з пункту гледжання несцяжацеляў, падрывала маральны аўтарытэт царквы. Несцяжацелі патрабавалі рэфармаваць царкву. У той жа час у дагматычных, асноўных пытаннях веравучэння, Арцемій не адыходзіў ад пазіцый афіцыйнай царквы. Таму як аўтарытэтны рэлігійны дзеяч ён быў прыняты Юрыем Алелькавічам.

У Слуцку старац Арцемій займаўся літаратурнай дзейнасцю і арганізаваў гурток вучоных багасловаў са сваіх вучняў і прыхільнікаў. Тут ён напісаў 9 пасланняў, у якіх выступаў супраць догматаў каталіцызму і супраць рэфармацыйнага руху. Выступаў Арцемій і супраць беларускага гуманіста і асветніка, дзеяча Рэфармацыі Сымона Буднага. Погляды ж яго на праваслаўную царкву засталіся вальнадумнымі. Арцемій таксама кіраваў школай пры двары князя.

Пасля смерці Арцемія ў 1570 годзе яго замяніў Марк Сарыгозін, вучань Арцемія, таксама ўцякач з Масквы ад рэпрэсій

Івана Жахлівага. Ён кіраваў школай пры двары, у якой вучыліся дзеці шляхты і духавенства. У школе вывучаліся багаслоўе, царкоўнаславянская, лацінская і старажытнагрэчаская мовы, магчыма, і іншыя прадметы.

Падчас панавання князя Юрыя Юр'евіча Алелькавіча са Слуцка ў Еўропу выязджалі юнакі для атрымання адукацыі. Так, у Каралявецкім (Кёнігсбергскім) універсітэце вучыліся Іван Родзіч (1552), Канстанцін Запольскі (1573), Якаў Слуцкі (1579).

Культурны асяродак у Слуцку меў сувязі з іншымі праваслаўнымі асяродкамі ў Літве, Беларусі і Украіне, перш за ўсё ў Кіеве.

Пражыў Юрый Юр'евіч Алелькавіч 47 гадоў. Незадоўга да смерці, 16 кастрычніка 1578 года, «у поўным розуме і добрай памяці» ён склаў тэстамент, у якім распарадзіўся сваімі маёнткамі і маёмасцю і даў наказ сынам і жонцы. Паколькі тры сыны былі непаўналетнімі, кіраванне маёнткамі і маёмасцю да іх паўналецця даручалася княгіні Кацярыне. Муж па тэстаменту пакінуў ёй 60 тысяч злотых і ў пажыццёвае ўладанне маёнткі Турэц (Наваградскі павет), Старое Сяло, Тонвы і Скірмантава (Мінскі павет), а таксама маёнткі ў Бельскім павеце на Падляшшы. Жыхары гэтых маёнткаў — ваенна-служылая шляхта, панцырныя баяры, путныя слугі і сяляне, чыншавыя і прыгонныя – павінны былі ёй служыць як самому князю.

Паводле тэстаменту ад 16 кастрычніка 1578 года Слуцк, Слуцкае княства і іншыя маёнткі падзяліліся на тры часткі, для кожнага з братоў. Аднак дакладны падзел княства і маёнткаў не згадваўся. Былі вызначаны толькі галоўныя месцы як цэнтры кожнай з княжацкай вотчын. Старэйшаму сыну Юрыю (1559 —1586) перадаваўся Слуцкі замак са Старым горадам (правабярэжная ад Случы, старажытная частка горада) і маёнтак Івань, сярэдняму сыну Сымону (1560 — 1592) — Новы горад з Зарэччам (левабярэжная частка тагачаснага Слуцка) і маёнтак Новы Двор над ракою Случчу, а трэцяму сыну Аляксандру (1563 —1591) — Новы Востраў (на поўнач ад замка) і Наваastraўскі двор. Кожны з іх павінен быў кіраваць сваёй часткай асобна, а мыты вялікае (галоўнае), гарэлачнае і лясное яны павінны былі збіраць разам, а потым ужо дзяліцца даходамі. Агульна яны павінны былі апекавацца Троіцкім манастыром, а таксама ставіць у манастыры архімандрыта з людзей вучоных. Юрый Алелькавіч заклікаў сыноў цвёрда трымацца праваслаўнага веравызнання.

Ён таксама завяшчаў жонцы накіраваць усіх сыноў у іншыя краіны на 2 — 3 гады, каб яны вучыліся «рыцарскай навуцы» і

атрымалі адукацыю пад наглядам «добрага, годнага, шляхетнага, пачцівага і бывалага чалавека». Княгіня Кацярына накіравала на вучобу двух малодшых сыноў. Канчатковы падзел маёнткаў прадугледжваўся пасля дасягнення сынамі князя паўналецця. Ён быў праведзены братамі 6 ліпеня 1582 года. Агульную апеку над жонкай і сынамі князь даручыў сваім сябрам: кіеўскаму ваяводу князю Канстанціну Канстанцінавічу Астрожскаму (сыну славутага гетмана найвышэйшага, свайму стрыечнаму брату), валынскаму ваяводу князю Андрэю Іванавічу Вішнявецкаму і крайчаму Вялікага княства Літоўскага Яну Станіслававічу Кішку, зяцю князя К. К. Астрожскага.

Памёр Юрый Юр'евіч Алелькавіч 9 лістапада 1578 года ў Слуцку. Пахаваны ў Кіева-Пячэрскім манастыры 12 красавіка 1579 года. Ён быў апошнім з князёў, які яшчэ змагаўся за захаванне ўдзельнага княства ў Беларусі і за свае правы засядаць у сенаце Рэчы Паспалітай, як раней засядаў у «пярэдняй лавіцы» паноў-рады Вялікага княства Літоўскага як бліжэйшы родзіч Ягелонаў і нашчадак прэтэндэнтаў на вялікакняжацкі пасад.

*Літаратура*

*Грыцкевіч А.* Гісторыя невядомага патрэта // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1976. № 3.

*Грицкевич А. П.* Древний город на Случи. Мн., 1985.

*Грицкевич А.* Слуцк: историко-экономический очерк. 2 изд. Мн., 1970.

*Kowalska H.*, Wiśniewski J. Olelkowicz Jerzy // Polski Słownik Biograficzny. T. XXIII. Wrocław—Warszawa—Kraków, 1978.

*Niesiecki K.* Herbarz Polski. T. 7. W Lipsku, 1841.

*Stryjkowski M.* Kronika polska, litewska, żmudzka i wszystkiej Rusi. Tom II. Warszawa, 1846.

*Анатоль Грыцкевіч*

# Францішак СКАРЫНА
(каля 1490–
каля 1551)



ранцішак Скарына (каля 1490, Полацк – каля 1551, верагодна – Прага) – беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, перакладчык, асветнік-гуманіст, пісьменнік, філосаф, найбольш выдатны культурны і грамадскі дзеяч у эпоху айчыннага Адраджэння.

Многія тыповыя рысы тытанаў еўрапейскага Адраджэння ўвасобіліся ў дзейнасці Ф. Скарыны, але ў яго біяграфіі шмат прагалаў з-за недахопу верагодных крыніц. У гістарычнай літаратуры і летапісах галоўная ўвага ўдзялялася палітычным і царкоўным падзеям, гісторыі вялікіх князёў, дынастаў, іншай тагачаснай знаці. Да нас практычна не дайшло ніводнага асобнага дакумента, поўнасцю прысвечанага выдавецкай, літаратурна-пісьменніцкай ці іншым сферам разнастайнай дзейнасці Скарыны (прагледжваюцца толькі асобныя фрагменты яго жыццёвага шляху).

### Старажытнае і славутае месца – Полацк

Дзяцінства Скарыны прайшло ў Полацку. Успаміны пра сваю малую радзіму ён пранёс праз усё жыццё, з нязвыклай упартасцю адзначаючы ў прадмовах да кніжак сваё полацкае паходжанне: «Выложены доктором Франциском Скорининым сыном из славного града Полоцка на руский язык ... людем посполитым к научению». Жыццё Скарыны ў Полацку і мясцовыя сувязі з полацкім, а пазней і віленскім «паспольствам» аказалі

рашаючы ўплыў на выбар яго творчага шляху, абумовілі многія характэрныя рысы кнігавыдавецкай дзейнасці.

Полацк невыпадкова стаў радзімай некалькіх найбольш выдатных дзеячаў айчыннай, славянскай і еўрапейскай культуры: у XII стагоддзі тут працякала падзвіжніцкая, царкоўная, кнігапісная і асветніцкая дзейнасць Ефрасінні Полацкай, пазней – Скарыны, а ў другой палове XVII стагоддзя Сімяона Полацкага і яго паплечнікаў у Беларусі і Маскве. Полацкая зямля была найбольш буйным і старажытным палітычным фарміраваннем на Беларусі, з 30-х гадоў XIII стагоддзя фактычна самастойнай дзяржавай. Разам з рускімі і літоўскімі воінамі палачане храбра змагаліся са шведамі ў 1240 годзе, з ардынцамі на Ворскле ў 1399 годзе, значна прыкладаліся да славутай перамогі над нямецкімі крыжакамі пад Грунвальдам у 1410 годзе.

Вярхоўнай уладай у Полацку да канца XIV стагоддзя быў князь, якога запрашалі ў горад па абраду «насталавання». Важную ролю ў палітычным жыцці Полацка адыгрывала веча. Яно абмяжоўвала дзейнасць князёў і вырашала істотныя гарадскія справы. На думку даследчыкаў, Полацк знаходзіўся на шляху фарміравання вечавой рэспублікі накшталт Вялікага Ноўгарада, і ў беларускіх летапісах ёсць звесткі, што палачане вельмі цікавіліся своеасаблівым дзяржаўным ладам паўночнай краіны. З 1392 года Полацкам кіравалі намеснік вялікага літоўскага князя, з 1504 года – полацкія ваяводы. Палітычнае і сацыяльна-эканамічнае значэнне Полацка было прызнана і пацверджана гападарскімі прывілеямі XIV – XVI стагоддзяў, якія санкцыяніравалі яго аўтаномныя правы, зямельную уласнасць феадалаў, царкоўны імунітэт.

Развіццё Полацкай зямлі аказала прыкметны ўплыў на працэсы фарміравання тэрытарыяльна-адміністрацыйнай структуры ВКЛ, станаўленне і кансалідацыю цэласнага ўласна беларускага этнасу. Выгаднае геаграфічнае становішча, складаны рэльеф, моцны замак і іншыя абарончыя збудаванні пераўтваралі Полацк у першакласную крэпасць, што загароджвала шляхі да Вільні і Лівоніі. Некалькі драўляных мастоў звязвалі 6 пасадаў, дзе пражываў «люд посполитый». Па агульнай колькасці двароў і мяшчан Полацк у канцы XV — пачатку XVI стагоддзя з'яўляўся самым буйным горадам на Беларусі і другім (пасля Вільні) ва усім Вялікім княстве.

Полацк здаўна быў важным цэнтрам духоўнай і матэрыяльнай культуры Беларусі, адмысловага рамяства, пісьменства, летапісання, культавай і свецкай архітэктуры, прыкладнога

мастацтва, іканапісу. У XI — XII стагоддзях тут былі збудаваны найбольш выдатныя архітэктурныя помнікі: Сафійскі сабор – рэзідэнцыя полацкіх епіскапаў, Спаса-Ефрасіннеўская царква, комплекс унікальных будынкаў у прыгарадных Бельчыцах і інш. Царкоўна-культавае і свецкае будаўніцтва працягвалася і пазней. У часы Скарыны ў Полацку і яго ваколіцах налічвалася каля 25 праваслаўных храмаў і манастыроў.

З часоў хрышчэння Русі ў Полацку развівалася кнігапісанне. Захавалася нямала пергаментных рукапісаў, што былі створаны і ўпрыгожаны ў шматлікіх полацкіх скрыпторыях. У полацкія евангеллі ўпісваліся актавыя дакументы, уклады, «фундацыі». Не дзіва, што ў часы Скарыны ўсе полацкія храмы і манастыры мелі кніжныя зборы, нават рыжская царква св. Мікалая, якую апякалі полацкія епіскапы. Найбуйнейшая бібліятэка Беларусі ў XV — XVI стагоддзях знаходзілася ў Сафійскім саборы. У ёй захоўваліся старажытныя творы славянскай і еўрапейскай пісьменнасці, у тым ліку летапісы. Польскі гісторык Р. Гендэйштэйн, які ўдзельнічаў у паходах Баторыя на Полацк у 1579 годзе, сцвярджаў, што кніжныя зборы Сафіі каштуюць больш, чым усе астатнія здабыткі войск Рэчы Паспалітай.

Полацк знаходзіўся ў цэнтральным Падзвінні, дзе ў старажытнасці праходзіў шлях з варагаў у грэкі. У XIV – пачатку XVI стагоддзя выразна пашырыліся гандлёвыя сувязі полацкага мяшчанства з Вялікім княствам Маскоўскім, Рыгай, Польшчай, нямецкімі землямі. Наплыў замежных купцоў быў настолькі значным, што ў першай чвэрці XVI стагоддзя полацкі магістрат вырашыў збудаваць дадаткова 4 «гасціныя» дамы. Уздым рамеснай вытворчасці, рост рэгіянальнага, транзітнага і замежнага гандлю садзейнічалі пераўтварэнню пэўных слаёў полацкага «паспольства» ў прыкметную грамадскую групу. Полацкае мяшчанства вяло ўпартую барацьбу з феадаламі, якія імкнуліся пашырыць свае ўладанні ў горадзе (юрыдыкі). У гады дзяцінства Скарыны ў 1498 годзе Полацк атрымаў Магдэбургскае права. Полацкія купцы дамагліся права на ільготны гандаль па ўсіх землях ВКЛ. Прывілей рэгламентаваў таксама парадак выбараў вышэйшага органа гарадскога самакіравання – роўнае прадстаўніцтва праваслаўных і католікаў. Сацыяльна-эканамічнае развіццё Полацка, актывізацыя грамадска-палітычнага жыцця пашыралі агульны кругагляд полацкіх мяшчан, фарміравалі іх сацыяльныя, палітычныя і патрыятычныя ўяўленні. «А Полтеск теж есть, хвалячи б [о] га место славутное, — пісаў у 60-х гадах XV стагоддзя полацкі ваявода рыжскім уладам, — а не есть

нижшое во ч [е] сти и во всем ни Вилни, а ни Мариборка (Мальбарка), а ни Кданьска».

Даследчыкі лічаць, што прозвішча «Скарына» ўтварылася ад старажытнага слова «скора» (скура) або «скорина» (скарынка) — цвёрды вонкавы слой хлеба. У Полацку з даўнейшых часоў было распаўсюджана гарбарна-шавецкае рамяство, выраб скуры, з якой шылі абутак (боты, поршні, чаравікі). Археолагамі знойдзена вялікая колькасць фрагментаў старажытнага абутку, гарбарныя інструменты, некалькі майстэрняў. На землях ВКЛ вядомы Мікалай Скарына, які ў 1540 годзе заснаваў мястэчка Вярхняны. У Брэсце на вуліцы Вайтоўскай у 1566 годзе жыў Супрон Скарынка. Падобныя назвы сустракаюцца таксама ў тапаніміцы Беларусі: урочышча «Скорни», «Скорин» у Пінскім павеце, возера «Скорьное» — у Навагрудскім. Сёлы «Скорина», «Скоринки» знаходзяцца цяпер у Жлобінскім, Баранавіцкім і іншых раёнах.

Полацкі купец — бацька Скарыны — згадваецца ў чарнавым спісе маскоўскіх пасольскіх прэтэнзій 1492 года. Сярод пацярпелых купцоў названы лучанін Дароня Іваноў, тавары якога «паграбілі» ў Полацку «купцы полотцкіе Лукіан Скорина да Прокофьев...». Прозвішча бацькі Францыска Скарыны яшчэ згадваецца ў актах Кракаўскага і Падуанскага універсітэтаў, апошні раз ужо як «нябожчыка». Старэйшым сынам Лукі Скарыны быў Іван. У той час, калі Францыск толькі пачынаў сваю кнігавыдавецкую дзейнасць у Празе, Іван гандляваў з украінскімі купцамі. Тагачасны каралеўскі дэкрэт называе Івана Скарыну мешчанінам віленскім і «палачанінам», відавочна, гэта сям'я ўжо ў той час уваходзіла ў склад найбольш шматлікай і заможнай у ВКЛ сталічнай абшчыны. У канцы 20-х гадоў Іван Скарына меў дзве дарослыя дачкі і паўнапраўнага сына Рамана. Памёр Іван Скарына амаль на два дзесяцігоддзі раней Францыска.

Шмат намаганняў прыклалі даследчыкі, каб высветліць найбольш верагодную дату нараджэння Францыска. У класічнай манаграфіі П. У. Уладзімірава (СПб., 1888) дата нараджэння Скарыны прыстасавана да 1490 г. або да «апошняй чвэрці XV стагоддзя». У працах большасці сучасных даследчыкаў дата нараджэння звычайна адносіцца да 1490 г., або, з агаворкамі, «каля 1490 года», «раней 1490 года», «1485 — 1490 гады». У 1925 годзе супрацоўнік Інстытута беларускай культуры М. Шчакаціхін высунуў арыгінальную версію, згодна з якой час нараджэння Скарыны супаў з сонечным зацьменнем. Яно назіралася ў Полацку

6 сакавіка 1486 года. Гэта гіпотэза здаецца не вельмі пераканаўчай. Нішто не даказвае таго, што вядомы «знак», «герб», «сігнет» Скарыны (сонца і месяц) мае якія-небудзь адносіны да яго нараджэння.

Па-рознаму ацанілі даследчыкі ўзрост Скарыны (значыць, і прыблізную дату яго нараджэння) па партрэце, надрукаваным у Пражскай біблії. На думку П. У. Уладзімірава, мастак паказаў яго ва ўзросце прыкладна 28 гадоў. Беларускі гісторык А. Ясінскі ў 1926 годзе сцвярджаў упэўнена: «На гэтым партрэце Скарына мае выгляд тоўстага, вельмі гладкага чалавека, у веку 40 — 45 год. Калі зыходзіць не з прыпушчальных дат, а грунтавацца на матэр'яльным помніку, то прыходзіцца сказаць, што Скарына нарадзіўся ў сямідзесятыя гады XV сталецця і ў 1517 годзе, калі выдавалася кніга Сіраха, меў 40 — 45 год; інакш кажучы, быў немаладым чалавекам, а сталым мужчынам з вялікай і важнай справы, як пераклад і выданне біблії».

Больш надзейную аснову для вызначэння прыблізнай даты нараджэння Скарыны дае альбом уступных запісаў (іматрыкуляцый) Кракаўскага універсітэта. Большасць шкаляроў запісвалася ва ўзросце каля 14 гадоў, хаця былі і выключэнні. У 1502 годзе былі запісаны дзеці Івана Сапегі – канцлера княгіні Алены (жонкі вялікага князя Аляксандра). Малалеткі звычайна не прыносілі прысягі, аб чым рабіўся адпаведны запіс у альбоме. Іматрыкуляцыя Скарыны не мае падобных заўваг. Можна лічыць бясспрэчным, што ён паступіў у Кракаўскі універсітэт па дасягненні 14 гадоў. Ці ў больш познім узросце? У Кракаўскую Акадэмію паступалі шкаляры і ў 20, і ў 30 гадоў. Аднак трэба адзначыць, што ў акце Падуанскага універсітэта 1512 года Скарына названы «маладым чалавекам». У дакументах 20 – 30-х гадоў XVI стагоддзя Скарыну называюць ужо сталым мужчынам. Пры існуючым стане крыніц 1490 год можна прыняць як прыблізную, верагодную дату нараджэння Скарыны. Магчымыя адхіленні ад гэтай даты у бок яе памяншэння (сярэдзіна – другая палова 80-х гадоў) не перавышаюць некалькі гадоў.

## Ступені, якія вядуць угару

Паводле меркаванняў некаторых даследчыкаў, Скарына атрымаў пачатковую адукацыю ў бернардзінскім манастыры ў Полацку. У горадзе з даўнімі культурнымі, кніжна-літаратурнымі і пісьмовымі традыцыямі, царкоўнымі і свецкімі школамі для гэтага былі рэальныя магчымасці.

Бернардзінскі манастыр у Полацку быў заснаваны ў 1498 годзе польскім паэтам, грамадскім і царкоўным дзеячам Уладзіславам з Гельнава. Заснаванне бернардзінскага манастыра ва ўсходніх землях ВКЛ было непасрэдна звязана з царкоўна-рэлігійнымі планамі вярхоўнай улады ў канцы XVI стагоддзя. Менавіта ў той час ва ўмовах пэўных цэнтрабежных тэндэнцый ва ўсходнеславянскіх землях вялікі князь літоўскі Аляксандр (разам з праваслаўным мітрапалітам) пачаў рэалізоўваць планы царкоўна-рэлігійнай уніі. Бернардзіны – адзіны каталіцкі ордэн у ВКЛ, місіянерская дзейнасць якога ва ўсходнеславянскіх землях мела некаторы поспех. Дзейнасць бернардзінаў была заўважана маскоўскімі кіруючымі коламі, якія спрабавалі выкарыстаць гэта ў палітычных мэтах. «А ныне ново силу учинил Руси,– з націскам пісаў Іван III вялікаму князю Аляксандру ў 1500 годзе, – чего наперед того при его отце и при его предках не бывало: колко велел поставляти божниц римского закона ■ руских городах, в Полотцку и в иных местех..., ино то ли он не нудит Руси к римскому закону».

Бернардзіны маглі навучыць Скарыну лацінскай мове, бо ў той час яна не вывучалася ў праваслаўных школах. Але быў і іншы шлях. Лацінская мова зрэдку выкарыстоўвалася ў адносінах з іншаземцамі. Ведалі яе некаторыя польскія і нямецкія купцы, асобныя пісцы ў ваяводскай канцылярыі. Не выключана, што ў выніку другога хрышчэння («покщают в римский закон»,— пісаў Іван III) Скарына набыў новае хроснае імя пратэктара бернардзінаў — св. Францыска. Полацкія бернардзіны мелі цесныя сувязі з віленскімі. Зразумела, што гэта магло садзейнічаць пераезду Скарыны ў сталіцу. Тут, напэўна, ён завяршыў сваю школьную адукацыю, а поспехі ў навучанні далі яму магчымасць паступіць ва універсітэт.

Верагодна, Скарына пераехаў у Вільню па запрашэнню свайго брата Івана або іншых палачан, што здаўна асталяваліся у «рускім квартале». Многія беларускія мяшчане, баяры, шляхта мелі там свае «камяніцы» або драўляныя дамы. У 1498 годзе ў віленскім касцёле бернардзінаў завяшчаў пахаваць сябе мсціслаўскі зямянін Ян Халхістовіч. Цікава, што сярод яго слуг побач з дзякам Міскам згадваецца нейкі «Скорина», які атрымаў у падарунак каня літоўскай пароды.

У Вільні ў часы Скарыны дзейнічала некалькі каталіцкіх школ, у тым ліку найбольш вядомая кафедральная. Шмат добра падрыхтаваных выпускнікоў працягвалі вучобу за мяжой.

Кракаўскі універсітэт у часы Скарыны быў важным цэнт-

рам падрыхтоўкі каталіцкага духавенства і свецкіх саноўнікаў для ВКЛ. Сталіца Польшчы знаходзілася ў стане росквіту. Паводле «Сусветнай хронікі» Г. Шэдаля, гэта быў найбуйнейшы польскі горад, узгорчаты ландшафт якога ўпрыгожвалі шматлікія замкі і касцёлы, моцныя навакольныя сцены з вежамі. Над абарончымі збудаваннямі ўзвышаўся гатычны сілуэт старажытнага каралеўскага замка – Вавеля. Некаторыя з яго залаў у XIV стагоддзі распісвалі «рускія» (беларускія) майстры з Вільні.

Эканамічнаму развіццю Кракава спрыяла яго геаграфічнае становішча на скрыжаванні важных гандлёвых шляхоў з Захаду на Усход, з Венгрыі і Чэхіі да Прыбалтыкі. Цэнтрам Кракава быў рынак, вялікая прамавугольная плошча, сярэдзіну якой займаў доўгі і вузкі будынак гандлёвых радоў – Сукеніцы. Дыпламаты і падарожнікі з цікавасцю аглядалі маляўнічы алтар Віта Ствоша ў Марыяцкім касцёле на рынку. Паблізу стаяла ратуша. У паўднёва-заходняй частцы горада, паміж Ягелонскай і Галубінай вуліцамі, размяшчаўся «лацінскі квартал» і універсітэт, які быў заснаваны ў 1364 годзе, рэарганізаваны і зноў адкрыты ў 1400 годзе. Тут ахвотна вучыліся ураджэнцы іншых краін. Асаблівыя палітычныя адносіны паміж Польшчай і ВКЛ з часоў Крэўскага пагаднення 1385 года адкрывалі доступ у Кракаўскі універсітэт «літвінам». Для ўраджэнцаў Беларусі і Літвы гэта быў найбольш блізкі і даступны з усіх універсітэтаў Еўропы. З пункту гледжання каталіцкай царквы, якая кантралявала універсітэт, ён павінен быў садзейнічаць распаўсюджанню «сапраўднага» хрысціянства ў Польшчы, ВКЛ і ў іншых суседніх краінах. З яго сцен выйшлі шматлікія дзеячы славянскай і агульнаеўрапейскай культуры: аўтар першай украінскай кнігі, надрукаванай за мяжой, доктар у лекарскіх навуках Юры Катэрмак з Драгобыча, славацкі (пльзенскі) друкар, сучаснік Скарыны Мікулаш Шчэціна, выдатны паэт польскага Адраджэння Мікалай Рэй, арганізатары рэфармацыйнага кнігадрукавання на Беларусі ў XVI стагоддзі – Кіпрыян Базілік, Сымон Будны і інш.

У перыяд рэктарства Яна Аміцына з Кракава ў зімні семестр 1504 года ў альбом універсітэта ўпісана 120 асоб, у тым ліку шкаляры з Беларусі: «Францыск, сын Лукі з Плоцка» (Полацка), уступны ўзнос 2 грошы; Георгі, сын Якава з Ваўкавыска, 2 грошы; Венцлаў са Слуцка, 4 грошы; Мікалай, сын Андрэя з Ашмян, 7 грошаў.

У Кракаве дзейнічала калегіяльная сістэма інтэрнатаў (бурс) для студэнтаў і настаўнікаў. Большасць літвінаў пражы-

вала ў старэйшай бурсе універсітэта – «Паўперум», або «ўбогіх ці незаможных», заснаванай доктарам тэалогіі Янам Існерам у 1409 годзе перш за ўсё для студэнтаў з ВКЛ. Бурсе перайшоў таксама някепскі кніжны збор Існера (захаваліся 22 рукапісы ў Ягелонскай бібліятэцы). Жыццё студэнтаў было суровым. Панавалі амаль манастырскія правілы. Строгая рэгламентацыя заняткаў, вучэбнага і вольнага часу, дробязная апека ў бурсах, агульныя сталоўкі. Стыпендыі атрымлівалі галоўным чынам кандыдаты ў духоўны стан, шмат якія студэнты падпрацоўвалі служкамі ў магістраў, прафесараў. Вядома, што ўсю моладзь (2 – 3 тысячы штогод) нельга было поўнасцю падпарадкаваць статуту. Акты рэктарскага суда паведамляюць аб розных інцыдэнтах у бурсах, бойках, выпіўках, сутычках з гараджанамі, амурных гісторыях. Адчуваліся сацыяльнае размежаванне, этнічныя і рэлігійныя забабоны. Аднак агульнае жыццё і сумесная вучоба ў цэлым садзейнічалі збліжэнню студэнтаў.

Францішак Скарына паступіў на пачатковы факультэт універсітэта – свабодных мастацтваў (арцыум) або філасофіі. Як і ва ўсіх тагачасных універсітэтах, тут вывучаўся комплекс сямі «вольных» навук. У агульнай прадмове да пражскіх выданняў Скарына пазней упамінаў гэту праграму: «трывіум» (граматыка, «или по руски говорячи грамота», логіка, рыторыка, «еже ест красомовность») і «квадрыум» (музыка, «то есть певница», арыфметыка, геаметрыя, «еже по руски сказуется землемерие», астраномія, «или звездочет». «А то суть седм наук вызволеных»).

Асновай усяго працэсу навучання было вывучэнне твораў Арыстоцеля, якія сярэдневяковая Еўропа ўспрыняла ў арабскіх перакладах. Студэнты філасофскага факультэта спачатку знаёміліся з яго творамі, прысвечанымі логіцы, дыялектыцы, вывучалі прэдыкаменты, катэгорыі, практыкаваліся ў лацінскай мове па граматыках Аляксандра «Doctrinale puerorum» (XII ст.) і Даната. З гэтай жа мэтай студэнтам рэкамендаваліся творы антычных аўтараў: Цыцэрона, Вяргілія, Платона. У пачатку XVI стагоддзя ў Кракаўскім універсітэце выразна выявіліся гуманістычныя і асветніцкія тэндэнцыі, якія падрывалі пануючыя каноны схаластыкі. Новыя павевы закранулі таксама іншыя навукі – права, астраномію, мовазнаўства. Першым педагогам класічнай грэчаскай мовы ў Кракаве стаў нейкі «галодны грэк», як характарызаваў яго адзін з сучаснікаў у лісце да Цельтыса, – былы настаўнік рымскага права ў Венскім універсітэце – Ян Сільвіус сіцыліянец. Скарына зноў сустрэўся з ім у 20-я гады ў Вільні. Пазней студэнты вывучалі іншыя творы Арыстоцеля, у якіх выкладалася цэласная сістэма філасофскіх і прыродазнаў-

чых поглядаў вучонага-энцыклапедыста: «Пра душу», «Пра неба», «Фізіка» і інш.

Кракаўскі універсітэт у часы Скарыны быў буйным цэнтрам еўрапейскай астраноміі і астралогіі. Кракаўскія астраномы ўдзельнічалі ў праектах рэформы юліянскага календара, назіралі за перамяшчэннем планет, сонечнымі і месячнымі зацьменнямі. Тут вучыўся Мікалай Капернік (1491 – 1495) – стваральнік геліяцэнтрычнай сістэмы свету. Невыпадкова ў вядомым «партрэце» Скарыны побач з іншымі атрыбутамі паказана армілярная сфера – астранамічны прыбор для разліку руху нябесных цел.

Як і іншыя студэнты філасофскага факультэта, Скарына слухаў лекцыі ў Калегіі Майюс на рагу вуліц Ягелонскай і св. Анны. Аўдыторыі на другім паверсе Калегіі насілі імёны антычных мудрацоў: Галена, Сакрата, Архімеда, Платона і інш. Многія магістры і прафесары універсітэта распаўсюджвалі ідэі Адраджэння, рацыяналізму, свецкай гуманістычнай культуры. Асабліва папулярнымі ў пачатку XVI стагоддзя былі Ян Глагаўскі, аўтар тэарэтычных трактатаў амаль па ўсіх курсах філасофскага факультэта; філолаг і матэматык Міхал з Вроцлава, выкладаў гісторыю антычнай літаратуры; магістр універсітэта Міхал з Быстрыкава, прыхільнік філасофскай дактрыны Дунса Скота; астраном і тэолаг Мартын Бем з Олкуша.

У будынку Калегіі акрамя лекторыяў, памяшканняў для пражывання прафесараў, агульнай залы размяшчаліся дзве буйныя бібліятэкі – факультэта філасофіі (libraria artistarum) і тэалогіі (libraria theologorum). У канцы XV – пачатку XVI стагоддзя універсітэт набыў буйныя зборы кніг прафесараў Пятра з Замбжэча і Яна Самерфельда з Лужыц. У сценах гэтай бібліятэкі Скарына мог пазнаёміцца з творамі антычных пісьменнікаў, класікамі італьянскага гуманізму, гусіцкімі трактатамі, новымі філасофскімі працамі Р. Бэкана, перакладамі Бібліі з каментарыямі. Прадмовы Скарыны да яго выданняў сведчаць аб тым, што ён добра ведаў і карыстаўся многімі з названых твораў.

У Кракаве Скарына непасрэдна пазнаёміўся з друкаванымі кнігамі-падручнікамі і, магчыма, з якой-небудзь мясцовай друкарняй. Прафесура універсітэта ахвотна выдавала свае кнігі ў друкарні Яна Галера. З 1503 да 1525 года тут было надрукавана больш за 250 выданняў. Многія з іх былі ўпрыгожаны гербамі Польшчы і ВКЛ і распаўсюджваліся на гэтых землях. Дарэчы, у друкарні Галера ў час Скарыны была надрукавана адна з пер-

шых публікацый, прысвечаная адкрыццю Амерыкі. Аўтарам яе быў Ян Глогаўскі. Гэта кніга, напэўна, магла зацікавіць Скарыну, улічваючы яго ахвоту да падарожжаў. У Кракаве з 1510 года працавала першая друкарня Фларыяна Унглера, якая таксама выпускала падручнікі і дапаможнікі для студэнтаў. Трэба дадаць, што шмат якія выпускнікі Кракаўскага універсітэта ў XVI стагоддзі прысвяцілі сваё жыццё кнігадрукарскай або літаратурна-выдавецкай дзейнасці, у тым ліку ў Брэсце, Лоску, Нясвіжы.

Праз два гады (мінімальны тэрмін для студэнтаў філасофскага факультэта) Скарына вытрымаў экзамен на ступень бакалаўра арціум (свабодных навук). (Бакалаўр меў права чытаць студэнтам некаторыя курсы і ў той жа час працягваў вучобу.) Разам з ім 14 снежня 1506 года ў вялікай зале Калегіі Майюс гэту ступень атрымалі Томаш з Падляшша, Павел з Марыенбурга, Андрэй з Монта-Рэгіі, Мацей з Семнійклош і іншыя студэнты універсітэта. Невядома, калі Скарына пакінуў Кракаў і дзе знаходзіўся з 1507 па восень 1512 года. Скупы запіс у пратаколе падуанскай курыі ад 9 лістапада 1512 года сведчыць аб тым, што дзесьці ў гэты перыяд ён быў сакратаром караля «Дацыі».

Невядомы этап у дзейнасці Скарыны парадзіў розныя гіпотэзы сярод даследчыкаў. Большасць скарыназнаўцаў лічыць, што Скарына выконваў абавязкі каралеўскага сакратара ў Даніі. Кароль Даніі («Rex Datiae») упамінаецца ў Хроніцы Віганда Марбургскага (XV ст.), дзяржаўная пячаць дацкага караля мела надпіс: «Sigillum maiestatis Johannis Dei gratia Daciae, Sveciae, Norvegiae, Slavorum, Gotorumque regis». Варта падкрэсліць, што і дацкія студэнты ў часы Скарыны ўпісваліся ў замежныя універсітэты як ураджэнцы «Дацыі». Таму памылковымі трэба лічыць сцверджанні некаторых даследчыкаў, быццам у эпоху Адраджэння (пад уплывам старажытных картаграфічных традыцый) «Дацыяй» называлі толькі румынскія землі.

Зусім верагодна, што Скарына мог асталявацца ў Капенгагене ў канцы першага або ў самым пачатку другога дзесяцігоддзя XVI стагоддзя. У гэты час ён недзе атрымаў новую ступень «доктара» філасофіі (верагодна, магістра, што ў тыя часы нярэдка было раўназначна ступені доктара арціум). Ёсць меркаванні, што Скарына скончыў універсітэт у Празе, але больш лагічна дапусціць, што ён вытрымаў новыя экзамены ў тым жа Кракаве. Магістэрская ступень была звычайнай для бакалаўраў філасофскага факультэта, якія працягвалі вучыцца.

Не выключана, што пераезд Скарыны ў Капенгаген нейкім

чынам быў звязаны з ажыўленнем дыпламатычных зносін паміж Польшчай і Дацкім каралеўствам. Скарына мог выконваць сакратарскія абавязкі ў пасольстве польскага караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта I, якое ў 1509 годзе накіроўвалася ў Капенгаген для заключэння дагавору аб сяброўскіх узаемаадносінах. Данія была зацікаўлена ў заключэнні саюза з Польшчай, бо ў той час рэзка ўскладніліся яе адносіны са Швецыяй. Пасля ад'езду польскага пасольства Скарына меў магчымасць застацца ў канцылярыі дацкага караля Іаана I. Веданне лацінскай мовы дазваляла яму свабодна выконваць сакратарскія абавязкі ў любой еўрапейскай краіне, мець зносіны з дзяржаўнымі і палітычнымі дзеячамі, вучонымі, педагогамі, студэнтамі. Сакратарская практыка Скарыны, верагодна, адыграла немалую ролю ў атрыманні ім месца ў канцылярыі віленскага біскупа ў 20-я гады XVI стагоддзя. Дацкі кароль, магчыма, улічваў, што Скарына бліскуча валодаў «рускай» (беларускай) дзяржаўнай мовай ВКЛ – магутнага саюзніка Польшчы.

Менш абгрунтаванай здаецца іншая версія: быццам Дацыя — гэта «валашскія» (румынска-малдаўскія) землі, дзе ў той час зараджалася кірылічнае кнігадрукаванне. Тэарэтычна Скарына мог удзельнічаць у арганізацыі друкарні Макарыя (працавала ў 1508 — 1512), адначасова выконваючы сакратарскія абавязкі ў канцылярыі валашскага ваяводы Радула. Тым не менш два важкія аргументы прымушаюць усумніцца ў гэтай версіі. Па-першае, нам не вядомы дакументы пачатку XVI стагоддзя, у якіх валашскія ваяводы мелі б тытул «караля Дацыі». Па-другое, выданні Макарыя практычна ва ўсіх сваіх элементах выразна адрозніваюцца ад друкаваных пражскіх і віленскіх кніг Скарыны. Магчыма, далейшыя архіўныя пошукі канчаткова дазволяць вырашыць гэту загадкавую справу.

Не пазней восені 1512 года Скарына прыбыў у сонечную Італію. Радзіма еўрапейскага Рэнесансу ў той час перажывала глыбокі палітычны і сацыяльна-эканамічны крызіс. З канца XV да сярэдзіны XVI стагоддзя Іспанія і Францыя амаль бесперапынна ваявалі паміж сабой за панаванне ў Італіі. Раздробленасць, умяшанне буйных еўрапейскіх дзяржаў, міжусобіцы дробных італьянскіх манархій — усё гэта вельмі ўскладняла працэсы развіцця краіны. У той час, калі Іспанія захапіла амаль усю Італію, а папа Юлій II далучыў да Ватыкана старадаўні універсітэцкі горад Балонью, Венецыянская рэспубліка заставалася самай свабоднай дзяржавай Апенінскага паўвострава. У грамадска-палітычным жыцці захоўваліся традыцыі рэспублікан-

скага ладу, верацярпімасці, працвітала гандлёва-прадпрымальніцкая дзейнасць, пашыраліся міжнародныя сувязі. Невялікі горад паўночнай Італіі Падуя ўвайшоў у склад Венецыянскай рэспублікі ў 1406 годзе і хутка стаў важным цэнтрам італьянскай культуры, гуманізму і Адраджэння. У Падуі тварылі выдатныя скульптары, архітэктары, мастакі, вучоныя — Белана Барталамеа, Данатэла, Якопа і Джавані Беліні, Джота Бандоне, Андрэй Ларэнца і інш.

За межамі Венецыянскай рэспублікі Падуя была вядома перш за ўсё дзякуючы свайму універсітэту, заснаванаму ў 1222 годзе. Пад апекай венецыянскай Сеньярыі універсітэт дасягнуў сапраўднага росквіту. Тут сфарміравалася падуанская філасофская школа, прыкметнымі рысамі якой былі вальнадумства, традыцыйны арыстацелізм у яго авераісцкай інтэрпрэтацыі з моцнымі матэрыялістычнымі тэндэнцыямі і яшчэ больш радыкальным александрызмам. Прыхільнікі александрызму абгрунтоўвалі тэзіс пра натуральнае паходжанне чалавека, не прызнавалі бессмяротнасці душы. Абедзве плыні супярэчылі царкоўным догматам і былі асуджаны на саборах. У канцы XV — пачатку XVI стагоддзя ў Падуі распаўсюджваюцца новыя палітычныя і прававыя ідэі. Выдатным і ўплывовым сучаснікам Скарыны быў Ніколо Макіявелі (1469 – 1527), працы якога паклалі пачатак навуковай тэорыі абсалютызму. Шмат матэрыялаў для стварэння «ідэальных» палітычных канцэпцый, публічных дыскусій дастаўляла палітычная гісторыя самой Італіі, Свяшчэннай Рымскай імперыі, іншых дзяржаў Еўропы.

Па сваёй унутранай структуры і метадах навучання Падуанскі універсітэт амаль не адрозніваўся ад іншых. Прыкладна палову студэнтаў складалі чужаземцы. У XVI стагоддзі тут узнікла асобная карпарацыя — польская «нацыя» студэнтаў, у склад якой уваходзілі і выхадцы з зямель ВКЛ. 5 жніўня 1507 года рэктарам універсітэта быў зацверджаны «Андрэй з Польшчы». Ці не дапамог ён Скарыне абаснавацца ў Падуі? Цяжка сказаць.

Галоўным у Падуанскім універсітэце лічыўся факультэт права («легістаў»). З канца XV стагоддзя пачала узрастаць роля філасофскага факультэта, у складзе якога паступова стварылася 13 медыцынскіх кафедр. Медыцына з'яўлялася адной з вядучых прыродазнаўчых навук ў эпоху Адраджэння. Яна прыцягвала ўвагу многіх выдатных дзеячаў італьянскай і еўрапейскай рэнесанснай культуры, у тым ліку Леанарда да Вінчы. Галоўнае месца, як і раней, адводзілася вывучэнню і тлумачэнню кла-

січных прац Авіцэны, Гіпакрата, Галена. Але паступова пракладваў сабе шляхі новы кірунак у медыцыне. Прагрэсіўныя медыкі-эмпірыкі шмат увагі ўдзялялі канкрэтным анатамічным даследаванням, выкарыстанню флоры ў медыцынскіх мэтах. У Падуі ў часы Скарыны існаваў адзін з першых у Еўропе прафесійных батанічных садоў — «Джардзіна ды Медычы», пазней быў адкрыты анатамічны тэатр, дзе адбываліся публічныя секцыі трупаў. Сярод выкладчыкаў Падуанскага універсітэта найбольш вядомымі былі Барталамей Мантаньяна Малодшы (даследаваў сіфіліс), Андрэй дэ Альпага (знаўца арабскай мовы, «Канона» Авіцэны, прац Авероэса), Габрыель Зербі (герпантолаг). Практычную медыцыну ў 1479 — 1510 гадах выкладаў у Падуі Джавані дэ Аквіла з Ланціана.

Вучэбныя памяшканні універсітэта былі раскіданы па ўсім горадзе. У 1493 годзе большасць іх была засяроджана ў камяніцах старога заезджага двара «Астэрыя дэль Бо». Назва двара пазней перайшла на створаны тут буйны універсітэцкі комплекс. Парадную залу універсітэта зараз упрыгожваюць фрэскі з партрэтамі Мікалая Каперніка (мяркуюць, што ён вучыўся ў Падуі ў 1501–1503 гг.) і Францыска Скарыны ў доктарскай мантыі (праца італьянскага мастака пачатку 40-х гг. XX ст.).

Для атрымання ступені доктара ў «лекарскіх навуках» звычайна патрэбен быў пяцігадовы тэрмін навучання ва універсітэце. Між тым гісторыкі адзначаюць, што ў сувязі з ваеннымі дзеяннямі ў паўночнай Італіі Падуанскі універсітэт у 1509 – 1516 гадах быў закрыты. Узнікае пытанне: дзе Скарына атрымаў грунтоўную медыцынскую адукацыю? Напрошваюцца амаль раўназначныя гіпотэзы: 1) Скарына вучыўся ў Кракаўскім універсітэце, дзе дзейнічалі дзве кафедры медыцыны, але ў той час там не зацвярджалі доктарскіх дыпломаў; 2) Скарына вучыўся ў самой Падуі, дзе, мабыць, захоўваліся прыватныя формы навучання, ці ў Балонскім універсітэце, славутым сваім медыцынскім факультэтам. Прынамсі, у апошнім у тым жа 1512 годзе ў калегіі медыкаў і філосафаў вучыўся «Томаш з Літвы». Зямляк Скарыны збіраўся стаць «доктарам у лекарскіх навуках». Ці не быў гэты літвін Томаш спадарожнікам Францыска Скарыны ў яго вандраваннях па Італіі? Ва ўсякім выпадку вядома, што Капернік (як і некаторыя іншыя палякі і літвіны) вучыўся ў розных італьянскіх універсітэтах (Балонья, Падуя, Фэрара).

Восенню 1512 года Скарына бліскуча вытрымаў экзамены на ступень доктара медыцыны. 5 лістапада адбылося яго прад-

стаўленне калегіі слаўнейшых падуанскіх дактароў філасофіі і медыцыны, якія сабраліся ў царкве св. Урбана. Віцэ-прыёр Тадэй Мусаці сказаў ва ўступным слове, што ў Падую прыбыў нейкі вельмі вучоны малады чалавек, доктар філасофіі, які звярнуўся да калегіі з просьбай, каб яму дазволілі здаць экзамены бясплатна. Калегія дактароў азнаёмілася з чужаземцам-«русінам», які прыбыў у Венецыянскую рэспубліку з «вельмі аддаленых краін», і дапусціла яго да выпрабаванняў: 6 лістапада ў суботу ў царкве св. Урбана ў прысутнасці 14 прафесараў і дактароў калегіі Скарына паспяхова вытрымаў папярэдні іспыт і быў дапушчаны да асноўнага экзамена па медыцыне. Апошні адбыўся ў аўторак у епіскапскім палацы ў прысутнасці ўсёй калегіі, сяброў Скарыны, студэнтаў Падуанскага універсітэта, жыхароў Падуі і Вероны. Як адзначана ў пратаколах, «ён праявіў сябе настолькі слаўна і дастойна ў час гэтага строгага экзамену, калі выкладаў адказы на зададзеныя яму пытанні і калі абвяргаў прапанаваныя яму доказы, што атрымаў адзінадушнае ўхваленне ўсіх прысутных вучоных без выключэння...». Францыск Скарына з далёкага горада Полацка, сын Лукі Скарыны, атрымаў знакі медыцынскай годнасці, якія ўручыў яму славуты доктар філасофіі і медыцыны Барталамей Барызон.

На працягу пазнейшага жыцця, не выключаючы, мусіць, і пражскі перыяд, Скарына нярэдка займаўся практычнай медыцынскай дзейнасцю. У прадмовах да сваіх пражскіх і віленскіх выданняў ён заўсёды падкрэсліваў: «Избранный муж, в лекарских науках доктор».

## Выкладам, пільнасцю і працай

Пасля 1512 года ў жыцці Скарыны надыходзіць адзін з найбольш значных пераломных перыядаў, які не асветлены ніякімі дакументальнымі звесткамі, але менавіта ў 1513 – 1516 гады Скарына вырашыў пачаць кнігадрукаванне. Безумоўна, што ў гэтых намерах яго падтрымлівалі землякі з Вільні, Полацка, беларускія купцы, члены віленскага магістрата. Не выклікае сумненняў, што недзе ў другім дзесяцігоддзі Скарына наведаў ВКЛ, Вільню, Полацк, заручыўся падтрымкай суайчыннікаў.

Перад Скарынам і яго пратэктарамі ў ВКЛ у сярэдзіне другога дзесяцігоддзя XVI стагоддзя стаяла досыць складаная задача: арганізаваць кнігадрукаванне ў адной з суседніх краін, таму што ў самім княстве не было падобнага вопыту. Польшча па згаданых прычынах выпадала з ліку магчымых прэтэндэн-

таў. Развітае кнігадрукаванне з другой палавіны XV стагоддзя існавала ў Італіі, дзе выйшла большасць усіх еўрапейскіх навуковых выданняў, амаль усе антычныя творы. У час знаходжання там Скарына меў шырокія магчымасці азнаёміцца ў першую чаргу з венецыянскім кнігадрукаваннем. (У самой Падуі не было буйных друкарняў.) Венецыянскія друкары цалкам задавальнялі запатрабаванні падуанскіх чытачоў. Славутым рэфарматарам еўрапейскага кнігадрукавання быў Альд Мануцый, вучоны-гуманіст, заснавальнік «Новай акадэміі» і кнігавыдавецкай фірмы Альдаў, якая праіснавала каля ста гадоў. Дарэчы, ён быў пастаўшчыком некаторых вучэбных выданняў у Кракаўскі універсітэт менавіта ў той час, калі там вучыўся дапытлівы «русін» з Полацка. Італьянскія матывы (дэльфіны) адлюстраваліся ў арнаментальных упрыгожаннях віленскіх выданняў Скарыны.

Адлегласць і працяглыя войны, зразумела, не асабліва спрыялі арганізацыі беларускай друкарні ў паўночнай Італіі або ў якім-небудзь іншым яе рэгіёне. Такім чынам, з усіх краін, якія наведваў Скарына ў час сваіх вандраванняў па Цэнтральнай і Заходняй Еўропе, найбольш прыдатнай была Чэхія. Яна знаходзілася на высокім узроўні эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця. ВКЛ падтрымлівала з Чэшскім каралеўствам гандлёвыя сувязі. Чэшскае і мараўскае сукно ў XV — XVI стагоддзях выкарыстоўвалася для вырабу верхняй вопраткі, на Беларусі прадаваліся мараўскія чапцы, лужыцкія косы, нажы. Чэшскія грашы ў XV — XVI стагоддзях былі адной з асноўных плацёжных манет ВКЛ.

Значная частка выробленых на Беларусі скур («юфть») паступала ў Чэхію праз Познань. З познаньскімі купцамі падтрымліваў гандлёвыя сувязі Іван Скарына. Ён і віленскія купцы Онкавы, буйныя пастаўшчыкі чэшскага сукна гаспадарскаму двару ў Вільні, напэўна гандлявалі і з Чэхіяй. Адзначым, што ў другой палавіне XVI стагоддзя іншыя беларускія кнігавыдаўцы і купцы — Мамонічы — мелі ў Празе свайго гандлёвага прадстаўніка, «служэбніка» Пятра Карпавіча.

Пачатак першага пражскага перыяду жыцця і дзейнасці Скарыны дакладна невядомы. На думку Е. Добраўскага, Скарына мог знаходзіцца ў ліку асоб, якія суправаджалі вялікага князя літоўскага і польскага караля Жыгімонта I на Венскі кангрэс 1515 года, пасля чаго ён застаўся ў Празе, каб выконваць нейкія службовыя абавязкі пры маладым чэшскім каралі Людовіку. Меркаванне Е. Добраўскага не мае дакументальных пацверджанняў, але ў святле выяўленых пазней фактаў (Скарына —

сакратар «караля Дацыі», віленскага каталіцкага біскупа Яна ■ князёў літоўскіх) не пазбаўлена пэўнай логікі.

Арганізацыя кірылічнага друкавання патрабавала немалых фінансавых сродкаў, далёкіх паездак, разнастайных сувязей з рамеснікамі, друкарамі, кнігавыдаўцамі ў самой Чэхіі і за яе межамі. Нейкі час патрэбен быў для авалодання чэшскай мовай, пошукаў апублікаваных і рукапісных крыніц, перакладаў з чэшскіх тэкстаў, дапаўненняў, іншай карпатлівай падрыхтоўчай, рэдакцыйна-пісьменніцкай і літаратурнай працы. Зыходзячы з гэтых меркаванняў, можна думаць, што Скарына прыбыў у Чэхію не пазней 1516 года.

Дзейнасць Скарыны ў Празе разгортвалася ў даволі спрыяльных умовах. Прастол займаў прадстаўнік дынастыі Ягелонаў, рэлігійныя адносіны пасля ўжо заціхлых гусіцкіх радыкальных рухаў сталі больш талерантнымі. Святавацлаўскі дагавор 1517 года прызнаў права чэшскіх чашнікаў. Рэфармацыйныя тэндэнцыі спляталіся з рэнесансава-гуманістычнымі павевамі. У Празе Скарына асталяваўся у адным з чатырох яе адасобленых частак — Старым Месце. Адной з асноўных крыніц яго выданняў была чэшская Біблія (Венецыя,1506), адзіны на той час поўны друкаваны звод Бібліі ў Цэнтральнай Еўропе на славянскай мове.

Некаторыя даследчыкі лічаць, што Скарына быў уладальнікам друкарні ў Празе і, магчыма, непасрэдна займаўся кнігадрукаваннем. Гэта рызыкоўнае меркаванне. Скарына не мог ведаць, як будуць распаўсюджвацца яго выданні на Айчыне, таму, напэўна, спачатку заключыў кантракт з якім-небудзь мясцовым майстрам. Друкарскае абсталяванне каштавала нямала. Можна не сумнявацца, што беларускія купцы, якія падтрымлівалі яго дзейнасць, не сталі б аплачваць куплю друкарскай тэхнікі далёка ад ВКЛ, ды яшчэ без практычнай апрабацыі.

Аб тым, што Скарына кіраваў усімі кнігавыдавецкімі справамі, але непасрэдна не працаваў пры друкарскім варштаце, пераканаўча сведчаць прадмовы і пасляслоўі (калафоны) да яго выданняў. Яўнае ўказанне на агульнае кіраўніцтва друкарскай дзейнасцю выяўляецца ў формуле — «казал есми тиснути», варыянт — «повелел есми тиснути». Яна сустракаецца тройчы — у кнігах Псалтыр, «Іова», «Прытчы Саламона». Пяць разоў выкарыстана формула «выложены доктором Франциском Скориною...» — чатыры кнігі «Царстваў», «Ісус Сірахаў»; дваццаць два разы ў пражскіх выданнях ўжыты выказванні «Доконана есть книга... повелением, працею и выкладом Франциска Ско-

рины», «повелением и працею...», «працею и выкладом...», «працею и пилностию...», «повелением и пилностию», «выложены працею и вытиснены повелением...». Мяркуючы па таму, што выказванні «повелел есми тиснути» и «повелением працею и выкладом» сустракаюцца ў адных і тых жа кнігах («Іоў», Псалтыр і інш.), зразумела, што пад сваёй «працай» Скарына меў на ўвазе пераважна выдавецкую, рэдакцыйна-перакладчыцкую і літаратурную дзейнасць.

У канцы другога дзесяцігоддзя некалькі змяншаецца кнігавыдавецкая актыўнасць найбольш вядомых пражскіх друкароў: Яна Севярына, Мікалая Конача, Яна Шмяргоўскага. Не выключана, што ў адной з гэтых афіцын друкаваліся кнігі Скарыны. Магчыма, большасць друкарскіх матэрыялаў была спецыяльна выканана для гэтых кніг.

Практычныя вынікі выдавецкай дзейнасці Скарыны ў Празе вядомы: у 1517–1519 (ці 1519 – 1520) гадах у свет выйшла каля паловы поўнага канона Старога Запавета. Лічачы 4 кнігі Царстваў за адну кнігу — 20 кніг Бібліі. У 1520 ці 1521 годзе ва ўмовах страшэннай эпідэміі Скарына спешна пакінуў Прагу і адправіўся на радзіму. Частка непераплеценых кніг засталася ў Старым Месце. Большасць пражскіх шрыфтоў, гравюр і арнаментальных упрыгожванняў пазней нідзе не сустракалася.

## Віленская друкарня

У «Хроніцы Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» Вільня ўпершыню ўпамянута пад 1323 годам. У 1387 годзе стольны горад першым у ВКЛ атрымаў магдэбургскае права, замацаванае прывілеем 1432 года. У часы Скарыны гэта быў асноўны сацыяльна-эканамічны, палітычны, царкоўна-рэлігійны і духоўны цэнтр дзяржавы. Дзякуючы спрыяльнаму геаграфічнаму становішчу, гандлёвым сувязям, канцэнтрацыі дзяржаўных і царкоўных установ, шматэтнічнаму складу насельніцтва Вільня вылучалася асабліва ажыўленым культурным жыццём, якое адлюстроўвала розныя палітычныя, царкоўна-рэлігійныя, культурныя і ідэалагічныя павевы. У пачатку XVI стагоддзя ў Вільні пражывала каля 30 тысяч жыхароў. Асноўныя этнічныя групы складалі «рускія» (пераважна беларусы), літоўцы, палякі, значна ўступалі ім «немцы», яўрэі і татары.

У магістрацкай радзе сумесна засядалі католікі з праваслаўнымі. У пачатку XVI стагоддзя ў Вільні дзейнічала 13 праваслаўных храмаў, 14 касцёлаў, іншыя культавыя ўстановы. Тут

знаходзіліся сядзібы буйнейшых свецкіх і духоўных феадалаў — Астрожскіх, Алелькавічаў, Радзівілаў, Гальшанскіх, Гаштольдаў, Кежгайлаў, Хадкевічаў, Сапег, свае рэзідэнцыі мелі каталіцкія біскупы і праваслаўныя мітрапаліты. Пастаянныя кантакты розных этнічных груп, «скрыжаванне» рэлігій, рэфармацыйныя павевы, прыкметныя ўжо ў першай чвэрці XVI стагоддзя, садзейнічалі развіццю бытавой талерантнасці, пашырэнню духоўных інтарэсаў гарадскога «паспольства».

У Вільні збіраліся «вальныя» сеймы шляхты, адбываліся царкоўныя саборы, дзейнічалі суды вышэйшых інстанцый, гаспадарская канцылярыя, Рада ВКЛ (асноўны побач з манархам орган дзяржаўнай улады). У 20-х гадах XVI стагоддзя ў яе склад уваходзіла некалькі дзесяткаў асоб — буйных літоўскіх і «рускіх» феадалаў хрысціянскага веравызнання, вышэйшыя службовыя асобы (канцлер, ваяводы, кашталяны і інш.). Значны ўплыў на духоўнае жыццё ў Вільні рабіў вялікакняжацкі двор, які абслугоўвала мноства мясцовай і іншаземнай шляхты, рамеснікаў, прадстаўнікоў вольных навук, тагачаснай інтэлігенцыі. У Вільні ўжо ў пачатку XVI стагоддзя было нямала выпускнікоў еўрапейскіх універсітэтаў, знаўцаў свецкага і кананічнага права, медыкаў, бібліяфілаў, музыкантаў, мастакоў, архітэктараў, дойлідаў.

У першыя дзесяцігоддзі XVI стагоддзя прыкметна змяніўся знешні выгляд горада, у арыстакратычных кварталах паблізу Ніжняга замка і ўздоўж «Вялікай» вуліцы ўзніклі новыя камяніцы, у канцы 1503 года пачалося ўзвядзенне агульнагарадскіх замкнёных абарончых збудаванняў, мураваных сцен з пяццю вежамі. Аб высокім узроўні рамеснай вытворчасці ў Вільні можна меркаваць па колькасці прафесій ( у тым ліку адносна рэдкіх і незвычайных — «зегармістр», «мінца», «папернік», «аптэкар») і першых у Княстве цэхавых карпарацый. У часы Скарыны ў Вільні дзейнічала 6 цэхаў, якія аб’ядноўвалі рамеснікаў 8 прафесій. Земскі фінансавы збор з Вільні ў 1529 годзе дасягаў 1 500 коп літоўскіх грошаў – больш, чым пастаўлялі ў гаспадарскі скарб усе астатнія буйныя гарады Літвы і Беларусі.

Важную, вельмі своеасаблівую ролю ў Вільні адыгрывала купецтва, якое займалася гандлем з Польшчай, усходнімі і паўночнымі рускімі княствамі, Прускім герцагствам, гарадамі і мястэчкамі ВКЛ. Купцы валодалі зямельнай уласнасцю, удзельнічалі ў некаторых промыслах, не грэбавалі арэндай мыта, корчмаў, ліхвярствам. Яны складалі асноўную групу «прысяжных»

асоб ў органах гарадскога самакіравання. Віленскае купецтва мела значныя гандлёвыя прывілеі, імкнулася захаваць і пашырыць свае пазіцыі. У пачатку 20-х гадоў XVI стагоддзя вялікі князь літоўскі пісаў віленскаму ваяводу Гаштольду: «...купцы московские и иные чужоземцы приежджают з товары до Вильни, и которого товару у Вилни не продадуть и хотели бы до иных мест с товары ездить, и мешчане того им недопушають...». Жыгімонт I дазволіў «чужоземным» купцам гандляваць і ў іншых «местах» княства.

Асобныя беларускія купцы набывалі буйныя капіталы, выдавалі пазыкі нават вярхоўнай уладзе. Тыповым прадстаўніком заможнага віленскага купецтва быў член віленскай рады Гаўрыла Аліф'еравіч, уладальнік трох дамоў, у тым ліку «гасцінай» камяніцы. У пачатку 30-х гадоў яго тавары і серабро на велізарную суму — 800 коп літоўскіх грошаў – былі канфіскаваны ў Маскве. У тыя ж гады іншы віленскі мешчанін Ждан Савіч пастаўляў тавары Жыгімонту I.

У грамадскай дзейнасці гандлёва-прадпрымальніцкіх слаёў віленскага мяшчанства выразна адчуваліся секулярызацыйныя, у пэўным сэнсе рэфармацыйныя тэндэнцыі. Віленскае мяшчанства не прызнавала права кіеўскага мітрапаліта ўмешвацца ў дзейнасць некаторых мясцовых цэркваў, раздаваць «хлеба духоўныя» (ставіць святарамі), распараджацца маёмасцю. Царкоўна-рэлігійная практыка гандлёва-прадпрымальніцкіх слаёў шмат у чым нагадвала дзейнасць пазнейшых беларускіх і ўкраінскіх брацтваў.

Не падлягае сумненню, што «руская» праваслаўная абшчына Вільні (ці значная яе частка) прыхільна ставілася да выдавецкай дзейнасці Скарыны ў Вільні. Не выпадкова ў Малой падарожнай кніжцы змешчаны праваслаўны Сімвал веры. Не засталося ўбаку таксама «бурмістраўскае і радзецкае» брацтва — саслоўна-карпаратыўнае аб'яднанне членаў гарадской рады. Якраз у доме Якуба Бабіча «найстаршего бурмистра славного и великого места Виленского» каля рынку размясцілася віленская друкарня Скарыны. Няма звестак аб тым, што Скарына меў уласны дом у Вільні. Верагодна, усе сродкі паглыналі выдавецкія справы.

Шмат што даводзілася ствараць нанава. Даследчыкі не ведаюць: дзе было набыта ці зроблена у Вільні неабходнае абсталяванне, хто працаваў у друкарні, рыхтаваў формы, матрыцы, ксілаграфіі. Большасць ініцыялаў, заставак і ўсе фігурныя гравюры ўпершыню сустракаюцца менавіта ў віленскіх друках.

Пэўныя фразеалагічныя змены ў прадмовах Скарыны (у параўнанні з пражскімі) дазваляюць меркаваць, што ён прымаў больш актыўны, чым у Празе, удзел у яе дзейнасці: «Починаеться книга Деяния и посьлания апостольская... справлена доктором Франциском Скориною с Полоцька»; «Выложено и вытиснено з великою пильностию доктором Франциском Скориною».

У Вільні каля 1522 года выйшла «Малая падарожная кніжка» (не захавалася ў поўным складзе, умоўная назва ўзята з каментарыяў Скарыны), і ў сакавіку 1525 года «Книга деяния и послания апостольская, зовемая Апостолъ». З сярэдзіны 20-х гадоў Скарына адначасова выконваў функцыі сакратара віленскага біскупа і займаўся медыцынскай дзейнасцю. У той жа час ён стаў актыўна ўдзельнічаць у гандлёвых справах свайго старэйшага брата Івана Скарыны.

## Гады спадзяванняў, вандраванняў, іспытаў

Як лічаць многія даследчыкі, у канцы 20-х або ў пачатку 30-х гадоў Скарына наведаў Маскву з мэтай распаўсюджання сваіх выданняў. Паездка была няўдалай, яго кнігі былі спалены. У напружанай сацыяльна-палітычнай абстаноўцы, пры непасрэдным умяшанні кансерватыўных царкоўных колаў пачынанні Скарыны не маглі мець поспеху. У Вільні Скарына ажаніўся з Маргарытай, удавой віленскага радцы Рыгора Адверніка, і жыў у яе камяніцы на Нямецкай вуліцы, недалёка ад палаца князёў Слуцкіх.

Нейкія неспрыяльныя фактары падштурхнулі Скарыну ў 1530 годзе на паездку ў Кёнігсберг (Крулевец, або Монтэ-Рэгіо). Не выключана, што гэта паездка была звязана з распаўсюджваннем у Паўночнай Еўропе небяспечнай эпідэміі, так званай англійскай гарачкі (sweating sickness). У 1529 годзе яна аб'явілася ў Прускім герцагстве. Вялікі герцаг Альбрэхт Брандэнбургскі (1490 – 1568) папрасіў дапамогу ў кракаўскіх медыкаў. Лагічна дапусціць, што ён запрасіў Скарыну ў Кёнігсберг дзеля тых жа мэт. Не выпадкова ў тыя ж гады ў Кёнігсбергу сталі фундаваць багадзельню разам з эпідэмічнай бальніцай. Указ аб іх заснаванні ў 1531 годзе выдаў кёнігсбергскі друкар Ян Вайнрайх, якога, верагодна, ведаў Скарына.

Ёсць і іншыя меркаванні. Альбрэхт Гагенцолерн актыўна падтрымліваў Рэфармацыю ў сваіх уладаннях, ажыццяўляў радыкальныя рэформы ў дзяржаўным ладзе, царкоўных адносінах, садзейнічаў развіццю вышэйшай асветы і кнігадрукаван-



4. Зак.2059

ня на лацінскай і нямецкай мовах. Магчыма, што гэта друкарска-асветніцкая дзейнасць магла прывабіць Скарыну. Праз некалькі месяцаў у сярэдзіне 1530 года Скарына пакінуў Кёнігсберг. У пасланнях герцага Альбрэхта «сенатарам, праконсулам, консулам і гараджанам слаўнага горада Вільні» выказвалася надзея, што гарадскія ўлады пасадзейнічаюць Скарыне ў рашэнні судовых спраў, звязаных са спадчыннай маёмасцю яго жонкі Маргарыты. У апошнім пасланні ад 26 мая 1530 года Альбрэхт паведамляў віленскаму ваяводу Гаштольду, што Скарына тайна забраў з сабой двух яго падданых – яўрэя-лекара (Маісея) і друкара (магчыма, Вайнрайха). Герцаг прасіў прыняць рашучыя меры па вяртанню ўпамянутых асоб і пакарання доктара Скарыны. Згадванне друкара ў пасланні Альбрэхта наводзіць на думку аб тым, што Скарына меў нейкія планы наконт аднаўлення друкавання ў Вільні. Невядома, якія абставіны перашкодзілі яму ажыццявіць іх. Відаць, апошняе пасланне герцага мела неспрыяльныя вынікі.

У наступныя гады свайго жыцця ў Вільні Скарына, як і раней, працаваў сакратаром віленскага біскупа, удзельнічаў у гандлёва-камерцыйных аперацыях свайго брата Івана, які ў 1529 годзе памёр у Познані. У познаньскіх «піўніцах» дома Якуба Корба захоўвалася значная частка нераспрададзеных тавараў — рознай мехавой і скураной «рухлядзі». У 1531 – 1532 гадах варшаўскія гандляры, не дачакаўшыся вяртання нявыплачаных спадчыннікамі Івана крэдытаў, прад'явілі іск Скарыне як яго саўдзельніку. Каля чатырох месяцаў быў ён вязнем познаньскай турмы. Пляменнік Скарыны Раман, прыбыўшы з Гданьска, зрабіў заяву, што ён з'яўляецца асноўным наследнікам Івана Скарыны. Пасля гэтага, верагодна, фінансавыя прэтэнзіі да Францішка Скарыны былі зняты. Мусіць, з дапамогай віленскага біскупа ён атрымаў некалькі асабістых прывілеяў Жыгімонта I.

У канцы 20 – пачатку 30-х гадоў пагоршылася матэрыяльнае становішча Скарыны. Памерлі амаль усе айчынныя апекуны яго пачынанняў: Якуб Бабіч, Багдан Онкаў, Рыгор Адвернік. Пачалася чарада працэсаў у Вільні з-за нерухомай маёмасці яго жонкі. Страшэнны пажар 1530 года, які знішчыў значную частку Вільні, не пашкадаваўшы нават кафедральнага сабора Св. Станіслава (расплавілася яго крыша), абвастрыў адносіны паміж гарадскімі нізамі і патрыцыятам. Віленскі біскуп Ян з князёў літоўскіх у 1536 годзе атрымаў прывілей на познаньскае біскупства, дзе неўзабаве памёр.

Неспрыяльныя сацыяльна-палітычныя ўмовы, прагназуемае процідзеянне кансерватыўных колаў духоўнай іерархіі, у пэўнай ступені судовыя працэсы і стыхійныя бедствы адбіліся на справах Скарыны. У другой палове 30-х гадоў ён пакінуў Вільню і зноў пераехаў у Прагу. Аб другім пражскім перыядзе жыцця і дзейнасці Скарыны вядома галоўным чынам з прац А. В. Фляроўскага. Мяркуючы па знойдзеных ім дакументах, Скарына нейкі час быў «заграднікам» пры каралеўскім парку на Градчанах (на паўночным баку «Аленевага рова»), заснаваным у 1534 годзе. Хутчэй за ўсё ён выконваў абавязкі вучонага-садавода.

Дакладны час смерці Скарыны невядомы. Згодна з гіпотэзай А. В. Фляроўскага, памёр ён каля 1541 года. Даследчык звярнуў увагу на апісанне пажару ў Празе (2 чэрвеня 1541), складзенае сучаснікам падзей чэшскім хроністам Вацлавам Гаекам з Лібочан. Упамінаючы пра трох асоб, загінуўшых у доме віднага пражскага царкоўнага і культурнага дзеяча ксяндза Яна з Пухава, Гаек называў ў іх ліку «падлетка Францішка, сына нябожчыка доктара Руса». Паводле А. В. Фляроўскага, размова ідзе пра сына нябожчыка Скарыны, якога таксама звалі Францыск.

Меркаванне пра тоеснасць Скарыны з памянёным доктарам Русам даследчык абгрунтоўваў тым, што гісторыкам невядомы выхадцы з усходніх славян, апрача Скарыны, якія б у той час мелі вучоную ступень доктара. Здаецца, гэта спрэчнае сцверджанне. У матэрыялах еўрапейскіх універсітэтаў XV — першай палавіны XVI стагоддзя зрэдку сустракаюцца падобныя звесткі (напрыклад, згаданы Юры Катэрмак з Драгобыча, «рус», атрымаў ступень доктара медыцыны ў 1482 г.).

У 1936 годзе А. В. Фляроўскі апублікаваў іншы цікавы дакумент, які ў значнай ступені пацвердзіў яго гіпотэзу, – акт чэшскага караля Фердынанда Габсбурга ад 29 студзеня 1552 года з прызнаннем юрыдычнага права на маёмасць памерлага Францыска Скарыны: «... абвяшчаем гэтай граматай усіх, што доктар Францішак Рус Скарына з Полацка, які некалі жыў, наш садоўнік, у гэтым каралеўстве Чэшскім быў чужынцам,— сышоў на вечны спакой і пакінуў пасля сябе сына Сімяона Руса і пэўную маёмасць, паперы, даўгі і іншае, яму належнае. І прасіў нас вышэй згаданы Сімяон [выдаць] грамату і агульны ўказ на выпадак таго, што калі б ён знайшоў што-небудзь з маёмасці вышэй згаданага свайго бацькі, то каб яму была выдадзена і аказана дапамога» (Усе актавыя цытаты ўзяты з кн. : Францыск Скарына: Зб. дакументаў і матэрыялаў. Мн., 1988).

У літаратуры выказана меркаванне, што Сімяон Скарына мог прад'явіць свае правы на спадчыну пасля дасягнення паўналецця, г. зн. праз пэўны час пасля смерці бацькі, нават пасля 1541 года. У акце 1552 года, аднак, не ўпамінаюцца апекуны Сімяона Руса, якія неслі адказнасць за захаванасць маёмасці, што было звычайнай справай у тых выпадках, калі размова ішла пра маёмасныя інтарэсы падапечнага. На падставе гэтага можна лічыць, што каралеўскі акт выдадзены хутка пасля смерці Францыска Скарыны і што памёр ён не пазней студзеня 1552 года, хутчэй за ўсё — у сярэдзіне 1551 года ці нават яшчэ раней.

Апошняя версія знаходзіць сваё пацвярджэнне ў новых матэрыялах, знойдзеных у Дзяржаўным архіве старажытных актаў у Варшаве. Два віленскія жыхары ў 1552 годзе працягвалі справу «з-за пэўных рэчаў або маёмасці,... пакінутых пасля смерці доктарам Францыскам Скарынам і ацэненых там жа на сто пяцьдзесят коп у літоўскай манеце». Ісцом быў «вяльможны Марцін Ганковіч», прыдворны шляхціц Жыгімонта-Аўгуста, сын нябожчыка Багдана Онкава, адказчыкам — Ян Тоўсцік, віленскі лаўнік. Справа (як вынікае з актаў) цягнулася досыць доўга. Ва ўсялякім выпадку, ужо ў дэкрэце, выдадзеным ў Вільні 15 снежня 1552 года, упамінаюцца папярэднія дакументы, пастанова гайнага суда, апеляцыя ад віленскай рады. Бачна, што Скарына падтрымліваў нейкія дзелавыя, фінансавыя зносіны з жыхарамі ВКЛ, Вільні амаль да сваёй смерці. Не выключана, што ён марыў пра ўзнаўленне сваёй кнігавыдавецкай дзейнасці. У згаданым дэкрэце Фердынанда Габсбурга ад 1552 года разам з паперамі і іншай маёмасцю Скарыны названы яго кнігі. Магчыма, сярод іх былі і невядомыя нам цяпер рукапісы.

Здаецца, што сын Францыска Скарыны Сімяон канчаткова асеў у Чэхіі і атрымаў у спадчыну ад бацькі некаторыя медыцынскія і садова-батанічныя навыкі. Як паведамляе чэшскі храніст Вацлаў Бжэзан, паслугамі нейкага «паляка», лекара Сімяона «па прозвішчы Рус з Полацка» у 70-х гадах XVI стагоддзя карыстаўся старшы святар Бехінскага краю ў паўднёвай Чэхіі Іржык Чэтл. Прыкладна ў тыя ж гады «стары заграднік Рус з Полацка — Шымон Русак» працаваў садоўнікам у прыватнаўласніцкім маёнтку ў Градцы. У 1584 годзе ён быў ужо ў пажылым узросце і лячыўся ў Добрай Вадзе ля Капліцы.

Надта скупыя, разрозненыя, часам нават загадкавыя звесткі сярэдзіны XVI стагоддзя тычацца полацкіх і віленскіх родзічаў сям'і Скарыны. У пачатку 30-х гадоў нерухомая маёмасць Івана і яго брата Францыска Скарыны ў Полацку знахо-

дзілася пад апекай полацкага мешчаніна, зяця Івана — Ескі Сцяпанавіча. На судзе Еска прызнаў, што той маёнтак «ач ест у моей опеце, вшакож я не повинен в том отказу чинити без шурына сваего Романа», які служыць у «Немъцах». Пазней ён паведамляў, што ў полацкім маёнтку яго цесця ёсць доля ўласнасці Францыска Скарыны, але не паказаў ніякіх лістоў (актаў). Суд увязаў другога зяця Міхну Аўсянікава ў полацкую маёмасць Івана і Францыска Скарынаў. Іх полацкія сваякі, у тым ліку малавядомы Васка Скарына, ігумен Пятніцкі, згадваюцца ў полацкай рэвізіі 1552 года. Еска Сцяпанавіч валодаў таксама зямліцай у сяле Трайдзевічы каля Полацка. У сярэдзіне XVI стагоддзя ён быў абраны членам полацкай гарадской рады, падтрымліваў гандлёвыя сувязі з Рыгай. Апошні раз Еска Сцяпанавіч «Скарынінскі» і стрыечная сястра Марка Міхнавіча, жонка «Степанова Съкоринянъка» упамінаюцца ў акце ад 30 снежня 1605 года.

Дробныя шляхціцы Скарыны, што фігуруюць у беларускіх крыніцах XVII – XVIII стагоддзяў, як і пазнейшыя іх аднафамільцы розных станаў, якія пражывалі ці пражываюць на землях Беларусі, Прыбалтыкі і ў іншых краінах, не мелі ці не захавалі дакументальных пацверджанняў сваёй сувязі са знакамітым полацкім родам. Гучныя заявы аб іх сваяцтве звычайна сведчаць аб замацаванай у стагоддзях славутасці рода Скарыны.

## Беларускія інкунабулы

Знамянальна, што выдавецкая дзейнасць Скарыны, як і заснавальніка еўрапейскага кнігадруку Ёгана Гутенберга, пачалася з найбольш свяшчэнных для ўсяго хрысціянскага свету кніг Бібліі. Не толькі пражскія, але і віленскія выданні пераважна ўключалі кананічныя кнігі Св. Пісання, хоць выкарыстоўваліся у розных мэтах. У Празе Скарына збіраўся выдаць усю Біблію, на што указваюць агульны тытульны ліст да ўсяго зводу і прадмова «Во всю Библию рускага языка» (першае «предъсловие» да кнігі Быцця, 1519). Пасля падрабязнага пераліку ўсіх кніг Старога і Новага Запаветаў Скарына працягваў: «О сих книгах всея Библии подле малости розуму моего, розделы вократце положих. А в чом бых ся омылих, разумнейшие поправте...». З адной гэтай фразы відавочна, што Скарына падрыхтаваў ці збіраўся падрыхтаваць усе кнігі Біблії.

У Празе яму ўдалося выдаць наступныя кнігі Старога Запавету з канкрэтнымі выхаднымі звесткамі: Псалтыр (6.08.1517), пазней — «Іоў», «Прытчы Саломона», «Ісус Сірахаў», у 1518

годзе — «Еклесіяст», «Песнь песень», «Прамудрасць божая», «Царствы», «Ісус Навін», у 1519 годзе — «Юдзіф», «Суддзі», «Быццё», «Другі закон», «Руф», «Эсфір», «Плач Эраміі», «Прарок Данііл». Некаторыя з апошніх выданняў — «Выхад», «Левіт»,«Лічбы», якія не маюць выхадных звестак і традыцыйна датуюцца ў бібліяграфіі 1519 годам, магчыма, надрукаваны ў 1520 годзе. Амаль усе адзначаныя кнігі захоўваюць вельмі падобную унутраную структуру (тытульны ліст, прадмова Скарыны, асноўны біблейскі тэкст, пасляслоўе) і ілюстрацыі.

Віленская «Малая падарожная кніжка» складаецца з 23 частак: «Писаныи речи в сей Малой подорожной книжце по ряду кратце положены суть», Псалтыр, «Часословец», збор акафістаў і канонаў, «Шестодневец», «Соборникъ» са святцамі і пасхаліяй. Некаторыя часткі, магчыма, выходзілі асобнымі выпускамі. Апостал 1525 года ўключае ў сябе галоўным чынам пасланні саборныя і апостала Паўла і заключныя раздзелы службовага характару: «Соборникъ двунадесять месец», «Пятдесятница», «Четырдесятница», паказальнікі чытанняў.

Невядома, хто непасрэдна дапамагаў Скарыне у яго выдавецкай і друкарскай дзейнасці. На думку даследчыкаў, шматлікія рэнесансавыя гравюры пражскіх выданняў выконваліся прадстаўнікамі розных мастацкіх школ і кампанаваліся ў Бібліі пры ўдзеле самога Скарыны ( напрыклад, найбольш выдатная і арыгінальная па мастацкіх якасцях свецкая ксілаграфія — яго партрэт, двойчы адбіты у кнігах «Ісус Сірахаў» і «Царствы»). З Віленскай друкарняй, безумоўна, супрацоўнічалі пераважна беларускія мастакі, гравёры, рамеснікі.

Мастацкія рысы выданняў Скарыны, асаблівасці арнаментальнага упрыгожвання, гравюры, шрыфты, агульная тыпаграфіка няблага даследаваны М. Шчакаціхіным, А. Зёрнавай, А. Сідаравым, Я. Неміроўскім, В. Шматавым і іншымі вучонымі. У зводным каталогу старадрукаў кірылічнага друку, які выпускаецца нямецкім выдавецтвам В. Кёрнера ў Бадэн-Бадэне, В. Неміроўскім скрупулёзна апісаны 399 экзэмпляраў 20-ці пражскіх выданняў Скарыны; у 5-м томе — 235 экзэмпляраў 22-х віленскіх выданняў. Рэпрадуктаваны 153 ілюстрацыі, віньеткі і ініцыялы. Даследчыкі адзначаюць надзвычай высокі еўрапейскі ўзровень выданняў Скарыны, мастацкасць і гарманічнасць усіх элементаў афармлення, своеасаблівасць і арыгінальнасць іканаграфічнай «сюіты» ў пражскіх кнігах (45 гравюр) і віленскіх малых кніжках (5 фігурных гравюр), шматлікіх ксілаграфічных ініцыялаў, шрыфтавых гарнітур.

Рэнесансавае аблічча выданняў Скарыны ў значнай ступені адлюстроўвае сінтэз яго ўласных мастацкіх густаў з уплывамі паўночнага Адраджэння, а таксама сувязі з Нюрнбергам, Венецыяй, традыцыямі пражскіх гравёраў і друкароў. Апошнія даследаванні гродзенскага навукоўца А. Шаланды геральдычных выяў і манаграм на кнігах Скарыны (у тым ліку вельмі праўдападобная гіпотэза аб яшчэ адной партрэтнай выяве самога Скарыны на гравюры «Памазанне Давыда» ) даюць сур'ёзныя падставы для значнага пашырэння мастацкага і мецэнацкага асяроддзя Скарыны ў перыяды яго дзейнасці ў Празе і Вільні. Яны ставяць на новы грунт сцверджанні іншых даследчыкаў аб больш актыўным, чым лічылася раней, удзеле беларускіх майстроў і самога Скарыны ў праектаванні, мастацкім афармленні сваіх выданняў і некаторых гравюр ужо ў першы пражскі перыяд. Бясспрэчным, аднак, трэба прызнаць і тое, што асобныя гравюры і арнаментальныя элементы былі набыты з матэрыялаў іншых друкарань або скапіраваны. Гэта была звычайная практыка многіх тагачасных еўрапейскіх кнігавыдаўцоў, асабліва тых, хто меў нейкія фінансавыя праблемы. Скарына не быў выключэннем, бо яго пражскія выданні (пасля Псалтыра) надрукаваны на таннай паперы без вадзяных знакаў. З буйнейшай у Еўропе нюрнбергскай друкарняй Кабергераў і знакамітай Сусветнай хронікі Шэдэля 1493 года, як даказаў В. Тумаш, паходзяць друкарскія формы дзвюх гравюр Малой падарожнай кніжкі – «Хрыстос у храме» і «Хрышчэнне ў Іардане». Ведаў Скарына і «вялікі прапісны алфавіт» гравёра рэйнскай школы Ізраіля ван Мекенема (гл. літару «С» у Малой падарожнай кніжцы, арк. 183).

Найбольш відавочнае знешняе адрозненне віленскіх выданняў ад пражскіх (акрамя мастацкага афармлення і шрыфтоў) – новы фармат. Скарына прызначаў свае кнігі розным слаям насельніцтва, у тым ліку купцам, зямянам і рыцарству, таму імкнуўся зрабіць іх даступнымі і прыгоднымі ў падарожжах, пазацаркоўных службах, хатнім выкарыстанні. Больш просты (паспаліты) фармат яго кніг (4° — пражскія, 8° — віленскія) адрозніваецца ад вялікіх царкоўнаславянскіх рукапісаў, якія ў XIII – XVI стагоддзях звычайна пісаліся па заказу заможных асоб ці прызначаліся для асабліва важнай літургіі.

Для першага свайго выдання Скарына выбраў Псалтыр — адну з найбольш папулярных і распаўсюджаных у хрысціянскім пісьменстве кніг Старога Запавету, зборнік гімнаў рэлігійна-лірычнага зместу, аўтарам якога традыцыйна лічыцца цар Давід. У Полацкім княстве і ва ўсіх усходнеславянскіх землях Псал-

тыр шырока выкарыстоўваўся для навучання грамаце, рэлігійна-маральнага выхавання, богаслужэння. Песнапенні, змешчаныя ў ім (псалмы), склалі аснову праваслаўнай гімнаграфіі, ужываліся для стварэння розных літургічных твораў.

Магчыма, Скарына хацеў праверыць, ці будуць карыстацца попытам яго друкаваныя кнігі. Верагодна таксама, што ён улічваў і вострую патрэбу грамадства ў кнігах, неабходных для навучання грамаце і набажэнства. У прадмове да Псалтыра ён так акрэсліў яго сутнасць: «Всяко писание богом водъхненое полезно ест ко учению и ко обличению, исправлению и ко наказанию правды. Да совершен будеть человек божий и на всяко дело добро уготован... Суть бе в ней псалмы, яко бы сокровивде всих драгых скарбов, всякии немощи духовныи и телесныи уздравляють, душу и смыслы освещають, гнев и ярость усмиряють, мир и покой чинять, смуток и печаль отгоняют, чувствие в мо- литвах дають, людей и приязнь зводять, ласку и милость укрепляють, бесы изгоняють, ангелы на помощ призывають. Псалом ест щит против бесовскым нощным мечтанием и страхом, покой денным суетам и роботам, защититель младых и радость старым, потеха и песня, женам набожьная молитва и покраса, детем малым початок всякое доброе наукы, дорослым помножение в науце, мужем моцное утверьжение».

З тэксталагічнага пункту гледжання большасць славянскіх і ўсходнеславянскіх спісаў Псалтыра ўзыходзіць да грэчаскага перакладу ў славянскай кірыла-мяфодзіеўскай версіі. Найстаражытнейшыя славянскія спісы Псалтыра балгарскай і старажытнарускай рэдакцыі, якія захаваліся ў бібліятэках Беларусі, Украіны, Расіі, адносяцца да XI—XIII стагоддзяў: Бычкоўскі, Дэчанскі, Пагодзінскі Псалтыр і інш. Некаторыя са старажытных спісаў узніклі або трапілі рознымі шляхамі на тэрыторыю Беларусі і іншыя землі ВКЛ. Да такіх помнікаў старажытнага пісьменства адносяцца, напрыклад, Слуцкі псалтыр XI стагоддзя, Супрасльскі XV—XVI стагоддзяў і інш. У параўнанні са старажытнымі славянскімі спісамі пражскі Псалтыр належыць да тыпу простых скарочаных Псалтыроў так званай рускай рэдакцыі, якая, ў сваю чаргу, мае некалькі разнавіднасцей. Інакш кажучы, гэта асобны від усходнеславянскай рэдакцыі. Асноўнымі крыніцамі выдання былі старажытныя славянскія рукапісы (верагодна, дастаўленыя ў Прагу з ВКЛ), каталіцкія старадрукі ( Вульгата), чэшская Біблія 1506 года.

Паводле П. У. Уладзімірава, пры вызначэнні рэдакцыі і мовы выдання Скарына ўлічваў асаблівае месца Псалтыра ў ста-

ражытнай Русі. Псалтыр быў кнігай богаслужэбнай, вучэбнай, павучальнай для хатняга ўжытку, у асобных выпадках выратавальнай (з пункту гледжання праваслаўнага чытача). Псалтыром карысталіся штодзень (чыталі, спявалі псалмы і г. д.). Пра яго незвычайную папулярнасць сведчыць і велізарная колькасць спісаў (з living рознымі дапаўненнямі), што дайшлі да нашага часу. Маючы ўсё гэта на ўвазе, Скарына выдаў Псалтыр на традыцыйнай царкоўнаславянскай мове, «не рушаючи самое Псалътыри ни в чем же». Але Скарына ўнёс значныя змены ў звычайнае аблічча Псалтыра. Па-першае, ён дадаў сваю арыгінальную прадмову, у якой падкрэсліў маральна-павучальныя, эстэтычныя, асветніцкія рысы кнігі. У тэксце прадмовы адчуваюцца ўплывы Размоў («Бесед») Васілія Вялікага, вядомага хрысціянскага аўтара. Выкарыстанне аўтарытэтных тэалагічных крыніц ў тагачасным літаратурна-багаслоўскім пісьменстве дыктавалася прэстыжам Св. Пісання і царкоўнай традыцыяй. Па-другое, паклапаціўся аб тым, каб гэта выданне было больш зразумелым «простым» людзям. З гэтай мэтай Скарына тлумачыць на палях кнігі архаічныя царкоўнаславянскія словы «рускай мовай»: «Так же положил есми на боцех некоторыи слова для людей простых, не рушаючи самое Псалътыри ни в чем же, яко суть онагри, и геродеево жилише, и хлябие и иные слова, которыи суть в Псалтыри неразумныи простым людем, наидут е на боцех руским языком, что которое слово знаменуеть».

Некаторыя глосы, дзе маюцца спасылкі на паралельныя тэксты Св. Пісання, былі пераняты Скарынам з замежных выданняў або рукапісаў. У Заходняй Еўропе для падобных мэт распаўсюджваліся даведачныя зборнікі, так званыя канкарданцыі. Сам Скарына так растлумачыў гэту асаблівасць свайго перакладу: «Так же будь ведомо положил есми некоторые на староницах в сей Псалътыри главы з розных книг. А то для того, абы знакомито было иже вси иные светые писма згожаються с Псалтырею и одно на другое светчить. А то, чтучи в тых книгах, их же суть главы на боцех пописаны знайдете». З замежных, магчыма славянскіх, выданняў Скарына таксама запазычыў падзяленне псалмоў на вершы: «Теже розделил есми вси псалмы на стихи, по тому, яко ся в ыных языцех делить».

З Вульгаты, верагодна, пераняты тры вершы з 13-га псалма, якія адсутнічаюць ў традыцыйных царкоўнаславянскіх рукапісах. Для даследчыкаў гэта адна з важных прыкмет, якая ў сукупнасці з іншымі дазваляе вылучаць пазнейшыя рукапісныя спісы з скарынаўскага выдання. Ад чэшскай Біблii 1506

года Псалтыр 1517 года адрозніваецца не толькі своеасаблівым перакладам многіх месц, але і адсутнасцю разгорнутых надпісаў над псалмамі, а таксама друкарскім і мастацкім аздабленнем. Гэта кніга змяшчае (акрамя тытульнага ліста і прадмовы) уласна Псалтыр, 20 кафізмаў, 150 псалмоў і адзін асобна пісаны Давідам, 8 біблейскіх песен са Старога Запавету і 2 з Новага.

Псалтыр быў у нейкім сэнсе пробным выданнем Скарыны, чым тлумачацца і некаторыя знешнія адрозненні яго ад наступных. Толькі тут сустракаецца застаўка, якая нагадвае літару «П», папера з філігранямі заходнееўрапейскага паходжання, своеасаблівыя памеры наборнай паласы. Кніга ўпрыгожана дзвюма гравюрамі (цар Давід з лірай і «корень Іесеев» — генеалагічнае дрэва Хрыста), мноствам ксілаграфічных ініцыялаў, застаўкамі. Тут упершыню сустракаецца вядомы аўтарскі знак Скарыны — месяц у спалучэнні з сонцам, які атаясамліваюць з гербам або сігнетам (графічны сімвал друкарні). Сімволіка гэтага сігнета, верагодна, мае хрысціянскае тлумачэнне: перамога над іншымі верамі або д'ябальскімі сіламі. У кантэксце дзейнасці Скарыны яна аб'ектыўна набывала дадатковы сэнс: святло, якое несла друкаваная кніга людзям.

Беларускае кнігадрукаванне пачалося з нязвыклага па сваёй папулярнасці і разам з тым паэтычнай узнёсласці, эмацыянальнай прыўзнятасці зборніка рэлігійна-гімнаграфічных твораў. Яго выхад прадракаў вялікую будучыню друкаванаму слову, таму так пранікліва, шчыра аптымістычна гучаць словы Скарыны ў прадмове да яго першынца: «...к нашему навчению, исправлению духовному и телесному...».

## «Кніга кніг» (1517—1519)

У 1517 — 1519 гадах у Празе Скарына выдаў на літаратурнай беларускай мове 20 кніг Старога Запавету. Выбар Скарынам Бібліі быў, вядома, невыпадковым. Адпаведна з той роллю, якую адыгрывала рэлігія ў духоўным, грамадскім, сацыяльна-палітычным жыцці сярэдневяковай і рэнесансавай Еўропы, Біблія займала зусім асаблівае месца ў рукапісным пісьменстве і кнігадрукаванні XV—XVI стагоддзяў.

Св. Пісанне патрабавала адпаведнага піетэту. Гэта былі не толькі кананічна-царкоўныя погляды, іх падзялялі асноўныя масы насельніцтва еўрапейскіх краін. На Біблію абапіралася ўся дагматыка хрысціянскай царквы, літургіка, тэалогія, яна ўплывала на нормы паўсядзённага жыцця, вызначала ў свядомасці

людзей шляхі да ўратавання на тым свеце. У біблейскіх кнігах знайшлі адлюстраванне розныя ідэалагічныя і палітычныя тэндэнцыі, а багацце, вобразнасць, метафарычнасць многіх біблейскіх твораў спрыялі выяўленню далёка не адназначных рэлігійных і сацыяльных поглядаў. Шматвяковы вопыт сацыяльна-рэлігійных канфліктаў, барацьбы з ерасямі стрымліваў царкву ад распаўсюджання кніг Бібліі і пэўных біблейскіх ідэй сярод свецкіх слаёў насельніцтва, асабліва ў сацыяльна-незадаволеных слаях мяшчанства і сялянства. На царкоўных саборах неаднаразова абвяшчалася, што права тлумачэння Св. Пісання належыць выключна кліру. Не падтрымлівала самастойнае чытанне біблейскіх кніг свецкімі асобамі і праваслаўная царква.

Нізкая прадуктыўнасць рукапіснай справы, а таксама тая акалічнасць, што значная частка скрыпторыяў знаходзілася ў цэрквах і манастырах, аблягчала захаванне ідэалагічнай манаполіі духавенства. Адкрыццё і распаўсюджанне кнігадрукавання пахіснула гэту манаполію. Першыя заходнееўрапейскія інкунабулы сталі шырэй знаёміць гараджан са Св. Пісаннем. Ужо ў XV стагоддзі было выпушчана 94 выданні лацінскай Бібліі (не ўлічваючы асобных выданняў Старога і Новага Запаветаў і выданняў з каментарыямі сярэдневяковых багасловаў). Значную частку інкунабул, якія захаваліся да нашага часу з уладальніцкімі запісамі XV—XVII стагоддзяў, зробленымі ў Беларусі і Літве, складаюць выданні лацінскай Бібліі: нюрнбергскія (Антона Карбергера, Каспара Хохведэра), венецыянскія (Францыска Рэнера, Іагана Хербарта), кёльнскія, страсбургскія, базельскія (Мікалая Гётца, Іагана Амербаха, Мікалая Кеслера, Іагана Фробена) і інш.

У першай палавіне XVI стагоддзя ў Еўропе распаўсюджваюцца выданні лацінскай Бібліі з каментарыямі і ў перакладзе выдатнага еўрапейскага гуманіста, пісьменніка, мысліцеля Эразма Ратэрдамскага. У гэтым ланцугу еўрапейскіх паведаў Адраджэння, гуманізму і рэфармацыі своеасаблівае месца займала Біблія Скарыны. Біблейскія тэксты пачалі распаўсюджвацца ва ўсходнеславянскіх землях з часоў прыняцця хрысціянства ў Кіеўскай Русі. Большасць спісаў у X—XI стагоддзях складалі паўднёваславянскія пераклады, але пазней узніклі першыя ўсходнеславянскія рэдакцыі і пераклады Св. Пісання. Паколькі праваслаўная царква ў пэўнай ступені абмяжоўвала перапіс[illegible]у сакральных кніг, то біблейская традыцыя ва ўсходнеславян[illegible]кіх краінах доўгі час была адносна вузкай, а біблейс-

кія тэксты захоўваліся ў розных па жанравым характары і функцыянальным прызначэнні помніках пісьменства.

З асобных кніг Бібліі шырокай папулярнасцю карысталіся новазапаветныя тэксты: набажэнскія, вучыцельныя, талковыя Евангеллі, Апосталы, Псалтыры. У XIV— XV стагоддзях пачалі з'яўляцца першыя тэматычныя зборнікі стара- і новазапаветных кніг. Некаторыя з іх прызначаліся для келейнага і свецкага (пазацаркоўнага) чытання. Зборнікі гістарычнага зместу («Пяцікніжжа», «Ісус Навін», «Суддзі», «Руф», «Царствы», «Эсфір») задавальнялі чытацкія інтарэсы ў старажытнай, свяшчэннай (біблейскай) гісторыі, кнігі прамудрасці і прароцтваў знаёмілі з канонамі маральнай і рэлігійнай філасофіі.

Да ліку найбольш ранніх біблейскіх тэматычных зборнікаў належаць і некалькі рукапісаў, якія папярэднічалі выданням Скарыны. Маюцца на ўвазе біблейскія зводы Мацея Дзесятага (Вільня – Супрасль, 1502—1507) і дзяка Фёдара (Вільня, 1514). Трэба падкрэсліць, што абодва рукапісы былі напісаны (першы, зразумела, часткова) у сталіцы ВКЛ, дзе неўзабаве распачаў сваю кнігавыдавецкую дзейнасць Скарына. Справа не толькі ў тым, што ён мог карыстацца названымі зводамі або ведаць пра іх, але і ў тым, што ў той час у беларускім асяроддзі ў Вільні дзейнічалі розныя сацыяльныя сілы, якія падтрымлівалі новыя гісторыка-культурныя пачынанні. Звод Мацея Дзесятага быў напісаны па яго асабістай задуме, але другі рукапіс, напэўна, ствараўся не без удзелу кіеўскага мітрапаліта Іосіфа. Магчыма, рашэнні Віленскага сабора 1509 года паўплывалі на ажыўленне і пашырэнне рукапіснай справы ў царкоўна-манастырскіх скрыпторыях. У названых біблейскіх зводах амаль не адчуваецца ўплыву беларускай мовы, іх знешні выгляд, мастацкія ўпрыгожанні таксама традыцыйныя. Здаецца, што рэдкі ў той час зварот праваслаўнай іерархіі да кніг Старога Запавету выкліканы перш за ўсё ідэалагічнымі і культурнымі запатрабаваннямі праваслаўнай царквы, неабходнасцю супрацьстаяць ерасям, а таксама каталіцызму і іудаізму, што выкарыстоўвалі іх у палеміцы і богаслужэнні. Нагадаем, што канец XV — пачатак XVI стагоддзя адзначаны ў ВКЛ ажыўленнем планаў царкоўна-рэлігійнай уніі.

У навуковых даследаваннях сустракаюцца сцверджанні, быццам біблейскія кнігі Скарыны значна адрозніваюцца ад царкоўнага канона. Гэта перабольшанне. Апісанне 24-х кніг Старога Запавету, дадзенае Скарынай у згаданай ужо прадмове да кнігі «Быццё», у цэлым адпавядала традыцыям біблейскага хрысці-

янскага пісьменства канца XV — пачатку XVI стагоддзя. Праўда, сцверджанні, быццам склад кніг Скарыны больш адэкватны праваслаўнаму канону, занадта катэгарычныя. Так званыя некананічныя кнігі Бібліі сустракаюцца ў розных рукапісных зводах праваслаўнай традыцыі, напрыклад, у беларускім зборніку Старога Запавету канца XV стагоддзя, які некалі належаў Купяціцкаму манастыру, або ў рускім зводзе трэцяй чвэрці XVI стагоддзя. Як у Скарыны, на чатыры часткі («законную», «гістарычную», «прамудрасці», «прароцкую») падзяляюцца, напрыклад, раздзелы Генадзіеўскай Бібліі. Тыя ж кнігі ўваходзяць і ў чэшскую Біблію 1506 года, і ў шматлікія лацінскія перавыданні Вульгаты.

Скарынаўскія выданні былі першымі біблейскімі кнігамі сярод усходніх славян, напісанымі і надрукаванымі, па словах самога Скарыны, на «рускай» мове. «Аз теже, — пісаў ён у прадмове да кнігі Данііла-прарока, — нароженый в руском языку, с помощию божиею, яко повинен сый розмножати хвалу Христову и посполитое доброе, межи иными пророки светыми выложих и Данила, мужа жадостей и преславнаго пророка господьня на руский язык зуполне». «Библия руска» — назва ўсяго выдання Скарыны на тытуле да кнігі «Быццё». «Рускі язык» упамінаецца Скарынам амаль ва ўсіх прадмовах да яго пражскіх выданняў (кнігі «Іоў», «Прытчы», «Песні песняў», «Ісус Сірахаў», «Эклезіяст», «Царстваў» і інш.). Яго каментарыі, глосы былі разлічаны на ўспрыняцце кніжнай прамудрасці простым («паспалітым») людам «языка рускага». З гэтай мэтай ён тлумачыў на палях кнігі архаічныя і рэдкія царкоўнаславянскія словы «рускай» мовай. Іншыя глосы Скарыны павінны былі падкрэсліць духоўнае адзінства Св. Пісання. З замежных, магчыма, славянскіх выданняў Скарына запазычыў падзел псалмоў на вершы.

Выданні Бібліі на нацыянальных мовах ужо ў другой палавіне XV стагоддзя былі абумоўлены развіццём рэнесансава-гуманістычнай ідэалогіі. З 20-х гадоў XVI стагоддзя асноўную ролю ў з'яўленні нацыянальных перакладаў Бібліі пачала адыгрываць Рэфармацыя. Біблія Лютэра стала адным з найбольш папулярных перавыданняў Св. Пісання ва ўсёй Заходняй Еўропе.

У многіх адносінах падобную ролю адыграла Біблія Скарыны ў духоўным і этнаканфесійным развіцці беларускага і іншых усходнеславянскіх народаў, ва ўсведамленні агульнасці сусветнай гісторыі чалавецтва. Гістарычная літаратура, летапісы, хра-

нографы былі больш даступнымі прывілеяваным саслоўям (шляхта, духавенства), а кнігі Скарыны, што прызначаліся перш за ўсё «паспалітаму люду языка рускага», па-свойму абуджалі нацыянальную свядомасць беларускага і іншых усходнеславянскіх народаў, іх патрыятычныя пачуцці і імкненні.

Пранікненне беларускай мовы ў кнігі Св. Пісання выяўляла яе неабмежаваныя магчымасці ва ўсіх сферах духоўнага жыцця, літаратуры, пісьменства і ставіла нараўне з іншымі еўрапейскімі, нават з так званымі свяшчэннымі мовамі (на якіх, згодна з царкоўнай традыцыяй, былі напісаны першыя «аўтэнтычныя» кнігі і пераклады Біблії).

Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што Скарына свядома падкопваў асновы «мёртвай стараславянскай мовы», упарта пераадольваў замшэлыя векавыя традыцыі. Але пры гэтым не ўлічваецца даволі высокі ў тыя часы прэстыж старaславянскай мовы ва ўсіх усходнеславянскіх краінах, яе блізкасць (у параўнанні з іншымі царкоўнакніжнымі мовамі, напрыклад лацінскай) да жывой гаворкі, своеасаблівасць успрымання (перш за ўсё тагачаснай царкоўнай і свецкай інтэлігенцыяй) як узнёслага ўрачыста-прыўзнятага стылю роднай мовы. Сучасным мовазнаўствам мова пражскіх і віленскіх выданняў Скарыны характарызуецца як беларуская рэдакцыя царкоўнаславянскай ці беларускі тып кніжнаславянскай мовы. Рысы жывой беларускай гаворкі асабліва прагледжваюцца ў прадмовах і іншых аўтарскіх творах самога Скарыны.

Заснаванне Скарынай беларускага кнігадрукавання стала вяршыняй яго духоўнай дзейнасці, найбольш выразным і яскравым пралогам беларускага Адраджэння першай паловы XVI стагоддзя. У друкаванай кнізе Скарына бачыў невычарпальныя магчымасці духоўнай асветы народа, выхавання высокіх хрысціянскіх, маральных і грамадзянскіх якасцей, усё большага далучэння і актыўнага ўзаемадзеяння з еўрапейскім культурна-гістарычным соцыумам. Верагодна, доўгія падарожжы Скарыны па краінах з развітым кнігадрукаваннем (Польшча, асабліва Італія, Чэхія і інш.), знаёмства з друкаванай кнігай, якая з канца XV стагоддзя усё шырэй пранікала на землі ВКЛ, спрыялі яго планам, а падтрымка беларускіх мяшчан Вільні і Полацка забяспечыла іх ажыццяўленне.

Кнігі Скарыны зрабілі вялікі ўплыў на развіццё духоўнай культуры Беларусі і Украіны, стымулявалі ўзнікненне кнігадрукавання ў Вялікім княстве Маскоўскім, распаўсюджваліся ў шматлікіх спісах канца XVI – пачатку XVII стагоддзя. Арна-

ментальныя матэрыялы віленскай друкарні Скарыны да 1652 года выкарыстоўваліся ў выданнях буйнейшай беларускай Віленскай брацкай друкарні і яе філіяла ў Еўі, а вялікія пражскія ініцыялы сустракаюцца ў Астрожскай друкарні на Украіне ў канцы XVI стагоддзя.

Чытацкія і іншыя запісы XVI—XVIII стагоддзяў, выяўленыя на захаваных кнігах Скарыны, сведчаць аб іх актыўным выкарыстанні рознымі пластамі беларускіх і замежных чытачоў: кніжнікамі, друкарамі, пісьменнікамі, настаўнікамі, вучнямі, адукаванай элітай, гарадскім патрыцыятам, купцамі, праваслаўнымі і уніяцкімі манахамі.

Гэта не перашкодзіла, аднак, вельмі крытычна ацаніць кнігі Скарыны аднаму з вядомых іерархаў уніяцкай царквы А. Сяляве ў 1622 годзе – у самы разгар літаратурна-канфесійнай палемікі з віленскімі братчыкамі: «Хіба не вы ўласна дазваляеце атручвацца людзям сваім вучэннем іншаверцаў? І перад тым яшчэ, даўно, пры продках вашых, вам падобных, Русь была нямала атручана: да уніі быў Скарына, гусіт ерассю, які па-руску друкаваў вам кнігі ў Празе. Прымалі іх з удзячнасцю, дастаткова таго было, што зваўся русін з Полацка, як падпісваўся. Смакавалі яго друкі, гаварылі, што чалавек годны, русін, брат наш, гэта друкаваў. Сымон Будны і Лаўрэнцій Крышкоўскі, сваю арыянскую атруту па-руску надрукаваўшы, рассеялі між папоў. Прымалі за лекі, так што і зараз цяжкасці з адабраннем тых кніг. Цвярдзяць, што яны царкоўныя і старыя, таму добрыя, сабраныя са Св. Пісання...".

Незвычайныя па форме, мове, афармленню і асабліва па духу выданні Скарыны з апаскаю ўспрымаліся і некаторымі няблага адукаванымі праваслаўнымі артадоксамі: дастаткова ўспомніць выказванні князя Андрэя Курбскага, які параўноўваў кнігі Скарыны з ерэтычнымі выданнямі Лютэра. Аўтары і ўладальнікі большасці спісаў, створаных на землях Вялікага княства Маскоўскага, пазбягалі дакладна адзначаць свае крыніцы, хоць праяўлялі цікавасць да яго перакладаў, літаратурнай і ідэйнай спадчыны. У адну з копій Генадзіеўскай Бібліі другой паловы XVI стагоддзя з укладным запісам разанскага епіскапа ўнесены моцна перапрацаваныя 39 прадмоў Скарыны да яго друкаў.

Перакладамі і кнігамі Скарыны актыўна карысталіся Сымон Будны і Васіль Цяпінскі. Нават па свайму знешняму выгляду (асабліва па шрыфтах) іх кірылічныя выданні выразна нагадваюць першаўзоры. Будны лічыў пераклады Скарыны ледз-

ве не лепшымі ва ўсім тагачасным славянскім свеце. Кнігамі Скарыны карысталіся італьянскі мовазнавец, бібліяфіл Амбражэй Альбанэзі (1469 – 1540), яны захоўваліся у зборах чэшскага аўтара Братыслава з Мітравіц (1576 – 1635), прафесара Вюрцбурскага універсітэта Конрада Манерта, лютэранскага епіскапа 20-х гадоў XVI стагоддзя ў Прускім герцагстве Паўла Сператуса (з яго уласным экслібрысам), добра былі вядомы польскаму пісьменніку Шымону Старавольскаму, аднаму з заснавальнікаў польскай літаратурнай мовы, рэдактарам Брэсцкай і Астрожскай Біблій (1563, 1581) і інш.

Выданні Скарыны з'яўляюцца унікальнымі помнікамі свецкага рэнесансавага пісьменства. Іх месца ў еўрапейскім культурна-гістарычным працэсе вызначаецца гістарычнымі ўмовамі, традыцыямі, своеасаблівасцю і агульным узроўнем духоўнага развіцця Беларусі і ўсходнеславянскіх земель ВКЛ. Разам з тым яны адлюстроўваюць і асабістыя рысы Скарыны, яго духоўную адоранасць і непаўторнасць, веліч яго подзвігу. Біблія Скарыны не адпавядае поўнасцю ніводнаму з вядомых рукапісных ці друкаваных зводаў Св. Пісання. Яна адыходзіць ад тагачаснай кніжна-царкоўнай традыцыі не столькі сваім складам і зместам (дзе многа кананічнага), колькі агульнай накіраванасцю, жывым духам і хрысціянскай прыўзнятасцю, грамадскімі, нацыянальна-патрыятычнымі і асветніцкімі тэндэнцыямі.

Уласныя творы, літаратурныя дадаткі Скарыны могуць быць аб'ектыўна ацэнены толькі ў адпаведным і сінтэтычным кантэксце. Празмерная адчужанасць і дыферэнцыяцыя тэкстаў і выказванняў Скарыны ў адрыве ад іх каментарыйна-тлумачальных функцый, што характэрна для некаторых даследаванняў, вядзе да спрошчанага разумення яго поглядаў. Творы Скарыны ўяўляюць сабой сукупнасць уступных, заключных матэрыялаў і каментарыяў, дастасаваных да канкрэтных біблейскіх кніг, і ствараюць разам з Бібліяй арганічную цэласнасць. Асноўную ролю адыгрываюць «предьсловия» і блізкія да іх па функцыях «сказания». У пражскіх выданнях 21 прадмова і 4 сказанні, у віленскіх — адпаведна 2 і 21. Большасць даследчыкаў залічваюць прадмовы і сказанні да адной жанравай разнавіднасці, іншыя ж лічаць, што яны хутчэй нагадваюць пазнейшыя беларускія пропаведзі і казанні. Яны звычайна больш сціслыя, адрозніваюцца сваёй стылістыкай і красамоўствам.

Каб пазбегнуць памылковага тлумачэння Бібліі, Скарына

імкнуўся ў простай, зразумелай форме каменціраваць біблейскія тэксты, падаваць звесткі аб побытавых, багаслоўскіх, моўных рэаліях. У тэалагічным кантэксце асноўнае месца ў прадмовах і сказаннях Скарыны займала так званая экзагеза — тлумачэнне алегарычнага зместу кніг Старога Запавету як прадвесця і прароцтва новазапаветных падзей, перамогі хрысціянства ў свеце і надзеі на вечнае духоўнае выратаванне. Комплекс прадмоў і сказанняў Скарыны дапаўняюць пасляслоўі і сціслыя ўступныя каментарыі да глаў кожнай кнігі.

Даследчыкі адзначаюць стылявы і жанравы сінкрэтызм асноўных твораў Скарыны, дасканаласць выяўленчых сродкаў, іх экспрэсіўнасць, прытчавы і алегарычны характар, багацце гістарычных, філасофскіх, тэалагічных каментарыяў. Празаічныя творы Скарыны ў «Малой падарожнай кніжцы» ўпрыгожвае і дапаўняе вялікі гімнаграфічны цыкл, у тым ліку яго уласныя гімны. Побач з развітой аратарскай прозай у прадмовах Скарыны прасочваюцца прыкметы некаторых іншых літаратурных жанраў, якія пазней занялі значнае месца ў беларускай літаратуры і пісьменстве, у тым ліку сілабічнае вершаванне. Прадмовы і сказанні Скарыны сінтэтычныя і сінкрэтычныя таксама па сваіх тэалагічных, біблейскіх, кніжна-пісьмовых крыніцах. Побач з традыцыйнымі творамі, старажытнымі рэдакцыямі і перакладамі Псалтыра, Апостала, некаторых іншых кніг Бібліі, царкоўнаславянскімі беларускімі рукапісамі ён выкарыстоўваў чэшскія, польскія, заходнееўрапейскія друкаваныя выданні. Спасылкі Скарыны на старажытныя яўрэйскія, грэчаскія, славянскія і лацінскія пераклады, на творы антычных і сярэдневяковых аўтараў сведчаць аб тым, што сваю дзейнасць ён разглядаў у рэчышчы айчынных, агульнаеўрапейскіх і агульнахрысціянскіх культурна-гістарычных працэсаў. З тэалагічнымі, канкрэтна-біблейскімі каментарыямі Скарыны арганічна звязаны ўласна аўтарскія разважанні, адступленні, трактоўкі, апісанні, пропаведзі, што дазваляе адносна аб'ёмна і сістэмна меркаваць аб яго грамадскіх і іншых поглядах. Многія рысы светапогляду Скарыны, яго гістарычнай, этнічнай і сацыяльнай свядомасці абумоўлены спецыфікай гістарычнага развіцця радзімы ў вузкім і шырокім сэнсе (Полаччына і ўся Русь, ВКЛ).

Своеасаблівасць літаратурнай і выдавецкай дзейнасці Скарыны не абмяжоўваецца яго першапраходніцтвам у галіне кірылічнага кнігадрукавання ў Беларусі і Усходняй Еўропе. Яна выразна засведчана жанрава-тэматычным выбарам першадрукаў, перакладам і каментарыямі, адлюстравана ў мастацкіх, літа-

ратурна-пісьменніцкіх, філасофскіх, моўных аспектах выдан-
няў, у агульнай арыентацыі яго творчасці на патрэбы Айчыны і
народа. Калі на радзіме Скарыны завяршаўся працэс фарміра-
вання ўсё больш замкнёнай і размежаванай саслоўна-класавай
структуры, абвастраліся ўнутраныя супярэчнасці, уласныя інта-
рэсы пануючых пластоў сталі паволі прэваліраваць над этнакан-
фесійнымі і культурна-моўнымі традыцыямі, а гарадское пас-
польства было заканадаўча адмежавана ад дзяржаўна-палітыч-
най дзейнасці на агульназемскім узроўні, ён выступіў гарачым
прыхільнікам духоўнага і грамадскага адзінства ўсяго народа.
Упершыню ў гісторыі Беларусі былі так цесна зліты ідэі адзін-
ства і прымату хрысціянскай і этнічнай свядомасці.

Кнігі Скарыны паказальна сведчаць аб істотных зменах у
развіцці духоўных і этнаінтэграцыйных працэсаў на Беларусі,
асэнсаванні гістарычнага і культурна-моўнага адзінства бела-
рускага народа. Традыцыйнасць этнагістарычных вызначэн-
няў — «Русь», «руская мова», «Біблія руска» — не пярэчыць
таму, што Скарына ў сваіх выданнях меў на ўвазе перш за ўсё
Русь айчынную, уласна беларускія землі з іх насельніцтвам, тра-
дыцыямі і культурай. Відавочным пацверджаннем этнагіста-
рычнай і грамадзянскай свядомасці Скарыны з'яўляецца яго за-
міласванне Полацкам і Полаччынай. Яно напаўняе агульнапат-
рыятычныя ўяўленні канкрэтным зместам — любоўю да сваёй
малой радзімы, сям'і, роднай мовы. Патрыятычныя думкі Ска-
рыны асабліва яскрава ўвасоблены ў яго прадмове да кнігі
«Юдзіф» (1519), прысвечанай подзвігу біблейскай удавіцы, якая
пагрозай для жыцця забіла асірыйскага ваяводу Алаферна.
«Абыхомъ яко зеръцало,— пісаў Скарына, звяртаючыся да сваіх
сучаснікаў, — Жену сию преславную пред очима имеюще в доб-
рыхъ делехъ и в любви отчины не толико жены но и мужи насле-
довали, и всякого тружания и скарбовъ для посполитого доброго
и для отчины своея не лютовали». На дзіва ўзнёсла гучыць і на-
ступная перафраза вядомага фрагмента з Бібліі: «Понеже от при-
рожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици,
летающие по возъдуху, ведають гнезда своя; рибы, плавающие
по морю и в рекахъ, чують виры своя; пчелы и тымъ подобная
боронять ульев своих, — тако ж и люди, игде зродилися и ускор-
млены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають». Ад-
сюль і палкае жаданне Скарыны распаўсюджваць хрысціян-
скія і рэнесансава-гуманістычныя погляды, натхняць на карыс-
ную грамадскую актыўнасць, маральную дасканаласць, спасці-
жэнне высокіх сэнсаў зямнога быцця і боскіх запаветаў.

У творах Скарыны своеасабліва сінтэзаваліся антычныя і сярэдневяковыя традыцыі з ідэалогіяй еўрапейскага Адраджэння, хрысціянскі гуманізм з рэнесансава-гуманістычнымі ўяўленнямі. Патрыятычныя пачуцці Скарыны, яго намаганні садзейнічаць усебаковаму духоўнаму і грамадскаму развіццю Айчыны не супярэчаць яго поглядам на гісторыю чалавецтва, права, заканадаўства, звычаі і традыцыі іншых народаў. Ён далёкі ад рэлігійнага фанатызму, ваяўнічага місіянерства. Яго канфесіянальныя погляды вызначаюцца талерантнасцю, а ў пражскіх выданнях нават пэўнай неакрэсленасцю. Сучасныя даследчыкі звяртаюць шмат увагі на характарыстыку асветніцкіх імкненняў Скарыны, яго павагу да свецкіх навук, кніжнай справы, літаратуры, мастацтва, пісьменства, духоўных здабыткаў старажытных часоў і эпохі Адраджэння. Аднак супрацьпастаўленне ў творах Скарыны свецкай і боскай «мудрасці» і «навукі», якое некаторыя даследчыкі лічаць праявай сярэдневяковага светапогляду, – памылковая выснова. Упамінанні аб свецкіх навуках, «душевных телесных лекарствах» нярэдка былі патрэбны Скарыне, каб стварыць яскравы панегірык глыбіннай «прамудрасці» — «тайнам превеликим Божиим». Сапраўдныя асветніцкія погляды Скарыны выяўляюцца ў тым, якія сродкі, на яго думку, найбольш прыдатныя для гэтай велічальнай песні боскай мудрасці. Сярод іх — «вси законы и права», “философия добранравное», «седм наук вызволеных», а таксама грамадская і ваенная гісторыя і інш.

Скарына высока ацэньваў выдатных дзеячаў антычнага свету, знакамітых біблейскіх герояў, пазітыўна ставіўся да сучаснага яму караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта I. У сістэме боскай іерархічнай пабудовы свету і зямной грамадскай гісторыі Скарына аналізаваў вядомую сярэдневяковай тэалогіі антыномію: «закон приложеный» – натуральны (боскі) і «закон писаный»(дзяржаўнае права). Ідэі прававой дзяржаўнасці, справядлівага і маральнага вяршэнства «пісаных» законаў у яго часы былі надзвычай актуальнымі. Менавіта тады быў распрацаваны і зацверджаны першы агульнадзяржаўны збор законаў — Статут ВКЛ 1529 года, які сістэматызаваў і рэгуляваў асноўныя сферы сацыяльных і прававых адносін. Аналогія «прыражонага закона» ў Скарыны — гэта праекцыя ідэальнай мадэлі прававой арганізацыі грамадства, заснаванай на боскіх хрысціянскіх запаветах. «Закон приложеный, — пісаў Скарына, — в том наболей соблюдаем бываеть: то чинити иным всем, что самому любо ест от всех, и того не чинити иным, чего

сам не хощеши от иных имети». «Закон писаный», па словах Скарыны, быў таксама дараваны ад Бога ў Св. Пісанні, а пазней устаноўлены ад людзей праз царкоўныя саборы і земскія законы. Скарына не бачыў неабходнасці ў дэталёвым параўнанні пісаных законаў розных краін і народаў. Для яго больш істотным заставаўся асноўны грамадскі і гуманістычны сэнс права, яго блізкасць і падабенства да «прыраджонага закона». Як абгрунтаванне саслоўна-манархічнага ладу, удасканаленне земскага заканадаўства ўспрымалася сучаснікамі Скарыны яго апісанне старажытных правоў і статутаў, заключаных у біблейскіх кнігах: права паспалітае, язычніцкае, царскае, рыцарскае, гарадское, марское, купецкае і інш.

Палітычныя і сацыяльныя погляды Скарыны складаліся пад уздзеяннем рэальных працэсаў, што адбываліся ў Беларусі, ВКЛ, іншых (не толькі еўрапейскіх) краінах. Палітычным ідэалам Скарыны была, верагодна, моцная і асветніцкая манархічная ўлада, якая падтрымлівала б хрысціянскую справядлівасць, законнасць, правасуддзе, мірныя зносіны з суседзямі, спрыяла развіццю духоўнай культуры, гандлю, рамяства. Гэтаму ідэалу далёка не поўнасцю адпавядала сацыяльна-палітычная рэчаіснасць ВКЛ пачатку XVI стагоддзя з разнастайнай тэрытарыяльна-адміністрацыйнай і царкоўна-канфесійнай структурай, аслабленай вярхоўнай уладай, асобнымі прывілеямі буйных землеўладальнікаў, недасканалай сістэмай свецкага і царкоўнага права. Невыпадкова ўвасабленне свайго ідэала Скарына бачыў у дзейнасці старажытных грэчаскіх і рымскіх цароў і заканадаўцаў: Салона, Нумы Пампілія, Лікурга, егіпецкага цара Пталамея IV Філапатра і інш. Значная ўвага Скарыны да пытанняў права, ролі вярхоўнай улады і грамадства ў выпрацоўцы законаў, ідэй справядлівасці, роўнасці ўсіх людзей перад законам сведчыць пра тое, што ён быў занепакоены рэальным становішчам спраў на сваёй Радзіме, сацыяльнымі супярэчнасцямі, з'явамі феадальнай анархіі, сваявольства.

Светапогляд Скарыны, яго філасофска-этычныя, сацыяльна-палітычныя, эстэтычныя, прававыя, асветніцкія, моўныя, этнічныя і канфесійныя погляды адлюстроўвалі духоўную эвалюцыю найбольш актыўнай і эмансіпіраванай часткі гарадскога насельніцтва Беларусі, а ў пэўнай ступені і ўсяго беларускага паспольства. Антычная і біблейска-хрысціянская духоўная спадчына звязвалася ім з ідэямі еўрапейскага Адраджэння, ренесансавага гуманізму, асветніцтва, прыстасоўвалася да новых патрэбнасцей грамадства.

Духоўныя запаветы Скарыны былі асэнсаваны і ў значнай ступені ўспрыняты і развіты наступнымі пакаленнямі беларускіх мысліцеляў, гуманістаў-асветнікаў, пісьменнікаў, выдаўцоў.

*Літаратура*

*Алексютовіч М.А.* Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Мн., 1958.

*Баразна Л. У.* Гравюры Францыска Скарыны. Мн., 1990.

Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979.

*Владимиров П. В.* Доктор Франциск Скорина и его переводы, печатные издания и язык. СПб., 1888.

*Галенчанка Г. Я.* XVI – XVIII ст. Старадрукаваныя кірылічныя выданні // Кніга Беларусі. 1517 – 1917. Мн., 1986.

*Галенчанка Г. Я.* Францыск Скарына – беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар. Мн., 1993.

*Галенчанка Г. Я.* Францыск Скарына: Спадчына і пераемнікі. Мн., 2002.

*Кайка А.* Тут мой народ: Францішак Скарына і беларуская літаратура XVI – пачатку XX ст. Мн., 1989.

*Лабынцаў Ю.* Пачатая Скарынам Беларуская друкаваная літаратура эпохі Рэнесансу. Мн., 1990.

*Лабынцаў Ю.* Зерцало жития... З літаратурнай спадчыны Скарыны. Мн., 1991.

*Немировский Е. Л.* Франциск Скорина: Жизнь и деятельность белорусского просветителя. Мн., 1990.

*Падокшин С. А.* Франциск Скорина. М., 1981.

*Пічэта У. І.* Scoriniana 1776 – 1926 // 400-лецце беларускаму друку. Мн., 1926.

Скарына і яго эпоха. Мн., 1990.

Спадчына Скарыны: Зб. мат. першых скарынаўскіх чытанняў (1986). Мн., 1989.

Францыск Скарына і яго час. Энцыклапед. даведнік. Мн., 1988.

Чатырохсотлецце беларускага друку. 1525 – 1925. Мн., 1926.

*Літаратура і крыніцы*

Асноўныя даведачныя матэрыялы:

Францыск Скарына і яго час. Мн., 1988; Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 2001. Т. 6 (Скарыназнаўства).

Рэтраспектыўная і бягучая бібліяграфія:

*Тумаш В.* Пяць стагоддзяў Скарыніяны, XVI—XX // Запісы Беларускага Інстытута навукі і мастацтва. Мюнхен, 1970. Кн. 5. Нью-Йорк, 1989.

*Немировский Е. Л.* Начало книгопечатания в Белоруссии и Литве: Жизнь и деятельность Франциска Скорины: Описание изданий и указатель литературы. 1517—1977. М., 1978;

*Неміроўскі Я. Л., Осіпчык Л. А.* Францыск Скарына: Жыццё і дзейнасць. Паказальнік літаратуры. Мн., 1990;

*Грышкевіч В., Юрэвіч Л.* Францыск Скарына: Жыццё і дзейнасць: Паказальнік літаратуры. 1989—1993. Мн., 1995;

*Голенченко Г. Я.* Открытие Скорины. Мн., 1989.

*Галенчанка Г. Я.* Францыск Скарына: Спадчына і пераемнікі: Анатаваны бібліягр. паказальнік (да 1990 г.). Мн., 2002.

Поўны каталог захаваных пражскіх выданняў:

*Nemirowskij E.* Gesamtkatalog der Früchdrucke in kyryllischer Schrift: Band III. Baden – Baden, 1998.

Апісанне выданняў Скарыны і кірылічных друкаў XVI — XVIII ст.// Кніга Беларусі. 1517—1917: Звод. каталог. Мн., 1986.

Найбольш поўная публікацыя актаў:

Францыск Скарына: Зб. дакументаў і матэрыялаў. Мн., 1988.

Перавыданні:

Біблія: Факсімільнае ўзнаўленне Бібліі, выдадзенай Францыскам Скарынаю у 1517—1519 гг. Мн., 1990—1991. Т. 1—3; Апостал 1525 г., перавыдадзены ў ням. серыі “Biblia Slavica”. Paderborn, München, Wien, Zürich. 2002.

Збор літаратурнай спадчыны:

Францыск Скарына: Творы, прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія / Скл. Коршунаў А.Ф. Мн., 1990.

У галіне навуковага Скарыназнаўства плённа працуюць Каўка А., Конан У., Лабынцаў Ю., Мальдзіс А., Падокшын С., Сокалава Ф., Чамярыцкі В., Шматаў В. і інш.

*Георгі Галенчанка*

# Іпаці ПАЦЕЙ (1541–1613)



паці Пацей – пісьменнік-палеміст, грамадскі і царкоўны дзеяч, уладзімірскі і берасцейскі ўладыка з 1590 года, уніяцкі мітрапаліт з 1600 года.

Нарадзіўся ў 1541 годзе ў Ражане Берасцейскага павета, у сям'і падскарбія і пісара Вялікага княства Літоўскага Льва Тышкевіча і Ганны з роду Слушак. Свецкае імя Адам Мацей. Вучыўся ў Кракаўскім універсітэце. У 1550—1572 гадах выконваў абавязкі гаспадарскага двараніна Жыгімонта Аўгуста, паступова і даволі хутка прасоўваўся па службовай лесвіцы: займаў пасады пісара, суддзі і кашталяна берасцейскага.

Пасля смерці жонкі Ганны з Астражэцкіх адмовіўся ад сенатарскай пасады берасцейскага кашталяна, уступіў у ордэн базіліянаў і прыняў імя Іпаці. З 1590 года — праваслаўны епіскап уладзімірскі і берасцейскі, з начатку 1590 года — адзін з найбольш актыўных прыхільнікаў новай царкоўнай уніі. З гэтай мэтай у 1595 годзе наведваў Рым і вёў перамовы з папам. Напярэдадні берасцейскай уніі 1596 года і да пачатку другога дзесяцігоддзя XVII стагоддзя — актыўны ўдзельнік літаратурна-рэлігійнай палемікі з праваслаўнай і ў пэўнай ступені з рэфармацкай апазіцыяй, кананічны галава уніяцкай царквы, палітычны дзеяч. Перапісваўся з канцлерам Львом Сапегам, іншымі саноўнікамі Рэчы Паспалітай. Нягледзячы на тое, што уніяцкая духоўная іерархія не была прадстаўлена на вальных сеймах, ускосным шляхам імкнуўся ўздзейнічаць на рашэнні па царкоўных праблемах. У супрацьдзеянні праваслаўнай і асабліва брацкай апазіцыі нярэдка абапіраўся на падтрымку свецкай улады.

Іпаці Пацей — побач з Мялеціем Сматрыцкім — адзін з найбольш актыўных і таленавітых стваральнікаў новай літаратурнай мовы, аўтар шэрагу палемічных твораў, напісаных пад выразным уплывам жывой беларускай гаворкі.

Цікавы не столькі яго уніяцкія канцэпцыі, гістарычныя і тэалагічныя довады, дзе ў значнай ступені ён выкарыстоўвае багаты плён літаратурна-палемічнай дзейнасці Пятра Скаргі і іншых дзеячаў контррэфармацыі Рэчы Паспалітай, колькі яго ўласныя творы і пераклады. Іпаці Пацей выступіў як рэфарматар царкоўна-рэлігійнай пісьменнасці, палемічнай мовы, зрабіў яе даступнай і зразумелай простай «паstве». Зразумела, для гэтага былі свае царкоўныя і ідэалагічныя падставы, зацікаўленасць у пашырэнні сацыяльнай асновы уніяцтва ў перыяд значнай і часам жорсткай канфрантацыі грэка-католікаў з артадоксамі і «схізматыкамі», але ў жанрава-моўных адносінах ён дабіўся значных поспехаў. Па сутнасці, Іпаці Пацей разам з некаторымі іншымі праваслаўнымі і уніяцкімі дзеячамі, палемістамі і пісьменнікамі стаў стваральнікам літаратурнай мовы новага гістарычнага перыяду, літаратурнай і палемічнай публіцыстыкі Новага часу. У гэтых адносінах, нягледзячы на ўсю ўмоўнасць параўнання, яго творчасць можна супаставіць з творчасцю выдатнага рэфарматара рускай мовы другой паловы XVII стагоддзя знакамітага Авакума. І як творы і прамовы апошняга ў гісторыі рускай культуры, так і выданні Пацея займаюць сваё месца ў палітычнай культуры Вялікага княства Літоўскага, у гісторыі беларускамоўнай і польскамоўнай літаратуры пераходнай эпохі.

Большасць твораў Пацея, як і брацкіх палемічных выданняў, была надрукавана ананімна. Яго аўтарства нярэдка праследжваецца па моўна-стылявых прыкметах, ускоснымі гістарычнымі рэаліямі. Даследчыкамі прыпісваюцца Пацею наступныя творы і выданні: «Унія, або Выклад старажытных артыкулаў да ўз’яднання грэкаў з касцёлам рымскім» («Unia albo wyklad..., Вільня, друк Мамонічаў, 1595); «Пасольства да папы рымскага Сікста IV» (Вільня, 1605); «Аб прывілеях, наданых ад найяснейшых каралёў польскіх...» (Вільня, 1605?); «Гармонія, альбо Узгадненне царквы ўсходняй з рымскай» (Вільня, 1608); Казанні Іпація Пацея (Супрасль, 1714. Пераклад з беларускай на польскую Ляона Кішкі). Пацей таксама пераклаў на беларускую мову твор Пятра Скаргі «Сынод берасцейскі», які быў надрукаваны ў Вільні ў 1597 годзе пад назвай «Апісанне і абарона сабора рускага берасцейскага».

Вялікую эпісталярную спадчыну Пацея складаюць яго лісты да князя Канстанціна Астрожскага, канцлера Льва Сапегі, Яна Замойскага і іншых вядомых саноўнікаў, палітычных і культурных дзеячаў Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай. У сваіх пасланнях Пацей закранае самыя разнастайныя пытанні: ад унутры- і знешнепалітычнага становішча «дзяржавы абодвух народаў» да царкоўных і маёнткавых спраў. Нярэдка закранае ён і выдавецкія справы, хадайнічае аб падтрымцы пэўных асоб і яго ўласных спраў на вальных соймах, у трыбунале Вялікага княства Літоўскага і ў іншых інстанцыях.

Некаторыя гісторыкі прыпісваюць Пацею таксама наступныя творы (аўтарства гіпатэтычнае): «Антырэзіс, або Апалогія супраць Хрыстафора Філарэта» (Вільня, 1600, друкарня Даніэля Лянчыцкага); «Рэляцыя аб некаторых забурэннях вакол царквы рускай віленскай» (Вільня, 1609); «Уваскрашэнне Налівайкі» (выданне не захавалася, назва хутчэй за ўсё не адпавядае арыгінальнаму твору і носіць палемічна-сатырычны характар).

Пяру Іпація Пацея, безумоўна, належыць выяўлены нядаўна намі твор «Справедливое описанье поступку и справы сынодовое, и оборона згоды и единости сьвершенное, которая се стала на сыноде берестейском. В року АФЧС (1596), напротив явного фальшу и потвары сыноду якогось змышленого а радшей сь борища покутного геретыческого в дому павкатьномь геретыческом отправованого Через одного зь преложоных духовныхь церкви руское» (Вільня, 1597). Кніга напісана на простай «рускай» (старажытнабеларускай) мове.

Выданне не мае сваіх унутраных частак і раздзелаў, таму змест кнігі можна перадаць толькі агульным скарочаным апісаннем.

Пачатак: «Несподевалемъсе, абы тая справа зъгоды и милости християнское, которая не давно межы церковъю римъскою а греческою... залецанья албо обороны, поневажъ кождый христаньский ч(е)л(ове)къ ведаеть добре яко Исусъ Христосъ... згоду и милостъ въ Евангелии своеи святои залецити рачыл...». На думку ананімнага аўтара (Іпація Пацея), усе, хто падтрымлівае царкоўную згоду, з'яўляюцца вучнямі Хрыста. «А хто зась згоды и милости християнъское бегаетъ и пореть ее, таковый кождый сыномъ дъявольскимъ и геретыкомъ назвать се можетъ».

Далей аўтар выкладае пяць абвінавачванняў або «кламств», якія праціўнікі уніі выстаўляюць яе абаронцам. «А напродь яко

тая речь новая и никогды не слыханая втомъ паствe пачатися мела. Другая, же бы тою едностью права и вольности християнъские ламатися мели. Третяя, яко бы се Руси кгвалт мелъ десяти, иж ихъ до инъшое веры прымушають безъ позволен(ь)я ихъ на то. Четвёртая, яко бы церемонии вси церъкви восточъное в нивечъ обернутиси, и на рымские звычае претворитисе мели. А на остатокъ, указаючы якись иньшый сынодъ и поступки его быти слушные, а затимъ и декрета якиесь сынодовые посланцовъ патрияpших по панстве розносечы, людей християнъскихъ от повинъного послушенъства пастыровъ власныхъ от господа бога и от к. м. яко звирхнего пана постановеных тводечы..., покой посполитый взрушаючы, бунъты розмаитые чынечи безъ встыду и боязни божое перестаютъ» (трэба: «не перестаютъ». — Г. Г.).

«Здаломисе на то за речъ слушную для ведомости певънейшое всимъ тую справу, *котороемъ добре ведомъ и ина штомъ очима своимаи гляделъ для престроги людемь што накоротшей на писме выдати* (курсіў наш. — Г. Г.), абы люде неведомые правду щирую видечы, кламству большей не верили, и плетекъ не слухали, а межы себе розъсевати явного фальшу не допущали. Што есть и з образою божею и ославенъ емъ напристойным светобливого а праве ласкавого отцевского панованья» яго каралеўскай міласці.

Абвяржэнню згаданых пяці «кламстваў» прысвечана ўся астатняя (асноўная) частка кнігі. Умоўна ўсю аргументацыю, што прыводзіцца ў гэтым творы, можна падзяліць на гістарычна-прававую, царкоўна-рэлігійную, грамадска-палітычную, сацыяльную. Што тычыцца гістарычных аргументаў, то аўтар раіць чытачам азнаёміцца з кнігай Пятра Скаргі «О порядку и единости церъкви божое»(польскамоўнае выданне, 1590) і саборнымі справамі. На яго погляд, не варта залішне давяраць «руским правилцам», Намаканонам, «бо там того не найдешъ, але до метрыкъ и справ зупольных синодовых, и до летописцовъ церьковных». Ён абяцае чытачам абгрунтаваць свае сцверджанні шматлікімі гістарычнымі і сучаснымі прыкладамі. «Я тольки то покажу тобе явне, што се в том паньстве пана нашего, а отчизне нашой деяло, абысь ис того обачилъ, новые ли то речи...». Далей красамоўна апісваюцца асноўныя этапы царкоўна-рэлігійнай «згоды і еднасці» рымскай і грэчаскай цэркваў, пачынаючы з Фларэнційскага сабора 1439 года. Зразумела, належная ўвага ўдзяляецца уніяцкаму мітрапаліту Ісідару. «Бо был человекъ в греческом

писме баръзо учоный, а не только былъ митрополомъ (sic. — Г.Г.) всея России, але и сиренскимъ паньства венъкгерского. Якосе то с подпису его на томъ сыноде значить». Гэтае «зъедноченъе», сцвярджаў аўтар, доўга трымала Русь і выправіла прывілей Уладзіслава ў 1445 годзе (трэба: 1443 годзе. — Г. Г.). Дадзены прывілей быў канфірмаваны польскім каралём і вялікім князем літоўскім Аляксандрам на Пётркоўскім сойме 1504 года пры ўдзеле вялікага канцлера Яна Ласкага.

Аўтар кнігі добра знаёмы з гістарычнымі хронікамі і летапісамі, няблага ведае дзяржаўнае і сучаснае яму судовае справаводства. Як і ў большасці іншых палемічных твораў Іпація Пацея, гістарычныя і палітычныя сцверджанні звычайна падмацоўваюцца канкрэтнымі спасылкамі на розныя акты і дэкрэты. Так, аўтар сцвярджае, што копію са старога прывілея польскага караля і вялікага князя літоўскага Аляксандра няцяжка знайсці ў львоўскіх гродскіх кнігах, «вписаныи року тысеча ФЛЗ» (1537 годзе), а ў часы Стэфана Баторыя да папярэдніх прывілеяў былі дададзены яшчэ два новыя (сігн. Б 4а).

Аўтар апелірue да саслоўнай і прававой свядомасці «рускага народа», асабліва шляхты і духавенства. Адзначаючы заняпад уніяцкіх тэндэнцый у пачатку XVII стагоддзя, нягледзячы на прывілей Аляксандра і пасольства паноў Сапегаў да Рыму, ён падкрэслівае: «ижъ недъбалостью самоежъ Руси и духовныхъ ихъ занехалосе то было якось, мж сами не хотелисе почувати въ своих вольностяхъ». А калі тыя прывілеі царкоўныя зламаць, то і аб іншых «правахъ нашыхъ звоньтышти муселі». «Але если же правъ своих свецъкихъ моцно стережете, не ламаитежъ и церкви божои правъ ее давнейшых, и не называйте того навиною...».

Пераходзячы да Берасцейскага сабора 1596 года, Пацей адзначае прынцыповае адрозненне уніяцкай царквы ад праваслаўнай, некананічную, з яго пункту гледжання, сувязь праваслаўнай апазіцыі з простым духавенствам і свецкім паспалітым людам. Унію, сцвярджаў ён, падтрымала ўся царкоўная іерархія, акрамя «премыскогои львовскго» уладык, якія сталі апосталамі. «А о другихъ малодъшых, если бы которые тому противни быти хотели, пытаю, хто кимъ владаеть, чя попы владыками были владыкове попами, которым порядок церкви божой естъ поручоный. Бо не до поповъ ани до светскихъ мовитъ духъ светый. Внемаите убо собе и всему стаду, в немъ же васъ духъ светый постави епископы, пасти церковъ...» (В 1б).

Значную перавагу уніяцкай царквы над праваслаўнай ён бачыць у жорсткіх канонах яе ўнутранай арганізацыі,

падначаленні епіскапам. У параўнанні з рымскім першасвяшчэннікам усходнія патрыярхі не могуць прэтэндаваць на кіраўніцтва ўсяленскай царквой, бо яны падуладны Турэцкай імперыі і вымушаны выконваць яе загады. Рымскі папа «на вечную метку хути свое противъ народови Русскому умаслилъ в тыхъ краехъ паньства его королевской милости коштом своимъ Колеи альбо семинариум, на колькодесятъ особъ фундовати, в котором бы млоденъцове руские училися языка Словеньского и греческого, а звлаща у писме светом.., с которыхъ абы потомъ на станъ духовный годные и учоные люди въступовати могли» (А 1б).

Вялікае раздражненне ў аўтара выклікае актыўны ўдзел у Берасцейскім праваслаўным саборы 1596 года і ў іншых царкоўных справах простага люду, паспалітых свяшчэннікаў.

Свецкія — «мірскія» — людзі павінны ісці следам за пастырамі, епіскапамі, вышэйшымі духоўнымі іерархамі і не ўмешвацца ў царкоўныя справы. «Свецъких людей, освецоныхъ княжатъ и панов зацных, врядников и шляхты учтивое, якогожь кольвекъ стану не тыкаю, яко не належных до тое справы...» (И 4б).

Нягледзячы на падобную кастатацыю, не дзіўна, што аўтар, як і многія тагачасныя уніяцкія і каталіцкія палемічныя пісьменнікі, удзяляе значную ўвагу знакамітым «рускім» вяльможам, не абыякавым да царкоўна-рэлігійных пертурбацый, перш за ўсё — Канстанціну Астрожскаму. Аўтар сцвярджае, што сам бачыў ліст кіеўскага ваяводы К.Астрожскага з яго подпісам, дзе ён, пішучы да ўладзімірскага ўладыкі, паведамляе аб сваіх старых размовах з папскім пасланнікам «Писованом» (Пасевінам. — **Г. Г.**) па справах «згоды и едности».

У кантэксце грамадска-палітычных і канфесійных адносін праследжваецца ў кнізе і дзейнасць Свята-Духава — галоўнага беларускага брацтва ў Вялікім княстве Літоўскім. Аўтар абвінавачвае братчыкаў у распаўсюджванні злосных вымыслаў пра «праваслаўных католікаў» (уніятаў), друкаваных выданняў, у падбухторванні простага паспалітага люду да бунтаў, розных незаконных эксцэсаў.

Заканчваецца кніга ўсхваленнем вучоных езуітаў («азалі не сутъ хрестияне и ученьшие далеко нижли вси попы греческие и з владыками»), прызывам да прыхільнікаў грэчаскай канфесіі не падтрымліваць сувязей з гарэтыкамі (пратэстантамі) і не верыць росказням і баламутням аб «праваслаўных католіках». Унікальны экземпляр кнігі, які

захаваўся ў бібліятэцы Акадэміі навук у Пецярбургу, пераплецены з іншым творам Пацея — «Уния, або Выклад старажытных артыкулаў да ўз'яднання грэкаў з касцёлам рымскім» (Вільня, 1595). Ужо ў канцы XVI стагоддзя «Справедливое описанье...» Пацея разышлося па землях Беларусі і Украіны і выклікала, у прыватнасці, з'едлівую водпаведзь знакамітага ўкраінскага пісьменніка Іаана Вішэнскага.

Адно з найбольш спрэчных выданняў, аўтарства якога прыпісваецца Пацею, — гэта «Пасланне да папы рымскага Сікста IV» 1478 года, надрукаванае ў 1605 г.(?) у друкарні Мамонічаў.

Публікацыя кнігі «Пасланне да папы рымскага Сікста IV» (далей — Пасланне або Ліст) мае доўгую гістарыяграфію і палемічную традыцыю. Па словах публікатара, рукапіс кнігі знойдзены выпадкова ў старажытнай царкве ў Крэве. Упершыню ў гісторыі беларускай і ўсходнеславянскай пісьменнасці паходжанне рукапісу і яго аўтэнтычнасць пацвярджаюцца афіцыйным актам даследавання, складзеным членамі віленскага магістрата 15 чэрвеня 1605 года. Апублікаванне Паслання да папы рымскага Сікста IV адразу выклікала палемічныя і непрыязныя водгукі брацкіх і царкоўных праваслаўных ідэолагаў.

Першым адазваўся ананімны аўтар «Трэнаса» (Мялеці Сматрыцкі: Свята-Духава брацкая друкарня ў Вільні, 1610), які сцвярджаў, што панегірычны стыль Паслання сведчыць аб яго паходжанні.

У сваю чаргу ў 1617 годзе ліст да папы рымскага зусім ў іншым сэнсе згадаў уніяцкі пісьменнік Леон Крэўза, вызначыўшы тым самым ідэалагічныя межы далейшай палемікі. Апісваючы сціслыя біяграфіі кіеўскіх мітрапалітаў, асабліва тых, якія, на яго погляд, прытрымліваліся уніі, Крэўза прыпомніў і смаленскага епіскапа Місаіла, абранага мітрапалітам у 1474 годзе: «У яго часы пасольства да папы рымскага было адпраўлена».

Упамінаецца фальшывы Ліст да папы Сікста IV і ў Парэнезісе 1629 года (с. 47 арыг.), Экзэтэзісе 1629 года (92 — 93 адв. арыг.) і іншых палемічных творах.

Пасля прыняцця Сматрыцкім уніі ў сярэдзіне 20-х гадоў XVII стагоддзя ён стаў спасылацца на Пасланне да Сікста IV як на рэальнае.

У творы М. Сматрыцкага — «PARAENESIS abo NAPOMNIENIE od w Bogu wielebniego Meletiusza Smotrzyskiego

Rzeczonego Archiepiskopa polockiego... do Przezacnego Bractwa Wilenskiego, Cerkwie S. Ducha, a w osobie iego do wszystkiego tey strony Narodu Ruskiego uczynione...» (Кракаў, 1628) сцвярджалася (у шэрагу іншых храналагічных падзей), што «еднасць Рымскай і Рускай цэркваў была і тады, калі ў року 1476 да Сікста IV увесь народ рускі разам з мітрапалітам Місаілам саборна пісаў, в паслы сваі пасылаў» (с. 47, арыг.).

У іншай тагачаснай кнізе М. Смотрыцкага «EXETHESIS abo expostulacia, to iest rozprawa Miedzy Apologia y Antidotem... do oboiey Strony Narodu Ruskiego» (Дзерманскі манастыр, 1629) высмейваецца «надзвычай глупае» сцверджанне апанентаў, быццам Пасланне напісана нейкім масквіцінам да мітрапаліта Макарыя. Аўтар падкрэслівае, што немагчыма зблытаць Місаіла з масквіцінам — праваслаўнага мітрапаліта з рымскім першасвяшчэннікам (92 – 92 адв., арыг.), а сам Ліст знойдзены ў кіеўскай царкве, а не ў Масковіі. Пазней аб сапраўднасці або фальшывасці Паслання да папы Сікста IV спрачаліся шмат якія польскія, рускія, беларускія даследчыкі, царкоўныя дзеячы і іерархі.

Палеміка вакол пытання аб аўтарстве Паслання працягвалася да нашых часоў, і толькі знойдзены ў фондах РДМ у Маскве старажытны рукапіс з фрагментамі згаданага Ліста, здаецца, канчаткова даказаў яго аўтэнтычнасць.

Упершыню ў гісторыі беларускага пісьменства невядомы старажытны твор XV ст., выяўлены самім Пацеем, выкарыстоўваецца ў палемічных мэтах.

*Літаратура*

Гісторыя беларускай літаратуры. Мн., 1985.

*Дмитриев М. В.* Посольство Ипатия Потия и Кирилла Терлецкого в Рим в 1595-96 гг. // Славяноведение. 1996. № 2.

*Kiszka L.* Zywot meza bozego pamieci niesmiertelnej Hipacjusza Poceja. Suprasl, 1714.

*Кішка Л.* Жыццяпіс Іпацiя Пацея // Спадчына. 1998. № 4.

*Лаўрык Ю.* Пацей Іпацій // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1999. Т. 5. С. 454 – 455.

*Левицкий О.* Ипатий Потей, Киевский униатский митрополит // Памятники русской старины в западных губерниях Холмской Руси. СПб. 1885. Вып. 8.

*Марозава С.* Уніяцкая царква ў культурна-гістарычным развіцці Беларусі (1596 – 1839 гг.). Гродна, 1996.

Мысліцелі і асветнікі Беларусі. Энц. даведнік. Мн., 1995.

*Падокшын С.А.* Іпацій Пацей. Царкоўны дзеяч, мысліцель, пісьменнік на пераломе культурна-гістарычных эпох. Мн., 2001.

*Падокшын С.А.* Унія. Дзяржаўнасць. Культура (філасофска-гістарычны аналіз). Мн., 1998.

*Саверчанка І.* Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі. Адраджэнне і ранняе барока. Мн., 1998.

*Studzinski C.* Ze studiow nad literatura polemiczna. Krakow, 1905.

*Трипольский Н.* Униатский митрополит Ипатий Потей и его проповедническая деятельность // Труды Киевской Духовной академии. Киев. 1877 — 1878.

*Франко І.* Життє й літературне діяльність Іпатія Потія // Іван Франко. Тв: у 50 т. Київ, 1983. Т. 39. С. 508 – 552.

Выданні твораў:

1. Акты, относящиеся к истории Западной Руси. СПб., 1851. Т. 4.

2. Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. СПб., 1863. Т. 1 – 2.

3. Памятники полемической литературы. 1882, 1903. Кн. 2—3.

4. Архив Юго-Западной России. Киев, 1883. Ч. 1, т. 4.

5. *Студинський К.* «Пам'ятки полемічного письменства кінця XVI і поч. XVII в. Львів, 1906. Т. 1.

Дакументальныя матэрыялы:

Уния в документах / Сост. В. А. Теплова, З. И. Зуева. Мн., 1997.

Бібліяграфія:

Українські письменники: Біо-бібліографічний словник / Уклав Л. С. Махновець. Київ, 1960. С. 466 – 471.

Nowy Korbut. Warszawa, 1965. T. 3.

*Георгі Галенчанка*

# Ян ДУБОВІЧ
## (канец XVI ст.–1646)

н Дубовіч – царкоўны і культурны дзеяч, пісьменнік-паленіст. З багатай мяшчанскай сям'і беларускага паходжання. Бацька — Ігнат Дубовіч — згадваецца ў віленскіх актах з пачатку другога дзесяцігоддзя XVII стагоддзя на пасадзе віленскага бурмістра. Разам з Лявонам Мамонічам і іншымі магістрацкімі асобамі, членамі віленскага уніяцкага брацтва, удзельнічаў у судовым працэсе з праваслаўным віленскім брацтвам Святога Духа па справе аб прысваенні прывілеяў Троіцкага манастыра.

Аб заможнасці сям'і Дубовічаў можна меркаваць па легацыі Ігната Дубовіча Троіцкаму манастыру ў 1621 годзе сумы 12 200 коп грошаў літоўскіх, на што быў набыты даволі значны маёнтак — Меднікі Гедайтанскія. Ігнат Дубовіч быў жанаты з Ганнай (Аннай) Бандзювечыкоўнай, якая перажыла свайго малжонка. Ян быў старэйшым сынам, пасля яго нарадзіліся яшчэ Аляксей і Стэфан.

У 1619 годзе па даручэнню полацкага уніяцкага епіскапа Іасафата Кунцэвіча выконваў абавязкі намесніка ў Магілёве, дзе падначаленыя яму асобы былі абвінавачаны ў нападзенні на брацкую школу і бакалаўра. У 1634 годзе стаў архімандрытам Лешчынскага манастыра (каля Пінска) і амаль адразу атрымаў у дадатак архімандрыю Дзерманскую. У 1638 годзе уніяцкі епіскап Цярлецкі зняў Дубовіча з Дзерманскай архімандрыі, але праз год той вярнуўся і жыў тут да сваёй смерці.

Актыўна займаўся гаспадарчай і паўсядзённай манастырскай дзейнасцю, літаратурнымі справамі. Прыкметна вылучаўся сярод іншых уніяцкіх духоўных іерархаў сваёй адукаванас-

цю, веданнем замежных моў, права, царкоўных і свецкіх навук, асабістым бібліятэчным зборам.

З 20-х гадоў Дубовіч усё больш увагі надае асветніцкай і літаратурна-выдавецкай дзейнасці. Першы яго твор — пахавальны панегірык — быў апублікаваны ў 1627 годзе галоўнай базіліянскай друкарняй Вялікага княства Літоўскага ў Свята-Троіцкім манастыры ў Вільні: «Казанне на пахаванне яснавяльможнай пані... Барбары Нарушовічоўны, Янушовай Скуміновай Тышкевічовай, ваяводзіны троцкай, юрборскай, нававольскай і інш. старасціны». («Kazanie Na Pogrzebie Jasnie Wielmozney Paniey Jey M/Paniey Barbary Naruszowiczowny, Januszowey Skuminowej Tiszkiewiczowey Woiewodziney Trockiey Jurborskiey Nowowolskiey Starosciney. Mane w Cerkwi Wilenskiey Troyce Przenaswietszey 2 dnia Września Roku P. 1627, przez O. Jana Dubowicza Ord. S. Bazilli r. 1627». У 4, арк. 20).

Сціплыя рамкі панегірычнага жанра не задавальнялі Дубовіча. Амаль усе іншыя яго кнігі — буйныя літаратурна-палемічныя творы, абагульняючыя агляды па еўрапейскай і айчыннай царкоўнай гісторыі. Верагодна, нярэдкія судовыя працэсы, звязаныя з манастырскімі і архімандрыцкімі справамі, неабходнасць высветліць крыніцы і межы царкоўнай юрысдыкцыі заахвоцілі Дубовіча даручыць мясцоваму кнігапісцу Нікадыму Казіцкаму скласці амаль невядомы сучасным даследчыкам збор візантыйскага кананічнага царкоўнага права «рускай» (беларускай) рэдакцыі: "Кормчя, або Намаканон в б(о)госпасаемом граде Пинску при благочестивом еп(и)с(ко)пе того града Рафаиле Корсаку в монастыру Лещу повелением настоятеля и на тот час честного отца Иоанна Дубовича и накладом чудотворныя Лавры Жировицкыя, ц(е)ркви Оуспения Прес(вя)тыя Б(огороди)ца, в ней же и положена ес(ть)». Па невядомых прычынах кодэкс не быў выдадзены.

З наступных прац Дубовіча найбольш вялікія і змястоўныя носяць палемічны і ў той жа час навукова-пазнавальны і адукацыйны характар. Пасада архімандрыта багатага і ўплывовага Дзерманскага манастыра дазволіла Дубовічу карыстацца паслугамі львоўскай друкарні Себасц'яна Навагародскага. Тут у 1644 годзе быў апублікаваны яго твор «Іерархія, або Аб зверхнасці ў царкве Божай» («Hierarchia abo o Zwierchnosci w Cerkwi Bozoy. Od Wieleb. Oyca Jana Dubowicza, Archimandryty Monastera Dermanskiego, w druk za dozwoleniem Starszych podana». У 4, арк. 5, с. 260, арк. 1).

Праца напісана пераважна па апублікаваных крыніцах,



5. Зак.2059

выданнях найбольш вядомых летапісцаў і храністаў XVI – пачатку XVII стагоддзя — Мацея з Мехава, Марціна Кромера, Мацея Стрыйкоўскага, Марціна і Іаахіма Бельскіх, Гваніні, вучоных-«лацціннікаў», але з выкарыстаннем унікальных і мясцовых звестак. «Іерархія...» падзяляецца на некалькі кніг са сваімі раздзеламі: кніга 1 «Аб царкве», 2 — «Аб звярхнасці Пятра св.» (с. 25), 3 — «Аб сукцэсарах (пераемніках) Пятра св.» (с. 44); «Аб тым, як Русь хрысцілася і што стала потым у расійскім набажэнстве» (с. 161 і далей).

Цікавыя аспекты працы звязаны з характарыстыкай прававых сістэм розных, у тым ліку язычніцкіх народаў. Па словах аўтара, звычаёвае права паганскіх народаў — персаў, скіфаў, татар — дазваляе есці людзей, чужаложыць. Скіфы, татары і «літва» разам з нябожчыкамі спальвалі іх «каханкаў». Прыхільнікі Магамета сцвярджаюць, што яму пакланяюцца і просяць яго аб літасці бог і анёлы і г.д. На думку Дубовіча, найлепшым у прававых і маральных адносінах у старажытным свеце быў «Статут Платона» (с. 4). У другой кнізе чытач празрыста падводзіцца да думкі аб тым, што грамадска-палітычны лад Рэчы Паспалітай з яе соймамі, соймікамі, трыбуналамі нагадвае нябесныя звычаі. Гэта кніга асабліва насычана нападкамі на праваслаўных і брацкіх палемістаў, якія, па яго словах, скажаюць св. Пісанне і царкоўную традыцыю. «Зізаній — дурны схізматык, сцвярджае, што Хрыстос — бачная галава на зямлі», хоць св. Іаан вучыў, што яго можна ўгледзець толькі духоўнымі вачыма.

У палеміцы з брацкімі пісьменнікамі і выдаўцамі Дубовіч нярэдка абапіраецца на сведчанні з «рускіх» (беларускіх і ўкраінскіх) твораў: спасылаецца на кіеўскага мітрапаліта — «яко мы, Русь, называем Грыгорыя ў Трэбніках царкоўных», пахвальнае казанне Цамблака на Пятра і Паўла, цытуе «рускія» саборнікі, маскоўскія і армянскія хронікі і інш. Дастаецца ад аўтара і іншым заступнікам «схізматыкаў»: украінскаму пісьменніку і царкоўнаму дзеячу Захарыю Капысценскаму, ананімнаму аўтару Апокрысіса — нейкаму Філалету, Васілію Суражскаму, Астрожскаму клірыку і інш. Па словах Дубовіча, дэкрэт папы, дадзены на Фларэнційскім саборы, упісаны ў тры віленскія рукапісныя зборнікі, адзін з якіх ледзве не разадраў Зізаній. Аўтар беспадстаўна прыпісвае Цамблаку невядомы навукоўцам эдыкт аб забароне будаваць новыя неуніяцкія і ўзнаўляць старыя праваслаўныя храмы ў Вялікім княстве Літоўскім. Ён называе Цамблака руплівым уніятам, 30 гадоў за сакрай,

прысланым з Рыма. «Набожны і справядлівы пан, як яго і сам летапісец маскоўскі ганаруе». Значнае месца адведзена, як звычайна, абароне сімвалаў веры, каталіцкай, уніяцкай, тэалагічнай дагматыкі. Закранаючы спрэчкі вакол «чысцілішча», аўтар не без іроніі адзначае: «Як хацім, так і называем яго, хоць па-арабскі было б месца затрымання да часу. Яго нават равіны прызнаюць».

Нягледзячы на тое, што Дубовіч быў у блізкіх стасунках з Мялеціем Сматрыцкім у перыяд уніяцкай дзейнасці апошняга і ведаў аб яго аўтарстве ў складанні, мабыць, самай знакамітай палемічнай брацкай кнігі канца XVI — пачатку XVII стагоддзя — «Трэнаса», ён крытыкуе таксама «Лямант царквы рускай» і іншыя падобныя публікацыі. Як і шмат якія тагачасныя каталіцкія і уніяцкія палемісты, Дубовіч прызнае духоўны ўплыў праваслаўных тэолагаў, брацкіх беларускіх і ўкраінскіх друкаў на просты люд, на пасольствы. «Быў час, калі кнігі іх успрымалі быццам саборныя, пакуль вочы вам не адкрыліся. Пакіньце іх да канца, аддайце Плутону (богу падземнага царства. — Г. Г.), вяртайцеся да Царквы Маці».

Прававыя, прыродазнаўчыя і асабліва астранамічныя інтарэсы Дубовіча выразна прагледжваюцца і ў іншым менш вядомым яго творы «Каляндар сапраўдны царквы Хрыстовай» («Kalendarz prawdziwy cerkwi Chrystusowey od W. Oyca Jana Dubowicza Archimandriey Monastera Dermanskiego. Za pozwoleniem Starszych w druk podany». У Вільні, у друкарні айцоў базыліян манастыра Св. Тройцы, 1644. У 4, арк. 3, с. 92).

Галоўная прыкладная мэта працы — абарона «новага» грыгарыянскага календара. У адрозненне ад іншых падобных выданняў, дзе пераважаюць даволі стэрэатыпныя тэалагічныя доказы, тут надзвычай шырока разглядаюцца астранамічныя аргументы. Гэта першы вядомы нам твор уласна беларускага аўтара з такім значным каляндарна-астранамічным і прыродазнаўчым кантэкстам.

Кніга прысвечана Уладзіславу Даменіку, князю на Астрогу і Заслаўю, графу на Тарнаве. Дзеянні знакамітага рода пачынаюцца з часоў заснавальнікаў Русі — князёў Ігара, Аскольда, Дзіра, вялікага кіеўскага князя Уладзіміра. Славутых продкаў рода можна ўбачыць на нябёсах. Сярод іх знакаміты ваявода троцкі князь Канстанцін Астрожскі, слаўны сваёй перамогай пад Оршай, дзе ён разбіў 80 тысяч маскавітаў.

За прысвячэннем непасрэдна ідуць раздзелы кнігі. Першы — «Пра тых, хто пісаў аб календары» («O tych którzy pisali o kalendarzu»). Аўтар агаворвае, што не збіраецца падрабязна апі-

сваць нябесныя «абароты», іншыя «цяжкія да зразумення працэсы». Гаворка пойдзе толькі аб тых рэчах, якія служаць «сучаснай матэрыі», вызначэнню штогадовых свят рухомых, т. зв. мабілія (mobilia). Паколькі, па яго словах, гэта навука цяжкая, трэба аддаць даніну зацным вучоным аўтарам, што прысвяцілі ёй свае працы і даследаванні. Сярод твораў і аўтараў упамінаюцца Іосіф Жыд (аўтар іудзейскай вайны Іосіф Флавій, які сцвярджаў, што Адам ведаў пра бег нябесны), кнігі Старога Запавету (Пяцікніжжа, Параліпаменон), паэты Гэсіёд, Гамер і інш. Асабліва прыдаўся да каляндарных рэформ адзін з сямі старажытных мудрацоў — Фалес. Менавіта ён, па словах рымскага гісторыка Карыёна, з'яўляецца першаадкрывальнікам нябесных арбіт (odrotow). Ён падзяліў год на 361 дзень, бо «раней бег сонца да мясцовага года прыстасоўвалі», расказаў аб зацьменнях планет і вызначыў пункты раўнадзенства — aequinoctiorum. Вучыўся гэтым тайнам ад егіпцян, бо Егіпет і Александрыя славіліся сваімі школамі ўсіх навук. Александрыйская бібліятэка, якую ўзбагаціў Арыстоцель і аздобіў Пталамей, захоўвала ў сваіх зборах 200 тысяч знакамітых кніг з усяго свету. Яна загінула ў часы пампейскіх і юліанскіх (цэзараўскіх) войнаў.

Па словах Дубовіча, фундаментальныя адкрыцці старажытных вучоных далі падставу айцам Нікейскага сабора прызнаныць александрыйскага патрыярха за асноўнага дазорцу штогодняга вызначэння Пасхі. Жыў Фалес паблізу ад Алімпійскіх гор у Грэцыі, дзе кожныя чатыры гады, 21 красавіка, адбываліся алімпійскія гульні. Удакладніў і дадаў да сонечнага календара 5 дзён вучань Фалеса Мілезіус.

Не можа абысці аўтар «неапошняга сярод матэматыкаў», сіракузскага і сіцылійскага «мешчаніна» Архімеда. «Дзіўным майстэрствам стварыў сферу з празрыстай шкляной матэрыі, з дапамогай якой можна назіраць за бегам нябескім». «Жыў ад заснавання Рыма ў 5000 годзе і далей».

Упершыню, здаецца, у творах беларускіх пісьменнікаў згадваюцца індыйскія філосафы-брахманы. Не выпадкова чарнакніжнік Тыяніус Апалоніус для папаўнення сваіх ведаў аб бегу нябесным падарожнічаў да старшага брахмана Ярхі, што сядзеў на залатым прастоле (na zlotey stolicy siedzacego). «Пішуць пра Піфагора, што ён вучыўся бегам нябескім і іх наступствам у брахманаў, а геаметрыю пасцігаў ад халдзеяў». На думку Дубовіча, найбольш дасканалым у спасціжэнні астранамічных тайн быў ізраільскі цар Саламон, «але яго навука астраномія да нас не дайшла. Верагодна, егіпцяне, бо з егіпецкім фараонам быў

параднёным, шмат што з яго навукі пазычылі». Не згадваючы шмат якіх старажытных вучоных, аўтар спыняецца далей на рэформах Юлія Цэзара, ад імя якога атрымаў сваю назву вядомы юліянскі каляндар і пяты месяц — quintilis. «Славакі празвалі яго lipcem» (юліанскі каляндар падрабязна апісаны ў трэцім раздзеле кнігі Дубовіча).

Пры нагодзе не забывае аўтар асудзіць «практычную» астраномію — астралогію, якая падрывае веру ў царкоўную астраномію. Так, характарызуючы Касіядора Аўрэліуса, вынаходцу воднага і сонечнага гадзіннікаў, ён пазначае, што гэты «сталетні і набожны манастырскі старча быў дасканала дасведчаны ў рыторыцы, дыялектыцы, музыцы, геаметрыі, астраноміі», — «не у той вяшчунскай і практычнай, а ў той толькі, што пазнае бег нябесны, да набажэнства і пісьмы служыць». Сам Касіядор згадвае нейкага татарына Эксігуса (вельмі вучонага, ведаў і лацінскую, і грэчаскую мовы), які незадоўга да яго склаў пасхалію на 95 гадоў і стаў іх адлічваць не па рымскіх консулах, п індыктах пасля нараджэння Хрыстова. Паралельна ў кнізе тлумачыцца гістарычнае паходжанне і значэнне тэрміна індыкт.

Палемічная накіраванасць кнігі прасочваецца, калі ён звяртаецца да версіі аб «рускай пасхаліі», зацверджанай, па словах украінскага пісьменніка другой паловы XVI стагоддзя Васіля Суражскага, на сусветным Нікейскім саборы. Гэта, сцвярджае аўтар, супярэчыць рашэнню Нікейскага сабора даручыць нагляд на вызначэнне Пасхі александрыйскаму патрыярху. Акрамя таго, «аб славянскіх літарах» на тым саборы не маглі ведаць. Славянскі алфавіт быў складзены славянскімі дактарамі Кірылам і Мяфодзіем толькі праз 500 гадоў з лішнім. «А калі Еронім святы, родам з народу славянскага далмацкага, вымысліў тую славянскую Азбуку, як Бельскі сведчыць, так і ў гэтым выпадку — пасля Нікейскага сабора».

У другім раздзеле кнігі падрабязна апісваюцца асаблівасці сонечнага і месячнага календароў, тлумачацца астранамічныя і філасофскія тэрміны са спасылкамі на святога Аўгусціна, Арыстоцеля, «славакаў», у тым ліку вечнасць, час, мінуты, гадзіны, і «ўсе падзелы часоў, дня, ночы, гадоў, месяцаў па сонечнаму календару».

Аўтар разглядае і больш блізкія да яго каляндарныя і пасхальныя разлікі, у тым ліку патрыярха Мялеція, перакладзены «ліст» якога быў выдадзены Астрожскай друкарняй у 1598 годзе, і «Ruski Brewiarz», выдадзены там жа і ў тым жа годзе з падзеламі часу на «імгненні», моманты, унцыі. Яўрэі падзяля-

юць час на 1 080 частак. «З таго агульнага разумення людзей розных вер і народаў, — працягвае аўтар кнігі, — заключыць можна, як неабходна і справядліва дзяліць гадзіны на такія дробныя часткі. Ведаю, хто добра падзяляе, добра вучыць назіранням за бегам сонца і месяца і праўдзіваму календару». Далей Дубовіч апавядае пра дні тыдня і іх гістарычныя назвы ў яўрэяў і язычнікаў — па назвах сямі планет на сямі набёсах. «Год складаецца з тыдняў, які народы Аркадзіі падзялілі на тры месяцы, егіпцяне на чатыры, грэкі на шэсць, італьянцы на 13, хрысціяне і ўсе сучасныя народы — на 12». Аўтар тлумачыць значэнне паняццяў сонечны і месячны год, адрозненне астранамічнага года ад каляндарнага.

Апісваючы астранамічную сутнасць і знакі — сімвалы задыяка, аўтар спасылаецца на Каперніка і яго разлік астранамічнага года. «Астранамічны год — калі сонца праходзіць ад аднога пункта задыяка, як, напрыклад, ад пачатку знака барана, і, завяршыўшы сваю арбіту, вяртаецца да яго. Капернік ад яго пачынае, як ад надзейнага і зацверджанага пачатку. Бо задыяк значыць арбіта, што мае ў сабе 12 нябесных знакаў, якім назвы надалі астраномы і ў тых двух вершах адлюстравалі:

Sunt aries, taurus, gemimi, cancer, leo, virgo,
Libraq, scorpius, arcitenens, caper, amphora, pisces.

Назвы задыяка праілюстраваны графічнымі выявамі знакаў, прынятымі ў традыцыйнай астралогіі і антычнай астраноміі.

Трэці раздзел апавядае пра старазаконную і новазаконную (хрысціянскую) Пасху. Для сярэдневяковых, а часткова і пазнейшых хрысціянскіх тэолагаў пытанне аб адрозненні каталіцкай абраднасці ад яўрэйскіх звычаяў, кніг, традыцый было істотным пунктам у доказах боскага першародства і святасці хрысціянскай канфесіі. Не выпадкова хрысціянскія саборы прыклалі так многа намаганняў, каб злучыць Стары запавет старажытных яўрэяў з Новым. Праекцыя на святы Пасхі павінна была падкрэсліваць гэта прынцыповае разыходжанне.

Працяглае суіснаванне ў Еўропе, абцяжаранай паўсядзёнымі праблемамі, палітычнымі і сацыяльнымі канфліктамі, дзвюх монатэістычных канфесій (пры тым, што адна з іх насіла выразны этна-канфесійны характар) стала гістарычным фонам, на якім складваліся адносіны замкнёных яўрэйскіх абшчын з пануючым хрысціянскім светам, а іудзейскіх рэлігійных тра-

дыцый з хрысціянскімі. У наступнай, вельмі цікавай частцы кнігі, характарызуюцца прычыны каляндарнай рэформы — «паправы». Па словах аўтара, каляндар, прыняты Нікейскім саборам, патрабаваў выпраўлення ў далейшым. Каляндарны год адрозніваўся ад астранамічнага, і з 1258 года да пачатку XVI стагоддзя розніца дасягнула 11 сутак. «Вучоныя па-рознаму выказваліся з гэтай нагоды, як Капернік, Эразм Рэйнгольдус, Альфонсус і іншыя знакамітыя гісторыкі. Не апошні таксама Алойзіус Ліліус, пасля яго велебны Клавіус — чалавек вострага розуму, вельмі дасведчаны ў высокіх навуках».

Пытанне аб каляндарнай рэформе стала разглядацца на царкоўных саборах. Так званыя рухомыя святы, перш за ўсё Пасха, пачалі выпадаць з адведзенай ім цыклічна-каляндарнай традыцыі. Тым не менш ні Канстанцкі, ні Базельскі, ні Латэжранскі саборы не вырашылі праблемы, бо «тамашнія матэматыкі» не змаглі знайсці сапраўднай паправы календара. Таму так доўга ўсё захоўвалася па-старому. «Пакуль у наш час пры папе Грыгорыі XIII напаў на след Алоізі Ліліус. Доўга працаваў над такой цяжкай паправай і, не дачакаўшыся, памёр. Па сведчанні булы Грыгорыя XIII, скрыпт (рукапіс) Алойзія прынёс да яго брат нябожчыка, доктар Антоніус Ліліус». «Папа перадаў рукапіс матэматыкам, што на той час былі ў Рыме, можа і яшчэ куды выслалі».

Кніга Дубовіча прызначалася для чытачоў праваслаўнага — беларуска-украінскага асяроддзя, таму ён неаднаразова спасылаўся на творы грэчаскіх аўтараў — Нікіфара Грэгара, Грыгорыя Ханіатуса, якія прапанавалі свае спосабы паправы каляндарных разлікаў. Асабліва цікавы экскурс аўтара ў памятную яму гісторыю маскоўскай Русі: «Ведала і маскоўская Русь тыя памылкі», бо і там выношваліся планы каляндарна-астранамічнай рэформы. Мяркуючы па кантэксту, аб гэтых планах каляндарнай паправы расказалі Яну Дубовічу рускія эмігранты патрыярх Генадзій і дзяк вялікі, маскоўскі «канцлер» Васілій Львоў. Яны дадалі пры гэтым, што выдаць публічна свае планы прыхільнікі паправ не пасмелі з-за боязі «маскоўскага князя і пасольства». Верагодна, планы каляндарнай рэформы паўсталі ў Маскве ў часы панавання там «самазванца» Дзмітрыя Іванавіча. Сам ён быў досыць адукаванай асобай, прыбыў з вялікім аршаком службовай шляхты, духоўных асоб розных хрысціянскіх канфесій, і, што больш важна, менавіта ён узвёў у сан маскоўскага патрыярха былога перыферыйнага епіскапа Генадзія. Апошні каранаваў яго на Маскоўскае царства. Напэў-

на, і Васілій Львоў быў канцлерам Дзмітрыя (ці нават аднаго з абодвух Дзмітрыяў) да свайго вымушанага ад'езду ў межы Вялікага княства Літоўскага. Эміграцыя патрыярха Генадзія ў Вялікае княства Літоўскае адбылася каля 1611 года, у час Смаленскай аблогі. Праваслаўная царква не ўключае яго ў кананічныя спісы рускай патрыярхіі з часоў усталявання апошняй.

Якога «грознага князя» мелі на ўвазе перасяленцы, сказаць цяжка. Не выключана, што нават Івана IV. Апошні цікавіўся астралогіяй. Няверныя ці непажаданыя прагностыкі не раз заканчваліся трагічна для саміх прадказальнікаў.

У ВКЛ маскоўскія эмігранты прынялі унію і тут скончылі свой жыццёвы шлях. Падобная інфармаванасць аўтара аб згаданых асобах (невядомых па іншых літаратурных крыніцах) наводзіць на думку аб іх непасрэдных і працяглых кантактах. Генадзій, між іншым, нейкі час пражываў у Троіцкім манастыры ў Вільні. Старшым Троіцкага манастыра з канца 20-х гадоў быў брат Яна — Аляксей Дубовіч.

Не менш увагі ўдзяляе аўтар польскім вучоным, перш за усё матэматыку і астраному Лятасу, які скардзіўся на тое, што не быў далучаны да рэалізацыі каляндарнай рэформы пры папе Грыгорыі XIII. У сваім выданні «мінуцый» 1600 года, прысвечаным кардыналу Юрыю Радзівілу, ён «выкінуў» 8 дзён, у 1602 годзе — 7. Лятас раней служыў пры двары князя Астрожскага, прыслугоўваў яму сваімі кнігамі, «ведаючы аб волі панскай» і яго непрыхільным стаўленні да каляндарных рымскіх навацый. Не дапамагалі ні выракі каталіцкага духавенства, ні пастановы Кракаўскай Акадэміі, на той час аднаго з найбольш буйных і аўтарытэтных цэнтраў еўрапейскай матэматыкі і астраноміі. «Карысць ад яго толькі тая, што абаронца (прамотар) старой схізмы прызнаў памылкі ў старым календары».

Для даволі талерантных еўрапейскіх поглядаў Дубовіча характэрна спалучэнне царкоўна-кананічнай дагматыкі з рацыяналістычнай і гістарычнай аргументацыяй. «Маеш тады, старакаляндарнік, сведчанне грэкаў, Русі, Масквы аб тых памылках. Спытай яшчэ жыдоў, гэрэтыкоў, тое ж скажуць. Нарэшце парайся з нябёсамі, дакладна высветліш інструментамі, калі адбываецца раўнадзенне. Глядзі на добра напраўленыя зэгеры (гадзіннікі. — Г. Г.), компасы, на цені іх паглядай... Убачыш і лёгка зразумееш па небу тыя памылкі».

Аўтар аддае належнае высілкам Грыгорыя XIII, сумленным дзесяцігадовым працам вучонай супольнасці. Да справы рэформы былі запрошаны вядомыя матэматыкі з розных краін. У шэ-

рагу самых знакамітых — езуіт ксёндз Клавіус, аб якім Лятас сведчыў: «іж ён усе бібліятэкі абегл». На праект рэформы былі атрыманы адказы розных еўрапейскіх і іншых каралёў, князёў, акадэмій (універсітэтаў). «Яшчэ год матэматыкі даследавалі розныя каляндарныя сістэмы, якімі карысталіся народы ўсяго свету, экзаменавалі працы старажытных вучоных Пталамея Альфонса, Альбатэгніуса. Згодна з разлікамі Пталамея год быў роўны 365 дням, 5 гадзінам, 55 мінутам, Альбатэгніуса — 365 дням, 5 гадзінам, 24 мінутам. Калегія рымскіх матэматыкаў спынілася на кампрамісным варыянце — каляндарным «кампуце» іспанскага караля Альфонса сярэдзіны XIII стагоддзя: 365 дзён, 5 гадзін, 45 мінут, 16 секунд. Згаданага календара трымаліся найславутыя матэматыкі, у тым ліку і Капернік. У гэтым календары з кастрычніка 1583 года сталі аднімаць 10 дзён (пасля свята святога Францыска) і замест 5 чысла выстаўляць 15. Тым самым згодна з пастановай Нікейскага сабора на сваё месца было вернута раўнадзенства. Новы каляндар прыкметна адрозніваўся ад юліанскага. «Калі б не быў ён выпраўлены, праз 24 500 гадоў... вясна прышлася б на верасень, восень на сакавік, зіма — на чэрвень, а лета на снежань».

Вельмі катэгарычна адказвае аўтар на пытанне, ці трэба святкаваць Пасху ва ўсім свеце ў адзін дзень: безумоўна трэба, «хоць у падножкаў нашых (антыподаў. — Г. Г.) прыходзіцца на той час восень... сярод некаторых партугальчыкаў, афрыканцаў, на землях, адкрытых Веспуціусам (Амерыго Веспучы. — Г. Г.), знойдзеных за 30 градусаў за экватарам». «Бо Пасху святкуюць у памяць Пана Збавіцеля, які гэту зямлю («Hemispheryum») абраў для сваёй смерці і паўстання з мёртвых».

Шмат увагі ўдзяліў аўтар адказу на магчымасць супадзення хрысціянскай Пасхі з яўрэйскай. У кнізе, мабыць, упершыню па яўрэйскіх і хрысціянскіх крыніцах выкладаецца старажытная традыцыя святкавання яўрэйскай Пасхі. Згадваюцца кнігі равіна Бургенсіса, тлумачэнні раббі Абенэзра, святога Епіфанія (яўрэя па паходжанні) і іншых. Пачатак гэтаму святкаванню паклаў Сімяон праз 159 гадоў пасля разбурэння Ерусаліма, потым рабі Іаан праз 300 гадоў пасля памянутага здарэння. Дубовіч сцвярджае, што «наша каталіцкая» Пасха адрозніваецца ад яўрэйскай на дзень ці гадзіну. «Іншая справа — у Брэтонаў і Скотаў (брытанцаў і шатландцаў. — Г. Г.), аб якіх пісаў велебны Беда. Тыя свяцілі Пасху 12 дня пасля першага месяца. Зараз у нядзелю і бывала». Свае меркаванні наконт слушнасці каталіцкай Пасхі аўтар падмацоўвае спасылкамі на цуды ў вялікаsuccessive вігілію.

Заключныя матэрыялы кнігі ў крытычным ці пазітыўным сэнсе прысвечаны пераважна больш блізкім астранамічным разлікам «зацнага матэматыка» Жэброўскага, Каперніка, нямецкага астранома Штофлера (кнігамі якога карыстаўся ў Вільні яшчэ Францішак Скарына), упамінаюцца табліцы Родульфінаса і інш. Аўтар падкрэслівае зменлівасць каляндарна-астранамічных вылічэнняў, неабходнасць пэўных паправаў у далейшым. Ён спасылаецца на шматгадовы вопыт выдатнага еўрапейскага астранома Ціха Браге, які ў сваіх вылічэннях і назіраннях за сонечным рухам выкарыстоўваў самыя дарагія і дасканалыя інструменты, што дазволіла яму ўнесці значныя папраўкі ў так званыя Прускія табліцы, якія доўга лічыліся ў Еўропе эталонам дасканаласці.

У канцы кнігі Дубовіч ілюструе памылковасць каляндарных разлікаў і святкавання Пасхі на Русі шматлікімі прыкладамі з першай паловы XVII стагоддзя: супастаўляе абвешчаныя даты свята з рэальнымі каляндарна-астранамічнымі звесткамі 1603, 1614, 1616, 1622, 1625, 1630, 1637 і іншых гадоў.

Прычыны каляндарных памылак у святкаванні Пасхі аўтар угледжвае ў палітычным зняволенні Грэцыі Турэцкай імперыяй («ім меч указуе») і ў традыцыйным саперніцтве многіх усходніх патрыярхаў з Рымам. Ён адзначае, што супраць каляндарнай паправы спачатку выступілі герэтыкі і схізматыкі, але герэтыкі хутка прызналі слушнасць каталіцкіх довадаў і прыйшлі да паслушэнства з Рымам. Гаворачы аб тым, што прычынай частковага непавадзення новага календара былі таксама глупства і цемната пасольства ў многіх краінах, аўтар аддзяляе Русь (Беларусь і Украіну) ад апошніх.

Наступны фрагмент кнігі быццам пераклікаецца з пранікнёнымі словамі знакамітай прадмовы Васіля Цяпінскага аб старажытнай гісторыі славян, розуме, дасціпнасці і вучонасці продкаў Русі: «Іншая рэч — мовіць аўтар, — весці гаворку аб народзе слаўным вольным Расійскім (беларускім і ўкраінскім. — Г. Г.), які пераўзышоў іншыя славянскія народы ў навуцы, пражывае пад найяснейшым каралём польскім і аддае вернае яму паслушэнства. Мае магчымасць хутка прыйсці да таго ... што не з'яўляецца артыкулам веры...». Часовае захаванне старога календара сярод уніятаў Беларусі і Украіны тлумачыцца дазволам 13-га пантыфіка — Клеменса VIII і неабходнасцю ўлічваць традыцыі праваслаўнага насельніцтва.

Сярод іншых заслуг папы ў справе ўмацавання і пашырэння каталіцкай канфесіі адзначаюцца: утварэнне семінарыі для моладзі, жадаючай спасціжэння не толькі навук вызваленых,

але і веры сусветнай, заснаванне езуіцкіх школ яго «вялікімі накладамі і даходамі». «Да Індыі і Японіі, падножкаў нашых, да Літвы і да Інфляндыі прасцёрліся яго шчадроты на ўмацаванне веры... Няхай жа вас сам Дух святы падзвігне старкаляндарове дызуніці, абы схіліліся згодне серца... вышы ў стане рыцарскім... Того ж самага Духа святога горача просім, каб народ Русі не толькі ў календары, але ва ўсіх артыкулах, што тычацца веры і збавення, з касцёлам рымскім з'яднаўся».

Беларускае паходжанне аўтара прагледжваецца ў яго выкарыстанні спецыфічнай айчыннай лексікі — «як Русь гаворыць», «седміца», «служба» (літургія), «Фоміна неделя» і інш.

У канцы кнігі Дубовіч спасылаецца на каляндар 1596 года, выдадзены «славянскім пісьмом» у апостальскай ватыканскай друкарні праз сідонскага епіскапа Леанарда Авеля. У гэтай кніжцы з пасхаліяй, якая напісана «рускай азбукай», змешчаны «гарачы па-руску ключ, які падказвае даты не толькі Пасхі, але і ўсіх іншых свят, мясапустаў і запустаў...». Табліца адпаведнага «ключа» на 100 гадоў разам з эпактамі «для адпраўвання Рымскай і старакаляндарнай Пасхі» надрукавана ў канцы выдання. Літаратурная спадчына Дубовіча далёка не абмяжоўваецца адзначанымі выданнямі. Загінулі ў рукапісах у часы другой сусветнай вайны або дагэтуль не знойдзены таксама наступныя творы пісьменніка.

1. «Абарона царквы саборнай апостальскай супраць усіх герэтыкоў" («Obrons cerkwi soboraej apostolskiej przeciw wszystkim heretykom», 1639). Некаторыя матэрыялы з гэтай вялікай працы былі перадрукаваны пазней у «Іерархіі» 1644 года.

2. Хроніка, або Сумарыюш (Збор звестак) па царкоўнай гісторыі (Kronika abo Sumariusz). У гэтым абагульняючым творы сабраны звесткі па агульнай царкоўнай гісторыі з 34 года і пераважна па гісторыі царквы ў Рэчы Паспалітай з 1600 года. Выкарыстаны выданні найбольш знакамітых тагачасных храністаў: Мацея з Мехава, Марціна Кромвеля, Мацея Стрыйкоўскага, Марціна Бельскага. Да Сумарыюша дададзены генеалагічныя табліцы, спісы каралёў, цэсараў Свяшчэннай Рымскай імперыі.

3. На «рускай» і паралельна на лацінскай мовах напісаны рукапіс філасофска-тэалагічнага зместу «Способ розмышленя повседневного» (недатаваны).

Па ускосных звестках вядомы яшчэ адзін незахаваны рукапіс, магчыма, напісаны Я. Дубовічам: «Вобраз праваслаўнай царквы» («Obraz prawosławnej cerkwi», 1645). Аўтарства Дубо-

віча адстойваюць многія польскія бібліёграфы і гісторыкі літаратуры, у тым ліку Іохер, Ф. Старчынскі, М. Вішнеўскі.

Ёсць некаторыя падставы аднесці да спадчыны Дубовіча таксама твор, які згадваецца ў кнізе «Літас» («Litos»), выдадзеНай пад наглядам праваслаўнага мітрапаліта Пятра Магілы. Там адзначаецца, што ў нейкай сваёй працы Дубовіч з'едліва адзываўся аб творах аўтара «Перспектывы» Касьяна Саковіча. Гэтую згадку Дубовіч апратэставаў у гродскім луцкім судзе 19 чэрвеня 1645 года, заявіўшы, што ён не выступае супраць Саковіча і не дапамагаў Магіле ў падрыхтоўцы памянутага выдання. Не выключана, што праваслаўныя палемісты выкарыстоўвалі твор Дубовіча для крытыкі каталікаў, і аўтар пажадаў адмежавацца ад падобных абвінавачванняў.

Сямейныя адносіны Дубовіча ў гістарыяграфіі недастаткова высветлены. Ён згадваецца ў Супрасльскім памятніку XVII стагоддзя. Нейкі час жонкай яго была смаленская падкаморына Пелагея Тышковіч, якая нарадзіла яму сына — «з першим малжонком моим, Дубовичем, спложоный». Напісаны на лацінскай мове тэстамент Яна Дубовіча 1640 года захоўваецца ў бібліятэцы Акадэміі навук Літвы.

*Літаратура*

*Bruckner A.* Spory o unie // KH 1896. X. 636–7.

*Grabowski T.* Z dziejów literatury unicko-prawoslawnej. Poznań, 1922.

*Голубев С.* Петр Могила. Киев, 1898. Т. 2.

*Коялович М.* Литовская церковная уния. СПб., 1859.

*Moszynski A.* Wiadomości o rekopisach poiskich oddziału teologicznego w Cesarskiej publ. bibl. w Petersburgu // R. A. fil. l 1874. 228–9, 270, 310, 330.

Мысліцелі і асветнікі Беларусі. Энц. даведнік. Мн., 1995.

Очерк истории базилианского ордена в бывшей Польше // ТКДА. 1870, ноябрь, с. 353—354.

*Харлампович К.* Западнорусские православные школы XVI и начала XVII века. Казань, 1898.

*Георгі Галенчанка*

# Сільвестр КОСАЎ (1599?–1657)



Сільвестр Косаў, вядомы праваслаўны дзеяч Беларусі і Украіны, аўтар багаслоўскіх і публіцыстычных твораў першай паловы XVII стагоддзя. Нарадзіўся верагодна ў 1599 годзе ў Віцебскім павеце ў маёнтку Жаробычы, што знаходзіўся ў 50 кіламетрах на паўночны захад ад Віцебска, непадалёк ад мяжы з Полацкім ваяводствам (цяпер вёска Слабада ў Шумілінскім раёне Віцебскай вобласці). Менавіта вёска Жаробычы з'яўлялася ўласнасцю шляхецкага роду Косавых, якія былі запісаны ў Расійскай імперыі ў шэрагі дваранства і існавалі як род дваран Віцебскай губерні ў пачатку XX стагоддзя.

У розных працах даследчыкаў гісторыі праваслаўнай царквы і культуры XVII стагоддзя, апублікаваных у XIX — XX стагоддзях (Н. Р. Бяляўскі, А. Ф. Коршунаў, Г. Я. Галенчанка, Ю. А. Ісічэнка), памылкова прыводзяцца звесткі аб нараджэнні Сільвестра Косава ў Жыровічах (Слонімскі павет) з-за сходнасці назваў маёнтка Косавых і мястэчка, дзе знаходзіцца вядомы манастыр. Тым больш, што недалёка ад Жыровічаў знаходзіцца мястэчка Косава, што можна атаясаміць з прозвішчам пісьменніка-палеміста XVII стагоддзя.

Месца нараджэння Сільвестра Косава ў Жаробычах пацвярджаецца дакументамі судовай справы полацкага уніяцкага архіепіскапа Антонія Сялявы супраць праваслаўнага магілёўскага епіскапа Сільвестра Косава і яго брата Юрыя Косава ў 30-х гадах XVII стагоддзя. Для пакрыцця выдаткаў на разгляд справы «прыцягваліся да адказнасці іх вотчынныя маёнткі Жаробычы, Будавесць і іншыя», у склад якіх уваходзілі і навакольныя вёскі Непароты, Голедзь і іншыя. Такім чынам, Сільвестр

Косаў належаў да сярэдняй беларускай праваслаўнай шляхты Віцебскага павета; род Косавых меў свой уласны герб.

Бацька Сільвестра Косава, Адам Рыгоравіч Косаў, займаў значную пасаду пісара гродскага суда Віцебскага павета. Ён даў магчымасць здольнаму да вучобы сыну атрымаць адукацыю і паслаў яго ў Вільню. Хлопчык атрымаў пачатковую адукацыю ў Віленскай брацкай школе пры Віленскім Свята-Духавым манастыры. Настаўнікі гэтай праваслаўнай школы, сярод якіх былі Лявонцій Карповіч і Мялецій Сматрыцкі, адзначалі яго незвычайныя здольнасці да навукі і параілі далей працягваць навучанне. З восені 1621 года юнак вучыўся ў каталіцкіх навучальных установах: спачатку ў Люблінскім езуіцкім калегіуме, а затым ў Замойскай акадэміі ў Замосці (Холмская зямля). Тут ён атрымаў вышэйшую адукацыю ў галіне філасофіі, рыторыкі і граматыкі. У гэтых вышэйшых вучэльнях тады прымяняліся самыя прагрэсіўныя формы і метады навучання. Знаходзіўся некаторы час на вучобе і ва універсітэтах Оламаўца (Чэхія) і Вены.

Пасля вяртання на радзіму Сільвестр Косаў у канцы 20-х гадоў XVII стагоддзя прыняў манашаскі сан у Вільні і распачаў педагагічную дзейнасць, выкладаючы рыторыку ў брацкай школе. Потым у 1628 годзе пераехаў у Львоў, дзе ў вядомай брацкай школе таксама выкладаў рыторыку. Адтуль у 1631 годзе па запрашэнні праваслаўнага Кіеўскага мітрапаліта Пятра Магілы пераехаў у Кіеў. Сільвестр Косаў быў прызначаны прэфектам школы і прафесарам філасофіі ў Кіева-Пячэрскай школе (пры Кіева-Пячэрскай лаўры), якую мітрапаліт адкрыў у 1631 годзе. У 1631—1632 гадах Сільвестр Косаў разам з кіеўскім мітрапалітам Пятром Магілаю (галавой праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай) праводзіў рэформу праваслаўных навучальных установ у Кіеве. Ён прапанаваў мітрапаліту аб'яднаць школу Кіеўскага праваслаўнага брацтва і Кіева-Пячэрскую школу.

У 1632 годзе ў выніку аб'яднання двух школ быў утвораны Кіева-Магілянскі калегіум. Гэтая гуманітарная навучальная ўстанова для праваслаўных жыхароў Рэчы Паспалітай была названа ў гонар мітрапаліта Пятра Магілы, які паходзіў з сям'і гаспадара Валахіі, а потым Малдавіі. Кіева-Магілянскі калегіум знаходзіўся пры манастыры Кіеўскага праваслаўнага брацтва і пад сумеснай апекай мітрапаліта Пятра Магілы і прадстаўнікоў Кіеўскага брацтва. Пасля адкрыцця калегіум меў 7 класаў, з іх адзін падрыхтоўчы, тры ніжэйшыя і тры вышэйшыя. У падрыхтоўчым і ніжэйшых класах вывучаліся мовы: славяна-рус-

кая (тагачасная літаратурная мова, што ўжывалася ва Украіне і Беларусі), царкоўнаславянская, польская, грэчаская і лацінская. У старэйшых класах вывучаліся «сем вольных мастацтваў», філасофія, асновы гісторыі і геаграфіі. Навучанне вялося на ўзор заходнееўрапейскіх навучальных устаноў. Сільвестр Косаў стаў прафесарам Кіева-Магілянскага калегіума і выкладаў у старэйшых класах філасофію.

У 1633 годзе С. Косаў заняў пасаду архімандрыта Кіева-Пячэрскай лаўры, што вылучыла яго ў шэрагі галоўных царкоўных дзеячаў праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай. Ужо ў наступным, 1634 годзе, ён быў прызначаны намеснікам праваслаўнага епіскапа магілёўскага, аршанскага і мсціслаўскага (інакш — епіскапа беларускага) Іосіфа Бабрыковіча-Аняхожскага, які шмат часу хварэў, больш знаходзіўся ў Вільні, дзе да 1632 года служыў у Свята-Духаўскім манастыры, і таму не мог выконваць свае пастырскія абавязкі. Таму фактычна кіраваў епархіяй Сільвестр Косаў. Ён добра ведаў мясцовыя ўмовы, заканадаўства Вялікага княства Літоўскага і наладзіў адносіны з беларускай праваслаўнай шляхтай.

У 1635 годзе епіскап беларускі Іосіф Бабрыковіч-Аняхожскі памёр. Мясцовая праваслаўная шляхта Мсціслаўскага ваяводства і Аршанскага павета абрала сваім епіскапам Сільвестра Косава, а мітрапаліт Пётр Магіла зацвердзіў гэтае абранне і высвяціў яго ў сан епіскапа магілёўскага, аршанскага і мсціслаўскага. Пасля абрання епіскапам Сільвестр Косаў адмовіўся ад спадчыннага маёнтка на карысць свайго брата Юрыя.

Служыў Сільвестр Косаў епіскапам да 1647 года. Ён вёў барацьбу з полацкім і віцебскім уніяцкім архіепіскапам Антоніем Сялявам, які ў 1641 годзе стаў уніяцкім мітрапалітам кіеўскім і галіцкім з рэзідэнцыяй у Вільні, захаваўшы пасаду полацкага архіепіскапа. Прычынаю канфлікту паміж Антоніем Сялявам і Сільвестрам Косавым было наведванне апошнім Полацка і Віцебска, дзе ён звярнуўся да жыхароў Полацкага і Віцебскага ваяводстваў з прызывам не падпарадкоўвацца уніяцкім святарам, а заставацца праваслаўнымі вернікамі. Архіепіскап Антоній Сялява звярнуўся да караля і вялікага князя літоўскага, які забараніў Сільвестру Косаву наведваць Полацк і Віцебск.

Сільвестр Косаў прычыніўся да адкрыцця Магілёўскага Свята-Мікольскага жаночага манастыра. Заснаваў яго галава праваслаўнай царквы мітрапаліт Пётр Магіла, якому ў красавіку 1636 года кароль Уладзіслаў Ваза дазволіў пабудаваць у Магілёве ў Грыўлянскай сотні Пакроўскага пасада Свята-Мікольскі

храм з памяшканнямі пры ім. Епіскап Сільвестр Косаў у 1637 годзе пабудаваў драўляную Мікольскую царкву з жаночым манастыром. Па хадайніцтву епіскапа і праваслаўных жыхароў горада 6 верасня 1646 года кароль Уладзіслаў выдаў грамату і дазволіў ім пабудаваць мураваны храм у гонар святога Мікалая. Будаўніцтва храма пачалося пазней, ужо пасля заканчэння вайны 1654—1667 гадоў, якая вялася на тэрыторыі Беларусі.

У 1647 годзе пасля смерці мітрапаліта Пятра Магілы (памёр у студзені 1647 г.) Сільвестр Косаў быў абраны на пасаду мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі (галавой праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай). Яго кандыдатуру падтрымалі каля 50 духоўных і 30 вядомых свецкіх асоб. Адначасова ён атрымаў тытул экзарха (намесніка) канстанцінопальскага патрыярха з падпарадкаваннем яму ўсіх брацтваў і манастыроў.

Акрамя сваёй галоўнай, царкоўнай, дзейнасці мітрапаліт Сільвестр Косаў займаўся і палітычнымі справамі. Праваслаўная царква на Украіне, Беларусі і Літве была цесна звязана з унутрыпалітычнымі ды і знешнепалітычнымі падзеямі ў Рэчы Паспалітай, больш за ўсё на Украіне. У выніку Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года большасць іерархаў праваслаўнай царквы і прыхадаў ў Рэчы Паспалітай прыняла унію (саюз) з рымска-каталіцкай царквой і стала называцца уніяцкай (грэка-каталіцкай) царквой, з захаваннем праваслаўнай абраднасці і багаслужэння. Меншасць прыходаў і два епіскапы на Украіне не прынялі унію і засталіся іерархамі праваслаўнай царквы. Аднак кароль Жыгімонт Ваза сваім універсалам (актам) зацвердзіў акт уніі, але праваслаўная царква працягвала дзейнасць. У 1620 годзе, у «перыяд згоды» (1601—1635) казацка-шляхецкай старшыны на Украіне з каралём, іерархія праваслаўнай царквы была аднаўлена (мітрапаліт, епіскапы) дзякуючы намаганням гетмана ўкраінскіх казакоў Пятра Канашэвіча-Сагайдачнага. На чале праваслаўнай царквы з рэзідэнцыяй у Кіеве (а не ў Вільні, як было раней) цяпер зноў стаяў мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі. У 1632 годзе кароль Уладзіслаў Ваза афіцыйна прызнаў праваслаўную царкву. Перамяшчэнне цэнтра праваслаўя з Вільні ў Кіеў тлумачыцца тым, што на Украіне ў гэты час было больш праваслаўных, чым у Беларусі. Там была моцная апора для праваслаўнай царквы — украінскае казацтва і яшчэ шматлікая ўкраінская шляхта, з асяродку якой выйшла большасць казацкіх гетманаў, палкоўнікаў і сотнікаў. У Беларусі ж заставалася толькі адна праваслаўная Мсціслаўская епархія з цэнтрам у Магілёве. Частка праваслаўных жыхароў Беларусі мела самастойнае кіраў-

ніцтва. Жыхары Слуцкага княства падпарадкоўваліся архімандрыту Слуцкага Свята-Троіцкага манастыра, а Слуцкае Праабражэнскае брацтва — увогуле канстанцінопальскаму патрыярху.

Палітыка «згоды» старшыны украінскага казацтва з польскім урадам скончылася ў 1635 годзе, калі пачаліся моцныя казацкія паўстанні, якія былі падаўлены. У 1638 — 1648 гадах (перыяд «залатога спакою») поўнае панаванне польскага ўрада і польскай шляхты ва ўкраінскіх ваяводствах (якія ўваходзілі ў склад Польскага каралеўства) ад часоў Люблінскай уніі 1569 года падтрымлівалася вайсковаю сілай.

У барацьбе супраць польскага панавання аб'ядноўваліся ўсе сілы украінскага народа — казацкая старшына, значная частка украінскай шляхты, мяшчанства і шырокія масы сялянства, перш за ўсё на Левабярэжнай Украіне. Аднак насельніцтва Заходняй Украіны, якая знаходзілася ў складзе Польшчы яшчэ з сярэдзіны XIV стагоддзя, у гэтым вызваленчым руху шырока не ўдзельнічала. Ды і пазіцыі уніяцкай царквы тут былі больш моцнымі. Амаль не было тут і казацтва.

Праваслаўная царква на Украіне была значным палітычным фактарам. Ад пазіцыі яе іерархаў, і перш за ўсё мітрапаліта, залежала і палітычная накіраванасць розных пластоў украінскага грамадства.

На Украіне наспявала нацыянальна-вызваленчае паўстанне, якое рыхтавалі казакі. Кіраўніком паўстання стаў чыгірынскі сотнік Багдан Хмяльніцкі, які ў снежні 1647 года пайшоў «у ніз» (як тады казалі), у Запарожскую Сеч. Перад адыходам туды ён атрымаў благаславенне на барацьбу з польскім панаваннем ад мітрапаліта Сільвестра. Такім чынам, пачынаючы паўстанне ў 1648 годзе, Багдан Хмяльніцкі, гетман войска Запарожскага, і казакі мелі поўную падтрымку праваслаўнай царквы, пазіцыя якой ў перыяд нацыянальна-вызваленчай барацьбы ўкраінскага народа была непахіснай. Разам з тым мітрапаліт загадаў ратаваць польскія шляхецкія сем'і ў манастырах, укрываючы іх ад казацка-сялянскіх атрадаў.

Мітрапаліт Сільвестр разам з іерусалімскім патрыярхам Паісіем і духавенствам урачыста сустракаў Багдана Хмяльніцкага і казацка-сялянскае войска як пераможцаў у Кіеве 23 снежня 1648 года (2 студзеня 1649 г.) пры ўездзе ў Залатую Браму. Пасля стварэння ўкраінскай дзяржавы на чале з гетманам становішча праваслаўнай царквы і мітрапаліта значна ўмацавалася. Мітрапаліт Сільвестр у першы перыяд існавання гетманс-

кай Украіны цалкам падтрымліваў палітыку Багдана Хмяльніцкага, накіраваную на самастойнае існаванне Украіны з пануючай праваслаўнай рэлігіяй, але пры захаванні яе ў складзе Польшчы як дзяржавы з шырокай аўтаноміяй з фармальным падпарадкаваннем польскаму каралю. С. Косаў абвясціў Б. Хмяльніцкага абаронцам праваслаўя і ворагам царкоўнай уніі. Падтрымліваў мітрапаліт і план Б. Хмяльніцкага пашырыць тэрыторыю Украіны за кошт паўднёвых і ўсходніх раёнаў Беларусі (Палесся і Падняпроўя), дзе было яшчэ шмат праваслаўнага насельніцтва. Менавіта ў гэтыя раёны часцей за ўсё пранікалі казацкія загоны, у тым ліку на тэрыторыю Мсціслаўскай епархіі, дзе раней быў епіскапам Сільвестр.

Мітрапаліт Косаў быў рашучым праціўнікам Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года і дамагаўся роўных правоў для праваслаўнага і каталіцкага духавенства. Ён дапамог Багдану Хмяльніцкаму выпрацаваць нацыянальную і рэлігійнуго ідэалогію паўстання. Пасля заключэння Збораўскага міру паміж Украінай і Польшчай 8 (18) жніўня 1649 года, згодна з якім кіеўскі мітрапаліт атрымліваў месца ў сенаце Рэчы Паспалітай, мітрапаліт Сільвестр паехаў у Варшаву, каб заняць сваё месца сярод сенатараў. Аднак рымска-каталіцкі епіскапат рэзка выступіў супраць гэтага. Мітрапаліту прыйшлося вярнуцца ў Кіеў. Тым не менш ён заставаўся прыхільнікам пагаднення з каралём і кіруючымі коламі Рэчы Паспалітай, адстойваючы інтарэсы вышэйшага праваслаўнага духавенства. Паміж Багданам Хмяльніцкім і мітрапалітам Сільвестрам пачаліся канфлікты. Мітрапаліт падтрымліваў кантакты з Адамам Кісялём, украінскім праваслаўным магнатам, якога кароль Ян Казімір прызначыў на пасаду кіеўскага ваяводы.

Збліжэнне Багдана Хмяльніцкага і значнай часткі казацкай старшыны з Маскоўскай дзяржавай мітрапаліт Сільвестр і вярхушка праваслаўнай царквы Украіны і Беларусі сустрэла адмоўна. Падчас падрыхтоўкі гетманам Пераяслаўскай рады ў студзені 1654 года, калі было заключана пагадненне аб уваходжанні Левабярэжнай і Правабярэжнай Украіны ў склад Расійскага царства на правах шырокай аўтаноміі, мітрапаліт Сільвестр не прыслаў у Маскву ніводнага паслання ні цару Аляксею Міхайлавічу, ні патрыярху маскоўскаму Нікану. Маўчанне мітрапаліта Сільвестра было красамоўным. Ён, не выступаючы адкрыта супраць палітыкі Багдана Хмяльніцкага на аб'яднанне з Расійскім царствам, выказваў нязгоду іерархіі праваслаўнай царквы Украіны і Беларусі гэтай аб'яднаўчай палітыцы.

Расійскі гісторык С. М. Салаўёў так тлумачыў пазіцыю мітрапаліта Сільвестра: «Сільвестр быў шляхціцам і таму не мог не спачуваць шляхецкай дзяржаве, а галоўнае, пры польскім панаванні ён быў незалежным, бо залежнасць ад аддаленага і слабага патрыярха візантыйскага была намінальнай, тады як пры падданстве Маларосіі маскоўскаму гасудару цяжка было пазбегнуць залежнасці ад маскоўскага патрыярха». Але гэта характарыстыка няпоўная. Расійскі гісторык XIX стагоддзя разглядаў гісторыю Украіны і Беларусі з пункту гледжання сваёй канцэпцыі развіцця расійскай дзяржаўнасці ад перыяду «старажытнарускіх княстваў», якая была прыпынена літоўска-польскім панаваннем і працягвалася з уз'яднаннем з Расіяй. Паводле яго канцэпцыі рускімі былі велікаросы, украінцы (маларосы) і беларусы. Усё, што перашкаджала ўз'яднанню «рускага народа», было варожым. Таму характарыстыка дзейнасці мітрапаліта Сільвестра ў працах расійскіх і савецкіх гісторыкаў адмоўная — як антырасійская і класавая. Пры гэтым цалкам не ўлічваецца патрыятычны характар гэтай дзейнасці і накіраванасць на захаванне незалежнасці праваслаўнай царквы на Украіне і Беларусі.

Мітрапаліт Сільвестр сустрэў дэлегацыю прадстаўнікоў маскоўскага цара ў Кіеве настолькі варожа, што гетману прыйшлося ўмяшацца. Мітрапаліт з духавенствам вымушаны быў сустракаць 16 (26) студзеня 1654 года маскоўскага пасла баярына Васіля Васільевіча Бутурліна перад яго прыбыццём у Кіеў за горадам, за паўтары вярсты ад Залатой Брамы. Сустрэўшы Бутурліна, мітрапаліт выступіў з гасціннай і ветлівай прамовай. Пасля ўрачыстага малебна ў саборы баярын Бутурлін без дыпламатычных выразаў прама спытаў мітрапаліта: «Чаму ў той час, калі гетман Багдан Хмяльніцкі і ўсё войска Запарожскае шмат разоў білі чалом вялікаму гасудару прыняць іх пад сваю высокую руку, ты ніколі аб тым не біў чалом, не пісаў і не шукаў міласці царскай?» Сільвестр адказваў, што ён нічога пра гэта не ведаў, але цяпер будзе Бога маліць за шматгадовае гасудара здароўе, і за гасударыню царыцу, і за багаверных царэўнаў.

Праз два дні пасля прыезду ў Кіеў баярын В. В. Бутурлін праз свайго прадстаўніка прапанаваў мітрапаліту Сільвестру, каб ён спрыяў прысязе на імя цара сваім падуладным. На гэта мітрапаліт адказваў, што шляхта, слугі і яго дваровыя людзі не належаць да Сафійскага сабору, служаць яму па найму і таму не павінны прысягаць цару. На настойлівыя патрабаванні пасла ён адмовіўся даць загад епіскапам, святарам, шляхце і службоў-

цам прысягаць цару. Толькі пад націскам гетмана Багдана Хмяльніцкага мітрапаліт уступіў, і яго службовая шляхта, слугі і дваровыя людзі былі прыведзены да прысягі. Аднак на прысягу епіскапаў, святароў і манахаў ён згоды не даў.

Мітрапаліт Сільвестр Косаў выступаў супраць далучэння ўкраінскіх і беларускіх зямель да Расіі. Ужо пасля прыезду ў Кіеў маскоўскага ваяводы ён не дазволіў яму будаваць замак у горадзе, бо, як патлумачыў, выбранае ваяводам месца з'яўляецца ўласнасцю царквы. І ўвогуле заявіў, што не прасіўся, як Багдан Хмяльніцкі, у расійскае падданства, і калі будуць парушаны яго маёмасныя правы як мітрапаліта, то дасць загад біць царскіх прыслужнікаў. Гэты канфлікт паўплываў на тэрмін зацвярджэння царом Аляксеем Міхайлавічам прывілеяў для праваслаўнага духавенства на Украіне ў 1655 годзе, што было зроблена толькі пасля хадайніцтва Багдана Хмяльніцкага.

Мітрапаліт Сільвестр Косаў рашуча выступаў супраць падпарадкавання праваслаўнай царквы Украіны і Беларусі маскоўскаму патрыярхату, прапануючы канцэпцыю аўтакефальнай царквы. Яго няўступлівая пазіцыя выклікала незадаволенасць гетмана Багдана Хмяльніцкага, часткі казацкай старшыны і нават некаторых царкоўных дзеячаў. Таму ва ўмовах аўтаноміі Украіны ў складзе Расіі мітрапаліт змяніў тактыку. Каб супрацьстаяць усё ўзрастаючым спробам маскоўскага патрыярхату падпарадкаваць сабе праваслаўную царкву на Украіне і Беларусі, мітрапаліт Сільвестр адмовіўся ад канцэпцыі аўтакефаліі сваёй царквы, прапануючы, як і раней, яе падпарадкаванасць канстанцінопальскаму патрыярху, аднак з незалежнай арганізацыяй.

Ва ўнутрыцаркоўных справах мітрапаліт Сільвестр Косаў працягваў палітыку мітрапаліта Пятра Магілы па аднаўленню царкоўнай адміністрацыі праваслаўнай Кіеўскай мітраполіі на Украіне, Беларусі, Літве і Інфлянтах, у шэрагу выпадкаў супрацоўнічаючы са свецкай уладай Рэчы Паспалітай на месцах. Ён таксама намагаўся абмежаваць самастойнасць мясцовых манастыроў і брацтваў ад епіскапаў, асабліва тых, якія мелі прамаскоўскія настроі. Выкарыстоўваючы слабыя пазіцыі канстанцінопальскага патрыярха ў Турэцкай імперыі, мітрапаліт Сільвестр як патрыяршы экзарх вёў самастойную царкоўную палітыку.

Мітрапаліт Сільвестр Косаў зрабіў вялікі ўклад у рэфармаванне навучальных устаноў праваслаўнага кірунку, у арганізацыю структуры праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай пасля

яе афіцыйнага прызнання каралём Уладзіславам Вазам у 1632 і соймам у 1633 гадах. Шмат сіл прыклаў мітрапаліт, каб падняць адукацыйны і культурны ўзровень святароў праваслаўнай царквы на Украіне і Беларусі. У гэтым ён быў паслядоўнікам мітрапаліта Пятра Магілы. У палітычнай накіраванасці дзейнняў царквы ён таксама праводзіў канцэпцыю Пятра Магілы ствараць незалежную структуру праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай. Да 1620 года, калі праваслаўная царква не мела сваёй іерархіі, а асобныя святары і манастыры часта дзейнічалі самастойна, сярод часткі духавенства былі моцныя прамаскоўскія настроі. Дапамогі, у тым ліку фінансавай, чакалі ад маскоўскага патрыярхату і ўрада Расіі. Мітрапаліт Пётр Магіла, а за ім і Сільвестр Косаў, пераадолелі гэту тэндэнцыю і дамагаліся згуртавання праваслаўнага духавенства вакол ідэі самастойнасці сваёй царквы, што выклікала незадавальненне Маскоўскага патрыярхату і нават замену часткі духавенства на заваяванай маскоўскімі войскамі тэрыторыі Беларусі. На Украіне такую замену правесці не ўдалося, бо там праваслаўную царкву падтрымлівала казацкая старшына, украінская шляхта, масы казацтва і мяшчан.

У такім жа напрамку праводзіў Сільвестр Косаў і рэформу адукацыі. Пры ўтварэнні Кіева-Пячэрскай школы і Кіева-Магілянскага калегіума кірунак навучання, структура калегіума і навучальныя праграмы атрымалі форму лаціна-польскага ўзору. Тым самым Сільвестр Косаў падняў узровень традыцыйнай грэка-праваслаўнай адукацыі з яе тыповым адставаннем ад заходнееўрапейскай адукацыі. Сам Сільвестр Косаў даў прыклад па-новаму выкладаць навуку, бо быў дасведчаным выкладчыкам рыторыкі і філасофіі і кіраўніком гэтай навучальнай установы.

Праславіўся Сільвестр Косаў як пісьменнік-публіцыст, які ўключыўся ў рэлігійную палеміку першай паловы XVII стагоддзя. Пісаў ён свае творы на польскай і царкоўнаславянскай мовах. У 1631 годзе Сільвестр Косаў выдаў у Кіева-Пячэрскай лаўры кнігу «Экзегезіс, ці Справаздача аб кіеўскіх і вінніцкіх школах», у тым жа годзе ў Вільні — «Херувім», у 1637 годзе — «Дыдаскалія, або Навука для святароў» (у Куцеінскай друкарні), якая потым перавыдавалася, у 1635 годзе — «Патэрыкон, або Збор жыццяў святых пячэрскіх айцоў» (Кіеў), якая таксама перавыдавалася. Ён выдаў таксама ў Вільні ў 1635 годзе прамовы ў празаічным і вершаваным варыянтах на смерць свайго папярэдніка на епіскапскай беларускай кафедры Іосіфа Бабрыковіча-Анехожскага.

Менавіта на перыяд 1635—1637 гадоў прыпадае творчы ўздым Сільвестра Косава як пісьменніка-палеміста. Адзін за другім з друку выходзяць яго асноўныя творы — «Экзегезіс...», «Патэрыкон...», «Херувім» і «Дыдаскалія...».

Твор Сільвестра Косава «Экзегезіс...» быў аргументаваным адказам апанентам з уніяцкага боку, якія абвінавачвалі праваслаўных дзеячаў у прыхільнасці да пратэстантызму, а таму выступалі супраць надання праваслаўнай царкве прывілеяў, у тым ліку і на адкрыццё школ у Кіеве і Вінніцы. Сільвестр Косаў выказаўся за выкладанне шэрагу прадметаў на лацінскай мове. Ён сам крытыкуе багаслоўска-дагматычныя палажэнні лютэранаў і арыянаў.

У «Патэрыконе ... » Сільвестр Косаў пераклаў на сучасную яму мову тэкст старажытнага помніка ўсходнеславянскай літаратуры. Акрамя асноўнага тэксту, ён змясціў у кнізе разнастайныя дадаткі, што было новым у царкоўнай літаратуры. У канцы кнігі была змешчана «Храналогія праваслаўных Рускіх мітрапалітаў». Выданне «Экзегезіса...» і «Патэрыкона...» было накіравана супраць некалькіх ідэалагічных апанентаў: католікаў, уніятаў, пратэстантаў, а таксама супраць унутрыправаслаўнай апазіцыі, якая склалася супраць мітрапаліта Пятра Магілы.

«Херувім» і «Дыдаскалія...» з'явіліся ўкладам у развіццё тагачаснай беларускай літаратуры. «Херувім» стаў помнікам жанру памінальнага казання, у якім змешчаны не толькі некралог епіскапу мсціслаўскаму Іосіфу Бабрыковічу, але і ўслаўленне памяці іншых царкоўных дзеячаў, у тым ліку мітрапаліта Іова Барэцкага, архімандрыта Лявонція Карповіча. «Дыдаскалія...» стала першай катэхізістычнай кнігай, якая выйшла з асяроддзя пісьменнікаў Кіева-Магілянскай школы. Яна была настолькі папулярнай, што на працягу амаль 80 гадоў пад рознымі назвамі перавыдавалася і распаўсюджвалася на Украіне і ў Беларусі.

Сільвестр Косаў меў дачыненні да публікацыі яшчэ некалькіх твораў, у тым ліку «Літас або камень» (Кіеў, 1642) і «Збор кароткай навукі аб артыкулах веры» (Кіеў, 1645). У сваіх творах ён растлумачваў сэнс дзейнасні і бараніў асветніцкі кірунак настаўнікаў-наватараў. Ён па-новаму перадаў гісторыю Кіеўскай мітраполіі, паказаўшы ўзаемадачыненні кіеўскіх мітрапалітаў і канстанцінопальскіх патрыярхаў, прывёў гісторыю хрышчэння беларускіх і ўсіх славянскіх зямель. Праявіў сябе Сільвестр Косаў і выдатным багасловам. Ён адным з першых

найбольш поўна і ўсебакова паказаў адрозненні дагматычнага вучэння Усходняй царквы (праваслаўнай) ад рэлігійных дактрын арыянаў (добра разгледзеўшы тры плыні ў арыянстве), кальвіністаў (рэфарматаў) і лютэранаў. Распрацаваў таксама нормы хрысціянскай маралі і этыкі грамадскага жыцця XVII стагоддзя.

Сільвестр Косаў (спачатку як епіскап беларускі, а потым кіеўскі мітрапаліт) шмат зрабіў для асветы беларусаў і украінцаў, для развіцця пісьменства і кнігадрукавання. Менавіта пад яго наглядам дзейнічалі не толькі праваслаўныя навучальныя ўстановы, але і манастырскія скрыпторыі і друкарні. Ён спрыяў падрыхтоўцы да друку выданняў у друкарні Куцеінскага Богаяўленскага манастыра ў прыгарадзе Оршы: «Трыфалагіён» (1647), «Дыёптра» (1651, 1654), «Псалтыр» (1650), «Новы Запавет з Псалтыром» (1652), «Буквар» (1653), «Лексікон» (1653); у магілёўскай друкарні: «Буквар» (1648, 1649); віленскай брацкай друкарні: «Малітоўнік» (1652), «Буквар» (1652).

Памёр Сільвестр Косаў у Кіеве 23 красавіка 1657 года, на тры месяцы раней гетмана Багдана Хмяльніцкага. Такім чынам, дзейнасць мітрапаліта Сільвестра супадае з перыядам кіравання гэтага палітычнага дзеяча тагачаснай Украіны.

У гісторыю Сільвестр Косаў увайшоў як праваслаўны іерарх, які працягваў справу мітрапаліта Пятра Магілы па ўзнаўленню структуры праваслаўнай царквы ў Беларусі, Украіне, Літве і Інфлянтах. Ён сістэматычна абараняў самастойнасць Кіеўскай мітраполіі ад падпарадкавання яе Рускай праваслаўнай царкве і расійскаму цару. Зрабіў уклад у рэфарматарства педагагічнай сістэмы ў Беларусі, Літве і Украіне і праявіў сябе выдатным пісьменнікам-палемістам і асветнікам.

*Літаратура*

*Łużny R.* Kossów // Polski Słownik Biograficzny. T. XIV. Wrocław–Warszawa–Kraków, 1968 — 1969.

*Войніч І.* Пісьменнік-палеміст // Спадчына. 1991. № 4.

*Саверчанка І.* Сільвестр Косаў // Беларускі гістарычны часопіс. 1995. № 3.

*Саверчанка І.* Aurea mediocritas. Кніжная пісьмовая культура Беларусі: Адраджэнне і ранняе барока. Мн., 1998.

*Jakowenko N.* Historia Ukrainy od czasów najdawniejszych do końca XVIII wieku. Lublin, 2000.

*Анатоль Грыцкевіч*

# Тамаш МАКОЎСКІ
## (1562 або 1575–1630)



амаш Макоўскі, беларускі гравёр, мастак і картограф канца XVI – першай трэці XVII стагоддзя. Дакументальных звестак пра гады яго нараджэння і смерці няма, таму гісторыкі прымаюць гэтыя даты ўмоўна.

Больш верагодныя звесткі пра яго паходжанне дае вядомы польскі вучоны у галіне гістарычнай картаграфіі Станіслаў Александровіч. Ён прыводзіць дадзеныя з люстрацый Падляшскага ваяводства 1570 і 1576 гадоў і рэестра падаткаў 1580 года, а таксама з попісу войска Вялікага княства Літоўскага 1528 года. Станіслаў Александровіч называе, як ён мяркуе, невялічкі маёнтак роду Макоўскіх — вёску Макава ў парафіі Кабылін Бельскага павета Падляшскага ваяводства. Гэта прыблізна ў 30 кіламетрах ад цяперашняй польска-беларускай мяжы ў сучасным Падляшскім ваяводстве. У попісе войска 1528 года згадана ў Бельскім павеце «сяло Макоўскіх зямяне» і названы Міхал Макоўскі, Марка, Станіслаў, Войда і Войслаў Мікалаевічы Макоўскія. Паводле люстрацыі 1576 года, ў гэтай вёсцы пералічаны Міхал Макоўскі, яго стрыечны брат Мікалай, кабылінскі плебан, ксёндз Мікалай Макоўскі, Ян і Станіслаў Макоўскія. Такім чынам, Макоўскія з Бельскага павета належалі да дробнай падляшскай шляхты. Нагадаем, што Падляшша да 1569 года ўваходзіла ў склад Беларуска-Літоўскай дзяржавы і ўвайшло ў склад Польскага каралеўства падчас дзеяння Люблінскага сойму 1569 года, у выніку якога была падпісана Люблінская унія.

Герб роду Макоўскіх — Прус: у чырвоным полі сярэбраны крыж з дадатковай унізе перакладзінай толькі з правага боку (злева яе няма). Макоўскія былі запісаны ў дваранскія радас-

лоўныя кнігі Гродзенскай губерні. Звестак пра юнацкія гады Тамаша Макоўскага няма. Архіўныя крыніцы, літаратурныя звесткі і працы самога Т. Макоўскага дазваляюць больш дакладна асвятліць яго перыяд службы ў Нясвіжы пры двары магната і мецэната князя Мікалая Крыштофа Радзівіла, які меў мянушку Сіротка.

Пачаў службу Т. Макоўскі пры двары Мікалая Крыштофа Радзівіла незадоўга да 1600 года. Служыў ён да 1611 года на пасадзе каморніка (землямера); таму ведаў асноўныя элементы тагачаснай геадэзіі. Па службовых абавязках ездзіў у розныя мясціны радзівілаўскіх маёнткаў, раскіданыя на абшарах Вялікага княства Літоўскага. На пачатку службы ў 1600—1601 гадах па даручэнні М. К. Радзівіла ездзіў у Бранева (Браунсберг), сядзібу біскупаў вармінскіх на шляху паміж Гданьскам і Караляўцом (Кёнігсбергам), адным з культурна-асветных асяродкаў таго часу. Выехаў ён 10 ліпеня 1600 года. У Браневе існавала друкарня, былі дасведчаныя ў геаграфіі і картаграфіі спецыялісты. Місія Тамаша Макоўскага хутчэй за ўсё была звязана з выданнем кнігі Мікалая Крыштофа Радзівіла пра яго падарожжа ў Іерусалім і Святую зямлю. Менавіта ў Браунсбергу ў 1601 годзе выйшла гэта кніга на лацінскай мове, у якой быў змешчаны і гравіраваны партрэт Мікалая Крыштофа Радзівіла.

Паездка ў Бранева мела і іншыя мэты. Мецэнат і гаспадар Т. Макоўскага — М. К. Радзівіл — накіраваў туды свайго службоўца таксама для ўдасканалення гравёрскага майстэрства, у якім ён меў ужо пэўныя поспехі. Тамаш Макоўскі набыў там і больш дасканалыя веды друкара, мастака і картографа. Яго настаўнікам у Браневе быў вядомы ў Польшчы гравёр, канонік Вармінскага капітула Тамаш Трэтэр. На мастацкую творчасць Макоўскага вялікі ўплыў зрабілі вядомыя па нясвіжскіх замкавых зборах працы замежных гравёраў, асабліва нідэрландскіх. Перад паездкай у Бранева ён ужо меў дасведчанасць у гравёрскім мастацтве на медзі, выконваючы малюнкі заходнееўрапейскіх майстроў.

Пры падрыхтоўцы кнігі М. К. Радзівіла пра падарожжа ў Палесціну, Сірыю і на Блізкі Усход Тамаш Макоўскі аформіў тытульны ліст і некаторыя медзярыты (гравюры). У 1601 годзе ён падрыхтаваў яшчэ адну гравюру для кнігі Пятра Тыліцкага, біскупа Вармінскага, «Першае», якая выйшла ў тым жа годзе.

Пасля вяртання ў Нясвіж Тамаш Макоўскі, акрамя асноўнай працы каморніка, займаўся гравёрнай справай. Ужо ў 1602 годзе ў Нясвіжы ён падрыхтаваў серыю гравюр для кнігі вяліка-

га маршалка Вялікага княства Літоўскага Крыштофа Мікалая Дарагастайскага, вядомага спецыяліста па конегадоўлі, «Гіппіка, або Кнігі пра коней». Усяго Т. Макоўскі падрыхтаваў да гэтай кнігі тытульны ліст і 4 клішэ ілюстрацый, у тым ліку 24 з выявамі коней на фоне ландшафта. Кніга К. М. Дарагастайскага выйшла ў Кракаве ў 1603 годзе, другое яе выданне — у Познані ў 1620 годзе. Ілюстрацыі Тамаша Макоўскага часткова паўтарылі выявы коней на гравюрах з серыі «Коні Карла V, імператара», якая выйшла ў Антверпене ў 1578 годзе. Аўтарамі гэтай серыі гравюр былі нідэрландскія гравёры А Колэрт, Г. Гольтц, Ф. Гале і Г. Верыкс паводле малюнкаў Й. ван дэр Стрэта. Аднак Тамаш Макоўскі не проста выканаў механічны паўтор гэтых гравюр, але і замяніў ландшафты Нідэрландаў, Аўстрыі і Германіі на краявіды Беларусі і Кракава. Коні адлюстраваны на лоне прыроды ці на фоне гарадоў і замкаў. Медзярыты да кнігі Крыштофа Мікалая Дарагастайскага перайшлі пазней ва ўласнасць друкарні Й. Расоўскага ў Познані.

Найбольш актыўны перыяд у творчасці Тамаша Макоўскага прыпадае на 1604—1611 гады. Як сведчаць лісты Крыштофа Мікалая Дарагастайскага і Тамаша Трэтэра да Мікалая Крыштофа Радзівіла, акрамя вядомых прац Тамаша Макоўскага, якія дайшлі да нашага часу, у 1604 годзе ён выканаў малюнкі і медзярыты, якія дакладна паказалі бітву 23 чэрвеня 1601 года польскага і беларуска-літоўскага войскаў каля сцен крэпасці Какенгаузен у Інфлянтах, а таксама аблогу і ўзяцце гэтай крэпасці ў чэрвені 1601 года і аблогу крэпасці «Дыямент» шведскім войскам у верасні 1601 года. Тамаш Макоўскі ў гэты час выканаў чыставы варыянт карты свету з картай Вялікага княства Літоўскага. Тамаш Трэтэр пераслаў гэту карту ў Фландрыю, з яе былі зроблены гравюры, якія ён і пераслаў Мікалаю Крыштофу Радзівілу ў 1607 годзе.

У 1604 годзе Тамаш Макоўскі зрабіў ілюстрацыі да панегірыка М. К. Радзівілу братоў Яна, Захара і Мікалая Скарульскіх, прымеркаванага да заняцця ім пасады віленскага ваяводы. Акрамя звычайных упрыгожанняў і арнаментальных, геральдычных і алегарычных элементаў, мастак адлюстраваў сцэны цырымоніі ўвядзення новага ваяводы на пасад, выявы дамоў у Вільні і Нясвіжы. У 1610 годзе ён падрыхтаваў гравюру да «Панегірыка Казіміру» (1610, Вільня).

Яшчэ адным напрамкам дзейнасці Тамаша Макоўскага ў гэты перыяд была серыя гравюр з відамі гарадоў Беларусі і Літвы (Нясвіжа, Клецка, Алыкі, Біржаў, Коўна, Трокаў, Гродна і

Вільні). Гэтыя віды гарадоў пачатку XVII стагоддзя вызначаюцца падрабязнасцю, паказам трасіроўкі вуліц, пазначэннем найбольш важных будынкаў, рэк, якія працякаюць праз горад і каля яго, гарадскіх палёў. Гэтыя гравюры з'яўляюцца каштоўнымі іканаграфічнымі крыніцамі, а для вучоных, якія даследуюць гісторыю гарадоў, дадатковай крыніцай пры вызначэнні новых частак горада і прадмесцяў. Гэтая серыя гравюр была своеасаблівай падрыхтоўкай да стварэння карты Вялікага княства Літоўскага, якую па ініцыятыве Мікалая Крыштофа Радзівіла пачала рыхтаваць група спецыялістаў на чале з Тамашам Макоўскім і Мацеем Струбічам (таксама родам з Падляшша, з недалёкага ад радзімы Макоўскіх маёнтка).

Тамаш Макоўскі выканаў некалькі гравюр пра падзеі вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй. Гэта серыя гравюр «Аблога Смаленска» (1611), выява прадстаўлення сенату узятых у палон братоў Шуйскіх (цара Васіля і князя Дмітрыя Іванавічаў) і інш. Але найбольш цікавай з'яўляецца гравюра з планам-панарамай Масквы, якую ў 1606—1608 гадах намаляваў Шымон Смятанскі, а выканаў у медзярыце Тамаш Макоўскі. Гэта быў дакладны план тагачаснай Масквы з усімі раёнамі і галоўнымі вуліцамі, крапаснымі сценамі, Масква-ракой і іншымі рэчкамі ў горадзе, а таксама з некаторымі прыгарадамі. Гэта, бадай, першы план Масквы (калі не лічыць адмыслова зробленага плана горада для царэвіча Фёдара Барысавіча Гадунова ў 1604—1605 гадах і плана Крамля ў 1603 годзе). Выданне гравюры Тамаша Макоўскага пазнаёміла спецыялістаў у Заходняй Еўропе з відам сталіцы Расіі і паўплывала на адлюстраванне Масквы ў далейшым развіцці заходнееўрапейскай картаграфіі XVII стагоддзя. Гравюра Тамаша Макоўскага з выявай Масквы, зробленая ў Нясвіжы ў 1611 годзе, стала ўзорам для новай гравюры плана Масквы Лукі Кіліяна з Аўгсбургу, прысвечанай каралю Уладзіславу III Вазе, а потым і італьянскага гравёра Джакома Лаўра ў 1622 годзе — для каралевіча Уладзіслава, які ў гэты час яшчэ фармальна насіў тытул «цара маскоўскага і ўсяе Русі».

Найбольш значным творам Тамаша Макоўскага з'яўляецца карта Вялікага княства Літоўскага, інакш Радзівілаўская карта. Па ініцыятыве Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі ў Нясвіжы ў канцы XVI стагоддзя пачалося складанне першай буйнамаштабнай карты ВКЛ (1:1 300 000). Галоўным яе выканаўцам і быў Тамаш Макоўскі. Перш за ўсё ён зрабіў шматлікія рэкагнасцыроўкі тых месц, што наносіліся на карту. Было ўдакладнена размяшчэнне многіх населеных пунктаў, балот, на-

прамкі рэк. У 1599 годзе карта была гатова. Першы яе варыянт быў выдадзены ў 1603 годзе. На жаль, гэта карта не дайшла да нашага часу. Для другога выдання карты былі зроблены некаторыя ўдакладненні. Другое выданне адбылося ў 1613 годзе ў Амстэрдаме ў друкарні Блаў. Пасля гэтага буйнейшыя выдаўцы геаграфічных карт змясцілі яе ў сваіх атласах. Выканана карта была на міжнароднай мове таго часу — лацінскай.

Карта Вялікага княства Літоўскага 1613 года складалася з чатырох склееных аркушаў, якія ўтвараюць чатырохвугольнік 79,9 см у даўжыню і 109,3 см у шырыню. Сама галоўная карта разам з рамкай — 74,9 см у даўжыню і 74,3 см у шырыню. Арыентавана яна на поўнач. Сетка мерыдыянаў і паралелей змешчана па аднаму градусу. Карта Т. Макоўскага была зроблена ў адпаведнасці з тагачаснымі графічнымі патрабаваннямі. Яна змяшчае выяву геаграфічнай прасторы паміж Віслай з захаду да Дняпра, Сожа, Дзясны і Сулы з усходу, ад Балтыйскага мора і Інфлянтаў (Лівоніі) на поўначы да ўкраінскіх стэпаў на поўдні (прычарнаморскіх стэпаў на ёй няма). Такім чынам, на карце прадстаўлена тэрыторыя ВКЛ да Люблінскай уніі 1569 года. У яе правай частцы змешчана асобная карта ў дзвюх частках ніжняга цячэння Дняпра да Чорнага мора.

На карце змешчаны назвы і абазначэнні 1 020 мясцовасцей, у тым ліку на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага пасля Люблінскай уніі — 543, пры гэтым толькі чвэрць мясцовасцей перанесена з папярэдніх карт, а тры чвэрці нанесены ўпершыню. Аднак і былыя тэрыторыі ВКЛ, якія ў 1569 годзе адышлі да Польшчы, у большасці сваёй таксама прадстаўлены ўпершыню. Гэта Валынь, Кіеўскае і Брацлаўскае ваяводствы, Падляшша. На карце 1613 года добра прадстаўлены і іншыя тэрыторыі – Мазоўша, Малапольшча, украінскія землі Польшчы (Галіччына), а таксама Прусія Княская і Прусія Каралеўская, Інфлянты з Курляндыяй і памежныя землі Маскоўскай дзяржавы.

На карце зроблены невялічкія ўрэзкі з пэўнай інфармацыяй пра гістарычныя падзеі. Сярод іх кароткія звесткі пра перамогу князя Канстанціна Астрожскага ў бітве пад Оршай у 1514 годзе; аб заваёве Полацка маскоўскім войскам у 1563 годзе і адваёве яго каралём Стэфанам Баторыем; аб перамозе над Улай у 1564 годзе князя Мікалая Радзівіла («Рудога»); аб бітвах з маскоўскімі войскамі на мяжы паміж Дняпром і Заходняй Дзвіной. У паўднёвай частцы карты намаляваны два атрады — рыцараў і крымскіх татар – з паядынкамі коннікаў перад пачаткам бітвы. На тэрыторыі ВКЛ у межах пасля 1569 года на карце прадстаў-

лены 511 гарадоў і мястэчак, 31 вёска з дваром шляхецкім. Спецыяльным знакам — княжацкай шапкай (каронай) — адзначаны Вільня як сталіца дзяржавы і вялікага князя, Каралявец (Кёнігсберг) як сталіца прускага герцага, Мітава (Елгава) як сталіца курляндскага герцага і сталіцы княстваў (тытулы ўладальнікаў) Нясвіж, Слуцк, Біржы, Дубінкі, Гедройцы, Алыка, Астрог. Выявы гарадоў зроблены так, што можна адрозніць іх часткі – стары горад, новы горад, прадмесці. Асобна пазначаны гарады, дзе размяшчаліся рэзідэнцыі біскупаў, але рэзідэнцыі праваслаўных епіскапаў пазначаны не ўсе.

Стварэнне карты Вялікага княства Літоўскага 1603 і 1613 гадоў было не толькі прыватнай справай групы спецыялістаў, запрошаных у Нясвіж М. К. Радзівілам, але і адпавядала патрэбам таго часу. Тое, што на карце больш дакладна паказана тэрыторыя ВКЛ у межах да Люблінскай уніі, дае сведчанне пра пазіцыю магнатаў, якія не забылі страту тэрыторый дзяржавы на карысць Польскага каралеўства. Таму Радзівілаўская карта 1613 года адлюстроўвае не толькі ўзровень геаграфічных, мастацкіх і гравёрскіх ведаў у Беларусі і Літве таго часу, але нясе і палітычную інфармацыю. Патрыятычны характар складальнікаў карты і яе фундатара, князя М. К. Радзівіла, праяўляецца і ў пераліку вайсковых перамог Вялікага княства Літоўскага за апошнія сто гадоў.

Пра дзейнасць Тамаша Макоўскага ў апошні перыяд яго жыцця звестак не засталося.

*Літаратура*

*Alexandrowicz St.* Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do poiowy XVIII wieku. Poznań, 1971. 2 wyd. Poznań, 1989.

*Alexandrowicz St., Treiderowa A.* Makowski Tomasz // Polski Słownik Biograficzny. Tom XIX. Wrocław–Warszawa–Kraków, 1974.

*Kołaczkowski J.* Słownik rytowników polskich. Lwów, 1874.

*Jakubowski J.* Tomasz Makowski sztycharz i kartograf nieświeski. Warszawa, 1923.

*Taurogiński B.* Z dziejów Nieświeża. Warszawa, 1937.

*Шматаў В.* Ф. Беларуская кніжная грвюра XVI—XVIII стст. Мн., 1984.

*Анатоль Грыцкевіч*

## Язэп
## РУЦКІ
## (1574–1637)



зэп Вельямін Руцкі – трэці уніяцкі мітрапаліт, выдатны пісьменнік-палеміст і педагог, філосаф і тэолаг. З яго імем звязваецца ўмацаванне уніяцкай царквы Вялікага Княства Літоўскага, час яе росквіту і прыкметнага ўплыву на духоўнае жыццё нашых продкаў. У асобе Я. В. Руцкага арганічна спалучаліся талент тонкага дыпламата, майстэрства літаратара, рэдкія здольнасці практыка-арганізатара і лідэра, здатнага праводзіць глыбокія рэформы. Язэп (Іосіф) – яго манаскае імя.

Нарадзіўся Ян Руцкі ў 1574 годзе ў радавым маёнтку Рута, што паблізу ад Карэліч у Наваградскім павеце, у шляхецкай сям'і. Бацька Фелікс Руцкі і маці Багуміла Корсак належалі да кальвінісцкага веравызнання. Ахрышчаны ён быў паводле праваслаўнага абраду, але выхоўваўся ў пратэстанцкім асяроддзі.

Пачатковую адукацыю падлетак атрымаў у першай палове 80-х гадоў у наваградскіх анабаптыстаў. Мусіць, з парады настаўнікаў бацькі накіравалі яго ў Віленскую кальвінісцкую школу, дзе ён студыяваў некалькі гадоў, старанна вывучаючы класічныя мовы – лаціну, грэчаскую і старажытнаяўрэйскую. Некаторы час знаходзіўся пры дварах князёў Заслаўскіх і Астрожскіх.

У 16-гадовым узросце Руцкі накіроўваецца за мяжу, каб прадоўжыць навучанне. Нейкі час ён слухае лекцыі ў славутым Пражскім (Карлавым) універсітэце, затым тры гады праводзіць у Нямеччыне і з выдатнымі адзнакамі заканчвае Вюрцбурскі універсітэт. Матэрыяльную падтрымку ў час навучання за мяжой ён атрымліваў ад маці, бо бацька памёр яшчэ да яго ад'езду

ў Чэхію, у 1590 годзе. Але адданая кальвінізму Багуміла Корсак, неяк дачуўшыся пра сімпатыі сына да каталіцтва, пазбавіла яго ўсялякіх сродкаў на існаванне. Пракуратар вялікакняжацкай і польскай каталіцкіх правінцый айцец Бокса, даведаўшыся пра фінансавыя цяжкасці Руцкага, параіў яму ехаць у Рым і паступіць у Грэчаскі калегіум, дзе багаслоўскую адукацыю можна было атрымаць бясплатна. Прыблізна ў 1600 годзе ён быў залічаны ў гэту навучальную ўстанову. Тады ж адбылася вельмі важная ў жыцці Руцкага падзея: ён урачыста пакляўся заўсёды трымацца ўсходняга веравызнання, бо гэта было адной з умоў прыняцця ў калегіум.

Дзесьці ў 1601 годзе Ян Руцкі вярнуўся на радзіму. Сустрэўшыся ў Вільні з уніяцкім мітрапалітам І. Пацеем, асвечаны юнак прапанаваў свае паслугі і веды на карысць уніяцкай царквы. Але мітрапаліт стрымана паставіўся да прапановы выхаванца еўрапейскіх універсітэтаў і параіў яму накіравацца ў новае падарожжа па Еўропе з дзецьмі віленскага ваяводы князя Крыштофа Радзівіла. Разгублены і занепакоены няўдачай, Руцкі едзе ў Руту да маці, каб адпачыць і вызначыцца з будучым заняткам.

Час няпэўнасці быў кароткі. У 1602 годзе памёр рэктар Віленскай уніяцкай семінарыі Пётр Федаровіч, і І. Пацей, пасля настойлівай просьбы каталіцкага біскупа Бенедыкта Войны, згадзіўся прызначыць Руцкага кіраўніком семінарыі. З гэтага моманту пачалася яго сталая дзейнасць.

На пасадзе рэктара, якую Ян Руцкі займаў на працягу трох гадоў, выявіўся яго бліскучы педагагічны талент і здольнасці рэфарматара. Як творчая асоба Руцкі адразу ж ажыццявіў шэраг змен у сістэме навучання Віленскай семінарыі і падрыхтаваў выдатны паводле свайго зместу навукова-педагагічны трактат пад тытулам «Дыскурсус» (каля 1605), у якім абгрунтаваў неабходнасць карэнных рэформ у сферы адукацыі і выхавання. Гэтыя рэформы, на яго думку, мусілі істотна змяніць жыццё ўсёй уніяцкай царквы.

Рэктар Віленскай семінарыі не меў, аднак, рэальных магчымасцей карэнным чынам рэфармаваць сістэму навучання ўсёй уніяцкай царквы. Яго радыкальныя педагагічна-асветніцкія праграмы хоць і знайшлі разуменне сярод іерархаў, але не маглі быць здзейснены ў маштабах усёй царквы. Магчыма, і сам ініцыятар рэформ не выявіў тады асаблівай настойлівасці і паслядоўнасці ў дасягненні пастаўленай мэты.

У 1606 годзе, захапіўшыся місіянерскай ідэяй, Руцкі накіроўваецца ў Маскву, дзе ёсць магчымасць рэалізаваць сябе,

ажыццявіць свае задумы ўдасканалення Хрыстовай царквы. На маскоўскім пасадзе на той момант знаходзіўся цар Дзмітрый І (пазней названы Ілжэдзмітрыем), які ў 1605 годзе прывёў у Маскву беларускія і польскія вайсковыя аддзелы.

Ян Руцкі меў цесныя стасункі з новым маскоўскім гаспадаром і неаднаразова прапаноўваў яму накіроўваць юнакоў на вучобу ў Вялікае княства Літоўскае з тым, каб пасля з іх дапамогай праводзіць дзяржаўныя і царкоўныя пераўтварэнні ў Маскоўскай дзяржаве. Але і ў Маскве здзейсніць свае задумы Руцкі не змог, бо ўлада Дзмітрыя І неўзабаве пахіснулася, пачаліся ўнутраныя забурэнні, у выніку якіх цар быў забіты, а ў Маскоўскай дзяржаве наступіў “смутны час”.

Вясной 1606 года Руцкі, сутыкнуўшыся ў Маскве з неспрыяльнымі для рэформ умовамі, намерыўся паехаць разам з кармелітам Паўлам у Персію. Праўда, падарожжа на Усход не адбылося. Як апавядае легенда, па выездзе місіянераў з Масквы, праз суткі блуканняў, яны раптам зноў апынуліся ля яе сцен, хоць іх і суправаджалі дасведчаныя праваднікі. Руцкі ўспрыняў гэта здарэнне як Божы знак, адмовіўся ад паездкі ў Персію і ў хуткім часе вярнуўся на Радзіму.

У Вільні Ян Руцкі зблізіўся з манахам Свята-Троіцкага манастыра Язафатам Кунцэвічам і, відаць, пад яго уплывам 6 верасня 1607 года падаўся ва уніяцкі манастыр. 1 студзеня 1608 года, пасля заканчэння тэрміну выпрабавання, адбылося яго пастрыжэнне ў манахі пад імем Язэпа. У тым жа годзе архімандрыт Свята-Троіцкага манастыра Самуэль Сянчыла пасвяціў Руцкага ў дыяканы, а затым надаў яму сан прасвітэра. З гэтага моманту жыццё і чыннасць Руцкага становяцца цалкам знітаванымі з уніяцкай царквою.

Пасля таго як Свята-Троіцкі манастыр папоўніўся моладдзю, пераважна шляхецкага паходжання, Я. Руцкаму было даручана яе выхаванне. Ён чытаў навіцыянам лекцыі з багаслоўя, навучаў іх лацінскай і царкоўнаславянскай мовам. Менавіта ў перыяд знаходжання ў Віленскім уніяцкім манастыры, з 1607 да 1613 года, канчаткова сфарміравалася тэалагічная дактрына Я. Руцкага, пра што красамоўна сведчаць яго «Тэзісы», выдадзеныя на старабеларускай і польскай мовах у канцы 1607 ці на самым пачатку 1608 года.

Нягледзячы на тое, што Руцкі не займаў значных царкоўных пасад, ён паступова станавіўся ўсё больш аўтарытэтнай асобай сярод віленскіх уніятаў. Таму спрыялі яго неаднаразовыя выступленні ў час дыспутаў, паспяховая педагагічная дзейнасць

і, несумненна, асабістая абаяльнасць. Па-еўрапейску адукаваны, ён досыць лёгка заваёўваў сімпатыі людзей, без асаблівых цяжкасцей знаходзіў агульную мову з прадстаўнікамі розных канфесій, а таксама дзяржаўнымі дзеячамі Вялікага княства Літоўскага. Не выпадкова мітрапаліт Іпаці Пацей у ліпені 1608 года прызначыў менавіта Руцкага сваім намеснікам і генеральным вікарыем, хоць гэту пасаду, паводле заведзенага звычаю, мусіў заняць архімандрыт Віленскага Свята-Троіцкага манастыра. У 1609 годзе мітрапаліт прызначыў Язэпа Руцкага архімандрытам Свята-Троіцкага манастыра ў Вільні. З гэтым прызначэннем на яго плечы лёг увесь цяжар кіраўніцтва уніяцкай царквою, бо састарэлы і хворы І. Пацей быў не ў стане штодзённа «даглядаць духоўныя парадкі». Перад Я. Руцкім паўстала надзвычай складаная задача: праз рэформы ўмацаваць царкву – арганізацыйна і эканамічна, зрабіць яе прыцягальнай для вернікаў, узняць аўтарытэт у вачах хрысціянскага свету. І ён, як паказаў час, змог дасягнуць пастаўленых мэт.

Перш за ўсё Я. Руцкі дамогся канчатковага захавання Троіцкага манастыра за уніятамі, бо праваслаўныя, не зважаючы на вырак манарха, у сакавіку 1609 года паспрабавалі сілай авалодаць ім. Архімандрыт 20 сакавіка 1609 года падаў скаргу ў магістрат, патрабуючы пакарання вінаватых. Яго падтрымаў І. Пацей. 30 красавіка 1609 года ў адказ на дзеянні уніятаў Віленскае праваслаўнае брацтва выступіла з заявай, у якой адзначалася, што праваслаўныя ніколі не прызнаюць яго рашэнняў. Яны не абмежаваліся толькі словамі. Праваслаўны мешчанін Максім Шэмбель зрабіў замах на жыццё Руцкага, і толькі дзякуючы шчасліваму збегу абставін ён застаўся жывы.

Надзвычай важны напрамак дзейнасці Руцкага на шляху ўмацавання уніяцкай царквы – пабудова новых бажніц і заснаванне манастыроў, якія сталі яе фундаментам. Так, Руцкаму і яго аднадумцу Кунцэвічу ўдалося схіліць багатага шляхціча Рыгора Трызну да думкі аб пабудове ў Быцені мужчынскага манастыра. Дзякуючы іх намаганням каля 1613 года на месцы бажніцы ў Жыровічах таксама быў закладзены уніяцкі манастыр, які з часам стаў выбітным асяродкам хрысціянскай культуры. Сродкі на яго пабудову ахвяраваў смаленскі кашталян Ян Мялешка. Пад уплывам Руцкага і Кунцэвіча Я. Мялешка схіліўся да уніяцкай веры і з часам стаў адным з найбольш актыўных яе прапагандыстаў сярод шляхты. Плён намаганняў Руцкага і яго манахаў-аднадумцаў – адкрыццё буйнога уніяцкага манастыра ў Навагрудку.



6. Зак.2059

Мітрапаліт І. Пацей, які стаяў ля вытокаў уніяцкай царквы, высока ацэньваў чыннасць Руцкага і цешыўся тым, што не памыліўся ў сваім выбары. 16 чэрвеня 1612 года ён выдаў прывілей аб узвядзенні архімандрыта Троіцкага манастыра на епіскопію Галіцкую і наданні яму сана «надворнага ўладыкі» – кіраўніка ўсёй царкоўнай адміністрацыі.

Да найбольш значных заслуг Я. Руцкага належыць і далучэнне да уніяцкай царквы Менскага Узнясенскага манастыра. Менавіта з яго хадайніцтва Жыгімонт Ваза 30 сакавіка 1613 года выдаў прывілей, паводле якога гэты старажытны куток царкоўнай духоўнасці станавіўся уніяцкім.

Не на апошнім месцы ў дзейнасці Руцкага быў і клопат пра навучанне моладзі і падрыхтоўку новых пастараў. Ён не толькі ствараў умовы для паляпшэння навучання ў школе пры Троіцкім манастыры, але і па дамове з каталіцкімі іерархамі накіроўваў моладзь у Нясвіжскі, Калішскі і Пултускі езуіцкія калегіумы, дзе яна мела магчымасць атрымаць выдатную адукацыю еўрапейскага ўзроўню. Пасля некалькіх аудыенцый у вялікага князя Руцкі 31 сакавіка 1613 года дастаў прывілей на завядзенне школ у Мінску, Наваградку і іншых месцах, падпарадкаваўшы іх выключна духоўным уладам. У заснаваных навучальных установах, паводле прывілею, прадугледжвалася навучанне пяці мовам – беларускай, польскай, царкоўнаславянскай, грэчаскай і латыні, а таксама выкладанне цыкла «вызваленых мастацтваў». Да таго ж у снежні 1615 года Руцкі дамогся ад папы рымскага пацвярджэння для ўсіх уніяцкіх школ тых правоў, якія мелі езуіцкія калегіумы.

Новы этап у жыцці Руцкага пачаўся пасля смерці уніяцкага мітрапаліта І. Пацея, які адышоў у нябыт 8 жніўня 1613 года. Праз некалькі дзён пасля яго пахавання Жыгімонт Ваза выдаў прывілей, паводле якога новым уніяцкім мітрапалітам прызначаўся менавіта Я. Руцкі. З гэтым прызначэннем уніяцкая царква без забурэнняў і прыкметных змен уступіла ў новы, найбольш значны, перыяд сваёй гісторыі. Што датычыць асабіста Я. Руцкага, дык ён разам з новым санам атрымаў дадатковыя землі і маёнткі, перадусім тыя, што калісьці належалі М. Рагозу і І. Пацею, а таксама маёнткі ў Наваградку і Прылепічах.

Па ўзыходзе на мітраполію Я. Руцкі разгарнуў яшчэ большую дзейнасць, накіраваную на ўмацаванне уніяцкай царквы, якая на той момант мела 5 буйных царкоўна-адміністрацыйных адзінак–епіскапіяў: Полацкую, Уладзімірскую, Пінскую, Холмскую і Смаленскую. Ён найперш пачаў дамагацца палітычных

правоў для уніяцкай царквы, увядзення яе найвышэйшых іерархаў у склад Рады – найвышэйшага выканаўча-распарадчага органа Вялікага княства Літоўскага. Захаваўся дакумент ад 20 студзеня 1615 года, у якім паведамлялася пра настойлівую просьбу мітрапаліта да дэпутатаў, абраных на Генеральны сойм ад Слоніма, паставіць перад заканадаўчым органам пытанне пра увядзенне некалькіх прадстаўнікоў уніяцкай царквы ў склад Рады. Руцкі звярнуўся і да папы рымскага Паўла V, каб той са свайго боку падтрымаў гэтыя справядлівыя патрабаванні і паўплываў на Жыгімонта Вазу. Нягледзячы на перашкоды і цяжкасці, ён праз нейкі час усё ж дамогся свайго, і некалькі уніяцкіх іерархаў увайшлі ў Раду.

Руцкі няспынна наведваў епархіі, манастыры і прыходы, каб ведаць рэальнае становішча і ажыццяўляць кантроль дзейнасці іерархаў. Гэта дазволіла мітрапаліту зрабіць шэраг удалых і своечасовых перамяшчэнняў сярод найвышэйшага і асабліва сярэдняга святарства. Так, архімандрытам Віленскага Троіцкага манастыра ў 1617 годзе ён паставіў Льва Крэўзу. 3 ліпеня 1614 года Руцкі ўзвёў на Уладзімірскую кафедру свайго паплечніка І. Марахоўскага, а архіепіскапам Полацкім, на змену Гедэону Бральніцкаму, зрабіў адданага уніяцкага дзеяча Язафата Кунцэвіча. Руцкі таксама спрабаваў падпарадкаваць уніяцкай царкве праваслаўныя асяродкі Кіева, найперш славутую Кіева-Пячорскую лаўру. Працяглае змаганне уніятаў за лаўру скончылася аднак безвынікова: яна засталася ў руках праваслаўных.

Руцкі дзейнічаў у досыць складаных абставінах жорсткага супрацьстаяння з праваслаўнымі. Аднак ні супраціўленне апанентаў, ні ўнутраныя перашкоды не спынілі яго. Ён пачаў падрыхтоўку да карэнных, глыбокіх рэформ царквы, найперш манастырскага жыцця. Найважнейшы крок на гэтым шляху, паводле яго задумы, – утварэнне ордэна, на які ўскладалася б функцыя флагмана, збіральніка ўсіх духоўных сіл царквы.

Вынік шматгадовай аналітычнай працы Руцкага – аб'ёмны рукапісны том «Правілы манаскага жыцця», закончаны да 1617 года, дзе дэталёва вызначаліся структура новага ордэна, яго мэты і характар дзейнасці. Як сведчаць гістарычныя крыніцы, афармленне Базыліянскага ордэна, набыццё ім пэўнага юрыдычнага статуса адбылося ў перыяд шасці з'ездаў прадстаўнікоў манастыроў – у Наваградку (1617), Лаўрышаве (1621, 1626), Руце (1623), Жыровічах (1629) і Вільні (1636). Абсалютнаму трыумфу уніяцтва на абшарах Вялікага княства Літоўскага перашкодзіла, аднак, ўзнаўленне ў 1620 годзе іерусалімскім патрыяр-

хам Тэафанам праваслаўнай мітраполіі. У 1621 годзе Я. Руцкі распачаў літаратурную палеміку з праваслаўнымі. Ён апублікаваў два публіцыстычна-палемічныя трактаты – «Падвойная віна» і «Экзамен абароны». Літаратурныя дыскусіі, вядома, не знялі ўсіх пытанняў. Пасля працяглых разважанняў мітрапаліт нарэшце прыйшоў да высновы, што міжканфесійныя дачыненні ў Княстве можна ўрэгуляваць па-сапраўднаму і назаўжды толькі праз утварэнне сваёй вялікакняжацкай патрыярхіі. Галоўныя мэты ўтварэння патрыярхіі Я. Руцкі слушна бачыў у дасягненні кансалідацыі ўсяго шматканфесійнага літвінскага народа, ліквідацыі падстаў для грамадскага напружання на рэлігійнай глебе.

Я. Руцкі выявіў сябе як выдатны літаратар, майстар мастацка-публіцыстычнага слова, пісьменнік-аналітык. У сваіх творах ён прапаноўваў абмеркаванне і вырашэнне актуальных пытанняў грамадскага і царкоўнага жыцця.

Закранаючы праблему ўзаемадачыненняў паміж свецкай і духоўнымі уладамі, Я. Руцкі схіляўся на бок дактрыны аб прыярытэтнасці свецкіх улад у краіне. На старонках сваіх твораў ён абгрунтоўваў антызаконнасць узнаўлення праваслаўнай мітраполіі у Вялікім княстве Літоўскім. У сваім творы «Экзамен Абароны» ён выкрываў праваслаўную дактрыну, асуджаў «разбуральную» дзейнасць праваслаўнага святарства. Назваўшы аўтара «Абароны Верыфікацыі» чалавекам «абмежаваных здольнасцей», які нібыта імкнецца «сцвярджаць ісціну не фактамі і аргументамі, а непрыстойнай лаянкай ды абразамі», Я.Руцкі сфармуляваў пяць асноўных антытэзісаў супраць Мялетавых выказванняў у апраўданне ўзноўленай праваслаўнай іерархіі Вялікага княства Літоўскага.

У сваіх творах пісьменнік аргументавана даводзіў, што ў беларускім гаспадарстве здаўна існуе закон, паводле якога менавіта манарх прызначае («прэзентуе») на вышэйшыя духоўныя пасады ў Княстве, а патрыярх толькі робіць пасвячэнне. Мітрапаліт Я. Руцкі абураўся дзеяннямі патрыярха Тэафана, выступаў супраць яго з рэзкім пратэстам, называючы «парушальнікам спакою », «маскоўскім агентам» і «турэцкім шпіёнам». Ён заклікаў вялікага князя і ўрад любым шляхам спыніць «разбуральную дзейнасць дызунітаў».

Як бачым, на працягу ўсяго жыцця Я. Руцкі адстойваў прынцыпы гуманізму, рэлігійнай верацярпімасці, сацыяльнай гармоніі, цвёрда стаяў на патрыятычных пазіцыях.

### Крыніцы і літаратура

*Руцкі Я.* TESES, сиреч Изъвестны предъложенія от ученій еже о тайнах церъковных. На размышленіе къ объщему состезанію данны честным отцем Іосифом Велямином Рутъским, иноком Закону Святого Василія ■ монастыру Виленском Святое Живоначалное Тройцы [Вільня, 1608].

*Rutski J.* Examen Obrony, to iest Odpis na scrypt «Obrona Verificatiej» nazwany, w którym się zgromadzenie wilenskie zejscia Ducha justificuie, że nie popadło w «Sowitą Winę», sobie zadaną. Wydany od zakonnikow monastera Wileńskiego S. Trojcy. Drukowano w Wilnie w drukarni Leona Mamonicza. Roku Pańskiego 1621.

*Rutski J.* Sowita wina, to iest Odpis na script, Maiestat Krola Jego Mości, honor y reputatią ludzi zacnych, duchownych y swieckich obrażaiący, nazwany "Verificatia niewinności", wydany od zgromadzenia nowej cerkwie, nazwanej S. Ducha. Przez ojce monastyra Wileńskiego Ś. Trojcy, Zakonu Ś. Bazilego. – W druk podany w Wilnie, roku Pańskiego 1621.

*Руцкі Я.* Ліст да кардынала Бандыні (11 лютага 1624) // Вестник Юго-Западной и Западной России. Киев, 1862. Год 1-й. Т. 2.

*Жукович П.* Жизнеописание митрополита Иосифа Вельямина Рутского, составленное митрополитом Рафаилом Корсаком, и сочинение Рутского об улучшении внутреннего строя униатской церкви // Христианское Чтение. 1909. № 6 – 12.

*Саверчанка І. В.* Апостал яднання і веры: Язэп Руцкі. Мн., 1994.

*Турук Ф.* Униатский митрополит Иосиф Вельямин Рутский (1613 – 1637) и его значение в истории Униатской Западной русской церкви. Пг., 1916.

*Іван Саверчанка*

# Людвіка Караліна РАДЗІВІЛ (1667–1695)



юдвіка Караліна Радзівіл (27 лютага 1667 года, Каралявец (Кёнігсберг) — 23 сакавіка 1695 года, Бжэг (Брыг), Сілезія). Прадстаўніца старажытнага і магутнага княжацкага роду Радзівілаў. Мецэнатка. Адзіная дачка князя Багуслава Радзівіла (1620 – 1669), генеральнага губернатара Прусіі (Усходняй), і князёўны Ганны Марыі Радзівіл (1640 – 1667), яго дваюраднай пляменніцы і дачкі гетмана вялікага Януша Радзівіла (1612 – 1655).

Людвіка Караліна Радзівіл у маленстве засталася сіратою. Яна была апошняй прадстаўніцай біржанска-слуцкай галіны роду Радзівілаў, якія належалі да кальвініскага (рэфармацкага) веравызнання. Маленькая дзяўчынка атрымала ў спадчыну вялікія маёнткі з гарадамі і мястэчкамі, якія належалі яе бацьку, Багуславу Радзівілу, і дзеду па матчынай лініі, Янушу Радзівілу, што перайшлі да бацькі. Гэта былі Слуцкае і Капыльскае княствы, Невельскае, Себежскае і Койданаўскае графствы, а таксама Кейданы, Біржы, Дубінкі (у Літве), Любча, Копысь, Смалявічы (тады — слабада Багуслаўполе), Беліца (ля Нёмана), Заблудаў (ля Беластока), Волма, Рубяжэвічы, Вязынь, Станькаў і інш. Бацька раней склаў тэстамент, каб забяспечыць непарушнасць усіх гэтых латыфундый і гарантаваць іх сваёй дачцы. Апекунамі Людвікі Караліны Радзівіл, паводле тэстаменту, былі прызначаны сваякі Багуслава Радзівіла і людзі, якія належалі да кальвініскага веравызнання (11 чалавек). Сярод іх былі курфюрст Брандэнбурга (і герцаг Прусіі) Фрыдрых Вільгельм, які ўвайшоў у гісторыю Германіі як вялікі курфюрст (ён быў сваяком Багуслава Радзівіла па матчынай лініі), князь Міхал Казімір Радзівіл, уладальнік Нясвіжа і далёкі сваяк

Багуслава Радзівіла па мужчынскай лініі, ваявода брацлаўскі Енджэй Патоцкі, падскарбі каронны (польскі) Енджэй Морштын, брандэнбургскі пасол у Польшчы Ян Говэрбэк, стольнік плоцкі Казімір Клакоцкі. Такім чынам, над дзяўчынай была ўстаноўлена калектыўная апека, каб магутныя апекуны маглі кантраляваць дзеянні адзін другога і разам адстойваць інтарэсы маленькай Людвікі Караліны.

Для кіравання вялікімі латыфундыямі былі прызначаны эканомы Казімір Клакоцкі і Станіслаў Незабітоўскі, ім дапамагалі кансыляры (радцы) Ян Рыхард Фэр і доктар медыцыны Крыштоф Вінклер, які пазней быў прызначаны ўжо самой Людвікай Каралінай войтам Слуцка.

Фактычна захаваўся адміністрацыйны лад, які існаваў у латыфундыях Багуслава Радзівіла ў другой палове XVII — першай палове XVIII стагоддзя. Паводле ранейшай пастановы Багуслава Радзівіла ў яго валоданнях у Беларусі і Літве было створана кіраванне па ўзору невялікіх нямецкіх княстваў таго часу, што вельмі нагадвала адміністрацыйны лад амаль самастойнай дзяржавы. Усе найважнейшыя пытанні кіравання латыфундыямі разглядаліся на з’ездах («кансіліумах») эканомаў і радцаў раз у два месяцы (у крайнім выпадку раз у тры месяцы). З’езды склікаліся старэйшым эканомам, якім быў Казімір Клакоцкі, па чарзе ў Слуцку і Біржах. Але хутка скліканне гэтых з’ездаў было перанесена ў Слуцк, які ператварыўся ў сталіцу усіх радзівілаўскіх маёнткаў Людвікі Караліны. На з’ездах пры абмеркаванні і прыняцці якіх-небудзь статутаў («уставаў»), а таксама пры рашэнні фінансавых пытанняў, перадачы ў арэнду фальваркаў або пэўных галін княжацкіх даходаў на «кансіліум» запрашаўся «камермайстар» Слуцкага княства, які ўзначальваў фінансавае ведамства ўсіх латыфундый Людвікі Караліны Радзівіл.

Вайсковым губернатарам гэтай амаль аўтаномнай дзяржавы, што належала дзяўчынцы, быў старэйшы эканом. Яму падпарадкоўваліся каменданты крэпасцей і гарнізоны магнацкага войска, жаўнеры і вайскова-служылыя людзі, у тым ліку шляхта і выбранцы. Аднак зняць з пасады каменданта мела права толькі спецыяльная вайсковая рада («кансіліум белікум»), якая збіралася для рашэння ваенных спраў. Вайсковая рада складалася з тых жа радцаў. На пасаду каменданта крэпасці старэйшы эканом прызначаў афіцэра пасля кансультацыі з іншымі радцамі. Старэйшым эканомам латыфундый Людвікі Караліны Радзівіл і пасля яе быў спачатку Казімір Клакоцкі, а з

1682 да 1714 года — Станіслаў Незабітоўскі (які з'яўляўся другім эканомам з 1675 да 1682 года). Эканомы былі не толькі вышэйшай распарадчай уладай, але і вышэйшай судовай інстанцыяй у латыфундыях Людвікі Караліны Радзівіл для мяшчан, яўрэяў і сялян. Іх судовая ўлада не распаўсюджвалася толькі на шляхту. Вышэйшай уладай валодала сама князёўна, але да яе паўналецця гэтая ўлада была ў руках эканомаў.

Маленькая Людвіка Караліна выхоўвалася ў Караляўцы (Кёнігсбергу) у кальвінісцкім нямецкім атачэнні. Калі князёўне было чатыры гады, апекуны запрасілі спецыяльную настаўніцу, «панну з Польшчы», якая вучыла іх выхаванку польскай мове. Праз некалькі гадоў князёўна навучылася чытаць і пісаць, штодзень чытала Біблію (брэсцкае выданне). Яе вучобай кіравалі кальвінісцкія міністры (прапаведнікі). З маленства Людвіка Караліна Радзівіл была кандыдаткай ў жонкі каго-небудзь з прынцаў або магнатаў, у тым ліку і яе далёкіх сваякоў Радзівілаў з іншых галін роду. Апекуны самі вызначалі кандыдатаў для жаніцьбы з ёю, бо багатыя маёнткі не павінны былі трапіць у выпадковыя рукі. Для 4-гадовай Людвікі Караліны нясвіжскія Радзівілы загадзя падабралі будучага жаніха, хлопчыка Мікалая, сына уладальніка Нясвіжа Міхала Казіміра, аднак ён праз год памёр. Потым кандыдатам стаў Станіслаў Казімір Радзівіл, з клецкай лініі Радзівілаў. Радзівілы ў 1676 годзе паслалі спецыяльнага пасла Ш. Морштына ў Берлін да курфюрста, каб атрымаць згоду на гэты шлюб. Так вырашаўся лёс не толькі дзяўчынкі, але і жыхароў гарадоў і вёсак Беларусі і Літвы, якія ўваходзілі ў склад яе латыфундый.

Аднак у курфюрста Фрыдрыха Вільгельма былі свае планы. Спачатку ён вырашыў выдаць Людвіку Караліну замуж за прынца Вільгельма Аранскага, які потым ажаніўся з англійскай прынцэсай і стаў каралём Англіі. Брандэнбургскі курфюрст вельмі непрыязна ставіўся да плана Радзівілаў; ён не хацеў, каб князёўна выйшла замуж за Радзівіла і тым самым узмацніла пазіцыі роду ў Вялікім княстве Літоўскім і наогул у Рэчы Паспалітай. У справу ўмяшалася і фанцузская дыпламатыя. Французскі пасол настойваў, каб Людвіка Караліна хутчэй вярнулася з Прусіі ў свае маёнткі. Тут ужо было супрацьдзеянне планам курфюрста.

У 1680 годзе князёўна была прызнана паўналетняй, і курфюрст паслаў да яе свайго радцу Самуэля Хвалкоўскага, які ад яго імя папрасіў яе рукі для малодшага сына курфюрста,

14-гадовага маркграфа брандэнбургскага Людвіга (ён быў на год старэйшы за князёўну). Курфюрст намовіў князёўну Радзівіл. 28 снежня 1680 года адбыліся заручыны.

Аднак усё гэта было зроблена без ведама Радзівілаў. Пакрыўджаныя магнаты афіцыйна абвясцілі, што яны пачнуць справу на сойме супраць плана курфюрста Фрыдрыха Вільгельма. Але ў справу ўмяшаўся граф Станіслаў Патоцкі, кракаўскі ваявода, які хацеў узяць нявесту для свайго сына. Ён прапанаваў курфюрсту 500 тысяч злотых, каб той адмовіўся ад сваіх планаў. Сам кароль Ян Сабескі таксама выношваў план жаніцьбы свайго сына Якуба і Людвікі Караліны. Гэта вельмі ўзмацніла б палітычнае становішча караля ў Вялікім княстве Літоўскім і ў Польшчы і дало б магчымасць каралевічу Якубу Сабескаму заняць каралеўскі трон у будучым. Урэшце справа шлюбу Людвікі Караліны павінна была вырашыцца на сойме. Дэпутаты і сенатары разам з каралём павінны былі вызначыць ёй жаніха, зыходзячы з дзяржаўных інтарэсаў Рэчы Паспалітай. Сойм павінен быў адкрыцца 10 студзеня 1681 года ў Варшаве.

У гэтай сітуацыі пасланнік Брандэнбурга у Польшчы барон фон Говэрбэк і прыхільнік курфюрста Крыштоф Гжымултоўскі, ваявода пазнаньскі, параілі Фрыдрыху Вільгельму дзейнічаць хутчэй і апярэдзіць абмеркаванне справы шлюбу князёўны ў сойме. Згоду на шлюб Людвікі Караліны з прускім прынцам далі і некаторыя іншыя яе апекуны. Урэшце 7 студзеня 1681 года адбыўся шлюб князёўны з брандэнбургскім маркграфам Людвігам (08.07.1666 — 07.04.1687). Муж яе таксама быў пратэстантам, але лютэранскага веравызнання.

На сойме ў Варшаве, які адкрыў свае пасяджэнні 10 студзеня, сярод іншых разглядалася і справа гэтага шлюбу. Каб велізарныя багацці і маёнткі князёўны Радзівіл не трапілі ў рукі іншаземнага манарха і не зрабіліся палітычнай базай для пастаяннага ўмяшання ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай, на сойме паўстала пытанне аб іх канфіскацыі на карысць дзяржавы. Тады ў адзін з рашаючых момантаў, карыстаючыся правам ліберум вэта (фактычна патрабавання адзінагалосных пастаноў), 12 мая 1681 года па даручэнні брандэнбургскага курфюрста два дэпутаты — Анджэй Пшыемскі з Падляшша і Казімір Дамброўскі з Віленскага павета — сарвалі сойм. Дэпутаты раз'ехаліся, пастанову аб канфіскацыі маёнткаў Людвікі Караліны прыняць не паспелі, а ўсе ранейшыя пастановы гэтага сойму былі аўтаматычна скасаваны, быццам іх і не было.

Яшчэ падчас пасяджэнняў сойму кароль Ян Сабескі пагадзіўся са шлюбам князёўны Людвікі Караліны, атрымаўшы ад курфюрста 40 тысяч талераў (талер тады раўняўся 6 злотым) і пісьмовае абяцанне, што муж Людвікі Караліны ў будучым (пасля смерці караля) не будзе выстаўляць на выбарах сваю кандыдатуру на польскі і літоўскі трон супраць кандыдатуры каралевіча Якуба Сабескага.

Пасля шлюбу Людвіка Караліна пераехала да мужа ў Берлін. Маршалкам яе двара і яе прадстаўніком стаў Самуэль Хвалкоўскі, па-ранейшаму адданы курфюрсту. Сама ж маладая прынцэса занялася справамі сваіх маёнткаў. З мужам яна заключыла дамову, перадаўшы яму ў заклад усе свае маёнткі за 30 тысяч чырвоных злотых (1 чырвоны злоты тады раўняўся 16 злотым 20 грошам), але гэтых грошай яна ад мужа не атрымала. Аднак гэта дамова дала магчымасць праз 60 гадоў праўнуку «вялікага курфюрста» Фрыдрыха Вільгельма каралю Прусіі Фрыдрыху II прад'явіць свае прэтэнзіі на былыя маёнткі Людвікі Караліны Радзівіл.

Знаходзячыся ў Берліне, Людвіка Караліна праз свайго адміністратара С. Хвалкоўскага кіравала маёнткамі, выдавала пастановы (як агульныя для ўсіх маёнткаў, так і асобныя для розных з іх), якія з'яўляліся нарматыўнымі юрыдычнымі актамі для насельніцтва яе латыфундый.

Адным з відаў яе дзейнасці была рэлігійна-дабрачынная, мецэнацкая і асветніцкая. Людвіка Караліна ў 1682 годзе пастанавіла праводзіць набажэнствы кальвіністам у сваім палацы ў Вільні. У тым жа годзе яна абяцала даць грошы на пабудову кальвінісцкага збору (малітоўнага дома) ў Вільні і збораў у іншых гарадах Літвы і Беларусі.

Тады ж яна вызначыла 12 стыпендый для юнакоў-кальвіністаў, якія вучыліся ў пратэстанцкіх універсітэтах Еўропы ад Кёнігсберга да Оксфарда і Эдынбурга. З 1684 года юнакі-кальвіністы з Рэчы Паспалітай, якія рыхтаваліся да дзейнасці прапаведнікаў, атрымлівалі ад яе стыпендыі для вучобы ва універсітэтах Марбурга, Гэйдэльберга і Лейдэна. Па загаду княгіні Людвікі Караліны ў 1684 годзе ў Кёнігсбергу быў надрукаваны малітоўнік на літоўскай мове для сялян-кальвіністаў. У 1687 годзе княгіня запісала новую фундацыю: за яе кошт у Кёнігсбергскім (Каралявецкім) універсітэце вучыліся чатыры студэнты, сыны кальвінісцкіх міністраў.

У галоўным горадзе латыфундый Людвікі Караліны — Слуцку — захоўвалася ў палацы частка былой багатай бібліятэкі

яе бацькі, Багуслава Радзівіла, аднак большая частка збораў, паводле яго тэстаменту, была перададзена ў Кёнігсбергскую бібліятэку.

У 1672 годзе з Мітавы (цяпер Елгава), сталіцы герцагства Курляндыі (васальнае герцагства ў складзе Рэчы Паспалітай), была пераведзена ў Слуцк друкарня, якая належала Радзівілам слуцка-біржанскай лініі. Раней, падчас вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1655 – 1660 гадоў, гэта друкарня была вывезена з радзівілаўскага горада Кейданы ў Мітаву. У Слуцку друкарня пачала выпускаць кнігі не толькі рэлігійнага зместу, але і свецкія, пры гэтым апошнія былі прызначаны да продажу ў розных гарадах. Нават была ўведзена пасада кнігапрадаўца пры гэтай друкарні. У 1693 годзе княгіня Людвіка Караліна перадала друкарню ва ўласнасць сінода кальвінісцкай царквы ў Вялікім княстве Літоўскім. А сінод, ратуючы друкарню ад ваеннага ліхалецця падчас Паўночнай вайны са Швецыяй, перавёў яе ў 1705 годзе ў Кёнігсберг.

У Слуцкай друкарні выпускаліся кнігі па вайсковай і геаграфічнай тэматыцы, мастацкія творы, календары, падручнікі, даведнікі па кіраванню і вядзенню сельскай гаспадаркі, мемуары, пераклады з нямецкай і французскай моў. Толькі з 1673 да 1687 года было выпушчана 23 кнігі агульным тыражом 24 200 экземпляраў. Для таго часу гэта былі вялікія тыражы. У 1676 годзе была выдадзена кніга П. Рыко «Турэцкая манархія» (1 557 экземпляраў), перакладзеная з французскай мовы слуцкім эканомам (губернатарам) Казімірам Клакоцкім, з 16 гравюрамі вядомага беларускага гравёра Максіма Вашчанкі. Гэта багата ілюстраванае выданне з апісаннем Турцыі, Балканскага паўвострава, Паўночнай Афрыкі, Блізкага Усходу, якія ўваходзілі ў склад Асманскай імперыі. Пазней кніга выйшла другім выданнем. Самы вялікі тыраж меў «Элементар» (3 389 экземпляраў), па якому дзеці вучылі алфавіт, самы малы — «Руская тэорыя» (82 экземпляры). Хутчэй за ўсё, гэта быў навучальны дапаможнік па беларускай мове, тады яшчэ дзяржаўнай мове Вялікага княства Літоўскага. Частка кніг прадавалася, частка ішла на падарункі. Адны кнігі былі вельмі дарагія («Турэцкая манархія» — больш за 4 злотых, «Руская тэорыя» — 1 злоты 7,5 гроша), іншыя — танныя («Аб злучэнні рэк» і «Працэсы» — па 2 грошы).

7 красавіка 1687 года памёр маркграф Людвіг, якому не было яшчэ і 21 года. Людвіка Караліна засталася ўдавой у 20 гадоў. Зноў пачалося спаборніцтва паміж замежнымі прынцамі

і магнатамі Рэчы Паспалітай за права стаць яе мужам, а, значыць, у пэўнай ступені валодаць і яе багаццямі. Кандыдатамі выступілі нямецкія прынцы. Першым быў 26-гадовы князь Нойбургскі і пфальцграф Рэйнскі Карл Філіп з пфальцкай лініі баварскай дынастыі Вітэльсбахаў (04.11.1661—31.12.1742), які прыходзіўся шваграм імператару Свяшчэннай Рымскай імперыі Леапольду І (сястра пфальцграфа была жонкай імператара). Наступнымі кандыдатамі выступілі 32-гадовы маркграф Леапольд Бадэнскі і імперскі фельдмаршал Карл дэ Камэрсі. Але галоўным кандыдатам брандэнбургскі курфюрст Фрыдрых Вільгельм вызначыў свайго сына, 18-гадовага маркграфа Філіпа, малодшага брата першага мужа Людвікі Караліны. Аднак смерць курфюрста перакрыжавала гэты план. На трон у Берліне ў красавіку 1688 года ўступіў яго старэйшы сын Фрыдрых, які ў 1701 годзе і стаў першым каралём Прусіі. Хоць план шлюбу свайго брата ён і падтрымліваў, але ў яго былі іншыя, больш важныя палітычныя клопаты дачыненняў Брандэнбурга з Германскай імперыяй.

Але найважнейшым кандыдатам на багацці Людвікі Караліны быў 20-гадовы каралевіч Якуб Сабескі, старэйшы сын караля польскага і вялікага князя літоўскага Яна Сабескага. Магчымы шлюб Людвікі Караліны выкарыстоўвала і французская дыпламатыя, якая падтрымала матрыманіяльны план польскага караля, бо Францыя была саюзніцай Яна Сабескага і намагалася ўмацаваць пазіцыі яго роду ў дзяржаве. У ліпені 1688 года ў Берлін прыехаў інкогніта каралевіч Якуб, які спыніўся ў французскага пасла, сустрэўся з Людвікай Каралінай Радзівіл і нават дамогся ў курфюрста згоды на заручыны з ёю. Курфюрст Фрыдрых пайшоў на ўступкі, бо абвастрылася сітуацыя ў Прусіі (Усходняй), дзе дваранства і гараджане выступалі за аўтаномію герцагства ў складзе Рэчы Паспалітай з-за жорсткай падатковай палітыкі ўрада курфюрста і з-за рэпрэсій супраць іх. Быў падпісаны сяброўскі дагавор Рэчы Паспалітай з Брандэнбургам. У Берліне адбыліся заручыны Людвікі Караліны з Якубам Сабескім. 25 ліпеня 1688 года яна выдала гарантыйны ліст, што ў верасні прыедзе ў свае маёнткі ў Вялікім княстве Літоўскім і выйдзе замуж за каралевіча Якуба Сабескага. Пры гэтым была пастаўлена ўмова, што сама яна, яе слугі і падданыя захаваюць свабоду веравызнання. Калі б яна парушыла абяцанне выйсці замуж за каралевіча, то ўсе яе маёнткі падлягалі б канфіскацыі.

Праціўнікі роду Сабескіх, як у Польшчы, так і за мяжой,

распачалі шырокую кампанію супраць запланаванага шлюбу Людвікі Караліны з каралевічам Якубам. Супраць шлюбу выступіў аўстрыйскі двор, некаторыя нямецкія князі і (патаемна) сам курфюрст Брандэнбурга. Цяпер зноў набыла вагу кандыдатура князя нойбургскага і рэйнскага пфальцграфа Карла Філіпа, брата імператрыцы Свяшчэннай Рымскай імперыі Элеаноры Магдаліны, жонкі імператара Леапольда І.

Сама Людвіка Караліна на пачатку жніўня 1688 года яшчэ пісала каралевічу Якубу чулыя лісты, але ўжо штодзённа сустракалася з князем Карлам Філіпам у дамах аўстрыйскіх (імператарскіх) дыпламатаў у Берліне. 10 жніўня 1688 года дзякуючы старанням аўстрыйскага (імперскага) пасла князя Шварцэнберга адбыўся патаемны шлюб маркграфіні Людвікі Караліны Радзівіл-Брандэнбургскай з князем нойбургскім Карлам Філіпам. Людвіка Караліна пераехала да мужа ў Гэйдельберг.

Заключэнне шлюбу было нечаканым для ўсіх, нават для курфюрста, які быў абураны паводзінамі нявесткі, але не выступіў супраць, не жадаючы парушаць добрых адносін з імператарскім дваром. Асабліва незадаволены былі, натуральна, кароль Ян Сабескі і каралева Марыя Казімера. Цяпер справа ішла аб лёсе маёнткаў княгіні Людвікі Караліны Нойбургскай. Зноў лёс дзесяткаў і соцень тысяч жыхароў Беларусі і Літвы вырашаўся на дзяржаўным і міжнародным узроўні.

Перш за ўсё дайшлі да паразумення брандэнбургскі курфюрст Фрыдрых і кароль польскі і вялікі князь літоўскі Ян Сабескі. Курфюрст абяцаў падтрымаць кандыдатуру Якуба Сабескага пры абранні на трон у Варшаве пасля смерці караля. Была намечана і канфіскацыя маёнткаў Людвікі Караліны ў Вялікім княстве Літоўскім. Адначасова курфюрст прапанаваў план шлюбу каралевіча Якуба з прынцэсай Ядзвігай Елізаветай, сястрой імператрыцы і Карла Філіпа Нойбургскага. Каб залагодзіць гэты канфлікт на дынастычным узроўні, праект падтрымала і імператрыца. Шлюб Якуба Сабескага і Ядзвігі Елізаветы Нойбургскай адбыўся ў 1691 годзе.

Людвіка Караліна і яе муж заключылі дамову з Сапегамі, што яны за 60 тысяч рэйнскіх залатых будуць на сойме (і нават збройна) бараніць яе маёнткі. Сапегі ў гэты час ў Вялікім княстве Літоўскім займалі галоўныя дзяржаўныя пасады і былі настолькі моцныя, што не лічыліся з каралём. Аднак яны не падтрымалі намеру князя Карла Філіпа Нойбургскага атрымаць на сойме індыгенат (прызнанне шляхціцам замежнага прынца ці

шляхціца, каб ён мог карыстацца маёмаснымі правамі, якія выключна мела польская шляхта ў Польшчы, беларуская і літоўская ў Беларусі і Літве). Сапегі самі хацелі кіраваць нойбургскімі маёнткамі (іх сталі называць маёнткамі Людвікі Караліны).

17 снежня 1688 года ў Варшаве адкрыўся сойм. Сярод дэпутатаў і сенатараў было нямала прыхільнікаў караля, схільных да канфіскацыі нойбургскіх маёнткаў. Аднак шмат было і такіх, хто быў на баку князя Карла Філіпа і імператара Леапольда I. На сойме кароль Ян Сабескі спрабаваў правесці закон аб канфіскацыі латыфундый Людвікі Караліны і аб перадачы прыбыткаў з гэтых маёнткаў на вайсковыя расходы. Аднак гетман вялікі Вялікага княства Літоўскага Казімір Ян Сапега заняў рэгулярнымі войскамі ўсе яе маёнткі, а дэпутат Александровіч пагражаў сарваць сойм на падставе права ліберум вэта (права аднагалоснага прыняцця законаў і пастаноў). Кароль Ян Сабескі, каб не сарваць сойм, гатовы быў зняць свой праект. Аднак праціўнікі Сапегаў сярод дэпутатаў не пагадзіліся з гэтым. Іх падтрымалі каралева і французскі пасланнік маркіз дэ Бэцюн. Урэшце 31 сакавіка 1689 года прыхільнік Сапегаў дэпутат Станіслаў Шалкоўскі па даручэнні Казіміра Яна Сапегі сарваў сойм, скарыстаўшы права ліберум вэта.

Нягледзячы на свой шлюб з князем-католікам, Людвіка Караліна па-ранейшаму захоўвала сваё кальвінісцкае веравызнанне. Яна працягвала аказваць дапамогу кальвінісцкім зборам (малельням) у Беларусі і Літве, выдавала грошы на друкаванне рэлігійнай літаратуры, утрымлівала пры сваім двары кальвінісцкага міністра Йогана Якаба Шротберга (швейцарца). Людвіка Караліна кіравала сваімі маёнткамі ў Беларусі і Літве з далёкага Гэйдэльберга. 20 сакавіка 1690 года яна выдала прывілей для жыхароў гарадоў, мястэчак і вёсак, у якім гарантавала ў сваіх маёнтках і гарадах свабоднае веравызнанне пратэстантам (кальвіністам і лютэранам) і праваслаўным жыхарам, а таксама абяцала, што царкоўная унія ў яе маёнтках уведзена не будзе. Аказвалася фінансавая падтрымка кальвіністам і праваслаўным. Гэты прывілей меў вялікае значэнне. Наступнікі Людвікі Караліны, нават католікі Радзівілы нясвіжскай лініі, прытрымліваліся пунктаў гэтага прывілея, царкоўнай уніі ў нойбургскіх маёнтках не ўводзілі і нават працягвалі аказваць фінансавую дапамогу кальвінісцкім зборам і некаторым праваслаўным храмам. У Нойбургскіх маёнтках захаваўся галоўны асяродак рэлігійнай свабоды. У

1693 годзе Людвіка Караліна перадала Слуцкую друкарню сіноду кальвінісцкай царквы ў Вялікім княстве Літоўскім. У сваім завяшчанні 1695 года яна запісала 5 тысяч злотых на друкаванне Новага Запавету на літоўскай мове не толькі для насельніцтва сваіх маёнткаў, але і для іншых мясцовасцей Літвы і Жамойціі.

Людвіка Караліна Радзівіл-Нойбургская памерла ў Бжэгу (Брыгу) у Сілезіі 23 сакавіка 1695 года ў выніку цяжкіх родаў (разам са сваім нованароджаным сынам).

У першым шлюбе дзяцей у Людвікі Караліны не было. У другім шлюбе яна мела трох дачок, дзве з якіх памерлі ў маленстве. Засталася трэцяя — прынцэса Лізавета Аўгуста Сафія Нойбургская (17 сакавіка 1693 г. — 30 студзеня 1728 г.), якая і была спадчыннай уладальніцай маёнткаў маці ў Беларусі і Літве. І калі маці вельмі рэдка наведвала свае маёнткі, то дачка ў Беларусь наогул ніколі не прыязджала. Апекуном малалетняй дачкі стаў яе бацька — Карл Філіп Нойбургскі, які ў 1697 годзе быў прэтэндэнтам на польскую каралеўскую карону, а ў 1716 годзе стаў курфюрстам Пфальца. Ён жа і выдаваў асноўныя акты ў кіраванні Нойбургскімі маёнткамі ў Беларусі і Літве. Аднак у самой Беларусі паўстаў канфлікт паміж крэўнымі дзеда маленькай прынцэсы (Багуслава Радзівіла) — нясвіжскім ардынатам Каралем Станіславам Радзівілам і клецкім ардынатам Дамінікам Мікалаем Радзівілам, з аднаго боку, і Сапегамі, з другога. Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Ян Сабескі зацвердзіў Радзівілаў апекунамі далёкай сваячкі прынцэсы, каб супрацьпаставіць іх Сапегам, сваім ворагам у Вялікім княстве Літоўскім. У 1695 годзе адбыліся сутычкі паміж узброенымі атрадамі Сапегаў і Радзівілаў на тэрыторыі Слуцкага княства. Потым, з пачаткам Паўночнай вайны, справа заціхла.

Некалькі дзесяткаў гадоў розныя магнаты і нават прускі кароль Фрыдрых II аспрэчвалі правы на «нойбургскія маёнткі», як іх афіцыйна назвалі на сойме Рэчы Паспалітай. У 1717 годзе дачка Людвікі Караліны Лізавета Аўгуста Сафія выйшла замуж за далёкага сваяка, пфальцграфа зульцбахскага Іосіфа Карла Эмануэля (1694—1729). Пасля яе смерці Нойбургскія маёнткі перайшлі ў спадчыну да трох дачок ад гэтага шлюбу: Лізаветы Аўгусты (17.01.1721—17.08.1794), Марыі Ганны Шарлоты (22.06.1722—25.04.1790) і Марыі Францыскі Даратэі (16.06.1724—15.11.1794), якімі апекаваўся іх дзед, курфюрст Пфальца Карл Філіп. Пасля яго смерці ў 1742 годзе нясвіжскія Радзівілы пачалі рэальныя спробы набыць маёнткі. Урэшце 22

мая 1744 года Геранім Фларыян Радзівіл падпісаў пагадненне з курфюрстам Пфальца Карлам Тэадорам (1724—1799), мужам старэйшай сястры Лізаветы Аўгусты. Радзівіл выплаціў яму 230 тысяч залатых дукатаў. Яшчэ раней Сапегі адмовіліся ад прэтэнзій на гэтыя маёнткі за 2 мільёны злотых; 1 мільён злотых атрымаў прускі кароль Фрыдрых II. Заплаціць прыйшлося і іншым прэтэндэнтам. Усяго набыццё Нойбургскіх маёнткаў каштавала Радзівілу 6 051 400 злотых. Гэтая сума пазней была кампенсавана насельніцтвам Нойбургскіх маёнткаў за кошт падаткаў.

Назва «Нойбургскія маёнткі» ўжывалася ў дачыненні да былых латыфундый Людвікі Караліны Радзівіл яшчэ ў XIX стагоддзі, паколькі яны захоўвалі пэўныя прававыя асаблівасці.

*Літаратура*

*Грицкевич А. П.* Древний город на Случи. Мн., 1985.

*Грыцкевіч А. П.* Маргінальныя тэрыторыі Беларусі: Невель і Себеж у XVII—XVIII стст. // Спадчына. 1995. № 1.

*Грицкевич А. П.* Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв. Мн., 1975.

*Jelski A.* Neuburskie dodra na Litwie // Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, torn 7, 1886.

*Helcel A. Z.* O dwukrotnem zamężciu xiкцniczki Ludwiki Karoliny Radziwiłłownej i wynikłych ztąd w Polsce zamieszkach. W Krakowie, 1857.

*Mörz S.* Die letzte Kurfürsterin: Elizabeht Augusta von der Pfalz, die Gemahlin Karl Teodors. Stuttgart, 1997.

*Wasilewski T.* Ludwika z Radziwiłłow Karolina // Polski Słownik Biograficzny. Tom XVIII. Wrocław—Warszawa—Kraków, 1973.

*Анатоль Грыцкевіч*

# Міхал Казімір АГІНСКІ (1730–1800)



іхал Казімір Агінскі (1730 — 31 мая 1800, Варшава), герба Агінец. Дзяржаўны дзеяч, кампазітар, пісьменнік, мецэнат. У літаратуры ёсць звесткі, што нарадзіўся ён ў 1728 годзе, але яны памылковыя.

Паходзіў са старадаўняга беларускага магнацкага роду, прадстаўнікі якога адыгрывалі значную ролю ў дзяржаўным, палітычным, грамадскім і культурным жыцці Беларусі, Літвы, Польшчы і Расіі. Роду Агінскіх належалі маёнткі ў Маладзечна, Залессі, Бабры, Бялынічах і іншых месцах Беларусі. На палітычнай сцэне прадстаўнікі гэтага роду з'явіліся ў XVI стагоддзі, але толькі ў XVII пачалі займаць значныя дзяржаўныя пасады ў Вялікім княстве Літоўскім. У XVIII стагоддзі яны дасягнулі вышэйшых пасад у дзяржаве.

Агінскія выводзілі сваё паходжанне ад Рурыкавічаў — ад казельскай галіны чарнігаўскіх князёў і падпісваліся «Агінскія з Казельска» (Казельск — горад у Калужскай вобласці). Паводле іншай версіі, іх родапачынальнікам быў смаленскі князь Іван Васільевіч Глушонак (таксама з Рурыкавічаў), які ў пачатку 1480 гадоў перайшоў да вялікага князя маскоўскага Івана III. Сыны Івана Глушонка, Дзмітрый і Іван, засталіся ў Вялікім княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім і заснавалі княжацкія роды Агінскіх і Пузынаў. Дзмітрый (упершыню ўпамінаецца ў 1486 г., памёр у пачатку XVI ст.) атрымаў маёнтак Агінты каля Коўна. Яго сын, Багдан Дзмітрыевіч Глушонак (памёр у 1542 ), у 1510 годзе атрымаў пацвярджэнне правоў на Агінты. Верагодна, ён першы пачаў ужываць прозвішча Агінскі. Так, ужо ў тэ-

стаменце 1555 года названа яго ўдава. Сыны Багдана Мацвей (памёр у 1564) і Фёдар (памёр у 1575) упершыню згадваюцца ў дакументах 1547 года як князі Агінскія з дадаткам да прозвішча «з Казельска».

У дзяржаўных актах Вялікага княства Літоўскага князямі Агінскімі прадстаўнікі гэтага роду называюцца з 1547 года, у метрыцы кароннай (польскай) — з 1628 года. У XVII стагоддзі род Агінскіх падзяліўся на дзве галіны: старэйшую, якая захавала княжацкі тытул, і малодшую, якая яго страціла і належала да шляхты, а пазней у Расійскай імперыі — да дваранства. Хоць род Агінскіх і быў княжацкага паходжання, аднак, згодна з законамі і звычаямі Рэчы Паспалітай аб юрыдычнай роўнасці ўсёй шляхты — і заможнай, і беднай, княжацкім тытулам не карыстаўся. Але, каб падкрэсліць значнасць роду, у XVIII стагоддзі яго прадстаўнікі ў службовай перапісцы на французскай мове называлі сябе графамі. Таму ў крыніцах ёсць розніца ў тытулаванні. Гэта значыць, што Агінскія былі князямі, пісаліся графамі, а з'яўляліся шляхцiцамі Вялікага княства Літоўскага. Толькі ў XIX стагоддзі старэйшай лініі роду быў пацверджаны княжацкі тытул — у Польшчы ў 1821 і ў Расіі ў 1868 гадах.

Княжацкая галіна роду Агінскіх у сярэдзіне XVII стагоддзя зноў падзялілася на дзве лініі — старэйшую, нашчадкаў Шымона Караля (каля 1620—1699), ваяводы мсціслаўскага, і малодшую, нашчадкаў яго малодшага брата Яна (каля 1625 — 24 лютага 1694), ваяводы полацкага і гетмана польнага Вялікага княства Літоўскага. Да старэйшай лініі належаў вядомы дзяржаўны дзеяч, падскарбі вялікі Вялікага княства Літоўскага, кампазітар, аўтар шматлікіх музычных твораў, у тым ліку паланеза «развітанне з Радзімай», Міхал Клеафас Агінскі (1765—1833). А да малодшай лініі належаў Міхал Казімір Агінскі (1730—1800). Яны былі далёкімі сваякамі. Так, Міхал Клеафас быў прапраўнукам Шымона Караля, а Міхал Казімір — праўнукам Яна (малодшага брата Шымона Караля). Такім чынам, яны былі сваякамі ў 9-й ступені. Гэта значыць, не лічыліся дзядзькам і пляменнікам. Толькі добра распрацаваныя радаводы шляхецкіх сем'яў даводзілі іх сваяцтва. Іх аб'ядноўвала пачуццё гонару за свой род і свой герб. У сем'ях іншых саслоўяў — мяшчан і сялян — такія радавыя сувязі сваяцтвам ужо не лічыліся, як не лічацца і ў наш час.

Бацька Міхала Казіміра, Юзаф (Тадэвуш Юзаф) Агінскі (каля 1693—1736), быў генерал-маёрам у войску Вялікага княства Літоўскага і ваяводам троцкім. Ён быў прыхільнікам «сак-

сонскай партыі», групоўкі магнатаў і шляхты, якая падтрымлівала каралёў Аўгуста II і Аўгуста III з саксонскай дынастыі. Маці Міхала Казіміра, Ганна Вішнявецкая (1700—1732), паходзіла са старажытнага княжацкага роду і была стрыечнай сястрой Уршулі Францішкі Вішнявецкай (1705—1753), якая выйшла замуж за ўладальніка Нясвіжскай ардынацыі Міхала Казіміра Радзівіла і была вядомай пісьменніцай і драматургам.

Міхал Казімір Агінскі і пяць яго сясцёр рана засталіся сіротамі. Іх апекуном стаў родны дзед, гетман вялікі Вялікага княства Літоўскага Міхал Серваццы Вішнявецкі (1680—1744). Пасля смерці Вішнявецкага апекуном стаў падканцлер Міхал Чарнарыйскі. Ужо 18 верасня 1744 года Міхал Казімір атрымаў ад караля і вялікага князя Аўгуста III тытул чэсьніка Вялікага княства Літоўскага, а 20 чэрвеня 1748 года быў пераведзены на пасаду палявога (польнага) пісара. 20 верасня таго ж года ён атрымаў патэнт на званне генерал-маёра войска Вялікага княства Літоўскага, а яго цётка Марцыбела Завіша перадала яму Чачэрскае староства. З 1744 года Міхал Казімір быў камендантам (камандзірам) коннага рэгімента (палка) войска Вялікага княства Літоўскага, што размяшчаўся ля Кобрына. У 1746 і 1748 гадах быў дэпутатам соймаў.

Як і іншыя маладыя людзі з магнацкіх сем'яў, Міхал Казімір Агінскі ў 1753 годзе выехаў на некалькі гадоў у Заходнюю Еўропу. Спачатку ён наведаў Дрэздэн і Вену, у 1756 годзе быў у Парыжы. У наступным годзе наведаў у Люневіле двор былога караля польскага і вялікага князя літоўскага Станіслава Ляшчынскага, якому яго зяць, французскі кароль Людовік XV, даў у пажыццёвае ўладанне герцагства Латарынгію. Тут М. К. Агінскі ўступіў добраахвотнікам у шэрагі французскай арміі і ўдзельнічаў у Сямігадовай вайне, у тым ліку ў бітве супраць прускай арміі пры Гастенбеку (у Гановеры). Быў ад'ютантам камандуючага, герцага Луі-Філіпа Арлеанскага. Потым ён вярнуўся ў Парыж, дзе некалькі гадоў наведваў каралеўскі двор і арыстакратычныя салоны. У гэты час праявіў сябе як віртуоз-музыка. Ён браў урокі музыкі ў вядомага скрыпача Джавані Баціста Віоцці. Адзначаўся як выканаўца музычных твораў на арфе; удасканаліў механіку гэтага інструмента. Славуты філасаф-энцыклапедыст Дэні Дзідро звярнуўся да Міхала Казіміра Агінскага як да спецыяліста, каб ён напісаў адмысловы артыкул пра арфу для «Энцыклапедыі», якую рыхтавала група французскіх філасафаў-асветнікаў.

Падчас знаходжання ў Парыжы Міхал Казімір Агінскі паз-

наёміўся з living рознымі асобамі. Адно са знаёмстваў працягвалася і пазней. Гэта сяброўства з маладым расійскім арыстакратам, афіцэрам, князем Мікалаем Васільевічам Рэпніным, які потым быў расійскім дыпламатам у Варшаве.

У 1761 годзе пасля настойлівых просьбаў канцлера Вялікага княства Літоўскага Міхала Чартарыскага вярнуцца на радзіму ён прыехаў ў Беларусь. У маёнтку князёў Чартарыскіх, мястэчку Волчыне (Берасцейскі павет) 19 лістапада 1761 года Міхал Казімір Агінскі ажаніўся з дачкой Міхала Чартарыскага Аляксандрай (1729—28 жніўня 1798). Яна нядаўна аўдавела, была трэцяй жонкай Міхала Антонія Сапегі (1711—1760), падканцлера Вялікага княства Літоўскага. Дзяцей ад першага шлюбу не мела. Аляксандра была стрыечнай сятрой Станіслава Аўгуста Панятоўскага, аднаго з кандыдатаў на каралеўскі трон на выпадак смерці караля Аўгуста III (што і адбылося ў 1764 г.).

Гэты шлюб, заключаны па каханню, шчаслівым не быў. Ён не апраўдаў надзей канцлера Чартарыскага. Бяздзетныя Агінскія жылі пераважна паасобку, сустракаліся рэдка. Да караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ставіліся непрыхільна, хаця адкрытай варожасці не праяўлялі. Сама ж Аляксандра Агінская ў 60—80-х гадах удзельнічала ў многіх інтрыгах супраць каралеўскага ўрада. Яна таксама марыла аб тым, каб пазбавіць свайго дваюраднага брата каралеўскага трону і заняць яго разам з мужам. Нашчадкаў Міхал Казімір Агінскі не пакінуў. Пасля жаніцьбы ён атрымаў у сваё кіраванне Слонімскую эканомію, дзе была яго галоўная рэзідэнцыя.

Вярнуўшыся на Радзіму, Міхал Казімір Агінскі становіцца прыхільнікам рэфарматарскай групоўкі князёў Чартарыскіх, або, як іх тады называлі, Фаміліі (Сям'і). Пасля смерці ў 1762 годзе гетмана вялікага і віленскага ваяводы Міхала Казіміра Радзівіла Рыбанькі Фамілія намагалася атрымаць для Міхала Казіміра Агінскага пасаду віленскага ваяводы. Аднак усемагутны міністр Аўгуста III Генрых фон Бруль адмовіў; адмоўна ён паставіўся і да іншых патрабаванняў, што ўзмацніла змаганне Фаміліі супраць прыдворнай саксонскай групоўкі. Чартарыскія і іх паплечнік М. К. Агінскі пачалі рыхтаваць канфедэрацыю супраць каралеўскага двара.

Пасля смерці караля і вялікага князя Аўгуста III ў кастрычніку 1763 года Міхал Казімір выехаў у Пецярбург, каб прынесці фармальную падзяку Кацярыне II за высокае ўзнагароджанне, якое існавала тады ў Расійскай імперыі, — ордэнам Андрэя Першазванага. Фактычна паездка ў Расію была спробай

дамагчыся ў Кацярыны II падтрымкі яго кандыдатуры на абранне польскім каралём (і вялікім князем літоўскім). У расійскай сталіцы М. К. Агінскі зблізіўся з братамі Арловымі (адзін з іх з'яўляўся фаварытам імператрыцы), якія былі ворагамі другога кандыдата, Станіслава Панятоўскага. Аднак Кацярына II ужо вырашыла падтрымаць кандыдатуру С. Панятоўскага, які ў 1764 годзе на сойме быў абраны каралём польскім. Як адзін з прадстаўнікоў Фаміліі, новы кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі захаваў з яе членамі добрыя стасункі. У выніку 4 снежня 1764 года М. К. Агінскі быў прызначаны на адну з галоўных пасад у дзяржаве — ваяводы віленскага — і ўвайшоў у склад сената (вышэйшай палаты сойму Рэчы Паспалітай). Адначасова ён стаў старшынёй Вайсковай камісіі Вялікага княства Літоўскага (накшталт міністэрства абароны). Зыходзячы са свайго жыццёвага вопыту, ён, як віленскі ваявода, пастараўся ўстанавіць у Вільні «добры парадак», як гэта ўжо праводзілася ў Варшаве і Львове. У Вільні М. К. Агінскі атрымаў радзівілаўскі квартал (Юрысдыку), а таксама шэраг маёнткаў у Віленскім ваяводстве.

У наступныя гады Міхал Казімір Агінскі заняўся гаспадарчай дзейнасцю. З вялікімі намаганнямі і значнымі фінансавымі затратамі ён арганізаваў пабудову праз палескія балоты двух трактаў, а з 1765 года — знакамітага Агінскага канала (54 кіламетры), які злучаў рачную сістэму Нёмана і Дняпра, а менавіта раку Ясельда (прыток Прыпяці) з ракою Шчара (прыток Нёмана). Агінскі канал адкрываў магчымасць экспарту лесу і іншых тавараў у балтыйскія порты. Сойм Рэчы Паспалітай у 1768 годзе падтрымаў ідэю будаўніцтва і пастанавіў падпарадкаваць М. К. Агінскаму мястэчка Лагішын і вёску Мышкаўцы з навакольнымі землямі і дазволіў з пачаткам сплаву спаганяць мыта «па 8 злотых з вясла ці ад спіцы». Пабудова Агінскага канала спрыяла і эканамічнаму развіццю блізкіх да яго мясцовасцей, дзе знаходзілася значная частка маёнткаў М. К. Агінскага. Ён працягваў упарадкоўвацца і ў наступныя дзесяцігоддзі.

У 60-х гадах XVIII стагоддзя Міхал Казімір Агінскі актыўна займаўся палітыкай. У 1768 годзе ён вымушаны быў аддаць пасаду вялікага ваяводы Каралю Станіславу Радзівілу Пане Каханку, якую ён займаў у 1761—1764 гадах. К. С. Радзівіл у 1768 годзе вярнуўся з эміграцыі. Раней ён быў ворагам Чартарыскіх і Станіслава Аўгуста. Аднак у 1767 годзе вярнуўся на радзіму і ўзначаліў Радамскую канфедэрацыю, створаную для супрацьдзеяння рэформам палітычнага ладу па ініцыятыве расійскага

пасла М. В. Рэпніна па загаду імператрыцы Кацярыны II. Таму Радзівілу Пане Каханку вярнулі ранейшую пасаду віленскага ваяводы.

У той жа дзень, 29 лютага 1768 года, калі Міхал Казімір Агінскі атрымаў булаву вялікага гетмана Вялікага княства Літоўскага, на Украіне ў горадзе Бар утварылася шляхецкая канфедэрацыя, названая Барскай канфедэрацыяй. Гэта быў узброены саюз патрыятычнай шляхты, які выступіў супраць караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, якога канфедэраты лічылі здраднікам, супраць падпарадкавання Расіі і супраць палітычных уступак дысыдэнцкай (пратэстанцкай і праваслаўнай) шляхце. Разам з тым Барская канфедэрацыя была таксама накіравана на поўнае аднаўленне «залатой вольнасці» шляхты і супраць правядзення рэформ. Барскія канфедэраты дзейнічалі на тэрыторыі Украіны, Польшчы, Беларусі і Літвы. Яны вялі партызанскую барацьбу супраць каралеўскіх і расійскіх войск. Да Барскай канфедэрацыі далучылася значная частка шляхты, якую перш за ўсё вабілі патрыятычныя лозунгі абароны незалежнасці дзяржавы.

На Беларусі да Барскай канфедэрацыі далучылася частка шляхты з Брэсцкага і Мсціслаўскага ваяводстваў, Ашмянскага, Ваўкавыскага, Аршанскага і Браслаўскага паветаў. У 1768 годзе расійскія войскі разбілі атрады канфедэратаў пад Дзярэчынам і занялі Нясвіжскую і Слуцкую крэпасці. У 1769 годзе атрад брэсцкіх канфедэратаў атрымаў перамогу ў баях пад Берасавіцай, Слонімам, Мышшу.

Найбольшы размах у Беларусі канфедэрацкі рух дасягнуў у 1770—1771 гадах. У чэрвені 1770 года з Літвы ў Беларусь уступіў атрад Шымана Касакоўскага, які пераважна складаўся з дробнай шляхты. Ён дзейнічаў у раёне Мядзеля, Радашковіч і Мінска. Зноў узнялася шляхта ў Ашмянскім і Браслаўскім паветах, Полацкім і Мсціслаўскім ваяводствах. Неўзабаве атрад Ш. Касакоўскага, які папаўняўся сялянамі і іншымі нешляхецкімі элементамі, быў разбіты пад Наваградкам.

Падчас гэтых бурных падзей Міхал Казімір Агінскі спачатку захоўваў знешне лаяльную пазіцыю ў дачыненні да караля Станіслава Аўгуста, працягваючы кіраваць Вайсковай камісіяй Вялікага княства Літоўскага. Аднак у ваенных дзеяннях супраць Барскай канфедэрацыі не ўдзельнічаў і войск супраць яе не накіроўваў. Дарэчы, войск пад яго камандаваннем было мала. Паводле пастановы «нямога» сойму (1717), прынятай дэпутатамі без абмеркавання, моўчкі, пад націскам расійскіх дыпла-

матаў, войска Вялікага княства Літоўскага не магло быць большым, чым 6 тысяч чалавек, а кароннае (польскае) войска — не больш чым 18 тысяч чалавек. Суседнія краіны — Расія, Аўстрыя і Прусія — мелі арміі ў сотні тысяч чалавек.

Ужо ў сярэдзіне 1768 года Міхал Казімір Агінскі ўстанавіў кантакты з кіраўнікамі Барскай канфедэрацыі праз сваю сястру Генавефу Бжастоўскую, жонку полацкага кашталяна, і праз мужа другой сваёй сястры Эльжбеты — Міхала Вельгорскага, аднаго з уплывовых дзеячаў канфедэрацыі. М. К. Агінскі вёў таксама патаемныя перамовы з біскупам камянецкім Адамам Красінскім, адным з ініцыятараў і фактычна кіраўніком Барскай канфедэрацыі. Да сярэдзіны 1770 года М. К. Агінскі знаходзіўся ў Варшаве. Улетку ён вырашыў далучыцца да канфедэрацыі, але з пэўнымі ўмовамі. У Вену, дзе знаходзілася кіраўніцтва канфедэратаў, М. К. Агінскі паслаў сваю давераную асобу — Францішка Ксаверыя Хамінскага, дзе ён сустрэўся з маршалкам канфедэрацыі ў Вялікім княстве Літоўскім Міхалам Пацам і французскім паслом у Вене Ф. М. Дзюранам. Агінскі атрымаў абяцанне, што пасля далучэння да канфедэрацыі ён атрымае ўсе прэрагатывы гетманскай улады.

Восенню 1770 года М. К. Агінскі накіраваў Ф. К. Хамінскага ў Парыж з лістамі да караля Людовіка XV і міністра замежных спраў герцага Эцьена дэ Шуазэля. Ад імя Агінскага яго пасланнік дамагаўся ад Францыі пратэкцыі для гетмана і высланія ў Рэч Паспалітую вайсковых атрадаў для дапамогі канфедэратам. Міхал Казімір Агінскі разлічваў на перамогу канфедэратаў і дэтранізацыю караля, каб атрымаць карону для сябе.

Рыхтуючыся да адкрытага выступу на баку канфедэратаў супраць Станіслава Аўгуста Панятоўскага і Расіі, М. К. Агінскі ў снежні 1770 года сустрэўся ў Гародні з гетманам вялікім каронным Янам Клеменсам Браніцкім і біскупам віленскім Ігнацыем Масальскім. Пасля на пасяджэнні Вайсковай камісіі ў Гародні М. К. Агінскі дамогся рашэння аб пазбаўленні камандавання войскам Вялікага княства Літоўскага прыхільніка караля рэгіментара (часовага камандуючага) графа Францішка Ксаверыя Браніцкага, праціўніка барскіх канфедэратаў.

Адхіліўшы ад вайсковай улады Ф. К. Браніцкага, М. К. Агінскі вясной 1771 года пачаў збіраць асобныя палкі войска Вялікага княства Літоўскага пад сваё камандаванне. Ужо ў маі 1771 года ён сабраў 2 тысячы жаўнераў. Разумеючы, у чым справа, кароль і вялікі князь Станіслаў Аўгуст Панятоўскі некалькі разоў пісаў яму лісты, просячы дзейнічаць разумна і не далу-

чацца да канфедэратаў. Расійскі пасланнік у Польшчы Гаспар фон Сальдэрн у сваіх лістах у грубай форме запатрабаваў распусціць войска Вялікага княства Літоўскага, а самому М. К. Агінскаму з'явіцца ў Варшаву да расійскага пасланніка і даць тлумачэнні сваім дзеянням. М. К. Агінскі ў адказ запэўніваў фон Сальдэрна ў сваёй прыязні да яго і лаяльнасці да караля.

Паколькі Міхал Казімір Агінскі працягваў збіраць вайсковыя атрады, фон Сальдэрн ў сярэдзіне жніўня 1771 года аддаў загад расійскім войскам, што знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі і Літвы, акружыць войска, якім камандаваў гетман вялікі М. К. Агінскі, а ад яго самога патрабаваў капітуляцыі. Гетман адмовіў Сальдэрну і распачаў ваенныя дзеянні супраць расійскіх войск. Ужо 6 верасня 1771 года ля вёскі Бездзеж (цяпер у Драгічынскім раёне Брэсцкай вобласці) войска Беларуска-Літоўскай дзяржавы на чале з Міхалам Казімірам Агінскім разбіла атрад расійскіх войск у 500 чалавек на чале з палкоўнікам А. Альбічавым. На наступны дзень у мястэчку Хомск Пінскага павета М. К. Агінскі выдаў маніфест аб далучэнні сябе і войска Вялікага княства Літоўскага да Барскай канфедэрацыі. Ён заклікаў канфедэратаў аб'яднацца для абароны «веры, вольнасці і незалежнасці».

Гэта перамога пад Бездзежам лічылася тады адной з буйнейшых перамог над расійскім войскам падчас вайны барскіх канфедэратаў з Расіяй. Потым быў разбіты яшчэ адзін атрад расійскіх войск. Аднак на гэтым поспехі М. К. Агінскага скончыліся. Спроба са сваім войскам заняць Нясвіж і Слуцк не ўдалася. Спачатку расійскае камандаванне разгубілася. Супраць Агінскага на ўласную рызыку выступіла з Любліна войска на чале з генерал-маёрам Аляксандрам Васільевічам Суворавым. У распараджэнні Суворава была 1 тысяча афіцэраў і жаўнераў з 8 гарматамі. Яго вайсковы атрад 21 верасня 1771 года быў ужо ў Слоніме. У гэты час Міхал Казімір Агінскі знаходзіўся ў мястэчку Сталовічы Наваградскага павета (цяпер у 12 кіламетрах ад Баранавіч).

22 верасня 1771 года атрад А. В. Суворава (900 чалавек) зрабіў марш да Сталовічаў і каля 2 гадзін ночы на 23 верасня падышоў да ўскраіны мястэчка і разгарнуў свой атрад у дзве лініі. Пачаўся начны бой. Пярэдняя лінія расійскага войска пад гарматным агнём прайшла ў Сталовічы па вузкай грэблі праз балота. За ёю ў мястэчка ўварвалася конніца на чале з маёрам Рылеевым. Цэлую гадзіну на вуліцах і дварах ішоў бой, які выйграў атрад Суворава. Было знішчана 300 жаўнераў войска Вялі-

кага княства Літоўскага, захоплены 10 гармат, сцягі, гетманская булава і каса з 50 тысячамі чырвоных злотых. Рэшткі войска М. К. Агінскага ў колькасці 500 чалавек адышлі ад Сталовічаў на захад у свой галоўны абоз. Ужо каля 4 гадзін раніцы салдаты А. В. Суворава пасля гарматнага абстрэлу атакавалі абоз па ўсяму фронту. Расійская кавалерыя змяла правае крыло войска М. К. Агінскага, і яго жаўнеры пачалі адступаць на захад да мястэчка Моўчадзь. У гэты час на дапамогу М. К. Агінскаму прыйшлі два уланскія палкі беларускіх татар (каля тысячы коннікаў) на чале з палкоўнікам Ю. Беляком. Яны акружылі тры расійскія эскадроны і далі магчымасць рэшткам войска М. К. Агінскага адступіць. Самі адступілі, захаваўшы баявы парадак. Войска Агінскага страціла 500 чалавек забітымі і 300 палоннымі. Сваю ваенную кампанію Міхал Казімір Агінскі прайграў. Рэшткі яго войска разышліся. Канфедэрацкі рух у Беларусі быў задушаны.

Міхал Казімір Агінскі не здолеў сабраць рэшткі свайго войска і праз Слонім выехаў за мяжу — спачатку ў Каралявец (Кёнігсберг), потым у Гданьск, Цешын (дзе знаходзілася кіраўніцтва Барскай канфедэрацыі) і праз Вену ў сярэдзіне 1773 года ў Парыж. Знаходзячыся ў эміграцыі ў Цешыне, М. К. Агінскі спрабаваў сабраць там атрады, каб працягваць барацьбу ў Беларусі і Літве. Аднак гэта спроба не ўдалася — не хапала грошай. Да таго ж, паміж кіраўнікамі эміграцыі ўзмацніліся спрэчкі. Міхал Казімір Агінскі ўваходзіў у групоўку біскупа Адама Красінскага і маршалка канфедэрацыі ў Вялікім княстве Літоўскім Міхала Паца. Яны выступілі з прапановай абраць каралём польскім і вялікім князем літоўскім ландграфа гесэн-касельскага Фрыдрыха II, з якім у снежні 1771 і ў лютым 1772 гадоў вёў перамовы ўпаўнаважаны Агінскага Францішак Ксаверы Хамінскі. М. К. Агінскі звярнуўся да ландграфа таксама з просьбай пазычыць 150 тысяч дукатаў для вярбоўкі войска, якое ён пачаў фарміраваць у эміграцыі яшчэ з вясны 1771 года (планаваў сфарміраваць чатыры армейскія карпусы). Аднак ландграф Фрыдрых II не прыняў прапановы трона, які яшчэ трэба было заваёўваць у Станіслава Аўгуста Панятоўскага без перспектывы поспеху. У маі 1772 года Міхал Казімір Агінскі распусціў вайсковыя атрады, бо не было грошай іх утрымліваць.

Пасля адмовы ландграфа ў ліпені 1772 года М. К. Агінскі з'явіўся ў Парыжы з прапановай стварэння англа-французскага саюза супраць Расіі для выратавання Рэчы Паспалітай. Аднак гэта прапанова таксама не была прынята. Сітуацыя на ўсхо-

дзе Еўропы сур'ёзна не закранала інтарэсы Англіі і Францыі. Барскія канфедэраты на тэрыторыі Рэчы Паспалітай былі разбіты, і дапамагаць ужо не было каму. Канчаткова М. К. Агінскі пераканаўся ў правале планаў умяшання заходнееўрапейскіх краін у справы Рэчы Паспалітай пасля аўдыенцыі 6 жніўня 1773 года ў французскага караля Людовіка XV у Камп'ене.

Два гады пасля паражэння Барскай канфедэрацыі Міхал Казімір Агінскі знаходзіўся ў эміграцыі, пераязджаючы з адной краіны ў другую. У Генуі ён пазнаёміўся і некаторы час быў пад уплывам прыгожай авантурысткі, якая выдавала сябе за дачку імператрыцы Лізаветы Пятроўны і ўвайшла ў гісторыю як князёўна Тараканава. Некаторы час М. К. Агінскі знаходзіўся ў Ліёне і ў Парыжы. Восенню 1773 года Міхал Казімір Агінскі вырашыў вярнуцца на радзіму. Па-першае, ужо не хапала грошай, а банкіры адмаўляліся даваць яму пазыкі. Па-другое, ён даведаўся, што кароль і вялікі князь Станіслаў Аўгуст Панятоўскі збіраюцца аддаць яго пасаду вялікага гетмана Вялікага княства Літоўскага гетману польнаму Аляксандру Сапегу. Спачатку ён прапанаваў каралю кампраміс, аднак яго прапанова была адхілена. Каб вярнуць хоць частку маёнткаў, Міхал Казімір Агінскі вымушаны быў капітуляваць.

Маёнткі Міхала Казіміра Агінскага ва Усходняй Беларусі, якія ў 1772 годзе былі адарваны ад усёй краіны і паводле ўмоў першага падзелу Рэчы Паспалітай уключаны ў склад Расійскай імперыі, былі спачатку секвестраваны, а потым і ўвогуле канфіскаваны. Сярод іх былі такія буйныя маёнткі, як мястэчка Круглае з 22 вёскамі ў Аршанскай правінцыі Магілёўскай губерні, дзе налічвалася 2 740 душ мужчынскага полу, з іх 2 658 душ хрысціян і 82 душы яўрэяў. Нагадаем, што мужчынская душа з часоў Пятра I — гэта падатковая адзінка ў асяроддзі мяшчан і сялян, ад немаўляці да старога чалавека ўключна. Страціў Агінскі і «сяльцо Паўловічы з 12 вёскамі» са 122 мужчынскімі душамі, а таксама староствы Чачэрскае, Казянскае і іншыя ўладанні. Некаторыя маёнткі прыйшлося прадаць, бо на іх былі налічаны вялікія даўгі, а выкупіць было немагчыма. Так, маёнтак Нябораў (на захад ад Варшавы) з вельмі прыгожым палацам быў прададзены яго пляменніцы Гелене Радзівіл і яе мужу Міхалу Гераніму Радзівілу. Некаторыя маёнткі набылі арандатары, якія паступова прыбралі іх да сваіх рук, умела кіруючы фінансавымі справамі на сваю карысць. Так, вялікі маёнтак пад назвай «графства Бакшты» (цяпер у Іўеўскім раёне), якім кіравалі Манюшка і Оштарп, стаў іх уласнасцю.

11 лістапада 1774 года М. К. Агінскі выехаў на радзіму і ў канцы года быў ужо ў Варшаве. Пасля прыезду ў сталіцу ён, гетман вялікі Вялікага княства Літоўскага, выклікаў на дуэль свайго падначаленага, гетмана польнага Аляксандра Сапегу. Аднак паядынак не адбыўся, бо ўрад вырашыў пакінуць М. К. Агінскаму вялікую булаву. Такім чынам, ён захаваў сваю ранейшую пасаду і па-ранейшаму камандаваў войскам. Але цяпер М. К. Агінскі менш займаўся палітычнымі справамі, а шмат часу і ўвагі аддаваў фінансавым і культурніцкім справам. Яго сямейнае жыццё значна пагоршылася. Жонка Аляксандра жыла ў Варшаве ўсе гады яго эміграцыі, а калі ён вярнуўся на радзіму і ў 1775 годзе зрабіў сваёй галоўнай рэзідэнцыяй Слонім, то да яго не паехала. Яны жылі паасобку, нават падзялілі маёнткі, аднак захавалі прыязныя адносіны і часам выступалі разам, абараняючы свае маёмасныя правы.

Міхал Казімір Агінскі цяпер шмат увагі надаваў паляпшэнню архітэктуры Слоніма і адкрыццю там друкарні, капэлы, тэатра і бібліятэкі. Пад яго наглядам і пры яго фінансавай падтрымцы працягвалася будаўніцтва Агінскага канала і двух трактаў: слонімска-пінскага і пінска-валынскага.

Спачатку М. К. Агінскі ўзнавіў апазіцыйную дзейнасць у дачыненні да каралеўскага ўрада (пастаяннай рады на чале з каралём), створанага ў 1775 годзе. Асабліва настойліва ён выступаў супраць кіраўніка каралеўскай групоўкі ў Вялікім княстве Літоўскім падскарбія надворнага Антонія Тызенгаўза, супраць дзеянняў якога была настроена большасць магнатаў. У Слоніме ў канцы верасня — пачатку кастрычніка 1775 і ў канцы чэрвеня 1776 года адбыліся нарады кіраўнікоў апазіцыі. М. К. Агінскі намагаўся далучыць да апазіцыі Караля Станіслава Радзівіла Пане Каханку, які знаходзіўся ў гэты час у эміграцыі, што яму часткова ўдалося. Прыхільнікі К. С. Радзівіла разам з прыхільнікамі апазіцыйных магнатаў на павятовых сойміках 1776 года выступалі разам, выбіраючы на сойм агульных дэпутатаў.

Аднак на сойме 1776 года апазіцыя пацярпела паражэнне, і да пачатку 90-х гадоў XVIII стагоддзя М. К. Агінскі адышоў ад апазіцыйнай дзейнасці. На адыход ад апазіцыйных спраў паўплывала і захапленне гетмана акультызмам і масонствам. Агінскі ўжо даўно быў звязаны з масонамі. 27 снежня 1781 года на агульным сходзе прадстаўнікоў масонскіх ложаў Рэчы Паспалітай ён быў абраны «дэпутаваным вялікім майстрам (намеснікам) Літоўскай правінцыі Вялікага Усходу». На гэтай жа ма-

сонскай пасадзе ён быў зацверджаны падчас масонскіх выбараў у 1788 годзе.

Спрабуючы вярнуць страчаныя ва усходняй Беларусі маёнткі, М. К. Агінскі паехаў у 1780 годзе на спатканне з імператрыцай Кацярынай II, якая аб'язджала далучаную да Расіі тэрыторыю. Ён нават пазычыў графу С. Г. Зорычу, уладальніку Шклова, свой аркестр для сустрэчы імператрыцы. Аднак спроба аказалася дарэмнай. Кацярына II не вярнула яму страчаныя маёнткі (як і іншым магнатам).

У студзені 1782 года Міхал Казімір Агінскі на некалькі гадоў зноў выехаў за мяжу. Вярнуўся ён толькі ў 1788 годзе. Наведаў Прусію, на некаторы час спыніўся ў Ахене, у канцы 1782 года бавіў час у Бруселі (сталіцы Аўстрыйскіх Нідэрландаў), у сакавіку 1783 года быў ужо ў Гаазе, потым у Амстэрдаме. У яго асяроддзі аказаліся падазроныя людзі і авантурысты, перш за ўсё Каліостра і Зановіч, якім ён выплачваў вялікія ганарары. Зановіч, напрыклад, даводзіў М. К. Агінскаму, што ён можа стаць каралём Польшчы і вялікім князем Літоўскім і што яму ў гэтым дапаможа прускі кароль Фрыдрых II. У канцы 1785 года Агінскі прыехаў у Лондан, дзе ўблытаўся ў авантурны праект гандлю з нідэрландскай калоніяй Гвіяна, нават купіў два караблі. Аднак праект скончыўся вялікімі грашовымі стратамі. У 1786 годзе Міхал Казімір Агінскі быў абраны ў Пастаянную раду, але гэта не схіліла яго да вяртання на радзіму, нягледзячы на лісты караля з прапановамі вярнуцца. Урэшце па запрашэнню прускага караля Фрыдрыха Вільгельма II, з якім падтрымліваў масонскую сувязь, у канцы 1786 года ён выехаў з Лондана ў Берлін.

Вярнуўся М. К. Агінскі ў Рэч Паспалітую ў 1788 годзе напярэдадні выбараў у павятовыя соймікі, дзе выбіралі дэпутатаў на сойм, які потым атрымаў назву Чатырохгадовага (1788—1792). Агінскі сустрэўся з каралём, абмеркаваў з ім дзяржаўныя справы і абвясціў сябе прыхільнікам яго рэформ. Аднак Станіслаў Аўгуст не давяраў Агінскаму і ўжо ў красавіку 1788 года падазраваў яго ў тайнай змове з Прусіяй. Сапраўды, М. К. Агінскі падтрымліваў сувязь з Фрыдрыхам Вільгельмам II, разлічваючы на тое, што, калі Прусія ўступіць у саюз з Расіяй, кароль дапаможа яму вярнуць страчаныя маёнткі.

Чатырохгадовы сойм, які потым назвалі Вялікім з-за прыняцця ім сур'ёзных рэформ у дзяржаўным і эканамічным ладзе Рэчы Паспалітай, адкрыўся ў Варшаве (6 кастрычніка 1788 г). Каб хутчэй і беспарашкодна правесці рэформы, якія б умаца-

валі дзяржаву, кіраўніцтва патрыятычнай групоўкі ад пачатку сойму абвясціла канфедэрацыю, што давала магчымасць прымаць законы па большасці галасоў, а не аднагалосна, як на звычайным сойме.

Міхал Казімір Агінскі далучыўся да апазіцыі. Ён выступіў з прапановай ліквідацыі вайсковага дэпартаменту пастаяннай рады з мэтай канцэнтрацыі вайсковай улады ў руках гетманаў як у Вялікім княстве Літоўскім, так і ў Польшчы. Такім чынам, ён выступіў за такі парадак кіравання войскамі, які існаваў да 1775 года, да стварэння пастаяннай рады. Ён таксама дбаў аб павелічэнні войска Вялікага княства Літоўскага з 6 000 чалавек (як было ўстаноўлена ў 1717 годзе пад націскам дыпламатаў Пятра І) да 20 500 чалавек. У 1789 годзе Міхал Казімір Агінскі выпусціў брашуру «Мыслі аб вайсковых справах», у якой прапанаваў штогадовую двухмесячную службу ў нацыянальнай кавалерыі для шляхціцаў ад 18 да 24 гадоў. Гэта прапанова была накіравана на лепшую вайсковую падрыхтоўку моладзі і больш хуткае павелічэнне войска на выпадак вайны. Другая прапанова заключалася ў забеспячэнні пяхоты рыдлёўкамі і сякеркамі для выканання сапёрных прац. Свае прапановы ён паўтарыў на пасяджэнні сойму 13 студзеня 1792 года, аднак яны не былі разгледжаны.

У гэты ж час М. К. Агінскі зноў наведаў Берлін і быў урачыста прыняты каралём 30 красавіка 1790 года. Для пераймання вопыту кіравання войскамі ён праз месяц уступіў у шэрагі прускай арміі як валанцёр, але хутка вярнуўся і ўжо восенню 1791 года правяраў баяздольнасць войск у лагерах пад Галэмбам і Брацлавам. Выступаючы ў сойме 13 студзеня 1792 года, ён прапанаваў утварыць 2-3 казацкія палкі памежнай службы, 8 палкоў лёгкай пяхоты і 3 палкі стралкоў. Аднак у вайне паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай 1792 года ён удзелу не прымаў: камандаваць войскам Вялікага княства Літоўскага яму не даручылі. Карыстаючыся гэтым, М. К. Агінскі выехаў на лячэнне ў Сілезію.

Абцяжараны даўгамі, у снежні 1791 года Міхал Казімір Агінскі аддаў далёкаму сваяку Міхалу Клеафасу Агінскаму амаль усе свае маёнткі ў Вялікім княстве Літоўскім з абавязкам выплаціць больш за 8 мільёнаў злотых доўгу. Кіраўнік Таргавіцкай канфедэрацыі ў Вялікім княстве Літоўскім Ш. Касакоўскі (уладу якой пасля перамогі ў вайне 1792 года ўстанавіла Расія) дамогся рашэння аб секвестры (часовым адхіленні ад кіравання ўласнасцю) маёнткаў М. К. Агінскага. Каб захаваць маёнткі,

М. К. Агінскі пераслаў свой акт аб далучэнні да Таргавіцкай канфедэрацыі і хутка, у пачатку верасня 1792 года, вярнуўся з-за мяжы. 6 ліпеня 1793 года ён адмовіўся ад вялікай гетманскай булавы, спыніў палітычную дзейнасць і выехаў у Вену, дзе знаходзіўся да канца 1795 года.

Прадстаўнік М. К. Агінскага Ляхніцкі 6 красавіка 1795 года ад яго імя прынёс прысягу вернасці Кацярыне II і губернатару П. Дз. Цыцыянаву. Пасля вяртання на радзіму ўжо сам М. К. Агінскі прынёс прысягу на вернасць імператрыцы ў Гродне 31 студзеня 1796 года. Па яго просьбе Кацярына II анулявала пагадненне паміж ім і Міхалам Клеафасам Агінскім, заключанае ў снежні 1791 года. Спецыяльна створаная адмысловая камісія павінна была частку маёнткаў вярнуць М. К. Агінскаму, а частку прадаць, каб пакрыць даўгі. Слонімскі маёнтак ён страціў, бо горад у снежні 1795 года на невялікі тэрмін стаў цэнтрам Слонімскай губерні. За палац у Слоніме Агінскаму штогод выплачвалася са скарбу 3 000 дукатаў і дадаткова па 1 200 дукатаў за страчаныя штогадовыя даходы з горада. Калі Павел I у снежні 1796 года скасаваў Слонімскую губерню, палац быў вернуты М. К. Агінскаму.

Аднак апошнія гады свайго жыцця М. К. Агінскі правёў у Варшаве і ў Беларусь не прыязджаў. 31 студзеня 1800 года ён памёр і быў, верагодна, пахаваны на могілках у Павонзках (тады каля Варшавы, цяпер амаль у яе цэнтры). Дзяцей у Агінскага не было. Жонка памерла за паўтара года да яго смерці.

Міхал Казімір Агінскі увайшоў у гісторыю як палітычны і вайсковы дзеяч. Аднак сучаснікі вайскоўцам Агінскага не лічылі, а яго палітычная дзейнасць не вылучалася чым-небудзь адметным у той бурлівы час. У апошні перыяд яго жыцця хутчэй за ўсё яна была падпарадкавана адной мэце — вярнуць сабе страчаныя маёнткі, што ў самым канцы жыцця часткова апраўдалася.

Міхал Казімір Агінскі быў вядомы сваёй дзейнасцю ў галіне мецэнацтва і ўласнай творчасцю. Зрабіўшы Слонім сваёй рэзідэнцыяй, як слонімскі староста ён прысвяціў шмат часу забудове горада. Агінскі пабудаваў новыя для горада вытворчыя памяшканні для мануфактур, якія сам адкрыў. У іх выпускалася разнастайная прадукцыя: шаўковыя тканіны, «персідскія дываны», кілімы і іншыя тканыя рэчы. Росквіт вытворчасці дываноў прыпадае на 1788—1792 гады. М. К. Агінскі адкрыў у Слоніме ўласную друкарню, якая размяшчалася ў яго палацы. Па звестках, яна існавала ў 1777—1782 гадах. Тут выдаваліся розныя творы. Першай кнігай было выданне на лацінскай мове

«Рэлігійны культ Брунона, патрона картузаў» (1777). На польскай і італьянскай мовах была выдадзена «Кніжка для дзяцей, або Уяўленне аб прадметах, якія дзеці павінны вывучаць» (1778), на польскай — лібрэта опер «Сілы свету», «Становішча саслоўяў», «Елісейскія палі» (каля 1781), напісаных, як мяркуюць, самім Агінскім. Знаходзячыся ў Слоніме, М. К. Агінскі стварыў тэатр і капэлу, балетную і музычную школы. Але перш за ўсё ён услaвіўся як аўтар опер «Зменены філосаф» (1771), «Елісейскія палі» (1788), «Сілы свету» і «Становішча саслоўяў» (1784). Ён з'яўляецца таксама аўтарам скрыпічных п'ес, рамансаў, у тым ліку аднаго з першых вядомых вакальных цыклаў «Да Касі». Яго пяру належаць оперныя лібрэта і вершы. Ён выдаў свае творы «Гістарычныя і маральныя аповесці» (1782), «Байкі і нябайкі» (1788). Падчас канцэртаў праявіў сябе як віртуозны выканаўца на розных музычных інструментах.

Яшчэ да 1771 года Міхал Казімір Агінскі стварыў Слонімскі тэатр, у якім выступала яго прыдворная тэатральная трупа. У гэтым тэатры працавалі прафесійныя італьянскія, нямецкія і польскія спевакі, хор і балет. Балетная трупа была падрыхтавана ў адмысловай слонімскай балетнай школе. Тэатральныя спектаклі суправаджаліся музыкай Слонімскай капэлы. Для падрыхтоўкі музыкантаў у 1770—1780 гады пры тэатры існавала музычная школа. Рэпертуар тэатра складаўся з пастановак «Каралеўскі балет», «Балет млынароў», «Дзікі балет», «Дэзерцір», опер італьянскіх кампазітараў, у тым ліку «Тэлемах» Дж. Таэскі, опер самога Агінскага, трагедый Вальтэра і інш. У 1771 годзе дзейнічаў «Плывучы тэатр» на баржах на Агінскім канале. У 1777—1780 гадах быў пабудаваны «Дом оперы» («Опер-хаўз»), які меў вялікую сцэну для масавых пастановак. На сцэне білі два фантаны. Яны асвятляліся бенгальскімі агнямі. Тэатр Агінскага спыніў сваю дзейнасць пасля яго эміграцыі ў пачатку 90-х гадоў XVIII стагоддзя.

*Літаратура*

*Konopczyński Wł.* Konfederacja barska. Warszawa, 1991.

*Leśniewski S.* Poczet hetmanyw polskich i litewskich. XVIII wiek. Warszawa, 1992.

*Michalski J., Nowak-Romanowicz A.* Ogiński Michał Kazimierz // Polski Słownik Biograficzny. Wrociaw–Warszawa–Kraków. Tom XIII/3, zeszyt 98. Wrocław. S. 624—630.

*Цеханавецкі А.* Міхал Казімір Агінскі і яго «сядзіба музаў» у Слоніме. Мн., 1993.

*Анатоль Грыцкевіч*

## Віктар Отан
## КАЛІНОЎСКІ
## (1833–1862)



Апошнія гады ў публікацыях, прысвечаных Вікенцію Канстанціну Каліноўскаму, ўсё часцей і часцей стала з'яўляцца імя яго старэйшага брата Віктара Отана, які аказаў выключна вялікі уплыў на фарміраванне светапогляду малодшага брата.

Браты мелі так многа агульнага, іх скрацечныя лёсы так цесна пераплятаюцца, што быў час, калі некаторыя даследчыкі лічылі нават, што Віктар — гэта той жа Канстанцін. І дажыві Віктар да студзеня 1863 года, гістарычная драма паўстання, безумоўна, папоўнілася б яшчэ адной гераічнай асобай. Але і без гэтага імя Віктара Каліноўскага ўвайшло ў гісторыю вызваленчага руху Беларусі. Вялікія яго заслугі перш за ўсё ў ідэйнай падрыхтоўцы падзей 1863 года. Дзякуючы яго дзейнасці духоўнае станаўленне многіх рэвалюцыянераў, у тым ліку і Вікенція Канстанціна, працякала значна хутчэй.

Не прайшла бясследна навуковая праца Віктара для вывучэння гісторыі роднага краю. Яе вынікі былі выкарыстаны ў каштоўных гістарычных публікацыях Віленскай археалагічнай камісіі, бібліятэкі імя Асалінскіх ў Львове (пасля другой сусветнай вайны гэта бібліятэка была перанесена ў польскі горад Вроцлаў) і іншых.

Імя Віктара засталося (што пакуль зусім не даследавана) і ў гісторыі журналістыкі. І, відаць, праз брата Канстанцін Каліноўскі пазнаёміўся з газетнай работай.

Віктар Отан Каліноўскі, таксама як і Канстанцін, нарадзіўся ў Мастаўлянах 9 (21) красавіка 1833 года. З 1841 па 1851 год

вучыўся ў Свіслацкай гімназіі, куды ў 1847 годзе паступіў і Канстанцін. Ужо тут, як было адзначана у артыкуле пра Канстанціна Каліноўскага, праявіўся духоўны ўплыў старэйшага брата. У 1851 годзе, у сувязі з ператварэннем гімназіі ў пяцікласнае дваранскае вучылішча, Віктар вымушаны быў пераехаць у Гродна, каб завяршыць сярэднюю адукацыю. У 1852 годзе ён скончыў Гродзенскую губернскую гімназію, атрымаўшы атэстат сталасці наступнага зместу:

«АТЭСТАТ

Прад'яўнік гэтага, вучань сёмага класа Гродзенскай губернскай гімназіі, які скончыў поўны курс гімназічнага навучання, Віктар Отан Сямёнаў сын Каліноўскі з дваран, мае 19 год ад нараджэння, рымска-каталіцкага веравызнання, навучаўся ў гэтай гімназіі з 16 жніўня 1851 па 20 дзень чэрвеня 1852 года, у час навучання паводзін быў выдатных; у выкладаемых прадметах выявіў наступныя поспехі: у законе божым добрыя, свяшчэннай гісторыі добрыя, царкоўнай гісторыі добрыя, у рускай мове добрыя, у рускай славеснасці добрыя, у законазнаўстве (прочырк), у лацінскай мове дастатковыя, у гісторыі добрыя, у геаграфіі добрыя, у фізіцы добрыя, у нямецкай мове добрыя, у французскай мове добрыя, у чарчэнні і маляванні добрыя. Таму ён, Віктар Отан Каліноўскі, выпушчаны з гімназіі з правамі і перавагамі, якія даюцца вучням, што скончылі поўны гімназічны курс, але без правоў на чын XIV класа. У пасведчанне чаго выдадзены яму гэты атэстат з належным падпісаннем і прыкладаннем казённай пячаткі.

г. Гродна. Чэрвеня 23 дня 1852 года».

У тым жа 1852 годзе Віктар паступіў на медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта. Можна толькі здагадвацца, з якім настроем чакаў пятнаццацігадовы Кастусь старэйшага брата на першыя летнія канікулы! Як слухаў яго расказы пра далёкую Маскву, пра універсітэт! Як узнёсла гучалі такія нязвыклыя для яго слыху словы, як лекцыя, прафесар, аўдыторыя! Якім светлым і разумным здавалася яму студэнцкае жыццё! І, думаецца, перш за ўсё пад уплывам Віктара Кастусь цвёрда вырашыў працягваць адукацыю.

Праз два гады ён пакінуў Якушоўку і выехаў да старэйшага брата ў Маскву. Але замест таго, каб трывала асталявацца ў гэтым горадзе, як думалі бацькі, браты у 1856 годзе нечакана пераехалі ў Пецярбург. Адна з галоўных прычын гэтага пераезду заключалася ў падзеі, якая адбылася на радзіме.



7. Зак.2059

У 1855 годзе пасля смерці Мікалая I археолагу графу Яўстафію Тышкевічу пасля доўгіх турбот удалося нарэшце атрымаць ад урада дазвол на стварэнне ў Вільні Музея старажытнасцей і адкрыцця пры ім Археалагічнай камісіі. Гэта было першае навуковае таварыства, дазволенае ўрадам пасля паражэння паўстання 1831 года і закрыцця Віленскага універсітэта. Актыўнейшым дзеячам музея і камісіі стаў вядомы беларускі этнограф, гісторык і публіцыст XIX стагоддзя Адам Кіркор (1818 – 1886), які і далучыў да работы ў камісіі Віктара Каліноўскага.

Зразумела, паміж А. Кіркорам і В. Каліноўскім у палітычных поглядах існавалі прынцыповыя адрозненні. У Каліноўскага-старэйшага ўжо амаль склаліся рэвалюцыйна-дэмакратычныя перакананні, а А. Кіркор як грамадскі дзеяч ліберальнага кірунку не змог падняцца да прызнання неабходнасці насільнага звяржэння царскага самадзяржаўя шляхам народнай рэвалюцыі. Ён выступаў толькі з абмежаваным патрабаваннем нацыянальна-культурнай аўтаноміі для Беларусі. І, як адзін з кіраўнікоў Віленскай археалагічнай камісіі, праявіў сябе з найлепшага боку, заваяваўшы заслужаныя сімпатыі многіх сваіх сучаснікаў. Пра гэта сведчаць наступныя вершаваныя радкі А. Вярыгі-Дарэўскага, прысвечаныя Адаму («Адаську») Кіркору:

Адаська, родны Адаська!
Як мы цешымся з цябе!
Душа твая зусім наська,
А горнеш усіх к сабе.
Мурашачка працавіты,
Хвала, брат сіле тваей!
Як нашу у пуню жыта,
Кладзеш усё ў Музей.

А. Кіркор, акрамя таго, быў энергічным выдаўцом, вядомым публіцыстам, меў надзвычайныя арганізатарскія здольнасці. Ён умеў згуртаваць людзей, паставіць перад імі ясныя і пасільныя задачы. Не валодаючы неабходнымі якасцямі палітычнага барацьбіта, ён, тым не менш, як чалавек цвярозага мыслення, не губляў з поля зроку рэальнай перспектывы ў бурных хвалях жыццёвага мора. Яго дзейнасць спрыяла ажыўленню духоўнага жыцця ў Беларусі і Літве ў сярэдзіне XIX стагоддзя, станаўленню нацыянальнай самасвядомасці.

Пахвальным было і тое, што Адам Кіркор звярнуўся да царскага ўрада з просьбай увесці ў школах Беларусі навучанне на

роднай мове. Пад яго ўплывам Аляксандр Аскерка стварыў і выдаў у 1862 годзе у Вільні «Лемантар» («Буквар») для навучання дзяцей пачатковай грамаце.

Паступова вакол газеты «Кур'ер Віленьскі», якую выдаваў А. Кіркор, стварыўся першы беларускі літаратурны гурток, удзельнікі якога У. Сыракомля, В. Каратынскі, а таксама цесна связаныя з імі А. Вярыга-Дарэўскі і В. Дунін-Марцінкевіч глыбока і праўдзіва адлюстроўвалі цяжкае жыццё беларускіх сялян, часам перавышаючы палітычным радыкалізмам умераныя погляды свайго ідэйнага натхніцеля. Пра настроі гуртка добра ведаў Віктар Каліноўскі, а праз яго і брат Канстанцін. Не выпадкова потым Уладзіслаў Сыракомля стане блізкім сябрам Канстанціна Каліноўскага, які будзе вучыць яго дзяцей рускай мове, а Вярыга-Дарэўскі ў гады паўстання 1863 года ўзначаліць атрад паўстанцаў і загіне на катарзе.

Такім чынам, Адама Кіркора і Віктара Каліноўскага у тыя гады збліжаў глыбокі ўзаемны інтарэс да мінулага і сучаснага радзімы, любоў да роднай мовы і культуры. Менавіта гэтым і можна растлумачыць, чаму Віктар без ваганняў прыняў прапанову А. Кіркора выконваць у Пецярбургу навуковыя даручэнні Віленскай археалагічнай камісіі. У прыватнасці, ён адшукваў і рыхтаваў для публікацыі каштоўныя рукапісы, што датычылі гісторыі Беларусі, Літвы і Польшчы. Над гэтым даручэннем, што прымусіла яго пераехаць з Масквы ў Пецярбург, ён працаваў у імператарскай Публічнай бібліятэцы да самай смерці. Працаваў упарта і многа, з захапленнем і страсцю, перыядычна перасылаючы А. Кіркору ў Вільню копіі каштоўных гістарычных матэрыялаў. Часам ён суправаджаў іх скупымі лістамі, у якіх апісваў свае пошукавыя будні. У архівах Вільні захавалася (лепш сказаць – пакуль што знойдзена) тры такія пісьмы. Аб паспяховым выкананні Віктарам заданняў Віленскай археалагічнай камісіі сведчылі і пісьмы да А. Кіркора другога супрацоўніка Віленскай археалагічнай камісіі — А. Д. Іваноўскага, таксама ўраджэнца Гродзеншчыны, служачага Публічнай бібліятэкі, у якіх ён паведамляў, што Віктар «на працягу амаль трох год у адпаведнасці з зададзенай тэмай і ўказанымі п. Маліноўскім [1] рукапісамі зрабіў дакладны пералік і вытрымкі; такая работа будзе вельмі патрэбная для музея, і музей напэўна яе скарыстае».

Пра тое, як праходзіла работа Віктара Каліноўскага ў Публічнай бібліятэцы ў Пецярбургу, пра яго працавітасць, захопленасць, навуковую эрудыцыю ў галіне гісторыі сведчаць успамі-

ны вядомага рускага гісторыка і пісьменніка Мікалая Кастамарава (1817—1885). Паколькі знаёмства з гэтым незвычайным чалавекам не прайшло бясследна ні для Віктара, ні для Канстанціна, які слухаў яго лекцыі, а магчыма таксама быў асабіста знаёмы з ім, варта сказаць пра М. Кастамарава некалькі падрабязней.

У маладосці ён быў прафесарам гісторыі Кіеўскага універсітэта. Аднак за арганізацыю разам з Тарасам Шаўчэнкам тайнага палітычнага Кірыла-Мяфодзьеўскага таварыства быў арыштаваны і пасаджаны ў турму, а затым сасланы ў Саратаў. Там ён пазнаёміўся з М. Г. Чарнышэўскім. За гады ссылкі М. Кастамараў стварыў шэраг арыгінальных гістарычных работ, у тым ліку «Бунт Сценькі Разіна», якія прынеслі яму вядомасць і за якія вясной 1859 года ён быў запрошаны ў Пецярбургскі універсітэт на кафедру рускай гісторыі. Восенню таго ж года М. Кастамараў пачаў чытаць тут лекцыі па рускай гісторыі, якія карысталіся вялікім поспехам — іх наведвалі не толькі студэнты, але і многія іншыя слухачы. Высокую ацэнку ім даў Д. І. Пісараў, які таксама вучыўся тады ва універсітэце. Вядома, немалую ролю ў поспеху М. Кастамарава адыгралі арышт і ссылка вучонага, яго публікацыі па гісторыі народных рухаў, майстэрства выкладання матэрыялу. Але, бадай, галоўнае заключалася ў тым, што ў лекцыях вучоны выказаў новыя погляды на сутнасць гісторыі, заявіўшы, што яе «трэба вывучаць не толькі па мёртвых летапісах і запісках, а і ў жывым народзе». «Чаму ж гэта ва ўсіх гісторыях,— гаварыў М. Кастамараў,– расказваюць пра выдатных дзяржаўных дзеячаў, іншы раз пра законы і ўстановы, але як быццам грэбуюць жыццём народнай масы? Бедны мужык – земляроб-працаўнік – як быццам не існуе для гісторыі; чаму гісторыя не гаворыць нам нічога пра яго быт, пра яго духоўнае жыццё, пра яго адчуванне, спосаб яго радасцей і смутку?»

М. Кастамараў так сфармуляваў асноўную мэту сваіх лекцый: «вылучыць на першы план народнае жыццё ва ўсіх яго асобных праяўленнях». Аднак пакуль урад, які выклікаў М. Кастамарава вясной 1859 года ў Пецярбург, канчаткова вырашаў пытанне, ці варта дапускаць апальнага прафесара да кафедры, ён, каб не траціць часу дарэмна, упарта працаваў у імператарскай Публічнай бібліятэцы. Тут і звёў яго лёс з Віктарам Каліноўскім. Вось як расказваў пра гэта Кастамараў у сваёй «Аўтабіяграфіі»: "У палове мая (1859 года — **В. Ш.**) я прыбыў у Пецярбург і спыніўся ў гасцініцы... побач з імператарскай Публічнай бібліятэ-

кай ...Карыстаючыся блізкасцю памяшкання, кожную раніцу з нумара сваёй гасцініцы, што знаходзілася побач з бібліятэкай, ішоў я туды і, нягледзячы на доўгія летнія дні, праседжваў да ночы... Так прайшло лета. Ні аднаго дня не прапусціў я, каб не наведваць бібліятэкі; чытаў многа і друкаванага, і рукапіснага... Маімі частымі субяседнікамі ў гэтыя дні былі: кнігагандляр Кажанчыкаў, якому я прадаў «Бунт Сценькі Разіна», Катлярэўскі – затым прафесар, тады яшчэ малады чалавек, які вызначаўся надзвычайнай цікаўнасцю і вялікімі ведамі ў бібліяграфіі, і... Віктар Каліноўскі, які займаўся цэлымі днямі ў бібліятэцы польскімі рукапісамі...».

Тут неабходна растлумачыць, што разумеў М. Кастамараў пад «польскімі рукапісамі». Справа ў тым, што ў аснову імператарскай Публічнай бібліятэкі, адкрытай у 1814 годзе, была пакладзена варшаўская бібліятэка вядомых польскіх асветнікаў XVIII стагоддзя братоў Андрэя і Іосіфа Залускіх, якая ў 1795 годзе была перавезена ў Пецярбург. У ей мелася каля 10 тысяч рукапісаў, якія тычыліся гісторыі Беларусі, Літвы і Польшчы, не лічачы 300 тысяч тамоў кніг. Пазней імператарская Публічная бібліятэка атрымала ў спадчыну значную колькасць рукапісаў Полацкай езуіцкай акадэміі (закрыта ў 1820 г.), а пасля паўстання 1831 года – многія рукапісы з бібліятэк Сапег, Ржавускіх, Чартарыйскіх і інш. Такім чынам, у ёй было сабрана шмат каштоўных гістарычных крыніц, якія па заданню Віленскай археалагічнай камісіі выяўляў і даследаваў Віктар Каліноўскі ў рукапісным аддзеле Публічнай бібліятэкі. Загадваў аддзелам польскіх рукапісаў згаданы вышэй ураджэнец Гродзеншчыны А. Д. Іваноўскі.

Адчуваецца, што М. Кастамараў доўга прыглядаўся да Віктара, размаўляў з ім, гутарыў, перш чым даць яму ў сваіх успамінах такую выдатную характарыстыку: «Мне не здаралася ў жыцці бачыць чалавека, які так аддана захапляўся археаграфіяй і гісторыяй. Яго веды не ішлі далей Літвы і Польшчы, але затое яго можна было назваць хадзячым каталогам самых дробных звестак пра мінулы побыт гэтых краёў. Чалавек гэты вылучаўся вялікай дабрадушнасцю і бясконцай паслужлівасцю. Помнікам знаёмства з ім застаўся ў мяне багаты збор выпісак з указаннем на нумары і фарматы тых рукапісаў, з якіх яны ўзяты».

З далейшага зместу «Аўтабіяграфіі» М. Кастамарава можна меркаваць, што ён, як блізкі знаёмы Віктара Каліноўскага, ведаў і яго брата — Канстанціна. «Родны брат яго (Канстанцін

Каліноўскі — **В. Ш.**), – пісаў М. Кастамараў,– папаўся пасля ў польскім мяцяжы як адзін з важнейшых дзеячаў у Літоўскім краі і быў павешаны». Калі б М. Кастамараў не ведаў Канстанціна, то якая неабходнасць была б ўпамінаць пра яго ў сваёй «Аўтабіяграфіі»? Такая дасведчанасць М. Кастамарава гаворыць пра яго сімпатыі да будучых удзельнікаў паўстання 1863 года, у чым, як відаць з запісак члена Віленскай асобай следчай камісіі па палітычных справах штабс-капітана М. В. Гогеля, жандары не без падстаў падазравалі вучонага.

Што ж датычыць Віктара Каліноўскага, то гісторык (магчыма, наўмысна) супрацьпастаўляе яго, як чалавека навукі, радыкальнаму і мяцежнаму малодшаму брату: «Мой жа прыяцель (Віктар — **В. Ш.**) быў чалавекам іншага гарту: ён увесь жыў мінулымі стагоддзямі і амаль не цікавіўся сучаснымі падзеямі... Заўсёды ў зацяганым плашчы, харчуючыся нішчымнаю ядою ў нейкай польскай кухмістаршы, Каліноўскі (Віктар – **В. Ш.**) мала клапаціўся пра свой жыццёвы камфорт і, можна сказаць, ва ўсіх адносінах быў чалавек «як не з гэтага свету».

З радкоў, узятых з «Аўтабіяграфіі» М. Кастамарава, можна зрабіць наступны вывад: калі нават сталы вучоны, які толькі кароткі час быў звязаны з Віктарам, зведаў прывабнасць яго асобы, то значыць у яшчэ большай ступені гэта можна сказаць пра Вікенція Канстанціна. Ён жа амаль усё сваё кароткае жыццё быў звязаны з братам і знаходзіўся пад глыбокім ідэйным уплывам гэтай высакароднай натуры.

Перш за ўсё Вікенці Канстанцін Каліноўскі, несумненна, быў у курсе навуковых інтарэсаў свайго брата. Зусім не выключана, што ён сам прымаў удзел у яго пошуках і навуковай працы ў Публічнай бібліятэцы. Пра гэта сведчыць, у прыватнасці, цікавы дакумент, знойдзены нядаўна у Санкт-Пецярбургу, а менавіта прашэнне Віктара Каліноўскага, пададзенае на імя дырэктара Публічнай бібліятэкі барона М. А. Корфа. Вось яго змест:

«Его Высокопревосходительству г. Директору Императорской Публичной библиотеки барону Модесту Андреевичу Корфу. Виктора Калиновского Прошение.

В продолжение нескольких лет я занимался, с разрешения Вашего Высокопревосходительства, отчетами о рукописях Императорской Публичной библиотеки для Виленской Археологической комиссии, ныне же, по случаю порученных мне на время работ в Главном Московском архиве, я желал бы передать мои занятия брату моему Викентию Калиновскому, кандидату С.-

Петербургского университета. Его превосходительство Афанасий Федорович изъявил на то свое согласие. По сим причинам осмеливаюсь покорнейше просить Ваше Высокопревосходительство о разрешении моему брату продолжать неоконченные мною занятия под руководством младшего библиотекаря Ивановского как члена упомянутой комиссии.

С.-Петербург. 1860 г. 6 декабря. Виктор Калиновский.»

На прашэнні алоўкам напісана рэзалюцыя М. А. Корфа: «Согласен, если его превосходительство Афанасий Федорович не встречает к тому препятствий. 6 дек.»

Паглыбленню эрудыцыі Каліноўскага-малодшага ў галіне гістарычных ведаў садзейнічалі і прынцыповыя навуковыя спрэчкі, якія Віктар, як прадстаўнік маладой беларускай інтэлігенцыі, вёў з польскімі шляхецкімі нацыяналістамі. Апошнія выказвалі патрабаванне аднаўлення Польшчы ў межах 1772 года, г. зн. уключэння ў яе беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх зямель. Упамінанне пра гэтыя спрэчкі маецца ў «Аўтабіяграфіі» М. Кастамарава: «Будучы знаёмы з гісторыяй сваёй бацькаўшчыны значна глыбей тых верхаглядных патрыётаў, якія, не вывучаючы грунтоўна мінулага, складалі сабе пра яго летуценныя вобразы, Каліноўскі (Віктар – **В. Ш.**) у асяроддзі сваіх суайчыннікаў выклікаў нават нездавальненне за тое, што смела гаварыў рэчы, якія тагачасным польскім патрыётам былі не даспадобы».

Дзякуючы апецы і ўплыву старэйшага брата Канстанцін Каліноўскі з цягам часу стаў адчуваць сябе ў галіне роднай гісторыі вельмі ўпэўнена. І далёка не выпадкова, што пасля свайго арышту, які адбыўся ў ноч на 29 студзеня 1864 года, Вікенці Канстанцін Каліноўскі прадставіўся жандарам выкладчыкам гімназіі Ігнаціем Вітажэнцам, а на пытанне следчай камісіі пра свае навуковыя заняткі ў Вільні адказаў: «Займаўся распрацоўкай матэрыялаў гістарычных характараў славянскіх народнасцей». Яго адказ сведчыць пра тое, што ў галіне гісторыі славянскіх народаў (у тым ліку і беларускага) Канстанцін Каліноўскі адчуваў сябе знаўцам без усялякага перабольшання. Бо спрабаваць выдаць сябе за вучонага, не валодаючы для гэтага неабходнымі ведамі, у яго становішчы было роўна самавыкрыццю. Такой легкадумнасці гэты выдатны канспіратар, безумоўна, дапусціць не мог... Глыбокія гістарычныя пазнанні Канстанціна Каліноўскага знайшлі адлюстраванне на старонках «Мужыцкай праўды», «Лістоў з-пад шыбеніцы», на ўсім, што выйшла з-пад пяра беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата.

Цікавым і змястоўным было супрацоўніцтва Віктара Каліноўскага з бібліятэкай імя Асалінскіх ў Львове , дакладней, з яе дырэктарам – выдатным польскім гісторыкам Аўгустам Бялёўскім. Летам 1857 года ён прыехаў Пецярбург, спадзеючыся знайсці ў бібліятэках сталіцы Расійскай імперыі матэрыялы для задуманага ім манументальнага выдання «Помнікі польскай гісторыі». У час працы ў імператарскай Публічнай бібліятэцы лёс звёў яго з Віктарам Каліноўскім. Апошні добра арыентаваўся у рукапісных аддзелах пецярбургскіх бібліятэк і аказаў А. Бялёўскаму значную дапамогу у яго пошуках. У прадмове да гэтага нязвыклага выдання А. Бялёўскі змясціў цёплыя словы удзячнасці свайму малодшаму сябру. Супрацоўніцтва працягвалася аж да смерці Віктара. Сведчанне таму – лісты Віктара Каліноўскага да Аўгуста Бялёўскага, якія аўтару гэтых радкоў пашчасціла знайсці ў бібліятэцы імя Асалінскіх ў Вроцлаве.

Па даручэнню А. Бялёўскага Віктар склаў поўны каталог польскіх рукапісаў, якія знаходзіліся ў той час у імператарскай Публічнай бібліятэцы, з падрабязным апісаннем зместу кожнага з іх. Цяпер гэта фундаментальная праца знаходзіцца ў бібліятэцы імя Асалінскіх у Вроцлаве. Каштоўнасць яе ў тым, што частка гэтых рукапісаў назаўсёды страчана і пра іх змест мы можам даведацца толькі з названага каталога. Гэтыя факты даюць падставу спадзявацца, што далейшыя даследаванні ў азначаным кірунку дадуць нам много цікавага і нечаканага.

Віктар быў не толькі маладым таленавітым вучоным-гісторыкам, чыя нястомная праца і пошукі саслужылі добрую службу культурам славянскіх народаў, абуджэнню ў іх нацыянальнай свядомасці, але і рэвалюцыянерам. Яго дзейнасць у значнай ступені спрыяла станаўленню рэвалюцыйна-дэмакратычных перакананняў Канстанціна Каліноўскага. Дзякуючы Віктару Канстанцін стаў сябрам канспіратыўнага пецярбургскага рэвалюцыйнага гуртка Серакоўскага-Дамброўскага, які знаходзіўся пад ідэйным уплывам М. Г. Чарнышэўскага і А. І. Герцэна, а таксама лепшых традыцый грамадскай думкі і нацыянальна-вызваленчага руху польскага і рускага народаў.

Арганізатарам гэтага гуртка быў выдатны польскі рэвалюцыянер Зыгмунт Серакоўскі (1826 – 1863). У маладосці ён вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце (дарэчы, на тым жа юрыдычным факультэце, што і Канстанцін Каліноўскі, толькі крыху раней). У 1848 годзе за спробу перайсці граніцу, каб устанавіць сувязі з рэвалюцыйным рухам у Заходняй Еўропе, быў арыштаваны, выключаны з універсітэта і сасланы радавым у Арэнбург. Тут ён зблізіўся таксама з ссыльным – выдатным ук-

раінскім паэтам Тарасам Шаўчэнкам. Цікава, што Т. Шаўчэнка звычайна звяртаўся да З. Серакоўскага па-польску, а той адказваў яму па-ўкраінску, ласкава называючы яго «мой батько» (як ураджэнец Валыні, Серакоўскі добра ведаў украінскую мову). Пасля васьмі гадоў цяжкай салдацкай службы З. Серакоўскаму ўдалося атрымаць афіцэрскі чын і дабіцца права паступлення ў Акадэмію Генеральнага штаба ў Пецярбургу. У 1856 годзе ён прыехаў у сталіцу імперыі. Цяжкія гады салдатчыны не зламалі ў ім волі да барацьбы, не пахіснулі яго рэвалюцыйных перакананняў.

Прыбыўшы ў сталіцу, З. Серакоўскі цесна зблізіўся з М. Г. Чарнышэўскім, стаў актыўным супрацоўнікам часопіса «Современник». Гэтаму садзейнічалі дэмакратычныя перакананні Серакоўскага, яго непрымірымасць да праяў нацыяналізму і шавінізму. Адзін з прыхільнікаў М. Г. Чарнышэўскага з поўнай падставай пісаў, што «Серакоўскі быў самым блізкім чалавекам у гуртку «Современника». Характэрна, што М. Г. Чарнышэўскі, які ў рамане «Пралог» з вялікай цеплынёй вывеў Серакоўскага пад прозвішчам Сакалоўскага, уклаў у вусны апошняга наступную фразу: «Я паляк. Але, праўда, я добра размаўляю па-руску. Быў час навучыцца. Быў час і пазнаць рускі народ, і палюбіць яго. Гэта цудоўны народ, добры, справядлівы...».

А. І. Герцэн у некралогу, прысвечаным памяці З. Серакоўскага, таксама пісаў: «Да Расіі ў яго не было не толькі цені нянавісці, але ён з любоўю спыняўся на мары пра незалежную Польшчу і дружалюбную з ёй вольную Расію».

З 1857 года вакол З. Серакоўскага паступова пачаў фарміравацца ў Пецярбургу рэвалюцыйны гурток, які складаўся ў асноўным з афіцэраў-палякаў, што вучыліся ў Акадэміі Генеральнага штаба. Акрамя афіцэраў, у гурток уваходзілі таксама польскія чыноўнікі, студэнты і інш. Гурток устанавіў і падтрымліваў цесныя сувязі з польскімі канспіратыўнымі групамі ў Маскве, Кіеве, Вільні, Варшаве, а пазней – з польскай дэмакратычнай эміграцыяй у Лондане і Парыжы. Мэтай гуртка была барацьба за буржуазна-дэмакратычныя пераўтварэнні ў Расіі, за вольную і незалежную Польшчу.

Гурток Серакоўскага-Дамброўскага не быў ізаляванай польскай арганізацыяй. У яго склад разам з палякамі ўваходзілі рускія, украінцы, беларусы, літоўцы, прадстаўнікі некаторых іншых народаў Расіі. Заканамерна, што членамі гэтага гуртка сталі і браты Каліноўскія – Віктар і Канстанцін. Прычым Віктара называюць звычайна ў ліку яго найбольш аўтарытэтных кіраўнікоў.

У 1858 годзе пра рэвалюцыйную дзейнасць Віктара Каліноўскага ведалі ўжо не толькі ў Пецярбургу, але нават у Вільні. Гэта відаць з пісьма выкладчыка Віленскага дваранскага інстытута Аляксандра Здановіча, адпраўленага ў жніўні 1858 года з Вільні ў Пецярбург да сына Ігната, які стаў потым удзельнікам паўстання 1863 года, паплечнікам Канстанціна Каліноўскага. У пісьме бацька, у прыватнасці, паведамляў, што, па дайшоўшых да яго чутках, «у Пецярбургу ёсць нейкі Каліноўскі (Віктар – В. Ш.), які бярэ пад сваю няпрошаную пратэкцыю маладых студэнтаў, уцягвае іх у сваё таварыства і хоча з іх утварыць род віленскіх прамяністых ці філарэтаў, а сам стаіць на чале іх, нібы другі Томаш Зан». Бацька звяртаўся да Ігната з адзінай просьбай, каб «ніякіх сувязей і знаёмстваў з падобнымі асобамі не заводзіў — хаця б яны мелі самыя высакародныя прынцыпы, самыя лепшыя пачуцці...».

Праз некалькі гадоў ролю Віктара Каліноўскага ў Пецярбургскай рэвалюцыйнай арганізацыі раскрыў у сваіх паказаннях следчай камісіі слухач Акадэміі Генеральнага штаба, ураджэнец Украіны Фердынанд Libraўскі: «На пачатку 1860 года я атрымаў пісьмо ад Лабудзінскага[2] ... у пісьме гэтым Лабудзінскі прапаноўваў мне ўступіць у таварыства, пра мэту і напрамак якога пісаў, каб я звярнуўся да чыноўніка Віктара Каліноўскага... Паколькі таварыства, у якое прапаноўваў мне ўступіць Лабудзінскі, было тайнае, то я вагаўся, ці ісці мне да Каліноўскага, ці не, але Каліноўскі апярэдзіў мяне і сам, з'явіўшыся да мяне, расказаў... што... утварыліся таварыствы ў розных гарадах і што таварыства гэта пашырана і ў Пецярбургу».

Кіраўніцтвам гуртка на Віктара Каліноўскага была ўскладзена адказнасць за ідэйную падрыхтоўку новых сяброў галоўным чынам са студэнцкай моладзі Пецярбурга праз азнаямленне яе з забароненай літаратурай. Гэта асабліва добра выявілася ў ходзе следства па справах удзельнікаў паўстання 1863 года. Царскі жандар штабс-капітан М. Гогель пісаў, што «абавязкам Віктара Каліноўскага было раіць новазавербаванаму ўсе значныя навейшыя творы, і ён быў майстар сваёй справы; тыя, хто яго выбраў, не памыліліся. Падрыхтаваўшы як след навабранца, Віктар Каліноўскі перадаваў яго ў гуртох Дамброўскага». (З 1859 года пасля сканчэння З. Серакоўскім Акадэміі Генеральнага штаба цэнтральнай фігурай у гуртку генштабістаў стаў Я. Дамброўскі).

Больш дэталёва гэта работа выглядала так. Кіраўнікі гуртка знаёмілі моладзь з Віктарам Каліноўскім, «а той ужо, забяспечваючы кожнага прыдатнымі для яго забароненымі творамі, якія здымаліся з сакрэтных паліц Публічнай бібліятэкі, даводзіў (моладзь — В. Ш.) да патрэбнай ступені запалу. Затым

Віктар Каліноўскі адпраўляў цалкам падрыхтаваных на так званыя «літаратурныя вечарыны», г. зн. на паседжанні гуртка Сеpакоўскага — Дамброўскага».

Месцам, дзе вучнёўская моладзь знаёмілася з забароненай літаратурай, была перш за ўсё імператарская Публічная бібліятэка. Тут захоўвалася шмат забароненай літаратуры, у тым ліку і на польскай мове. Зразумела, атрымаць яе было не проста, таму што з 1835 года Галоўнае ўпраўленне цэнзуры пастаянна прысылала ў бібліятэку спісы забароненых кніг. Гэта ўсё бралася пад увагу пры выдачы літаратуры. Аднак абысці правілы і атрымаць гэтыя выданні памагаў Віктару служачы бібліятэкі А. Д. Іваноўскі, які загадваў аддзелам польскіх кніг. Некаторыя творы, як стала вядома ўжо пасля паўстання 1863 года, выносіліся нават за межы бібліятэкі і назад ужо не вярталіся. Гэта ў канчатковым выніку паслужыла прычынай звальнення А. Д. Іваноўскага з бібліятэкі, які, дарэчы, меў добрую рэпутацыю. У даследаванні «Імператарская Публічная бібліятэка за сто гадоў, 1814—1914» наконт гэтага сказана наступнае: «Насуперак добраму водгуку барона Корфа[3] дзейнасць Іваноўскага аказалася не бездакорнай; выявілася сістэматычнае знікненне многіх кніг, асабліва польскіх, якраз у тых аддзяленнях, у якіх Іваноўскі працаваў». Іваноўскі быў звольнены з пасады згодна асабістай просьбе.

Нарэшце трэба сказаць яшчэ аб адным баку дзейнасці Віктара Каліноўскага, які меў вялікае значэнне як для яго самога, так і для яго малодшага брата, — гэта супрацоўніцтва з газетай «Слова», якая выходзіла ў 1859 годзе ў Пецярбургу на польскай мове і якую выдаваў ураджэнец Беларусі Іасафат Агрызка (1826 – 1890).

Скончыўшы Мінскую губернскую гімназію (1844) і юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта (1845 –1849), І. Агрызка, па словах У. Спасовіча, «будучы ад прыроды надзелены незвычайнымі здольнасцямі», у кароткі тэрмін зрабіў бліскучую кар'еру, заняўшы адну з самых уплывовых пасад у міністэрстве фінансаў. Аднак кар'ера для Агрызкі не была самамэтай, а толькі сродкам да актыўнай грамадска-палітычнай дзейнасці. Аб напрамку гэтай дзейнасці (якая да канца не вывучана) можна здагадвацца перш за ўсё па сяброўстве І. Агрызкі з М. Г. Чарнышэўскім. Сучаснікі называюць І. Агрызку у ліку самых блізкіх сяброў вялікага рускага рэвалюцыянера-дэмакрата. У сваю чаргу сам Чарнышэўскі ў гутарцы з Л. Панцялеевым (1840—1919), членам першага тайнага рэвалюцыйнага таварыства «Зямля і воля», пра І. Агрызку сказаў так: «Найглыбейшую павагу маю да Іасафата Пятровіча».

Некаторыя рэвалюцыянеры той эпохі не без падстаў бачылі

ў асобе І. Агрызкі аднаго з кіраўнікоў рэвалюцыйнага падполля. Так, вядомы рэвалюцыйны дзеяч другой паловы XIX стагоддзя В. Бервi-Фляроўскі вуснамі аднаго з герояў свайго рамана «На жыццё і смерць» студэнта Скрыпіцына гаварыў: «Я бачу толькі аднаго, якога я мог бы паставіць побач з ім (Чарнышэўскім — В. Ш.), — гэта Агрызка». Такога пункту гледжання прытрымліваюцца і некаторыя сучасныя даследчыкі.

У 1858 годзе Агрызка, які, дарэчы, не меў вялікіх асабістых сродкаў, нечакана для многіх набыў друкарню і дабіўся ад урада дазволу на выданне штодзённай газеты «Слова». Першы нумар газеты «Слова» выйшаў у Пецярбургу 2 студзеня 1859 года. Цэнтральнымі ў ёй былі тры тэмы: сялянскае пытанне, асвета народа і міжнародная палітыка. Што тычыцца сялянскага пытання, то «рэдакцыя падзяляла найбольш радыкальныя праекты сялянскай рэформы». Аналіз матэрыялаў па сялянскаму пытанню, апублікаваных у «Слове», дазваляе зрабіць выcновy аб тым, што «газета настойліва і паслядоўна выступала за вызваленне сялян з надзелам іх зямлёй». Усё гэта збліжала пазіцыю газеты «Слова» па сялянскаму пытанню з пазіцыяй дэмакратычнай журналістыкі, у прыватнасці з выступленнямі «Современника».

На старонках «Слова» пастаянна абмяркоўваліся праблемы асветы народа. У шэрагу артыкулаў гэтыя праблемы разглядаліся як неад'емная частка сялянскага пытання ў цэлым. «Асвета сялян, пасля забеспячэння іх асабістай свабоды і ўласнасці, павінна стаць галоўнай мэтай клопатаў... урада», — адзначалася ў першым нумары газеты. Заслугоўваюць увагі і публікацыі, ў якіх асвятлялася ўнутрыпалітычнае жыццё некаторых еўрапейскіх дзяржаў, расказвалася пра іх грамадскі і дзяржаўны лад, барацьбу партый і г. д. У гэтым пытанні асабліва наглядна выявіліся пазіцыі самой газеты, якая яўна сімпатызавала краінам з найбольш развітымі буржуазна-дэмакратычнымі свабодамі (у прыватнасці, Англіі). Усё гэта дазваляе заключыць, што праграма, якую ажыццяўляла газета «Слова», была несумненна прагрэсіўнай. Адсюль зразумела, чаму матэрыялы газеты ўважліва вывучалі і цытавалі вялікія рускія рэвалюцыянеры-дэмакраты. У прыватнасці, М. А. Дабралюбаў выкарыстаў выступленні «Слова» ў артыкуле «Народная справа», апублікаваным у № 9 «Современника» за 1859 год. Несумненна, што са зместам і праграмай газеты быў добра знаёмы і Віктар Каліноўскі. Пра гэта можна ўпэўнена сказаць таму, што разам з З. Серакоўскім, З. Жалігоўскім, У. Спасовічам і іншымі ён належаў да кола супрацоўнікаў газеты «Слова».

Тая акалічнасць, што многія публікацыі ў газеце «Слова» змяшчаліся ананімна або пад псеўданімамі, пакуль не дазваляе

вызначыць сапраўдную долю ўдзелу ў газеце Віктара Каліноўскага (як і іншых сяброў рэдакцыі). Аднак той факт, што ён прасіў А. Бялёўскага высылаць свае лісты да яго з Львова ў Пецярбург на адрас пецярбургскай рэдакцыі газеты «Слова», дазваляе спадзявацца, што Віктар Каліноўскі быў там сваім чалавекам.

Думаецца, што не толькі газета «Слова», але і выдавецтва Агрызкі, дзякуючы Віктару Каліноўскаму, адыграла ў жыцці Канстанціна Каліноўскага немалаважную ролю. Не выключана, што праз Віктара быў цесна звязаны з ім і Канстанцін. Справа ў тым, што ў тыя часы студэнты падзараблялі ў друкарнях даволі часта і прафесія карэктара сярод іх была такой жа распаўсюджанай, як і рэпетытарства. Гэта можна бачыць са зборніка навуковых работ, які выдаваўся студэнтамі Санкт-пецярбургскага універсітэта, дзе пра заняткі бедных студэнтаў тых гадоў пісалася так: «Адны займаюцца выбіраннем (кампіляцыямі) з розных твораў для часопісаў, другія — перакладнымі артыкуламі з замежных моў, карэктураю; многія даюць урокі ў прыватных дамах».

Што тычыцца друкарні І. Агрызкі, цесна звязанай з рэвалюцыйным падполлем, то сюды работнікаў (наборшчыкаў, карэктараў і інш.) наймалі толькі з правераных і надзейных людзей. Адзін жандарскі агент, якому было даручана весці за друкарняй тайны нагляд, даносіў у аддзяленне наступнае: «У наборшчыкі або друкары... туды трапіць даволі цяжка: трэба мець асаблівую і надзейную рэкамендацыю».

Такіх людзей, якія мелі «асаблівую і надзейную рэкамендацыю», І. Агрызка рэкрутаваў звычайна са студэнтаў універсітэта. У прыватнасці, у яго друкарні ў якасці карэктара і літаратурнага работніка нейкі час працаваў добра вядомы Канстанціну Каліноўскаму Эмануэль Юндзіл (паступіў ва універсітэт у 1858 г.). Гэта дае нам падставы меркаваць, што некаторы час меў сувязь з друкарняй і Канстанцін, дзе ён, магчыма, пазнаёміўся з друкарскай справай. Павінен жа быў выдавец «Мужыцкай праўды» недзе вучыцца майстэрству друкара.

Жыццё Віктара Каліноўскага абарвалася ў самым росквіце сіл. Пастаянная напружаная праца, дрэннае харчаванне, неадпаведны клімат хутка падарвалі яго здароўе, і ён памёр на 29-м годзе жыцця 25 кастрычніка (6 лістапада) 1862 года, не рэалізаваўшы сваіх вялікіх навуковых здольнасцей. Пахавалі Віктара 27 кастрычніка «на публічных прыходскіх могілках» у Свіслачы ў прысутнасці невялікага кола блізкіх людзей.

Адчуўшы набліжэнне смерці, Віктар выехаў на радзіму —

у Якушоўку, пакінуўшы у Пецярбургу частку сваёй каштоўнай бібліятэкі і захапіўшы з сабой самае дарагое – шматлікія выпіскі з розных помнікаў мінулага. Паводле слоў малодшай сястры Віктара і Кастуся — Казіміры, потым іх прадалі за некалькі соцень рублёў у Варшаве. Каму прадалі і як склаўся іх далейшы лёс — невядома.

Вывучэнне навуковай дзейнасці Віктара Каліноўскага – цікавая і актуальная задача сучаснай гістарычнай навукі Беларусі.

*Спасылкі*

[1] Мікалай Маліноўскі (1799 — 1865) — гісторык і журналіст, калега А. Кіркора па рэдакцыі «Віленскага весніка», Археалагічнай камісіі і Музею старажытнасцей. Выхаванец Віленскага універсітэта, у маладосці актыўны член таварыства філаматаў, сябар А. Міцкевіча і Т. Зана. У сталым узросце прытрымліваўся ліберальных поглядаў.

[2] Лабудзінскі – урач, сябар Вараўскага, кіраўнік канспіратыўнай арганізацыі ў Кіеве.

[3] Дырэктар імператарскай Публічнай бібліятэкі.

*Літаратура*


Каліноўскі К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы. Мн, 1999.

Калиновский К. Из печатного и рукописного наследия. Мн., 1988.

Каліноўскі К.: Бібліяграфічны паказальнік. Мн., 2000.

****

*Кісялёў Г.* Пра старэйшага брата // Кісялёў Г. Героі і музы. Гісторыка-літаратурныя нарысы. Мн., 1982.

*Костомаров Н. И.* Автобиография. Бунт Стеньки Разина. Киев, 1992.

*Лушчыцкі I. М.* Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі Беларусі. Мн., 1958.

*Мікалаеў М.* Браты Каліноўскія і Публічная бібліятэка // Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік. Мн., 1990.

*Шалькевич В. Ф.* Кастусь Калиновский: Страницы биографии. Мн., 1988.

*Шалькевич В.* Библиотека братьев Калиновских // Неман. 1997. № 7.

*Szalkiewicz W. Z* kontaktów naukowych Wiktora Kalinowskiego z Augustem Bielowskim w latach 1857—1861 // Ze skarbca kultury. 1988. Zeszyt 47.


*Вячаслаў Шалькевіч*

# Вікенці Канстанцін КАЛІНОЎСКІ (1838–1864)



Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня.
*Максім Багдановіч*

Вялікія гераічныя постаці ёсць у гісторыі кожнага народа. Нямала іх і ў беларускай гісторыі. Сярод іх – імя палымянага рэвалюцыянера-дэмакрата, выдатнага палітычнага дзеяча, мысліцеля, паэта, публіцыста, аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863 – 1864 гадоў у Беларусі і Літве Вікенцiя Канстанцiна Каліноўскага.

Вікенці Канстанцін Каліноўскі нарадзіўся 2 лютага 1838 года ў вёсцы Мастаўляны Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні (цяпер Падляскае ваяводства, Польшча) ў мнагадзетнай сям'і беззямельнага шляхціца. Пры хрышчэнні немаўля па прынятаму ў каталікаў звычаю назвалі, як запісана ў метрычных кнігах Ялоўскага парафіяльнага касцёла, двума імёнамі – Вікенці і Канстанцін. Сам Каліноўскі часцей за ўсе карыстаўся імем Канстанцін, але ў афіцыйных дакументах ужываў імя Вікенці. Імя Кастусь з'явілася ў пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя ў беларускай гістарыяграфіі і адразу стала агульнаўжывальным, хоць сам Каліноўскі ніколі ім не карыстаўся.

Бацька Канстанціна паходзіў са старадаўняга шляхецкага роду Каліноўскіх (герба Калінава), які паводле пісьмовых крыніц вядомы з XVII стагоддзя. Продкі Каліноўскага амаль сто гадоў валодалі маёнткам Калінава ў Бранскай зямлі (сучасная Беласточчына), але ў другой палове XVIII стагоддзя маёнтак быў прададзены, і Каліноўскія сталі беззямельнай шляхтай.

У 1835 годзе бацька Каліноўскага – Сямён Стэфанавіч – заснаваў у Мастаўлянах невялікую ткацкую фабрыку ільняных і баваўняных вырабаў, дзе налічвалася 12 ткацкіх станкоў і было занята 20 вольнанаёмных рабочых. На фабрыцы выраблялі палатно, сталовую бялізну, а таксама сувенірныя сурвэткі з відам курорта Друскенікі, якія прадаваліся далёка за межамі Беларусі і Літвы.

У 1849 годзе Сямён Каліноўскі набыў паблізу мястэчка Свіслач Ваўкавыскага павета фальварак Якушоўка, куды ў хуткім часе пераехала сям'я і была пераведзена фабрыка. Менавіта тут, у Мастаўлянах і Якушоўцы, размешчаных на краі Белавежскай пушчы сярод велічнай беларускай прыроды, прайшлі дзіцячыя гады будучага выдатнага палітычнага мысліцеля і рэвалюцыянера. Тысячамі ніцей дзяцінства звязала К. Каліноўскага з працоўным народам, дало яму магчымасць убачыць і адчуць цяжкае, аднастайнае, у пастаяннай працы жыццё прыгонных сялян, іх беспрасветнае гора, бяспраўе, галечу. На працягу многіх гадоў з дня ў дзень бачыў ён паднявольную працу сялян, сутыкаўся з іх патрыярхальным бытам, слухаў іх бясхітрасныя размовы. І магчыма тут, у Мастаўлянах і Якушоўцы або якой-небудзь суседняй з імі вёсцы, ён упершыню міжволі падслухаў у шчырых сялянскіх гутарках тыя думкі, якія потым, нібы вулканічная лава, навекі застылі на старонках «Мужыцкай праўды» – адной з першых у свеце газет для сялян:

– Мужыцкая вольнасць, гэта ўсё роўна, што шыбеніца для ўсіх здзерцаў і глуміцеляў народа.

– Калі мужык разгуляецца, то, як свет шырокі, кроў панская пальецца.

– Так, дзецюкі, па добрасці да ладу не дойдзем.

– Жыццё наша горш сабачага. Гэтакага ліха, дзецюкі, і скаціна не знае. Ці гэтак мусіць быць?

– Не народ зроблены для урада, а урад для народа.

У 1847 годзе В. К. Каліноўскі паступіў у Свіслацкую гімназію, якую ў хуткім часе ўлады замянілі на пяцікласнае дваранскае вучылішча, а потым (калі ён быў ужо студэнтам універсітэта) на чатырохкласную прагімназію. Гэта была адна з лепшых школ Гродзенскай губерні. У ёй існавалі тайныя таварыствы, панаваў дух вальнадумства. З яе сцен выйшаў шэраг вядомых дзеячаў беларускай і польскай дэмакратычнай культуры. І не дзіўна, што ў 1864 годзе, пасля таго як выхаванцы і настаўнікі прагімназіі прынялі ўдзел у паўстанні 1863 года, яна была закрыта царскімі ўладамі. Такім чынам, апошнім у летапісе

гімназіі з'яўляецца 1864 год. Навучанне ў Свіслачы аказала моцны ўплыў на фарміраванне светапогляду маладога В. К. Каліноўскага.

У 1855 В. К. Каліноўскі паехаў у Маскву з намерам паступіць ва універсітэт, студэнтам якога быў яго старэйшы брат Віктар. Летам 1856 года браты пераехалі ў Пецярбург, дзе Вікенці Канстанцін стаў студэнтам аддзялення камеральных навук юрыдычнага факультэта Пецярбургскага універсітэта. Аддзяленне рыхтавала «людзей, здольных да службы гаспадарчай або адміністрацыйнай». У час вучобы ў Пецярбургу ён знаёміцца з публіцыстыкай перадавога часопіса «Современник», рэвалюцыйным зместам нелегальнага «Колокола», зачытваецца працамі М. Г. Чарнышэўскага, М. А. Дабралюбава, А. І. Герцэна, М. П. Агарова, захапляецца ідэямі класічнай нямецкай філасофіі і заходнееўрапейскага утапічнага сацыялізму, цікавіцца культурай славянскіх народаў. Актыўны ўдзел прымае і ў дзейнасці нелегальных рэвалюцыйных гурткоў Пецярбурга. У прыватнасці, ён і яго брат Віктар уваходзілі ў нелегальны гурток З. Серакоўскага і Я. Дамброўскага, які знаходзіўся пад ідэйным уплывам лепшых традыцый нацыянальна-вызваленчага руху Расіі і Польшчы.

У 1860 годзе В. К. Каліноўскі скончыў Пецярбургскі універсітэт з навуковай ступенню кандыдата права і ў пачатку 1861 года вярнуўся ў Беларусь. Вяртанне на радзіму супала з абвяшчэннем сялянскай рэформы, ростам сялянскіх выступленняў, выкліканых яе грабежніцкім характарам, абвастрэннем палітычнай сітуацыі ў Расіі і Польшчы. На працягу 1861 года Каліноўскі стварыў у Гродне і Гродзенскай губерні нелегальную рэвалюцыйную арганізацыю, у якую ўвайшлі лепшыя прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі,– Ф. Ражанскі, І. Мілевіч, В. Урублеўскі. Восенню 1861 года К. Каліноўскі ўвайшоў у склад Камітэта руху – віленскага цэнтра па падрыхтоўцы ўзброенага паўстання на Беларусі і ў Літве. Летам 1862 года Камітэт быў перайменаваны ў Літоўскі правінцыяльны камітэт (ЛПК). З кастрычніка 1862 года К. Каліноўскі з'яўляўся яго старшынёй і узначальваў радыкальную (левую) рэвалюцыйна-дэмакратычную плынь «чырвоных».

У 1862 годзе, разам з Валерыем Урублеўскім і Феліксам Ражанскім, Канстанцін Каліноўскі заснаваў нелегальную друкарню і наладзіў выпуск першай беларускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай газеты «Мужыцкая праўда», якая выдавалася значным тыражом і нелегальна распаўсюджвалася амаль па ўсёй

тэрыторыі Беларусі, а таксама ў Літве і Латвіі. Кожны нумар падпісваўся псеўданімам «Яська – гаспадар з-пад Вільні». На працягу 1862 – 1863 гадоў выйшла 7 нумароў газеты. Усе яны былі прасякнуты важнейшым пытаннем эпохі—пытаннем зямлі і волі. Газета атрымала шырокую папулярнасць сярод насельніцтва. В. К. Каліноўскі асабіста ўдзельнічаў у яе распаўсюджванні. Калі улады даведаліся пра гэта, то аддалі загад аб яго арышце. В. К. Каліноўскі перайшоў на нелегальнае становішча, дзейнічаў пад рознымі прозвішчамі (Макарэвіч, Хамовіч, Хамуціус, Чарноцкі і інш.).

У пачатку студзеня 1863 года ў Вільні пачаў нелегальна выходзіць на польскай мове афіцыйны орган Літоўскага правінцыяльнага камітэта газета «Сцяг свабоды» («Chorągiew swobody»). (Вядомы 3 яе нумары.) Першым рэдактарам газеты (а магчыма і яе заснавальнікам) быў В. К. Каліноўскі.

Літоўскі правінцыяльны камітэт на чале з В. К. Каліноўскім узяў курс на дэмакратычнае ўзброенае паўстанне, на актыўнае далучэнне сялян да вызваленчай барацьбы. Калі ў ноч на 23 студзеня 1863 года у Польшчы выбухнула паўстанне, ЛПК прыняў рашэнне падтрымаць яго, абвясціўшы сябе Часовым правінцыяльным урадам Літвы і Беларусі і заклікаючы насельніцтва да ўзброенай барацьбы з самадзяржаўем.

Варшаўскі Цэнтральны нацыянальны камітэт (ЦНК), які складаўся ў той час з белых, прыняў рашэнне аб роспуску ЛПК і стварэнні Выканаўчага аддзела Літвы на чале з прадстаўніком "белых", памяркоўным памешчыкам Якубам Гейштарам. В. К. Каліноўскі быў адхілены ад кіраўніцтва паўстаннем і ў канцы сакавіка 1863 года накіраваны на пасаду рэвалюцыйнага камісара Гродзенскага ваяводства. На гэтай пасадзе ён праводзіў актыўную дзейнасць па пашырэнні паўстання, уключэнні ў яго шырокіх народных мас, здзяйсненні на практыцы зямельных дэкрэтаў, умацаванні ваеннай арганізацыі паўстанцкага руху.

Выканаўчы аддзел Літвы на чале з Я. Гейштарам, напалоханы рэпрэсіямі супраць удзельнікаў паўстання, якія праводзіў генерал-губернатар Паўночна-Заходняга краю М. М. Мураўёў-вешальнік, па-сутнасці ўхіліўся ад кіраўніцтва паўстаннем, праяўляючы маруднасць у дзеяннях, імкнучыся накіраваць рух ў бяспечнае для сябе рэчышча.

У гэты цяжкі час у чэрвені 1863 года В. К. Каліноўскі вярнуўся ў Вільню і ў жніўні, атрымаўшы ад Варшаўскага ўрада паўнамоцтвы камісара гэтага ўрада, зноў стаў на чале паўстання. Выканаўчы аддзел Літвы ў час старшынства Каліноўскага

называлі Літоўска-Беларускім Чырвоным Жондам (ўрадам). Гэта тлумачыцца тым, што В. К. Каліноўскі і яго паплечнікі – беларускія рэвалюцыянеры таго часу – выдатна ведалі гісторыю Вялікага княства Літоўскага і ў сваёй грамадска-палітычнай праграме разглядалі беларускія і літоўскія землі як арганічнае цэлае. Яны марылі аб вызваленні гэтых зямель ад прыгнёту царскага самадзяржаўя і ўтварэнні (можна сказаць адраджэнні) на гэтай тэрыторыі незалежнай Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Гэта будучае палітычнае ўтварэнне яны часта называлі проста Літвой, а сябе і яе жыхароў літвінамі. Таму створаны для кіраўніцтва паўстаннем урад, у склад якога ўвайшлі найбольш паслядоўныя перакананыя прыхільнікі рэвалюцыйна-дэмакратычнай праграмы В. К. Каліноўскага, называлі Літоўска-Беларускім Чырвоным Жондам (урадам).

Да кіраўніцтва паўстаннем В. К. Каліноўскі прыцягнуў найбольш паслядоўных прыхільнікаў сваёй радыкальнай праграмы У. Малахоўскага, Ф. Зянковіча, Ц. Далеўскага, І. Ямантa. Са сваіх аднадумцаў Каліноўскі аднавіў паўстанцкую адміністрацыю на месцах, якая збірала падаткі на карысць новай улады, сачыла за правядзеннем ў жыццё рэвалюцыйных інструкцый і распараджэнняў, імкнулася эфектыўна выкарыстоўваць нязначныя узброеныя сілы. На ахопленай паўстаннем тэрыторыі дзейнічалі таксама рэвалюцыйныя суды і жандармерыя.

Аднак нацыянальна-вызваленчы рух не змог процістаяць царскім войскам, пасланым на падаўленне паўстання. У няроўных баях паўстанцы пацярпелі паражэнне. Адных карнікі сасл алі ў Сібір, другіх кінулі ў турмы, трэціх павесілі. Царскім уладам доўга не удавалася напасці на след В. К. Каліноўскага, які і ва ўмовах тэрору не спыняў сваёй барацьбы супраць царызму. Яго выдаў адзін з арыштаваных у Мінску удзельнікаў паўстання – Парфіяновіч, якому улады абяцалі зменшыць пакаранне. Ён паведаміў, што К. Каліноўскі жыве ў Вільні пад імем Вітальда Вітажэнца на кватэры настаўніка гімназіі. Гэта паведамленне жандары хутка пераслалі тэлеграфам з Мінска ў Вільню. Квартал быў ачэплены салдатамі і Каліноўскага арыштавалі. Яго зняволілі ў будынку былога дамініканскага манастыра, прыстасаванага пад вязніцу. У час следства і суда ён трымаў сябе вельмі мужна, з годнасцю, адмовіўся выдаць сваіх паплечнікаў і сакрэты, звязаныя з рэвалюцыйнай арганізацыяй паўстання.

У турме В. К. Каліноўскі напісаў і здолеў перадаць сябрам на волю тры надзвычай змястоўныя і арыгінальныя лісты на бе-

ларускай мове. Пасля пакарання рэвалюцыянера яны былі перапраўлены за мяжу і надрукаваны адным з удзельнікаў паўстання ў Парыжы пад агульным загалоўкам «Да беларускага народа. Лісты з-пад шыбеніцы». Гэта – палітычнае завяшчанне рэвалюцыянера, у якім ён выказаў непахісную веру у дасягненне беларускім народам нацыянальнай, сацыяльнай і палітычнай свабоды. Разам з «Мужыцкай праўдай» «Лісты» з'яўляюцца асноўнай крыніцай для характарыстыкі светапогляду і праграмы дзеяння беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата.

Асуджаны ваенна-палявым судом да смяротнага пакарання В. К. Каліноўскі быў павешаны ў Вільні на гандлёвай плошчы Лукішкі. Аб апошніх мінутах яго жыцця адзін з відавочцаў пісаў так: «Была ясная халодная раніца; Каліноўскі ішоў на пакаранне смела; прыйшоўшы на плошчу, ён стаў прама тварам да шыбеніцы і толькі зрэдку кідаў позіркі ў далёкі натоўп. Калі яму чыталі канфірмацыю, ён стаў рабіць заўвагі; так, напрыклад, калі назвалі яго імя: дваранін Вікенці Каліноўскі, ён усклікнуў: «У нас няма дваран, усе роўныя». Паліцмайстар паківаў галавой і папрасіў замаўчаць».

Пакаранне адбылося 22 сакавіка 1864 года. В. К. Каліноўскаму тады споўнілася толькі 26 гадоў. Ён быў у росквіце сіл, поўны планаў і надзей. Такім ён і застаўся ў народнай памяці назаўсёды — маладым, мужным, прыгожым.

Веліч В. К. Каліноўскага ў тым, што ён абгрунтаваў першую ў XIX стагоддзі (стагоддзі абуджэння славянскіх народаў да самастойнага дзяржаўнага жыцця) праграму барацьбы за палітычнае і духоўнае разняволенне беларускага народа.

У грамадска-палітычных поглядах К. Каліноўскага яскрава выкладзена крытыка феадальна-прыгонніцкіх адносін самадзяржаўнай Расіі сярэдзіны XIX стагоддзя, вызначаны ідэал будучага справядлівага грамадска-палітычнага ладу, а таксама шляхі ажыццяўлення гэтага ідэалу.

Развіваючы ідэі рускіх і польскіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў, В. К. Каліноўскі ў сваёй публіцыстыцы глыбока выкрыў сутнасць прыгонніцкай эксплуатацыі ва ўсіх яе формах, паказаў паразітызм памешчыкаў, выключна цяжкае становішча прыгонных сялян Беларусі. «Цар, – пісаў ён, – паноў зусім увольніў ад усякіх ценжароў... зняўшы з паноў усялякія падаткі, зваліў іх адно на мужыцкае племя, аблажыў падаткамі і мужыцкую зямлю, і мужыцкія хаты, і мужыцкую душу, і мужыцкіх дзяцей, і мужыцкую скаціну, жывых і ўмершых». Царскім паборам канца не відаць. Толькі і чуе мужык ад царскага ўраду:

«Мужык, давай рэкрута, мужык, давай падаткі да і паньшчыну яшчэ служы альбо плаці аброк у казну». Такім жа цяжкім было становішча і казённых (дзяржаўных) сялян, якіх бязлітасна эксплуатавалі як прадстаўнікі царскай адміністрацыі, так і арандатары дзяржаўных маёнткаў. «Пярвей яны (мужыкі казённыя. — В. Ш.) служылі казне паньшчыну, а после ў аброк іх упісалі, дай акрамя аброку ганялі бяз ніякай падзякі ўсялякаму чорту на работу, то акружному, то асэсару, дай кожнаму, хто адно перэкупіў».

В. К. Каліноўскі ясна паказаў паразітызм царскай бюракратыі і трапна параўноўваў тагачасных чыноўнікаў з саранчой, якая знішчае на сваім шляху ўсю расліннасць,ператварае аазісы ў пустыні. «Чытаў я ў ксёнжках,— пісаў В. К. Каліноўскі,— што ёсць на свеце якась шаранча (саранча — В. Ш.), якая дзе пакажацца, усю худобу гаспадарскую зглуміць; маем мы, браткі, горшую яшчэ ад той саранчы, а гэта чыноўнікі маскоўскія... яны ... умеюць так аблізаць чалавека, што з рук іх выйдзеш голенькі, як маці радзіла...».

Сакрушальнай крытыцы падверг В. К. Каліноўскі суд царскай Расіі, які быў толькі дадаткам царскай адміністрацыі і цалкам залежаў ад яе. Мысліцель справядліва параўноўваў дарэформенны суд Расіі з воўчай зграяй, «гдзе не разбіраюць, чы за табой праўда, чы не, а скубуць адно як могуць». Ён падкрэсліваў, што справядлівасці ў судзе для мужыка «ніякай няма; хто дужэйшы, той і глуміць». Зразумела, такі суд грамадству не патрэбен, таму што дазваляе «кожнаму дужшаму глуміцца над бедным як толькі хоча».

Не абмінуў крытыкай В. К. Каліноўскі і царскую армію, якая заўжды стаяла на варце інтарэсаў пануючых класаў, дапамагала эксплуататарам прыгнятаць працоўных. «А войска то не для таго трымаюць, каб аберагаці кожнага ад злых людзей і ад глуму, а для таго, каб не пазволіць народу і застагнаць, калі пазнае сваю няволю, калі згледзіцца, што дзеруць з яго над сілы».

Каліноўскі выступіў ў абарону уніяцкай царквы, якая паўстала на Беларусі ў выніку Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года. Паколькі праваслаўе ў тыя часы было паслухмянай духоўнай зброяй у руках царызму, а каталіцкае веравызнанне з'яўлялася сродкам паланізацыі беларусаў, то унія, з пункту гледжання В. К. Каліноўскага, выступала як «мужыцкая народная вера, пагарджаная пануючымі, як і сам мужык беларускі». Таму ён адмоўна адносіўся да адмены Брэсцкай царкоўнай уніі ў 1839 годзе, адзначыўшы ў № 6 «Мужыцкай праўды» наступнае:

«цары маскоўскія пераменілі закон божы», адабралі «ад нас нашу справядлівую уніяцкую веру», параскідалі альбо перарабілі касцёлы на стайні і цэрквы і прымусілі хваліць не бога, а радню царскую».

Прызнаючы правы ўсіх народаў на самавызначэнне, В. К. Каліноўскі высунуў ідэю стварэння суверэннай нацыянальнай (беларускай) дзяржавы, незалежнай як ад Расіі, так і ад Польшчы, якая выкарыстоўвала б канстытуцыйны і парламенцкі вопыт заходнееўрапейскіх краін. Не выпадкова ў сваіх працах Каліноўскі звяртаўся да аналізу зместу канстытуцый дэмакратычных дзяржаў. У прыватнасці, станоўчая ацэнка ім Канстытуцыі Рэчы Паспалітай ад 3 мая 1791 года сведчыць аб тым, што ён быў прыхільнікам ідэй канстытуцыяналізму і парламентарызму, якія проціпастаўляў неабмежаванаму дэспатызму рускага самадзяржаўя і якія павінны былі забяспечыць дэмакратычны рэжым функцыянавання новай улады ў будучай суверэннай беларускай дзяржаве. Палітычным ідэалам В. К. Каліноўскага з'яўлялася рэспубліка.

Каб зрабіць зразумелым для сялян паняцце «дзяржава», Каліноўскі ў сваёй публіцыстыцы, ідучы за народнай традыцыяй, выкарыстоўвае слова «ронд» , якое ў народнай мове было раўназначна паняццям «урад», «дзяржава». Ён таксама ўжывае ў сваёй публіцыстыцы дзеяслоў «рондзіць» . «А ронд наш павінен быць на ўсё чуткі,— пісаў ён, — каб мог для дабра народнага быць заўсёды карысным». В. К. Каліноўскі параўноўвае ўрад нацыянальнай дзяржавы з працавітым і дабрачынным слугой. «І як добры слуга глядзіць худобы (маёмасці — **В. Ш.**) гаспадарскай і слухае свайго гаспадара, так добры ронд глядзець павінен шчасця людзей, слухаць народу і рабіці так, як народу лепей. І не дзіва, бо *не народ зроблены для ронду (урада), а ронд (урад) для народа* (курсіў мой – **В. Ш.**)», – пісаў Каліноўскі. Гэтыя словы, напісаныя больш за 150 гадоў назад, гучаць вельмі актуальна, злабадзённа і сёння.

У якасці пазітыўнага прыкладу дзяржаўнага і грамадскага ладу В. К. Каліноўскі называе ў сваёй публіцыстыцы Францыю і Англію, якія шмат зрабілі «каб народ (гэтых краін – **В. Ш.**) быў багаты і шчаслівы».

Вышэйшая мэта нацыянальнай дзяржавы — абарона інтарэсаў народа, клопат аб яго шчасці і дабрабыце. Беларускі рэвалюцыянер марыў стварыць у Беларусі і Літве грамадства «з усеагульным ураўноўваннем правоў і станаў». Інакш кажучы, В. К. Каліноўскі выступаў за рашучую адмену ў будучым гра-

мадстве ўсіх класавых, рэлігійных, нацыянальных прывілей і абмежаванняў з тым, каб зрабіць галоўным крытэрыем каштоўнасці кожнай чалавечай асобы працу, ацэньваць чалавека па яго рэальных справах і якасцях.

У новым грамадстве В. К. Каліноўскі марыў «раздаць усю пазямельную ўласнасць сялянам». Гэта ідэя ў розных варыянтах шматразова паўтаралася як самім Каліноўскім, так і тымі, хто добра ведаў яго погляды. В. К. Каліноўскі з'яўляўся паслядоўным абаронцам інтарэсаў беларускіх сялян, выказчыкам іх імкненняў да сацыяльнай справядлівасці і роўнасці. Ён так маляваў ідэал сялянскай роўнасці і свабоды: «Чалавек вольны, гэта калі мае кусок сваёй зямлі, за каторую ані чыньшу і аброку не плаціць, ані паньшчыны не служыць,— калі плаціць малые падаткі і то не на царскіе стайні, псярні... а на патрэбу цэлаго народу...».

Арганічнай часткай грамадска-палітычных поглядаў В. К. Каліноўскага з'яўляюцца яго ідэі аб выхаванні. Перш за ўсе ён даў глыбокую крытыку педагогікі, што існавала ў сучасным яму грамадстве. Каліноўскі падкрэсліваў, што існуючы грамадскі і дзяржаўны лад не могуць забеспечыць дзецям працоўных адпаведнага выхавання і навучання. Ён ясна бачыў, што пануючыя класы закрываюць доступ дзецям працоўных да адукацыі і культуры, не клапоцяцца аб іх выхаванні. У «Загадзе да народу зямлі літоўскай і беларускай» Каліноўскі пісаў, што цар, «пануючы над вамі і дзеручы сам да пазваляючы кожнаму вас абдзіраці, не вучыў вас ні чытаці, ні пісаці». Таму і ў будучым, калі становішча карэнным чынам не зменіцца, наўрад ці «можна ад яго (царскага ўрада – **В. Ш.**) спадзеваціся чаго-небудзь для нас, альбо дзяцей нашых». Пакуль мы не будзем свабоднымі, «у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва і ніякай навукі». Пры гэтым ён выказваўся за ўсебаковае развіццё навукі, стварэнне сістэмы народнай адукацыі на роднай беларускай мове.

Ажыццяўленне ўсіх сваіх сацыяльна-палітычных ідэй і планаў В. К. Каліноўскі звязваў з **дэмакратычнай рэвалюцыяй**. Ён быў упэўнены, што толькі народная рэвалюцыя здольна прынесці жаданую зямлю і свабоду. «Мужыцкая вольнасць — гэта ўсе роўна, што шыбеніца для ўсіх здзерцаў і глуміцелей народа», – пісаў Каліноўскі. Аднак паўстанне 1863—1864 гадоў ён разглядаў не як самамэту (так часта вынікае з публікацый значнай часткі гісторыкаў), а як непазбежны сродак дасягнення высакароднай мэты — свабоды і незалежнасці сваёй радзімы, паколькі ў самадзяржаўнай Расіі адсутнічалі якія-небудзь

легальныя парламенцкія шляхі барацьбы за ўладу, а значыць – і магчымасці рэалізацыі справядлівай сацыяльна-палітычнай праграмы. Галоўную рэвалюцыйную сілу В. К. Каліноўскі бачыў у сялянстве. Але разам з тым лічыў магчымым удзел у народнай рэвалюцыі побач з сялянамі гараджан, студэнтаў і інш. Ён падкрэсліваў, што ў іх з сялянамі агульныя інтэрэсы. Больш таго, ён не выключаў магчымасці ўдзелу у паўстанні асобных памешчыкаў, але на такіх умовах, якія не супярэчылі б інтарэсам сялян.

У дасягненні і будаўніцтве новага жыцця В. К. Каліноўскі вялікую ролю адводзіў жанчыне. Перш за ўсё ён яскрава бачыў прыгнечанае становішча беларускай жанчыны-сялянкі. У сваіх «Лістах з-пад шыбеніцы» ён пісаў, што памешчыкі ўстанавілі баршчыну («паньшчыну») «не тры, да не шэсць дзён з хаты, но 6 дзён з душы рабочай» (г. зн. жанчыны, як і мужчыны, павінны былі працаваць на баршчыне амаль увесь тыдзень). А на яе плечы акрамя гэтага клалася хатняя гаспадарка і клопаты аб сям'і. «Гадуе маці сына, ночанькі не спіць», – з глыбокім спачуваннем і пяшчотай пісаў Каліноўскі пра беларускую жанчыну-маці. Ён заклікаў беларускіх жанчын да пасільнага ўдзелу ў вызваленчай барацьбе. «А мы, іх бацькі да жонкі, – звяртаўся Каліноўскі да жанчын у «Мужыцкай праўдзе», – будзем ... ад душы памагаць усялякімі спосабамі дзецюкам нашым, што за нас пойдуць біцца». І вядома, што беларускія жанчыны ўсіх сацыяльных слаёў прымалі актыўны ўдзел у вызваленчай барацьбе (што пакуль, праўда, вывучана недастаткова). У час паўстання яны перавозілі загады рэвалюцыйнага урада, рэвалюцыйную пошту, значныя сумы грошай паўстанцам і г.д. Неаднаразова дапамагалі і самому К. Каліноўскаму. Гістарычныя крыніцы адзначаюць, што заўседы «ў жанчынах Каліноўскі знаходзіў памочнікаў». Адным з такіх бездакорных памочнікаў была нарачоная В. К. Каліноўскага – цудоўная беларуская дзяўчына Марыя («Марыська») Ямант. Менавіта ёй прысвечаны неўміручыя радкі з адзінага дайшоўшага да нас верша Каліноўскага:

Марыська чорнобрэва, галубка мая,
Гдзе ж падзелася шчасце і ясна доля твая...

Змагаючыся за суверэнную і незалежную Беларусь, супраць царызму, беларускі мысліцель разам з тым настойліва прапагандаваў ідэю дружбы народаў. У адной са сваіх перадсмяротных запісак, якую можна разглядаць як яго запавет, Каліноўскі

пісаў: «Я не праціўнік Расіі». Тым самым ён рашуча і назаўсёды размежаваў рускі народ і царызм. Пра гэта сведчаць яго наступныя словы: «Народ маскоўскі абураецца пры думцы аб нашай векавой крыўдзе. Ён свабодным братам нашым, а не прыгнятальнікам хоча быць і рашуча адказнасць за нашу жалезную няволю ўскладвае на царызм, які павінен рухнуць».

Грамадска-палітычныя ідэі, сфармуляваныя В. К. Каліноўскім, валодалі беларускай нацыянальнай грамадскай думкай і нацыянальна-вызваленчым рухам на працягу другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзя. Яны сталі пуцяводнай зоркай для лідэраў беларускага Адраджэння. І ў гэтым — палітычны геній В. К. Каліноўскага. Менавіта таму ўжо больш за 150 гадоў Каліноўскі пастаянна прыцягвае ўвагу даследчыкаў розных краін і народаў. Бібліяграфія, прысвечаная вывучэнню розных бакоў яго жыцця, рэвалюцыйнай дзейнасці і светапогляду, налічвае больш за 700 публікацый, надрукаваных як у нашай краіне, так і за яе межамі на 11 мовах.

Першай з'явілася публікацыя на рускай мове. Гэта было паведамленне пра пакаранне Вікенція Канстанціна Каліноўскага, надрукаванае ў газеце «Виленский вестник» 12 (24) сакавіка 1864 года (праз дзень пасля гэтай падзеі). Яна паклала пачатак рускай дваранскай гістарыяграфіі пра В. К. Каліноўскага. Праз тыдзень паведамленне аб пакаранні Каліноўскага было надрукавана ў кракаўскай газеце «Хвіля». Ад яго бярэ пачатак польская шляхецкая гістарыяграфія пра В. К. Каліноўскага.

Першы артыкул пра Вікенція Канстанціна Каліноўскага на беларускай мове быў надрукаваны толькі 15 сакавіка 1916 года ў віленскай беларускай газеце «Гоман». Ён паклаў пачатак беларускай гістарыяграфіі пра Каліноўскага. Аўтарам артыкула быў Вацлаў Ластоўскі. Сярод беларускіх навукоўцаў, якія даследавалі гэту тэму, вылучаюцца прозвішчы У. Ігнатоўскага, Я. Карскага, А. Станкевіча, А. Цвікевіча, У. Перцава, І. Лушчыцкага, А. Смірнова, Г. Кісялева, М. Біча, А. Майхровіча і інш.

Вобраз беларускага мысліцеля і рэвалюцыянера атрымаў шырокае адлюстраванне ў мастацкай літаратуры. Першым яго намаляваў вядомы рускі пісьменнік XIX стагоддзя Усевалад Крастоўскі (1840 – 1895), які ведаў Каліноўскага па сумеснай вучобе ў Пецярбургскім універсітэце. Пад уласным прозвішчам Каліноўскі стаў галоўным героем дылогіі Усевалада Крастоўскага «Крывавы Пуф» (СПб, 1874). Дарэчы, першая частка дылогіі — «Панургаў статак» — была напісана Крастоўскім на радзіме Вікенція Канстанціна Каліноўскага.

Шмат твораў прысвяцілі Каліноўскаму вядомыя пісьменнікі і паэты Беларусі: М. Машара, А. Куляшоў, У. Караткевіч, А. Якімовіч, Н. Гілевіч і інш. Вобраз Каліноўскага знайшоў таксама шырокае адлюстраванне ў беларускім выяўленчым мастацтве — жывапісе, скульптуры, графіцы. Аб гэтым сведчаць шматлікія працы П. Сергіевіча, А. Гугеля, Р. Кудрэвіч, З. Азгура, С. Селіханава, А. Гумілеўскага, М. Купавы, С. Геруса і інш.

Сёння Вікенці Канстанцін Каліноўскі – адзін з самых любімых герояў беларускага народа. Як наш сучаснік ён жыве сярод нас у назвах вуліц, вёсак і школ. Яго значэнне непадуладна часу. Аб гэтым у вершы «Кастусь Каліноўскі» па-філасофску празорліва сказаў выдатны беларускі паэт Алесь Гурло:

Героя памяць заўжды вечна,
Яго заветы – сымболь веры;
Народ шануе ўсё без меры,
Што жыццем поўна, чалавечна.

*Літаратура*


Каліноўскі К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы. Мн.,1999.

Калиновский К. Из печатного и рукописного наследия. Мн., 1988.

Каліноўскі К.: Бібліяграфічны паказальнік. Мн., 2000.

***

Жыві ў свабодзе! Кніга пра Каліноўскага. Мн., 1996.

*Кісялёў Г.* Сейбіты вечнага. Мн., 1963.

*Лушчыцкі І. М.* Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі Беларусі. Мн., 1958.

*Майхрович А. С.* Белорусские революционные демократы: важнейшие аспекты мировоззрения. Мн., 1977.

*Смірноў А. П.* Кастусь Каліноўскі ў паўстанні 1863 года. Мн., 1959.

*Смирнов А.* Константин Калиновский // За нашу и вашу свободу: Герои 1863 года. М., 1964.

*Шалькевич В. Ф.* Кастусь Калиновский: Страницы биографии. Мн., 1988.

*Шалькевіч В. Ф.* Невядомыя старонкі з жыцця Кастуся Каліноўскага // Сыны і пасынкі Беларусі. Мн., 1996.


*Вячаслаў Шалькевіч*

# Мікалай ЯСТРЖЭМБСКІ (1808–1874)



Спасцігаючы законы прыроды, чалавецтва на працягу ўсёй сваёй гісторыі імкнулася авалодаць ёю. І тым, хто ішоў у першых радах пераможцаў, было найбольш складана і найбольш пачэсна. Нямногія з іх імёнаў данесла да нас гісторыя. І толькі зробленае імі і пакінутае нашчадкам прыгадвае пра іх перамогі. Сярод тых людзей, пра якіх гавораць «Ён быў першы», — ураджэнец Беларусі Мікалай Ястржэмбскі.

Ён першы пачаў даследаваць трываласць жалеза і сталі, упершыню ў Расіі зрабіў даследаванні па дынаміцы машын. Выдаў першыя на рускай мове дапаможнікі па супраціўленню матэрыялаў і па будаўнічаму майстэрству. Ён аўтар першага ў Расійскай імперыі навучальнага дапаможніка па практычнай механіцы. Напісаў таксама першыя нарысы па гісторыі механікі.

Мікалай Феліксавіч Ястржэмбскі нарадзіўся 10 ліпеня 1808 года ў Рэчыцкім павеце Мінскай губерні ў сям'і межавага суддзі. Яго бацьку — Феліксу Іванавічу — належаў маёнтак Барысаўшчына (цяпер вёска ў Хойніцкім раёне Гомельскай вобласці за 12 км на захад ад Хойнікаў). Першапачатковую адукацыю, як і ўсе шляхецкія дзеці, Мікалай атрымаў дома, затым паступіў у Віленскі універсітэт, фізіка-матэматычны факультэт якога скончыў у 1829 годзе з дыпломам выдатніка. Сярод навучальных прадметаў былі начартальная геаметрыя, тэорыя імавернасцей, матэматычная фізіка, якія выкладаліся тады далёка не ў кожным універсітэце. Педагагічная дзейнасць факультэта заслугоўвае высокай адзнакі, чаго, аднак, нельга сказаць пра ўзровень навуковых даследаванняў. Мабыць, гэта і спрычынілася да пераезду М. Ястржэмбскага ў Пецярбург.

З 7 студзеня 1830 года ён — студэнт Інстытута Корпуса інжынераў шляхоў зносін. Гэты інстытут быў першай транспартнай і будаўнічай навучальнай установай Расійскай імперыі.

Пачатак XIX стагоддзя характарызаваўся хуткім развіццём прамысловасці і гандлю ў Расіі, шырокім асваеннем яе багаццяў. Ажыццяўленне ўсяго гэтага было немагчыма без кваліфікаваных спецыялістаў, найперш у галіне прыродазнаўчых навук, тэхнікі і прамысловасці. Менавіта ў гэты перыяд у Расіі адкрываецца шэраг важнейшых навучальных устаноў, у тым ліку першая тэхнічная — Інстытут Корпуса інжынераў шляхоў зносін.

Правам паступлення ў інстытут у тыя гады карысталіся толькі дваране, а яны аддавалі перавагу вайсковым навучальным установам. Таму названы інстытут выпускаў інжынераў з воінскім званнем паручніка і накіроўваў іх на працу ў Корпус інжынераў шляхоў зносін, які быў на ваенным становішчы. На пачатку дзейнасці інстытута ў лік студэнтаў прымалі не толькі асоб без спецыяльнай адукацыі, але і выпускнікоў універсітэтаў, якія скончылі курс навучання з залатымі медалямі, выкладчыкаў матэматыкі гімназій, што працавалі па некалькі гадоў, чыноўнікаў і інш. Для такой катэгорыі вызначаўся карацейшы тэрмін вучобы. Гэта датычыла і М. Ястржэмбскага, які меў універсітэцкую адукацыю.

Вельмі цікавае сведчанне той пары было знойдзена у Інстытуце рускай літаратуры Расійскай Акадэміі навук (Пушкінскі дом) у Пецярбургу. Там знаходзіцца архіў часопіса «Русская старина», у якім захоўваецца рукапіс М. Ястржэмбскага «Успаміны інжынера. Частка І». Гэты рукапіс быў накіраваны ў рэдакцыю часопіса 31 кастрычніка 1873 года, але так і застаўся не надрукаваным. М. Ястржэмбскі меркаваў напісаць і другую частку, прысвечаную яго дзейнасці ў Магілёўскай акрузе шляхоў зносін.

У першай частцы ён распавёў пра вучобу і працу ў Інстытуце Корпуса інжынераў шляхоў зносін. Акрэсліўшы свой намер паступіць у гэты інстытут пасля заканчэння вучобы ў Віленскім універсітэце, Ястржэмбскі пісаў: «7 лістапада 1829 года ў 7 гадзін раніцы я прыехаў у Пецярбург. На вуліцах было яшчэ цёмна і пуста, толькі на Сеннай плошчы пачынаўся рух. Распытаўшы, я знайшоў кватэру былых сваіх таварышаў па універсітэце ў Спаскім завулку і заехаў да іх. Я заспеў іх за ранішняй гарбатай. Яны былі ўжо афіцэрамі (прапаршчыкамі) і працягвалі курс вучобы ў інстытуце, куды я хацеў паступіць.

Адпачыўшы з дарогі, я ўзяўся за падрыхтоўку да экзамена, які мусіў здаваць, нягледзячы на мой кандыдацкі дыплом».[1]

У пачатку студзеня 1830 года Ястржэмбскі падаў прашэнне дырэктару інстытута генерал-маёру П. Базену. Экзаменаваў яго капітан Уладзімір Стрэмавухаў на французскай мове (на якой выкладаліся тут усе прадметы).

«...Знявагай было выдадзенае мне казённае адзенне. Я-аў загадаў выдаць мне стары, увесь у латах мундзір, вузкія і кароткія панталоны, цвёрды гальштук і паношаную шапку. Шыняля мне зусім не далі, і ў святы пры водпуску са двара мне даводзілася пазычаць шынель у таварышаў»[1].

У інстытуце былі створаны ўмовы для таго, каб яго выхаванцы паспяхова авалодвалі трывалымі ведамі па сваёй спецыяльнасці. У такой закрытай навучальнай установе юнак быў заняты справай увесь дзень, заўсёды быў сярод таварышаў, якія дапамагалі адзін другому ў навучанні, і лепшыя вучні непрыкметна ўплывалі на астатніх. Начальства стварыла належныя ўмовы для самастойнай працы. Класныя залы былі прасторныя, кожны студэнт меў асобны шырокі стол з вялікім прыстолкам для кніг, сшыткаў, пісьмовага начыння. Пад сталом было прыстасавана некалькіх рысавальных дошак, увечары на кожны стол ставілася свечка.

У інстытуце выкладаліся шматлікія агульнаадукацыйныя і спецыяльныя прадметы. На працягу чатырох гадоў вывучаліся арыфметыка, элементарная алгебра, геаметрыя, трыганаметрыя, аналітычная геаметрыя, вышэйшая алгебра, дыферэнцыяльнае і інтэгральнае вылічэнне, статыка, аналітычная механіка, гідраўліка, начартальная геаметрыя, геадэзія, фізіка, хімія, астраномія, вялікі курс будаўнічага майстэрства, які ўключаў будаўнічую механіку, будаўніцтва чыгунак, мастоў, водныя зносіны, гідратэхнічныя збудаванні і інш., архітэктура, геагнозія (гістарычная геалогія), мінералогія, гідраграфія, тактыка, стратэгія, фартыфікацыя. Да гэтага трэба дадаць прадметы агульнай адукацыі: Закон Божы, геаграфія, гісторыя, руская і французская пісьменнасць, статыстыка і заканадаўства. Шмат часу ішло на складанне праектаў па прадметах інжынернага майстэрства і архітэктуры, на рысункі для фартыфікацыі, сітуацыйныя планы і эпюры па начартальнай геаметрыі. У далейшым у навучальны план інстытута было ўключана і «танцаванне». Усе прадметы падзяляліся на тыя, што «аказваюць непасрэдны ўплыў на спецыяльнасць», «спрыяюць адукацыі інжынераў» і «неабходныя для ўсякага роду службы».

М. Ястржэмбскі так напісаў аб парадку дня першага года навучання: «У 6 гадзін будзіць нас абрыдлы барабан. Незважаючы на барабан, працягваем спаць, дзяжурны афіцэр сцягвае коўдру. У 7 гадзін вядуць у сталовую, дзе даюць «сбитень» (агіднае пойла з мяты, з мёдам замест цукру). У 8 гадзін пачыналіся класы. У поўдзень заканчваліся і нам выдавалі па булцы замест снедання. Да дзвюх гадзін вайсковыя практыкаванні, прыгонка амуніцыі і адзення. У 2 гадзіны абед (з трох кепскіх страў). Да 5 гадзін вайсковыя практыкаванні. У 5 гадзін урокі ў класах (рэпетыцыя). У 7 гадзін вячэра (з дзвюх страў). У 9 гадзін барабан, малітва і да спальні. І гэтак кожны дзень без перамен. Па святах адпускалі з двара з 9 гадзін раніцы да 9 гадзін вечара»[1].

Навучальным планам інстытута былі прадугледжаны практычныя работы. Па заканчэнні першага афіцэрскага класа ў маі 1831 года М. Ястржэмбскі разам з некаторымі іншымі студэнтамі быў накіраваны ў Ноўгарад у распараджэнне кіраўніка Упраўлення пабудовы мастоў маскоўскай шашы — першай мостабудаўнічай арганізацыі ў Расіі, створанай у 1821 годзе. У час летніх практычных заняткаў ён выканаў свае першыя здымкі старой Маскоўскай дарогі ад Цверы да Кліна.

М. Ястржэмбскі быў заўсёды першым вучнем. Яго пакінулі для адказу на публічных экзаменах па аналітычнай механіцы. Трэба зазначыць, што публічны экзамен кожны год амаль у поўным складзе наведваў дыпламатычны корпус.

Сярод выкладчыкаў інстытута былі выдатныя французскія вучоныя Г. Ламэ (1795—1870) і Э. Клапейрон (1799—1864), якія прыехалі ў Расію ў 1820 годзе, а таксама акадэмікі Пецярбургскай Акадэміі навук В. Я. Бунякоўскі (1804—1889) і М. В. Астраградскі (1801—1861). Г. Ламэ чытаў у інстытуце лекцыі па матэматыцы, аналітычнай механіцы і фізіцы, Э. Клапейрон — па практычнай механіцы і хіміі, па курсе збудаванняў. Сотні рускіх інжынераў абавязаны гэтым вучоным значнай доляй сваёй навуковай культуры. В. Я. Бунякоўскі — аўтар славутага дапаможніка «Арифметика» — выкладаў курс вышэйшай матэматыкі. У значнай ступені сваімі ведамі па тэарэтычнай механіцы і матэматычнай фізіцы М. Ястржэмбскі быў абавязаны і М. В. Астраградскаму — аднаму з буйнейшых дзеячаў навукі і асветы XIX стагоддзя, стваральніку рускай школы матэматыкаў і механікаў.

У 1832 годзе М. Ястржэмбскі скончыў інстытут першым па спісе (з выдатнымі адзнакамі) і стаў адным з тых

выпускнікоў, імёны якіх выбіты на мармуровых дошках у канферэнц-зале інстытута. Ён застаўся тут у якасці выкладчыка, у чыне падпаручніка пачаў працаваць на пасадзе рэпетытара па курсе будаўнічага майстэрства і курсе практычнай механікі.

У 1833 годзе М. Ястржэмбскі ажаніўся. Такі крок у жыцці можна было рабіць толькі з дазволу кіраўніцтва інстытута. 7 красавіка ён падаў рапарт на імя дырэктара інстытута генерал-маёра П. П. Банна наступнага зместу: «Жадаючы ўзяць першы законны шлюб ■ дачкою обер-правіянтмайстра гвардзейскага корпуса чыноўніка 5-га класа Савіцкага дзяўчынай Марыяй, я адважваюся прасіць дазволу Вашага Правасхадзіцельства на гэты шлюб. Маю гонар надаць пры гэтым рэверс аб тым, што просьбай аб дапамозе ад казны турбаваць начальства не стану»[2].

17 траўня 1833 года Мікалай Феліксавіч ажаніўся, ад гэтага шлюбу ў яго былі дзве дачкі. Праз некаторы час пасля смерці жонкі ён ажаніўся другі раз, у гэтым шлюбе нарадзілася пяць сыноў.

У 1834 годзе Ястржэмбскі разам з іншымі маладымі выкладчыкамі Інстытута Корпуса інжынераў шляхоў зносін пачаў працаваць над апісаннем розных збудаванняў, рыхтаваць навучальны дапаможнік для інстытута. Дапаможнік быў надрукаваны пад назвай «Збор рысункаў у галіне будаўнічага майстэрства». У першай яго частцы, якая складалася з шасці раздзелаў («спыткаў»), апісваліся найбуйнейшыя інжынерныя збудаванні таго часу, а ў другой змяшчаліся іх рысункі.

Калектыўная праца маладых аўтараў з'явілася адным з першых навучальных дапаможнікаў, выдадзеных на рускай мове. Ва ўводзінах аўтары адзначалі, што творы іншаземцаў па будаўнічым майстэрстве складаюць амаль адзіную крыніцу ведаў для афіцэраў Корпуса шляхоў зносін. Набыць лепшыя з гэтых твораў для многіх было цяжка, а іншы раз і немагчыма. Некаторыя з рускіх кніг па гэтым прадмеце маглі часткова замяніць замежныя, аднак у іх пераважалі тэарэтычныя звесткі, агульны разгляд збудаванняў, што не магло цалкам задаволіць інжынера-будаўніка.

Для названага дапаможніка Ястржэмбскі напісаў чатыры артыкулы, дзе ён не толькі апісвае збудаванні, але і дае іх аналіз, падкрэслівае вартасці і недахопы, адзначае памылкі і тым самым засцерагае будучых інжынераў ад паўтарэння іх у практычнай дзейнасці.

Адначасова М. Ястржэмбскі арганізоўваў і праводзіў доследы па вызначэнні трываласці будаўнічых матэрыялаў.

Справа ў тым, што вісячыя масты, будаўніцтва якіх распачалі ў XIX стагоддзі, дазвалялі перакрываць значна большыя пралёты ў параўнанні з каменнымі і драўлянымі мастамі. Трэба было вывучаць уласцівасці новага ў той час будаўнічага матэрыялу — жалеза, якое ўжывалася пры вырабе ланцугоў. М. Ястржэмбскі правёў асноўную частку выпрабаванняў і абагульніў іх вынікі, якія сведчылі аб тым, што ўжываць сталь для вырабу падвясных ланцугоў вельмі небяспечна. Ды гэта не давала і эканамічнай выгады. У справаздачы аб выніках доследаў М. Ястржэмбскі зазначыў больш высокую трываласць рускага жалеза ў параўнанні з іншаземным. Выпрабаванні з'явіліся, па сутнасці, пачаткам арганізацыі механічнай лабараторыі ў інстытуце, якая пазней адыграла значную ролю ў будаўніцтве першых чыгунак, у развіцці будаўнічай механікі ў Расіі.

На працягу некалькіх гадоў М. Ястржэмбскі чытаў у інстытуце курс «Сухапутныя зносіны», а ў 1836 годзе яго лекцыі аб пабудове дарог і мастоў былі выдадзены літаграфскім спосабам.

19 сакавіка 1837 года Канфедэрацыя інстытута (вучоны савет) у прысутнасці акадэміка М. В. Астраградскага абрала капітана М. Ястржэмбскага на пасаду памочніка прафесара.

У 1837—1838 гадах М. Ястржэмбскі выдаў курс практычнай механікі ў двух тамах, які стаў першым навучальным дапаможнікам па гэтым прадмеце. Дапаможнік напісаны на вопыце выкладання на працягу некалькіх гадоў практычнай механікі ў розных навучальных установах Пецярбурга: Інстытуце Корпуса інжынераў шляхоў зносін, Горным і Тэхналагічным інстытуце, Другім кадэцкім корпусе.

У 1837 годзе Ястржэмбскага запрасілі прачытаць курс лекцый у Маскоўскім універсітэце. Ва універсітэтах Расіі практычная механіка атрымала афіцыйнае прызнанне толькі ў 1863 годзе. Аднак яе элементы, абумоўленыя узрастаннем цікавасці да прамысловасці і транспарту, з'явіліся ў Маскоўскім універсітэце раней. Гэтым і тлумачыцца запрашэнне сюды М. Ястржэмбскага. Запрасіў яго куратар Маскоўскай навучальнай акругі граф С. Строганаў. На пачатку Мікалай Феліксавіч згадзіўся, але потым адмовіўся. Хутчэй за ўсё навучальная частка інстытута не змагла адпусціць яго ў Маскву, бо не было каму даручыць выкладанне адпаведных прадметаў.

М. Ф. Ястржэмбскі ў 1838 годзе атрымаў Дзямідаўскую прэмію за «Курс практычнай механікі». Гэта прэмія ў дарэвалюцыйнай Расіі лічылася самай ганаровай навуковай

узнагародай. Працы выдатных вучоных, лаўрэатаў Дзямідаўскай прэміі — гэта заўсёды найвышэйшыя поспехі ў пэўнай галіне ведаў: М. І. Пірагова — у медыцыне, І. М. Сечанава — у фізіялогіі, Д. І. Мендзялеева — у хіміі, П. Л. Чэбышава — у матэматыцы, Б. С. Якобі — у электратэхніцы, П. П. Аносава — у металургіі, А. Х. Вастокава — у філалогіі. Кожны твор лаўрэата Дзямідаўскай прэміі — адкрыццё новага, нязведанага. А гісторыя гэтай прэміі такая.

Фонд прэмій быў створаны П. М. Дзямідавым (1798—1840), буйным рускім прамыслоўцам і мецэнатам, ганаровым членам Імператарскай Акадэміі навук. Менавіта на яго ніжнетагільскіх заводах працавалі рускія механікі Чарапанавы — стваральнікі першага рускага паравоза (1834—1835). Устаноўленыя П. Дзямідавым прэміі прызначаліся «садзейнічаць дасягненню поспехаў навук, славеснасці і прамысловасці ў сваёй Айчыне». Як і было сказана ў запавеце, грошы ўносіліся ў прэміяльны фонд пасля смерці заснавальніка прэміі на працягу 25 гадоў, да 1865 года. Згодна з «Палажэннем аб узнагародах, устаноўленых П. М. Дзямідавым», права прысуджэння іх дадзена Акадэміі навук як «першаму вучонаму стану ў дзяржаве». Акадэмія навук штогод атрымлівала 20 000 рублёў «на ўзнагароды за лепшыя па розных галінах творы ў Расіі». Памер поўнай прэміі складаў 5 000 рублёў асігнацыямі (1 428 рублёў серабром) і палавіннай — 2 500 рублёў. На прэміі маглі прэтэндаваць аўтары арыгінальных твораў, выдадзеных на рускай мове. Аўтары кніг на замежных мовах маглі ўдзельнічаць у конкурсе тады, калі «разважалі аб прадмеце, які мае прамое дачыненне да Расіі». Да конкурсу на Дзямідаўскую прэмію не дапускаліся члены Акадэміі навук. Ястржэмбскаму тады споўніўся 31 год, і ён быў самым маладым лаўрэатам 1839 года. Для Дзямідаўскай камісіі кнігу М. Ястржэмбскага рэкамендавалі акадэмікі М. В. Астраградскі і В. Я. Бунякоўскі.

М. Ястржэмбскі адзначыў, што паводле формы і сутнасці свайго зместу яго кніга шмат чым адрозніваецца ад іншых курсаў механікі. Яна прызначана пераважна для людзей, якія не мелі часу і выпадку папярэдне вывучыць вышэйшы аналіз. Ёю можна карыстацца пры падрыхтоўцы да вывучэння асноў механікі, якія выкладаюцца звычайна з дапамогай дыферэнцыяльнага і інтэгральнага вылічэнняў. Таму ў «ёй абстрактныя законы механікі пераведзены ў галіну геаметрыі і зроблены даступнымі кожнаму, каму вядомы ўласцівасці падобных фігур і рысаванне крывых ліній, падпарадкаваных пэўным законам». Гэта першая асаблівасць кнігі. Другой



8. Зак.2059

асаблівасцю было тое, што ў ёй разглядалася больш шырокае кола пытанняў у параўнанні з дапаможнікамі, якія папярэднічалі курсу М. Ястржэмбскага. Гэты навучальны дапаможнік на працягу многіх гадоў выкарыстоўваўся ва універсітэтах Расіі пры вывучэнні курса практычнай механікі. Прафесар Харкаўскага універсітэта М. А. Дзячэнка (1809—1877) «... чытаў лекцыі па практычнай механіцы, паклаўшы ў аснову папулярную тады кнігу М. Ястржэмбскага «Курс практычнай механікі».

Падчас працы ў Інстытуце Корпуса інжынераў шляхоў зносін М. Ястржэмбскаму даводзілася выконваць розныя даручэнні дырэкцыі інстытута і галоўнага кіраўнічага шляхоў зносін. Пры выкананні гэтых даручэнняў ён звяртаў асаблівую ўвагу на новыя адкрыцці ў навуках, каштоўныя напрацоўкі у практыцы і прапагандаваў іх у сваіх справаздачах і публікацыях.

Яго першыя публікацыі з'явіліся ў 1835 годзе ў «Часопісе шляхоў зносін». У гэтым выданні ён апублікаваў 14 артыкулаў. У 1843 годзе М. Ястржэмбскі быў прызначаны сакратаром Канферэнцыі інстытута і памочнікам рэдактара «Часопіса шляхоў зносін». Ён з'яўляўся членам камітэта для складання будаўнічага статута пры Галоўным упраўленні шляхоў зносін.

У 1843 годзе М. Ястржэмбскі зацверджаны прафесарам па курсах збудаванняў і практычнай механікі. У гэты час ён актыўна працуе над складаннем «Атласа ўзорных механічных канструкцый», які ўбачыў свет у 1846 годзе, і тлумачальнага тэксту да яго. Атлас уяўляў сабой збор рысункаў розных машын і механізмаў на 100 аркушаў, а таксама звесткі, неабходныя для выпуску машын. Гэты «Атлас...» выкарыстоўваўся як дапаможнік па практычнай механіцы для інстытута і будаўнічага вучылішча.

Паспяховая праца М. Ястржэмбскага ў навучальных установах Пецярбурга неаднаразова адзначалася заахвочваннямі і ўзнагародамі. За выдатную службу яму тройчы была аб'яўлена манаршая ласка (1833, 1838, 1841), чатыры разы выдадзена грашовая прэмія па 600 рублёў (1834, 1836, 1839, 1842). Адзначым, што 600 рублёў — гадавы заробак памочніка прафесара, капітана М. Ястржэмбскага ў 1837 годзе. Галоўны кіраўнічы шляхоў зносін тройчы аб'яўляў падзяку за яго творы «Атлас рысункаў» (1834), «Курс практычнай механікі» (1838) і артыкулы, надрукаваныя ў «Часопісе шляхоў зносін» (1839). За старанную службу і працу ў інстытуце ён быў узнагароджаны ордэнам Св. Станіслава III ступені (1837).

У 1846—1847 гадах убачылі свет першая і другая часткі кнігі «Пачатковыя асновы агульнай і прыкладной механікі». У гэтай кнізе ўпершыню на рускай мове былі надрукаваны два артыкулы па гісторыі механікі: «Кароткі агляд паступовага развіцця механікі ў старажытныя і найноўшыя часы» і «Гістарычныя звесткі аб вынаходніцтве і паслядоўных удасканаленнях паравых машын». Артыкулы, напісаныя даступна, папулярна і цікава, маглі прыцягнуць увагу шырокага кола чытачоў.

Кнігу М. Ястржэмбскага «Пачатковыя асновы агульнай і прыкладной механікі» высока ацанілі сучаснікі. «...Ястржэмбскі, ужо вядомы ў нашай навуковай літаратуры як аўтар «Курса практычнай механікі», прынятага ў шматлікіх навучальных установах... можна з упэўненасцю сцвярджаць, што на рускай мове да гэтага часу не існавала твора, у якім пачаткі механікі былі б выкладзены з такой паўнатой, без дапамогі вышэйшага аналізу», — адзначалася у адной з рэцэнзій. З пахвалой адгукнуўся прафесар і аб афармленні кнігі: «Выданне вельмі стараннае, нават прыгожае і змяшчае мноства дакладна зробленых рысункаў у тэксце. Амаль упершыню мы сустракаем у рускай навучальнай матэматычнай кнізе такое новаўвядзенне».

Адметным для вучонага быў 1847 год. Ён атрымаў дзве ўзнагароды — ордэн Св. Ганны III ступені (за выдатную педагагічную дзейнасць у Кадэцкім корпусе) і знак бездакорнай службы за 15 гадоў. М. Ястржэмбскі працаваў у спецыяльнай камісіі акадэміка М. Астраградскага, якая займалася пытаннямі паляпшэння праграм па матэматыцы і механіцы ў вайсковых навучальных установах Расіі. Для такіх устаноў яму даручылі напісаць курс механікі ў адпаведнасці з новай праграмай, але гэта праца не была даведзена да канца — яго пераводзяць у Магілёў на адміністрацыйна-інжынерную пасаду.

Нешматлікія вольныя гадзіны Ястржэмбскі аддаваў навуцы. Першымі ў Расіі былі яго даследаванні па дынаміцы машын. Вынікі гэтых даследаванняў адлюстраваны ў артыкуле «Агульная тэорыя руху машын» і ў першых двух раздзелах «Курса практычнай механікі» (частка 2). Нават просты пералік параграфаў дае ўяўленне аб вартасці гэтага твора. У першым раздзеле кнігі чатыры параграфы: выклад асноў тэорыі машын, дастасаванне пачатку жывых сіл да руху машын, галоўныя ўмовы руху машын, агульныя правілы пабудовы машын. Другі раздзел змяшчае пяць параграфаў, у якіх разглядаюцца

прывады руху, спосабы змянення руху машын у час яе працы, утаймавальнікі (мадэратары), раўнаважнікі (рэгулятары), тэорыя і пабудова махавых колаў, счапленне. Разглядаюцца і састаўныя часткі машын, пераўтварэнне колькасці дзеяння ў карысную работу. Асноўная ўвага аддаецца прыстасоўванню пачатку жывых сіл да руху машын і вываду агульнага ўраўнення руху машын, прыводзіцца яго даследаванне ў прыватных выпадках. Папярэдне разглядаюцца рознага роду сілы, якія дзейнічаюць на машыну (аўтар называе шэсць такіх сіл).

Трэці раздзел кнігі з'яўляецца першым на рускай мове навучальным дапаможнікам па супраціўленню матэрыялаў. Ва ўводзінах да гэтага раздзела сказана: «Матэрыялы, якія ўваходзяць у склад збудаванняў і машын, трапляюць пад уздзеянне рознага роду сіл, адны з якіх дзейнічаюць бесперапынна, як сіла цяжару, іншыя толькі часова. Пад дзеяннем такіх сіл кожнае цела мяняе свой выгляд: расцягваецца, сціскаецца, гнецца ці скручваецца. З прычыны гэтых змен праяўляюцца ўнутраныя, частковыя сілы, якія робяць раўнавагу вонкавым, калі гэтыя вонкавыя сілы не перасякаюць некаторых межаў; у адваротным выпадку вонкавыя сілы пераадольваюць унутраныя і разбураюць цела, раздрабляючы яго, разрываючы, ломячы ці скручваючы».

Магчыма, ад'езд М. Ястржэмбскага з Пецярбурга нейкім чынам звязаны з дзейнасцю петрашэўцаў і будучым судом над імі. Справа ў тым што яго стрыечны брат І. Ястржэмбскі быў актыўным удзельнікам гуртка М. Петрашэўскага. 23 красавіка 1849 года яго арыштавалі і, як іншых, кінулі ў Аляксееўскі равелін Петрапаўлаўскай крэпасці. 19 снежня 1849 года 21 чалавек быў прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Але па жаданню Мікалая I усіх асуджаных павінны былі вывесці на месца пакарання смерцю, інсцэніраваць падрыхтоўку да яе, а потым прачытаць прысуд, які зацвердзіў цар, — розныя тэрміны катаргі. Як сведчыць петрашэвец Д. Ашхарумаў, на эшафоце І. Ястржэмбскі стаяў побач з Ф. Дастаеўскім.

17 студзеня 1848 года М. Ястржэмбскі быў прызначаны начальнікам аддзялення XI акругі шляхоў зносін (Магілёўскай). Яго дзейнасць у Магілёўскай акрузе звязана з будаўніцтвам дарог, мастоў, плацін. Пад кіраўніцтвам М. Ястржэмбскага пабудаваны шашэйныя дарогі Магілёў—Кіеў, Магілёў—Бабруйск, Магілёў—Доўск, рэканструявана Бабруйская плаціна. Ім распрацаваны праекты мастоў на тэрыторыі Беларусі: праз Днепр у Магілёве, праз Дзвіну ў Віцебску. Мост

у Магілеве (замест паромнай пераправы) быў пабудаваны ў 1860 годзе. Яго даўжыня была 90 пагонных сажняў (1 сажань = 2,13 м); ён меў 8 дзесяцісажневых пралётаў. Апоры і бакі былі драўлянымі палевымі, а пралёты пакрыты аркамі многавугольнай сістэмы. Палатно маста ўзвышалася над ўзроўнем межанных вод на 40 футаў (1 фут = 30,48 см). Прычына такога значнага ўзвышэння заключалася ў тым, што вясеннія воды былі вельмі высокімі.

За работы па будаўніцтву дарог і мастоў М. Ястржэмбскі быў узнагароджаны ордэнам Св. Станіслава II ступені (1849) і ордэнам Св. Ганны (1861). У Магілёўскай акрузе шляхоў зносін ён праслужыў 14 гадоў.

У 1862 годзе М. Ястржэмбскі быў прызначаны пастаянным членам Кастрамской губернскай будаўнічай і дарожнай камісіі, але неўзабаве ў лютым 1863 года выйшаў ў адстаўку ў чыне палкоўніка і застаўся ў Магілёве. Раней па яго праекце і пад яго кіраўніцтвам быў пабудаваны паравы млын. Мікалай Феліксавіч працягваў ажыццяўляць тэхнічны нагляд гэтага млына. Сур'ёзнае вывучэнне камерцыйнага боку прадпрыемства дазволіла М. Ястржэмбскаму напісаць яшчэ адну кнігу — практычны дапаможнік «Галоўныя асновы двайной бухгалтэрыі». Кніга была апублікавана незадоўга да яго смерці ў 1874 годзе.

М. Ястржэмбскі з'яўляецца адным з першых гісторыкаў навукі і тэхнікі ў нашай краіне. Гэтымі пытаннямі ў тагачаснай Расіі мала хто займаўся. Яму належаць таксама першыя нарысы па гісторыі механікі. Сярод іх — артыкулы «Кароткі агляд паступовага развіцця механікі ў старажытныя і найноўшыя часы», «Гістарычныя звесткі аб вынаходніцтвах і паслядоўных удасканаленнях паравых машын», кніга «Пачатковыя асновы агульнай і прыкладной механікі».

Несумненна, М. Ястржэмбскі меў літаратурны талент. Усе яго кнігі, нарысы і артыкулы напісаны вельмі цікава і ярка, добрай літаратурнай мовай і з адпаведным адчуваннем стылю. Віленскі універсітэт ён скончыў і па факультэту славеснасці. Мікалай Феліксавіч быў вялікім аматарам мастацкай літаратуры, асабліва захапляўся творчасцю Гогаля і вельмі ўдала напісаў за вялікага пісьменніка раздзелы да яго славутага рамана. (Гэтыя раздзелы без ведама і дазволу М. Ястржэмбскага былі апублікаваны.)

Вось як ён сам тлумачыць свой намер напісаць гэты твор: «Гогаль быў мой любімы пісьменнік, я доўга вывучаў яго, я ведаў

амаль на памяць усе яго творы і асабліва першую частку «Мёртвых душ», я зачароўваўся гэтай першай часткай і адначасова страшна абураўся на Гогаля за яго «Перапіску з сябрамі» і за другую частку «Мёртвых душ». Пад уплывам вядомага ліста Бялінскага я часта абдумваў, як бы належала перарабіць другую частку «Мёртвых душ», каб яна сталася вартым працягам першай... Мне не каштавала вялікіх намаганняў перарабіць першыя тры раздзелы... Калі б у мяне было больш часу, я перарабіў бы і апошнія раздзелы».

Мяркуючы, што самі чытачы разгадаюць, хто напісаў «Новыя ўрыўкі і варыянты» — Гогаль ці нехта іншы, М. Ястржэмбскі не адразу прызнаўся ў сваім аўтарстве. Але калі ў друку з'явіліся артыкулы, якія разглядалі ўрыўкі і варыянты як новую, апошнюю рэдакцыю «Мёртвых душ», выкананую самім Гогалем, і на іх падставе рабіліся высновы аб перамене грамадска-палітычных поглядаў вялікага пісьменніка, М. Ястржэмбскі вырашыў заявіць аб сваім аўтарстве, не прэтэндуючы, аднак, на літаратурную славу.

Зацікаўленасць Мікалая Феліксавіча, магчыма, можна растлумачыць тым, што падзеі, апісаныя ў «Мёртвых душах», пераклікаюцца з падзеямі, якія адбываліся ў тым краі, дзе нарадзіўся М. Ястржэмбскі. У 1848 годзе адбыўся суд над панамі Мазырскага павета Мінскай губерні за злоўжыванні і няправільныя дзеянні пры складанні ў 1843 годзе планаў і статыстычных апісанняў незаселеных зямель, адданых у заклад, па вінных водкупах і іншых падрадах з казною. На адной лаве падсудных апынуліся шмат якія ахоўнікі закона губернскага і павятовага маштабу. Усе яны былі ўдзельнікамі буйной аферы па аддаванні ў заклад неіснуючых зямель. Пры складанні статыстычных апісанняў маёнткаў Баравое, Буйнавічы, Лельчыцы, Карма, Скароднае падрабляліся старыя планы, фальшаваліся дакументы, прыдумляліся назвы міфічным зямельным участкам, якія, адпаведна сваім міфічным вартасцям, ацэньваліся вельмі высока.

Памёр і пахаваны Мікалай Феліксавіч Ястржэмбскі ў 1874 годзе ў Магілёве.

*Спасылкі*

[1] Пушкінскі дом, № 822, ф. 265, воп 2, спр. 3233. арк. 1 – 3.

[2] Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў СПб, ф. 381, воп. 13, спр. 684, арк. 1.

*Літаратура*

*Гусак А. А.* Практычная механіка і «Мёртвыя душы». Мн., 1992.
История механики в России / Под ред. А. Н. Боголюбова. Киев. 1987.

*Алена Брычыкава*

# Станіслаў МАНЮШКА (1819–1872)

Штогод 5 мая ўся музычная грамадскасць адзначае ўгодкіаднаго з буйнейшых кампазітараў XIX стагоддзя Станіслава Манюшкі. Нельга сказаць, што яго імя не ведаюць у Беларусі. Тым не менш усведамленне яго ролі ў станаўленні беларускага музычнага мастацтва для многіх суайчыннікаў прыходзіць з цяжкасцю.

Нарадзіўся Станіслаў Манюшка 5 мая 1819 года на Ігуменшчыне (цяпер Чэрвеньскі раён) у спадчынным маёнтку Убель, які яшчэ дзед кампазітара, таксама Станіслаў, набыў у гетмана Вялікага княства Літоўскага Міхала Казіміра Агінскага. Там прайшлі гады яго маленства. Калі ж настаў час вучобы хлопчыка, сям'я пераехала ў Мінск. Вядомы два адрасы, дзе Манюшкі жылі тады ў губернскім горадзе: гэта будынак паводле сучаснага адраса па Інтэрнацыянальнай, 21 і так званы Дом масонаў у Музычным завулку Верхняга горада.

Першапачатковую музычную адукацыю Станіслаў атрымаў ад маці. Між іншым, сама Альжбета (у дзявоцтве Маджарская, з роду заснавальнікаў знакамітай Слуцкай «персіярні» — радзівілаўскай мануфактуры, дзе выраблялiся знакамітыя паясы), у сваю чаргу, атрымала музычную адукацыю пад кіраўніцтвам вядомага мінскага музыканта і кампазітара Пётры Карафы-Корбута. У час навучання ў Мінскай гарадской мужчынскай гімназіі (будынак захаваўся, цяпер у ім размешчаны Мінскі абласны савет прафсаюзаў — Інтэрнацыянальная, 19) Станіслаў Манюшка пачаў паралельна займацца музыкай пад кіраўніцтвам Дамініка Стафановіча — дырыжора і выдатнага музычнага педагога, які выхаваў цэлую плеяду знаных беларускіх музыкантаў. Сярод вучняў Д. Стафановіча Фларыян Міладоўскі, пія-

ністка і кампазітар Каміла Марцінкевіч — дачка В. Дуніна-Марцінкевіча. У 17-гадовым узросце Станіслаў Манюшка паехаў у Берлін, дзе два з лішнім гады займаўся пад кіраўніцтвам рэктара Берлінскай пеўчай акадэміі прафесара Карла Фрыдрыха Рунгенхагена і ўдасканальваў сваё кампазітарскае і дырыжорскае майстэрства.

У 1852 годзе, у час працы арганістам віленскага касцёла святога Яна, ён разам з В. Дуніным-Марцінкевічам і К. Крыжаноўскім паставіў «Сялянку» — оперу, якой мы адводзім асаблівае месца ў развіцці беларускага музычнага мастацтва: гэта першы твор у гісторыі жанра оперы, дзе са сцэны загучала беларуская мова. Прэм'ера «Сялянкі» адбылася ў памяшканні мінскага тэатра Поляка. Яшчэ зусім нядаўна будынак стаяў побач з Беларускай акадэміяй музыкі, але ў 1984 годзе ён быў зруйнаваны паводле загада гарадскіх улад.

Віленскі перыяд жыцця і творчасці Станіслава Манюшкі характэрны тым, што кампазітар пачаў працу над серыяй зборніка пад агульнай назвай «Хатні спеўнік». Выйшлі з друку шэсць зборнікаў, якія склаў сам кампазітар. (Зборнікаў, як вядома, было дванаццаць, але шэсць апошніх склаў пасля смерці Манюшкі яго сябра Ян Карловіч.) Стварыўшы больш за 300 песняў, ён фактычна змяніў сваёй працай бытавы і канцэртны музычны фон Беларусі і Польшчы, які дагэтуль быў арыентаваны на італьянскія, французскія, нямецкія музычныя творы, звярнуў увагу аматараў музыкі на вялікія і багатыя скарбы мясцовага народнага меласу. Вось што пісаў кампазітар у артыкуле — праспекце «Хатняга спеўніка» у «Tygodniku Petersburskim»: «Вершы я стараўся выбіраць з найлепшых нашых паэтаў... будучы перакананым у тым, што гэтыя паэтычныя творы найбольш выявілі ў сабе мясцовы характар і каларыт... Вось чаму мой спеўнік можа выклікаць да сябе нейкую цікавасць. Бо калі цудоўныя вершы, пяадданыя з цудоўнай музыкай, здольныя адкрыць сабе доступ да вуха і сэрца не вельмі музычнага, то нават слабейшая, менш удалая музыка пры выдатнай паэзіі здабудзе сабе паблажлівасць; а тое, што ў ёй нацыянальнае, краёвае, мясцовае, што як рэха нашых дзіцячых успамінаў, ніколі насельнікамі зямлі, на якой яны нарадзіліся і ўзраслі, падабацца не перастане».

Стварыў кампазітар і зборнік літургічных спеваў «Песні нашага касцёла», які можна ўмоўна падзяліць на тры часткі: першая — напісанне на польскамоўныя тэксты, другая — напісанне на кананічныя лацінскія тэксты з «Псалтыра» Давіда,

трэцяя частка ўяўляе сабой арганныя прэлюдыі і нешпоры, апрацаваныя Манюшкам з вядомых касцёльных песень. Прэлюдыі маюць закончаны выгляд арганных твораў, таму нездарма іх часта выконваюць як самастойныя. Вакальныя творы, напісаныя на лацінскія тэксты і стылізаваныя С. Манюшкам пад італьянскі раннерамантычны оперны стыль, надзвычай узнёслыя і прыгожыя, маюць парадны выгляд. Песні з польскімі тэкстамі напоўнены лірызмам, пяшчотаю.

У віленскі перыяд жыцця кампазітар плённа працаваў і ў такіх жанрах, як кантата, сімфанічная паэма і іншыя, але кульмінацыйным момантам трэба лічыць стварэнне «Галькі». 1 студзеня 1848 года віленскімі аматарамі музыкі быў упершыню паказаны двухактавы варыянт у канцэртным выкананні. Гэта была вялікая падзея ў музычным жыцці Вільні, водгукі якой хутка разляцеліся па ўсім славянскім свеце. У 1903 годзе, з Нью-Йоркскай пастаноўкі, пачалося трыумфальнае шэсце «Галькі» па сцэнах свету.

Даволі часта прыязджаў Станіслаў Манюшка з Вільні ў Мінск да бацькі ці па справах — творчых або маёмасных. Да яго прыезду ў 1856 годзе В. Дунін-Марцінкевіч напісаў нават верш ад імя іх сумеснага «сялянскага» героя — Навума Прыгаворкі, у якім Манюшку прысвечаны наступныя радкі:

А трэці дудар між намі ўзрос, ён нам братка,
Яму Мінская зямелька родненькая матка!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Трэці дудар як загудзе песенькі радненькі,
Бяды дай гора забудзеш, станеш весяленькі!
А так думкі прыўныўны соладка спявае,
Што за сэрца, бы кляшчамі, дзетачкі, хватае.

У 1858 годзе Манюшка развітаўся з Беларуссю. Фінансавае і творчае становішча кампазітара ўжо не магло затрымліваць яго ў Вільні. Тым не менш ён ніколі не забываў сваёй радзімы і як мог, дапамагаў сваім сябрам і калегам-музыкам.

Манюшкам створана вялікая колькасць твораў, сваёй тэматыкай і праблематыкай звязаных з беларускай зямлёй і культурай. Беларускі мелас знайшоў яскравае ўвасабленне ў класічнай музычнай літаратуры XIX стагоддзя — у музыцы С. Манюшкі, як ні ў аднаго з сучасных яму кампазітараў. Гісторыю музычнага тэатра Беларусі, гісторыю беларускага камернага, сімфанічнага і рэлігійнага пластоў музыкі немагчыма ўявіць без постаці С. Манюшкі.

## Паэзія філаматаў у творчасці Манюшкі

У 1817 годзе група студэнтаў-аднадумцаў Віленскага універсітэта стварыла тайнае патрыятычнае таварыства філаматаў (аматараў ведаў), сярод якіх зіхацяць імёны Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Тамаша Зана, Ігната Дамейкі, Аляксандра Ходзькі, Антона Адынца, Францішка Малеўскага, Юзафа Яжоўскага і іншых — будучых выдатных дзеячаў беларускай (і не толькі) культуры і навукі таго часу. У 1820 годзе ў складзе філаматаў арганізавалася нелегальнае таварыства філарэтаў (прыхільнікаў дабрачыннасці).

Прафесар Іяахім Лелявель, які выкладаў у гэты час гісторыю ў Віленскім універсітэце, ва ўступнай лекцыі 19 студзеня 1822 года, закранаючы гісторыю Вялікага княства Літоўскага, падкрэсліў: «Нельга практыкаваць гісторыю ніводнага кутка Еўропы без ведаў яе ўсеагульнай гісторыі, без вяртання да яе. Ужо на працягу многіх стагоддзяў лёсы краін і народаў вырашаюць не толькі дзейнасць і не столькі заслугі насельніцтва ці правіцеляў, але агульны рух і перамены культуры. Хто грэбуе гэтай агульнай дзейнасцю чалавечага роду, той скажона выкладзе гісторыю ўласнага народа, а сваіх продкаў ці то ўшануе беспадстаўна, ці без жадання іх пакрыўдзіць. Усеагульная гісторыя з'яўляецца сукупнасцю ўсіх гісторый, апорным пунктам, на якім грунтуецца развіццё асобных народаў».

Сябры таварыства часта збіраліся на своеасаблівыя «акадэміі», дзе ў размовах паміж імі на роўных гучалі польская, французская і беларуская мовы, а таксама латынь. Вельмі адораныя ў мастацкіх адносінах, філаматы складалі песні ў народным стылі ці спявалі беларускія народныя песні, якія збіралі падчас вандровак па родных мясцінах. Найбольш папулярнымі былі песні Яна Чачота. Часта ён указваў, на матыў менавіта якой з беларускіх народных песень трэба іх спяваць. Бывала, што музыку да вершаў сяброў пісаў Тамаш Зан. Царскімі ўладамі таварыства было выкрыта. Удзельнікі яго пасля допытаў былі высланы на ўсход Расійскай імперыі.

Невыпадкова, пераехаўшы ў 1840 годзе на жыхарства з Мінска ў Вільню, Станіслаў Манюшка ўладкаваўся на працу арганістам касцёла святога Яна (гэты касцёл быў часткай Віленскага універсітэта — калыскі філаматаў). Сёння на хорах касцёла ўсталяваны бюст кампазітара. Калі знаёмішся з выданнямі вакальных твораў Манюшкі, што выходзілі пры яго жыцці, і перш за ўсё з шасцю першымі выпускамі «Хатняга спеўніка» — сшыткамі, складзенымі самім маэстра, калі чытаеш артыкул у

«Tygodniku Petersburskim» ці перапіску кампазітара, усё больш і больш пераконваешся ў тым, што менавіта Станіслаў Манюшка стаў прамым спадкаемцам і прадаўжальнікам справы філаматаў на Беларусі ў сярэдзіне XIX стагоддзя.

Колькі ў «Хатніх спеўніках» твораў на словы Міцкевіча, Чачота, Ходзькі, Адынца, Зана! З Тамашом Занам ён быў знаёмы асабіста. Калі Манюшка прыязджаў па справах у Мінск, то часцей за ўсё спыняўся ў доме, які цяпер мы ведаем як «Дом масонаў»; літаральна ў 20 метрах ад яго знаходзілася гарадская сядзіба знакамітага мастака Валенція Ваньковіча — дзядзькі Станіслава. Суседам Манюшкі быў Тамаш Зан, з якім яны вялі размовы не толькі пра мастацтва.

Вядома, як чуйна прыслухоўваліся паэты-філаматы да фальклорных прымавак, вершаў, балад, паданняў, як моцна натхняла іх народная беларуская творчасць на здзяйсненне вялікай асветніцкай справы! Манюшка крочыў побач з імі, разам з імі, далей за іх. Подзвіг філаматаў даў магчымасць Манюшку стаць грамадзянінам.

### З «Хатняга спеўніка»: Станіслаў Манюшка і Ян Чачот

Якое месца займаюць сярод амаль трохсот рамансаў і песень Манюшкі «Песні з-пад Нёмна і Дзвіны»? Чаму менавіта на арыгінальныя тэксты Чачота і на яго апрацоўкі-пераклады вуснапаэтычных твораў Манюшка напісаў болей, чым на словы кожнага іншага мясцовага (і не толькі) аўтара, напрыклад, Адама Міцкевіча ці Уладзіслава Сыракомлі, паэзія якіх была пад яго асаблівай увагаю?

У 1840 годзе малады кампазітар вярнуўся з Германіі, дзе паспяхова скончыў навучанне ў рэктара Берлінскай пеўчай акадэміі К.-Ф. Рунгенхагена. У час вучобы Манюшка дасканала засвоіў жанр песеннай лірыкі, які ў аўстра-нямецкай культуры атрымаў назву Lied. Несучы ў сабе выяўленчы патэнцыял лірычнай паэзіі, нямецкія рамантычныя песні вызначаліся даступнасцю і стойкасцю. Стандарты і стэрэатыпы, выпрацаваныя класіцысцка-асветніцкай эпохаю, яны пераадольвалі стыхіяй непасрэднасці і прастаты, адкрылі сваё, народнае, непаўторнае. Манюшка вярнуўся ў Беларусь з думкаю аб стварэнні песень у народным духу і з надзеяй, што адпаведных тэкстаў ці, так бы мовіць, песенных вершаў на радзіме бракаваць не будзе. Таму Чачотав і «Сялянскія песенькі...» з'явіліся вельмі дарэчы. Паэт і кампазітар нібы ішлі насустрач адзін аднаму: у прадмове да

першага зборніка Чачот звярнуўся да «землякоў, знаёмых з музыкаю», каб яны «аздобілі якую-небудзь з тых песенек нотамі». Манюшка ж імкнуўся да стварэння «цыкла мелодый, якія адлюстроўвалі б мясцовы характар люду і былі б выяўленнем забаваў, абрадаў і звычаяў народа».

Ставячы мэту «пашырыць рэпертуар краёвых песень», Манюшка змясціў у «Tygodniku Petersburskim» «праспект» свайго зборніка песень для аднаго голасу ў суправаджэнні фартэпіяна, якому даў змястоўную і шматзначную назву — «Хатні спеўнік». «З таго часу, — пісаў С. Манюшка ў «праспекце», — як у цывілізаванай Еўропе пачалі з вышэйшага пункту гледжання ставіцца да музыкі і ацэньваць яе не толькі як мову, якая перадае пэўную думку і пачуццё... але яшчэ як назву пэўнай мясцовасці, нацыянальнага характару народаў... самыя выдатныя мастакі пачалі выяўляць і распрацоўваць гэтае радовішча невычэрпнай гармоніі... Не прэтэндуючы на вышэйшы ў музыцы талент, але заахвочваючы ласкавым, а можа, вельмі паблажлівым успрыманнем, якое мае першыя апублікаваныя музычныя спробы змаглі выклікаць, я асмельваюся, наколькі мне дазваляе мой талент, пашырыць рэпертуар краёвых песень...».

У першы «Хатні спеўнік», што выйшаў з друку ў канцы 1843 года, Манюшка ўвёў тры сялянскія песенькі Чачота — дзве («Ах, далёка...» і «Што там за кветка...») з першага зборніка паэта «Piosnki wieniacze z nad Niemna» і адну («Ой, бярозка міла...») са зборніка 1839 года выдання. Выхад з друку «Хатняга спеўніка» падштурхнуў вядомага пісьменніка Крашэўскага напісаць Манюшку, што «нічога падобнага ў нас яшчэ не было» і выступіць з вітальнай рэцэнзіяй на яго, а таксама паклаў пачатак ці, можа, ажывіў перапіску кампазітара з Янам Чачотам, напоўненую зместам узаемазацікаўленых творчых прапаноў. Плёнам іх супрацоўніцтва, іх сутворчасці сталі 22 «сялянскія песенькі» ў «Хатніх спеўніках».

З тысячы тэкстаў «сялянскіх песенек», узноўленых Чачотам па-польску, Манюшка адабраў дваццаць адзін. Гэта своеасаблівы дзённік кампазітара, яго музычны сшытак лірычных замалёвак беларускага вясковага побыту. У гэтым сшытку пададзены яго розныя грані і ўзроўні — вяселле, жніво, вайна, сіроцтва і іншае. Героі гэтых песень — не толькі людзі, але і беларуская прырода, адухоўленая і ачалавечаная («Гай шуміць...», «Дуброва», «Ой, бярозка міла...»), і нават звяры і птушкі («Мядзведзік», «Салоўка», «Вандроўная пташка»). Таму не дзіўна, што, абапіраючыся на шматвяковы вопыт народнага

музіцыравання, кампазітар карыстаўся ў сваіх песнях тымі прыёмамі, якія робяць іх інтанацыю відавочнай. Мы чуем, як праз лясны гушчар прадзіраецца мядзведзь і як кукуе зязюля, «бачым», як пад вясновым сонцам луг пакрываецца дываном кветак і як ападае восенню лістота з бярозы, а таксама ўлоўліваем вуркатанне калаўротка, квінту лірніка і г. д.

З Янам Чачотам Станіслава Манюшку збліжаў адзін аб'ект любові — беларускі мелас. У час працы над «Хатнім спеўнікам» кампазітар, як сведчаць сучаснікі, выяўляў нястомную цікавасць да народных мелодый. Пра гэта ведаў яго бацька і ў лісце да сына даў падрабязнае апісанне «Лявоніхі» і спеваў, якія назіраў і слухаў у Радкаўшчыне.

Ствараючы песні на польскамоўныя тэксты Чачота, Манюшка ішоў тым жа шляхам, што і Чачот, — пераводзіў іх з фальклорнага стану ў акадэмічны. Асваенне, або, дакладней, выяўленне праз сябе народных мелодый свайго краю (найперш мінскага, дзе нарадзіўся) Манюшка здзяйсняў на высокапрафесійным узроўні. Самае істотнае ў гэтых песнях — гэта, відаць, тое, што можна назваць паглыбленнем драматургіі вершаванага тэксту. Праз вырашэнне ці падкрэсліванне інтанацыйна важных момантаў яны станавіліся песнямі, якія нясуць у сабе генетычную памяць беларускай народнай асновы, такой натуральнай для нашых продкаў і такой цяжка ўзнаўляльнай для нас сёння. Выдаючы свае «Сялянскія песенькі...», Чачот марыў пра час, калі яго творы, узятыя ў беларускага народа, будуць пакладзены на музыку і ў абноўленым стане вернуцца да свайго першастваральніка. Сёння гэта ўжо рэальнасць.

## Паэзія Адама Міцкевіча ў творчасці Станіслава Манюшкі

Калі нарадзіўся Станіслаў Манюшка, Адаму Міцкевічу мінула дваццаць гадоў. Ён заканчваў навучанне ў Віленскім універсітэце, каб неўзабаве заняць месца настаўніка лацінскай мовы ў Ковенскай гімназіі. За адзінаццаць гадоў, якія падвялі Станіслава да вучобы ў гімназіі, дзеля чаго яго бацькі пераехалі ў Мінск, у жыцці Міцкевіча адбылося шмат падзей і перамен: ён выдаў у Вільні кнігу «Балады і рамансы», якая абвясціла прыход рамантызму ў літаратуру Беларусі і Польшчы, напісаў ковенска-віленскія «Дзяды», паэму «Гражына», крымскія і адэскія санеты, гістарычную аповесць «Конрад Валенрод» і, адбыўшы пакаранне за юначую мару аб свабодзе свайго краю выгнан-

нем у Расію, апынуўся ў эміграцыі, якая аддаліла яго ад радзімы, але наблізіла да стварэння галоўнага твора жыцця — паэмы «Пан Тадэвуш».

Летам 1858 года, пасля паспяховай прэм'еры оперы «Галька» у Вялікім тэатры ў Варшаве (адбылася 1 студзеня), Манюшка прыехаў у Парыж, калісьці абраны Міцкевічам для эмігранцкага прытулку. Ішоў ўжо трэці год, як вялікага навагрудчаніна не стала: 26 лістапада 1855 года ён памёр у Канстанцінопалі, а ў студзені 1856 года яго прах быў перавезены і перазахаваны на могілках Манмарансі ў Парыжы. Таленавітым землякам, ураджэнцу Навагрудчыны і ўраджэнцу Міншчыны, не суджана было сустрэцца, мець між сабою стасункі. І ўсё-такі яны не размінуліся ў творчасці. Станіслаў Манюшка напісаў больш за 30 твораў да тэкстаў Адама Міцкевіча, як ніводзін з тых кампазітараў свету, якія пісалі музыку на словы геніяльнага паэта. Міцкевіч быў тым аўтарам, з вершаў якога Манюшка пачаў сваю рамансава-песенную творчасць. Міцкевічавы вершы «Сон», «Няўпэўненасць» і «Пяшчотка», напісаныя ў 1825 годзе ў Адэсе, малады кампазітар паклаў на музыку ў 1837 годзе, а ў наступным выдаў іх пад назвай «Тры песні» у Берліне, дзе вучыўся ў рэктара пеўчай акадэміі К.-Ф. Рунгенхагена. «Гэта любоўныя песні, — пісаў пра выданне нямецкі рэцэнзент Фінк, — у мове і тоне якіх ёсць штосьці нацыянальнае, што дасканала выяўляецца ў музыцы двух апошніх неспакойнай мадуляцыяй, якая вызначаецца ўпэўненасцю і вялікай рашучасцю, і гэта надае песням асаблівую прывабнасць».

Ці быў знаёмы з гэтымі выданнямі Адам Міцкевіч, цяжка сказаць, але рамансы і песні Манюшкі да сваіх тэкстаў, напісаныя не пазней сярэдзіны пяцідзесятых гадоў, паэт, несумненна, ведаў, бо асобныя сшыткі «Хатніх спеўнікаў» кампазітара, якія пачалі выходзіць у Вільні ў 1843 годзе, дасылала ў Парыж сястра яго жонкі Цаліны Гелена. Пра гэта сведчыць перапіска Цаліны і Гелены, дачок вядомай піяністкі Марыі Шыманоўскай, якая першай з прафесійных музыкантаў звярнулася да Міцкевічавых вершаў. 19 чэрвеня 1851 года Цаліна ў лісце да Гелены, якая была замужам за Францішкам Малеўскім, філаматам, студэнцкім сябрам Міцкевіча, пісала: «Пытаешся ў мяне, дарагая Гелена, ці мы добра ведалі Шапэна, ці даваў ён урокі каму-небудзь з нашых дзяцей. Мушу табе прызнацца, што ніводнае не мае вялікіх здольнасцей да музыкі. Шапэн зрабіў у маім альбоме запіс, але няма ў мяне іншага рукапісу, бо я табе яго ахвотна дала б. Папрашу цябе, мая Гелена, ці не змагла б ты ат-

рымаць лісцік для майго альбома ад нашага вялікага маэстра Манюшкі? Спевы, якія ты нам прыслала, — гэта цудоўныя творы... Як жа я табе зайздрошчу, што ведаеш яго, Адам — захапленнем слухае яго кампазіцыі».

У парыжскім салоніку Міцкевічаў раз, а то і два на тыдзень ладзіліся музычныя вечарыны, на якіх заўсёды было месца для твораў Марыі Шыманоўскай і Станіслава Манюшкі. На гэтых вечарынах звычайна музіцыравала і спявала Цаліна, Адам жа толькі слухаў, бо, як сведчыць К. Лібельт, «Голас меў як кура». Старэйшая дачка паэта Марыя Гарэцкая прыгадвала: «Бацька музыку любіў так, што нават сам пару кавалкаў склаў... хоць сам увогуле не іграў, а тое, што сабе напаўголаса часам напяваў, нельга было назваць спевам». Да гэтых успамінаў вельмі стасуецца ліст Міцкевіча, напісаны польскаму паэту так званай украінскай школы Багдану Залескаму падчас творчага крызісу — прыкметнай доляй самаіроніі. Выказваючы падзяку Залескаму за прысланыя вершы, замоўклы аўтар «Пана Тадэвуша» 7 студзеня 1840 года пісаў: «Бедбяда» — запеў, цудоўна задуманы і выкананы, і калі б я пісаў цяпер вершы, то пазайздросціў бы тваёй выдумцы. Я часта напяваю яе і маю намер калі-небудзь напісаць да яе музыку. Зразумела, калі ў мяне будуць грошы і я кіну літаратуру і кнігі, асяду ў вёсцы і буду складаць музыку. Намер даўні, вось толькі ніхто ні капелькі не верыць у мой музычны талент. Пабачым, чыя праўда».

Але вернемся да «супрацоўніцтва» Манюшкі з Міцкевічам. Яно дало багаты плён. Манюшка яшчэ ў дзяцінстве зразумеў веліч і значнасць творцы і асобы Міцкевіча. Таму пад такой пільнай увагай у яго знаходзілася творчая спадчына «ліцвінскага Дантэ». Як вядома, паэты рамантычнай плыні, арыентуючыся на народныя ўзоры, імкнуліся ствараць вершы-песні, нават друкавалі свае паэтычныя зборнікі пад назваю «Песні». Не быў выключэннем і Адам Міцкевіч, назваўшы свой першы друкаваны зборнік «Балады і рамансы». Паэт свядома трымаўся эстэтычных крытэрыяў рамантызму і лічыў неабходнай умоваю вершаскладання меладыйнасць. Як быццам бы на заўвагу Міцкевіча, якая прагучала ў яго лекцыі 15 лютага 1842 года ў Калеж дэ Франс: «Што ж ёсць лірычная паэзія без музыкі? Чаго вартыя паэты, якія, нібыта спяваюць, не толькі не складаюць музыкі да сваіх песень, але ўвогуле не чуюць яе ў сабе? Музыка ў лірычных творах — гэта... галоўная, істотная частка паэзіі, яна з'яўляецца яе душою, жыццём, светам». Станіслаў Манюшка адгукнуўся на гэта стварэннем дзесяткаў музычных увасаблен-

няў міцкевічавых вершаў. Любоў да паэзіі Міцкевіча Манюшка выявіў, напрыклад, і тым, што асобныя вершы («Размова», «Знаеш той край») увасобіў у дзвюх рэдакцыях, нібыта імкнучыся пашырыць не толькі кола слухачоў, але і выканаўцаў (параўнане рэдакцый прыводзіць да такой высновы), і тым, што прапаноўваў сваім вучням для напісання рамансаў менавіта Міцкевічавы вершы, у прыватнасці, віленскаму вучню Цэзару Кюі...

Уявім сабе, што спатканне Манюшкі з Міцкевічам усё ж адбылося б. Бясспрэчна, размова між імі кранулася б сумеснага праекта. Што могло з'явіцца ў выніку іх супрацоўніцтва? Хутчэй за ўсё опера — вядома, што Адам Міцкевіч прыязна ставіўся да гэтага жанру. Станіслаў жа Манюшка, працуючы з Міцкевічавымі вершамі, са свайго боку, вольна ці міжвольна, імкнуўся да ўзбуйнення музычных форм. Некаторыя з твораў, асабліва кантаты «Пані Твардоўская» і «Прывіды» і нават балада «Свіцязянка», відавочна набліжаны да непернага жанру. «Вілію» і «Песню з вежы» — рамансы паводле эпізодаў з «Конрада Валенрода» — ніяк не назавеш творамі для хатняга выканання. Гэта хутчэй закончаныя эпізоды твора буйной формы, над якім, магчыма, працаваў кампазітар. Не напісаўшы на сюжэты Адама Міцкевіча ніводнай оперы, Манюшка ў «Страшэнным двары» выкарыстаў асобныя сюжэтныя фрагменты «Пана Тадэвуша».

«У Заходняй Еўропе рамантычная музыка развівалася «са спазненнем» у параўнанні з літаратурай, на беларускіх жа землях гэты працэс праходзіў практычна сінхронна», — слушна заўважыла кандыдат мастацтвазнаўства Вольга Савіцкая ў сваёй працы, прысвечанай сімфанічнай творчасці Манюшкі. Засвоіўшы падчас вучобы ў Берліне вышэйшыя дасягненні нямецка-аўстрыйскай музычнай балады (найперш творы Карла Лёвэ і Франца Шуберта), Манюшка амаль адразу пасля першых рамансаў 1837 года ў 1839 годзе піша «Тры Будрысы» (магчыма, як суперайманне балады К. Лёвэ на той самы верш, бо рытмічнае супадзенне вакальных партый пачатку абодвух твораў немагчыма не заўважыць), а ў 1841-м «Свіцязянку». Прычым жанр балады адразу ж выходзіць на якасна новы ўзровень развіцця. Па сутнасці — гэта паэмы з яскрава акрэсленым сімфанічным прынцыпам развіцця музычнага матэрыялу. Кампазітар і сам гэта зразумеў, бо з цягам часу дзве з пяці сваіх балад («Тры Будрысы» і «Ваявода») былі ім аркестраваны.

Праблематыка балады «Вяртанне таты» асацыятыўна нагадвае евангельскую падзею з апошніх зямных гадзін Ісуса Хрыста, ў ёй таксама перамагае ідэал хрысціянскай веры. «Свіцязянка» і «Рыбка», кожная па свайму, разглядаюць праблему

немінучага пакарання за здраду каханню. У той жа час здрада мужу ў баладзе «Ваявода» апраўдваецца і паэтам, і кампазітарам, бо перамога кахання ёсць перамога сапраўднай маральнасці. Толькі на пачатку балады «Тры Будрысы» згадваюцца падзеі цяжкага збройнага змагання Вялікага княства Літоўскага з іншаземнымі захопнікамі за незалежнасць краіны. Па сутнасці ж размова ідзе зноў жа пра каханне, якое як маральная катэгорыя мацнейшае за багацце.

Шляхецкі побыт знайшоў яскравае мастацкае ўвасабленне ў такіх рамансах, як «Пяшчотка», «Размова» і іншых. Гарэзлівыя дзяўчаткі і адданыя сваім каханым хлапчукі («Зося», «Паніч і дзяўчына», «Перш яе ўспаміны») малююцца так шчыра, такімі мяккімі інтанацыямі гумару, што міжволі выклікаюць усмешку. Не толькі беларускія тапанімічныя назвы (Свіцязь, Вілія, Нёман), следам за паэтам, пакінуў нам кампазітар для грунтоўнага асэнсавання тутэйшых прыкмет. Беларускасць у гэтых творах выяўлена і праз фальклорныя запазычанні як вусна паэтычнага паходжання, так і праз выкарыстанне найбагацейшых крыніц мелодыі роднага краю.

Уяўленая Манюшкам туга па Радзіме вялікага паэта знайшла выразнае ўвасабленне ў кантаце «Крымскія санеты», рамансах «Песня з вежы», «Да Нёмана», «Знаеш той край» — шэдэўрах вакальнай літаратуры XIX стагоддзя. Дарэчы, гэтыя творы і на вершы Міцкевіча, і пра лёс Міцкевіча. Цікавасць Станіслава Манюшкі да творчасці Адама Міцкевіча не згасала на працягу ўсяго жыцця кампазітара. З паэзіі Міцкевіча Манюшка пачынаў свой шлях у мастацтве, з паэзіі Міцкевіча ён пачаў стварэнне беспрэцэдэнтнага сярод славянскіх (і не толькі) кампазітараў праекта «Хатніх спеўнікаў». Апошні, шосты, які складаў яшчэ сам, грунтаваўся толькі на вершах Міцкевіча.

### Станіслаў Манюшка і Уладзіслаў Сыракомля

18 снежня 1849 года Уладзіслаў Сыракомля ўпісаў у альбом Станіслава Манюшкі верш, у якім былі такія радкі:

Не толькі тут веліч твая многа значыць,
Тут лёс усталёўвае планы,
Бог даў табе творчасць, агонь даў спявачы,
Пяеш ты — на тое прысланы.
Цябе шчыра любім і плёну ўсе зычым.
Літве прысвяціў ты натхненне
І стаў як Арфей з інструментам музычным,
Змякчаючы скалы, каменне.

(*Пераклад Ул. Мархеля*)

Гэтыя словы ганаравання, выказаныя ад усведамлення вышэйшасці прызначэння Манюшкі, застаюцца пакуль самым раннім сведчаннем асабістага знаёмства паэта і кампазітара. Зразумела, яно магло адбыцца і ў іншым папярэднім часе, але пра гэта нічога невядома. Ёсць толькі сведчанне памочніка-сакратара Сыракомлі Вінцэся Каратынскага, што яго апякун і літаратурны настаўнік пазнаёміўся з кампазітарам у салоне гісторыка-этнографа і выдаўца Адама Кіркора. Абодва яны, і Манюшка, і Сыракомля, былі навідавоку і цікавіліся творчасцю адзін аднаго. Сыракомля, прынамсі, у адказ на заўвагу ў «Tygodniku Petersburskim» пра абмежаваную для творчасці Манюшкі прастору ў Вільні зрабіў 6 лютага 1845 года ў сваім дзённіку запіс: «Але ці ж дзеля гэтага пазбаўляць нас талентаў і змушаць заўсёды зайздросціць чужым краінам? Ці ж усе нашыя знакамітасці вывозіць з краю, і так убогага? О, не! Калі ўжо хочам неверагоднага, то давайце лепш жадаць таго, каб у нас мастака разумелі так добра, як і ў іншым месцы, каб і ў нас знайшлося дастаткова справы для яго таленту і вуха і ніколі не магло наступіць тое, што мы ўсіх нашых геніяў хацелі б высылаць за мяжу. Нам бы заахвочваць іх дома, рабіць усё магчымае для развіцця талентаў, хай жывуць, твораць дзеля славы нашай зямлі і не маюць падстаў скардзіцца, што не ў іншым месцы нарадзіліся».

У тым жа 1845 годзе Сыракомля двойчы вясною ездзіў у Вільню і кожны раз наведваў тэатр — у нядзелю 24 сакавіка і ў нядзелю 28 красавіка. Адносна спектакля 24 сакавіка ў яго дзённіку з'явіўся наступны запіс: «...Потым была арыя Манюшкі, спяваная нейкай старой бабаю. Спрафанавалі Манюшку». Сыракомля быў знаёмы з Манюшкавай музыкаю да розных спектакляў, якія ставіліся на віленскай сцэне, слухаў у снежні 1848 года яго кантату «Мільда» і г.д. Пра адзін з канцэртаў, на якім дырыжыраваў кампазітар, паэт у лісце да Адама Плуга (11 студзеня 1849 г.) пісаў: «Вечарам, выпіўшы з Падбярэскім гарбаты, мы накіраваліся на канцэрт. Ён пачаўся ўжо. Манюшка стаяў ля пюпітра на ўзвышэнні (з дырыжорскай палачкаю), а далей гурт музыкаў і спевакоў. Што табе сказаць пра канцэрт? Тое, што маё сэрца не так калацілася, як поўнілася спадзевам. Я адчуваў веліч прадмета, гатовы быў сэрцам ліцвіна расплакацца на кожную сардэчную нацыянальную ноту — але да плачу, нават да ўставання валасоў на галаве (што ў мяне паказвае на эстэтычнае захапленне) не дайшло...».

Сыракомля арандаваў тады на Стаўбцоўшчыне прынёманскі фальварак Залуча і ў Вільні, дзе жыў Манюшка, бываў толькі наездамі. Праўда, гэта не перашкодзіла ім сысціся так

блізка, што Сыракомля неўзабаве стаў хросным бацькам Манюшкавага сына Яна Баптысты. У чэрвені 1854 года паэт прысвяціў свайму хросніку вершаванае вітанне з імянінамі:

Хай твае скроні ўквецяць праменні,
Як твайго бацькі, славай іскрыста,
Толькі больш грошай май у кішэні,
Яне Баптыста!

(*Пераклад Ул. Мархеля*)

У 1852 годзе, калі ўзнікла задума пра напісанне кантаты «Год у песні», паэт, атрымаўшы гасцінны прытулак у доме Манюшкавага цесця, амаль цэлае лета знаходзіўся ў сталіцы колішняга Вялікага княства. За гэты час былі напісаны і пакладзены на музыку асобныя фрагменты кантаты — «Ранішняя песня», «Песня войта», «Каласок», «Перапёлка» і «Вечаровая песня». На тым паэт і кампазітар спыніліся, новых урыўкаў кантаты больш не стваралі. Аднак у аснову пяці яе фрагментаў была закладзена такая часава-мастацкая сувязь, якая лучыць іх у песенны цыкл на тэму жніва.

Вядучы паэтычна-меладыйны кірунак цыкла адкрывае жніво як свята працы і філасофію жыцця, бо традыцыі жніўных песень працягваў не праз прамое засваенне беларускага фальклору, як у выпадку Яна Чачота, а на ўзроўні мастацкага асэнсавання або нават пераасэнсавання вясковых рэалій і іх вуснапаэтычнага ўвасаблення ў меласе. Таму, відаць, і набыла роўную з «Праснічкаю» папулярнасць «Вечаровая песня» ці, як яшчэ яе называлі, «Песня Ганны». Змест яе тычыцца ў асноўным цяжкай працы жней, але ён патрэбен дзеля аднаго радка пра дзявочую мару, якую не ў стане заглушыць ні спёка, ні стома.

Не меншай энергіяй сцвярджэння прыгожага ў жыцці напоўнены драматызаваны цыкл з чатырох песень «Лірнік вясковы». З тэкстам гэтага твора кампазітар мог пазнаёміцца яшчэ вясной 1852 года, калі паэт прыязджаў з арандаванага ім прынёманскага фальварка Залуча ў Вільню. У ім аўтар уяўляў сябе песняром-лірнікам, які вандруе па вёсках. Не ўсе здольны яго зразумець, а тым больш суперажываць з ім. Ён, пакрыўджаны, бачыць, як крыўдзяць іншых. Аднак ёсць і суцяшэнне: яго песня не памрэ з яго смерцю, рэха памножыць словы і тоны песні, разнясе іх па свеце. У сэрцы лірніка пульсуе нязгасная вера ў тое, што з часам прыйдуць да яго магілы пакланіцца людзі здалёку, а тыя, з кім ён жыў і хто яго ведаў, будуць дзівіцца, што песні іх вёскі разышліся так далёка. Яны павядуць «люд пры-

былы да цвінтарнай магілы» і, паказаўшы на курганок ля сасны, з гонарам скажуць: «Тут наш лірнік вясковы, памёр ён, граючы на ліры».

Рамантычная ўзнёслаць верша не магла не захапіць С. Манюшку, які, як і У. Сыракомля, звяртаўся ў сваёй творчасці да беларускага фальклору, выступаў за дэмакратызацыю мастацтва. Музычнае вырашэнне Манюшкам тэмы «мастак і грамадства» у цыкле «Лірнік вясковы» прымусіла яго знайсці нязвыклыя для свайго часу сродкі выразнасці. Па форме цыкл набліжаны да сольнай кантаты, мае рысы музычнага развіцця сімфанічнага тыпу, арыентаванага на выкарыстанне фальклорных прыёмаў музіцыравання (I і II часткі). У кульмінацыйнай II частцы ўвага слухачоў засяроджваецца на трагедыі мастака, незразумелага аднавяскоўцамі. Музыка гэтай часткі свядома пазбаўлена фону гучання ліры. Мясцовую праблему — своеасаблівую «маленькую трагедыю» — кампазітар выводзіць на ўзровень сусветнага абагульнення. Узнёслы фанфарны гімн народным музыкам, дый мастакам увогуле, уяўляе сабою фінал цыкла. Урачыстасць дасягаецца і амаль паланезнай святочнасцю — гэта, бадай, першая спроба такога роду ў дачыненні да жанру.

Напісаны на пачатку 1857 года, у пару сталай дружбы кампазітара і паэта, «Лірнік вясковы» ўпершыню быў выкананы 2 красавіка 1857 года на дабрачынным канцэрце Ігнатам Залескім — спеваком і кампазітарам, вучнем С. Манюшкі. Захаваліся звесткі, што песня вельмі горача ўспрымалася слухачамі на музычным вечары С. Манюшкі, які адбыўся 4 мая таго ж года ў зале дома Мюлера. Газета «Kurjer Wileński» у сувязі з гэтым пісала: «Гучныя ўсеагульныя працяглыя воплескі пасля кожнай п'есы (у ёй чатыры часткі) і шматразовыя паклікані аўтара і выканаўцы былі выяўленнем глыбокага ўражання і захаплення слухачоў і разам яскрава перадавалі тое сардэчнае ўспрыманне публікай аўтара і яго памочнікаў — артыстаў, для якога недастаткова адной дасканаласці мастацтва, а патрэбна яшчэ ўсведамленне яго высокага маральнага прызначэння...». Гэты цыкл стаў на нейкі час, бадай, ці не самым часта выканальным на канцэртах вакальнай музыкі ў Вільні. Не раз выконваў яго віленскі барытон Ахілес Банольдзі, які, дарэчы, шмат зрабіў для папулярызацыі творчасці Манюшкі ў Пецярбургу. У Вільні ж — не толькі як спявак, а яшчэ і як фундатар выданняў Манюшкавых твораў. У Ахілесавым жа выкананні гучаў «Лірнік...» і падчас канцэрта, які наладзілі віленскія аматары музыкі ў гонар кампазітара перад яго ад'ездам у Варшаву.

Тое, як балюча перажываў Уладзіслаў Сыракомля пераезд

кампазітара ў Варшаву, як неабыякава ставіўся да лёсу сябра, відаць з радкоў яго ліста да Яна Хэнцінькага (лістапад 1857 г.). «Вось у гэтую хвіліну, — пісаў паэт, — наш Манюшка, дрыжучы, чакае прысуду вашай публікі. Баюся прадказаць, але Бог ведае, ці будзе даспадобы вашай публіцы, спешчанай італьянскай музыкаю, цяжкая, класічная і адначасова хвалюючая музыка. Знаўцы пахваляць, але ці прымуць шырокія колы? Манюшка належыць патомкам — ён спакойны за суд сучасных і будучых знаўцаў, але яму трэба, каб яго адчулі, зразумелі, палюбілі. Гэта болей значыць, чым апладысменты. Варшава ў гэтую хвілю маецца вынесці прысуд, але хай памятае, што гэты прысуд будзе яшчэ перасуджаны Еўропаю і нашчадкамі. Суддзі, майце на ўвазе».

Рамансы С. Манюшкі на вершы У. Сыракомлі, як і большасць яго вакальных твораў, прызначаных для хатняга выканання, набывалі рысы хатняга рамантызму і спрыялі, хоць і не напрамую, а перш за ўсё на эстэтычным узроўні, росту нацыянальнай свядомасці. Грамадзянскія матывы — моцны бок гэтых твораў. Яны пазбаўлены нават намёку на салоннасць. Невыпадкова народнасць у вышэйшым сэнсе гэтага слова рабіла Манюшкавы творы папулярнымі адразу пасля іх публікацыі, прычым не толькі ў асяроддзі прафесіяналаў і аматараў, але і ў сялянскім асяроддзі. Патрыятычныя, нацыянальныя матывы кампазітарам не дэкларуюцца, а як быццам высвечваюцца знутры. Акампанемент у гэтых творах не ёсць просты паўтор вакальнай партыі, які ўпарадкаваны сухой рытмаарганізацыяй і гарманічнай падтрымкай спевам. Фартэпіянная партыя — заўсёды актыўны ўдзельнік, яна стварае музычна-паэтычную карціну нароўні з выразна-разнастайнай вакальнай партыяй, дарэчы, заўсёды выгадна апісанай для голасу.

У выбары сюжэтаў для песень Манюшка нярэдка спыняўся на тых тэкстах Сыракомлі, якія мелі тэматычную блізкасць да твораў Яна Чачота. Тут і жніво, і вяселле, і вайна, і жывая прырода, якая нават гаворыць («Каласок», «Перапёлка»). Але калі Чачот амаль ніколі не выступае ў сваіх творах каментатарам, дык Сыракомля, здымаючы сацыяльную напружанасць (рамантычнае ўвасабленне жанру ідыліі), засяроджваецца на ўнутраным свеце ідэалізаваных герояў. Гумар, дабрыня, спагада, суперажыванне — усё гэта ў поўнай меры дае магчымасць раскрыць выканаўцам (і спеваку, і піяністу) музыка Манюшкі. Акрамя таго, яна дазваляе быць адначасна і героем выканання, і каментатарам падзей — надзвычайны эфект!

Ведаючы тэматычную арыентацыю кампазітара ці, так бы

мовіць, яго сімпатыі да твораў, заснаваных на вуснапаэтычнай традыцыі, рэдакцыя газеты «Kurjer Wileński» (1860, № 12), дзе была змешчана «Народная песня з ваколіц Вільні» у польскім перакладзе Сыракомлі, выказала пажаданне, што добра было б, калі б яна «магла знайсці месца ў «Хатнім спеўніку Манюшкі». Але гэтага не здарылася, хоць да творчасці Сыракомлі кампазітар звяртаўся яшчэ неаднойчы. «Гімн да Пана Езуса» ён напісаў незадоўга перад сконам.

Сувязь паміж землякамі ніколі не парывалася. «Я разумею, — пісаў паэт у канцы снежня 1860 года ў лісце да Манюшкі, — што Варшава павінна мець свае церні, але і адчуваю, што ў ёй вальней дыхаць грудзям мастака. З часу, як ты нас пакінуў, ты даў столькі бліскучых сведчанняў мастацкага жыцця, што нам і гонар перад Еўропаю, і сорам за сябе, што знакамітага земляка мы раней не умелі цаніць».

### «Сялянка» Станіслава Манюшкі і Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча

З часу першай пастаноўкі ў Нясвіжы оперы «Агатка, або Прыезд пана» Яна Давіда Голанда на лібрэта Мацея Радзівіла прайшло амаль 70 гадоў. 9 лютага 1852 года прэм'ера «Сялянкі» не проста адрадзіла, а ўзняла жанр беларускага зінгшпіля на якасна новы ўзровень. Аб'ядноўвае «Сялянку» з «Агаткай» не толькі жанравая прырода, але і мараль твора, якая сцвярджае, што «памешчыку трэба быць уважлівым і добразычлівым да сваіх падданых, а тыя ў сваю чаргу павінны любіць «добрага пана». Інакш кажучы, тая ж ідэя класавай згоды, характэрная для грамадскай думкі Вялікага княства Літоўскага канца XVIII стагоддзя. І ўсё ж, калі твор Я. Голанда і М. Радзівіла мы ўспрымаем як прыгожую казку, амаль чыстую фантазію, дык «Сялянка» поўная дэталей і абставін, што малююць «не проста «Ідылію», але ідылію з кантрастамі — праўдзівы абразок жыцця прыгоннай беларускай вёскі 40-х гг. мінулага стагоддзя».

Двухмоўе твора — тое, на што звярнуў увагу яшчэ У. Сыракомля, — не проста беларуская рэалія 40-х гадоў XIX стагоддзя. Не за кошт прыніжэння іншага народа, іншай культуры, а за кошт захаплення сваімі каштоўнасцямі (моваю, фальклорам) адбываецца працэс уваходжання беларускай мовы і музычнай культуры ва ўжытак мастацкага асяроддзя. У «Сялянцы» няма ні антыпольскіх, ні антысеміцкіх, ні яшчэ якіх-небудзь «анты...» матываў. Франкаманія ж Лятальскага хутчэй прад-

мет іроніі для акаляючых, але ніяк не з'ездлівага сарказму, зня-вагі французскай мовы і культуры.

Што тычыцца С. Манюшкі, дык калі ўспомнім: «Вершы я браў з найлепшых нашых паэтаў...», то несумненна, ён далучаў В. Дуніна-Марцінкевіча да тых, каго так называў. «Сялянка» — адна з чатырох сумесных прац паэта і кампазітара. У лістападзе 1985 года адзін з рукапісаў «Сялянкі» В. Дуніна-Марцінкевіча быў выяўлены А. Мальдзісам у брытанскім архіве. Той рукапіс мае назву «Розная міласць бывае». «Ідылія» ж — гэта жанравае вызначэнне п'есы, што вынесена ў яе назву.

Немагчыма не заўважыць вельмі прыкметны другі сэнс Манюшкавага слова «наш». У вуснах беларускай інтэлігенцыі XIX стагоддзя гэтае слова мела даволі выразны краёва-патрыятычны беларускі (ліцвінскі) сэнс. Як тут не ўспомніць назву зборніка літургічных спеваў таго ж Манюшкі — «Песні нашага касцёла» ці, напрыклад, пачатак ліста У. Сыракомлі да Я. Хэнціньскага ў Варшаву: «Вось у гэтую хвіліну наш Манюшка, дрыжучы, чакае прысуду вашай (польскай) публікі». І ў больш позні час гэтае слова азначала для беларусаў тое самае: газеты «Наша доля», «Наша ніва».

Сёння мы маем магчымасць прааналізаваць толькі два музычныя фрагменты з «Сялянкі» (астатні музычны матэрыял лічыцца пакуль згубленым), але і яны даюць уяўленне пра творчую лабараторыю аўтараў. Вось «Ах!» — арыя Банавентуры Выкрутача. Дакладна вядома, што гэты нумар належыць пяру С. Манюшкі. Стары лавелас Банавентуры надзелены Дунінным-Марцінкевічам рытмікай накшталт частушкі: гоп-ца-дры-ца-ум-ца-ца-ца — вось сутнасць нашага героя. У каханні ён прызнаецца маладой, выхаванай, хай сабе і вясковай, дзяўчыне. Таму для прызнання выбірае (дзякуючы Манюшку) форму паланеза: маўляў, мы не толькі па паходжанні, але і па выхаванні шляхціц — мы манеры ведаем. Прыгаршча фаршлагаў, раскіданых па музычным тэксце, надае мелодыі прысмак жорсткага надрыву. У выніку ўзнікае абагульненне вобраза — пустабрэх. Па-мастацку створаная аўтарамі атмасфера гумару адчуваецца даволі выразна. Вось яшчэ адзін нумар — сцэна Навума Прыгаворкі — тыповая беларуская народная сцэна. Цяпер яна ўжо ўзноўлена кампазітарам Уладзімірам Кур'янам для пастаноўкі спектакля «Ідылія» ў тэатры імя Я. Купалы. Сцэна Навума — бліскучая стылізацыя, абразок, фрагмент вясковага свята. Заслуга аўтараў у тым, што яна абсалютна натуральна ўпісваецца ў развіццё акадэмічнага спектакля.

Вернемся да ідэі класавай згоды, якая, як згадана вышэй, аб'ядноўвае «Сялянку» з «Агаткай». Гэта ідэя, што жыла разам з ідэяй адраджэння Рэчы Паспалітай, была пахавана ў момант паражэння паўстання 1863—1864 гадоў. Разгром паўстання развеяў ілюзіі супольнага, у межах агульнай дзяржавы, жыцця з польскім народам. Беларускі народ стаў на самастойны шлях развіцця. Наступная хваля яго адраджэння ўжо не «хварэла» ні русізмамі, ні паланізмамі. Але ці варта нам забываць творчасць выдатных сыноў Беларусі толькі таму, што ўжо недзе яны прызнаны як нацыянальныя таленты? Гэта ж толькі пацвярджае іх выдатнасць. Мы не збіраемся нікога ні ад каго аднімаць. Наша задача — ўсвядоміць для сябе, што беларускі народ такі ж таленавіты (неталенавітых народаў не існуе), як і астатнія. У яго мінулым былі адметныя творцы, чыя спадчына павінна вывучацца і ўвайсці ў мастацкае жыццё Бацькаўшчыны.

## Оперная творчасць Станіслава Манюшкі

Кампазітар дэбютуе ў 1839 годзе «Начлегам на Апенінах» (лібрэта А. Фрэдры) — аперэтаю ў адной дзеі, прэм'ера якой адбылася ў Вільні намаганнямі аматарскіх сіл. Далей, на працягу наступных васьмі гадоў, стварае яшчэ дзесяць аперэт і опер, сярод якіх толькі адна («Новы Дон Кіхот») была пастаўлена ўпершыню не ў Беларусі, а ў Польшчы (Варшава, 1842 г.). Чатыры сярод гэтых дзесяці твораў напісаны на лібрэта класіка беларускай літаратуры XIX стагоддзя Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча («Чарадзейная вада» — 1840 г.; «Спаборніцтва музыкантаў» — 1840 г.; «Рэкруцкі набор» – 1842 г.; «Сялянка» — 1842 г., пастаноўка 1952 г.). Трэба заўважыць, што знаныя пісьменнікі Крашэўскі і Фрэдра, да якіх Манюшка звяртаўся ў 1840 годзе, «...не адгукнуліся на прапановы... яшчэ занадта малавядомага кампазітара, каб яны змаглі даверыцца ягоным сілам у такой рызыковай галіне, як опера». Што тычыцца Дуніна-Марцінкевіча, дык тут было ўсё наадварот. Ініцыятыва зыходзіла ад пісьменніка. Мінскае і віленскае мастацкае асяроддзе спрыялі выхаванню пачуцця патрыятызму, жаданню стварыць оперу, якая б адгукнулася мастацкімі сродкамі на грамадскія надзённыя пытанні. І яна з'явілася. 1 студзеня 1848 года віленскімі аматарамі была выканана ўпершыню двухактавая версія «Галькі». А ў 1854 годзе ў Вільні была ажыццёўлена першая тэатральная пастаноўка славутай оперы. У тым жа годзе яшчэ і ў Мінску.

«Прыемна спрачацца са знаўцам музыкі. Гэта самы най-

вышэйшы, які толькі магчымы, саліруючы мужчынскі голас. Спявае, а табе здаецца, што на небе б'юць срэбныя званы. Ад іх і да самай нізкай актавы — вось табе і аднастайнасць... Што, сумна?.. А вось гэта што?

Эдмунт праспяваў музычны сказ, мяккі голас пяшчотна закалаціўся ў сцены пакоя і сціх.

Ну, гэта адзін дурань не ведае. Пачатак славутай арыі «Галькі».

Гэта, хлопча, песня: «Стала б ты калінай, абняў бы цябе я...», — гэты фрагмент рамана Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» пакінем без каментарыяў. Каментар патрэбны да стылістычнага напрамку, якому належыць «Галька».

Эстэтычны напрамак італьянскай оперы канца XIX стагоддзя — верызм. Па першых операх гэтага напрамку («Паяцы» Р. Леанкавала, «Сялянскі гонар» П. Масканьі) можна вылучыць яго асаблівасці: кароткасць выкладання — усяго адна дзея, разбітая на две часткі, фактычна, дзве кароткія дзеі; асноўнымі героямі трагічнай оперы, што было немагчыма ў папярэднюю эпоху, сталі прадстаўнікі з нізоў грамадства. Раней такое магло быць толькі ў камічных жанрах. Успомнім нават геніяльныя творы Вэрдзі («Травіята») і Бізэ («Кармэн»), дзе фігуруюць не багі і не цары, а людзі паўсвецкія ці з нізкіх саслоўяў, якія былі, мякка кажучы, холадна ўспрыняты заўсёднікамі оперных тэатраў з ліку «шляхетнага» саслоўя. Далей, магутная хваля пачуццяў, якая выяўлялася праз вакальныя сродкі, што знаходзяцца амаль на мяжы магчымасцей чалавечага голасу. Ці не гэтыя адметнасці вылучаюць «Гальку» на час яе стварэння ў гісторыі оперы? Пытанне рытарычнае, бо кожны пісьменны музыкант адкажа на яго станоўча. Так што канстатуем: верызм як эстэтычная сістэма — з'ява беларуская па нараджэнню і італьянская па выніку руху.

У мінска-віленскія гады Манюшка стварыў для Варшавы шэраг опер: «Яўнута» (1850), «Бэтлі» — на французскае лібрэта Э. Скрыбы і Малесвіля (1852), «Фліс» (1852), «Яўнута» — на сюжэт Францішка Князьніна, выдатнага беларускага лацініста і польскамоўнага паэта XVIII стагоддзя з Віцебска. Сюжэт яго «Цыганаў» ўпершыню выкарыстаў для сваёй оперы яшчэ М. Казімір Агінскі ў 70-я гады XVIII стагоддзя. У XIX стагоддзі напісалі свае оперы на гэты сюжэт Ф. Лессэль (1815) і Ф. Мілецкі (1822).

Сучасны беларускі слухач не мае ўяўлення пра оперу «Фліс» («Плытагон»). Таму звернемся да меркавання бясспрэчнага музычнага аўтарытэта — Рыгора Раманавіча Шырмы: «...Манюш-

ка ў сваёй творчасці не мог пазбегнуць уплыву беларускага народнага меласу. У песнях і асабліва ў оперы «Фліс» («Плытагон») такое багацце народных інтанацый, што, слухаючы, адчуваеш, нібы прысутнічаеш недзе пад Слуцкам, або каля Мінска на ўрачыстым свяце беларускіх сялян». Працу плытагонаў Манюшка ведаў не толькі са слоў. «Зрэдку для адпачынку ён адпраўляўся ўніз па Віліі ці Нёману з плытагонамі. Разам з гэтымі мужнымі людзьмі Манюшка перажываў небяспечныя моманты пры пераправах праз віры, маліўся падчас буры, спяваў песні ля кастра».

Бясспрэчна, цэнтральнае месца сярод опер, напісаных Манюшкам у варшаўскі перыяд, займае «Страшны двор» (1865). Цудоўная, поўная гумару, шляхецтва, найпрыгажэйшай музыкі опера была ўспрынята польскім грамадствам не проста прыхільна — яе прэм'ера ператварылася ў патрыятычную маніфестацыю. Таму царскія ўлады забаранілі манюшкаўскі шэдэўр пасля шостага паказу. Яно і зразумела — і года не прайшло пасля паўстання, задушэнне якога балюча ўспрымалася беларускімі і польскімі дэмакратычнымі коламі. Прэм'ера «Страшнага двара» магла, паводле меркавання ўлад (і не беспадстаўна), спрацаваць як дэтанатар абуджэння новага грамадскага выбуху. Аналаг у нядаўняй (італьянскай) гісторыі быў — менавіта так закончылася рымская, здаецца, прэм'ера оперы «Трубадур» Дж. Вэрдзі. Аж да 1877 года не з'яўляўся «Страшны двор» на сцэне. Манюшка яго ўжо не пачуў.

Хто не захапляўся чароўнымі мелодыямі арый Мечніка, Ганны, Стэфана (з курантамі) ці фінальным мазурам! Але мала хто ведае, што і ў гэтай партытуры Манюшка выявіў сябе ліцвінскім патрыётам. Справа ў тым, што асноўныя героі оперы Стэфан і Збігнеў вяртаюцца дадому пасля перамогі над туркамі ў бітве пад Венаю. Такім чынам, Стэфан і Збігнеў вяртаюцца дадому — на Беларусь. Калі ж яшчэ больш канкрэтна, дык на Міншчыну. Прататыпам жа «Страшнага двара» для Манюшкі паслужыў дзядзькаў Смілавіцкі замак. Яшчэ ў дзяцінстве, наведваючы родных у Смілавічах, Стасік пачуў паданне пра старадаўнія куранты гэтага замка. Стагоддзі ніхто не заводзіў той гадзіннік, але час па часе ён пачынаў іграць сам. Увасабленнем той, з дзяцінства ў душу запаўшай легенды, сталі ў оперы арыі Скалубы і Стэфана (з курантамі). «Нешта няўлоўна роднаснае элегічным паланезам Агінскага адчуваецца ў мелодыі старадаўніх курантаў», — справядліва падкрэслівае В. Рудзіньскі. Любімым паэтам Станіслава Манюшкі ўсё яго жыццё быў Адам

Міцкевіч. Не напісаўшы на яго сюжэты ніводнай оперы, кампазітар у «Страшным двары» выкарыстаў асобныя фрагменты «Пана Тадэвуша», адкуль, напрыклад, «...запазычана сварка паляўнічых (другая карціна другога акта). Дзяўчаты, прыслухоўваючыся да яе, перакідваюцца жартамі, напяваюць вясёлую песеньку пра зайца, які сядзіць на мяжы і смяецца з няўмелых паляўнічых». Як Адам Міцкевіч пасля паражэння паўстання 1830—1831 гадоў адгукнуўся на тую рэвалюцыю «Панам Тадэвушам», так і Манюшка канцэптуальна паўтарыў здзейсненае Міцкевічам, але ўжо пасля паражэння паўстання 1862—1863 гадоў. Толькі так, напэўна, і мог мастак удыхнуць у душы суайчыннікаў надзею на перамогу ў будучым.

Яшчэ ў дзяцінстве захапіўся Манюшка сюжэтам трагедыі К. Дэлавіля «Парыя». Здзейсніў жа задуманае — напісанне на гэты сюжэт оперы — толькі ў 1869 годзе. «Індускіх парый ён у думках бачыў апранутымі ў порты беларускіх сялян і польскія сярмягі». Маэстра схаваў мясцовыя рэаліі пераносам дзеі ў Індыю. Прыём вядомы і не новы, але варшаўская публіка не зразумела кампазітара і холадна ўспрыняла новую оперу, бо чакала нешта падобнае на «Страшны двор». Манюшка перажываў, хварэў і ў хуткім часе раптоўна памёр.

*Літаратура*

*Манюшка С.* Ліра мая для спеваў. Рамансы і песні на словы Уладзіслава Сыракомлі. Мн., 1998.

*Манюшка С.* Песні з-пад Нёмана і Дзвіны на тэксты Яна Чачота. Мн., 1996.

*Манюшка С.* Свіцязянка. Балада на словы Адама Міцкевіча. Мн., 1998.

Музыкальный театр Белоруссии. М., 1990.

*Rudzinski W.* Stanisław Moniuszko. Kraków, 1955.

*Шырма Р.* Песня — душа народа. Мн., 1972.

*Уладзімір Мархель, Віктар Скарабагатаў*

# Аляксандр РЫПІНСКІ (каля 1811– каля 1900)



акручастасць, а часам і блытанасць сцяжынак, якімі мусілі хадзіць нашы пачынальнікі XIX стагоддзя ў пошуках адкрыцця, здабытку і сцвярджэння існавання асобнай беларускай літаратуры і культуры, выразна адлюстроўвае няпросты жыццёвы шлях Аляксандра Рыпінскага. Жыццяпіс яго да нашага часу належным чынам не вывучаны (нават гады нараджэння і смерці дакладна невядомы).

Тут спрычынілася і не апошнюю ролю адыграла супярэчлівае гучанне некаторых публікацый, што складаюць шматгранную спадчыну гэтага неардынарнага дзеяча — паэта, фалькларыста, перакладчыка, этнографа, публіцыста, мемуарыста, выдаўца, мастака і славіста. А таксама і фатографа — першага сярод нават карэнных жыхароў туманнага Альбіёна (куды толькі ні закіне лёс беларусаў!) — прадстаўніка дзівоснай і рарытэтнай для таго часу прафесіі.

Дзейсная, прадпрымальная натура Рыпінскага зрабіла яго яшчэ ў Францыі акадэмікам — сапраўдным членам Акадэміі прамысловасці, сельскай гаспадаркі, рамёстваў і гандлю. А часамі яшчэ яму, паводле ўласнага выказвання, даводзілася быць «адразу аўтарам, наборшчыкам, карэктарам, рэдактарам, друкаром, брашуроўшчыкам, нават кнігаром, апрача абавязку прафесара. Зашмат гэтага ўсяго было для мяне аднаго, і дзякуй Богу, што яно мяне не прыдушыла». А на тытульным лісце сваёй вельмі рэдкай кнігі «Некалькі прынагодных вершаў» (Лондан, 1857; асобнік яе захаваўся ў Польскай бібліятэцы у Парыжы)[1] паэт пазначыў: «Напісаў Аляксандр Радван Рыпінскі, аўтар «Сяржанта» і «Двух адкрыццяў». Прафесар матэматыкі, малявання і мовазнаўства».

Вось чаму Алесь Рыпінскі назаўсёды застанецца ў кагорце пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, хоць да апошняга часу ён так і не прадстаўлены ў гісторыі нашага прыгожага пісьменства асобнай персаналіяй.

Аляксандр Радван Рыпінскі нарадзіўся каля 1811 года на Віцебшчыне (як мяркуе даследчык Генадзь Кахановускі, хутчэй за ўсё ў Бялосцу пад Віцебскам або ў Кукавячыне ці Стайках былога Віцебскага павета)[2]. Бацька Фелікс быў мясцовым старостам. Зрэшты, Віцебск таксама можа прэтэндаваць на званне «малой радзімы» Рыпінскага, пра што засведчыў сам аўтар у прысвячэнні да адной з кніг. Род Рыпінскіх (герба Радван) паходзіў са старадаўняй беларускай шляхты, радавод якой бярэ пачатак з XVI стагоддзя. Род той праслаўлялі асобы палітычныя, рэлігійныя, вайсковыя. З далёкіх прашчураў пісьменніка можна назваць асвечанага казнадзея-духоўніка — Багдана-Тэафана Рыпінскага (у сярэдневяковых фаліянтах часцяком ужывалася форма *Рпіньскага*) — полацкага праваслаўнага архіепіскапа і адначасова ўладыкі віцебскага і мсціслаўскага (памёр у 1588 годзе; праўда, калі ў сакавіку 1843 года сярод польскіх эмігрантаў будуць збірацца подпісы пад адозвай, скіраванай супраць пераходу Тэафіла Мірскага ў праваслаўе, Алесь далучыць свой абуральны голас). Адным жа з эпіграфаў «гістарычнага спеву» А. Рыпінскага «Нашы перамагаюць!» (Лондан, 1857) пастаўлена лацінскае выслоўе: «Dum Gallia tremens stabit, Rossiam Turcus deballabit, Polonia existabit!" з аўтарскім тлумачэнем: «Выслоўе, чутае мною яшчэ з вуснаў майго дзядулі, Фларыяна, старосты балдышаўскага».

Усведамленне, што за тваімі плячыма стаіць кагорта знакамітых продкаў, якая ўласным розумам і талентам узвышала і са зброяй у руках калісь адстойвала рубяжы Вялікага княства Літоўскага, дапамагала пазней Рыпінскаму-эмігранту вытрымліваць удалечыні ад радзімы шматлікія жыццёвыя перашкоды і не пахіснуцца верай у свой народ.

Творчыя схільнасці дапытлівага Алеся выявіліся ўжо падчас навучання ў Віцебскай гімназіі, дзе юнак захапіўся фальклорам. На тытульным аркушы рукапіснага зборніка свайго школьнага сябра Гайкі з Пнёва ён пакінуў вершаваны запіс. Наогул, гадаванцы гімназіі вылучаліся сваёй краязнаўчай зацікаўленасцю, змяшчаючы ў рукапісным гімназічным часопісе запісы народных свят, абрадаў, прымхаў, забабонаў. Падчас вучобы гімназісту Рыпінскаму пашчасціла бачыць знакамітых асоб — школьнага інспектара Яна Ходзьку,

сакратаром у якога служыў легендарны філамат Тамаш Зан. Пад уплывам слыннага паэта, сябра Адама Міцкевіча, юны Алесь складаў першыя ўласныя трыялеты.

Паспяхова скончыўшы Віцебскую гімназію, Алесь у 1829—1830 гадах вучыцца ў недалёкай вайсковай афіцэрскай «акадэміі" — Дынабургскай школе прапаршчыкаў. «Дынабург я ведаю як Парыж»,[3] — прызнаецца пазней, ужо на эміграцыі ў Францыі, юнак, які не захацеў стаць кадравым вайскоўцам. Там, у Дынабургу, лёс сутыкнуў будучага вайскоўца з асобай неардынарнай — Вільгельмам Кюхельбекерам, слынным паэтам-дзекабрыстам. Зняволены царскай уладай у Дынабурскай крэпасці, муры якой у 1794 годзе паспыталі карцечы мяцежнага паўстанца і кампазітара Міхала Казіміра Агінскага, Вільгельм Карлавіч (Дынабург для яго стаў сумнавядомым Шлісельбургам) у час адведак яго будучымі афіцэрамі, калегамі Рыпінскага па школе прапаршчыкаў А. Пангоўскім і Т. Скрыдлеўскім, расказваў юнакам пра святых новапакутнікаў Расіі — сваіх паплечнікаў-дзекабрыстаў. Несумненна, гэтыя лічаныя сустрэчы, вартыя універсітэцкіх семестраў, паўплывалі на станаўленне светапогляду будучага літаратара[4].

Падчас турэмных спатканняў (рэжым іх у XIX стагоддзі дзіўным чынам розніцца ад «раскладу» сучасных месц зняволення) будучыя афіцэры дапамагалі Кюхельбекеру перапісваць яго літаратурныя творы (у прыватнасці, трагедыю «Шуйскія»), прыносілі з сабою тагачасныя літаратурныя выданні. Самім жа падлеткам-літвінам шукаць духоўны ідэал, рамантычныя вобразы барацьбітоў, паслядоўнікаў Тытана або Праметэя, дзесьці у заморскім краі не было ніякай патрэбы. Вось ён, перад уласнымі вачыма! Калі неўзабаве ў сваім дзённіку Вільгельм Кюхельбекер згадае імя беларускага першадрукара з Полацка («Францыск Скарына пераклаў у пачатку 16 стагоддзя ўсю Біблію на беларускі дыялект з Вульгаты») — думаецца, што запіс той ад 1 лістапада 1832 года ўзнік у пісьменніка не толькі пад уплывам артыкула К. Калайдовіча «Іаанн Фёдараў, першы маскоўскі друкар» («Вестник Европы», 1813).

Размовы пра літаратуру і культуру азёрнай Віцебшчыны, куды ўваходзіць і старажытная Полацкая зямля, вяліся ў цытадэлі Дынабургскай крэпасці паміж юнакамі і вязнем-дзекабрыстам не раз. Вільгельм Карлавіч, бясспрэчна, апавядаў і пра сустрэчу ў Веймары з аўтарам «Фауста» у лістападзе 1820 года, і пра свае публічныя выступленні ў Парыжы, калі яго,

маладога настаўніка пецярбургскай гімназіі, запрасіў у далёкае турнэ знатны саноўнік Аляксандр Львовіч Нарышкін. Гофмайстар запрасіў адукаванага маладзёна ў якасці асабістага сакратара, паколькі Кюхельбекер выдатна ведаў замежныя мовы. Там, у Парыжы, Вільгельм як бы выйшаў ■ ценю мецэната і сам прачытаў лекцыю (на французскай мове) пра сучасны палітычны і літаратурны стан у Расіі. Адпаведна даносу сакрэтнага агента (захаваўся у асабістых паперах цара Аляксандра I), першую публічную прамову выхаванец Царскасельскага ліцэя пачаў наступнымі словамі: «Нягледзячы на дэспатызм і ўвесь уціск жорсткага ўрада, геній народа развіваецца; усе намаганні задушыць яго застануцца марнымі». Ён з жартам мог прыгадаць, як напрыканцы выступу, разгарачаны ўласнай прамовай, зрабіў некалькі неасцярожных рухаў, збіў свечку, шклянку з вадой і ўслед сам паляцеў ■ катэдры. Адзін стары якабінец падтрымаў яго словамі: «Паберажы сябе, юнача! Вы патрэбны сваёй радзіме!»

Памяць пра выдатнага прадстаўніка расійскай дэмакратычнай думкі Рыпінскі захавае на ўсё жыццё. Пазней, калі ён ужо сам апынецца ў эміграцыі, у тлумачэннях да першай уласнай кнігі «Беларусь» з захапленнем і удзячнасцю прыгадае: «Моцнае і загартаванае сэрца, трэба думаць, білася ў ягоных грудзях, калі вусны, гэты непасрэдны выразнік нашых пачуццяў, ніколі ні перад кім не вымавілі слова скаргі на такую суровую долю».

Таму калі ў лістападзе 1830 года ў Варшаўскім княстве пачалося паўстанне, полымя якога неўзабаве перакацілася і на беларускія землі, дваццацігадовы афіцэр Рыпінскі прыняў у ім удзел. І не на баку царскага войска, у якім служыў і загады якога, скіраваныя на задушэнне вызвольнага руху, павінен быў выконваць, а папоўніў шэрагі паўстанцаў. У празе змагання за свабоду роднай зямлі Алесь быў не адзінокі: толькі ў Дзісенскім, Свянцянскім, Вілейскім і Ашмянскім паветах паўстала каля 10 тысяч змагароў. Напачатку аптымістычнае, як кожнае паўстанне, няроўнае змаганне пікамі ды стрэльбамі супраць узброенага гарматамі і парахавымі карабінамі рэгулярнага войска хутка згасла. Паўплывалі тут не толькі адмыслова вышкаленыя гвардзейскія палкі і адборныя кавалерыйскія эскадроны, што ўтрымліваліся ваяўнічай імперыяй на вялізных абшарах, але і мясцовы люд, які не падтрымаў шляхецка-дэмакратычны рух за сацыяльнае і нацыянальнае адраджэнне зямлі, паглынутай Расійскай імперыяй у выніку трох

грабежных падзелаў канца XVIII стагоддзя. Таму калі лістападаўскае паўстанне дагарала, Рыпінскі, каб не апынуцца ў сібірскіх капальнях, у складзе арміі генерала Гелгуда перайшоў прускую мяжу і падаўся ў далёкую эміграцыю.

Спачатку ён накіраваўся ў Францыю і апынуўся ў Авіньёне, а пазней надоўга затрымаўся ў Парыжы, дзе цесна пасяброваў з вялікім земляком, таксама эмігрантам-выгнаннікам, Адамам Міцкевічам, іншымі слыннымі сучаснікамі, прадстаўнікамі грамадска-культурнага жыцця і літаратуры Ю. Нямцэвічам, С. Канарскім, А. Плятарам, І. Леляверам.

Публікацый А. Рыпінскага дапаўстанцкага перыяду ў друку не выяўлена. Хаця, бясспрэчна, выхаванец Віцебскай гімназіі рос актыўным дапытлівым юнаком. Заняткі літаратурай былі распачаты ім дзесьці ў 17-гадовым узросце, пра што ўскосна сведчыць адна з пазнейшых публікацый перакладных балад А. Пушкіна, дзе пад паэтычнымі радкамі стаіць памета: «З расійскай, Аляксандра Пушкіна. Над возерам у Дубровах. Кукавячын. 1827 г. Над Дзвіной». Трэба разумець, баладу Пушкіна пераклаў на польскую мову сам Рыпінскі. Таму ёсць падставы сцвярджаць: уласныя літаратурныя ўзоры Алесь займеў да пачатку лістападаўскага паўстання. (Вяршынны ў творчым здабытку Рыпінскага паэтычны зборнік «Паэзія» распачне верш «Магутная ўлада гукаў» з подпісам «Віцебск, 1827 год, у школе».) Паказальна, што ўжо 20-гадовым юнаком, будучы паўстанцам, інсургент Рыпінскі ў адной з сутычак з непрыяцелем у красавіку 1831 года страціў ранец з фальклорнымі запісамі. Пра незваротную страту ён потым неаднойчы шкадаваў, прызнаючыся, што страта моцна ўскладніла яму падрыхтоўку першай кнігі «Беларусь».

Аднак перш чым апрацоўваць уласна фальклорна-літаратурна-этнаграфічныя матэрыялы, Рыпінскаму давялося актыўна супрацоўнічаць з Таварыствам зямель літоўскіх і рускіх (беларуска-украінскіх), рыхтаваць нататкі-мемуары пра лістападаўскае паўстанне — свае і сваіх сяброў-паплечнікаў па барацьбе. «Водгалас польскай рэвалюцыі 29 лістапада 1830 года перуном праімчаў над агромністай прасторай, што раскінулася між берагамі Віслы і Дзвіны. Рэха, адбітае ад цудоўных муроў Варшавы, пры спрыяльным ветры, хутка прынесла вестку на берагі пагранічнага Нёмана, і Літвін, сквапна схапіўшы яе, радасна пераказваў навіну з вуснаў у вусны. Не прамінуў і тыдзень, як гэтае ж рэха азвалася ў мурах Дынабурга...», — такі пачатак вырваўся ў Рыпінскага з-пад рукі ў адным з мемуарных

блакнотаў. Успаміны пісаліся хутка, на гарачую просьбу Літоўскага (чытай таксама: і Беларускага) таварыства, з надзеяй, што вось-вось яны будуць апублікаваны. «Не сумняваюся, каб пішучы хутка, я штосьці не прамінуў тут, аднак, спяшаючыся як найхутчэй пераслаць рукапіс на рукі Таварыства, я не меў нават часу перачытаць напісанае», — дапісаў пачынаючы мемуарыст напрыканцы апошняй, 40-й старонкі ўспамінаў, просячы «шаноўных сяброў Таварыства зверыць напісанае з дасланымі папярэдне матэрыяламі на адрас Генрыха Дмахоўскага і Язэпа Страшэвіча» — актыўных членаў згаданага Таварыства.

Таварыства зямель Літоўскіх і Рускіх узнікла ў Парыжы пасля паражэння паўстання і складалася ў асноўным з нашых землякоў, якія апынуліся на чужыне. Наогул, пераважнасць выхадцаў з Літвы-Беларусі сярод «польскіх» эміграцыйных асяродкаў не мела нічога дзіўнага, паколькі прадстаўнікі ўласна польскіх земляў маглі, па часе, патаемна ці адкрыта вярнуцца на сваю гістарычную радзіму — хаця б у Львоў або пад Кракаў, што належалі Аўстрыі; беларусаў-літвінаў лёс такой магчымасці пазбавіў.

Літоўскім таварыствам кіравалі пераважна нашы землякі Леанард Ходзька, граф Адам Плятар, Адам Міцкевіч, Іаахім Лелявель. У звароце да суайчыннікаў, прынятым 20 жніўня 1832 года, адзначалася: «Пасля адчайнага змагання... якім мы заявілі свету пра несмяротнасць Польшчы, ад нас чарговы раз адабралі перамогу, аплочаную ахвярамі і мужнасцю; аднак няма сілы, здольнай нас знішчыць. Наша нацыянальная эміграцыя, гэтак як і само паўстанне, з'яўляецца бесперапынным працягам нашага палітычнага жыцця. Наша эміграцыя прадстаўляе тую каштоўную плынь, што бярэ пачатак ад Барскай канфедэрацыі, якая на працягу шасцідзесяці чатырох гадоў перажыла розныя перыяды, штораз набіраючы сілы, і яна павінна стаць гарантам адраджэння нашай дарагой Бацькаўшчыны; таму гэтую лучнасць нельга разрываць. Тлеючую іскру нашага жыцця не кожны паасобку бадзяга, але ўсе мы разам павінны шанаваць, усе мы разам павінны ўзвышаць. Шматлікія Таварыствы, заснаваныя Вамі, пераконваюць, што гэтая праўда пачута. Учулі яе Літвіны і Русіны, якія разам з намі пакінулі родную краіну. І вось Літвіны з Русінамі заснавалі Літвінска-Русінскае Таварыства, каб прамовіць усяму свету, што Русь і Літва падзяляюць лёс Польшчы, што няма Польшчы без Літвы і Русі, што Русь і Літва ёсць Польшча».



9. Зак.2059

Рэчпаспалітаўскі дэмакратызм, вельмі характэрны для пазнейшых дзесяцігоддзяў у асяродках «краёвых» літаратараў, мацнеў і шырыўся дзякуючы новым эміграцыйным хвалям, адна з якіх прыпала на пачатак 1830 гадоў. Пры ўсім пачуцці еднасці, жадання зліцца ў адну моцную краіну, каб супрацьстаяць заваёўнікам, новыя эмігранцкія сілы выдатна ўяўлялі ўласную адметнасць і не жадалі згубіць яе нават у далёкай Францыі. Вельмі паказальны момант: адзін з сшыткаў успамінаў А. Рыпінскага падпісаны «Аляксандр Рыпінскі, беларус» (Avignon, dnia l-go Sierpnia 1832 r, Alexander Rypinski, Białorusin). Успаміны датуюцца 1832 годам — факт беспрэцэдэнтны у гісторыі самавызначэння нацыянальнасці прадстаўніком нашага народа ў першай палове XIX стагоддзя. Да «Дудкі беларускай» Францішка Багушэвіча заставалася больш паўвека. І зборнік Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча «Дудар Беларускі» з'явіўся значна пазней (1857). Праўда, 7 сшыткаў успамінаў пра лістападаўскае паўстанне 1830—1831 гадоў на Беларусі (пераважна Вілейскі, Дзісенскі, Браслаўскі паветы), аўтографы якіх аўтару гэтых радкоў пашчасціла гартаць у Парыжы, — не ўсё аўтарства Рыпінскага, а ягоных сяброў па зброі, аднак апрацаваныя Рыпінскім[5].

Апрача мемуарыстыкі, Рыпінскі дапамагаў чым мог іншым аўтарам, што апынуліся з ім на далёкай чужыне і спрабавалі пражыць з пісьменніцкага заробку. «Шырэйшае апісанне Дынабурга маёр знойдзе ў каментары на французскай мове да кнігі, выдадзенай Страшэвічам пад назвай «Эмілія Плятэр». Заўвага тая мая ўласная, ласкава пададзеная мною пану Страшэвічу, а сам невялікі твор напісаны быў нябожчыкам А. Пяткевічам, што павесіўся», — растлумачыць былы дынабургскі афіцэр невядомаму нам сённяя маёру. І дадасць не без гонару ўжо прыведзенае вышэй: «Дынабург я ведаю як Парыж».

«Як Парыж» А. Рыпінскі ведаў не толькі мясцовасць над Дзвіною, але і іншыя ваколіцы, вёскі і мястэчкі Віцебшчыны. «Гэта ўсё я ведаю, як уласную кішэнь», — так з поўным правам ён мог сказаць пра ўсю Беларусь. 21 лістапада 1839 года, у 9-ю гадавіну паўстання, у далёкім Парыжы на пасяджэнні Польскага літаратурнага таварыства Алесь Рыпінскі чытае даклад-рэферат пра беларускія народныя песні, які пазней выдаў асобна, дапоўніўшы гісторыка-літаратурнымі і этнаграфічнымі звесткамі, апісаннямі і характарыстыкамі народных абрадаў, выслоўяў, музычнай культуры (пераважна

Віцебшчыны): «Беларусь. Колькі слоў пра паэзію гэтага простага народа той нашай польскай правінцыі; пра яго музыку, спевы, танцы...»[6]. У аўтарскім уступе, вельмі асабістым і эмацыянальным, адзначалася роля найпершых рамантыкаў — аўтара «Літоўскіх балад» і непараўнальнай «Гражыны» Адама Міцкевіча, а таксама Язэпа Багдана Залескага з яго «Валынскімі русалкамі» ды «Украінскімі думамі», што праклалі шлях новаму, рамантычнаму гасцінцу ў літаратуры, па якім уся моладзь «рушыла наперагонкі да нацыянальных скарбаў уласнага пісьменства».

Невялікая манаграфія адкрывалася раздзелам «Спевы». Кампазіцыю кнігі ў нейкім сэнсе падказаў Адам Міцкевіч — вялікі прыхільнік роднай песні. У выканаўчай манеры сялянскай дзяўчыны А. Рыпінскі адзначае шмат замілавання і пачуцця, бо яна «захапляла думку нават самой сваёй прастатой». Самастойны, хоць і невялікі раздзел аўтар адвёў так званым «Гістарычным песням», зазначаючы са шкадаваннем, што яны вельмі распаўсюджаны не толькі на Беларусі, але яшчэ больш у суседняй Украіне, аднак іх мала на родным Падзвінні і таму згадаць па памяці багата ўзораў ён не можа.

Да й у Слуцку на рыначку,
Да піў Байда гарэлачку;
Турэцкі цар наяжджае
Маладога Байду намаўляе...

Выгадаваны па сутнасці ў антыімперскай, антыпрыгонніцкай атмасферы, А. Рыпінскі адным з першых айчынных фалькларыстаў шырока падаў песні чалавека працы, прызнаючыся, што яму асабіста «дарагія песні рабочыя, якія чуваць і ўдзень, і вечарам, і ноччу». Нават сярод жартоўных песень аўтар звяртае ўвагу чытача на смелую сатырычную песню. Смелую, бо скіраваную, на думку даследчыка, супраць самога цара Мікалая Палкіна:

Чалавеча Мікалаю!
Гдзе ж я тэбе поховаю?!
Поховаю на могілі:
Што б по тобэ волкі вылі!!!

Пры гэтым праводзіцца паралель паміж ананімнай

беларускай народнай песняй і пушкінскімі радкамі: «Лишь только на престол — тотчас накуролесил // Сто двадцать в кандалы — и пятерых повесил.»

Кніга «Беларусь» задумвалася і паўставала як нізка лекцый пра невядомы ў Еўропе далёкі родны край. Лекцыі тыя былі прачытаны ў славутым Калеж дэ Франс, паколькі першая частка будучай кнігі «якраз і пісалася ў форме лекцыі, якая адрасавалася адпаведнай катэгорыі слухачоў». За аснову аўтар узяў прыгожае пісьменства, культуру ў шырокім паняцці, імкнучыся паказаць перад асвечаным чытачом агромністы пласт народнай культуры.

Адраджэнне роднага краю бачылася Рыпінскаму ў непарыўнай еднасці з Польшчай. Падобныя настроі шырока кружлялі ў асяродку тагачаснай эміграцыі. Для прыкладу можна працытаваць радкі з «Польскага катэхізіса», на якім трымалася не адна хваля польскіх эмігрантаў мінулага стагоддзя: «Польшча зараз з'яўляецца пераважна краінай для гандлю і цывілізацыі. Была пара ўладарства Польшчы сілаю яе непераможнай і слаўнай зброі, аднак шляхі гасподнія неспаведныя і цяпер ёй належыць уладарыць над тымі краінамі сілаю розуму, асветы і гандлем. Зірніце на Англію: гэта нацыя выключна гандлёвая, мацнейшая ў свеце і ўладарніца ўсяго свету. Англія на моры — Польшча на сушы. У Англіі калоніі — усё яе багацце, але яны аддаленыя, у той час як у Польшчы ёсць свая Індыя: Украіна і Літва; калоніі гэтыя складаюць з Польшчай адно цэлае і, пры розуме і веданні справы, ніколі ў матэрыяльных адносінах не будуць ад яе адарваны».

Таму не дзіўна, што працу сваю Рыпінскі прысвячаў «першаму з беларускіх сялян, які спачатку навучыцца чытаць, а потым гаварыць і думаць па-польску». Аўтар фальклорна-этнаграфічнага даследавання не ўяўляў, што праз нейкія два дзесяцігоддзі «простаму люду той нашай польскай правінцыі» (словы з падзагалоўка кнігі А. Рыпінскага) будуць прысвячацца паэтычныя зборнікі, навуковыя даследаванні вучоных, музычныя творы кампазітараў. Погляды Рыпінскага на Беларусь як на правінцыю Польшчы (першапачатковыя) сведчылі пра абмежаванасць яго дэмакратычных перакананняў.

Але не толькі ў Парыжы 1840 год абазваўся пра Беларусь. У самой сталіцы расійскага царызму Рамуальд Падбярэскі пачынае выдаваць часопіс «Rocznik Literacki" («Літаратурны штогоднік», 1840—1847), дзе змяшчае матэрыялы пра Беларусь, у тым ліку і свае ўласныя. А найбольш, чым

вызначыўся Пецярбург для славянства, — над Нявою пабачыў свет несмяротны «Кабзар» Тараса Шаўчэнкі. У тыя гады ў суседнім славянскім краі, які звыкла называлі Маларасіяй, пачала распаўсюджвацца іншая геаграфічная назва — Украіна, чаму найперш спрыяла творчасць вялікага Шаўчэнкі. Услед за ім «Граматыка» М. Куліша пачала ўводзіць тэрмін «Украіна». Аналізуючы «хахламанію», як толькі ні абзывалі ўкраінцаў: «канаводы», «безумцы», паколькі тыя хочуць «разбурыць блаславёны парадак рэчаў».

Кніга Рыпінскага ствாралася ў цяжкай атмасферы задушэння лістападаўскага паўстання. Належала мець у сэрцы вялікую любоў да родных каранёў, каб верыць у іх непераможную, жыццядайную моц. У тое, што эпоха Мікалая Палкіна, усяго расійскага паравання мінецца, а з ёю прыйдзе і вызваленне. Аднак вось які парадокс: ці не з'яўленне кнігі Алеся Рыпінскага «Беларусь» справакавала шырокавядомы царскі ўказ пра забарону ўжывання самога наймення краіны! Вельмі ж блізка тут усё сышлося: выхад у Парыжы этнаграфічнай кніжыцы і царская забарона ў Санкт-Пецярбургу 21 ліпеня таго ж 1840 года. Забарона ўжываць назвы Беларусь і Літва выконвалася згодна з указам Сената, калі папярэдні праект, дзе згадваліся «губернии Белорусские и Литовские под сими наименованиями» самадзержац перакрэсліў і загадаў перапісаць указ «с поименованием губерний, каждой отдельно Витебскою, Могилевскою, Виленскою и Гродненскою». Прычым не паленаваўся ўласнаручна надпісаць: «Правила сего держаться и впредь, никогда иначе не прописывая, как поименно губернии». Таму ў самым цэнтры Еўропы, у адной са знакамітых яе сталіц, людзі маглі даведацца пра нашу радзіму больш, чым тыя, хто заставаўся жыць на берагах Дняпра і Нёмана пад ярмом. Там жа, ў Парыжы, у College de France Адам Міцкевіч пачынае чытаць курс лекцый (1840—1844) пра славянскія літаратуры, дзе непаўторна і дакладна ўзважвае моц і хараство роднага слова, змалку чутага над Нёманам.

Насуперак тыранскім пастановам дзве зоркі ўзышлі над Беларуссю ў лета Божае тысяча васемсот саракавое: выйсце ў свет кнігі Рыпінскага «Беларусь» і нараджэнне ў фальварку Свіраны на Віленшчыне будучага класіка нашай літаратуры Францішка Багушэвіча. Беларуская зямліца спакваля, патаемна аднаўлялася (ці як кажуць па-вучонаму, рэгенеравалася), напаўнялася жыццядайнымі крыніцамі. Услед за Рыпінскім адзін з кіраўнікоў парыжскага Таварыства зямель Літоўскіх і

Рускіх Іаахім Лелявель выдае ў Познані на мове арыгінала першы Літоўскі Статут (1841). Так спакваля, далёка ад Бацькаўшчыны, практычна пачыналася яе Адраджэнне.

У 1846 годзе Аляксандр Рыпінскі пераехаў у Лондан, дзе заснаваў вольную эміграцкую друкарню, выдаючы пераважна ўласныя паэтычныя творы на польскай мове з уласнымі ілюстрацыямі («Прарок» — 1851, «Паэзія» — 1853, «Сяржант-філосаф» — 1854).

Замежныя даследчыкі і аўтары біяграфічных нататак пра Рыпінскага дамінуючым матывам яго пераезду з Францыі менавіта ў туманны Альбіён называюць зачараванасць перакладамі А. Міцкевіча твораў Байрана на польскую мову: захоплены імі, пачынаючы літаратар таксама вырашыў дасканала авалодаць англійскай мовай, каб перакладаць аўтара «Чайльд-Гарольда». Аднак у Англіі Рыпінскі перакладае на англійскую ўласную паэзію, томікі якой неаднаразова выходзілі на берагах Тэмзы з сярэдзіны 1850 гадоў.

Сярод усіх выданняў, што пабачылі свет у эміграцыі, для айчыннай літаратуры адно з іх успрымаецца своеасабліва. Гэта рамантычная балада «Нячысцік», напісаная Рыпінскім у 1853 годзе па-беларуску. Яна — адна з першых у беларускай літаратуры, створаная да з'яўлення класікаў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Францішка Багушэвіча. У аснову твора пакладзены фальклорныя ўзоры — няхітры сюжэт пра «ілгуна Мікіту».

Таму ўжо сто лет будзе —
Старыя помняць людзе,
Скажа вам і Апанас:
Жыў-быў Мікіта ў нас,
На самым канцы сяла —
Там яго хата была.

На думку маладога крытыка нашаніўскай пары Сяргея Палуяна балада «Нячысцік» у адносінах да Рыпінскага «паказвае крок уперад, бо перш за ўсё польскай мовай напісана адна толькі прадмова, а тэкст жа ўсёй балады беларускі. Другое — мова беларуская ў ёй даволі чыстая і прыгожая. Думаецца, што з гэтых прычын яна мела вялікі попыт, бо змест яе вельмі прымітыўны і наіўны». Наогул, у творчасці Рыпінскага пераважала маральна-этычная праблематыка, яго паэзіі ўласці-

ва дыдактычная накіраванасць, апісальна-апавядальны стыль. Мараль балады найвыразней гучала ў яе заключных радках:

Нішто ўжо ім не грэх,
Бог і цэркаў пайшлі у смех!

Менавіта да А. Рыпінскага стасуецца слушнае меркаванне, што цяжкую ношу беларускага працаўніка мусілі ўзяць на сябе тыя, хто б сваёй творчасцю ў іншай літаратуры і культуры, пэўна, не пакінуў бы і следу. Аднак пры спробе апублікаваць нават такі бяскрыўдны твор на радзіме аўтара чакала балючае расчараванне: 3 лістапада 1853 года Рыпінскі звярнуўся ў Санкт-Пецярбургскі цэнзурны камітэт з прапановай «перадрукаваць беларускую баладу ў любой друкарні Расійскай імперыі». Адпаведна ж дакладу, пададзенаму ў снежні таго ж 1853 года прафесарам Ізмаілам Сразнеўскім, «кніга гэтая не можа быць ухвалена да друку расійскай цэнзурай».

У 1854 годзе зямляк-наваградзец адвакат Ігнат Яцкоўскі, сумесна з якім Алесь заснаваў уласную вольную друкарню, ці не беручы прыклад з кампаньёна, які на ўласных успамінах напісаў і апублікаваў у Парыжы кнігу «Беларусь», паспрабаваў стварыць свае аўтабіяграфічныя мемуары «Аповесць з майго часу» (Лондан, 1854), дзе прыведзены першы (і адзіны!) прыжыццёвы водгук пра творчасць легендарнага паэта Крашына Паўлюка Багрыма. Кніга Яцкоўскага стала каштоўным сведчаннем літаратурна-культурнага жыцця Літвы сярэдзіны мінулага стагоддзя. Сімвалічна, што і да яе меў непасрэднае дачыненне Алесь Рыпінскі. Таму сцверджанне «Аляксандр Рыпінскі выдаў на эміграцыі некалькі кніг» (Г. Кісялёў) недакладнае. На самай справе іх выйшла больш дзесятка (пераважна ў Лондане). Адмысловае даследаванне кнігавыдавецкай дзейнасці дало б падставу казаць, што іх было некалькі дзесяткаў. У адной толькі Польскай бібліятэцы ў Парыжы захоўваецца каля 20 кніжак Рыпінскага, выдадзеных ім ва ўласнай друкарні ў Лондане (пераважна 1850 гады).

Увесь час жыцця ў эміграцыі Рыпінскі чакаў амністыі. Яны аб'яўляліся перыядычна, але былі лакальнымі. Напрыклад, ужо напачатку 1840 гадоў «в ознаменование бракосочетания его императорского высочества государя наследника цесаревича» бацька-імператар дараваў ураджэнцам Мінскай губерні «прикосновенность к делам эмисаров». Роўна праз

дзесяць гадоў ад пачатку «лонданскай эміграцыі», 24 траўня 1856 года, у Расійскай імперыі была абвешчана шырокая амністыя колішнім «злачынцам» — удзельнікам паўстання 1830—1831 гадоў на землях Беларусі-Літвы. Але толькі ў 1859 годзе Алесь вярнуўся на Радзіму, у дом свайго брата Віктара Рыпінскага, які валодаў маёнткам Кукавячын Віцебскага павета. Тут распачаўся новы этап творчасці літаратара. Як з сумам прызнаваўся экс-паўстанец, «мая нястройная ліра вышчарбленая то вайною, то выгнанніцкімі прыгодамі і доўгім бадзяннем па свеце», таму «голас мой цяпер падобны да выцця». Замест арыгінальнай творчасці пісьменнік ці не ўсю сваю энэргію скіраваў на збіральніцтва ўзораў беларускага мастацкага слова.

Пасля вяртання на Бацькаўшчыну Рыпінскі стаў заўзята запісваць усе вядомыя літаратурныя творы, што бытавалі ў шляхецкім і сялянскім асяроддзях. На «малой радзіме» ён паспеў сабраць літаратурныя узоры айчыннага прыгожага пісьменства, без якіх гісторыя беларускай літаратуры XIX стагоддзя выглядала б бядней. Яго ацалелыя ў копіях «Рукапісы» па праву можна параўноўваць са слыннай «Хрэстаматыяй» Б. Эпімаха-Шыпілы.

Ты ж сам, суседзька, захацеў,
Штоб я і табе запеў;
Ну, я табе і пяю —
Прымі песеньку маю!
Можа, гэта не песнь? Каша!?
Ды ўсё ж такі свая — наша!

Так занатуе пасля вяртання ў «Альбоме» А. Вярыгі-Дарэўскага зямляк Рыпінскі. Замест аўтарскага подпісу — «Кукавячын, 1860.» Зайздроснае жыццялюбства, энэргічнасць, ясны розум і працаздольнасць вызначалі характар жыцця пісьменніка да самых апошніх дзён. На Віцебшчыне, дажыўшы амаль да 90-гадовага веку, Алесь Рыпінскі памёр каля 1900 года, усімі забыты і закінуты.

*Спасылкі*

[1] *Kilka piesni okolicznosciowych.* Napisal Aleksander Rypiński, autor Sierzanta i Dwoch objawien. Profesor matematyki, rysownictwa i języków, w Anglii. Londyn, w odtloczni Napiszcy, 1857. 15 s. Ded. rkp, autora dla Bibl. Pol. w Paryzu. 13420. Нацыянальная бібліятэка Францыі валодае ўсяго адным выданнем Рыпінскага (кніга «Bialorus», Парыж, 1840), гэтаксама

як і нашы буйнейшыя бібліятэкі Мінска (але не арыгіналам, а ў выглядзе ксеракопій).

[2] *Каханоўскі Г. А.* Беларуская фальклярыстыка 30—40-х гадоў XIX ст. (Я. Баршчэўскі, І. Храпавіцкі, А. Рыпінскі, Р. Зянькевіч, Л. Юцэвіч) // Каханоўскі Г. А., Малаш Л. А., Цвірка К. А. Беларуская фальклярыстыка: Эпоха феадалізму. Мн., 1989. С. 154.

[3] Бібліятэка Чартарыскіх (Кракаў). Сігнатура 5550. Арк. 1573.

[4] Меркаванне, што «Рыпінскі сядзеў у Дынабургскай крэпасці» разам з В. Кюхельбекерам, пашыранае сярод некаторых айчынных літаратуразнаўцаў, у даследаваннях апошніх гучыць анекдатычна (Лазарук М. А. Беларуская літаратура ў сярэдзіне XIX ст. // Гісторыя беларускай літаратуры. XIX — пачатак XX ст. С. 36).

[5] Пазней яны часткова былі выдадзены Ф. Вратноўскім, аднак прозвішча Рыпінскага ў змесце зборніка зусім адсутнічае. «Zbior pamiętników o pawstaniu w r. 1831.» Wydany przez Felixa Wrotnowskiego. Paryz, 1835.

[6] *Rypiński Aleksander.* Białoruś. Kilka slow o poezji tego prostego ludu tej naszej poiskiej prowincji; o jego mizyce, śpiewach, tańcach etc.; Czytano na posiedzeniu towarzystwa literackiego polskiego w Paryzu r, 1839, m-ca listopada 21 dnia. Paryż, 1840.

*Літаратура*


Бібліятэка Чартарыскіх (Кракаў). Сігнатура 5550.

*German F.* Aleksandr Rypiński. Etnografia Polska, 1962. T. 6.

*Каханоўскі Г. А.* Беларуская фальклярыстыка 30—40-х гадоў XIX ст. (Я. Баршчэўскі, І. Храпавіцкі, А. Рыпінскі, Р. Зянькевіч, Л. Юцэвіч) // Каханоўскі Г. А., Малаш Л. А., Цвірка К. А. Беларуская фальклярыстыка: Эпоха феадалізму, Мн., 1989.

*Лазарук М. А.* Беларуская літаратура ў сярэдзіне XIX ст. // Гісторыя беларускай літаратуры. XIX — пачатак XX ст.

*Палуян С. А.* Рыпінскі // Homan. 1916. № 6.

*Rypiński Aleksander.* Białoruś. Kilka slow o poezji tego prostego ludu tej naszej polskiej prowincji; o jego muzyce, śpiewach, tańcach etc.; Czytano na posiedzeniu towarzystwa literackiego polskiego w Paryzu r. 1839, m-ca listopada 21 dnia. Paryż, 1840.

*Тарэлкіна Н. В.* Аляксандр Рыпінскі // Беларускія пісьменнікі. Бібліяграфічны слоўнік. Мн., 1995. Т.5.

Zbior pamiętnikow o powstaniu w r. 1831. Wydany przez Felixa Wrotnowskiego. Paryż, 1835.


*Язэп Янушкевіч*

# Казімір ЧАРНОЎСКІ (1791–1847)



«Беларускай энцыклапедыі»: «Падводная лодка, баявы карабель, здольна апускацца і працяглы час дзейнічаць у падводным становішчы... Першы эскіз П.л. зрабіў Леанарда да Вінчы. Спробы пабудовы П.л. зроблены ў Вялікабрытаніі галандскім вучоным К. Ван Дрэбелем (1620), у Расіі Я. Нікaнавым (1724), у Паўн. Амерыцы Д. Бушнелем (1776), у Францыі Р. Фултанам (1801), у Германіі В. Баўэрам (1850). Мінскі дваранін К. Г. Чарноўскі прапанаваў праект метал. П.л. з перыскопам (1829), які рэалізаваў К. А. Шыльдэр (1834)».

Апошнім часам мы ўсё больш пільна ўзіраемся ў сваю гісторыю, спрабуем асэнсаваць і зразумець: хто мы, адкуль пайшлі, што нясём у свет, які наш гістарычны набытак. І таму ўяўляецца справядлівым, што ў гэтым спазнанні саміх сябе мы аддаём належнае нашым славутым землякам, выхадцам з беларускай зямлі, якія дастойна працавалі не толькі дзеля карысці роднага краю, але і засведчылі сваю таленавітасць у многіх замежных краінах. Ідзе натуральны працэс вяртання забытых імёнаў. Да такіх неардынарных асоб адносіцца і выдатны беларускі вынаходнік першай чвэрці XIX стагоддзя Казімір Гаўрылавіч Чарноўскі.

Ішла восень 1829 года. Расійскі імператар Мікалай I усё яшчэ не мог забыцца пра сумнавядомыя падзеі 14 снежня 1825 года, калі на Сенацкую плошчу расійскай сталіцы выйшлі ўзброеныя гвардзейцы на чале з афіцэрамі, каб змусіць цара змяніць жыццё і дзяржаўны лад у Расіі. Даўно ў турмах, цытадэлях і крэпасцях, на вечнай высылцы і катарзе «вучацца жыццю» няў-

дачнікі-дзекабрысты, а іх кіраўнікі пакараны смерцю. Аднак час ад часу на стол імператара кладуцца лісты вязняў з просьбамі выбавіць з няволі.

Можна ўявіць, што, беручы ў рукі зварот мінскага двараніна Казіміра Чарноўскага, Мікалай чакаў убачыць у ім гэткую ж просьбу, бо пасланне было адпраўлена з турэмнай камеры Петрапаўлаўскай цытадэлі. Але неспадзяваным і нечаканым аказаўся яго змест. Вязень згадваў пра нядобрай памяці 1825 год. Аднак не пра паўстанне дзекабрыстаў пісаў ён, а пра сваё незвычайнае вынаходства, якое нараджалася менавіта ў той час.

Прозвішча Чарноўскага было знаёма цару. Тры месяцы таму назад Мікалай I загадаў змясціць бунтаўшчыка ў камеру-адзіночку Петрапаўлаўскай крэпасці. Звычайна адтуль вязні сыходзілі толькі ў «лепшы свет» альбо даймалі самадзержца прашэннямі аб літасці і спагадзе. Гэты ж ганарысты і дзівакаваты мінскі дваранін прасіў спрыяння не ў справе выбаўлення са зняволення, а ў пабудове падводнай лодкі.

«У 1825 годзе я вынайшаў падводны карабель, — пісаў вязень цару. — Калі будзе неабходны матэрыял і дастатковая колькасць рабочых і патрэбных людзей, за 40 дзён магу збудаваць падводную лодку даўжынёй некалькі сажняў, у якой можна плаваць пад вадой, апускацца на марское дно...».

Не маючы неабходнай тэхнічнай адукацыі, належных умоў для творчага пошуку былы студэнт і ўдзельнік тайнага «Нацыянальнага патрыятычнага таварыства» 38-гадовы Казімір Гаўрылавіч Чарноўскі прапаноўваў цару свае тэхнічныя распрацоўкі.

Турэмны вынаходнік, як і цар, добра ведаў, што ўвесь расійскі флот, у тым ліку ваенны, да гэтага часу з'яўляецца драўляным. Не скарыстоўвалі тады метал для пабудовы нават надводных суднаў. Чарноўскі ж для падводнага плавання раіць збудаваць лодку з металу. Аўтар ідэі прыводзіць пераканаўчыя доказы выгаднасці такога праекта. Ён сцвярджае, што прапанаваная ім лодка будзе мець здольнасць плаваць як на паверхні мораў пад ветразямі, так і з выкарыстаннем вёслаў пад вадой. Піша, што лодка можа быць карыснай нават для збірання на дне рознай марской жыўнасці, жамчужын...

Цар чытаў далей: «І ў вайсковых мэтах яна будзе мець карысць, бо можна будзе пад вадой падплыць пад варожыя караблі і знішчыць іх альбо рабіць вылазкі ў нечаканых для непрыяцеля месцах...».

Прапанова Казіміра Чарноўскага імпанавала цару. Ён ра-

зумеў, што для падтрымання баяздольнасці расійскага флоту, для перамог на моры патрэбны не толькі новыя караблі, але і новыя ідэі. Цару паведамлялі, што замежныя вучоныя і вынаходнікі спрабуюць збудаваць падводнае судна, якое мела б большыя перавагі ў вядзенні марскіх бітваў. І вось з'яўляецца рэальная магчымасць апярэдзіць іх. Вязень Петрапаўлаўкі выказвае гатоўнасць за 40 дзён (!) збудаваць сапраўдную баявую падводную субмарыну. Просіць толькі стварыць яму неабходныя ўмовы. Ды менавіта гэтага і не хоча – а мо баіцца? — цар, бо давядзецца вызваліць Чарноўскага з турэмнага зняволення. А ён жа – дзяржаўны злачынец, належаў да тайнага таварыства, якое мела на мэце змаганне з царом.

Самадзержац аддаў прапановы Казіміра Чарноўскага на спецыяльную экспертызу. Было відавочна, што праект, калі дапусціць магчымасць яго рэалізацыі, запатрабуе грунтоўнай дапрацоўкі, дэталёвага і дакладнага апісання, удакладнення магчымасцей узбраення лодкі, яе здольнасці плаваць і весці баявыя дзеянні. А пакуль спецыялісты будуць аналізаваць прапановы вязня, цар здолее больш грунтоўна ва ўсім разабрацца, каб прыняць неабходнае рашэнне. Ды не ведаў Мікалай, што і яго закруцяць важныя дзяржаўныя справы, і царскае чынавенства не надта паспяшаецца. У гэтай бюракратычнай мітусні пра праект Чарноўскага надоўга забыліся. А ён жа так чакаў спрыяльнага вердыкту, так спадзяваўся на магчымасць вызвалення з-пад турэмнай варты...

Хто ж ён – гэты дзёрзкі вынаходнік, які замест карысных спраў для Расійскай імперыі напачатку заняўся палітыкай і антыдзяржаўнай дзейнасцю, далучыўшыся да тайнай арганізацыі, а цяпер вось зноў згадаў пра патрэбу працаваць на карысць Расіі? Галоўны расійскі жандар Аляксандр Бенкендорф мог бы расказаць шмат цікавага, бо асабіста займаўся справай былога студэнта-медыка, сам калісьці дапытваў яго.

Нарадзіўся Казімір Гаўрылавіч Чарноўскі ў 1791 годзе ў маёнтку Карытніца Ігуменскага павета (цяпер Чэрвеньскі раён) Мінскай губерні ў сям'і памешчыка. Бацька меў магчымасць даць сыну неабходную хатнюю адукацыю. Вучнем Казімір аказаўся здольным, выдатна авалодаў польскай і французскай мовамі. Наяўнасць сродкаў, прыродная дапытлівасць і прага новых уражанняў паклікалі яго ў падарожжа па замежных краінах. Магчыма, тады захапіўся малады Казімір морам. Гэта наогул не было дзіўным для беларусаў, якія хоць і не мелі ўласнай марской прасторы, але не чураліся флоцкай службы, былі і вы-

датнымі мараходамі, і нават здатнымі суднабудаўнікамі. Вось некалькі прыкладаў.

У 1609 годзе, калі ішла вайна Рэчы Паспалітай са Шведскім Каралеўствам за панаванне на Балтыйскім моры, вялікі гетман і віленскі ваявода Ян Караль Хадкевіч праявіў выдатныя палкаводчыя здольнасці. Яго войскі не толькі занялі горад Пярну, вызначыліся пад Рыгай, але атрымалі ці не адзіную ў беларускай гісторыі марскую перамогу. На захопленых у ворага і купленых караблях яны выйгралі марскую бітву каля гарадка Саліс, што на ўзбярэжжы Балтыйскага мора.

Не адно марское падарожжа, нават кругасветнае, здзейсніў пры выкананні сваіх дыпламатычных абавязкаў першы расійскі консул у Японіі ў 1852 – 1855 гадах, вучоны-мовазнавец, даследчык Далёкага Усходу наш зямляк Іосіф Антонавіч Гашкевіч, які паходзіў з сям'і святара з Мінскага павета.

Шмат увагі марской справе надавалі ўплывовыя не толькі ў Вялікім княстве Літоўскім, але і ў Польскім каралеўстве нясвіжскія князі Радзівілы. У іх летняй рэзідэнцыі ў Альбе былі выкапаны спецыяльныя каналы, мелася нават флатылія караблёў, існавала кадэцкая школа, дзе вучылі сапраўдных матросаў, вяліся вучэбныя марскія бітвы, ганаровым гасцям дэманстравалася ўзяцце Гібралтара.

Ды з усіх марскіх старонак беларускай гісторыі найбольш значнай з'яўляецца крычаўская. З 1785 года і да канца XIX стагоддзя ў Крычаве існавала суднаверф. Вядомы расійскі дзяржаўны і ваенны дзеяч граф Рыгор Пацёмкін, якому належаў у той час беларускі горад, кіраваў будаўніцтвам ваеннага і гандлёвага флатоў на Чорным моры, узвядзеннем многіх новых рускіх гарадоў. Калі ў 1778 годзе стваралася Херсонскае адміралцейства, там працавала каля тысячы беларусаў з уладанняў Пацёмкіна. Збудаваная паводле яго загаду Крычаўская суднаверф прызначалася для забеспячэння расійскага ваеннага флоту на Чорным моры лесам, парусінай, канатамі, іншымі неабходнымі матэрыяламі, а таксама для будаўніцтва рачных суднаў. Было створана нават Крычаўскае аддзяленне Херсонскага адміралцейства. І ўжо літаральна праз год пасля адкрыцця верфі з дока на Сожы выйшла першая рачная флатылія з 13 яхтаў і 12 ластавых суднаў. Прызначалася яна для самой Кацярыны II, якая праз год павінна была падарожнічаць у Наваросію. Судны маглі ісці як пад ветразямі, так і на вёслах...

Відаць, беларускія марскія традыцыі захапілі і Казіміра Чарноўскага. Так ці інакш, а ён сур'ёзна пачаў хінуцца да мар-

скога суднабудавання, цікавіўся навінкамі ў гэтай справе. Калі бываў за мяжой, нават там не забываўся на сваё захапленне. У час знаходжання ў Францыі, напрыклад, ён даведаўся пра намаганні тамашніх вынаходнікаў стварыць падводную лодку. Яго гэта зацікавіла. Але сёе-тое не спадабалася. Ён лічыў нявартым будаваць такі карабель з дрэва, не падтрымліваў прапанаваны спосаб пагружэння лодкі. А вось ідэя сканструяваць сваю ўласную субмарыну пасля гэтага яшчэ больш умацавалася.

У 1824 годзе Казімір Чарноўскі пераязджае з бацькоўскіх уладанняў у Пецярбург. Яго вядзе туды жаданне атрымаць вышэйшую медыцынскую адукацыю. Але, напэўна, не толькі гэта. Магчыма, быў таемны спадзеў на рэальнае здзяйсненне даўняй мары аб пабудове падводнай лодкі, на плённасць пошукаў у расійскай сталіцы, дзе і навука добра развіваецца, і ўмовы для творчай працы не параўнаеш з карытніцкімі. Казімір становіцца студэнтам Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі, аднак не пакідае сваіх суднабудаўнічых планаў.

На той час у расійскай сталіцы лунаў дух вольнасці. Рускія дваранскія рэвалюцыянеры-дзекабрысты ўжо рыхтаваліся да выступлення супраць самадзяржаўя і прыгонніцтва. Вольналюбівыя памкненні захапілі і Казіміра Чарноўскага. Ён далучыўся да дзейнасці Нацыянальнага патрыятычнага таварыства. І адразу трапіў у поле зроку жандараў. Нехта падказаў ім пра недазволеную дзейнасць студэнта. У 1829 годзе Чарноўскага арыштавалі, канфіскавалі ўсе яго рэчы, у тым ліку і тое, што датычала пабудовы падводнай лодкі. Расійскі шэф жандараў Аляксандр Бенкендорф, які сам вёў допыт мяцежнага беларуса, прапанаваў, як здавалася яму, выдатнае выйсце. Неабходна было прызнаць сваю віну і стаць тайным платным агентам, каб не трапіць у турму. Але Чарноўскі адмовіўся. За такія паводзіны апынуўся ў галоўнай цытадэлі для палітвязняў – Петрапаўлаўскай крэпасці. Каб не звар'яцець ад удушлівай цішыні камеры-адзіночкі, Казімір Гаўрылавіч звярнуўся да свайго даўняга захаплення. Без усялякіх кніг, дапаможнікаў і тэхнічных прыстасаванняў, без сваіх ранейшых напрацовак таленавіты самавук па памяці зрабіў першае апісанне будучай самаходнай падводнай субмарыны, аднавіў чарцяжы, абгрунтаваў праект будаўніцтва. Ён прапаноўваў збудаваць лодку даўжынёй 5 сажняў[1], вышынёй і шырынёй 4 аршыны[2].

---

[1] Адзін сажань раўняецца 2,1336 метра.

[2] Адзін аршын раўняецца 0, 7112 метра.

Гэтая унікальная праца і лягла ў згаданы жнівеньскі дзень на стол расійскага самадзержца. Безумоўна, акрамя прагматычнага жадання пасадзейнічаць умацаванню абарончай магутнасці Расійскай імперыі Чарноўскім рухаў і ўласны інтарэс. Вязень меркаваў, што цар зразумее сутнасць яго памкненняў, ацэніць незвычайны талент і працавітасць і вызваліць з турэмнага зняволення. Дваранскі гонар не дазваляў яму прасіць аб гэтым адкрыта. Ён меркаваў, што карысць ад прапановы пераважыць яго колішнюю палітычную дзейнасць, якую прызналі шкоднай. Ды не спраўдзіў Мікалай І спадзяванняў Казіміра Гаўрылавіча, з суровай крапасной вязніцы не вызваліў. Змусіў яшчэ раз даказваць справядлівасць навуковых вышукаў, зноў абгрунтоўваць слушнасць і мэтазгоднасць свайго вынаходства.

Як ужо згадвалася, працу Чарноўскага аддалі на «высочайшее» заключэнне. Чарцяжы і апісанне трапілі да П. Базена – генерал-маёра корпуса інжынераў шляхоў зносін. Невядома, якія таемныя разлікі і намеры меў гэты высокі чыноўнік, але да вынаходства Чарноўскага аднёсся двуяка. Ён, бясспрэчна, разумеў навуковую каштоўнасць праекта і яго практычнае значэнне для расійскага ваеннага флоту. Але, відаць, асабістая зайздрасць таксама адыграла сваю ролю. П. Базен вышукваў рэальныя і ўяўныя памылкі, ахвоча падкрэсліваў іх. Аднак не мог не прызнаць, што хоць падводная лодка не адпавядае ўсім патрэбным параметрам, ды «вынаходства яе робіць гонар аўтару (ці ведаў высокапасадны чыноўнік, хто гэты аўтар і дзе ён зараз знаходзіцца? – **А. Б.**) і дае падставы меркаваць, што яго прылежнасць і практычныя доследы маглі б быць карыснымі для далейшых даследаванняў і правядзення рашучых пошукаў дзеля ажыццяўлення і ўдасканалення падводнага суднаходства ў Расійскай імперыі». Не выключана, што ў Базена магла ўзнікнуць спакуса самому ўзначаліць будаўніцтва прапанаванай Чарноўскім падводнай лодкі.

Цар не прыняў станоўчага рашэння, а вязень не дачакаўся жаданай падтрымкі. Яго даймала неразуменне: чаму царскія чыноўнікі і нават сам імператар марудзяць, не зважаючы на неабходнасць павышэння баявых здольнасцей расійскага флоту? Няўжо руска-турэцкая вайна не патрабуе ваеннай, у тым ліку марской, перавагі Расіі? І ўжо ніяк не мог даўмецца, за што ў кастрычніку 1829 года яго перавялі ў яшчэ больш страшную вязніцу – Шлісельбургскую крэпасць, пазбавіўшы не толькі спадзеву на вызваленне, але нават магчымасці працаваць. Толькі

амаль праз год успомнілі пра вынаходства, загадалі паправіць праект у адпаведнасці з заўвагамі П. Базена.

І зноў узяўся Чарноўскі за справу жыцця ў прамым сэнсе гэтага слова. Нявольнік каменнай адзіночкі пачаў займацца апісаннем і ўдасканаленнем свайго вынаходства. Ён упарта ўзнаўляў чарцяжы (зрабіў іх ажно дванаццаць), даваў новыя тлумачэнні. Працаваў з зайздроснай выніковасцю і таленавітым прадбачаннем. Столькі цікавых ідэй насілася ў галаве, што паспявай толькі класці іх на паперу. І ён спісваў старонку за старонкай, чарціў і разлічваў. Балазе, хоць сякія-такія чарцёжныя прылады выдалі. Апісанне падводнага судна склала 64 старонкі, спісаныя дробным почыркам. Аднак у Чарноўскага адсутнічала ўсялякая тэхнічная літаратура, не было магчымасці зверыць свае пошукі з напрацоўкамі іншых. Былі б пад рукой навуковыя вышукі папярэднікаў, і праца пайшла б спарней.

Беларускі вынаходнік разумеў, што ён не першы спрабуе ажыццявіць зайздросную мару многіх таленавітых і апантаных розумаў. Шмат стагоддзяў вучоныя і самавукі многіх краін намагаліся падступіцца да стварэння такога марскога апарата, які здолеў бы сам рухацца пад вадой, што азначала б бясспрэчныя перавагі ў зацятых марскіх бітвах.

Не адставалі ад гэтай справы і расіяне. Яшчэ за пятроўскім часам падмаскоўны селянін Яфім Ніканаў, які працаваў на суднабудаўнічай верфі, прапанаваў збудаваць «патайное судна». Пётр І ідэю падтрымаў, і ў 1724 годзе першая падводная субмарына была спушчана на ваду – таленавіты рускі селянін на шмат гадоў апярэдзіў замежных калег па пошуку. А вось Роберт Фултан у 1801 годзе не толькі рэалізаваў задуму, але нават дэманстраваў свой падводны «Наўтылус І» у Парыжы на рацэ Сена.

Славуты італьянскі жывапісец і скульптар Леанарда да Вінчы, які праявіў сябе таленавітым архітэктарам, вучоным і інжынерам, таксама захапляўся ідэяй падводнага суднабудаўніцтва. Вядомы мастак у XVI стагоддзі распрацаваў першы праект лодкі, якая магла рухацца пад вадой. Аднак гуманістычныя памкненні знакамітага дзеяча эпохі Адраджэння, відаць, узялі перавагу. Таленавіты мастак стаў ці не першым у свеце пацыфістам. Калі ён зразумеў, якія наступствы можа мець яго тэхнічнае вынаходства, то не спакусіўся славай Герастрата, не захацеў стаць вялікім знішчальнікам жыццяў і запраторыў свой праект у надзейныя сховы.

Казімір Чарноўскі таксама меў гуманітарную (праўда, з-за арышту вучобу ў медыцынскай акадэміі не паспеў закончыць),

а не тэхнічную адукацыю. Аднак за час выношвання сваёй ідэі ён назапасіў дастаткова ведаў, ды і розум таксама меў кемлівы.

Праект Чарноўскага ўпершыню датычыў стварэння суцэльнаметалічнай падводнай лодкі. Навуковы праект. І створаны дзе? Не ў навуковай лабараторыі, а ў нялюдскіх турэмных умовах, дзе нават святла нармальнага не было, пад суровым і пільным вокам наглядчыкаў. Дасылаючы пісьмо самому цару, ён спадзяваўся на хуткае і станоўчае вырашэнне гэтай важнай справы. Аднак вязень памыліўся. Здавалася, пра яго зусім забыліся, працай ніхто не цікавіўся.

На Чарноўскага напала хандра і апатыя. Спадзеў на лепшы лёс канчаткова знік, растварыўся ў атрутным турэмным паветры як прывід. Ахінуты скрушлівай безнадзейнасцю і роспаччу, у сярэдзіне 1831 года ён спрабуе паквітацца з жыццём. Пільны стражнік перашкодзіў гэтаму, адабраў сцізорык, каб яшчэ надоўга працягнуць пакуты. Шмат месяцаў мусіў лячыцца непрызнаны вынаходнік і няўдалы самагубца.

Ды ўсё-ткі чыноўнікі зразумелі, што пошук Чарноўскага можа прынесці практычную выгаду, дапаможа справіцца з цяжкімі праблемамі руска-турэцкай вайны. Вязню дазволілі працягваць працу.

У 1832 годзе знямоджаны фізічна і спакутаваны маральна нявольнік Шлісельбургскай вязніцы перадае яшчэ адну важкую папку з чарцяжамі і новымі матэрыяламі адносна будаўніцтва падводнай лодкі. У агульнай сукупнасці таленавіты беларус, пазбаўлены не толькі магчымасці з некім параіцца альбо паспрачацца, але нават не маючы права ні з кім словам перакінуцца, за надзвычай кароткі тэрмін прапанаваў столькі навінак і унікальных рашэнняў, што іх хапіла б на цэлы творчы калектыў.

Першым з вынаходнікаў ён меркаваў, што найбольш выгадна і мэтазгодна будаваць падводныя лодкі з металу – падоўжыцца тэрмін службы, на большую глыбіню можна будзе пагружацца. Дзеля павелічэння хуткасці руху прапаноўваў надаваць ім абцякальную цыліндрычную форму. Прапаноўваў рабіць лодкі розных памераў. Раней за іншых Чарноўскі распрацаваў прынцыпова новы перыскоп, які высоўваўся знутры лодкі, што давала перавагу падчас назірання за непрыяцелем, дазваляла бліжэй падплысці да яго і заставацца незаўважаным. Вынайшаў Чарноўскі таксама міну з хімічным узрывальнікам і скафандр для вадалазаў.

Вынаходнік паклапаціўся пра неабходныя ўмовы для экіпажа, у склад якога ўваходзіла да трыццаці матросаў. Ён дэта-

лёва прадумаў размяшчэнне ўзбраення, спальных мяшкоў, нават кухні, распрацаваў сістэму вентыляцыі, падтрымання неабходнай атмасферы ў лодцы з дапамогай балонаў. Чарноўскі вынайшаў нязвыклай канструкцыі вёслы – яны нагадвалі парасоны, якія ў выпадку непатрэбнасці маглі лёгка хавацца, каб не перашкаджаць вядзенню баявых дзеянняў і свабоднаму руху лодкі пад ветразем, які таксама мог зручна складвацца. Згадаўшы нязручныя ўмовы пагружэння лодкі, якія заўважыў падчас колішняга знаходжання ў Францыі, Чарноўскі прапанаваў свой спосаб апускання з дапамогай скураных мяхоў, якія маглі запаўняцца вадой, а пры неабходнасці ўсплыцця вада з іх выціскалася. Каб забяспечыць жыццяздольнасць лодкі і лепшыя ўмовы для экіпажа, прыдумаў ён і сістэму амартызацыі падчас пагружэння на дно. Усё гэта ў сукупнасці рабіла субмарыну надзвычай баяздольнай.

Шмат што з прыдуманага беларусам насіла азначэнне «ўпершыню» і без перабольшання мела вялікае навуковае значэнне. Неабходна ўлічыць, што вынаходнік не меў магчымасці праверыць свае тэарэтычныя распрацоўкі на практыцы. Аднак прыродны талент, моцнае жаданне вырвацца з турэмнай вязніцы на свет Божы, да людзей, дапамаглі Чарноўскаму шмат у чым апярэдзіць тагачасныя сусветныя распрацоўкі падводных суднаў. Многія вывады турэмнага самавука былі пацверджаны пазней вядомымі вучонымі і даследчыкамі.

Аднак, нягледзячы на ўсё гэта, Ваеннае міністэрства 30 верасня 1832 года адхіліла праект Казіміра Чарноўскага. Гэта была трагедыя не толькі для вынаходніка. Тармазілася развіццё расійскага ваеннага флоту, наносілася шкода пашырэнню навуковых пошукаў. Царскія чыноўнікі не прыдумалі нічога лепшага, як зрабіць умовы жыцця вязня яшчэ больш жахлівымі. Такое нялюдскае спаборніцтва – вынаходнік намагаўся ўдасканаліць свой праект, а служкі цара настойліва мудрылі над тым, як лацвей заняволіць і без таго бяспраўнага мінскага двараніна.

За свой навукова-даследчы подзвіг Чарноўскі атрымаў-такі царскую «ўзнагароду»: у маі 1834 года яго этапіравалі на вечнае пасяленне ў Архангельскую губерню. Ды ў параўнанні з мёртвай цішынёй крапаснай адзіночкі гэта было жывое жыццё. Надзея вярнулася да турэмнага доўгажыхара, ён акрыяў, пачаў шукаць для сябе магчымасць рэальнай дзейнасці. Чарноўскаму даверылі займацца праектаваннем жылых будынкаў. За стараннасць і руплівасць ён атрымаў пасаду намесніка архітэктара Архангельска, яму нават прысвоілі званне калежскага асэсара.

Аднак Чарноўскі не любіў спакойнага жыцця. Відаць, вальналюбства не выветрылася з яго душы. Казімір Гаўрылавіч захапіўся не толькі будаўніцтвам. Яго апанавала ідэя падрыхтоўкі паўстання. Маючы піцерскі вопыт удзелу ў тайным таварыстве, ён пачаў шукаць і згуртоўваць прыхільнікаў і ў Архангельску. Далучыў да гэтага сваіх тутэйшых ссыльных землякоў – удзельнікаў паўстання 1830 года. Летуценнікі намерваліся захапіць горад, завалодаць архангельскімі караблямі, сагітаваць матросаў і вырушыць у Іспанію. Ім карцела прыйсці на дапамогу іспанскім рэвалюцыянерам, якія акурат тады здзяйснялі сваю чарговую рэвалюцыю.

Але пачуццё рэальнасці здрадзіла кіраўніку небяспечнай акцыі, на гэты раз Чарноўскі пралічыўся. Намеры змоўшчыкаў былі выкрыты, іх арыштавалі. І зноў яго лёс павінен быў вырашаць цар. Нават шэф жандараў А. Бенкендорф пытаўся ў Мікалая I, як абысціся з бунтаўшчыком.

Самадзержац вызначыў К. Чарноўскаму пажыццёвую ссылку ў Вяцкую губерню. Загадаў сачыць, каб ён не далучыўся там да палітычнай дзейнасці. Зноў, і на гэты раз канчаткова, вальналюбства Чарноўскага збанкрутавала. Кемліваму самавуку так і не ўдалося рэалізаваць сваю ідэю. 27 кастрычніка 1847 года ў горадзе Сарапул ён памёр. Было яму ўсяго 55 гадоў. Больш за васемнаццаць з іх па царскай міласці выпала правесці ў крапасных адзіночках і ссылках.

А турэмныя праекты беларускага вынаходніка Казіміра Чарноўскага рэалізаваў яго зямляк — ваенны інжынер, удзельнік Аўстэрліцкай бітвы 1805 года, абароны Бабруйска ў 1812 годзе, спецыяліст у галіне міннай барацьбы генерал-ад'ютант Карл Андрэевіч Шыльдэр (1785—1854). Дарэчы, пра гэтага ўраджэнца мястэчка Сіманава Віцебскай губерні неаднаразова згадвае ў сваіх працах Карл Маркс, калі апісвае перыпетыі руска-турэцкай вайны і, у прыватнасці, распавядае пра штурм і ўзяцце турэцкай крэпасці Сілістрыі на Дунаі.

Шыльдэру ўдалося збудаваць першую ў свеце суцэльнаметалічную падводную лодку. У жніўні 1834 года яна праходзіла выпрабаванні ў Архангельску, куды па царскаму загаду толькі што прыбыў са Шлісельбургскай крэпасці беларускі дваранін Казімір Чарноўскі. Але пра працу Шыльдэра ён не ведаў. Фатальным і няўдзячным аказаўся лёс славутага беларуса, жыццё якога так непадзельна знітавалася і скрыжавалася з дарогамі расійскага цара Мікалая I...

Савецкім школьнікам і студэнтам у свой час было вядома

выказванне У. І. Леніна, што дзекабрысты разбудзілі Герцэна... Сёння можна меркаваць, што гэтае сцверджанне не да канца справядлівае. Бо ў 1825 годзе дзекабрысты разбудзілі не толькі Герцэна, яны раскатурхалі дапытлівы розум Казіміра Чарноўскага. "Дзяржаўны злачынец", таленавіты самавук-вынаходнік стаў дзейсным прадаўжальнікам не толькі вольналюбівых памкненняў дзекабрыстаў, але і рэальным спадкаемцам падводналодкавых ідэй італьянскага мастака Леанарда да Вінчы.

Памяць пра нашага славутага земляка сёння ўсё больш умацоўваецца і шануецца на радзіме. У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі маецца макет падводнай лодкі, зроблены па чарцяжах і апісаннях Казіміра Гаўрылавіча Чарноўскага, яму прысвечана нямала публікацый.

*Літаратура*

*Арлоў У.* Турэмны вынаходнік // Памяць. Мінск. Кн. 1. Мн., 2001.

*Баландзін К.* Зоркі беларускай тэхнічнай навукі. Мн., 1966.

*Галубовіч А.* Вязень-вынаходнік // Вячэрні Мінск. 1988. 17 чэрвеня.

*Гречкин Г.* «Желаю быть полезным государству...» // Советская Белоруссия. 1987. 22 октября.

*Грэчкін Г., Клаз І.* Мінскі дваранін // ЛіМ. 1961. 26 снежня.

*Малиновский М.* Подводная лодка и государственный преступник // Во славу Родины. 1992. 5 сентября.

*Цяцерын І.* Мінскі дваранін Казімір Чарноўскі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1977. № 4.

*Яротов Е.* Сухопутный мечтатель конструирует... подлодку // Чалавек і эканоміка. 1995. № 12.

*Анатоль Бутэвіч*

## Напалеон ЧАРНОЦКІ (1866–1937)



а збораў знакамітага музея Аляксандра Ельскага ў Замосці ацалела няшмат. Але зберaглася каштоўнейшая памятка — кніга з запісамі наведвальнікаў музея. У кнізе 14 кастрычніка 1901 года зроблены наступны запіс: «Тут я знайшоў сапраўдны скарб сардэчнага, разумнага, крытычнага кансерватызму, які, не забываючы пра сучаснасць, старанна грабецца ў друзах мінуласці, налева адкідвае сабранае ім смецце... а чыстыя крышталі нацыянальнага духу для яго цяперашніх і будучых адраджэнцаў назапашвае». Гэты запіс, які ўражвае разуменнем значэння музейнай справы дзеля будучыні Беларусі, быў зроблены Напалеонам Чарноцкім»[1].

Пошуку звестак пра Напалеона Чарноцкага, які распачаўся ў пачатку 80-х гадоў, вельмі паспрыяла легендарная Зоська Верас. У канцы мая 1982 года ў Вільні праводзілася нарада энцыклапедыстаў прыбалтыйскіх рэспублік і Беларусі.

Людвіка Антонаўна сабрала багаты ўласны архіў, шмат ведае і помніць. Я пытаюся (дакладней, пішу пытанне, бо Зоська Верас не чуе), ці ведала яна Напалеона Чарноцкага, пра якога Т. Кабржыцкая і В. Рагойша ў кніжцы «Карані дружбы» пісалі: «Асоба Н. Чарноцкага заслугоўвае нашай увагі. На жаль, у беларускім літаратуразнаўстве амаль ніякіх звестак пра яго няма. У той жа час гэта быў чалавек вялікіх здольнасцей, кіпучай энергіі, з шырокім колам грамадскіх зацікаўленняў. Доктар па прафесіі, Чарноцкі меў, несумненна, здольнасці літаратара, акцёра, рэжысёра. Перакладзеныя ім творы М. Крапіўніцкага доўгі час былі акрасай і беларускай савецкай сцэны. Чарноцкі ўнёс пэўны ўклад у развіццё не толькі беларускага тэатра, але і

беларускай нацыянальнай асветы, у прыватнасці, школьнай справы. Ён папулярызаваў сярод насельніцтва здабыткі маладой беларускай літаратуры, выступаў, як мы бачылі, і як літаратурны крытык, выявіўшы пры гэтым веданне і ўкраінскай літаратуры».

Як жа я здзівіўся і ўзрадаваўся, калі Людвіка Антонаўна прачытала пытанне і спакойна, разважліва адказала:

— Асабіста не ведала, але нататку пра яго маю.

Аказалася, што ёй трапіўся першы нумар часопіса «Przegląd Wileński» за 1925 год, дзе Н. Чарноцкі змясціў успаміны пра Мар'яна Абрамовіча, таго самага, які ў 1892 годзе выдаў у Тыльзіце рэвалюцыйную брашуру на беларускай мове «Дзядзька Антон». Шчыра дзякую Людвіцы Антонаўне і адчуваю, што далейшы пошук матэрыялаў, звязаных з імем Напалеона Чарноцкага, будзе ўдалым. Каб быць дакладным, то трэба сказаць і пра яшчэ адну перадумову пошуку. Я ведаў, што ў Начы (гэта недалёка ад Ляхавіч, раённага цэнтра на Брэстчыне) раней «жыў пан Чарноцкі» і само сабой сталася, што калі я чуў прозвішча Чарноцкі, то адразу ўзнікала пытанне: а якое дачыненне яно мае да Начы?

Пасля выхаду ў свет кніжкі Янкі Саламевіча «Міхал Федароўскі» (Мн., 1972) цікавасць да Начы і Чарноцкіх яшчэ больш узмацнілася, бо ў даследаванні яны ўпаміналіся шмат разоў. У фалькларыста Федароўскага, стваральніка шматтомнага «Люду беларускага», былі «апорныя пункты» — фальваркі і маёнткі, уладальнікі якіх спрыялі даследчыку. У Слуцкім павеце каля Ляхавіч Федароўскаму дапамагаў Казімір Чарноцкі, пляменнік вядомага Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага (Адама Чарноцкага). Захаваліся імёны таленавітых мясцовых спявачак, запрошаных у Начу Чарноцкім. Тэафілія Славутава з вёскі Заляшаны (цяпер Клецкі раён) і Маруся Мікітава з вёскі Яжэвічы (у сучасным напісанні Яжавічы, Клецкі раён). 3 верасня 1893 года ў Начы Федароўскі запісваў «круцёлкі» ад Анэлі Масаль з вёскі Шчасновічы (цяпер Счаснавічы, Ляхавіцкі раён). Ад гэтай спявачкі таксама была запісана рэдкая песня пра дзяўчыну-семілетку. Станіслава Чарноцкая даслала Федароўскаму каля сотні прыказак і прымавак са Случчыны. Можна было меркаваць, што Напалеон — сын Казіміра, але толькі меркаваць... Доказаў не было, а спецыяльна заняцца гэтым пытаннем не выпадала.

І вось Зоська Верас сцвярджае, што Н. Чарноцкі ў 1925 годзе надрукаваў успаміны пра Мар'яна Абрамовіча. Менавіта гэта інфармацыя адразу скіравала пошук у патрэбны кірунак.

М. Абрамовіч у канцы XIX стагоддзя быў членам рэвалюцыйнага польскага студэнцкага гуртка ў Маскоўскім універсітэце. Звяртаючыся да кнігі маскоўскага гісторыка А. М. Арэхава «Сацыяльна-дэмакратычны рух у Расіі і польскія рэвалюцыянеры. 1887—1893 гг.» (М., 1973), даследчыкі беларускай гісторыі знойдуць у ёй шмат цікавага. А. М. Арэхаў піша пра рэвалюцыйную дзейнасць у Пецярбургу сябра Францішка Багушэвіча Габрыэля Радзевіча і змяшчае яго партрэт, спыняецца на дзейнасці «Гуртка польскай, літоўскай і беларускай моладзі», старшынёй якога з красавіка 1893 года быў беларускі паэт-рэвалюцыянер Адам Гурыновіч. Спецыяльная глава кнігі прысвечана рэвалюцыйнаму руху ў Маскве. Гісторык вельмі ўважліва ставіўся да біяграфій яго ўдзельнікаў, прыводзіў шмат цікавых звестак. Пакуль што проста праглядваю кнігу, шукаю прозвішча Абрамовіча (на жаль, няма) і на 232-й старонцы знаходжу... біяграфічную даведку пра Напалеона Чарноцкага:

«Напалеон Ежы Якуб Чарноцкі (1866—1937) нарадзіўся ў Мінскай губ., у сям'і паўстанца 1863 г., дваранін. У 1878—1887 вучыўся ў Слуцкай гімназіі, у 1887—1893 — студэнт медыцынскага факультэта Маскоўскага універсітэта. Удзельнік саkавіцкіх хваляванняў 1890 г., за што быў выключаны з універсітэта, але ў тым жа годзе адноўлены ў сваіх правах. У 1894 памагаў функцыянерам ППС у канспіратыўнай рабоце. Пазней ад рэвалюцыйнай дзейнасці адышоў».

А. М. Арэхаў называе і крыніцы, на падставе якіх была складзена даведка: дакументы Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва г. Масквы і 4 том «Польскага біяграфічнага слоўніка». Тым самым пошук найбольш агульных звестак пра Напалеона Чарноцкага можна было лічыць скончаным, у слоўніку дадзеныя прыводзяцца звычайна вельмі поўныя.

Надзеі на слоўнік спраўдзіліся, артыкул пра Напалеона Чарноцкага падрабязны і шмат ў чым дапаўняе даведку ў кнізе Арэхава. Нарадзіўся Н. Чарноцкі, як і меркавалася, у Начы (Начы Брындзоўскай) 13 ліпеня 1866 года. Атмасфера ў доме была даверлівая і дэмакратычная. У 1889 — 1895 гадах вывучаў медыцыну ў Маскве (А. Арэхаў падае іншыя даты, 1887 — 1893). У слоўніку, мабыць, памылка, бо, як паведамляецца далей, у 1894 годзе Н. Чарноцкі атрымаў званне доктара медыцыны. Нягледзячы на любоў да зямлі, не хацеў вяртацца да родных палеткаў, бо бачыў там сялянскую крыўду. Спачатку быў доктарам у Ліпнішках, затым у Міры, Нясвіжы, Навагрудку, Свіслачы. Спрабаваў заснаваць санаторый у сасновых лясах Віленш-

чыны і Навагрудчыны. У час руска-японскай вайны як рэзервіст знаходзіўся ў Маньчжурыі. У 1908 — 1912 гадах жыў у Канадзе, затым вярнуўся ў Ашмянскі павет. У час першай сусветнай вайны на вайсковай службе. З 1918 года жыў у Варшаве, Радаме, Вільні, Лідзе. У 1934 годзе кінуў прафесію доктара і ў Вялікай Лябёдцы пачаў вырошчваць лекавыя расліны. Там і памёр 14 лютага 1937 года. Выдаў шэраг кніг на беларускай мове, у тым ліку «Як будзе з зямлёю», «Што дзяліць, а што не, каб супакой быў на свеце», з'яўляецца аўтарам успамінаў «Батлейка з ваколіц Начы». «Быў чалавекам моцным, незалежным, ідэалістам, грамадскім работнікам», — такімі словамі заканчваецца артыкул у слоўніку.

Але наступныя пошукі паказалі, што гэтыя звесткі вельмі няпоўныя, яны фактычна абміналі ўдзел Н. Чарноцкага ў беларускім грамадска-культурным руху. А зараз паспрабуем перанесціся ў Маскву канца 80-х—пачатку 90-х гадоў XIX стагоддзя.

...Вясною 1889 года Маскоўскае ахраннае аддзяленне ўстрывожылася. Яшчэ на памяці былі лістападаўскія хваляванні студэнтаў 1887 года, калі закрылі універсітэт у Маскве, затым у Пецярбургу, Харкаве, Казані (у сходах удзельнічаў 17-гадовы У. І. Ульянаў-Ленін), Адэсе, а тайныя гурткі намагаліся стварыць студэнцкую рэвалюцыйную арганізацыю. Як лічыць А. М. Арэхаў, хутчэй за ўсё ў красавіку 1889 года адбылася нелегальная нарада прадстаўнікоў рэвалюцыйных гурткоў і зямляцтваў, на якой стварылі Саюз зямляцтваў. Саюз на першы погляд быў бяскрыўдным, ён меў на мэце матэрыяльна дапамагаць студэнтам, шукаць для іх магчымасць заробку.

У саюз зямляцтваў уваходзіла і польскае зямляцтва (Польскае кола). Адным з кіраўнікоў Польскага кола быў ужо знаёмы нам Мар'ян Абрамовіч. Ён належаў да старадаўняга шляхецкага роду, з якога выйшла шмат дзяржаўных, ваенных і культурных дзеячаў Беларусі, Літвы і Польшчы. Нарадзіўся М. Абрамовіч у Цверы ў 1871 годзе, вучыўся ў гімназіі ў Маскве, дзе яго бацька займаў пасаду таварыша пракурора Маскоўскага акруговага суда. З 1888 года ён студэнт Маскоўскага універсітэта і, паводле звестак жандармскага ўпраўлення, «уваходзіць у склад польскага гуртка ў Маскве і выконвае у ім адну з першых роляў...».

Ва ўспамінах Н. Чарноцкага, выдадзеных у 1923 годзе ў Варшаве, М. Абрамовіч будзе названы «галоўным маторам нашай сацыялістычнай групкі ў маскоўскім коле». Н. Чарноцкі ў

зямляцтве быў таксама даволі значнай фігурай. Ён захаваў бібліятэку зямляцтва, дзе знаходзіліся выданні на польскай і рускай мовах, і быў прадстаўніком у Цэнтральнай (Саюзнай) касе — галоўным органе Саюза зямляцтваў. Пісьменнік Ядвігін Ш. (Антон Іванавіч Лявіцкі) у той час таксама вучыўся ў Маскве, быў членам Мінскага зямляцтва, у сваіх «Успамінах» ён піша: «188... год (1889. — В. С.) у Маскве нічога добрага для студэнтаў не прарочыў: адчуваўся неспакойны настрой. Шпікамі была запоўнена ўся Масква. Трэба было вялікай асцярогі, каб не нарвацца. Паміж сяброў Мінскага зямлячаства (у тыя часы, разумеецца, забароненага) найлепшы нюх да шпікоў меў Івася»[2].

Трэба адзначыць, што ў польскае зямляцтва ўваходзіў і Вацлаў Вароўскі, будучы вядомы савецкі дыпламат і літаратурны крытык. Восенню 1889 года, калі пачаўся новы навучальны год, паліцыя заўважыла ажыўленне ў зямляцтвах, дакладвалася пра частыя сходкі. 17 кастрычніка 1889 года Масква святкавала гадавіну «Цудатворнага выратавання аўгусцейшай сям'і ад пагібелі» у час крушэння царскага поезда ў Харкаўскай губерні. Маскоўскі паліцмайстар генерал Юркоўскі[3] даносіў у Дэпартамент паліцыі: «Гандаль быў спынены, усе лаўкі, фабрыкі і да таго падобныя прамысловыя і гандлёвыя прадпрыемствы былі цэлы дзень закрыты, а рабочыя распушчаны. З раніцы горад упрыгожыўся сцягамі. Радасць была поўная. І ў той жа час, калі крамлёўская плошча была пакрыта дзесяткамі тысяч укленчанага народу, які пасылаў богу свае малітвы з падзякай за выратаванне царскай сям'і, у гэты час на малебне з той жа нагоды ў царкве Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі прысутнічала толькі шэсць студэнтаў, прычым нават студэнцкі хор, які заўжды спявае ў гэтай царкве, у гэты дзень адмовіўся спяваць. І ужо праз суткі, 19 кастрычніка, у 1 гадзіну дня, да царквы св. Дзмітрыя Салунскага, на паніхіду па Мікалаю Чарнышэўскаму студэнтаў Пятроўскай акадэміі прыбывалі поўныя паязды жалезна-коннай дарогі і сабралася ў колькасці 100 чалавек»[4].

Што было далей, даведваемся з «Успамінаў» Ядвігіна Ш.: «Пачалася паніхіда. Ажно — адкуль тое бралася — калі стаў валіць сюды народ — цэлымі групамі, шарэнгамі і наўдзіў: універсанты, курсісткі, пятроўцы, акадэмікі і г. д. — адна моладзь. У царкве студэнцкі хор, нікога не пытаючы, падмяніў царкоўны хор. Бацюшка струхнеў, але паніхіду, бедны, правіў далей. Моладзь у царкве не тоўпілася і запрудзіла вуліцы і часць Пушкінскага бульвара. Стала збірацца і розная публіка. Наляцелі жандары, паліцыя, але што ж было рабіць? Уся моладзь, скінуў-

шы шапкі, спакойна і паважна стаяла, быццам малілася. Разганяць ці арыштоўваць — вельмі рызыкоўная была штука: як гнаць з паніхіды, з царквы? А тут яшчэ нехта крыкнуў на паліцыю:

— Шапкі далоў! Далоў шапкі!

Прыйшлося і шапкі скінуць, і — хоць мо зубамі скрыгаталі, але трэба было прастаяць ціха да канца паніхіды і таксама нібыта маліцца. Надзея, што нешта ды будзе пасля паніхіды — таксама не збылася: моладзь спакойна, у парадку разышлася, і прычапіцца да чаго-колечы нельга было»[5].

Галоўнае, «Успаміны» Ядвігіна Ш. пачынаеш ацэньваць не толькі як мастацкі твор, але таксама як даволі надзейную крыніцу па гісторыі студэнцкага руху ў Маскве.

...На пачатак 1890 года ў Саюзе зямляцтваў склалася фракцыя палітычнай барацьбы. Яна выступала за рашучыя дзеянні, мела сувязі з нарадавольцам М. В. Сабуневым, які збег з ссылкі і спрабаваў аб'яднаць народніцкія гурткі, аднавіць «Народную волю» як цэнтралізаваную арганізацыю.

Асабліва неспакойна было ў Пятроўскай акадэміі, на якую з 1 студзеня 1890 года распаўсюдзіўся рэакцыйны універсітэцкі статут 1884 года[6]. У лютым маскоўскія студэнты чыталі лістоўку «Роля масавых пратэстаў у рэвалюцыйнай барацьбе», адозву «Найноўшыя подзвігі сібірскіх катаў». Адна за адной адбываюцца ў акадэміі бурныя сходкі, студэнты патрабуюць адмены статута, звальнення дырэктара. Але Саюз зямляцтваў для выступлення чакаў спрыяльнага моманту. Ядвігін Ш. успамінае: «Што падгатоўка паміж студэнцтвам да выступу з пэўнымі вымаганнямі ўступак ад тагачаснага ўрада ішла — гэта было вядома амаль не ўсім студэнтам, але яшчэ varажылі, каб цяпер — на вясну — перад самымі экзаменамі мо лепш не выступаць, а адлажыць к налеццю».

3 сакавіка студэнты Пятроўскай акадэміі прыйшлі да дырэктара і запатрабавалі, каб ён хадайнічаў аб адмене статута 1884 года, распусціў суд праўлення акадэміі над студэнтамі ці падаў у адстаўку. Улады, каб запалохаць удзельнікаў руху, арыштавалі студэнтаў акадэміі. Цэнтральнае бюро Саюза зямляцтваў палічыла, што момант для выступлення настаў.

Антон Лявіцкі добра запомніў той момант, калі ў цесную каморку «раённага», дзе праходзіла нарада бліжэйшых сяброў (відаць, Мінскага зямляцтва), прыбег пятровец і паведаміў, што студэнты акадэміі арыштаваны. «Цяпер не пара ўжо было разважаць, а брацца за работу, за арганізацыю, за агітацыю паміж універсітэтамі. Але перад намі была яшчэ ўся ноч. Не спалі мы

гэтую ноч...», — чытаем ва «Успамінах» Ядвігіна Ш. Назаўтра, 7 сакавіка, у 12 гадзін дня студэнт медыцынскага факультэта Маскоўскага універсітэта Антон Лявіцкі быў на лекцыі па фізіцы. Яе чытаў знакаміты прафесар А. Р. Сталетаў. Звычайна стваральніка першай фізічнай школы ў Расіі слухалі вельмі ўважліва, але сёння ў аўдыторыю ўвайшоў ужо не малады студэнт і перадаў некалькі запісак, якія пачалі пераходзіць з рук у рукі: «Таварышы! Сягонняшняй ночы ўсіх пятроўцаў арыштавалі! Вы дасканальна памятаеце, як пятроўцы хутка адклікаліся на ўсе патрэбы і выступленні нас — універсантаў. Цяпер народ за намі. Усе, як адзін, павінны мы выступіць на абарону нашых правоў і на абарону нашых таварышаў — пятроўцаў, або няхай асвабодзяць іх, або няхай і нас забіраюць! Дык на сходку! На сходку — у сад універсітэцкі!» Сабралася каля 500 чалавек, знайшліся і прамоўцы, якія ўзлазілі на нейкія скрынкі ці нават на дрэвы. Прамоўцаў слухалі не толькі студэнты, але і падазроныя тыпы ў цывільным. Знянацку паляцкала конная жандармерыя, пачулася каманда:

— На-а-а-хвост! Кру-у-гом — арш!

Імгненне — і ўсе студэнты былі ўзяты ў кальцо: конныя жандары, хоць ім заміналі дрэвы, спрытна правялі манеўр. Пад моцным канвоем студэнтаў адправілі ў Манеж. Ядвігін Ш. вельмі цікава апісаў, як іх вялі па Махавой, «вольнай ад публікі», як у Манежы студэнты знайшлі веласіпеды і пачалі катацца, а паліцэйскія з паўгадзіны лавілі веласіпедыстаў і вясёлы рогат рэхам адбіваўся ад пустых сцен манежа...».

Каля дзесяці гадзін вечара затрыманым аб'явілі, што іх будуць выводзіць партыямі па 30—40 чалавек. Падзяліліся па зямляцкаму прынцыпу, мінчукоў было зусім мала, яны аб'ядналіся са слухачамі. Выводзілі іх апошнімі, не было з кім ужо развітацца, не было каму песню на дарогу заспяваць, ды беларусы самі сабе праспявалі, самі сабе пракрычалі «ура». Іх вялі па начной Маскве нейкімі глухімі па-вясноваму гразкімі вуліцамі ў Бутырскую турму. Усяго паводле афіцыйных дадзеных было арыштавана 391 чалавек. Ядвігін Ш. называе трохі большую лічбу — 412. Наступны дзень, 8 сакавіка, прайшоў у Маскве адносна спакойна. 9 сакавіка сабралася сходка ва універсітэце, 75 чалавек былі арыштаваны і пасаджаны ў Бутыркі, сярод іх М. Абрамовіч і Н. Чарноцкі.

Менавіта тады ў Бутырках і быў арганізаваны Першы беларускі гурток моладзі ў Маскве. Аднойчы зняволеныя наладзілі інтэрнацыянальны канцэрт. Першымі спявалі ўкраінцы. Рус-

кія выступілі з вялікім хорам. Спявалі палякі, каўказцы, літоўцы, латышы. Танцавалі польскую мазурку, каўказскую лезгінку, рускую камарынскую. Толькі беларусы не выступалі... Пасля канцэрта сабраліся разам мінчукі, случакі, магілёўцы, віцеблічы. Размаўлялі, але тое, што трывожыла душу, абміналі. Першы не вытрымаў студэнт-юрыст[7]. Сутулаваты, з доўгімі светлымі валасамі і блакітнымі вачыма, ён сядзеў збоку на нарах і цяжка дыхаў. Загаварыў нягучным мяккім голасам, але пытанне яго пачулі. Юрыст спытаўся, чаму ўсе такія сумныя, а потым тэнарам зацягнуў песню:

Ой ляцелі гу-у-у-сі
Ды з-пад Белай Ру-у-у-сі...

Але цяжкі кашаль перарываў мелодыю. Юрыст папіў вады і пачаў дэклараваць беларускія песні. Так яны і гучалі, спачатку без мелодый, а пасля і мелодыі ўспомніліся. З таго часу, апрача агульных сходаў, наладжваліся і асобныя, беларускія нарады, на якіх прынялі наступныя пастановы:

1. Заснаваць тут жа — у Бутырках — Першы беларускі гурток моладзі у Маскве.

2. Якім бы то ні было спосабам — легальным ці нелегальным — тварыць беларускае друкаванае слова.

3. Падчас летніх вакацыяў ісці ў беларускі народ — будзіць і пашыраць паміж яго нацыянальную свядомасць.

4. Знайсці ў Маскве канспіратыўную кватэру, дзе можна было б перыядычна збірацца на нарады аб далейшай працы».

Узначаліў гурток той самы студэнт-юрыст, які першы заспяваў беларускую песню. Сёння нам застаецца толькі шкадаваць, што Ядвігін Ш. ва «Успамінах» пра далейшы лёс гуртка напісаў толькі наступнае: «Ну, але не ў гэтым апавяданні месца ўпамінаць аб той працы, якую вёў пасля гурток, і аб той долі, якая спаткала яго пасля ў жыцці...».

Н. Чарноцкі ў заснаванні гуртка, відаць, не ўдзельнічаў. У гістарычным архіве ў Мінску захавалася «Дело о выдворении на жительство в им. Нач и подчинении негласному надзору полиции студента Московского университета Наполеона Чарноцкого» (ф. 295, воп. 1, спр. 4895). Справа пачынаецца сакрэтнай падносінай маскоўскага обер-паліцмайстра ад 14 сакавіка 1890 года за № 3949.

«Господину Минскому Губернатору.

На основании 16 статьи Высочайше утвержденного Поло-

жения о мерах к охранению Государственного порядка и общественного спокойствия Его Сиятельство, господин московский генерал-губернатор, воспретил жительство в Москве и Московской губернии студ. Москов. Унив. Наполеону Чарницкому, избравшего место для жительства г. Слуцк.

Препровождая при сем названного Чарницкого имею честь просить Ваше Превосходительство приказать выдать ■ получении арестованного конвойному установленную квитанцию».

15 сакавіка арыштаваны Чарноцкі быў дастаўлены ў Мінск. У канцылярыі губернатара нехта алоўкам выправіў памылку маскоўскай паліцыі: над літарай «и» у прозвішчы «Чарницкому» напісаў «о». Таксама алоўкам пазначана «Слуцкого уезда, в им(ение) Нач, от(править) к родителям, помещик Казимир Чарноцкий». Назаўтра, 16 сакавіка, Н. Чарноцкага павезлі ў Слуцк «для выдворения на жительство в им. Начь, Слуцкого уезда, в дом отца, помещика Казимира Чарноцкого». За былым студэнтам быў устаноўлены тайны нагляд паліцыі. Трэба адзначыць, што ў Гістарычным архіве ў Мінску захаваліся справы пра высылку з Масквы іншых удзельнікаў сакавіцкіх выступленняў студэнтаў: Міхаіла Ждановіча — у в. Міхалевічы Бабруйскага павета (ф. 295, воп. 1, спр. 4879д), Сямёна Ханелеса — у Мінск (спр. 4891), Вікенція Свянціцкага — таксама ў Мінск (спр. 4892), Карла Карповіча — у маёнтак Чэмбрава Навагрудскага павета (спр. 4893), Люцыяна Свянціцкага — у Мінск (спр. 4894).

Неўзабаве Н. Чарноцкаму дазволілі вярнуцца ў Маскву і аднавілі яго ва універсітэце. Па-ранейшаму ён ўдзельнічаў у рабоце тайных гурткоў. 22 красавіка 1891 года студэнты сабраліся ў В. Вароўскага, з дакладам пра стагоддзе польскай канстытуцыі 1791 года выступіў Н. Чарноцкі. У студзені 1893 года маскоўскія студэнты для вывучэння нацыянальнага пытання стварылі спецыяльны гурток і назвалі яго «Інтэрнацыяналка». Ён складаўся з 25 чалавек, прадстаўнікоў 14 нацыянальнасцей. Сярод членаў «Інтэрнацыяналкі» былі Напалеон Чарноцкі і Уладзіслаў Грынеўскі, родам з Бабруйскага павета.

На долю Антона Лявіцкага выпаў больш цяжкі лёс. Амаль усіх студэнтаў з Бутырак праз нейкі час выпусцілі, а 18 чалавек, у тым ліку і яго, «паразвозілі: частку ў адзіночныя камеры, скуль пасля, дзякуючы вялікай моцнай пратэкцыі — выпусцілі; частку — саслалі, а трое згінула ў петрапаўлаўцы». Ванда Лявіцкая, дачка пісьменніка, успамінае: «Лявіцкаму, як і другім, далі «одиночку», дзе ён і праседзеў некалькі месяцаў. Там ён пераклаў на беларускую мову «Сігнал» Гаршына, выдадзены ў

Маскве ў 1891 г., запісваў беларускія песні, якія ведаў. Вярнуцца ва універсітэт не прыйшлося — у дэканаце далі зразумець, што лепш не клапаціцца. Ды і абставіны злажыліся так, што прыйшлося заняцца хатнімі справамі.

З Масквою звязана і выданне агітацыйнай брашуры на беларускай мове «Дзядзька Антон».

...16 лютага 1875 года начальнік Галоўнага ўпраўлення па справах друку Расіі Грыгор'еў пісаў сваім падначаленым у Пецярбургскі цэнзурны камітэт: «З некаторага часу вядзецца ў імперыі злачынная прапаганда паміж простага народа, якая мае на мэце выклікаць у яго незадавальненне сваім становішчам і наогул існуючым ладам, адхіліць яго ад падпарадкавання ўраду, нарабіць смуты ў галовах і выклікаць хваляванні. Адным са сродкаў для гэтай прапаганды служыць распаўсюджанне сярод простанароддзя брашур абуральнага зместу, якія пускаюцца ў продаж па самаму таннаму кошту і нават раздаюцца бясплатна». Адной з такіх брашур «абуральнага зместу» і была «Хітрая механіка». Народнікам для вядзення рэвалюцыйнай прапаганды спатрэбіліся кнігі, якія «давалі б народнаму агітатару патрэбны матэрыял і факты, каб пераканаць сваіх слухачоў. Наогул, патрэбны апавяданні пра выдатных асоб з сялянскага асяроддзя; патрэбны, нарэшце, гістарычныя і бытавыя апавяданні, якія растлумачваюць усю безысходнасць сучаснага побыту, будзяць свядомасць і дух сілы...».

Даследчыца літаратуры рэвалюцыйнага падполля В. Ф. Захарына лічыць, што сярод народніцкіх брашур, прысвечаных сацыяльна-эканамічным праблемам, «Хітрая механіка» была найбольш цікавай. Яна мела падзагаловак «Праўдзівае апавяданне, адкуль і куды ідуць грошы». Твор Андрэя Іванова». Аўтар брашуры В. Варзар (1851—1940) скончыў чарнігаўскую гімназію, вучыўся ў Кіеўскім універсітэце, у Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце. У час вучобы ў Пецярбургу ўваходзіў у гурток «Лаўрыстаў», удзельнічаў у «хаджэнні ў народ», пад выглядам касца вандраваў па Данской вобласці. Пазней ад рэвалюцыйнай дзейнасці адышоў, працаваў статыстыкам. У мемуарах, якія выйшлі ў Растове-на-Доне ў 1924 годзе пад назвай «Успаміны старога статыстыка», ён назаве «Хітрую механіку» першым сваім літаратурным выступленнем як эканаміста, дзе было «жывое выкладанне ў папулярнай форме, без усялякіх падробак пад «народную мову», без асаблівых літаратурных аздоб, якія тады лічыліся неабходнымі, выкладанне тэорыі прамых і ўскосных падаткаў як формы эксплуатацыі кіруючага класа». Праз

50 гадоў пасля напісання брашуры мемуарыст вельмі прынізіў значэнне сваёй «Хітрай механікі», якая прыводзіла чытача да думкі пра неабходнасць карэннай змены існуючага ладу. Рэвалюцыйны пафас і літаратурныя вартасці зрабілі брашуру вельмі папулярнай сярод народнікаў. Яна шмат разоў перавыдавалася, прычым, як успамінае аўтар, «Хітрая механіка» «перараблялася і падмалёўвалася рознымі выдаўцамі на свой густ і прыпраўлялася рэвалюцыйнай соллю і перцам як таго жадалі». Нават сам Варзар з цяжкасцю пазнаў старонкі свайго тэкста. У апошніх выданнях брашуры, аб'ём якіх у параўнанні з першатворам павялічыўся амаль удвая, ужо прыводзіліся звесткі пра вінную манаполію 1894 года, руска-японскую вайну 1904 — 1905 гадоў.

Сённяшні даследчык дадзеныя пра выданне «Хітрай механікі» знойдзе вельмі хутка, у гэтым яму дапаможа грунтоўны «Сводный каталог русской нелегальной и запрещенной печати XIX века», выдадзены ў 1972 годзе на ратапрынце, а ў 1981 — 1982 гадах друкарскім спосабам у Маскве. Каталог падрыхтаваны калектывам супрацоўнікаў 75 бібліятэк, архіваў і музеяў. Пад № 270 у каталогу апісана першае выданне «Хітрай механікі». Яна ўбачыла свет у 1874 годзе ў Лондане, у друкарні народніцкага часопіса «Вперед». Да нашага часу дайшло 4 экземпляры брашуры. Акрамя першага, у каталогу таксама зарэгістравана 16 наступных выданняў «Хітрай механікі».

Адразу ж пасля выхаду ў свет, у 1874 годзе, «Хітрая механіка» была перакладзена на ўкраінскую мову і выдадзена ў 1876 годзе пад назвай «Праўда» гуртком украінскіх студэнтаў ў Вене. Аўтарам перакладу лічыцца вядомы ўкраінскі вучоны-эканаміст, прапагандыст марксавай эканамічнай тэорыі Сяргей Падалінскі. У тым жа 1875 годзе ў Вене была выдадзена арыгінальная праца С. Падалінскага — брашура «Пра беднасць», а ў 1878 годзе у Жэневе — другое выданне брашуры пад назвай «Пра багацце і беднасць». Гэта праца С. Падалінскага ў 1881 годзе убачыць свет у перакладзе і на беларускую мову. На жаль, перакладчык, нейкі «беларусін», застаўся невядомым.

Далейшы шлях «Хітрай механікі» звязаны з імем польскага сацыяліста і вучонага-прыродазнаўцы Шымана Дыкштэйна, які ў 1878 годзе выдаў брашуру «Апавяданні старога гаспадара». Праца выходзіла таксама пад назвай «Цікавая гісторыя», а пачынаючы з 1882 года як «Бацька Шыман» Томака Куяўчыка.

Вопыт, набыты пры стварэнні «Бацькі Шымана», Ш. Дыкштэйн скарыстаў у час напісання брашуры «Хто з чаго

жыве?», якая у 80-я гады вытрымала шэраг выданняў, была перакладзена на многія еўрапейскія мовы, а ў 1885 годзе была выдадзена на рускай мове групай «Вызваленне працы». Гэты твор, у якім у папулярнай форме выкладалася вучэнне К. Маркса аб прыбавачнай вартасці і неабходнасць барацьбы з існуючым ладам, карыстаўся вялікай папулярнасцю ў рэвалюцыйных гуртках. Адзін з першых рускіх марксітаў В. А. Шалгуноў пісаў: «Гэта кніжка ў простай і зразумелай форме давала адказ на пытанне, хто такія капіталісты, як яны эксплуатуюць рабочых, хто і з чаго жыве... наша задача была расказаць рабочым, што... сродкі на існаванне не капіталіст дае рабочым, а рабочы капіталісту. Але як даказаць гэта, каб кожны рабочы паверыў? І вось, калі мы чыталі такую кніжку, як брашура Дыкштэйна «Хто з чаго жыве?», якая расказвала пра грошы, тавар, пра тое, чаму рабочы ідзе на фабрыку, пасля гэтага ўжо лягчэй было падыйсці да рабочага». На беларускай мове брашура выдадзена ў Маскве ў 1918 і ў Мінску ў 1923 гадах.

Але вернемся да «Бацькі Шымана». Сцяпан Александровіч лічыць, што гэты твор —творчая пераапрацоўка «Хітрай механікі» Варзара і «Пра багацце і беднасць» Падалінскага. Менавіта «Бацька Шыман» і паслужыў крыніцай «Дзядзькі Антона», падрыхтаванага і выдадзенага на гектографе каля 1885 года членамі тайнага гуртка самаадукацыі, што існаваў у Слуцкай гімназіі. Пра гэта сведчаць надзвычай цікавыя ўспаміны Напалеона Чарноцкага, надрукаваныя ў 1923 годзе ў Варшаве. Чарноцкі быў бібліятэкарам тайнай вучнёўскай бібліятэкі, вакол якой і ўтварыўся гурток. Літаратура спачатку была толькі на рускай мове, асаблівай папулярнасцю карысталіся «Гістарычныя пісьмы» Міртава (псеўданім ідэолага народніцтва П. Л. Лаўрова). Пра тое, як уздзейнічала на моладзь кніга Лаўрова, вельмі добра напісала ў 1900 годзе Роза Люксембург: «Быў час, калі Пётр Лаўроў быў духоўным бацькам і выхаваўцелем цэлага сацыялістычнага пакалення ў Расіі, калі яго імя поўнасцю — па ўсёй Еўропе, дзе толькі быў вывешаны сцяг сацыялістычнага руху, — вымаўлялася з пачуццём найглыбокага шанавання. А гэта была выдатная эпоха ў гісторыі рускага рэвалюцыйнага руху... выйшаўшы ў 1870 г. асобнай кнігай, яны («Гістарычныя пісьмы» — В. С.) сталі ў 70-х—80-х гадах кнігай выхавання рэвалюцыйнай моладзі».

Пад уплывам працы Лаўрова слуцкія гімназісты перайшлі да прапаганды набытых поглядаў. У тайнай бібліятэцы з'явіліся кнігі на польскай мове, іх перадала недзе ў 1885 годзе польская

пісьменніца Эма Яленская (Дмахоўская) праз свайго кузена Вацлава Ластоўскага. Магчыма, што менавіта тады трапіў да гімназістаў і «Бацька Шыман». Гурткоўцы пераклалі брашуру на беларускую мову, Н. Чарноцкі ўспамінае, што яе перапісвалі і друкавалі на кватэры ў Антона Ражава. З дапамогай брашуры гімназісты пачалі рэвалюцыйную прапаганду сярод сялян, пра што сведчаць архіўныя дакументы, уведзеныя ў навуковае ўжыванне С. Александровічам і В. Салашэнкам. У сакавіку 1886 года быў прыцягнуты да адказнасці пісар Пукаўскай воласці Ігуменскага павета Ігнат Ластоўскі, які чытаў брашуру «Дядя Шимон». Ластоўскаму яе перадаў слуцкі гімназіст Іван Андрусевіч. Апошні чытаў брашуру сялянам вёскі Пукава Давыдоўскаму і братам Захарыкам. Паліцыя арыштавала А. Ражава, на яго кватэры зрабілі вобыск, але тыраж брашуры на той час ужо разышоўся, а гектограф пераправілі да бацькоў Н. Чарноцкага. Быў знойдзены толькі рукапісны тэкст «Дяди Шимона». Праўда, С. Александровіч лічыць, што гэта брашура была на рускай мове. Можна меркаваць, што паліцыя проста магла не да ўсяго дазнацца ці нават не зафіксаваць у дакументах дадзеныя пра мову выдання. На жаль, слуцкая брашура да гэтага часу не выяўлена, патрэбны спецыяльныя пошукі.

Не выключана, што слуцкае, а не мінскае выданне (прыпомнім звесткі Жыготы Паўлі, пра якія пісаў У. Казбярук) нейкім чынам трапіла ў Львоў і там ў 1887 годзе пабачыла свет пад назвай «Старая прысказка».

Што да сувязі слуцкага варыянта з тыльзіцкім выданнем «Дзядзькі Антона», то менавіта праз Н. Чарноцкага гектаграфаваная брашура ці яе спіс мог трапіць у Маскву, у студэнцкую арганізацыю, а затым М. Абрамовіч і выдаў яе ў Тыльзіце пад назвай «Дзядзька Антон». У зборніку Г. Кісялёва «Пачынальнікі» (Мн., 1977. С. 38) змешчаны ўспаміны М. Янкуса, уладальніка друкарні ў Тыльзіце, які па заказу М. Абрамовіча надрукаваў брашуру.

На карысць таго, што Н. Чарноцкі мог удзельнічаць як у стварэнні слуцкага варыянта, так і ў падрыхтоўцы тыльзіцкага выдання гэтага варыянта, сведчаць яго літаратурныя здольнасці. Яшчэ будучы вучнем 8 класа Слуцкай гімназіі, ён звярнуўся да У. Караленкі з просьбай дазволіць яму перакласці на польскую мову апавяданне «В дурном обществе». Такі дазвол быў атрыманы. Пазней Н. Чарноцкі даслаў У. Караленку пераклад і наступным чынам тлумачыў сваю цікавасць да апавядання: «Я заўважыў, што некаторыя чытачы недастаткова высока цэняць гэта



10. Зак.2059

апавяданне толькі таму, што не заўважаюць надпісу «З дзіцячых успамінаў майго прыяцеля». Калі б гэтага надпісу не было, то я і не ўзяўся перакладаць, таму што ў апавяданні так шмат незвычайнага і выпадковага (для мяне), што яно набывае вялікую цікавасць толькі таму, што я веру, што гэта выпадак з сапраўднага жыцця, а не вынік жывой фантазіі»[8].

У 1907 годзе ў Пецярбургу была выдадзена на беларускай мове брашура Н. Чарноцкага «Як будзе з зямлёю?», дзе аўтар сцвярджаў, што аграрнае пытанне трэба вырашаць мірным шляхам. Друкаваўся ён і ў «Нашай ніве»: 25 студзеня 1907 года пад крыптанімам N. Cz. змясціў допіс «З Слуцкага павету», 21 чэрвеня 1912 года пад уласным прозвішчам – допіс «З Канады». Супрацоўнічаў Н. Чарноцкі і з газетай «Минский курьер», што выдавалася ў 1908 годзе на рускай мове і шмат увагі надавала развіццю беларускай культуры. Выдаўцом газеты быў адвакат Віктар Чавусаў, які ў культурным жыцці дарэвалюцыйнага Мінска з'яўляўся даволі значнай фігурай. Часта друкаваўся ў гэтым выданні Уладзімір Самойла, сябар і апякун маладога Янкі Купалы.

Артыкул Н. Чарноцкага «Да пытання пра беларускую народную школу» («Минский курьер», 09.04.1908) ужо даўно прыцягвае ўвагу літаратуразнаўцаў і даследчыкаў грамадскай думкі Беларусі. Яго аўтар выступіў у абарону беларускай мовы: «Цяжка быць раўнадушным сведкам з'явы, здаецца, адзінай у жыцці: шасцімільённы народ, фактычна не горшы за іншы, і ў той самы час народ амаль бязмоўны. Свая мова ў яго, вядома, ёсць – «Слоўнік беларускай гаворкі» Насовіча не танчэй за іншыя слоўнікі». Затым паведамлялася пра слоўнік Язэпа Ціхінскага: «Слоўнік ужо мае да 40 000 слоў. Аб гэтым даследаванні ўжо вядома Акадэміі навук, якая, трэба думаць, дапаможа аўтару выдаць яго выдатную працу». Але, паводле слоў Н. Чарноцкага, сам народ «быццам бы не шануе гэту мову. Далучаючыся да асветы, культуры, дабрабыту, ён яе кідае амаль гэтак жа лёгка, як лапці і світку». Далей аўтар выявіў сябе добрым знаўцам і прапагандыстам маладой беларускай літаратуры: «Адзін з народных настаўнікаў памяняў пасаду вясковага настаўніка на яшчэ менш забяспечаную — сталага супрацоўніка «Нашай нівы» і змяшчае ў ёй свае вершы пад псеўданімам Якуб Колас. Заўчасна бачыць у яго асобе беларускага Шаўчэнку, але нельга сумнявацца ў шчырасці і арыгінальнасці яго таленту. Калі я пачаў чытаць яго калыханку («Песня над калыскай», змешчана ў «Нашай ніве» 20.04.1907 — В. С.) маладому настаўніку пачатковай

школы, які сіліўся ў гутарцы не выявіць ні аднаго беларускага слова, яго змучаны застылы твар асвяціўся шырокай радаснай усмешкай. Ён, мабыць, упершыню даведаўся, што на яго мове, ад якой ён з такім намаганнем адрокся, можна не толькі размаўляць, але і пісаць, і друкаваць».

Н. Чарноцкі паказаў добрае веданне беларускага фальклору, засведчыў свае знаёмства з М. Федароўскім, чыю трохтомную працу «Беларускі народ» (падораную аўтарам) ён вельмі любіў чытаць. З вялікай павагай гаворыць Н. Чарноцкі пра выдатнага фалькларыста: «Наколькі яшчэ багата вусная славеснасць беларусаў... як прывабна яе вывучэнне для спецыяліста бачна з таго, што той жа Федароўскі на збор сваіх матэрыялаў аддаў больш за 20 гадоў жыцця і ўсю маёмасць сям'і. Акрамя трох тамоў, выдадзеных Кракаўскай акадэміяй, у яго ёсць матэрыялы на дзесяткі тамоў. Ад адной дзяўчыны на маіх вачах ён запісаў 300 песень і 70 матываў. Адных запісак з прымаўкамі набярэцца каля пуда. Не ведаю, ці знойдуцца сродкі на выданне гэтых прац аднаго чалавека, якія зрабілі б гонар цэламу навуковаму таварыству. Але несумненна, што крыніцы адраджэння беларускай мовы не вычарпаны і не вычарпаюцца».

...З копіяй гэтага артыкула мяне пазнаёміў доктар філасофскіх навук У. М. Конан, які вывучаў літаральна ўсе беларускія дарэвалюцыйныя газеты. Здавалася, што «Минский курьер» ужо можна не праглядаць, тым больш, што ў мінскіх сховішчах яго няма. Але вось надарылася быць у Маскве. У Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве г. Масквы вывучаю студэнцкую справу Н. Чарноцкага (ф. 418, воп. 301, спр. 778). Яна цікавая перш за ўсё тым, што ў ёй захаваліся аж дзве фатаграфіі (а. 43 адв.) і аўтографы студэнта Маскоўскага універсітэта Напалеона Чарноцкага. Паездку ў Хімкі, дзе знаходзіцца газетны аддзел бібліятэкі, адклаў на нядзелю, калі архівы не працуюць. Паездка аказалася вельмі карыснай. У «Минском курьере» за 1 лютага 1908 года змешчана справаздача са з'езда ўрачоў Мінскай губерні, пра выступленне Н. Чарноцкага паведамлялася наступнае: «Але вось на кафедру ўваходзіць лахматы з выгляду пан, апрануты ў сурдут ледзь не з чужога пляча; толькі блакітны банцік у пятліцы паказвае, што ён урач і член з'езда. Мяккім голасам, які адразу падкупаў, ён пачынае свой даклад пра сельскую медыцыну. Таленавітае выкладанне, смелы палёт яго думак, арыгінальнасць поглядаў, якія ідуць уразрэз з напрамкам выпешчанай намі земскай медыцыны, неабвержныя факты і з'явы, якія ведалі і ведаюць усе работнікі на медыцынс-

кай ніве, тонкі гумар, у які ўвасабляліся гэтыя факты, лагічна выцякаўшыя адтуль вывады, што ў кожнага з урачоў ужо і раней склаліся, але якія раней ніхто не асмеліўся казаць уголас – усё гэта здабыло дакладчыку сімпатыю аўдыторыі, якая, затаіўшы дыханне, прагна глытала кожнае яго слова... Даклад цягнуўся больш за гадзіну і калі ён быў скончаны, то разам з бурнымі апладысментамі ў кожнага вырваўся ўздых шкадавання, што працягу не будзе. Між тым, доктар Чарноцкі (прозвішча дакладчыка) выказаў з пункту гледжання земскага дзеяча ерatычныя думкі...».

Далучыўся Н. Чарноцкі і да першых крокаў беларускага тэатра. Ён у 1910 годзе пераклаў вадэвіль А. Чэхава «Сватанне», выдадзены суполкай «Загляне сонца і ў наша ваконца». П'еса ўкраінскага драматурга М. Крапіўніцкага «Пашыліся ў дурні» таксама была выдадзена суполкай у 1910 годзе. Перакладчык, а дакладней аўтар перапрацоўкі не названы, але, як лічаць Т. Кабржыцкая і В. Рагойша, «па ўсёй верагоднасці, ён усё-такі выкананы доктарам Н. Чарноцкім». Такое сцверджанне даследчыкаў грунтуецца на паведамленні «Нашай нівы» аб прысылцы ў рэдакцыю д-рам Чарн(оцкім) перакладаў «Сватання» і «Пашыліся ў дурні», а таксама на тым, што гэтыя п'есы перакладзены ў адной творчай манеры.

Больш складанае пытанне пра пераклад Н. Чарноцкім п'есы М. Крапіўніцкага «Па рэвізіі». Т. Кабржыцкая і В. Рагойша падаюць звесткі, што гэта камедыя была перакладзена на беларускую мову яшчэ ў 90-х гадах XIX стагоддзя. У 1911 годзе «Па рэвізіі» была выдадзена без указання перакладчыка. Гэта п'еса на беларускай мове была пастаўлена ў 1902 годзе ў Радашковічах і маёнтку Карлсберг пад Мінскам, 7 красавіка 1906 года – у маёнтку Пятроўшчына, другім пасля Начы ўладанні Казіміра Чарноцкага. Захавалася афіша спектакля, упершыню надрукаваная Г. Барышавым у «Літаратуры і мастацтве» 23 кастрычніка 1957 года. У афішы адзначаецца, што камедыю «пераложыў на беларускую Апанас К.». Г. Барышаў на падставе сведчання Я. Дылы паведаміў, што пераклад быў зроблены Н. Чарноцкім. 18 снежня 1957 года ў «Літаратуры і мастацтве» Я. Дыла надрукаваў артыкул «Беларускія спектаклі ў перыяд рэвалюцыі 1905 г.», у якім удакладняў прачытанне Г. Барышавым прозвішчаў выканаўцаў і адносна перакладчыка камедыі пісаў: «П'еса была перакладзена на беларускую мову доктарам Чарноцкім – адным з натхніцеляў тэатра, які пісаў у гэтай газеце («Нашай ніве»? – **В. С.**) пад псеўданімам «Апанас».

Але вось у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва чытаю рукапіс артыкула Я. Дылы «Беларускі тэатр з 1850-х гадоў» (ф. 53, воп. 1, спр. 125), дзе ўпамінаецца афіша спектакля ў Пятроўшчыне, называецца перакладчык Апанас К., а затым між радкамі, дробнымі літарамі напісана: «Пад гэтай мянушкай пісаў і быў перакладчыкам доктар Чарноцкі» (а. 12). Самае цікавае, што прыпіска закрэслена. Няўжо гэта значыць, што Я. Дыла сумняваўся ў правільнасці расшыфроўкі псеўданіма? Быццам бы можна і не звяртаць увагі на тое, што закрэслена. Але запомнім гэта. Н. Чарноцкі названы перакладчыкам «Па рэвізіі» і ва ўспамінах А. Бурбіса «Колькі слоў аб беларускім тэатры і хоры», змешчаных у 1974 годзе ў I томе «Хрэстаматыі па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі». Да сведчання аднаго з арганізатараў спектакля ў Пятроўшчыне А. Бурбіса, які напэўна ведаў перакладчыка, трэба ставіцца, здавалася б, з поўным даверам. Але ж нават называючы свае псеўданімы, А. Бурбіс прыводзіць мянушку зусім іншай асобы...

Аказалася, што ўспаміны надрукаваны па незавершанай машынапіснай копіі артыкула, напісанай А. Бурбісам у 1921 годзе па просьбе З. Бядулі, які збіраў матэрыялы па гісторыі беларускага тэатра. Разам з асабістым архівам Я. Дылы копія артыкула і трапіла ў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Шукаю публікацыі ў «Нашай ніве», падпісаныя псеўданімам «Апанас К.», і знаходжу за подпісам «Апанас» артыкул «З Вялікарасіі» (1912, № 3). Н. Чарноцкі напісаць яго не мог, бо ў той час жыў у Канадзе. Затое ў 1907 г. у № 25 газета напісала ў «Паштовай скрынцы» нейкаму Апанасу з Івянца, што простыя лісты часта недзе прападаюць, таму трэба пісаць у газету заказным. У № 27 у «Паштовай скрынцы» для Ап. (Апанаса – ?) з Івянца даваліся парады, як адкрываць прыватныя школы. Значыць, Апанас жыў у 1907 годзе ў Івянцы. Але ж ці меў ён адносіны да спектакля ў Пятроўшчыне? Аказалася, што меў. І самыя непасрэдныя. У БДАМЛіМ захоўваюцца ўспаміны Ф. Стацкевіча, шмат старонак у якіх прысвечана беларускаму грамадска-культурнаму руху на Беларусі ў час рэвалюцыі 1905 года. Ф. Стацкевіч сцвярджае, што Станіслаў Кукель меў псеўданім («мянушку») «Апанас» і жыў у 1907 годзе ў Івянцы, дзе рыхтаваў да экзаменаў дзяцей за чатыры класы гімназіі. Я. Дыла называе С. Кукеля сярод арганізатараў спектакля ў Пятроўшчыне, таму не выключана, што «Па рэвізіі» была перакладзена не Н. Чарноцкім, а С. Кукелем.

Т. Кабржыцкая і В. Рагойша адшукалі ў БДАМЛіМ рукапіс

перакладу «Па рэвізіі». Праўда, захаваўся ён не ў архіве «Нашай нівы», як сцвярджаецца ў кнізе «Карані дружбы», а ў справе кніжнага таварыства «Мінчук», якое дзейнічала ў Мінску ў 1906 – 1907 гадах. Рукапіс перакладу значна адрозніваецца ад выдання 1911 года. Не выключана, што гэты рукапіс меркавала выдаць таварыства «Мінчук». Па часу пераклад вельмі блізкі да пастаноўкі ў Пятроўшчыне, а Пятроўшчына ў 1906 годзе – гэта ж прыгарад Мінска (цяпер у межах горада), таму напрошваецца думка пра сувязь архіўнага перакладу са спектаклем у Пятроўшчыне.

*Спасылкі*

[1] *Мархель У.* Кніга для запісу..., альбо 234 аўтографы // Дзеля блізкіх і прышласці. Мн., 1999.

[2] *Ядвігін Ш.* Выбраныя творы. Мн., 1976. С. 253.

[3] «Негодяй из негодяев –

Этот с... сын Бердяев...

Бярдзяеў быў тады начальнікам сыскной паліцыі.

«Есть еще один таковский –

Генерал-майор Юрковский».

Юркоўскі — тагачасны маскоўскі паліцмайстар».

Гл.: *Ядвігін Ш.* Выбраныя творы, С. 294. (Такія экспромты складалі студэнты ў Бутырках).

[4] Цытуецца па: *Орехов А. М.* Указаны твор. С. 220—221.

[5] *Ядвігін Ш.* Выбраныя творы. С. 259—260.

[6] Студенческие волнения 1890 г. в Петровской сельскохозяйственной академии. Публикация В. М. Суринова // Советские архивы. 1982. № 3. С. 30 — 35.

[7] Ядвігін Ш. таксама сцвярджае, што родам ён быў «з-пад Слуцка (здаецца: сын валаснога пісара)». Замест прозвішча прыводзіцца толькі крыптанім В...іч). Выбраныя творы. С. 288.

[8] Цытуецца па: *Букчин С.* Вся ваша честная деятельность... // Неман. 1982. № 2. С. 156.

[9] *Дыла Я.* Творы. Мн., 1981. С. 295.

*Віталь Скалабан*

# Аляксандр САДОЎСКІ (1859–1923)



а працягу многіх стагоддзяў уласцівасці святла былі адной [redacted] самых цікавых таямніц прыроды. Ім прысвячалі свае даследаванні А. Ньютан і П. Гук, М. Ламаносаў і Л. Эйлер, Х. Гюйгенс і П. Бугер, Ё. Ламберт і Ч. Юнг, А. Фрэнель і Ё. Фраунгофер. Уласцівасці светлавых промняў вывучалі праз іх фізіялагічнае, хімічнае або цеплавое ўздзеянне. З'яўленне ў 1863 годзе электрамагнітнай тэорыі Дж. Максуэла дало магчымасць гаварыць і пра механічныя якасці святла.

У 1619 годзе нямецкі астраном Ёган Кеплер выпускае працу аб каметах. З таго часу амаль 300 гадоў фізікі і астраномы намагаліся абгрунтаваць наяўнасць светлавога ціску – адзіна магчымай, як тады лічылася, механічнай уласцівасці святла. Аднак толькі ў 1899 годзе ціск святла на цвёрдыя целы, прадказаны Максуэлам, быў вымераны расійскім вучоным — прафесарам Пецярбургскага універсітэта П. Лебедзевым. На пяць гадоў раней, у 1894 годзе, прафесар Юр'еўскага універсітэта А. Садоўскі выказаў думку пра наяўнасць яшчэ адной механічнай уласцівасці святла – вярчальнага ўздзеяння светлавой хвалі, тэарэтычна абгрунтаваў наяўнасць у светлавых хвалях пандэрматорнага ўздзеяння і зрабіў разлік яго велічыні.

Няпростым быў лёс гэтага, зробленага на «кончыку пяра», адкрыцця, як і жыццёвы шлях яго аўтара – ураджэнца Беларусі Аляксандра Іванавіча Садоўскага.

Нарадзіўся Аляксандр Садоўскі 24 лістапада 1859 года ў Віцебску і паходзіў са старадаўняга, але збяднелага роду беларускай шляхты, карані якога губляліся ў XVII стагоддзі[1]. Дзяцінства хлопчыка прайшло ў Віцебску і яго наваколлі. Пачатко-

вую адукацыю ён атрымаў дома пад кіраўніцтвам хатніх настаўнікаў. У 1872 годзе сям'я пераехала ў Гельсінгфорс[2], куды бацька будучага фізіка Іван Садоўскі быў накіраваны для службы ў якасці палкоўніка Генеральнага штаба расійскай арміі. У тым жа годзе А. Садоўскі паступіў у трэці клас Аляксандраўскай мужчынскай гімназіі. Ужо падчас навучання выявіліся вялікая цікаўнасць і здольнасці да дакладных навук. У атэстаце, які ён атрымаў пры заканчэнні навучання, адзначалася: «стала выяўляў да фізічна-матэматычных навук вялікую цікавасць». У жніўні 1877 года А. Садоўскі ва ўзросце 18 гадоў стаў студэнтам адной з самых прэстыжных навучальных устаноў Расійскай імперыі – Імператарскага Санкт-Пецярбургскага універсітэта.

Ужо ў студэнцкія гады А. Садоўскі пачынае навуковыя даследаванні: ва універсітэце для гэтага былі створаны ўсе неабходныя ўмовы, і ў снежні 1880 года з вынікамі яго першай навуковай працы, прысвечанай даследаванню гальванічнага элемента Ніадэ, былі азнаёмлены ўдзельнікі фізічнай секцыі VI з'езда расійскіх прыродазнаўцаў і лекараў. У 1881 годзе А. Садоўскі быў абраны сапраўдным сябрам Рускага фізіка-хімічнага таварыства, арганізаванага ў 1872 годзе пры Санкт-Пецярбургскім універсітэце[3]. У пецярбургскі перыяд жыцця вучоны быў актыўным удзельнікам пасяджэнняў гэтага таварыства, выступаў з дакладамі і прапановамі, што ў значнай ступені спрыяла развіццю яго навуковага светапогляду.

У траўні 1881 года А. Садоўскі паспяхова прайшоў «канчатковыя выпрабаванні» і бліскуча абараніў дыпломную працу. Пастановай Рады Пецярбурскага універсітэта ён атрымаў ступень кандыдата па фізіка-матэматычнаму аддзяленню[4] і быў пакінуты ва універсітэце «для падрыхтоўкі да прафесарскай годнасці». Аднак з-за матэрыяльных прычын А. Садоўскі не выкарыстаў магчымасцей «прафесарскага кандыдата»: за два гады аспірантуры ён не прайшоў магістэрскіх экзаменаў і не падрыхтаваў дысертацыйнай працы. У лістападзе 1883 года А. Садоўскі паступіў на службу ў прыватную жаночую гімназію Э.Шаффе выкладчыкам матэматыкі і фізікі. У 1888 годзе пачаў выкладаць фізіку ў Пецярбургскім інстытуце грамадзянскіх інжынераў і адначасова з 1891 года ў Горным інстытуце, а з наступнага года – на Вышэйшых жаночых курсах.

Нягледзячы на вялікую нагрузку выкладчыка, А. Садоўскі працягвае праводзіць свае навуковыя даследаванні па вывучэнню анамальных паводзін бісмута ў магнітным полі. У той час фізікам было вядома, што супраціўленне бісмута рознае пры

пастаянным і пераменным току. Аднак вымяральныя велічыні ў розных даследчыкаў былі розныя. Яшчэ на пачатку 90-х гадоў вучоны паўтарыў доследы сваіх папярэднікаў і прапанаваў арыгінальную канструкцыю прылады для стварэння пераменнага току – «перапыняльніка» з вярчальнымі зубчастымі коламі. Першыя паведамленні пра свае даследаванні праводнасці бісмуту А. Садоўскі зрабіў 22 верасня 1892 года на пасяджэнні Рускага фізіка-хімічнага таварыства. У траўні 1894 года ён абараніў дысертацыйнае даследаванне, у якім эксперыментальна выявіў, што супраціўленне бісмуту з'яўляецца функцыяй хуткасці змены сілы току, пры гэтым істотнае значэнне мае знак змянення і абсалютная велічыня сілы току. Аналізуючы атрыманыя вынікі, вучоны прыходзіць да высновы, што «ўсё залежыць ад самога бісмуту, ад асаблівасцей яго структуры».

У тым жа годзе А. Садоўскі быў зацверджаны ў годнасці экстраардынарнага прафесара Юр'еўскага[5] універсітэта на кафедры фізікі, а ў 1900 годзе пераведзены ў ардынарныя, не маючы пры гэтым ступені доктара навук (гэта было вельмі рэдкім выключэннем для таго часу). Адначасова ён з'яўляўся дырэктарам фізічнага кабінета і здабываў для яго абсталяванне, збіраў бібліятэку, праводзіў самастойна і разам са студэнтамі розныя даследаванні. У верасні 1905 года А. Садоўскі быў зацверджаны дэканам фізіка-матэматычнага факультэта, а ў кастрычніку 1906 года абраны прарэктарам універсітэта.

З Юр'еўскім універсітэтам звязаны асноўныя дасягненні вучонага. Тут ён пачынае цыкл даследаванняў, прысвечаных вывучэнню механічных (пандэрматорных) уласцівасцей светлавых хваль. Ужо ў 1894 годзе ён робіць дапушчэнне, што палярызаваныя па коле электрамагнітныя і светлавыя хвалі мусяць мець «вярчальны момант». Даследчык сцвярджаў, што калі такое святло трапіць на нейкае цела, падвешанае на вельмі тонкай ніткі, то пры праходжанні праз яго промняў гэта цела павінна павярнуцца ў той ці іншы бок – у залежнасці ад характару палярызацыі хвалі. Мноства эксперыментаў прайшло безвынікова. Тады А. Садоўскі робіць тэарэтычныя разлікі, якія дазваляюць яму сцвярджаць, што «для выяўлення з'яў, якіх мы чакаем, патрэбна адчувальнасць, якой яшчэ не дасягнуў ніхто з эксперыментатараў».

Вучоны адзначае магчымасць пандэрматорных уздзеянняў плоскапалярызаваных электрамагнітных і светлавых хваль на крышталі: калі праз крышталічную пласцінку прапусціць пучок электрамагнітных або светлавых плоскапалярызаваных про-

мняў, то ён будзе імкнуцца паставіць пласцінку пэўным чынам да кірунку вагання. Менавіта для такіх пласцінак А. Садоўскі і зрабіў свае разлікі. У 1898 годзе ён упершыню тэарэтычна даказаў існаванне вярчальнага дзеяння светлавых хваляў, якія падаюць на крышталь (эфект Садоўскага), вылічыў вярчальныя моманты і даказаў магчымасць непасрэднага пераўтварэння светлавой энергіі ў механічную.

Праз пяць гадоў ад пачатку даследаванняў праца была скончана. А. Садоўскі надрукаваў яе ў «Часопісе Рускага фізічна-матэматычнага таварыства» і ў «Навуковых запісках Імператарскага Юр'еўскага універсітэта». Найгалоўнейшым дасягненнем вучоны лічыў не прапанаваныя ім матэматычныя мадэлі з'яў, а «вызначэнне колькасных ўмоў, пры якіх эксперыментальнае даследаванне пытання павінна ісці».

З пазіцыі ацэнкі вынікаў развіцця фізічнай думкі ў Расіі ў гэтым перыядзе праца Садоўскага – адно з самых стройных тэарэтычных даследаванняў. Аднак да сусветнай вядомасці шлях «эфекту Садоўскага» быў далёка не простым. Таленавіты вучоны добра разумеў значнасць атрыманых вынікаў, таму і наважыўся падаць працу аб пандэрматорным уздзеянні светлавой хвалі ў якасці дысертацыйнай на ступень доктара ў Санкт-Пецярбургскі універсітэт. Аднак ні ў Пецярбургу, ні ў Маскве праца вучонага не сустрэла падтрымкі вядомых фізікаў. Яна не была ўхвалена рэцэнзентамі Вучонай рады універсітэта. А. Садоўскі палічыў навуковую палеміку з апанентамі бессэнсоўнай і адмовіўся ад абароны.

На неразуменне калег ён адрэагаваў вельмі своеасабліва – спыніў свае фізічныя даследаванні і пасля 1900 года не надрукаваў ніводнага навуковага артыкула па фізіцы, сканцэнтраваўшы свой талент на педагагічнай дзейнасці. Студэнты з цікавасцю слухалі яго лекцыі, лепшыя канспекты перадаваліся з курса на курс. І сёння некаторыя з іх з выпраўленнямі і заўвагамі лектара захоўваюцца ў Санкт-Пецярбургу, ў бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына.

Спатрэбілася дзесяць гадоў, каб навуковая грамадскасць зразумела значнасць адкрыцця, зробленага нашым земляком. Нізкі ўзровень развіцця тэхнікі эксперымента не дазваляў праверыць «эфект Садоўскага», і ўсё ж цікавасць да праблемы засталася. Вучоныя свету працягвалі доследы. І здарылася так, што прыярытэт у адкрыцці сталі прыпісваць англійскаму фізіку Дж. Пойтынгу. Каб канчаткова высветліць пытанне навуковага прыярытэту, П. Эрэнфест[6] зрабіў на пачатку 1911 года падра-

бязны даклад аб працы А. Садоўскага на адным з пасяджэнняў Рускага фізіка-хімічнага таварыства. Слушнасць тэарэтычных высноў А. Садоўскага была эксперыментальна даказана толькі ў 1935 годзе амерыканскім вучоным Р. Бэтам. Менавіта з гэтага часу адкрытая ўраджэнцам Беларусі з'ява стала звацца «эфектам Садоўскага» і набыла сусветнае прызнанне.

У лістападзе 1917 года Рада Пецярбургскага універсітэта, узяўшы пад увагу выдатныя навуковыя заслугі А. Садоўскага, прысудзіла яму ступень ганаровага доктара фізікі без публічнай абароны дысертацыі як знак прызнання вялікага значэння зробленага ім адкрыцця.

Разам з навуковымі даследаваннямі А. Садоўскі актыўна займаўся асветніцкай і грамадскай дзейнасцю. У 1895 годзе па даручэнню генерала А. Ціла ён ажыццявіў нівеліроўку чыгункі ад Шлісельбурга да Новай Ладагі і ад Новай Ладагі да вытокаў ракі Свір. З прапановы апекуна Рыжскай навучальнай акругі ўдзельнічаў у нарадзе, прысвечанай паляпшэнню выкладання фізікі ў сярэдняй школе. У 1900 годзе прымаў удзел у камісіі Міністэрства фінансаў для выпрацоўкі Палажэння аб Пецярбургскім політэхнічным інстытуце. Ён быў абраны членам арганізацыйнага камітэта Першага з'езда выкладчыкаў фізікі (1902, С.-Пецярбург), Першага ўсерасійскага з'езда выкладчыкаў фізікі, хіміі і касмаграфіі (1913).

Падчас першай сусветнай вайны вучоны браў актыўны ўдзел у распрацоўцы аптычнай часткі прылад марской артылерыі: у ліпені 1915 года ён быў запрошаны Ваенна-прамысловым камітэтам Расіі кансультантам на Расійскае прадпрыемства па дакладнай механіцы і оптыцы для вырашэння праблем, звязаных з вытворчасцю аптычнага шкла для ваенных мэт. З траўня 1916 г. А. Садоўскі – загадчык кафедры фізікі Мікалаеўскай марской акадэміі, дзе працаваў да сярэдзіны 1918 года.

Кастрычніцкі пераварот 1917 года раптоўна змяніў складзены гадамі лад жыцця вучонага. Падзеі ў краіне – голад ў Петраградзе, грамадзянская вайна, «чырвоны тэрор» – вымусілі А. Садоўскага эміграваць з Расіі. Апошнія гады жыцця ён правёў у Празе, дзе з 1923 года загадваў кафедрай фізікі Расійскага народнага універсітэта.

Памёр А. Садоўскі 26 снежня 1923 года падчас прыступу стэнакардыі і быў пахаваны на Альшанскіх могілках.

Імя выдатнага вучонага – ураджэнца Беларусі — можна сустрэць у шматлікіх энцыклапедычных выданнях. Аднак з-за нашага нацыянальнага нігілізму ён вядомы навуковай грамадс-

касці як рускі вучоны. Адной з першых прац, прысвечаных Аляксандру Садоўскаму, з'явілася кніга Т. Процькі «Даследчык таямніц святла» (Мн., 1994) у акадэмічнай серыі «Нашы славутыя землякі», дзе ўпершыню імя выдатнага вучонага было вернута Бацькаўшыне, а яго навуковая спадчына далучана да беларускай гісторыі як неад'емная частка нашага мінулага.

*Спасылкі*

[1] Продкі А. Садоўскага належалі да шляхецкага герба Любіч, які ўяўляў сабой выяву сярэбранай падковы з двума залатымі крыжамі на цёмна-блакітным фоне як сведчанне пра слаўнае вайсковае мінулае. Упрыгожваў выяву герба рыцарскі шалом з пёрамі.

[2] Гельсінгфорс – шведская і руская назва г. Хельсінкі, сталіцы Фінляндыі. У 1809 г. Фінляндыя была далучана да Расійскай імперыі і ў другой палове XIX ст. Вялікае княства Фінляндскае мела статус аўтаномнага княства з сеймам і ўрадам.

[3] Звычайна навуковыя таварыствы ствараліся пры вышэйшых навучальных установах і некаторыя з іх карысталіся матэрыяльнай падтрымкай дзяржавы.

[4] Па заканчэнні універсітэта студэнт мог атрымаць ступень кандыдата або годнасць правадзейнага студэнта. Каб атрымаць ступень кандыдата, неабходна было здаць экзамен па універсітэцкім курсе факультэта і абаніць самастойна выкананую навуковую працу – так званае «пісьмовае разважанне» па праблеме аднаго з профільных прадметаў факультэта. Акрамя таго, суіскальнік ступені кандыдата павінен быў даказаць на экзамене добрае веданне нямецкай або французскай моў.

[5] Раней Дэрпцкі, зараз Тартускі універсітэт у Эстоніі. А. Садоўскі быў запрошаны ва універсітэт яго рэктарам членам-карэспандэнтам Пецярбургскай акадэміі навук А. Будзіловічам – таксама нашым земляком, ураджэнцам Гродзенскай губерні. Тут А. Садоўскі разам з сям'ёй пражыў дваццаць гадоў.

[6] Эрэнфест Паўль (1880 – 1933) – аўстрыйскі фізік-тэарэтык. У 1907 – 1912 гадах прафесар Політэхнічнага інстытута ў Пецярбургу.

*Вольга Гапоненка*

# Соф'я КАВАЛЕЎСКАЯ (1850–1891)



анчына і навука... На працягу не аднаго стагоддзя гэтыя словы лічыліся ледзь не ўзаемавыключальнымі. Рэдка хто наважваўся ставіць паміж імі знак роўнасці. Прыгажуня, захавальніца сямейнага цяпла, пяшчотная маці і клапатлівая жонка, ці магла яна — жанчына — раптоўна для звыклых да гэтых характарыстык сяброў і суседзяў стаць уровень з мужчынамі, самастойнай і незалежнай, рашуча кінуць выклік другой «жанчыне», імя якой Навука!

Так, магла, бо з кожнай традыцыі, з кожнага правіла ёсць выключэнне. Гісторыя рупліва захоўвае ў сваёй памяці імёны лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі фізіка і хіміка Марыі Складоўскай-Кюры — заснавальніцы вучэння пра радыеактыўнасць, і яе дачкі – першага дырэктара Інстытута радыя, прафесара Парыжскага універсітэта фізіка Ірэн Жоліо-Кюры, матэматыка Эмі Амаці Нёстэр, француженкі Эміліі дзю Шатле, якая на пачатку XVIII стагоддзя пераклала на французскую мову «Пачаткі» І. Ньютана, італьянкі Марыі Аньезі, у гонар якой адна з крывых у матэматыцы завецца «локан Аньезі».

Сярод імёнаў гэтых выдатных жанчын з асаблівай прываблівасцю паўстае імя Соф'і Кавалеўскай — нашай суайчынніцы, славутага матэматыка і таленавітай пісьменніцы, першай у свеце жанчыны — прафесара універсітэта і першай жанчыны, якая за дасягненні ў навуцы была абрана членам-карэспандэнтам Пецярбургскай Акадэміі навук. Гэта ёй належаць фундаментальныя працы па матэматыцы і механіцы, гэта ёй Парыжская Акадэмія навук за работу па тэорыі вярчэння вакол нерухомай

кропкі прысудзіла сваю вышэйшую ўзнагароду — прэмію імя Бардэна.

Яе жыццё было ахоплена высокім імкненнем — зрабіць жанчыну, ў яе грамадзянскіх правах роўнай з мужчынам, адкрыць ёй шырокую прастору рознабаковай дзейнасці ў галіне адукацыі і навукі. І Соф'я Кавалеўская з гонарам выканала абраную ролю, зрабіўшы пераварот у адносінах да жанчыны, у разуменні яе ролі і месца ў навуцы і грамадстве.

Нарадзілася Соф'я Кавалеўская 3(15) студзеня 1850 года ў Маскве. У метрычнай кнізе Маскоўскай духоўнай кансісторыі Нікіцкага сарака Знаменскай царквы за Пятроўскімі варотамі захаваўся запіс: «3 студзеня нарадзілася, 17 — ахрышчана Сафія; бацька яе — Артылерыі палкоўнік Васіль Васільевіч сын Крукоўскі і законная жонка яго Аліза Фёдараўна; муж праваслаўнага веравызнання, а жонка лютэранка. Успрымальнікі: Артылерыі парутчык у адстаўцы Сямён Васільевіч Крукоўскі і правіянтмайстра Васіля Сямёнавіча сына Крукоўскага дачка Ганна Васільеўна».

Яе бацька, Васіль Корвін-Крукоўскі, належаў да старадаўняга беларускага шляхецкага роду герба Слепаўрон[1]. Крукоўскія любілі прыгадваць, што першая частка іх поўнага прозвішча «Корвін» — гэта мянушка венгерскага караля Мацвея, адважнага рыцара, мецэната і бібліяфіла. Яго дачка ўзяла шлюб з віцязем Крукоўскім. З таго часу і пачынаецца гісторыя роду Корвін-Крукоўскіх, які пасяліўся на Беларусі.

Васіль Крукоўскі быў добра адукаваны чалавек, які ведаў і любіў матэматыку, меў знаёмства з людзьмі навукі і літаратуры. У доме Корвін-Крукоўскіх у Санкт-Пецярбургу можна было сустрэць прафесараў матэматыкі П. Л. Лаўрова і М. М. Тыртова, выдатнага хірурга М. Т. Пірагова, мастака Ф. А. Моллера, прафесара арабскай славеснасці і журналіста А. Л. Сенкоўскага.

Больш за сорак гадоў аддаў Васіль Крукоўскі вайсковай службе. Узнагароджаны многімі ордэнамі царскай Расіі, у 1858 годзе, напярэдадні адмены прыгоннага права, ён пасяліўся ў радавым маёнтку Палібіна Невельскага павета, што на поўначы Віцебскай губерні[2]. Разам з ім тут пасяліліся яго жонка Елізавета з трыма дзецьмі: сынам Фёдарам, якому не было і трох гадоў, і двума прыгажунямі-дочкамі Анютай пятнаццаці гадоў ды Соняй васьмі гадоў. У 1863 годзе генерал-лейтэнант у адстаўцы Васіль Корвін-Крукоўскі быў абраны прадвадзіцелем дваранства Віцебскай губерні[3].

Маці Соф'і — Елізавета Крукоўская — паходзіла з сям'і

вядомых вучоных. Яна была ўнучкаю астранома і матэматыка, акадэміка Пецярбургскай Акадэміі навук Ф. Л. Шуберта і дачкою ганаровага акадэміка Пецярбургскай АН геадэзіста і вайскоўца Ф. Ф. Шуберта[4]. Яна шмат чытала, добра спявала і танцавала, іграла на фартэп'яна і ведала чатыры замежныя мовы. Гэта мілая, добрая жанчына імкнулася выхоўваць у дзяцей любоў да прыгажосці, цярплівасці да чалавека. У іх доме ў Палібіна вечарамі звычайна гучала музыка, ставіліся хатнія спектаклі.

У Палібіна прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады Соф'і Кавалеўскай. Тут яна зведала смак першай перамогі, упершыню зразумела найвялікшае ў сваім жыцці захапленне навукай, імя якой матэматыка. Сюды імкнулася яна ў думках у складаных жыццёвых сітуацыях, нібы чэрпаючы сілы і натхненне.

Соф'я Кавалеўская атрымала выдатныя па тых часах выхаванне і адукацыю. Яе настаўнікамі былі англічанка Сміт і хатні настаўнік Восіп Малевіч. Міс Сміт — ужо немаладая жанчына з даўно абрусеўшай англійскай сям'і — змагла выхаваць у дзяўчынкі мэтанакіраванасць, настойлівасць і велізарную працаздольнасць. Дзённы расклад Соф'і з самай раніцы да вечара быў распісаны па хвілінах, і міс Сміт з традыцыйнай англійскай педантычнасцю няўхільна выконвала ўсю запланаваную праграму заняткаў. Лёгкасці, з якой давалася ёй далейшае вывучэнне дакладных навук, С. Кавалеўская была абавязана В. Малевічу. Гэта ён дапамог дзяўчынцы ўбачыць за асобнымі матэматычнымі формуламі жыццё, напоўніць іх пэўным сэнсам, разабрацца у «... рэчах, якія выклікалі пакланенне да матэматыкі як да навукі вышэйшай і таямнічай, якая адчыняла перад пасвечанымі ў яе новы, цудоўны свет»[5]. Але асаблівая любоў да матэматыкі з'явілася ў дзяўчынкі пад уплывам яе дзядзькі, Пятра Васільевіча Корвін-Крукоўскага. «Ад яго я пачула ў першы раз пра квадратуру круга, пра асімптоты, да якіх крывая ўвесь час набліжаецца і ніколі іх не дасягае, і шмат іншых розных звестак», — напіша ў сваіх успамінах аб дзіцячых гадах ужо вядомы матэматык Соф'я Кавалеўская.

Значную ролю ў яе далейшым лёсе адыграў яшчэ адзін недарэчны факт. Вось што піша пра гэта Соф'я Кавалеўская: «Калі мы пераязджалі ў вёску, увесь дом прыйшлося рамантаваць, пакоі аклеіць новымі шпалерамі. Аднак на адзін з дзіцячых пакояў шпалераў не хапіла... Гэты пакрыўджаны пакой так і застаўся на нейкі час з адной сцяной, аклеенай паперамі. Але па шчасцю на гэтую папярэднюю аклейку пайшлі лісты літаграфаваных лекцый Астраградскага пра дыферэнцыйнае і інтэг-

ральнае вылічэнне. Лісты гэтыя, запоўненыя дзіўнымі і незразумелымі формуламі, хутка звярнулі на сябе ўвагу. Я памятаю, як у дзяцінстве праводзіла цэлыя гадзіны перад той таямнічаю сцяною, імкнучыся зразумець хаця б асобныя фразы і знайсці той парадак, у якім гэтыя лісты павінны былі крочыць адзін за адным. Ад штодзённага ўглядання знешні выгляд гэтых формул назаўсёды захаваўся ў маёй памяці, ды і сам тэкст пакінуў глыбокі след у маім мазгу, нягледзячы, што ў момант чытання ён быў для мяне зусім незразумелым».

У адзінаццаць гадоў Соня добра ведала арыфметыку і паспяхова рашала даволі складаныя задачы. Як захапляльны раман уначы, стоячы пад святлом лямпы, яна, не маючы на тое дазволу, чытала «Курс алгебры» Бардэна, які быў напісаны для студэнтаў Парыжскага універсітэта. Тым не менш, па настаянні генерала заняткі вымушаны былі праводзіцца па традыцыйнай праграме[6]. І толькі дзякуючы прафесару М. М. Тыртову[7], аўтару павядомага ў той час падручніка па фізіцы для універсітэтаў «Пачатковыя асновы фізікі», які звярнуў увагу бацькоў на незвычайныя матэматычныя здольнасці чатырнаццацігадовай дзяўчынкі, якая спрабавала, не ведаючы трыганаметрыі, разабрацца ў сэнсе фізічных формул[8], пасля некаторых ваганняў В. Крукоўскі змяніў свой погляд на выхаванне дачкі. Горды яе незвычайнымі матэматычнымі здольнасцямі, ён дазволіў Соф'і браць урокі вышэйшай матэматыкі ў А. М. Странналюбскага — выдатнага педагога, выкладчыка Марской акадэміі[9]. Пад яго кіраўніцтвам яна прайшла курс аналітычнай геаметрыі, дыферэнцыйнага і інтэгральнага вылічэння.

Другая палова XIX стагоддзя заявіла пра сябе не толькі прамысловым пераваротам, які запоўніў традыцыйны свет тэхнікі несканчальным патокам новых практычных вынаходніцтваў, але і новым ладам жыцця і думак, новымі сацыяльнымі і палітычнымі ідэямі, новаю філасофіяй і новым успрыманнем мастацтва і літаратуры. Лепшая частка грамадства была ахоплена імкненнем для асветы, гарачы водгук у царскай Расіі знаходзілі ідэі Чарнышэўскага аб перабудове грамадства, аб высвабаджэнні жанчыны і яе раўнапраўі. Ва ўладзе перадавых настрояў 60-х гадоў апынулася і С. Кавалеўская. Яна імкнецца трапіць туды, дзе бурліць жыццё, дзе развязваюцца галоўныя навуковыя праблемы і філасофскія пытанні.

У той час сярод жанчын шырылася імкненне да вышэйшай адукацыі. Аднак атрымаць яе яны маглі толькі ў некаторых універсітэтах за мяжой, бо ў Расіі вышэйшых школ для жанчын

яшчэ не існавала, а наведваць школы для мужчын ім было забаронена[10]. У снежні 1867 года на Першым з'ездзе прыродазнаўцаў і лекараў быў прыняты «Зварот» да урада з просьбаю дазволіць жанчынам наведваць універсітэт. Праз некалькі гадоў цару была накіравана петыцыя з патрабаваннем аб адкрыцці жаночага універсітэта. Больш за 400 жанчын падпісалі гэты ліст. Сярод іх былі сёстры Ганна і Соф'я Корвін-Крукоўскія[11].

З мэтай вызвалення ад бацькоўскай апекі, якая замінала паступленню ў замежныя універсітэты, некаторыя дзяўчыны бралі фіктыўны шлюб з тым, хто прыхільна ставіўся да жаночай адукацыі і прадастаўляў фіктыўнай жонцы поўную свабоду. Па такім шляху вымушана была пайсці і Соф'я Корвін-Крукоўская для дасягнення пастаўленай мэты. У васемнаццаць гадоў (восенню 1868 г.) яна ўзяла шлюб з будучым выдатным палеантолагам Уладзімірам Ануфрыевічам Кавалеўскім. Фіктыўны шлюб хутка ператварыўся ў фактычны.

Па прапанове буйнейшага рускага фізіёлага Г. М. Сечанава, які падтрымліваў жаночы рух да ведаў, С. Кавалеўская слухала яго лекцыі ў Медыка-хірургічнай акадэміі, імкнучыся запомніць кожнае сказанае прафесарам слова. Аднак універсітэт, у якім маглі б быць задаволены яе матэматычныя інтарэсы, быў у той час для жанчын закрыты. На пачатку 1869 года Кавалеўскія едуць у Нямеччыну, каб разам прадоўжыць адукацыю. У Гайдэльбергу С. Кавалеўская вывучае матэматыку і слухае лекцыі вядомых вучоных таго часу: Кіргофа, Дю-Буа-Рэймона, Гельмгольца, Кёнігсбергера. У 1870 годзе яна пераязджае ў Берлін, каб слухаць лекцыі аднаго з буйнейшых матэматыкаў другой паловы XIX стагоддзя К. Вейерштраса[13] і з надзеяй стаць студэнткай Берлінскага універсітэта — буйнейшай і адной са старэйшых alma-mater Нямеччыны. Аднак парадкі ў сталіцы Прусіі былі больш рэакцыйнымі, чым у параўнальна ліберальным Гайдэльбергу. Жанчыны не дапускаліся ва універсітэт нават вольнымі слухачамі. Гэта не стала перашкодаю для нашай суайчынніцы ў дасягненні мэты: яна звяртаецца да самога Карла Вейерштраса з просьбаю даваць ёй прыватныя ўрокі па матэматыцы.

Карл Вейерштрас прытрымліваўся кансерватыўных поглядаў на жаночую адукацыю і выступаў супраць таго, каб жанчыны наведвалі нямецкія універсітэты. Каб праверыць, на што варта ў матэматыцы гэта юная асоба, прафесар прапанаваў ёй некалькі няпростых задач па гіпербалічных функцыях, з якімі маглі справіцца не многія з яго студэнтаў, і раіў паразважаць над імі ў вольную часіну. У глыбіні душы ён лічыў, што больш

ніколі не ўбачыць маладую жанчыну з Расіі, якая звярнулася да яго з такой дзіўнаю просьбаю. І якім было яго здзіўленне, калі роўна праз тыдзень С. Кавалеўская прынесла рашэнні ўсіх задач. Але яшчэ больш прафесар быў здзіўлены логікай і дакладным абгрунтаваннем іх рашэнняў. «Не, не можа быць! Гэта неверагодна»,— не пераставаў паўтараць ён, перагортваючы старонкі з рашэннямі задач. Адарваўшы вочы ад спісаных цвёрдым почыркам лістоў паперы, ён ускінуў погляд на С. Кавалеўскую, на твары якой нельга было не заўважыць радасць ад пераадолення цяжкасцей, а ў вялікіх вачах не разгледзець незвычайныя розум і патрабавальнасць.

Пасля станоўчага водгуку Кёнігсбергера пра навуковыя здольнасці С. Кавалеўскай, К. Вейерштрас згадзіўся даваць ёй прыватныя ўрокі. Гэтыя заняткі працягваліся больш за чатыры гады. Чым больш складаную задачу ставіў перад сваёй вучаніцаю настаўнік, тым больш шчаслівым падавалася ёй імгненне, калі яна адчувала, што ёй падуладна матэматыка, калі ставілася чарговая кропка перамогі. Поспехі С. Кавалеўскай здзіўлялі і захаплялі Вейерштраса. «Што тычыцца матэматычнай адукацыі Кавалеўскай, — казаў знаёмым прафесар, — то магу запэўніць, што ў мяне было няшмат вучняў, якія б маглі параўнацца з ёю па здольнасцях і захапленню навукаю».

Праз чатыры гады (у 1874 г.) К. Вейерштрас звярнуўся ў Гётынгенскі універсітэт з прапановаю аб прысуджэнні С. Кавалеўскай ступені доктара філасофіі in absentia (завочна) і без дадатковага іспыту па сукупнасці работ[14]. Першая з іх — «Да тэорыі дыферэнцыйных ураўненняў у прыватных вытворных» — адносілася да асновы тэорыі гэтых ураўненняў і прадстаўляла абагульненне даследаванняў у гэтай галіне К. Вейерштраса на значна больш складаныя ўмовы задачы. Гэтым жа пытаннем да Вейерштраса незалежна займаўся французскі матэматык Кашы, аднак разгледзеў яе ў больш прыватным выглядзе. Тэарэма, якая была даказана С. Кавалеўскай, з'яўляецца класічнай, яна ўвайшла ў «залаты фонд» матэматыкі пад назвай «тэарэма Кашы-Кавалеўскай» і выкладаецца зараз ва ўсіх асноўных універсітэцкіх курсах матэматыкі.

Другая работа была прысвечана касмалагічнай праблеме — пытанню пра раўнавагу кольцаў Сатурна. «Дадатак і заўвагі да даследаванняў Лапласа пра форму кальца Сатурна» — так называлася праблема, над якой засяродзілася С. Кавалеўская. Пры яе разглядзе, паклаўшы ў аснову палажэнне, што кальцо Сатурна з'яўляецца важкім, былі развіты даследаванні Лапласа[15]. У

трэцяй з прадстаўленых да абароны работ — «Аб прывядзенні некаторага класа абелевых інтэгралаў да элептычных інтэгралаў» — было бліскуча прадэманстравана грунтоўнае веданне складаных тэорый матэматычнага аналізу.

З атрыманнем ступені доктара філасофіі па матэматыцы і магістра прыгожых мастацтваў «з найвышэйшым ухваленнем» быў завершаны пяцігадовы перыяд жыцця С. Кавалеўскай за мяжой. Яна вяртаецца ў Расію, у Пецярбург. Аднак гэта краіна сустрэла яе не прыветліва. Мала што змянілася ў сістэме адукацыі царскай Расіі за гэты час. Пад уплывам абставін расійскага ладу жыцця выдатны, ужо прызнаны матэматык С. Кавалеўская вымушана была на даволі працяглы час адысці ад заняткаў любімай навукай. Маючы бліскучую матэматычную адукацыю, яна не магла знайсці прымяненне сваім матэматычным здольнасцям на радзіме: ёй — жанчыне — дазвалялася быць толькі выкладчыцай матэматыкі ў малодшых класах гімназіі[16]. Навуковыя кантакты з рускімі матэматыкамі былі таксама вельмі слабымі, бо яна належала да іншага матэматычнага кірунку, і толькі напрыканцы 80-х гадоў некаторыя з іх зацікавіліся работамі С. Кавалеўскай аб вярчэнні цвёрдага цела.

Вясной 1880 года С. Кавалеўская пераязджае з сям'ёй у Маскву. Праз год па прапанове буйнейшага рускага матэматыка акадэміка Пецярбургскай Акадэміі навук П. Л. Чэбышава яна з поспехам робіць даклад «Аб прывядзенні некаторага класа абелевых інтэгралаў 3-га ранга да элептычных інтэгралаў» на VI з'ездзе рускіх прыродазнаўцаў і лекараў. С. Кавалеўская просіць дазволіць здаваць магістэрскія экзамены[17] ў Маскоўскім універсітэце, але атрымлівае адмоўны адказ, нягледзячы на падтрымку прафесараў універсітэта. Таму яна вяртаецца ў Берлін, каб прадоўжыць свае даследаванні пад кіраўніцтвам К. Вейерштраса. Апошняй работай, якая была напісана даследчыцай у так званы расійскі перыяд з 1881 па 1883 год, быў артыкул аб праламленні святла ў крышталічных асяроддзях. Вынікі сваіх даследаванняў па гэтай тэме яна ўпершыню прадставіла восенню 1883 года ў Адэсе на VII з'ездзе рускіх прыродазнаўцаў і лекараў.

У Маскве Уладзімір Ануфрыевіч Кавалеўскі, муж Соф'і Кавалеўскай, быў дырэктарам нафтавай фірмы «Таварыства рускіх фабрык мінеральных маслаў Рагозіна і кампаніі». У снежні 1880 года У. А. Кавалеўскі быў абраны на пасаду дацэнта Маскоўскага універсітэта. Гэта давала магчымасць займацца выкладчыцкай і навуковай дзейнасцю. Аднак фінансавыя спра-

вы фірмы рэзка пагоршыліся, а Кавалеўскага як яе дырэктара чакала лава падсудных. Ён не знайшоў выйсця з такога становішча і 16 (28) красавіка 1883 года скончыў жыццё самагубствам.

Пасля трагічнай гібелі мужа, якую С. Кавалеўская перанесла вельмі цяжка, яна прымае запрашэнне Стакгольмскага універсітэта і ў лістападзе 1883 года пераязджае з дачкой у Стакгольм для работы прыват-дацэнтам. З гэтага перыяду пачынаецца росквіт яе навуковай і літаратурнай дзейнасці. Літаратурны талент С. Кавалеўскай быў заўважаны яшчэ ў дзяцінстве[18]. У пецярбургскі і маскоўскі перыяды яе жыцця схільнасць да літаратурнай дзейнасці праявілася пры напісанні нарысаў і тэатральных рэцэнзій у расійскіх газетах. У Стакгольме яна падтрымлівалася дзякуючы блізкаму сяброўству са шведскай пісьменніцай А. Ш. Эдгрэн-Леффлер. Разам з ёю С. Кавалеўская напісала драму «Барацьба за шчасце», якая ставілася некалькі разоў на сцэнах рускіх тэатраў. У гэты перыяд яна піша «Успаміны дзяцінства», раман «Нігілістка», нарыс «Тры дні ў сялянскім універсітэце ў Швецыі», «Успаміны аб Джорджы Эллiёце», «М. Е. Салтыкоў-Шчадрын» і многія іншыя нарысы і артыкулы, якія з поспехам друкаваліся на шведскай, рускай і іншых мовах.

У Стакгольмскім універсітэце яна бліскуча прачытала дванаццаць курсаў па розных раздзелах вышэйшай матэматыкі. «Паважанае спадарства! З усіх навук, якія адкрываюць чалавецтву шлях да спасціжэння законаў прыроды, самая магутная, самая важная — матэматыка», — так пачала Соф'я Кавалеўская сваю першую лекцыю па тэорыі ўраўненняў у прыватных вытворных. Самыя складаныя і адарваныя ад жыцця абстрактныя матэматычныя паняцці яна імкнулася данесці да сваіх слухачоў як мага прасцей і больш зразумела. І бадай ніхто з іх нават не мог сабе ўявіць, якіх велізарных, а падчас нечалавечых намаганняў каштаваў гэты знешні спакой. «Толькі б не ўпасці, толькі б не забыць тыя патрэбныя словы», — з адчаем думала яна. А з пад рукі выходзілі звыклыя выявы матэматычных знакаў. Дошка ў вучэбным пакоі пакрывалася новымі і новымі формуламі. І здавалася, што менавіта ў матэматычных сімвалах чэрпала гэта жанчына новыя сілы.

1 ліпеня 1884 года С. Кавалеўская была зацверджана прафесарам Стакгольмскага універсітэта і стала першаю ў гісторыі сусветнай навукі жанчынаю-прафесарам[19]. Гэта была першая перамога ў вырашэнні складаных праблем жаночай вышэйшай адукацыі. Запаветная мара здзейснілася. Але ці так С. Кавалеў-

ская ўяўляла сабе свой трыумф? Колькі сіл, колькі часу яна аддала на гэта. Сум паступова авалодваў ёю, і радасць ад перамогі адыходзіла на другі план. Яна была адна. Побач не было ні дачкі, якой так неабходна было цяпло маці, ні сябра, з якім можна было б падзяліцца сваімі думкамі і радасцю, хто мог бы падтрымаць у складаны час. Тут, удалечыні ад родных мясцін і блізкіх людзей, у гэты самы чаканы ёю дзень яна як ніколі адчула сябе адзінокаю. Сямнаццаць гадоў мінула з той пары, як яна пакінула бацькоўскі дом.

Перад вачыма ўзнікалі знаёмыя з дзяцінства, такія блізкія сэрцу віцебскія прасторы. Лагодны вецер калыхаў сцябліны бяроз і махнатыя карункі елак. Недзе там, у далечыні, ёй чуўся голас птушак, скрып дзвярэй ў бацькоўскім маёнтку ў Палібіна, звонкі смех дачкі Софы, спакойны, роўны голас мужа Уладзіміра Кавалеўскага, лекцыя Сечанава, абарона дысертацыі, словы адабрэння Вейерштраса... Старонкі яе жыцця хутка змянялі адна другую, а яна сядзела нерухомая, нібы зачараваная. Калі б зноў прыйшлося пачынаць, які б шлях абрала яна? І ранейшая ўпэўненасць вярталася да яе. Так, ён быў бы той жа самы, цяжкі, няпросты, з ахвяраваннямі ў асабістым жыцці, шлях да спасціжэння таямніц прыроды.

У гэты перыяд яна прымае актыўны ўдзел у рэдагаванні вядучага матэматычнага часопіса «Acta Mathematica», галоўным рэдактарам якога быў шведскі матэматык Г. Міттаг-Леффлер, і запрашае да супрацоўніцтва ў ім вучоных Нямеччыны, Францыі, Расіі. У Стакгольме С. Кавалеўская напісала навуковую работу, якая прынесла ёй навуковую славу.

У 1888 годзе Парыжская Акадэмія навук абвясціла конкурс на лепшую навуковую працу, якая тычылася руху цвёрдага цела, што мела адну нерухомую кропку (гэтую задачу інакш называлі «задачай пра вярчэнне ваўчка»). Цікавасць да такога тыпу руху была вялікаю. Тлумачэнне яго ўласцівасцей чакалі астраномы для аналізу руху планет і зорак; стваральнікі вайсковай тэхнікі, якія яшчэ здаўна заўважылі, што кулі і снарады больш дакладна трапляюць у цэль, калі акрамя паступальнай дадаць ім яшчэ і вярчальную складовую руху; тэхнікі, якія распрацоўвалі новыя мадэлі рухавікоў, і шмат хто яшчэ.

Даследаванню вярчэння цвёрдага цела, якое знаходзіцца пад уздзеяннем сілы цяжару ў тым выпадку, калі цэнтр цяжару цела супадае з кропкай апоры, прысвяцілі свае даследаванні акадэмік Пецярбургскай Акадэміі навук, адзін з буйнейшых матэматыкаў XVIII стагоддзя Эйлер і французскі вучоны Пуан-

со. Лагранж разгледзеў другі выпадак вярчэння цвёрдага цела вакол нерухомай кропкі апоры — пры ўмове, што цэнтр цяжару знаходзіцца на восі сіметрыі вышэй кропкі апоры. Свае рашэнні ён выклаў у кнізе «Аналітычная механіка». Дзякуючы гэтым даследаванням можна было дакладна вырашыць пытанне аб тым, як будзе рухацца кожная кропка цела, калі вядомы так званыя пачатковыя ўмовы руху.

Пасля работ Эйлера, Пуансо і Лагранжа ў даследаваннях, якія тычыліся пытання руху цвёрдага цела, наступіў перапынак. Шмат хто з вучоных імкнуўся знайсці хаця б адну іншую форму ваўчка, пры якой рашэнне ўраўненняў яго руху можна было б звесці да вылічэння інтэгралаў. Аднак нікому не ўдалося прасунуцца ўперад ні на крок. Гэта было асабліва неверагодна таму, што як раз у XIX стагоддзі ў навуковых працах Гаўса, Астраградскага, Якобі, Кашы, Рымана і многіх іншых былі створаны новыя метады, якія дазвалялі разгледзець самыя складаныя задачы матэматычнай фізікі.

Прэмія Бардэна[20], прызначаная Парыжскай Акадэміяй навук за «далейшыя поспехі ў справе вырашэння гэтай задачы ў якім-небудзь істотным пункце», некалькі разоў заставалася не прысуджанай ці прысуджалася не ў поўным аб'ёме. Пасля таго, як кампетэнтнае журы азнаёмілася з рукапісамі, што былі дасланы ў Акадэмію, лепшай было вырашана прызнаць работу пад дэвізам «Кажы, што ведаеш, рабі, што павінен, будзь, чаму быць». Гэтая праца ўтрымлівала рашэнне задачы аб руху несіметрычнага ваўчка, цэнтр цяжару якога ляжыць на экватарыяльнай плоскасці эліпсоіда інерцыі, даўжыня восей якога падпарадкоўваецца ўмове A=B=2C. Аўтар гэтай працы праявіў не толькі велізарны матэматычны талент, але і цудоўную эрудыцыю. У рабоце былі выкарыстаны самыя найноўшыя дасягненні матэматыкі таго часу — тэорыя функцыі комплекснага зменнага, гіперэліптычныя інтэгралы і многае іншае. Даследванне так спадабалася членам журы, што яны вырашылі павялічыць памер прэміі ад 3 000 да 5 000 франкаў. Калі быў адкрыты канверт з імем аўтара, адбылася нечаканасць. Самую лепшую навуковую работу напісала жанчына. Яе імя было Соф'я Кавалеўская. Пасля апублікавання вынікаў даследаванняў С. Кавалеўскай па тэорыі вярчэння цвёрдага цела[21] перад вучонымі паўстаў шэраг новых пытанняў, яна і сёння не з'яўляецца цалкам вырашанай. Аднак якімі б ні былі вынікі далейшых даследаванняў, імя С. Кавалеўскай назаўсёды застанецца звязаным з гэтай важкай задачай механікі.

«Паміж вянкамі, якія мы даём сёння, адзін з найпрыгажэйшых і найбольш цяжкіх для дасягнення ўскладаецца на галаву жанчыны». Члены камісіі, разгледзеўшы яе працу, дасланую на конкурс у ліку 15 работ іншых вучоных, прызналі ў ёй не толькі сведчанне глыбокага, шырокага значэння, але і «сведчанне розуму вялікай вынаходлівасці», — сказаў 24 снежня 1888 года прэзідэнт Парыжскай Акадэміі навук астраном П. Жансен, абвясціўшы вынікі конкурсу. Так быў зроблены яшчэ адзін крок. С. Кавалеўская даказала свету, што жанчына не ўступае моцнай палове чалавецтва нават у найбольш абстрактнай з навук — у матэматыцы. Яе імя было вядома свету. Не хапала толькі аднаго — звычайнага чалавечага шчасця.

2 снежня 1889 года Пецярбургская Акадэмія навук абрала С. Кавалеўскую сваім членам-карэспандэнтам[22]. У тэлеграме, якая была прыслана на яе імя акадэмікам П. Л. Чэбышэвым у Стакгольм, адзначалася: «Наша Акадэмія навук абрала Вас членам-карэспандэнтам, дазволіўшы гэтым наваўвядзенне, якому не было яшчэ прэцэдэнту. Я вельмі шчаслівы бачыць, што здзейснілася адно з маіх найжаданейшых і справядлівых жаданняў». Так быў адкрыты шлях жанчынам у Расійскую Акадэмію навук, а ў расійскай бюракратычнай сцяне, якая загароджвала жанчынам шлях да адукацыі і навукі, была прабіта першая брэш.

С. Кавалеўская памерла 10 лютага 1891 года ў Стакгольме ад запалення лёгкіх, якое яна атрымала, вяртаючыся з Італіі ў Швецыю падчас зімовых канікулаў. Праз пяць гадоў на яе магіле ў Стакгольме, на узвышшы Ліндтаген, быў пастаўлены помнік, сродкі на які былі сабраны ўдзячнымі рускімі жанчынамі.

«Я адчуваю, што павінна служыць ісціне — навуцы, і пракладваць новы шлях жанчынам», — гэтыя словы былі дэвізам яе кароткага, але вельмі ёмістага жыцця. І ў гісторыі навукі цяжка знайсці вучонага, які б валодаў такою сілаю абстрактнага мыслення і ў той жа час ўсё жыццё якога было б напоўнена такім шырокім эмацыянальным рухам, як у С. Кавалеўскай. Вельмі рэдка ў каго асабістая навуковая творчасць у такой меры, як у гэтай надзвычайнай жанчыны, была б пераплецена з грамадска-культурнай працаю, сапраўдным служэннем справе асветы, імкненнем да сцвярджэння роўнасці жанчыны ў грамадскім і навуковым жыцці. У 1972 годзе вучонымі Крымскай астрафізічнай абсерваторыі была адкрыта новая планета, якой прысвоілі імя Соф'і Кавалеўскай.

## *Спасылкі*

[1] Цэнтральны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 2512, вопіс 1, справа 481, арк. 7. Герб Слепаўрон уяўляў сабою ворана, які быў акружаны пер'ямі страуса на фоне шчыта. Такі самы герб мелі, дарэчы, шляхецкія роды прафесара Ягелонскага універсітэта Ж. Урублеўскага — вядомага фізіка, аднаго са стваральнікаў крыягеннай фізікі, прафесара фізікі Дэрцкага універсітэта А. Садоўскага, фізіка і таленавітага педагога — настаўніка Шляхецкага інстытута ў Вільні К. Чаховіча.

[2] Невельскі павет у 1924 г. увайшоў у склад БССР.

[3] В. Крукоўскі нарадзіўся ў 1800 г. Як сведчыць фармулярны спіс, што захоўваецца ў Цэнтральным гістарычным архіве г. Масквы (Ф. 1343, вопіс 23, справа 6550), сваю вайсковую кар'еру ён пачаў 17-гадовым юнаком. У 1848 г. В. Крукоўскі камандаваў Маскоўскім артылерыйскім гарнізонам і арсеналам. Яго шматлікія вайсковыя ўзнагароды ўпрыгожвалі ордэны Святой Ганны II і III ступеняў з бантамі. На пачатку 50-х гадоў ён быў пераведзены на службу ў Калугу.

[4] Шуберты з'яўляліся выхадцамі з Нямеччыны. Ф. І. Шуберт закончыў Гётынгенскі універсітэт. Сваю навуковую дзейнасць распачаў у Расіі. Ён быў аўтарам першага ў Расіі «Курса тэарэтычнай астраноміі», меў навуковую перапіску з Лапласам, Гаусам, Беселем, іншымі выдатнымі матэматыкамі. Пад кіраўніцтвам Ф. Ф. Шуберта былі выкананы грунтоўныя тапаграфічныя работы ў многіх губернях Расіі, праведзена трыангуляцыя Балтыйскага мора. Ён быў аўтарам фундаментальнай кнігі па астранамічных і геадэзічных даследаваннях у Расіі (выдадзена ў 1858 г.). У 1887 г. была зацверджана прэмія за работы па тэарэтычнай астраноміі імя Ф. Шуберта, якая прысуджалася толькі двойчы. У 1898 г. да 100-годдзя Ф. Шуберта яе атрымаў Гуга Гюлбдзен за работу «Даследаванне сыходнасці радоў, якія выкарыстоўваюцца для вызначэння каардынатаў планет».

[5] Асноўныя падзеі дзяцінства вельмі цікава і эмацыянальна апісаны С. Кавалеўскай у яе літаратурным творы «Успаміны дзяцінства» (М., 1935).

[6] Яе бацькі імкнуліся весці выхаванне дачкі звычайным шляхам, адпаведна традыцыям таго асяроддзя, да якога належала сям'я. І Соф'і прыйшлося змагацца за свабоду свайго выхавання.

[7] Былы прафесар фізікі Марскога корпуса М. М. Тыртоў меў па суседству з Крукоўскімі маёнтак і быў частым госцем у Палібіне.

[8] С. Кавалеўская самастойна прачытала падручнік па фізіцы прафесара М. М. Тыртова і нават з вялікім хваляваннем гаварыла яго аўтару пра лепшыя старонкі гэтай кнігі.

[9] З 1865 г. С. Кавалеўская рэгулярна брала ў яго ўрокі падчас зімовых пераездаў сям'і ў Пецярбург.

[10] Першыя педагагічныя курсы для жанчын былі адкрыты ў 1863 г. пры Марыінскай жаночай гімназіі ў Пецярбургу.

[11] Гэтая просьба засталася без увагі, бо, на думку царскага ўрада, «вопрос о высшем образовании мог заинтересовать только нигилисток и «безнравственных особ».

[12] Кавалеўскі Уладзімір Ануфрыевіч (1842—1883) — прыродазнавец, прафесар Маскоўскага універсітэта. Яго класічныя працы паклалі пачатак эвалюцыйнай палеанталогіі.

[13] Вейерштрас Карл Тэадор (1815—1897) — нямецкі матэматык, прафесар Берлінскага універсітэта і Тэхналагічнага інстытута, сябра Берлінскай Акадэміі навук.

[14] Georg-August Universität Göttingen. Dekantsakten. № 160, p. 93—102.

[15] Зараз прынята лічыць, што кальцо Сатурна складаецца з цвёрдых часцінак.

[16] У 1878 г. былі адкрыты Бястужаўскія вышэйшыя жаночыя курсы, аднак С. Кавалеўскай не дазволілі чытаць там лекцыі, нягледзячы на тое, што яна ўваходзіла ў склад камісіі па забеспячэнні гэтых курсаў грашовымі сродкамі і нават прапаноўвала чытаць лекцыі без грошай.

[17] Без такога экзамена яна не магла выкладаць у Расіі.

[18] Соня захаплялася паэзіяй і ў дванаццаць гадоў сама спрабавала пісаць вершы.

[19] The Royal Swedish Academy of Sciences. Archive. Ms. Serie 2, f. Kowalevski Sonja, № 13:1, p. 1—9; № 13:2, p. l—29; № 13:3, p. 1—28.

[20] Прэмія Бардэна прысуджалася Парыжскай Акадэміяй навук ■ фонду, які быў арганізаваны ў 1835 г. на грошы французскага натарыуса Бардэна. Згодна з яго тастаментам «конкурсныя працы павінны быць на карысць чалавецтва і прагрэсу навукі».

[21] S. Kovalevska. Sur le probleme de la rotation d'un corps solide autour d'un point fixe // Acta Mathematica. 1899. Bd. XIl.

[22] Афіцыйная заява аб абранні прафесара Стакгольмскага універсітэта матэматыка С. В. Кавалеўскай членам-карэспандэнтам Пецярбургскай АН была накіравана ў фізіка-матэматычнае аддзяленне Акадэміі ад імя акадэмікаў П. Л. Чэбышава, У. Г. Імшанецкага і У. Я. Бунякоўскага.

*Вольга Гапоненка*

# Вінцэсь КАРАЦЫНСКІ
(1831–1891)



інцэсь Каратынскі і яго творчая спадчына ўсё настойлівей уваходзяць у свядомасць беларускіх чытачоў: у 1981 годзе з'явілася кніга яго выбраных твораў – вершаваных і празаічных, а праз нейкі час было падрыхтавана да друку і ў канцы 1994 года выпушчана ў свет яе дапоўненае перавыданне (амаль на дзесяць аркушаў большае). Таму новая сустрэча з Каратынскім штосьці набывае ў змястоўнасці. За гэты час дадалося некалькі штрыхоў да біяграфіі паэта-земляка, пашырылася ўяўленне пра яго творчы набытак і нават зроблена спроба асэнсаваць яго мастацкія дасягненні ў кантэксце гісторыі беларускай літаратуры.

Вінцэсь Каратынскі нарадзіўся ў жніўні 1831 года ў вёсцы Селішчы Наваградскага павета (цяпер гэта ў межах Карэліцкага раёна). 15 жніўня, сярэдзіна месяца, – гэта ўмоўная дата яго з'яўлення на свет. Яна замацавана ў гісторыі літаратуры і нікім не аспрэчана. Здарылася так, што ні шлюб Вінцэсевых бацькоў («вольнага хлебароба» Аляксандра Каратынскага са шляхцянкаю Юзафатай з Далідовічаў), ні хрышчэнне яго не былі занатаваны ў кнігах наваградскага парафіяльнага касцёла. Невядома, ці гэта абыякавасць служкаў касцёла, ці бесклапотнасць Каратынскіх.

У 1858 годзе, калі Вінцэсю Каратынскаму спатрэбілася хросная метрыка, яго маці звярнулася ў Мінскую каталіцкую кансісторыю, і мінулыя падзеі былі ўзноўлены з дапамогаю сведак. Але дата нараджэння паэта ўжо не прыгадвалася, толькі месяц. Хросным бацькам Вінцэся быў уладальнік селішчанскага маёнтка Ян Залескі, які даў свайму прыгоннаму селяніну

Аляксандру Каратаю (пазней Каратынскаму) вольную менавіта ў сувязі з яго жаніцьбаю, бо калі б шляхцянка выйшла замуж за прыгоннага, яна б таксама стала прыгоннаю. Невядома, была тут велікадушнасць пана або асаблівыя заслугі Аляксандра Каратынскага перад Залескім, ці ўмелае хадайніцтва Марка Татароўскага, апекуна Юзафаты з Далідовічаў?

Яшчэ да свайго нараджэння Юзафата страціла бацьку (ён памёр ад ран, нанесеных дзіком у час палявання). Выхоўвалася яна ў Марка Татароўскага. Потым, калі падрасталі ўжо тры сыны – Вінцэсь, Ян і Міхал, яна нечакана аўдавела: Аляксандр Каратынскі ўтапіўся ў Нёмане. Было гэта няшчаснае здарэнне ці, можа, гвалтоўная смерць? Невядома. Праз нейкі час Юзафата з Далідовічаў Каратынская стала жонкаю Марка Татароўскага...

У школу Вінцэсь не хадзіў. Першыя прыступкі адукацыі адолеў пад наглядам мясцовага арганіста. Атрыманых ведаў хапіла, каб навучыць чытаць і пісаць малодшых братоў. Аднак яго практыка «дарэктара» на гэтым не скончылася. Настойлівая праца над сабою, імкненне да ведаў прынеслі Вінцэсю ў сваёй ваколіцы славу юнака вялікай вучонасці, і яго пачалі запрашаць даваць прыватныя ўрокі. Працаваў ён хатнім настаўнікам у вёсцы Валоўка каля Любчы і ў іншых вёсках Наваградскага павета. Магчыма, вандроўкі Каратынскага па шляхецкіх хатах у вёсках пад Любчаю цягнуліся б яшчэ доўга, калі б ён не напаткаў колішняга уніяцкага святара Давідовіча, які быў знаёмы з Уладзіславам Сыракомлем, што жыў ля Міра, у не надта далёкім фальварку Залуча і шмат друкаваўся ў віленскіх і іншых выданнях. Расказаўшы Давідовічу пра ўласныя паэтычныя спробы, Каратынскі, па сутнасці, прадвызначыў свой лёс. Давідовіч пазнаёміў Каратынскага з Сыракомлем, звёў дзве творчыя асобы і воляю выпадку нібы выканаў місію уніяцкай царквы, якой раней служыў і якой ўжо не было на Беларусі.

Малады настаўнік-самавук, відаць, усведамляў, што без падтрымкі Уладзіслава Сыракомлі яму не выбрацца на літаратурную дарогу. Таму прапанову стаць памочнікам-сакратаром вядомага ў краі паэта ён без хістанняў прыняў і пераехаў у Залучча. «Было гэта ў 1850 годзе, памятным поўным зацьменнем сонца, якое мы праз абкураныя шкельцы назіралі з Кандратовічам і Пшыбыльскім»[1].

Калялітаратурныя ж колы спарадзілі сваю, адпаведную іх маральнаму ўзроўню і зручную для іх уласнай самапавагі версію адкрыцця Каратынскага жонкаю Сыракомлі – Паўлінаю з Мітрашэўскіх. «У той час пасвіў гусей дваровы хлопчык-сірата

па імю Вінцук (Вінцусь), якога за яго малы рост жартам называлі па-беларуску «Кароткі», або Вінцук Кароткі. Аднаго разу пані Паўліна, хочучы непрыкметна пакласці ў торбу хлопчыка кавалак нечага смачнага, убачыла там замест хлеба лемантар. Вечарам апавядае пра ўсё гэта мужу, і тут пан Людвік як ускочыць: «Напрамілы Бог! Зараз жа давайце сюды гэтага хлопчыка! Гусей разагнаць на чатыры бакі свету!»[2] Нягледзячы на тое, што гэту версію ахвотна ўзнаўлялі нават у друку, яна не вытрымала канкурэнцыі з жыццёваю праўдаю.

У залучанскім фальварку Каратынскі і Сыракомля сядзелі звычайна за адным сталом. Дзевятнаццацігадовы памочнік-сакратар валодаў роўным, упэўненым почыркам, які распрацаваў і ўдасканаліў падчас настаўніцкай практыкі і тады, калі, не маючы ўласных друкаваных кніг, перапісваў для сябе «Гісторыю Польшчы» Лялевеля і «Дэмана» Лермантава. Галоўным заняткам яго было перапісваць начыста завершаныя творы свайго «патрона» і зрэдку адказваць на лісты, што прыходзілі ў Залуча ўсё часцей і часцей, пацвярджаючы тым самым рост папулярнасці Сыракомлі. Далучаны да вытокаў сапраўднай паэзіі, да пісьменніцкай лабараторыі, Каратынскі не марнаваў часу. Выконваючы свае непасрэдныя абавязкі і засвойваючы дэмакратычныя ідэі залучанскага песняра беларускага краю, ён, працавіты і памятлівы, неадступна і натхнёна пашыраў сферу самаадукацыі, каб узняцца на вяршыні сучасных яму ведаў і культуры. Дастаткова нагадаць, што акрамя роднай беларускай мовы і шырока распаўсюджанай тады ў шляхецкім асяроддзі польскай, ён валодаў рускай, чэшскай, французскай і нямецкай мовамі, арыентаваўся ў лаціне і да таго ж умеў іграць на скрыпцы.

Не выключана, што Каратынскі меў яшчэ і гаспадарчыя абавязкі, ва ўсякім разе нейкі час пасля ад'езду паэта з сям'ёю позняй восенню 1852 года ў Вільню, ён, застаўшыся ў Залучы, быў далучаны да канчатковага вырашэння пэўных арандатарскіх праблем у фальварку.

У Вільню Вінцэсь Каратынскі пераехаў, па ўсёй верагоднасці, на пачатку 1853 года, калі Сыракомля жыў у доме Доўнара ў Абрамовіцкім завулку. Пад канец красавіка яны перабраліся ў падвіленскі фальварак Барэйкаўшчына, узяты ў арэнду. Тут памочнік-сакратар «вясковага лірніка» заняў пад жыллё афіцыну, куды трапіў таксама і той залучанскі стол, за якім не так даўно сядзелі яны разам з Сыракомлем. Паводле слоў Каратынскага, гэта быў «просты сасновы стол... зроблены сталяром без ніякіх, нават цяслярскіх аздобаў, але з той перавагаю, што

не скрыпеў, што стаяў як укопаны...»[3]. Следам за Каратынскім перавандраваў ён у дом Грызераў, што стаяў у віленскім прадмесці Папоўшчына. Тут колішні настаўнік-самавук пасяліўся ў 1859 годзе, пасля жаніцьбы са Станіславаю Цалінаю з Якубовічаў. На той час ён быў ужо аўтарам трох кніг: зборніка вершаў «Чым хата багата, тым рада», выдадзенага ў канцы 1856 года, хоць тытульны аркуш быў пазначаны 1857 годам; паэмы «Таміла» (1858) і вершаванага памфлета «Выпіў Куба да Якуба» (1859).

Памочнікам свайго літаратурнага настаўніка Каратынскі заставаўся і тады, калі, ужо ажаніўшыся, жыў сваім домам і меў шмат журналісцкіх і грамадска-культурных абавязкаў. Ён супрацоўнічаў у часопісе «Teka Wileńskiej», у 1857 – 1858 гадах быў карэспандэнтам «Gazety Warszawskiej», уваходзіў у склад Віленскай археалагічнай камісіі, лічыўся членам Статыстычнага камітэта ў Вільні, рыхтаваў матэрыялы ў «Слоўнік польскай мовы» і рэдагаваў яго.

Выданне першага зборніка не на шмат часу апярэдзіў паэтычны дэбют Вінцэся Каратынскага – публікацыя верша «Над калыскай» у польскім часопісе «Biblioteka Warszawska» (1856, т. 2). Запрашаючы чытачоў у хату сваёй паэзіі, Каратынскі цалкам даверыўся Сыракомлю, які дбайна сачыў за тым, хто і з якім настроем прыйдзе на агледзіны паэтычнага плёну яго падапечнага. Вясковы лірнік быў амаль упэўнены, што яго чытачы стануць таксама і чытачамі Каратынскага. «У майскім нумары «Biblioteka Warszawska», – пісаў ён, – грамадскасць сустракае пад хвалюючым вершам «Над калыскай» невядомае ёй дагэтуль імя Вінцэся Каратынскага. Мы ведаем шмат твораў гэтага аўтара, з якіх невялікі зборнік «Чым хата багата, тым рада» ідзе ў гэтую хвіліну ў друк. Аўтар абуджае ў нас занадта моцнае спачуванне, каб мы віталі новую з'яву дачаснымі пахваламі. Цярністую дарогу пісьменніка ён выбраў сам – сам сабе няхай будзе абавязаны сваім поспехам...».

Уладзіслаў Сыракомля адрэдагаваў кнігу «Чым хата багата...», напісаўшы да яе не толькі празаічную, але і вершаваную прадмову:

Ідзі, наш паэце, ляці, наш саколе,
Хай творчы агонь твой не згасне ніколі.
З паэтамі пець беларускімі ў коле –
То значыць людзям добрым несці патолю.
Любіць іх не шкода і шчырага сэрца,
Спяваць ім – грудзей маладзецкіх не шкода,

Бо кожная нота, што ў песні кладзецца,
У сэрцах людскіх адгукнецца заўсёды.
Знаёмы мне сэрцы іх: трапіш адразу
Ў душу слухача, ці суседа, ці брата,
Калі іх з любоўю, без пыхі-абразы
Запросіш сардэчна: «Чым хата багата!»
*(Пераклад У. Дубоўкі)*

Вясковы лірнік не проста падтрымаў Вінцэся Каратынскага, літаральна ўвёў яго ў літаратуру. Ён зычліва заахвочваў свайго выхаванца ісці поруч. Разам яны пераклалі на польскую мову вершы французскага паэта-песенніка П'ера Жана Беранжэ і выдалі іх у адной кнізе. У час складання зборніка «Чым хата багата...», у які Каратынскі наважваўся ўключыць не толькі вершы на польскай, але і на беларускай мове, Сыракомля прапанаваў усё, што напісана па-беларуску, адкласці і падрыхтаваць асобную супольную кнігу беларускамоўнай паэзіі. Але па нейкіх прычынах гэта задума не здзейснілася.

З усёй беларускамоўнай спадчыны паэта-дэмакрата да нас дайшлі тры вершы: па-грамадзянску мужны дакор цару «Уставайма, братцы, да дзела, да дзела!», прысвячэнне беларускаму паэту А. Вярыгу-Дарэўскаму і элегія «Туга на чужой старане». Сын паэта Бруна згадвае ў сваіх мемуарах пра напісаны бацькам цыкл агітацыйных антыўрадавых вершаў. Магчыма, ён меў на ўвазе «Гутарку старога дзеда» і «Гутаркі двух суседаў», у якіх гнеўныя словы ў адрас царызму былі кінуты ананімна.

На Сыракомлеву апеку Каратынскі адгукнуўся прачулым вершам, у якім праз алегарычныя вобразы бусла і ластаўкі раскрыў глыбокі грамадзянскі сэнс сваіх стасункаў з прызнаным песняром беларускага краю. «Дробная ластаўка – кволая птушка», вяртаючыся з выраю, разлічвае на дапамогу бусла, сядае на яго крыло; на радзіме, «хоць яшчэ холад навокал суровы», бусел і ластаўка супольна славяць блізкую вясну:

З добрай душою прымаюць ліцвіны.
Птушкі будуюць супольны свой домік,
Каб жыць па сэрцы сям'ёю адзінай:
Бусел аснову кладзе, падваліны,
Ластаўка калівы носіць саломін.

А як не зрыне гнязда віхар весні,
Птушак не выжане ў шлях небяспечны, –

То яны людзям надзею ўваскрэсяць,
Душам іх вымаляць гарт сваёй песняй,
Плённага жніва ім нашчабечуць.

*(Пераклад У. Мархеля)*

Абодва паэты добра ўсведамлялі і агульнасць вытокаў сваёй творчасці, і агульнасць мэты, якой яны служаць. Каратынскі, натуральна, знаходзіўся ў сілавым полі Сыракомлевай творчасці, што, дарэчы, не абмяжоўвала прастору ўласнага мастацкага тлумачэння свету, а вызначала параметры блізкасці і роднасці мастацкіх пошукаў. Як і Сыракомля, Каратынскі выступаў за тэндэнцыйную, дзейсную літаратуру, звязаную з рэчаіснасцю і падначаленую жыццёвай праўдзе. Ён сцвярджаў, што «мастацтва павінна кіравацца праўдай, павінна змагацца за справу вечна жывой праўды, бо ў адваротным выпадку, як з'ява без мэты ці з часовай мэтай, яно зробіцца абыякавым для грамадства»[4].

Прытрымліваючыся такога разумення задач літаратуры, аўтар зборніка «Чым хата багата...» дапаўняў сваімі польскамоўнымі і напісанымі па-беларуску творамі намаляваныя вясковым лірнікам абразкі народнага жыцця («Віціннік увосень», «Віціннік увесну», «Маёй свіце»), салідарызаваўся з ім у адмаўленні прыгону («Пасля сватання», «Бярозка», «Выдуманая песня»), пашыраў яго межы асваення беларускага фальклору («Сірата», «Сваты», «Два каханні», «Туга на чужой старане»), адкрываючы рытмастваральныя магчымасці народнага танічнага верша.

Школа Сыракомлі надзвычай прыдалася Каратынскаму ў час працы над паэмаю «Таміла», асабліва пры перадачы настрою апавядальніка, які вяртаецца на радзіму, і ў стварэнні вобраза галоўнага героя – працавітага і сумленнага Тамілы, які не ў стане ні супрацьстаяць фатальнасці свайго лёсу, ні вырвацца з замкнутага кола думак, што не даюць адказу на пытанне: адкуль несправядлівасць на свеце? Лінія лёсу Тамілы праводзіцца ў паэме праз разнастайнасць жыццёвых рэмінісцэнцый і супастаўленняў, праз экскурсы ў гісторыю і зварот да паданняў – уротаў сялянскага быцця, праз маральнасць беларускага народнага светабачання, з якім пераклікаецца і пераплятаецца чалавекалюбная філасофія аўтара. Такой лучнасці чалавека-працаўніка з сусветам у беларускай польскамоўнай літаратуры да Каратынскага не было. Здаецца, не зведалі яго і еўрапейскія літаратуры, якія культывавалі ў рамантычных творах пераважна дэманічны пачатак, а пасля захапляліся мадэрнізмам.

Увогуле ж творчасць Вінцэся Каратынскага, ці то ў вершах, ці то ў прозе, незалежна ад канкрэтнасці яе прызначэння, знаходзілася ў стане нязмушанай духоўнасці.

Пасля таго, як выйшла кніга «Выпіў Куба да Якуба», Каратынскі ўсё радзей і радзей выступаў у друку з вершамі. Прыйшлі вонешчаслівыя, хоць, здавалася б, поўныя надзей 60-я гады. Восенню 1862 года памёр Сыракомля. Паліцыя пачала падазраваць Каратынскага ў напісанні нелегальных антыцарскіх брашур. На кватэры паэта быў учынены вобыск, але нічога «нядобранадзейнага» не знайшлі. У 1865 годзе царскі сышчык еўрапейскага маштабу Юліян Балашэвіч даносіў Трэцяму аддзяленню: «Прашу звярнуць увагу на супрацоўніка музея ў Вільні – Каратынскага, які разам з Сыракомлем, Акелевічам і Зянкевічам стварыў прапагандысцкую арганізацыю»[5]. Умовы жыцця ў сталіцы так званага Паўночна-Заходняга краю станавіліся невыноснымі, і ў 1866 годзе Каратынскі, тады ўжо бацька двух сыноў (Людвіка і Уладзіслава), выехаў з сям'ёю ў Варшаву. Там ён амаль цалкам прысвяціў сябе польскай журналістыцы. Стала працуючы ў «Gazecie Warszawskiej», ён супрацоўнічаў таксама ў часопісе «Tygodnik Illustrowany», рэдагаваў матэрыялы для «Wieńca», «Tygodnika Powszechnego».

За першы год жыцця ў Варшаве ён напісаў шмат артыкулаў ва ўсеагульную польскую энцыклапедыю пра беларускія гарады (Валожын, Вілейку, Віцебск, Слуцк, Стоўбцы і інш.); пазней далучыўся да рэдакцыйна-выдавецкіх спраў «Kalendarza Jaworskiego», дзе таксама друкаваўся; напісаў біяграфічныя нарысы пра М. Ю. Лермантава, М. В. Гогаля, А. Э. Адынца і Ю. І. Крашэўскага, К. і Я. Тышкевічаў, І. Дамейку, Ю. Гарайна, М. Акелевіча; два матэрыялы, прысвечаныя А. Міцкевічу («Некалькі падрабязнасцяў пра сям'ю, месца нараджэння і маладосць Адама Міцкевіча», «Дадатак да біяграфіі Адама Міцкевіча»), як вынік бесперапыннай увагі да свайго славутага земляка; велізарны нарыс «Карціны з берагоў Нёмана», які вяртаў аўтара да вандровак маладосці, узнаўляў у яго памяці родныя мясціны, бо, загружаны працаю, ён толькі аднойчы вырваўся на Наваградчыну, каб наведаць брата Міхала ў Бурдзевічах.

Галоўную працу, прысвечаную родным мясцінам, – «Наваградчына і Наваградак» – Каратынскі напісаў у 1858 годзе пасля наведання колішняй сталіцы Міндоўга і адкрыцця тут гімназіі (3 кастрычніка 1858 г.). Нарыс напісаны ў жанры падарожных нататак, што дазволіла аўтару свабодна падаваць матэрыял – ад непасрэдных назіранняў да гістарычных звестак і характарыстык падзей. Падарожны краявід Каратынскі апісвае ў

двух кірунках да Наваградка – з боку Любчы і з боку Шчорсаў. Экскурсы ў мінулае горада робяцца праз звесткі, якія тычацца замка, татарскіх нападаў на яго, пабудовы кляштараў і святынь, шлюбу Ягайлы з Соф'яй Гальшанскай, магдэбургскага права. І ўсё гэта дзеля таго, каб як мага выразней раскрыць характар мястэчка. Нататкі не страцілі гісторыка-краязнаўчай каштоўнасці да нашых дзён. Яны цікавыя нам яшчэ і тым, што ў іх зафіксавана ўвага і любасць да роднай зямлі чалавека сярэдзіны XIX стагоддзя. Мабыць, найлепш гэта можна адчуць праз верш, які быў напісаны па-польску і прачытаны на адкрыцці гімназіі ў Наваградку:

Да святла набліжае крок новы,
Болей бачная мэта сягоння:
Вось у горадзе даўнім Міндовы
Запалала навукі паходня
І свяціць будзе роднаму краю.
Я на божае нівы аратых
Са спадзевам на плён пазіраю
І на ўлонні радзімы благаю:
«Няхай Бог чуе ў вас памагатых!»

Чалавек сябе ў высі ўзнімае,
Рухавік яго – мыслі зямныя
Ды прастора дарогі пустая,
Толькі зоры – слупы верставыя.
Калі шлях сілы нашыя зможа,
Мы ў бязмежнай самлеем пустэчы;
Але даў нам падтрымку Ты, Божа,
Каб навука вырошчвала збожжа
Дзеля хлеба ў той шлях чалавечы...

Ураблярьнікі нашае нівы,
Вы зямлю, што была цаліною,
Засяваеце зернем рупліва.
Праца ваша не будзе пустою!
Славы – вам, а засевам – прыплодаў,
Духу – радасці, ўдзячнасці – свету!
Падтрыманыя вамі, з нягодаў
Да нябеснае мэты народаў
Мы памкнемся праз новыя леты.

*(Пераклад У. Мархеля)*



11. Зак.2059

Не спыняючыся падрабязна на артыкулах Каратынскага, прысвечаных вялікаму наваградцу Адаму Міцкевічу, зазначым, што, прывёўшы шмат ускосных сведчанняў (ад таго, у які канкрэтна час бацькі Адама жылі ў Наваградку, да таго, якія стаялі маразы ў снежні 1798 года ў Варшаве), Каратынскі пераканаўча давёў, што Адам Міцкевіч нарадзіўся не ў Завоссі, а менавіта ў Наваградку. На жаль, гэты, здаецца, даведзены факт, да нашага часу, мякка кажучы, ігнаруецца, і пытанне пра месца нараджэння Адама Міцкевіча ва ўсіх даведніках застаецца адкрытым. Словам, праз усё свядомае жыццё Каратынскі даволі часта звяртаўся да жыццяпісу і творчасці аўтара «Пана Тадэвуша», да мінулага Наваградка – нават у тых матэрыялах, якія тэматычна не абавязвалі да гэтага.

Пры ўважлівым знаёмстве з артыкуламі, нарысамі і вершаванымі творамі Вінцэся Каратынскага складваецца ўражанне, што Наваградак і Наваградчына пакінулі ў яго душы незабыўны след, што ён выразна ўяўляў, як скрыжаваліся на яго радзіме шляхі заходне-ўсходняга і паўночна-паўднёвага напрамкаў, як цярплівая і непаказна яна нясе на сабе крыж шляхоў народаў.

«Мала хто з нашай літаратурнай і журналісцкай брацці, – пісаў пра Вінцэся Каратынскага Адам Плуг, – такі, як ён, аб'ём працы ўзвальваў на свае плечы і мала хто выконваў яе так спакойна, не выказваючы скаргі і не шукаючы за яе сабе пахвалы»[6]. Каратынскі не любіў гучных размоў і шумлівых кампаній, гутарку падтрымліваў, звычайна, у коле трох-чатырох субяседнікаў, і тады ад яго зыходзіла нейкая спакойная сіла, ясная шчырасць, «нейкая энергія сімпатыі»[7]. Такім яго ведалі варшаўскія газетчыкі і між сабою называлі барадатым літвінам. Яго невысокую, але моцную постаць з трывала пасаджанай галавою на дужых плячах, з чупрынай густых валасоў над высокім ілбом, з кусцістымі брывамі і густой барадою, адпушчанай у Варшаве, амаль заўсёды можна было бачыць за сталом у рэдакцыі «Gazety Warszawkiej». За сталом ён і памёр 7 лютага 1891 года.

Пахаваны В. Каратынскі на Павонзках у Варшаве. Яго журналісцкую працу прадоўжылі сыны Людвік, Уладзіслаў і Бруна, аўтар беларускага верша і ўспамінаў «Пра людзей і рэчы», унук Генрык, галоўны рэдактар газеты «Zycie Warszawy», аўтар успамінаў «Па-рознаму бывала...»(1972), а таксама тры праўнучкі – Яна, Катажына і Магдалена (дочкі Генрыха).

### Спасылкі

[1] Tygodnik Powszechny. 1884. № 14. S. 212.

[2] M.S. Wycieczka do Borejkowszczyzny // Biesiada Literacka. 1913. №. 8. S. 146.

[3] Tygodnik Powszechny. 1884. №. 19. S. 293.

[4] Каратынскі В. Творы. Мн., 1994. С. 178.

[5] *Potocki A.* Raporty szpiega. Warszawa, 1973. T. 2. S. 55.

[6] Album biograficzne zasłużonych polaków i polek wieku XIX. Warszawa, 1902. T. 2. S. 366.

[7] cj. Wspomnienie o ś.p. Wincentym Korotyńskim // Kraj. 1891. №. 6. S. 2 – 3.

### Творы

*Каратынскі В.* Творы. Мн., 1981; Творы. 2-е выд., дап. Мн., 1994.

### Літаратура

*Мальдзіс А.* Вінцэсь Каратынскі // Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX ст. Мн., 1969.

*Мархель У.* Лірнік вясковы. Мн., 1983.

*Мархель У.* Крыніцы памяці. Мн., 1990.

*Korotyński U.* Gawęda rodzinna // Kronika Warszawy. 1982. № 2 (50).

*Уладзімір Мархель*

# Янка ЛУЧЫНА (1851–1897)



нка Лучына, Ян Неслухоўскі, Іван Неслухоўскі – імёны аднаго аўтара. Кожнае са сваім прызначэннем, як неад'емны спадарожнік творчасці на трох мовах – беларускай, польскай, рускай. Адметным – Янка Лучына, – пераасэнсавана запазычаным на псеўданім ад страчанай часткі прозвішча сваіх продкаў, паэт падпісваў пераважна беларускамоўныя творы (і арыгінальныя, і перакладныя). Псеўданім, утвораны ад прыдомка Лучыўка, павінен быў сімвалізаваць крыніцу святла, натуральную і звычайную для старой сялянскай хаты беларуса, і разам з тым аднаўляць, аберагаць гістарычную памяць. Псеўданім выразна акрэсліваў няпростае вяртанне да моўнай стыхіі свайго народа праз іншамоўныя пісьмовыя традыцыі, замацаваныя ў родным краі.

Іншамоўныя пісьмовыя традыцыі ў Беларусі працяглы час абапіраліся на шырокі друк. Беларускае слова такой магчымасці не мела. З сярэдзіны XIX стагоддзя яно зрэдку знаходзіла выйсце на старонках польскай і рускай перыёдыкі або ў двухмоўных кнігах, напружана спрабавала адкрыць шлях да самастойнасці і бесперапынна сутыкалася з цэнзурнымі перашкодамі. Патрэба ў наладжванні выпуску беларускіх твораў асобнымі кнігамі паўстала ў пяцідзесятыя гады. Гэта адчувалі многія пісьменнікі Беларусі і найбольш востра Уладзіслаў Сыракомля, ды намеры, задумы, нават пачынанні не здзяйсняліся.

Увогуле ж беларускае слова з'яўлялася тады ў друку пры неверагодным намаганні аўтараў, і яго мастацкае жыццё вельмі часта абмяжоўвалася вуснай ці рукапіснай формай. Ніводнага

беларускага твора не апублікавалі пры жыцці ні Альгерд Абуховіч, ні Адам Гурыновіч, ні Фелікс Тапчэўскі, ні многія іншыя пісьменнікі. Далёка не ўсё пашчасціла апублікаваць нават вынаходліваму ў такіх справах Дуніну-Марцінкевічу. Да сённяшняга дня даследчыкі гадаюць, куды маглі трапіць паперы, якія аўтар «Пінскай шляхты» складваў у знакаміты куфар. Не здолеў давесці да выдання сваю кнігу празаічных твораў і Багушэвіч. Яе рукапіс, здадзены ў 1899 годзе ў цэнзурны камітэт у Пецярбургу, не вярнуўся да аўтара і быў, відаць, знішчаны якімсьці чыноўным наўмыснікам.

А як маглі заашчадзіцца рукапісы беларускіх паэм Янкі Лучыны «Пятруся», «Віялета», «Ганука», «Андрэй», калі нават іх польскамоўныя варыянты («Мая Віялета» і «Андрый») аўтар, здаецца, так і не атрымаў назад з варшаўскага часопіса «Życie», дзе спадзяваўся надрукаваць. Водгулле гэтых твораў данесла да нас газета «Минский листок», якая ў 1889 годзе змясціла ўрывак з паэмы «Ганука» – «Заходзіць сонца за горы».

Тут, у мясцовай рускай газеце, прагрэсіўнай паводле грамадскага кірунку, Лучына, акрамя рускамоўных твораў, апублікаваў два свае беларускія вершы і пераклад Сыракомлевага «Ямшчыка». Не ўпусціў паэт магчымасці колькі разоў выступіць з беларускімі творамі і ў альманаху «Северо-Западный календарь», які таксама выходзіў у губернскім Мінску. Не ўсё з напісанага па-беларуску трапіла на старонкі гэтых выданняў. Штосьці, вядома, засталося ў асабістым архіве паэта. Яно магло б увайсці ў кнігу, якую ў 1894 годзе прапаноўваў выдаць гісторык М. В. Доўнар-Запольскі. Але да друку справа не дайшла. Ці то ініцыятыва Доўнар-Запольскага не была падмацавана прадпрымальнасцю, ці то ўсе спробы натыкаліся на чыноўніцкае «неразуменне». У Лучынавым лісце, адрасаваным гісторыку, чутны водгалас сумнення ў магчымасці падцэнзурнага выдання беларускай кнігі. Гэта сумненне не магло не ўзнікнуць, бо за друкаванае жыццё сваіх твораў паэт вымушаны быў змагацца ў складанай атмасферы буржуазнай адчужанасці, афіцыйнай варожасці да беларускага слова, асабліва да незалежнага і праўдзівага, і вельмі часта змагацца безвынікова. Хто ведае, ці ўдалося б яму змясціць колькі вершаў у «Минском листке» і «Северо-Западном календаре», калі б не падтрымка зацікаўленых у беларускім культурым руху грамадскіх сіл, якія групаваліся вакол гэтых выданняў.

Адзінкавыя публікацыі ў польскай перыёдыцы таксама здабываліся не проста. Варшаўскі часопіс «Życie», які зычліва

ставіўся да Лучыны і на працягу 1887–1888 гадоў змясціў параўнальна нямала яго твораў (тры раздзелы з «Паляўнічых акварэлек» і пяць вершаў), і той у рэдакцыйных адказах аўтарам неаднойчы называў вершы паэта сярод твораў, якія не будуць надрукаваны.

Несумненна, Лучына зведаў хвіліны душэўнай дэпрэсіі, калі здавалася, што страчаны ўсякі сэнс памкненняў і працы, але ён зведаў і ўзлёты высокага натхнення, якое, нягледзячы ні на што, вяртала да творчасці. Лучына быў сапраўдны паэт і пражыў нялёгкае, але высакароднае, мужнае жыццё.

Нарадзіўся ён 24 чэрвеня (па новым стылі 6 ліпеня) 1851 года. Імя Іван (і яго варыянты Ясь, Ян, Янка) атрымаў у сувязі з тым, што з'явіўся на свет падчас Купалля. Радавод яго старадаўні. Адзін з далёкіх продкаў Івана Неслухоўскага – Пшэбыслаў Дамброва – яшчэ ў сярэдзіне XIII стагоддзя вызначыўся ў бітвах з татара-манголамі і атрымаў ад князя Конрада Мазавецкага Цеханавецкае графства ў Драгічынскай зямлі, дзе быў маёнтак Неслухі. Ад яго, відаць, і пайшло прозвішча Неслухоўскія, а яго носьбіты свой радавы герб назвалі Дамброва[1].

У XVII стагоддзі Неслухоўскія мелі ўладанні ў Пінскім павеце – спачатку маёнткі Моладава, Косава, Сакаловая Воля, а затым Марочнае і Завідчыцы, што належалі раней продкам Ф. М. Дастаеўскага (зараз гэта ў межах Іванаўскага і Івацэвіцкага раёнаў). Вайсковую службу яны адбывалі ў Вялікім княстве Літоўскім – хто ротмістрам, хто харунжым, а хто стражнікам Брэсцкага ваяводства. Прадзед паэта, Іван Неслухоўскі, быў ротмістрам Наваградскага ваяводства, а дзед, Юры Іванавіч, – межавым суддзёю Слуцкага павета[2]. Гэта, здавалася б, павінна было спрыяць паскарэнню афіцыйнага прызнання шляхетнасці Неслухоўскіх. Аднак справа чамусьці зацягвалася, бо, хоць прадзед паэта яшчэ ў 1802 годзе быў прызнаны Мінскай дэпутацкай зборняй шляхты «ў старажытнай шляхецкай годнасці», да гэтага пытання звярталіся паўторна (у 1832 і 1837), і толькі ў 1838 годзе пастанова зборні была зацверджана сенатам[3].

Бацька паэта, Люцыян Юр'евіч Неслухоўскі, які пачынаў службовую кар'еру канцылярыстам у Мінскім губернскім праўленні, падчас нараджэння першынца Івана быў столаначальнікам у Мінскай палаце цывільнага суда. Пазней, узняўшыся да чына калежскага асэсара, ён займаў пасаду сакратара гэтай палаты. Люцыян Юр'евіч быў, відаць, асобай неардынарнай, бо, не маючы асаблівых сродкаў і адпаведнай адукацыі, параўнальна паспяхова прасоўваўся па службе. З ім, напэўна, лічыліся і

яму давяралі: у 1871–1880 гадах ён прадстаўляў Слуцкі павет у Мінскай шляхецкай дэпутацыі, быў паверaным князёў Радзівілаў у атрыманні выкупных пазык за маёнткі.

Маці, Антаніна Мікалаеўна з Лукашэвічаў, вяла хатнія справы, выхоўвала дзяцей. Пасля Івана нарадзіліся яшчэ Антон, Антаніна-Аліна, Юліян, Генрых, Вікторыя. Усіх трэба было паставіць на ногі, даць адукацыю: Антон скончыў Медыка-хірургічную акадэмію ў Пецярбургу, служыў лекарам пры 18-й артылерыйскай брыгадзе ў Кіеўскай акрузе[4]; Юліян пасля заканчэння Новаалександрыйскага інстытута сельскай гаспадаркі і лесаводства стаў аграномам-лесаводам, быў паверaным сваёй маці па арэндзе фальварка Мархачоўшчына (яго арандавалі Неслухоўскія з 1863 г.), затым працаваў тэхнікам экспедыцыі ў Томскай губерні, у землеўпарадчых партыях у Курску[5]; Генрых скончыў Пецярбургскі універсітэт і служыў прысяжным паверaным у Мінскім акруговым судзе.

Сям'я Неслухоўскіх жыла ў Мінску ва ўласным доме, які стаяў на вуліцы Юр'еўскай пад нумарам 23[6]. У сваёй кнізе «Мінскія абразкі» Соф'я Кавалеўская адзначыла, дарэчы, што належаў ён «да вельмі вядомых, неадлучных ад горада» дамоў[7]. Тут збіралася інтэлігенцыя, абмяркоўваліся мясцовыя грамадскія і культурныя падзеі. Люцыян Юр'евіч сачыў за навінкамі краёвай літаратуры, выпісваў часопіс «Teka Wileńska» і, відаць, не надта стрымліваў сябе ў выказваннях пра існуючыя парадкі. У ліпені 1864 года паліцыя ўстанавіла за ім строгі бестэрміновы нагляд, ад якога ён быў вызвалены толькі ў кастрычніку 1868 года. Магчыма, гэта становішча Люцыяна Юр'евіча паўплывала на тое, што, калі надышоў час вучобы Івана і Антона, не ён хадайнічаў наконт выдачы пасведчання аб далучэнні сыноў да шляхецкага роду, а Антаніна Мікалаеўна[8]. Перасцярога зусім няліпшняя ва ўмовах усеагульнай падазронасці, выкліканай урадавай рэакцыяй, што лютавала пасля паражэння студзеньскага паўстання.

Маленства Івана прыпала на час, калі ўсе жылі ў прадчуванні значных палітычных падзей, у чаканні скасавання прыгону і ўвогуле нейкіх грамадскіх зрухаў і перамен. Атмасфера сям'і Неслухоўскіх, дзе госці і гаспадары бесперашкодна выказвалі свае думкі і нават патаемныя надзеі, спрыяла абуджэнню грамадзянскай свядомасці хлопчыка, сутыкала яго з пакутлівым пошукам адказу на пытанні, якія хвалявалі дарослых. Многія з гэтых пытанняў будуць прасветлены пазней зарывам паўстання 1863 года і ўвойдуць у падтэкст твораў паэта як спа-

дарожнікі пякучай памяці аб няспраўджаных памкненнях бацькоў.

Ясь (так звалі Івана дома) рос жвавым і непаслухмяным хлопчыкам. Таму, мусіць, і аддалі яго ў прыватны пансіён настаўніка Ціля. Пазбаўлены бацькоўскай увагі і мацярынскай ласкі, адарваны ад роднай хаты, дзе мог бываць толькі ў нядзелю і на святы, ён балюча перажываў разлуку, і аднойчы нават склаў верш. Было яму тады дзевяць гадоў[9]. Дасягнуўшы чатырнаццацігадовага ўзросту, Ясь паступіў у Мінскую класічную гімназію – адразу ў трэці клас. Вучыўся ён добра і на пачатку наступнага навучальнага года быў узнагароджаны пахвальным лістом.

У першыя дні чэрвеня 1866 года, калі Ясь заканчваў чацвёрты клас, гімназію наведаў куратар Віленскай вучэбнай акругі І. П. Карнілаў. Зацятаму цемрашалу і неадступнаму правадніку палітыкі Мураёва-вешальніка ў сістэме асветы на тэрыторыі так званага Паўночна-Заходняга краю падалося, што ў Мінскай гімназіі пануе празмерна вольналюбівы дух ды і мараль не вернападданіцкая ў вучняў, а іх тут зашмат – ажно 325, можна б таго-сяго і выключыць, бо «дзіцячыя свавольствы маюць асаблівы мясцовы характар і вызначаюцца езуіцтвам, асцярожнасцю, фальшывасцю, злапамятнасцю». У выніку чатыры настаўнікі былі звольнены са службы, а сем гімназістаў трапілі пад следства за падкінутыя лісты...[10]. Сведка гэтых падзей Іван Неслухоўскі шчасліва дайшоў да апошняга класа і скончыў гімназію ў 1870 годзе ў ліку лепшых вучняў.

Працягваць адукацыю Іван Неслухоўскі наважыўся ў Пецярбургу, ва універсітэце. Паспяхова здаўшы ўступныя экзамены на матэматычны факультэт, ён хадзіў на універсітэцкія лекцыі да мая 1871 года, а пасля чамусьці папрасіў у начальства дазволу на адпачынак і, не дачакаўшыся сесіі, выехаў у Мінск. Адмаўленне ад здачы экзаменаў за першы курс было, відаць, вынікам працяглага роздуму і так ці інакш сведчыла пра эвалюцыю ў свядомасці студэнта Івана Неслухоўскага: ён зразумеў, што матэматыка – не яго поле дзейнасці. Канчаткова выбар спыніўся на прафесіі інжынера. У гэтым была пэўная даніна модзе: у асяроддзі інтэлігенцыі ў той час распаўсюджвалася думка, што тэхнічны прагрэс можа шмат змяніць у грамадстве да лепшага, і яна не магла не імпанаваць юнаку, сумленне якога не мірылася з сацыяльнай несправядлівасцю.

Восенню 1871 года Іван Неслухоўскі аформіў звальненне з універсітэта і паступіў у Пецярбургскі тэхналагічны інстытут,

на механічнае аддзяленне. Спачатку ён наведваў заняткі як вольны слухач, а праз год быў унесены ў спіс пастаянных студэнтаў[11]. Як давалася будучаму паэту вучоба ў інстытуце, якія былі ў яго поспехі, з кім ён сябраваў – гэтыя пытанні застаюцца адкрытымі. З часам, магчыма, адказы на іх будуць знойдзены. Пакуль жа можна меркаваць, што да вучобы ён ставіўся сур'ёзна і што на канікулы заўсёды прыязджаў да бацькоў – у Мінск ці Мархачоўшчыну (пад Стоўбцы), тую самую, якую яшчэ ў трыццатыя гады арандаваў Аляксандр Кандратовіч, бацька славутага вясковага лірніка Уладзіслава Сыракомлі, вельмі шанаванага ў сям'і Неслухоўскіх. Застаецца пакуль нявысветленым, чаму Іван Неслухоўскі перапыняў вучобу ў тэхналагічным інстытуце на цэлы год і чым вызначалася падчас гэтага перапынку яго служба на Варонежскай чыгунцы.

10 верасня 1877 года вучэбны камітэт Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута прысвоіў Івану Люцыянавічу Неслухоўскаму ступень інжынера-тэхнолага. Рашэнне камітэта зацвердзіў таварыш міністра фінансаў, але дыплом яшчэ не быў выпісаны. Таму 15 верасня Іван звярнуўся да дырэктара інстытута з просьбай выслаць дыплом у Мінск на імя бацькі і неўзабаве пакінуў Пецярбург[12]. Складваецца ўражанне, што малады інжынер імкнуўся як мага хутчэй трапіць на месца сваёй працы і, магчыма, нядоўга гасцяваў у бацькоў.

У канцы верасня – пачатку кастрычніка Іван Неслухоўскі, найбольш верагодна, быў ужо у Тыфлісе. Там ён пачаў служыць на чыгуначных складах. Пошукі звестак пра службу Івана Люцыянавіча на поўдні нічога, па сутнасці, не дадалі да яго жыццяпісу, акрамя таго, што была абвергнута беспадстаўная версія даследчыкаў пра яго працу начальнікам чыгуначных майстэрань. А між тым ужо сучаснік паэта даволі выразна, хоць і скупа паведамляў, што Неслухоўскі «як інжынер-тэхнолаг паступова прасоўваўся ў кар'еры, якую шукаў ажно на Каўказе, і праз два гады дасягнуў ступені начальніка чыгуначных складаў». Цяжка сказаць, колькі часу Іван Люцыянавіч знаходзіўся ў Тыфлісе – два гады ці крыху болей? Аднак сведчанне таго ж сучасніка («Ён нават не дапускаў думкі, што надта рана будзе вымушаны пакінуць абраную дарогу»[13]) схіляе да таго, што Неслухоўскі калі і служыў на чыгуначных складах Тыфліса даўжэй за два гады, то не нашмат, прынамсі, не да 1886 года і тым больш не да дзевяностых гадоў, як «здагадваюцца» гісторыкі літаратуры.

Падчас апошняга прыезду ў Мінск (у 1879 ці 1880 г.) Івана Люцыянавіча спасцігла няшчасце: на выхадзе з канцэрта яго

нечакага разбіў параліч[14]. У Тыфліс ён, вядома, не вярнуўся, а працяглае лячэнне не вельмі дапамагло: ён мог хадзіць, толькі абапіраючыся на мыліцы. Бяда, аднак, не пахіснула жыццялюбства Неслухоўскага, не адняла ў яго прагі дзейнасці. Ён уладкаваўся на службу ў мінскае тэхнічнае бюро Лібава-Роменскай чыгункі, дзе прыдалася яго інжынерная адукацыя, і нават не адступіўся ад свайго захаплення – рыбалкі і палявання.

Актыўная жыццёвая пазіцыя абудзіла ў Неслухоўскім патрэбу выявіць свой мастакоўскі голас, які спрабаваў прарэзацца яшчэ ў маленстве. Бытавыя ж нягоды і ўласная фізічная немач абвастрылі ў ім і ўспрыманне свету, і ўсведамленне свайго літаратурнага прызвання. Думаецца, што менавіта ў пачатку васьмідзесятых гадоў Неслухоўскі ўжо стала і беспаваротна займаўся паэтычнай творчасцю. У гэтым пераконваюць яго лісты да Аляксандра Валіцкага, напісаныя ў 1882 годзе. Былому мінчуку, які жыў у Кракаве, паэт пасылаў з Мінска раздзелы «Паляўнічых акварэлек з Палесся» («На ласёў на прынаду» і «На цецерукоў у час такавання»). Ён не спяшаўся прапаноўваць свае творы часопісам і газетам, а разлічваў перш за ўсё на разуменне і зычлівасць земляка, чакаў яго аўтарытэтнага прысуду. Пазней, 17 лютага 1884 года, у вершаваным пасланні Валіцкаму, якому даверыў нейкі новы свой твор, ён так і пісаў:

А як згледзіш, пане, што нуду напуста
Наганяць не варта, можа, гэткім глупствам,
То прашу пакорліва я ў тым выпадку
Вынесі прысуд свой, знішч яго нагладка.

У друку Іван Неслухоўскі дэбютаваў вершам «Не ради славы иль расчета», які быў змешчаны ў першым нумары «Минского листка» за 1886 год. Гэты дэбют быў своеасаблівым: верш адкрываў газету, якая ўпершыню ішла да чытача, і аўтар, прадстаўляючы яе падпісчыкам, гаварыў не так ад сябе, як ад імя рэдакцыі, якая ўзялася за выданне газеты «не дзеля славы ці разліку», а затым, каб «служыць краіне, глухой, забітай, дзе цемрадзь невуцтва пануе». Дэмакратычна-асветніцкія задачы «Минского листка», Неслухоўскі, несумненна, падзяляў, і яго выступленне ў газеце з вершам, у якім выкладваўся яе грамадскі кірунак, пацвярджае, што ў мясцовым культурным асяроддзі ён ужо быў прызнаным паэтам. Першае выступленне Неслухоўскага ў тым жа 1886 годзе ў польскім друку – публікацыя верша «Раскоша натхнення» ў часопісе «Kłosy», дзе, між іншым, ста-

ла супрацоўнічаў ураджэнец Беларусі Адам Плуг, – таксама сведчыла, што за плячыма аўтара ёсць творчы вопыт, што ім ужо аблюбавана пэўнае кола тэм і акрэслены асабістыя творчыя схільнасці і інтарэсы.

У вершы паэт звярнуўся да сваёй песні, паяднанай з роднай вёскаю з-пад Нёмана, як да крыніцы радасці і натхнення. Перадаўшы прыўзнятасць свайго душэўнага стану падчас стварэння простай песні, непадуладнай чужому сіверу, аўтар натуральна працягваў лірычную споведзь прызнаннем у любасці да ўсяго людскога, да родных пагоркаў, да ціхіх, пахмурных людзей свайго краю і жадаў аднаго – каб песня яго заўсёды напаўнялася добрым пачуццём і ніколі не была пустою.

«Раскошай натхнення» Ян Неслухоўскі заявіў пра сябе як паэт-дэмакрат, як лірык рамантычнага складу. З публікацый вершаў «Не ради славы иль расчета» і «Раскоша натхнення» пачыналася друкаванне і грамадска-гістарычнае жыццё твораў Яна Неслухоўскага. Пазней імя паэта стала часцей трапляць на старонкі перыёдыкі, але гэта не адпавядала ні тым намаганням, якія затрачваліся на пошукі друкаванай трыбуны, ні колькасці напісанага. А пісаў Неслухоўскі шмат, пераважна па-польску і зрэдку па-руску. Патрэба выказацца на беларускай мове з'явілася нечакана, як выбух, пад уражаннем выступленняў украінскіх артыстаў, якія гастралявалі ў Мінску ў 1887 годзе. Знаёмства з таленавітым мастацтвам братняга народа ўскалыхнула паэта: украінскі тэатр падаваў прыклад паспяховага нацыянальнага самавыяўлення. Таму пытанне, на якой мове сказаць вітальнае слова гасцям з Украіны, перад мінскім паэтам наўрад ці паўстала. Логіка абставін падказвала: на мове свайго народа.

Аднак тут патрэбна была яшчэ і творчая адвага, бо ў пісьмовай літаратуры Беларусі парэформеннага часу беларускамоўныя творы пакуль не з'яўляліся. Прынамсі, ствараючы вершаваныя вітанні «Усёй трупе дабрадзея Старыцкага беларускае слова» і «Дабрадзею артысту Манько», Неслухоўскі не быў ўпэўнены, што хтосьці з сучаснікаў, акрамя яго, таксама піша па-беларуску. Было толькі ўсведамленне, што ўкраінскіх сяброў ён вітае ад імя беларусаў. Вершы літаральна свецяцца радасцю адкрыцця мажлівасці загаварыць на мове свайго народа. Аўтар дзякуе ўкраінскім артыстам за іх мастацтва, за «хвацкія песні народныя», за «гутарку... вясковую», за тое, што сваім мастацтвам нясуць яны «праўду светлую», «праўду новую», якой мала на свеце. Менавіта вера ў гэтую праўду, заклікаdebating абуджаць сацыяльную і нацыянальную свядомасць людзей, дае паэту падста-

вы ўсклікнуць: «Ой! Не забыта роднага слова святая сіла!..» і закончыць верш «Усёй трупе дабрадзея Старыцкага...» на высокай аптымістычнай ноце:

> Яе ж паслышыць наша старонка!
> Спявайце ж, Братцы, смела і звонка:
> Не згіне песня і Украіна!
> Будзьце здаровы!
> Янка Лучына.

Паставіўшы ў вершаваны радок і зарыфмаваўшы подпіс-псеўданім Янка Лучына, паэт нібы засведчыў, што з гэтага часу яго новае імя назаўсёды з той паэзіяй, якая лучыць яго са сваім народам.

Свае першыя беларускія творы «Усёй трупе дабрадзея Старыцкага...» і «Дабрадзею артысту Манько» Янка Лучына не публікаваў. Як беларускі паэт ён дэбютаваў у 1889 годзе, калі змясціў у газеце «Минский листок» верш «Вясновай парой», паклаўшы тым самым пачатак вяртанню беларускай літаратуры да друкаванага жыцця, перарванага пасля паражэння паўстання 1863 года царскімі рэпрэсіямі на чвэрць стагоддзя.

Беларускае мастацкае слова, нанава выведзенае на людзі Янкам Лучынам, выяўляла народнае светаразуменне і жыццеадчуванне. Стрымана-ідылічны малюнак світання ў вершы «Вясновай парой» змяняецца гутаркай сватоў Піліпа Окуня і Янкі Бычка, якія праз гукапераймальную «разгадку» птушыных галасоў не толькі паказваюць сваё разуменне грамадскіх стасункаў, але і ганяць драпежніцкую мараль пануючых класаў. Гэта разуменне і ганьбаванне зыходзіла, вядома, ад аўтара, але пераўвасоблена, з вуснаў лірычных герояў-сялян, прытым у адпаведнасці з сялянскім уяўленнем пра свет, дзе «не прыкраўшы, не прылгаўшы, тай не будзеш панам».

Беларускія творы Янкі Лучыны не маюць прыкмет пераадолення сацыяльна-псіхалагічнага бар'еру, які, здавалася б, павінен быў паўстаць пры набліжэнні інтэлігента-гараджаніна, патомнага шляхціца, да «мужыцкага» тыпу мыслення. Такое ўражанне, што ў беларускамоўных вершах паэта, арыентаваных, як правіла, на чытача з народа, на селяніна, няма ніякай стылізацыі – настолькі яны шчырыя, непасрэдныя і натуральныя. У Лучынавым вершаваным радку беларускія словы знаходзяцца ў такім нязмушана-простым сінтаксічным узаемадачыненні, што ў чытача ўзнікае адчуванне, быццам ён слухае маў-

ленне – даверлівую гутарку аўтара. Апавядальная інтанацыя большасці паэтычных твораў Янкі Лучыны, напісаных па-беларуску, – гэта рух насустрач селяніну, дзеля каго задумваўся і ад чыйго імя ствараўся верш. Менавіта праз гутарковы стыль, які адпавядаў духу часу і абумоўліваўся дэмакратычнай настроенасцю паэта, выяўлялася зліццё яго асобы з памкненнямі і ладам думак селяніна, адбывалася мастацкае адкрыццё эпічнай постаці беларускага мужыка.

Гэта адкрыццё мела сваю адметнасць. Будучы паэтам лірычнага таленту, Янка Лучына засяроджваў увагу не так на знешнебытавых з'явах сучаснасці, як на ўнутраным свеце свайго героя, на яго перажываннях, пазначаных гісторыка-канкрэтнымі рысамі парэформеннага часу. У вершы «Што думае Янка, везучы дровы ў горад» паэт перадае ход думак лірычнага героя такім чынам, што невясёла-спакойнае Янкава ўспрыманне ўласных жыццёвых нягод нібы прадугледжвае зараджэнне ў чытача працягу роздуму над сялянскай нядоляй. Яшчэ большага паглыблення ў псіхалогію селяніна дасягнуў Лучына ў вершы «Стары ляснік» – беларускім варыянце ўрыўка са сваёй польскамоўнай паэмы «Паляўнічыя акварэлькі з Палесся». Уражанне духоўнай моцы і якойсьці першароднай праваты Грышкі пакідае яго гутарка з панам, якая і складае асноўны змест дыялагаванага верша «Стары ляснік».

Вуснамі Грышкі паэт асуджаў тыя негатыўныя з'явы, якія нясе з сабой навукова-тэхнічны прагрэс. У радках жа ад аўтара ён пераконваў чытача ў непазбежнасці гэтага прагрэсу, гаварыў пра яго відочныя дасягненні і заклікаў паверыць у тое, што «шчасце заквітнее на зямлі». Супярэчнасць тут, вядома, была, але яна мела апраўданне. Паэт-дэмакрат, як і стары Грышка, балюча ўсведамляў няўхільнае разбурэнне адвечных традыцый палешукоў, абездухоўліванне чалавека буржуазнымі стасункамі, аднак жыццёвыя змены, выкліканыя наступам цывілізацыі, ён звязваў з больш аддаленай будучыняй, чым яго герой. Вера Лучыны, што надыдзе час, калі і палешукі нарэшце скажуць: «Шчасце і да нас прыйшло!», была вырашчана разуменнем даброт навукова-тэхнічнага прагрэсу і жаданнем палепшыць лёс працавітых насельнікаў роднага краю. Вера Янкі Лучыны ў будучыню падмацоўвалася яго верай у стваральныя сілы і духоўны патэнцыял народа. Гэта істотна адрознівала аўтара «Паляўнічых акварэлек» ад польскіх пісьменнікаў-пазітывістаў, якія на літаратуру ўскладвалі выкананне самых блізкіх грамадскіх функцый. «Паляўнічыя акварэлькі з Палесся» – гэта

Лучынава адкрыццё беларускага народа, мужнага, цярплівага, сціплага. Постаць Грышкі – самая прыкметная і значная ў творчасці Лучыны-Неслухоўскага, а «Паляўнічыя акварэлькі» – выдатная з'ява ў літаратурным жыцці Беларусі на зыходзе XIX стагоддзя.

Рамантычны пачатак у творчасці Янкі Лучыны як на беларускай, так і на польскай мове ў большай ступені ўласцівы мастацкім формам. Праўда, у вершах апавядальна-гутарлым паэтычным формам. Праўда, у вершах апавядальна-гутарковага характару, такіх, напрыклад, як «...Пакуль новы год настане на свеце» ці «Plus quam perfectum» («Даўно мінулы час»), ён амаль адсутнічае. Менавіта ў іх выяўлялася стылёвае падабенства да твораў выдатнага сучасніка Янкі Лучыны Францішка Багушэвіча.

Лірычны голас Лучыны заўсёды спакойны і стрыманы, з нявыведзенай на паверхню энергіяй страсці – ці то ў польскіх творах інтымнага зместу («Не хачу памерці...», «Развітанне», «Змрочныя думкі» і інш.), ці то ў алегарычных прыродаапісальных вершах на беларускай мове («Сівер», «Вясна»).

З вобразам мужыка, прыгнечанага жыццёвымі абставінамі, паэт лучыў і вобраз радзімы. Сацыяльная няўтульнасць селяніна выказвалася ў беларускай паэзіі Лучыны і праз перажыванне за родную старонку, за яе лёс, праз мінорнае апяванне яе краявідаў:

Ты параскінулася лесам, балотамі,
Выдмай пясчанай, неураджанаю,
Маці-зямліца, і умалотамі
Хлеба нам мерку не даш звычайную.

А сын твой, беднаю адзет сярмягаю,
З лыка пляцёныя лапці абуўшы,
Едзе драбінамі ці калымагаю,
Конем, што цягне, як бы заснуўшы...

У прыведзеных радках верша «Роднай старонцы» паўстае зрокавы малюнак радзімы паэта, заснаваны на выбраных паводле яго светабачання канкрэтных вобразах-прыкметах роднага краю і падсвечаны шчымлівым пачуццём любасці да айчыны. Гэта пачуццё паэта выяўляецца і ў шчырай спагадзе сацыяльна прыніжаным насельнікам сучаснай яму Беларусі, і ў непахіснай веры ў будучыню роднай старонкі, у будучыню яе народа:

Сонца навукі скрозь хмары цёмныя
Прагляне ясна над нашай ніваю,
І будуць жыці дзеткі патомныя
Добраю доляй – доляй шчасліваю!..

Патрыятычны матыў, так хораша і па-лучынаўску сардэчна прыўзняты ў вершы «Роднай старонцы», вельмі прыкметна і шматстайна пульсаваў у польскамоўных творах паэта («Дзве заранкі», «Пышны малюнак», «Развітанне», «...Як мора, хвалюющца з ветрам прыгожа» і інш.), у якіх уяўленне лірычнага героя пра радзіму складвалася не толькі з канкрэтна-жыццёвых рэалій, але і з мастацкіх сімвалаў (яснае неба, вецер Немановы, вецер свой, улонне айчыннае).

Лучына пісаў на трох мовах – беларускай, польскай і рускай. У яго творчасці ўзаемадзейнічалі дэмакратычныя традыцыі трох літаратур. Але вядучая роля ў гэтым узаемадзеянні належала паэзіі прызнанага песняра беларускага краю Уладзіслава Сыракомлі, гутаркі якога дапамагалі аўтару «Паляўнічых акварэлек» уважлівей прыгледзецца да навакольнай рэчаіснасці, зрабілі ўплыў на фарміраванне яго грамадзянскіх ідэалаў і літаратурна-эстэтычных поглядаў. Памяці Сыракомлі Лучына прысвяціў польскую парафразу яго праграмнага верша «Лірнік вясковы». Ідучы за строфікай і рытмічным ладам гэтага твора, чаргуючы чатырохстопныя з цэзурай і двухстопныя анапестычныя радкі з унутранай рыфмай, Лучына запазычыў з яго вобраз лірніка – народнага носьбіта песні, стварыў вершаванае наследаванне, у якім герой Сыракомлі суадносіўся з сучаснай Лучыну рэчаіснасцю.

Пытанні стасункаў паэта і грамадства Лучына ўзнімаў і ў сваіх беларускіх творах. Дзелячыся з чытачамі сумненнямі і падкрэсліваючы «няхітрасць» свайго мастацкага набытку, Лучына ў вершы «Пагудка», як і Сыракомля ў «Прысвячэнні ліцвінам народных гутарак», зыходзіў з народнага разумення сціпласці ўласнай працы. Гэтым разуменнем была абумоўлена стрыманасць у апісанні абодвума паэтамі беларускіх краявідаў, бедных на яркія малюнкі, але дарагіх сэрцу («Роднай старонцы» Лучыны і «Уражанні палескага падарожжа» Сыракомлі).

Сыракомлева паэзія была для Лучыны ідэйна-мастацкім арыенцірам. Можа таму аўтар «Паляўнічых акварэлек» пераклаў на беларускую мову толькі творы Сыракомлі. Узноўленая Лучынай пад назвай «Ямшчык» народная гутарка вясковага

лірніка «Паштальён», дзякуючы публікацыі ў газеце «Минский листок» (1890, № 19), стала першым творам беларускай перакладной паэзіі, які прабіўся да масавага чытача ў парэформенны перыяд. Услед за «Ямшчыком» з'явілася «вольнае наследаванне» Сыракомлевай гутаркі «Горсць пшаніцы». Патрыятычная тэма, глыбока распрацаваная вясковым лірнікам, знайшла працяг яшчэ ў адным перакладзе Лучыны – у вершы «Бусел».

У цэлым перакладчыку Янку Лучыне ўласцівы свабодны падыход да арыгінала, адметны ў кожным асобным выпадку. Калі ў «Горсці пшаніцы» змест Сыракомлевага твора перададзены скарочана, то ў вершы «Надта салодкія думкі» тэкст, наадварот, пашыраны. Перакладам у поўным сэнсе нельга лічыць і своеасаблівую інтэрпрэтацыю другой часткі верша Сыракомлі «Не я пяю», у якой гаворыцца пра сувязь паэзіі з народам. З Сыракомлі Лучына пераклаў яшчэ і паэму «Нядзеля» – праўда, не на беларускую мову, а на рускую. Але моўны выбар тут меў свае прычыны. Лучыну, відаць, чымсьці (можа, адвольнасцю) не вельмі задавальняў пераклад «Нядзелі», зроблены наўгародскай паэтэсай Вольгай Чумінай, якой ён, дарэчы, дапамагаў парадамі.

Янка Лучына ўскладаў на сябе ролю пасрэдніка паміж польскай і рускай літаратурамі. Дзеля гэтага ён перакладаў на рускую мову творы польскіх аўтараў (захаваліся толькі пераклады з Адама Асныка), а па-польску ўзнаўляў творы рускіх паэтаў: вершы Вольгі Чумінай, сярод якіх парафраза «Лірніка вясковага» Сыракомлі «Оглянусь ли кругом», верш Мікалая Някрасава «Забытая деревня», байкі Івана Крылова, асобныя творы Уладзіміра Салаўёва і Аляксандра Хамякова. Калі да гэтага дадаць, што ў актыве Лучыны былі яшчэ і польскамоўнае наследаванне Генрыху Гейнэ, і пераклад уступнай часткі гамераўскай «Іліяды», які з выключным майстэрствам перадаваў на польскай мове антычны гекзаметр, і праца ў празаічных жанрах (запіс успамінаў удзельніка паўстання 1863 года на Міншчыне, нарыс «С праздничной поездки»), то можна пераканацца ў шматграннасці яго таленту і шырыні дыяпазону творчых інтарэсаў, а таксама ў тым, як напружана, самаахвярна працаваў ён, не заўсёды маючы надзею ўбачыць напісанае ў друку. Пры жыцці паэт убачыў толькі адну сваю кнігу – «З крывавых дзён». Але і тая была выдадзена, па сутнасці, ананімна. Уласнага ж зборніка польскіх твораў Лучына ўжо не дачакаўся. 16 ліпеня 1897 года ён памёр і быў пахаваны на Кальварыйскіх могілках у Мінску.

Паэт не давёў да канчатковай рэдакцыі ў адпаведнасці са сваімі эстэтычнымі патрабаваннямі варыянты беларускіх твораў, аб'яднаных пазней удзячнымі нашчадкамі ў кнігу «Вязанка». У варыянтах вершаў і ў паэтычных рэмінісцэнцыях паўтараліся тыя матывы, з якіх якраз і складваўся ўстойлівы вясковы вобраз роднага краю Янкі Лучыны, гараджаніна, патомнага шляхціца і «тэхнара». Гэта абумоўлівала і да гэтага найперш абавязвала беларускае слова. Зварот да яго супадаў з дэмакратычным ідэалам часу і набліжаў да найбольш адпаведнай тутэйшым формам светасузірання мастацкай праўды.

*Спасылкі*

[1]*Бравер А.* Архівы расказваюць: Новыя матэрыялы да біяграфіі Янкі Лучыны // Полымя. 1971. № 7. С. 225.

[2]Там жа.

[3]*Бэндэ Л.* Новыя матэрыялы аб Янку Лучыну // Полымя. 1945. № 9. С. 154.

[4] *Al.Jel.* Listy z prowincji. Z gub. Mińskiej // Kraj. 1895. №. 44.

[5] НГА Рэспублікі Беларусь. Ф. 694, воп. 3, с. 2835, а. 4, 2 а, 31 – 35, 52.

[6] Там жа. Ф. 319, воп. 2, с. 2221, а. 203, 207, 209.

[7] *Kowalewska Z.* Obrazki mińskie. Wilno, 1912. S. 35.

[8] *Бравер А.* Архівы расказваюць. С. 226.

[9] *Niesłuchowski J.* Poezje. Warszawa, 1898.

[10] *Корнилов И.* Русское дело в Северо-Западном крае. СПб., 1908. С. 208.

[11] *Бэндэ Л.* Новыя матэрыялы аб Янку Лучыне. С. 156.

[12] *Бэндэ Л.* Новыя матэрыялы аб Янку Лучыне. С. 158.

[13] У прадмове да кн.: Niesłuhowski J. Warszawa, 1898.

[14] Там жа.

*Творы*

*Лучына Янка.* Творы: Вершы, нарысы, лісты. Мн., 1988; Мн., 2001.

*Літаратура*

*Кісялёў Г.* В. Ад Чачота да Багушэвіча. Мн., 1993.

*Лазарук М.* Паэтычны вопыт Янкі Лучыны // Полымя. 1976. № 8.

*Лойка А.* Жальбы народнай і веры пясняр // Полымя. 1976. № 8.

*Майхровіч С.* Янка Лучына. Мн., 1952.

*Мархель У.* Крыніцы памяці. Мн., 1990.

Пачынальнікі. Мн., 1977.

Янка Лучына ў кантэксце самаідэнтыфікацыі беларускай літаратуры: Матэрыялы рэсп. навук. канф. (Мінск, 25 мая 2001 г.). Мн., 2002.

*Уладзімір Мархель*

# Баляслаў ЯЛАВЕЦКІ (1846–каля 1916)



Як вядома, першая чыгуначная лінія па беларускай зямлі прайшла ў 1862 годзе. Паравозны гудок беларусы пачулі ўпершыню параўнаўча позна – праз трыццаць з нечым гадоў пасля таго, як ён прагучаў на радзіме новага віду транспарту – у Вялікай Брытаніі. Затое 1870 – 1880 гады сталі на Беларусі гадамі сапраўднага чыгуначнага буму. У гэты час рэйкі працягнуліся праз беларускія губерні ва ўсе бакі свету. Да 80-х гадоў XIX стагоддзя чыгункі ў нас будаваліся і эксплуатаваліся прыватнымі акцыянернымі кампаніямі, прычым з актыўным удзелам замежнага, перадусім англійскага, капіталу. З канца 80-х гадоў, у сувязі з рэарганізацыяй усёй сістэмы чыгуначнага транспарту, пачаўся выкуп прыватных чыгунак дзяржавай. Да сярэдзіны 1890 гадоў усе беларускія чыгункі сталі дзяржаўнымі. За кошт дзяржавы вялося ў далейшым і будаўніцтва новых.

Царскі ўрад будаваў чыгункі ў Беларусі, кіруючыся найперш ваеннымі мэтамі і стратэгічнымі меркаваннямі. Галоўнай лічылася неабходнасць звязаць Пецярбург і Маскву з Заходняй Еўропай, забяспечыць бесперашкоднае злучэнне Украіны і цэнтральных расійскіх губерняў з партамі Балтыкі. Вядома, значны эфект мелі гэтыя чыгункі і для беларускай эканомікі. Але толькі вузкакалейка Свянцяны – Беразвеч стала першай унутранай беларускай чыгункай, свядома прызначанай для абслугоўвання мясцовых інтарэсаў, беларускай дарогай для беларусаў. І адбылося гэта дзякуючы прыватнай ініцыятыве нашага земляка, выдатнага інжынера, грамадскага дзеяча, аднаго з буйнейшых прадпрымальнікаў таго часу Баляслава Антонавіча Ялавецкага.

Можна сказаць, што гісторыя гэтай чыгункі пачалася ў сакавіку 1890 года, калі ў Міністэрства шляхоў зносін паступіла хадайніцтва ад надворнага дарадцы, інжынера Баляслава Ялавецкага з просьбай дазволіць яму заснаванне акцыянернага таварыства для будаўніцтва і эксплуатацыі прыватных вузкакалейных чыгунак. Вельмі абгрунтавана ён заўважыў, што «существующие на необъятных пространствах Российской империи железные дороги и водные пути, несмотря на громадное их протяжение, представляют собой весьма жидкую и не полную сеть главных коммуникационных артерий страны, которою могут с условным удобством пользоваться лишь местности, непосредственно к сим путям прилегающие»[1] . Новае Таварыства збіралася не толькі будаваць і выкарыстоўваць уласныя чыгункі, але і выконваць замовы для правядзення інжынерных вышукаў і складання праектнай дакументацыі пад'язных шляхоў на даручэнне дзяржаўных, грамадскіх і прыватных устаноў і асобных прадпрымальнікаў, а таксама наладзіць вытворчасць і продаж чыгуначнага абсталявання і прылад. Б. Ялавецкі наважваўся прадаць Таварыству сваё вынаходніцтва: чыгуначныя прылады і рухомы састаў для стацыянарных і пераносных чыгунак сістэмы «Дольберга і Ялавецкага». Паводле праекта асноўны капітал Таварыства планаваўся ў 3 мільёны рублёў і ўтвараўся праз выпуск дзесяці тысяч акцый (па сто рублёў кожная) на агульную суму 1 мільён рублёў і аблігацый на суму 2 мільёны рублёў. На кожную 100-рублёвую акцыю меркавалася атрымаць не менш за 15 – 30 рублёў дывідэндаў.

Просьба Б. Ялавецкага і праект статута новага Таварыства былі падрабязна разгледжаны ў Міністэрстве шляхоў зносін, узгоднены ў Міністэрстве фінансаў і толькі пасля гэтага са станоўчым заключэннем перададзены 15 лістапада 1891 года ў Камітэт міністраў. Канчатковае рашэнне прыняў імператар Аляксандр III, зацвердзіўшы 26 сакавіка 1892 года статут Таварыства. У якасці першай спробы сваёй дзейнасці Таварыства выбрала будаўніцтва чыгуначнай лініі ад станцыі Свянцяны Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі да буйнога беларускага мястэчка Беразвеч (цяпер у межах г. Глыбокае). Адпаведнае хадайніцтва на дазвол будаўніцтва паступіла да імператара праз віленскага, гарадзенскага і ковенскага генерал-губернатара і міністра ўнутраных справаў у лютым 1894 года, і 27 чэрвеня 1894 года было зацверждана. Таварыству надавалася канцэсія на гэту дарогу тэрмінам на 85 гадоў з правам выкупу яе ўрадам у скарб праз 18 гадоў. Канцэсіянеры атрымалі магчымасць адчужэння дзяржаў-

ных земляў пад будаўніцтва і некаторыя іншыя льготы, а ўзамен абавязаліся перавозіць бясплатна пошту і за паменшаную плату — войска і ваенныя грузы[2].

Дзялянка новай чыгункі ад Свянцянаў да Паставаў даўжынёй 66 вёрст была адкрыта для руху 11 лістапада 1895 года, а 1 ліпеня 1897 года пачала дзейнічаць другая чарга – да станцыі Беразвеч (да Глыбокага) працягласцю 53 вярсты[3]. Шырыня каляі новай лініі склала 0,351 сажня (75 см), а на асноўных чыгунках Расійскай імперыі яна была роўна 152,4 см. Хуткасць руху дасягала 25—30 вёрст у гадзіну, пасажырскія вагоны II класа мелі мяккія спружынныя сядзенні са спінкамі, а для жадаючых меліся спальныя аддзяленні. Спробы арганізаваць кампаніі па будаўніцтве і эксплуатацыі вузкакалейных чыгунак рабіліся ў Расійскай імперыі і раней, але далей планаў справы не ішлі[4]. Апрача таго, амаль адначасова з праектам Б. Ялавецкага быў зацверджаны статут Маскоўскага таварыства для будаўніцтва і эксплуатацыі пад’язных чыгуначных шляхоў у Расіі, але прыярытэт у гэтай справе належыць усё ж Ялавецкаму.

Звернемся да біяграфіі гэтага чалавека. Прычым скарыстаем не толькі апублікаваныя крыніцы, але і матэрыялы Расійскага дзяржаўнага ваенна-гістарычнага архіва ў Маскве і Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве, дзе захоўваюцца рукапісныя ўспаміны сына Б. Ялавецкага – Мечыслава, якія знойдзены беларускім гісторыкам Алесем Смалянчуком.

10 жніўня 1846 года ў сям’і шляхціча Віленскай губерні Антона Ялавецкага нарадзіўся сын, якога пры хрышчэнні назвалі Баляслаў Лаўрэнці. Яго бацька валодаў 500 дзесяцінамі зямлі. Баляслаў скончыў Віленскую гімназію, затым у 1861 – 1865 гадах вучыўся ў Мікалаеўскай інжынернай вучэльні ў Пецярбургу. Праз два гады паспяхова вытрымаў іспыты ў Мікалаеўскую інжынерную акадэмію, якую бліскуча скончыў у 1870 годзе, — яго імя выбіта на мармуровай дошцы ў будынку акадэміі – і быў прызначаны ў інжынерны корпус Галоўнага інжынернага ўпраўлення. Вайсковая кар’ера Б. Ялавецкага складваецца паспяхова: 22 кастрычніка 1870 года яму прысвоены чын штабс-капітана, але 13 красавіка 1871 года, паводле ўласнага прашэння, ён звальняецца са службы. Праз паўтара года, 21 верасня 1872 года, ён зноў выклікаецца на службу і 1 кастрычніка 1872 года прызначаецца ў Пецярбургскае крапасное інжынернае ўпраўленне. Але не мінае і месяца, як 27 кастрычніка яго камандзіруюць на будаўніцтва Лібава-Роменскай чыгункі. У

Пецярбург, на старое месца службы, Б. Ялавецкі вяртаецца ў сакавіку 1873 года. Яму даручана кіраваць будаўніцтвам Адміралцейскай набярэжнай. За паспяховае выкананне гэтай працы 26 снежня 1874 года ён атрымлівае асабістую падзяку імператара Аляксандра II, а 13 красавіка 1875 года – чын капітана. Са жніўня 1875 года па снежань 1878 года ў вайсковай службе Б. Ялавецкага зноў перапынак — ён удзельнічае ў будаўніцтве чыгункі Растоў—Уладзікаўказ[5].

30 сакавіка 1885 года Б. Ялавецкі падае на імя імператара прашэнне аб адстаўцы з-за хваробы. К гэтаму часу ён адслужыў 20 гадоў, меў узнагароды – ордэны св. Станіслава III ступені і св. Ганны III ступені, быў жанаты са шляхцянкай Анжалікай Ігнатаўнай з Віткевічаў, меў сына Мечыслава і дачку Ядвігу. Прашэнне было задаволена 16 ліпеня 1885 года[6].

Наступны перыяд жыцця Б. Ялавецкага звязаны з Аляксандраўскім заводам у Пецярбургу. На пасадзе дырэктара ён ператварыў яго ў прадпрыемства, якое не саступала лепшым заводам Еўропы. Менавіта тут быў пабудаваны спецыяльны цягнік для царскай сям'і, канструктарам якога з'яўляўся Баляслаў Ялавецкі.

На той час, калі Ялавецкі вырашыў заснаваць Першае таварыства пад'язных чыгуначых шляхоў у Расіі, яго аўтарытэт інжынера, арганізатара вытворчасці і знаўцы чыгуначнай справы не выклікаў сумненняў. Настольнай кнігай для мноства інжынераў-чыгуначнікаў стала праца ў двух тамах «Вада, паліва і паравозныя катлы», выдадзеная Б. Ялавецкім у Пецярбургу ў 1878—1879 гадах.

Чыгунка стала сапраўднай рэвалюцыяй на транспарце. За гадзіну цягнік праходзіў такі шлях, які гужавы транспарт пераадольваў за суткі. У той жа час перавозка грузаў чыгункай каштавала ў 5 – 25 разоў танней, чым па-старому, на «аўсяным маторы». На Глыбоччыну разам з чыгункай прыйшла індустрыялізацыя. З'явіўся і тэлефон: сучасны сродак сувязі паміж станцыямі новай вузкакалейкі. Насамрэч, яе паравозы цягнулі за сабой не толькі вагоны, але і паслужылі лакаматывам для ўсёй эканомікі краю.

На шматлікіх нарадах ён пераканаўча даказваў карысць вузкакалейных чыгунак: «Я дазваляю сабе звярнуць увагу на адсутнасць у Расіі якіх-кольвечы зНітаваТЫх праязных дарог, на даражнечу пабудовы шасэйных дарог і на поўнае спыненне ў пэўныя перыяды году гужавой возкі як у выніку дажджоў, бязснежжа, так і падчас летніх палявых работ. Пасля гэтага важ-

насць пабудовы рэйкавых прасёлкавых шляхоў, якімі па сутнасці і з'яўляюцца ўсе пад'язныя і другасныя шляхі, паўстае ва ўсёй сваёй велічы. Што можа быць ідэальнейшым, чым уяўленне усёй паверхні Расіі, незалежна ад сеткі магістральных ліній, гэтых шырокіх трактаў, якія вядуць да вялікіх населеных і прамысловых цэнтраў, пакрытай вялікай бесперапыннай сеткай рэйкавых прасёлкавых шляхоў, якія ахопліваюць фабрыкі, заводы, руднікі, усе больш ці менш населеныя пункты, лясныя дачы і інш.?! Шкодна было б гэта для народнай гаспадаркі і дзяржавы ці не? Асмельваюся думаць, што, апроч карысці, нічога іншага ад гэтага быць не можа!.. А гэта ж не сто вёрст і не дзвесце вёрст, але дзесяткі і, можа быць, сотні тысяч вёрст!.. Чаму ж, пытаюся, шкодна, калі нехта жадае пабудаваць 100, 200 ці 300 вёрст так званага пад'язнога ці другаснага пуці? Бо гэта ж той самы рэйкавы прасёлак і прытым надзвычай карысны, бо ён не міне ні бліжэйшага населенага пункту, ні таго месца, дзе прыкладаецца ў той ці іншай форме чалавечая праца, адкуль здабываюцца тыя ці іншыя скарбы, карысныя для жыцця народа і дзяржавы!.. Пытаюся, якую шкоду прыносяць рэйкавыя шляхі 75-сантыметровой каляі Першага таварыства, якія маюць пункты прыпынку ледзь не праз кожныя 8 ці 10 вёрст і цалкам абслугоўваюць тую мясцовасць, па якой пракладзены, якія дастаўляюць у любы час тавары ў захаванасці з хуткасцю, не меншай чым на магістральных лініях, пошту і даюць магчымасць пасажырам у цёплым і зручным вагоне ехаць з хуткасцю да 25 і 30 вёрст у гадзіну?.. Якія падставы забараняць прадпрымальнікам будаваць сваім коштам і на сваю рызыку такія шляхі?..

На шчасце, гэту шкоду бачаць нямногія, бо, не без падставы, пасля 5 год свайго існавання Першае таварыства пад'язных шляхоў у Расіі, дзейнічаючы без усялякай дапамогі ад дзяржаўнага скарбу, мае ўжо ў перыяд пабудовы і эксплуатацыі каля 1 300 вёрст рэйкавых шляхоў 75-сантыметровай каляі, і ў Праўленне Таварыства з усіх бакоў паступаюць заявы аб пашырэнні сеткі гэтых шляхоў і аб збудаванні такіх жа новых у іншых мясцовасцях. Мо таму, што асобы, бліжэй знаёмыя з дзейнасцю Таварыства і з эксплуатацыяй згаданых шляхоў, усведамляюць іх карыснасць і ахвотна ідуць насустрач Таварыству»[7].

Адначасова прыходзілася упарта змагацца і за правы прыватнага бізнесу самому вырашаць свой лёс: «З таго, што мне ўдалося пачуць са справаздачы і са спрэчак, я, прынамсі, бачу, што ўсё пытанне круціцца, галоўным чынам, на тым: будаваць нам шырокакалейныя чыгункі або вузкакалейныя. Мне здаецца,

што гэта пытанне выключна эканамічнае, і калі параўноўваць, напрыклад, для дадзенай мясцовасці паміж двума пунктамі выгады ўжытку той ці іншай каляі, дык тут трэба ўзяць пад увагу цэлы шэраг розных абставін. Кожная дарога паміж двума пунктамі – ёсць функцыя вельмі складаная, якая залежыць і ад меркаванага грузавога руху, і ад тапаграфіі мясцовасці, і ад цэлага шэрагу спосабаў абслугоўвання гэтай мясцовасці. Так што перадвырашаць ці казаць увогуле, што возьмем цалкам аднолькавыя тэхнічныя ўмовы, наўрад ці магчыма, таму што калі будзем мець на ўвазе аднолькавыя тэхнічныя ўмовы, але не возьмем пад увагу іншых элементаў, дык атрымаем высновы не зусім адпаведныя. Калі ўмовы эканамічныя такія, што грузавы рух велізарны, што тэхнічныя ўмовы мясцовасці лёгкія, дык несумненна, усе пагодзяцца, што ў гэтым выпадку належыць будаваць шырокую каляю, калі гэта не б'е па кішэні таго, хто будуе. Але калі моцна б'е па кішэні, дык наўрад ці знойдзецца ахвочы будаваць і чакаць, што, можа быць, праз 15 – 20 гадоў гэта чыгунка будзе прыносіць даход, бо да гэтага часу трэба ж яшчэ дажыць...Таму я думаю, трэба спыніцца на тым поглядзе, што не варта ўвогуле сціскаць прадпрымальнікаў у выбары той ці іншай каляі, бо прадпрымальнік ёсць, галоўным чынам, асоба, якая вырашае. Канешне, калі ўрад або якія-кольвечы таварыствы будуць даваць субсідыі і пажадаюць мець шырокакалейную чыгунку самую моцную, дык няхай яны плацяць за гэта тым ці іншым спосабам. Але калі ўсё гэта мусіць выносіць на сабе прадпрымальнік, у выглядзе таварыства або прыватнай асобы, дык ён сам і мусіць перадусім разважыць — што ж будзе і якія вынікі атрымліваюцца ад гэтага; таму што пры агульных развагах як за мяжой, так і ў нас усе гэтыя спрэчкі з нагоды той ці іншай каляі заўжды канчаліся чымсьці малаакрэсленым, і я думаю, што з гэтай малаакрэсленасці наўрад ці мы выйдзем. Я, прынамсі, буду стаяць за наданне, па магчымасці, больш шырокіх правоў менавіта прадпрымальніку»[8].

Адразу за чыгункай Свянцяны – Беразвеч Першае таварыства пад'язных чыгуначых шляхоў пабудавала і паспяхова эксплуатавала вузкакалейныя чыгункі ў Прыбалтыцы і ва Украіне. У 1913 годзе яму належала 1 149 вёрст чыгуначных шляхоў – амаль палова агульнарасійскай вузкай чыгуначнай каляі. Таварыства з'яўлялася найбуйнейшай чыгуначнай кампаніяй такога кшталту ў Расійскай імперыі, нашмат апераджаючы бліжэйшага канкурэнта – Маскоўскае таварыства пад'язных шляхоў, якое валодала толькі 301 вярстой[9].

Вельмі пераканаўчым сведчаннем таго аўтарытэту, якім карыстаўся Б. Ялавецкі не толькі ў сваёй краіне, але і за мяжой, з'яўляецца сталая прысутнасць яго ў складзе праўлення Руска-Бельгійскага металургічнага таварыства з асноўным капіталам 20 мільёнаў рублёў (ён быў і ў ліку яго заснавальнікаў у 1895 г.). Таварыству належалі Пятроўскі чыгуна-плавільны і жалезаробчы завод, вугальныя шахты ў Екацярынаслаўскай губерні і Данской вобласці[10] . Пры гэтым Б. Ялавецкі заставаўся старшынёй праўлення Першага таварыства пад'язных шляхоў. Яно месцілася ў Санкт-Пецярбургу, на Неўскім праспекце, 11. Таварыства займалася не толькі перавозкай пасажыраў і грузаў, але і будавала на замову пераносныя рэйкавыя шляхі з рухомым саставам, вырабляла вагоны і ваганеткі, гандлявала машынамі і прыладамі для здабычы і прасавання торфу і пераноснымі лесапільнымі заводамі. Перад першай сусветнай вайной маёмасць Таварыства ацэньвалася амаль у 27 мільёнаў рублёў[11] .

Не менш вядома і грамадская дзейнасць Б. Ялавецкага. Як выбарны прадстаўнік ад Свянцянскага павета, ён прымаў удзел у распрацоўцы Палажэння аб земскіх установах у Віленскай, Ковенскай і Гарадзенскай губернях, а ў 1906 годзе быў абраны ад Віленскай губерні дэпутатам Першай Дзяржаўнай думы[12] . У Думе Ялавецкі далучыўся да «Кола тэрытарыяльнага» — фракцыі «краёўцаў». Яго погляды на будучыню Беларуска-Літоўскага краю, выкладзеныя ў «Нацыянальным маніфэсце Літвы» (Вільня, 1905), сведчаць пра глыбокую неабыякавасць да эканамічнага і культурнага развіцця ўсіх нацыянальных, рэлігійных і моўных груп насельніцтва краю, якое бачылася яму адзінай «літоўскай нацыяй» (narodem litewskim).

Пасля пабудовы вузкакалейкі Новасвянцяны – Панявеж (цяпер літоўскі горад Панявежыс) даўжынёй 136 вёрст агульны працяг свянцянскіх пад'язных шляхоў дасягнуў 255 вёрст. Дзейнічала гэта чыгунка вельмі эфектыўна. Як сведчыць статыстыка перавозак за 1913 год, агульны грузаабарот склаў 8 327 тысяч пудоў, у тым ліку 823 тысячы пудоў хлебных грузаў, 175 тысяч пудоў каменнай і пажыўнай солі, 61 тысяча пудоў нафты і газы[13] . Рух быў бесперапынны і амаль без аварый: за год зафіксаваны адзін сыход цягніка з лініі з мінімальнай шкодай у 37 рублёў (пры гэтым ні маёмасць пасажыраў, ні яны самі не пацярпелі) і сем наездаў на буйных жывёл з агульнымі стратамі ў 5 рублёў[14] . На свянцянскіх пад'язных шляхах налічвалася ў той час 525 рабочых і служачых: 347 сталых, 86 часовых і 92 падзённыя. Агульныя выдаткі на іх ўтрыманне склалі 194 682 рублі[15] . Паравозныя брыгады, незалежна ад штатнага заробку і службо-

вай кватэры, атрымлівалі паверстныя і сутачныя даплаты, а таксама прэміі за эканомію паліва.

У 1894 годзе праектавалася чыгуначная лінія ад Лынтупаў да мястэчка Свір (24 вярсты) і далей на Смаргонь, а ў 1899 годзе – ад Лынтупаў на Шэметава, Іжу і да Маладзечна[16]. На пачатку XX стагоддзя на так званай Заходняй сетцы Першага таварыства пад'язных чыгуначых шляхоў у Расіі (Глыбокае-Свянцяны-Панявеж) эксплуатавалася 12 паравозаў, пабудаваных на Каломенскім заводзе. Кожны такі васьміколавы «жалезны конь» важыў 18,4 тоны без паліва і 20,24 тоны ў працоўным стане. Запасу паліва і вады хапала амаль на 120 км шляху. У якасці паліва выкарыстоўваліся дровы. У свянцянскіх майстэрнях адначасова можна было рамантаваць чатыры паравозы[17].

Яшчэ адзін грандыёзны праект быў высунуты ў 1909 годзе. Праўленне Першага таварыства пад'язных чыгуначных шляхоў прасіла ў Міністэрства фінансаў дазволу на будаўніцтва і эксплуатацыю Данецка-Балтыйскай шырокакалейнай чыгункі агульнай даўжынёй 999 вёрст. Яна мусіла ісці ад станцыі Льгоў — канчатковага пункту Паўночна-Данецкай чыгункі, да губернскага горада Магілёва, далей на Паставы і часткова па лініі ўжо існуючай Свянцянскай вузкакалейкі з канчатковым выхадам на Рыгу праз горад Баўску. Пры гэтым праз станцыю Панявеж прадугледжвалася будаўніцтва чыгуначнай галіны на Лібаву. Меркавалася, што агульныя выдаткі на будаўніцтва гэтай чыгункі складуць 65,5 млн. руб., а будаўніцтва запатрабуе ад 3,5 да 5,5 гадоў[18]. Гэты праект так і не быў ажыццёўлены, а вось дарога, пабудаваная больш за сто гадоў таму, і сёння служыць людзям. Шмат змянілася за гэтыя гады: лінію «перашылі» на шырокую каляю, ад Глыбокага працягнулі на Круляўшчызну, на злучэнне з чыгункай Полацк – Маладзечна, ад Варапаева ў 1932 годзе працягнулі адгалінаванне на Друю. Шкада толькі, што пры гэтым фактычна забыта імя таго, каму абавязаны сваім нараджэннем чыгуначны транспарт у гэтых краях.

Хто ведае, можа паспяшаліся з адмовай ад вузкай каляі — «рэйкавых прасёлкавых шляхоў» паводле трапнага выразу Баляслава Ялавецкага? Дарэчы, у гэтых мясцінах яны пачыналіся дзякуючы яго энергіі і таленту, тут жа, і пра гэта мо яшчэ памятаюць мясцовыя старажылы, была закрыта апошняя беларуская вузкакалейка на возера Нарач. А можа калі-небудзь будзе здзейснены і апошні праект інжынера Ялавецкага — чыгуначная магістраль з поўдня на захад, амаль ад мора да мора, часткай якой мусіла стаць і першая дарога Свянцяны – Беразвеч.

*Спасылкі*

[1] *Яловецкий Б.* Объяснительная записка по поводу учреждаемого инженером Б. А. Яловецким Первого Общества подъездных железных путей в России. СПб., 1892. С. 1.

[2] *Верховский В.* Краткий исторический очерк начала и распространения железных дорог в России по 1897 г. включительно. СПб., 1898. С. 547–548.

[3] Там жа.

[4] Там жа. С. 544 – 545.

[5] Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў. Ф. 400, воп. 17, спр. 459, арк. 15 – 15 адв., 17 адв., 20 адв.

[6] Там жа. Арк. 3, 12 адв. – 13.

[7] Записка инженера Б. А. Яловецкого по предмету доклада В. Ф. Вигуры и беседы, состоявшихся 12 марта 1898 года в VIII Отделе Императорского Русского Технического Общества. Спб., 1898. С. 4.

[8] О причинах медленного развития подъездных рельсовых путей // Железнодорожное дело. 1899. № 44. С. 421 – 422.

[9] Россия. 1913 год. Статистико-документальный справочник. СПб., 1995. С. 112.

[10] Акционерно-паевыя предприятия России. М., 1914. С. 369.

[11] Акционерно-паевые предприятия России. С. 307.

[12] Государственная дума первого созыва. Портреты, краткие биографии и характеристики депутатов. М., 1906. С. 9; Первая Государственная дума. Алфавитный список и подробные биографии и характеристики членов Государственной думы. М., 1906. С. 112 — 113; *Боиович М. М.* Члены Государственной думы. М., 1906. С. 21.

[13] Железнодорожный транспорт в 1913 г. (Статистические сведения). М., 1925. С. 112, 116, 117, 120, 127.

[14] Там жа. С. 94, 98.

[15] Там жа. С. 152.

[16] Фабрики и заводы, казенныя лесныя дачи, леса частных владельцев и выдающиеся сельские хозяйства в 50-ти верстном районе. Виленская губерния. Вильна, 1900. С. 91.

[17] Железнодорожное дело. 1907. № 45. С. 509.

[18] Дополнительная пояснительная записка Правления Перваго Общества подъездных путей в России к проекту Донецко-Балтийской железной дороги с уменьшенным заданием. 1910 г. СПб., 1910. С. 1, 4.

*Андрэй Кіштымаў*

# Фёдар СТРАВІНСКІ (1843–1902)



ёдар Іванавіч Стравінскі не гнаўся за славай, не пакінуў мемуараў, даволі сціплай з'яўляецца яго эпісталярная спадчына. Можа таму і ў наш час ён больш вядомы як бацька кампазітара Ігара Стравінскага і як артыст, які прадоўжыў традыцыі Восіпа Афанасьевіча Пятрова і быў папярэднікам Фёдара Іванавіча Шаляпіна.

Пра выканаўчае майстэрства Ф. Стравінскага ў свой час пісалі практычна ўсе газеты і часопісы, якія асвятлялі культурнае жыццё Расійскай імперыі. Аднак і да гэтага часу няма грунтоўнай манаграфічнай працы аб яго жыццёвым і творчым шляху.

Асабліва хочацца адзначыць, што імя Ф. Стравінскага доўгі час было амаль поўнасцю адлучана ад яго каранёў, ад Беларусі і яе культуры. Упершыню звесткі пра Ф. Стравінскага былі змешчаны ў XXXI томе Энцыклапедычнага слоўніка Ф. Бракгаўза і І. Эфрона, выдадзеным у 1901 годзе ў Санкт-Пецярбургу. Там адзначаецца, што «Стравінскі Фёдар Ігнатавіч, вядомы рускі оперны спявак, бас, нарадзіўся ў 1843 г. у Чарнігаўскай губерні»[1]. Ні ў Вялікай Савецкай энцыклапедыі, ні ў савецкай Музычнай энцыклапедыі таксама не гаворыцца, што ён вучыўся ў Мазырскай гімназіі, скончыў яе і тут пачаў свой творчы шлях[2].

Нават такі даволі глыбокі даследчык гісторыі рускага опернага тэатра XIX стагоддзя як А. Газенпуд у артыкуле «Ф. И. Стравинский — человек и художник», які з'яўляецца ўводным да зборніка артыкулаў, перапіскі і ўспамінаў аб ім, піша, што

Ф. Стравінскі — ураджэнец Украіны, і дзяцінства яго прайшло на Украіне, дзе бацька быў упраўляючым маёнткам[3]. А ўнук Фёдара Ігнатавіча, Фёдар Ігаравіч Стравінскі, швейцарскі мастак, адзначае, што яго дзед паходзіў са «старажытнага польскага роду»[4].

У Беларускай энцыклапедыі Ф. Стравінскі – рускі спявак (бас)[5]. Не згадваецца ён у гэтым выданні і сярод артыстаў Марыінскага тэатра ў Санкт-Пецярбургу[6]. Вельмі сціпла сказана пра Ф. Стравінскага і ў Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі[7].

Ужо даўно наспеў час вярнуць гэта імя на Беларусь, зрабіць яго вядомым не толькі спецыялістам, але і шырокім грамадскім колам. Першыя крокі на гэтым шляху ўжо зроблены[8].

Нарадзіўся Фёдар Ігнатавіч Стравінскі 8 (20) чэрвеня 1843 года ў в. Новы Двор Рэчыцкага павета Мінскай губерні. Шляхецкі род Стравінскіх герба Суліма быў вядомы ў Вялікім княстве Літоўскім з пачатку XVI стагоддзя. Радаслоўную той галіны, з якой паходзіў Фёдар Ігнатавіч, даследчыкам удалося прасачыць да сярэдзіны XVI стагоддзя. Сярод яго прадстаўнікоў – паслы на соймы Рэчы Паспалітай і ВКЛ, ваяводы, кашталяны, вайскоўцы, дзяржаўныя служачыя розных рангаў. Некаторыя з іх былі уніятамі, затым усе сталі католікамі. Паступова па многіх прычынах род Стравінскіх прыходзіць у заняпад.

Бацька Ф. Стравінскага, Ігнат Ігнатавіч, меў агранамічную адукацыю, наймаўся кіраваць памешчыцкімі маёнткамі, але асаблівых поспехаў у гэтым не дасягнуў і сям'я жыла небагата. Маці — Аляксандра Іванаўна (да замужжа Скараходава) — займалася дамашняй гаспадаркай, выхоўвала дзяцей, але затым разышлася з мужам і вярнулася да бацькоў.

Спачатку Фёдар Стравінскі атрымлівае дамашнюю адукацыю пад наглядам маці, якая мела добры голас і любіла спяваць. А дзесьці ў сярэдзіне 1850 гадоў (дакладна ўстанавіць пакуль не ўдалося) паступае ў Мазырскае дваранскае вучылішча. У 1859 годзе сям'я пераязджае на Украіну і да 1861 года Стравінскі вучыцца ў Нежынскай гімназіі, а ў 1861 годзе паступае ў Мазырскую гімназію, якую заканчвае ў чэрвені 1865 года. Пэўны адбітак на фарміраванне светапогляду Ф. Стравінскага наклалі падзеі 1863 года, калі ў хваляваннях супраць царскай улады ўдзельнічалі і вучні Мазырскай гімназіі.

Дапытлівы юнак многа чытае, асабліва сваіх любімых пісьменнікаў А. Пушкіна, М. Гогаля, М. Салтыкова-Шчадрына, Ф. Дастаеўскага, І. Тургенева, Л. Талстога, Т. Шаўчэнку,

М. Ляскова. Аднак яго жыццё ўсё больш і больш напаўняюць музыка і спевы. У лістападзе 1864 года вучні Мазырскай гімназіі наладжваюць спектакль на карысць малазабяспечаных сяброў. Фёдар Стравінскі з вялікім поспехам выконвае ролю Міколы Бурмака ва ўкраінскай аперэце «Нябожчык Апанас» Янкоўскага. У снежні гэтага ж года ён выконвае ў гімназічных спектаклях ролі Міколы ў оперы І. Катлярэўскага «Наталка-Палтаўка» і Шпекіна ў камедыі М. Гогаля «Рэвізор», а ў лютым 1865 года — ролю Нерскага ў вадэвілі «Андрэй Сцяпанавіч Бука» П. Грыгор'ева.

Успамінаючы пра гады вучобы Фёдара Стравінскага ў Мазырскай гімназіі, адзін з яго былых настаўнікаў у сваім «Развітальным слове майму вучню новапрадстаўленаму Фёдару Ігнатавічу Стравінскаму», якое было надрукавана ў «Виленском вестнике» ў 1902 годзе (№ 292), адзначаў: «Высокі, стройны і прыгожы юнак гэты вылучаўся сваёй добравыхаванасцю. Вучыўся ён у мяне старанна і адказваў урокі не ў зуброжку, а толкам. Мала таго, ён звяртаўся да мяне з рознымі пытаннямі па літаратуры і ў пазакласны час. Я ахвотна задавальняў яго цікавасць». У вучнёускім хоры «... Стравінскі заняў першае месца і хутка прыцягнуў увагу ўсяго горада»[9].

У чэрвені 1865 года Фёдар Стравінскі заканчвае Мазырскую гімназію і паступае на юрыдычны факультэт Новарасійскага універсітэта, але ў студзені 1866 года пераводзіцца на юрыдычны факультэт Кіеўскага універсітэта. Тут, у Кіеве, у снежні 1866 года і ў лютым наступнага ён удзельнічае ў аматарскіх спектаклях па п'есе М. Астроўскага «Ваявода». У маі 1868 года ўпершыню выступае перад гледачамі ў якасці спевака-саліста, выконвае партыю Гульельма з оперы В. А. Моцарта «Усе яны такія» («Cosi fan tutte»).

Нягледзячы на імкненне зарабіць самому і на дапамогу брата Аляксандра, які к гэтаму часу быў ужо афіцэрам, усё вастрэй адчуваецца недахоп сродкаў. Ён вымушаны быць вельмі ашчадным, улічваць літаральна кожную капейку, што накладзе ў далейшым адбітак на некаторыя рысы яго характару. Ф. Стравінскі пакідае Кіеўскі універсітэт і паступае ў Нежынскі юрыдычны ліцэй, дзе таксама прымае актыўны ўдзел ў студэнцкім і царкоўным хоры, выступае ў аматарскіх спектаклях. У сакавіку 1869 года ён выконвае ў Нежыне арыю Сусаніна ў оперы М. Глінкі «Жыццё за цара», у маі гэтага ж года — арыю Мельніка ў оперы А. Даргамыжскага «Русалка», выконвае і рускія рамансы.

У 1869 годзе ён заканчвае Нежынскі ліцэй і ў ліпені ад'язджае ў Кіеў, а ў кастрычніку ў Пецярбург. Тут Фёдар некаторы час вагаецца, які жыццёвы шлях абраць: паступаць у кансерваторыю або ў Акадэмію мастацтваў. Справа ў тым, што ён меў не толькі талент спевака і акцёра, але і дар мастака, які праявіўся яшчэ ў Мазырскай гімназіі. Аднак перамагае спявак, і ў кастрычніку 1869 года Ф. Стравінскі быў залічаны стыпендыятам у Пецярбургскую кансерваторыю. Першымі яго настаўнікамі тут сталі П. Рэпетто, Э. Віярдо і Г. Ніссен-Саламон. Каб атрымаць сродкі для жыцця, ён паралельна з вучобай служыць у канцылярыі Рускага музычнага таварыства (РМТ), якое было створана ў 1859 годзе ў Пецярбургу па ініцыятыве А. Рубінштэйна. (Яно праіснавала да 1917 г.) Некаторую матэрыяльную дапамогу Ф. Стравінскаму працягвае аказваць і брат Аляксандр.

У верасні 1871 года Стравінскі пераходзіць у клас прафесара К. Эверардзі. Ён выступае на музычных вечарах у кансерваторыі, на канцэртах РМТ. 27 лютага 1873 года на выпускным спектаклі Ф. Стравінскі ўпершыню выступае ў ролі дона Базіліо ў оперы Дж. Расіні «Севільскі цырульнік». У сакавіку на адным з выступленняў у ролі дона Базіліо прысутнічае антрэпрэнёр Кіеўскага опернага тэатра Ф. Бергер, які прапануе яму паступіць у яго трупу, і 15 сакавіка Фёдар Стравінскі падпісвае свой першы кантракт на выкананне партый першага баса ў Кіеўскім оперным тэатры з 15 жніўня 1873 года да вялікага паста 1874 года з акладам 150 рублёў у месяц[10].

7 мая на выпускным вечары класа прафесара К. Эверардзі Фёдар Стравінскі выконвае раманс М. Мусаргскага «Цар Саул», што паклала пачатак цеснай сувязі спевака з творчасцю сучасных яму рускіх кампазітараў. 26 мая 1873 года Фёдар Ігнатавіч атрымлівае атэстат аб заканчэнні Пецярбургскай кансерваторыі і ў жніўні ад'язджае ў Кіеў. 22 жніўня ён ужо выступае на кіеўскай сцэне: выконвае партыю графа Рудольфа ў оперы В. Белліні «Самнамбула», а 11 верасня — партыю Мефістофеля ў оперы Ш. Гуно «Фауст». У далейшым у гэтай оперы, а таксама ў оперы А. Байто «Мефістофель» Ф. Стравінскі выконваў гэту партыю 125 разоў. 24 кастрычніка 1873 года ён упершыню выступае з партыяй Руслана ў оперы М. Глінкі «Руслан і Людміла» (якую выконвае 9 снежня на сваім першым бенефісе).

У зімовым сезоне 1873—1874 гадоў у Кіеве Стравінскі выконвае партыі Руслана, Мефістофеля, Сільвы ў оперы Дж. Вердзі «Эрнані» і дона Базіліо ў «Севільскім цырульніку» Дж. Расіні. Па заканчэнні зімовага сезона ў Кіеве Ф. Бергер заключае з

Ф. Стравінскім кантракт з 1 красавіка па 1 жніўня 1874 года для выступлення ў тэатрах Адэсы і Екацярынаслава (цяпер Днепрапятроўск). Ён ужо набыў вядомасць у кіеўскіх аматараў музыкі і Бергер прапануе яму 250 рублёў у месяц.

У пачатку красавіка операй «Фауст» Ш. Гуно адкрыўся тэатральны сезон у Адэскім тэатры. У оперы «Руслан і Людміла» Ф. Стравінскі выконвае партыю Мефістофеля, а 30 красавіка ўпершыню партыю Фарлафа, якую затым выконваў 132 разы і якая прынесла яму шырокую вядомасць. У Адэскім тэатры ён упершыню выконвае партыю лорда Кокбурна (Мілорда) у оперы Дж. Абера «Фра-Д'ябло» і партыю французскага арыстакрата XVI стагоддзя графа Сен-Бры ў оперы Дж. Майербера «Гугеноты», якая затым таксама ўваходзіць у яго пастаянны рэпертуар (Фёдар Стравінскі выконваў яе 90 разоў). Таленавітага спевака цёпла прымаюць гледачы, добрыя рэцэнзіі даюць тэатральныя і музычныя крытыкі.

Поспеху Ф. Стравінскага як артыста ў гэты час спрыяюць не толькі талент, выдатныя якасці спевака, удумлівая праца над кожнай партыяй, але і вялілі эмацыянальны ўздым. Усё мацней разгараецца яго каханне да Ганны Кірылаўны Халадоўскай (1854—1939). Бацька яе ўжо памёр, а маці не згаджаецца на шлюб дачкі з артыстам. Свае прасякнутыя вялікім пачуццём пісьмы ён вымушаны дасылаць на імя Варвары Мікалаеўны Халадоўскай, цёткі нявесты, якая падтрымлівае закаханых. Ганна праяўляе настойлівасць, маці дае згоду, і 24 мая 1874 года ў Кіеве адбываецца вяселле Фёдара Стравінскага і Ганны Халадоўскай. Літаральна праз тыдзень ён вяртаецца ў Адэсу, дзе выконвае партыі Сен-Бры, Фарлафа, Руслана, Мілорда.

Пасля заканчэння адэскага сезона Ф. Бергер заключае з Ф. Стравінскім кантракт з 15 жніўня 1874 года да вялікага паста 1875 года для выступленняў на елізаветградскай і харкаўскай сцэнах з аплатай 250 рублёў у месяц да 1 кастрычніка, і 300 рублёў з 1 кастрычніка. У Елізаветградзе (цяпер Крамянчуг) Стравінскі ўпершыню выконвае партыю Мельніка ў оперы М. Даргамыжскага «Русалка».

«Дарагая мая чараўніца, неацэнны мой скарб, Нютачка, мілая мая», — з такімі словамі звяртаецца Фёдар Ігнатавіч да любімай жонкі у пісьмах, дзе піша пра справы ў тэатральным жыцці і свае поспехі, планы на будучае, імкненне як мага хутчэй сустрэцца з ёю.

Пасля заканчэння выступленняў у Елізаветградзе Стравінскі вяртаецца ў Кіеў. Летам 1874 года Ф. Бергер уступіў

антрэпрызу ў Кіеве І. Сетаву, які прыцягнуў у трупу новых артыстаў, а да стварэння дэкарацый таленавітых мастакоў. 10 кастрычніка 1874 года быў заключаны новы кантракт на яшчэ лепшых для Ф. Стравінскага ўмовах. Ён выконвае як ранейшыя, так і новыя партыі. З поспехам прайшла першая ў кіеўскім тэатры пастаноўка оперы П. Чайкоўскага «Апрычнік», дзе Стравінскі ўпершыню выконваў партыю князя Вяземскага. Пётр Ільіч, успамінаючы кіеўскі спектакль, адзначаў, што хаця ў гэты час малады артыст яшчэ не можа быць пастаўлены ў адзін рад з такімі майстрамі сцэны, як І. Мельнікаў, аднак цудоўны голас і майстэрства ігры «вылучылі не асабліва багатую і ўдзячную ролю Вяземскага на першы план»[11].

Увесь 1875 год і да сакавіка 1876 Стравінскі працуе ў Кіеве. Тут ён упершыню выконвае партыі Каспара ў оперы К. Вебера «Вольны стралок» ("Freischutz", на расійскай сцэне ішла пад назвай «Чарадзейны стралок»), Марселя ў «Гугенотах» Дж. Майербера, Спарафучыле ў оперы Дж. Вердзі «Рыгалета». Нязменным поспехам карыстаецца яго выкананне партыі Мефістофеля, балад і рамансаў з твораў М. Глінкі, А. Даргамыжскага, Дж. Расіні і іншых кампазітараў.

Можна толькі ўявіць, з якім натхненнем выконваў артыст партыю Сен-Бры ў оперы «Гугеноты» 1 кастрычніка 1875 года, бо менавіта ў гэты дзень у Фёдара і Ганны Стравінскіх нарадзіўся першынец — сын Раман.

У студзені 1876 года Стравінскі ўпершыню выконвае партыю Кардынала ў оперы Ж. Галеві «Жыдоўка» (на савецкай сцэне вядома пад назвай «Дачка кардынала»), а 11 сакавіка — партыю Сусаніна ў оперы М. Глінкі «Жыццё за цара». 28 сакавіка спектаклем «Фауст» закрыўся зімовы сезон у кіеўскай оперы. Поспех Фёдара Стравінскага быў такім вялікім, што дырэкцыі тэатра прыйшлося звярнуцца да гарадскіх улад з просьбай забяспечыць парадак падчас раз'езду артыстаў і гледачоў з тэатра, а паліцыя нават завяла «Дело о чрезмерных выражениях одобрения публики артисту Стравинскому»[12].

За 3 гады выступленняў на сцэнах Кіева, Адэсы і Елізаветграда Ф. Стравінскі прыняў удзел у 187 спектаклях[13]. Выдатная памяць, назіральнасць, удумлівасць ужо падчас жыцця з бацькамі, а затым у правінцыяльных Мазыры і Нежыне дапамагалі назапашваць веды з жыцця беларускага і ўкраінскага памеснага дваранства, сялян, рускіх і мясцовых чыноўнікаў, што затым дало магчымасць ствараць яркія і запамінальныя вобразы на тэатральнай сцэне.

У красавіку 1876 года Фёдар Ігнатавіч Стравінскі перараязджае ў Пецярбург, і тут 18 красавіка выступае з дэбютам у партыі Мефістофеля ў оперы Ш. Гуно «Фауст», а 23 красавіка — у партыі Фарлафа ў оперы «Руслан і Людміла». Тут пачынаецца яго праца ў Марыінскім імператарскім тэатры, з якім будзе звязана ўсё далейшае жыццё. Фёдар Ігнатавіч прыйшоў у гэты тэатр, калі па ўсёй Расійскай імперыі і далёка за яе межамі грымела тэатральная слава Восіпа Афанасьевіча Пятрова. Літаральна праз некалькі дзён пасля першага дэбюту Ф. Стравінскага, 21 красавіка, адзначалася 50-годдзе опернай дзейнасці В. Пятрова. Удзячная публіка сама правезла карэту гэтага вялікага артыста ад тэатра да яго дома.

Ф. Стравінскі добра разумее, што каб стань прадаўжальнікам тэатральных традыцый такога майстра, трэба прыкласці вялікія намаганні. Ён настойліва працуе над паглыбленнем вобразаў Фарлафа, Мефістофеля, 26 верасня 1876 года ўпершыню выступае ў партыі Вандроўніка ў оперы А. Сярова «Рагнеда», першага музычнага твора, прысвечанага непакорнай полацкай князёўне. Вандроўнік у яго выкананні – гэта мудры чалавек, які шмат пабачыў на сваім вяку, захоўвае даўнія сказанні і запаветы сваёй зямлі.

20 кастрычніка Ф. Стравінскі ўпершыню выконвае партыю Рангоні ў оперы М. Мусаргскага «Барыс Гадуноў», а 24 лістапада на прэм'еры оперы П. Чайкоўскага «Каваль Вакула» выступае ў партыі Святлейшага (князя Г. Пацёмкіна. – В. К.). Затым у снежні 1876 — красавіку 1877 гадоў ён выконвае партыі графа Цюрынскага ў оперы Р. Вагнера «Тангейзер», Камандора («Каменны госць» М. Даргамыжскага), Вааза («Макавеі» А. Рубінштэйна), Рамфіса («Аіда» Дж. Вердзі).

Калі спачатку пецярбургская тэатральная крытыка ўспрыняла правінцыяльнага акцёра з пэўнай насцярожанасцю і нават скептыцызмам, то ўжо праз год яе погляды мяняюцца. «Стравінскі вельмі вясёлы і сімпатычны Фарлаф і прытым Фарлаф, адораны голасам, ад чаго мы на працягу многіх гадоў зусім паспелі адвыкнуць», — гэта толькі адзін з шматлікіх хвалебных водгукаў у яго адрас[14]. Ф. Стравінскі не абмежаваўся тым, што ярка перадаў камічныя рысы персанажа. Артыст стварыў жывую фігуру абжоры, выпівохі, самазадаволенага бахвала, нахабніка і баязліўца, які разыгрывае з сябе героя і разам з тым зайздросціць і ненавідзіць Руслана, імкнецца прысвоіць сабе чужы подзвіг, дабіцца кахання Людмілы.

Працуе артыст натхнёна і плённа. Ад адкрыцця тэатраль-



12. Зак.2059

нага сезона 1877—1878 гадоў (верасень) да заканчэння сезона 1881—1882 гадоў (красавік) ён упершыню выконвае партыі Свата («Русалка» А. Даргамыжскага), Фальстафа («Віндзорскія кумкі» О. Нікалаі), Факеце («Цень ваяводы» Л. Гросмана), Кузьмы Мініна («Ніжагародцы» Э. Напраўніка), Чын Као («Бронзавы конь» Дж. Абера), Генрыха Птушкалова («Лоэнгрын» Р. Вагнера), Варлаама («Барыс Гадуноў» А. Мусаргскага), Калонны («Рыенцы» Р. Вагнера), Яромкі («Варожая сіла» А. Сярова), Галавы («Майская ноч» М. Рымскага-Корсакава), Іаана Грознага («Купец Калашнікаў» А. Рубінштэйна), Тараса Бульбы («Тарас Бульба» В. Кюнера), графа Дзюнуа («Арлеанская дзева» П. Чайкоўскага), Дзеда Мароза («Снягурачка» М. Рымскага-Корсакава)[15].

Расце і дабрабыт сям'і. Падпісаны 1 мая 1877 года кантракт на 2 гады з дырэкцыяй імператарскіх тэатраў прадугледжвае павышэнне аплаты з 3 500 да 4 000 рублёў у год. Наступны кантракт, падпісаны ў жніўні 1879 года на 3 сезоны, прадугледжваў аплату ўжо 6 000 рублёў у год.

Не мінае сям'ю Стравінскіх і асабістае шчасце. 28 лістапада 1878 года нараджаецца другі сын Юрый, а 5 чэрвеня 1882 года — сын Ігар.

Фёдар Ігнатавіч Стравінскі ўжо шырока вядомы спявак. Ён можа дазволіць сабе здымаць добрыя кватэры, падарожнічаць. Летам 1880 года ён наведаў Мінск, дзе пазнаёміўся з архітэктурнымі помнікамі.

Аднак, займаючы першае месца ў трупе, ён не патрабуе асобых умоў, выконвае многія партыі другога і нават трэцяга плана. І кожная яго сцэнічная работа — сапраўднае адкрыццё. Як адзначаюць крытыкі, голас Стравінскага (basso cantante) — гучны, вялікага дыяпазону — не вылучаўся прыгажосцю тэмбра, быў некалькі сухаватым, але дзякуючы добрай вакальнай школе і настойлівай працы набыў роўнасць і паўнату гучання ва ўсіх рэгістрах, лёгкасць і выразнасць.

Да адной з вялікіх творчых удач артыста ў гэты перыяд адносіцца выкананне ім партыі Яромкі ў оперы «Варожая сіла». «Я не ведаю больш выдатнай ролі ў разнародным рэпертуары таленавітага артыста, які здолеў вылучыць усе яе характарныя асаблівасці, пачынаючы з грыміроўкі, прыёмаў, мімікі, жэстыкуляцыі і заканчваючы ўнутраным святлом грубай натуры вылюдка. Нідзе няма слядоў шаржу, жадання парысавацца ці насмяшыць, але бачны сляды добрасумленнай працы з боку ўдумлівага артыста, бачны самабытны талент... Ён меў вялікі по-

спех», — адзначалася ў рэцэнзіі, змешчанай у «Петербургском листке» № 220 за 1979 год.[16]

Ацэньваючы выкананне Ф. Стравінскім партыі Іаана Грознага на прэм'еры оперы А. Рубінштэйна «Купец Калашнікаў» 22 лютага 1880 года, рэцэнзент газеты «Голос» адзначаў: «Роля гэта была вытрымана з пачатку да канца і робіць найвялікшы гонар добрасумленнасці і таленту сп. Стравінскага, які з кожным сезонам заваёўвае ўсё большую і большую павагу і любоў публікі»[17].

Трэба адзначыць, што заваяваць любоў і павагу наведвальнікаў Марыінскага тэатра было няпроста. Адначасова з Фёдарам Стравінскім на гэтай сцэне выступалі такія таленавітыя артысты, як Міхаіл Каракін, Іван Мельнікаў, Фёдар Камісаржэўскі, Барыс Корсаў і многія іншыя. Але было і нямала пасрэдных артыстаў. Як і ў многіх творчых калектывах, былі свае групоўкі, імкненне атрымаць першыя ролі любой цаной. Інтрыгі пляліся і вакол Фёдара Стравінскага. Былі паклёпы, нагаворы і многае іншае, аб чым неаднаразова пісаў у сваіх артыкулах вядомы крытык і тэатразнаўца Уладзімір Васільевіч Стасаў, які быў вялікім прыхільнікам таленту Фёдара Стравінскага, яго абаронцам і ў той жа час патрабавальным крытыкам[18].

У 1881 годзе дырэктарам імператарскіх тэатраў стаў І. Всеволжскі, чалавек адукаваны, але з вельмі супярэчлівым характарам. Актыўна ўключыўшыся ў тэатральныя інтрыгі, ён 17 ліпеня 1882 года накіроўвае міністру двара графу І. Варанцову-Дашкову тэлеграму, у якой паведамляе, што Стравінскі поўнасцю страціў голас і неабходна даць яму адстаўку. Аднак захады паплечнікаў поспеху не мелі. І. Варанцоў-Дашкоў наклаў на тэлеграме І. Всеволжскага рэзалюцыю «Заключыць умовы на тры гады па 8 000 рублёў», бо той у гэты час шукаў шляхі, каб дагадзіць ужо славутаму артысту. Ф. Стравінскі даведаўся аб гэтым толькі праз 15 гадоў. Ён назваў І. Всеволжскага «мярзотнай і дзесяціаблічнай фігурай».

Фёдар Стравінскі пачынае новы тэатральны сезон на творчым уздыме. 8 кастрычніка 1882 года ён упершыню выконвае ў адным спектаклі партыі Варлаама і Рангоні ў оперы М. Мусаргскага «Барыс Гадуноў», 13 кастрычніка ролю дона Бартэла ў оперы Дж. Расіні «Севільскі цырульнік», а 4 лютага 1883 года партыю Казанбека ў оперы Ц. Кюі «Каўказскі палонны».

11 верасня 1883 года ў вузкім коле сваіх бліжэйшых родзічаў і сяброў Фёдар Ігнатавіч адзначыў 10-годдзе сваёй сцэнічнай дзейнасці. У гэты дзень ён з вялікім поспехам выканаў

партыю Яромкі з оперы «Варожая сіла». «Дарагая мая, неацэнны мой скарб, харошая, чароўная Нюнечка, — піша Ф. Стравінскі ў пісьме да жонкі. — Ад усяго шчырага і бязмерна любячага сэрца дзякую табе за віншаванне з днём маёй 10-гадовай працоўнай і чэснай сцэнічнай дзейнасці, дзякую за добрыя пажаданні... «Варожая сіла» прайшла бліскуча — выклікам (і разам, і сола) не было канца... Хто ведаў аб 10-годдзі, таксама павіншавалі, але ведалі вельмі нямногія, цікава тое, што не ведалі вельмі блізкія і ведалі тыя, на каго нельга было падумаць»[19].

30 ліпеня 1884 года у Стравінскіх нараджаецца чацвёрты сын, якога назвалі Гурый. Усіх дзяцей, пачынаючы з кастрычніка 1881 года, Ганне Кірылаўне дапамагала выхоўваць бонна Берта Самойлаўна Эссерт. Блізкім сябрам сям'і быў і Аляксей Мікалаевіч Душынкін. Ваенны доктар, ён умеў добра ладзіць з гарэзлівымі хлопчыкамі. Летам сям'я часта адпачывала ў маёнтку Пячыскі, каля Праскурава Камянецка-Падольскай губерні, які належаў іх родзічам Елачычам – Аляксандру Францавічу і Соф'і Кірылаўне (сястры Ганны Кірылаўны).

З нязменным і вялізарным поспехам выступае Ф. Стравінскі на сцэне Марыінскага тэатра і ў наступныя гады. Тут ён упершыню выконвае партыі Орліка («Мазепа» П. Чайкоўскага), Цунігі («Кармен» Ж. Бізэ), Югурты («Помста» М. Салаўёва), Вільгельма Заваёўніка («Гарольд» Э. Напраўніка), Начальніка польскага атрада («Жыццё за цара» М. Глінкі), Мамырава («Чарадзейка» П. Чайкоўскага), Лепарэлы («Жуан-дэ-Тэінорыо» Фіцінгофа-Шэля), Геслера («Вільгельм Тэль» Дж. Расіні), Алаферна («Юдзіф» А. Сярова), баярына Полцава («Гаруша» А. Рубінштэйна), адмірала дона Дыега («Афрыканка» Дж. Майербера), Скулы («Князь Ігар» А. Барадзіна), Капулецці («Рамео і Джульета» Ш. Гуно), Іаана Грознага («Князь Сярэбраны» Г. Казачэнкі), Мсціслава («Млада» М. Рымскага-Корсакава), Пістоля («Фальстаф» Дж. Вердзі), Жыля Перэса («Чорнае даміно» Дж. Абера), Андрэя Дуброўскага («Дуброўскі» Э. Напраўніка), Агамемнана («Арыстэя» С. Танеева), Панаса («Ноч перад Ражаством» М. Рымскага-Корсакава), Суддзі («Вертэр» Ж. Маснэ), Раймонда («Сарацын» Ц. Кюі), Дуды («Садко» М. Рымскага-Корсакава).

І кожную з гэтых ролей і гледачы, і крытыка сустракаюць як важную падзею ў тэатральным жыцці Пецярбурга. Ф. Стравінскі ўражваў іх надзвычайнай align разнабаковасцю і шматграннасцю свайго таленту. Яму аднолькава даступнымі былі ролі трагічныя, камедыйныя, характарныя, персанажы розных

узростаў, сацыяльнага становішча, розных гістарычных эпох. Яго Сен-Бры ў «Гугенотах», дзяк Мамыраў у «Чарадзейцы», Орлік у «Мазепе» увасаблялі вобразы зла, дапамагалі глыбей зразумець аблічча і ўнутраны свет тыранаў, забойцаў, катаў, а таксама тую эпоху і тыя абставіны, якія нараджаюць такіх людзей.

Адным з вышэйшых творчых дасягненняў Ф. Стравінскага быў вобраз асірыйскага сатрапа Алаферна ў оперы «Юдзіф» А. Сярова. Першы раз гэту партыю Ф. Стравінскі выконваў 5 чэрвеня 1889 года, калі пастаноўка оперы была зноў аднаўлена на сцэне Марыінскага тэатра. Вобраз, што стварыў да яго артыст Б. Корсаў, сваёй рамантычнай, меладраматычнай трактоўкай праз каханне Алаферна да Юдзіфі фактычна апраўдваў тырана і ката, змягчаў яго жорсткасць, вылучаў на першы план станоўчыя рысы, сілу і ўзвышанасць пачуццяў, што ў сваю чаргу пераўтварала Юдзіф у здрадніцу і забойцу. Ф. Стравінскі стварыў вобраз не закаханага героя-воіна, а суровы, грозны, магутны вобраз тырана, прасякнуты сілай гістарызму і псіхалагічнай праўды.

Стравінскі ўмеў зрабіць яркімі і значнымі нават самыя невялікія, эпізадычныя ролі. Так, 23 кастрычніка 1890 года на прэм'еры ў Марыінскім тэатры оперы А. Барадзіна «Князь Ігар» ён выконваў партыю Скулы. Гэту оперу пасля смерці Барадзіна заканчвалі М. Рымскі-Корсакаў і І. Глазуноў. Яны прымалі актыўны ўдзел і ў яе пастаноўцы. У. Стасаў адзначаў: «Ён (Стравінскі. – В. К.) перадаў Скулу, прытворшчыка, здрадніка, п'яніцу, з такой выключнасцю, дасканаласцю, праўдай і глыбынёй, якой ад яго чакаў сам Барадзін. У яго Скула выйшаў па выкананню першай роляй оперы»[20].

З рэдкай выразнасцю перадаў Стравінскі эпізадычны вобраз анабаптыста Захарыя ў оперы Дж. Майербера «Прарок». У яго ўвасабленні Захарый — спалучэнне затоенай хітрасці, жыццёвай хваткі і разам з тым рэлігійнай абмежаванасці.

21 лістапада 1897 года на сцэне Марыінскага тэатра ішла опера Д. Абера «Фра-Д'ябла». У ёй удзельнічалі многія выдатныя спевакі. Аднак выканаўца невялікай ролі разбойніка Джакомо меў такі поспех у гледачоў, што астатнія артысты палічылі залішнім выйсці на выклікі гледачоў, на авансцэне быў адзін Ф. Стравінскі.

За сваю сцэнічную кар'еру яму неаднаразова даводзілася выступаць у творах слабых, якія хутка сыходзілі са сцэны. Аднак і тут Стравінскі ствараў вобразы, якія ўражвалі гледача сваёй сілай і праўдзівасцю. Адным з іх з'яўляўся вобраз жорсткага

фанатыка Югурты ў «Помсце» («Кардэлія») М. Салаўёва, які ўражваў гледачоў сваім гістарызмам і праўдай.

Ф. Стравінскі вядомы як выдатны оперны спявак, разам з тым ён быў і выдатным камерным выканаўцам. У яго рэпертуар уваходзілі песні і рамансы М. Глінкі, А. Даргамыжскага, А. Барадзіна, М. Рымскага-Корсакава, П. Чайкоўскага, Ф. Шуберта, Ф. Шумана і многіх іншых кампазітараў.

Ф. Стравінскі быў адным з самых адукаваных людзей свайго часу. Ён сабраў вялікую калекцыю партрэтаў, гравюр, акварэляў. Таленавіты мастак, сам рабіў замалёўкі оперных персанажаў і людзей, з якімі сустракаўся. Захаваліся зробленыя ім аўтапартрэты, партрэтныя замалёўкі жонкі, а таксама Г. Канапацьева — галоўнага рэжысёра Марыінскага тэатра, Г. Всеволжскага, замалёўка магілы Тараса Шаўчэнкі над Дняпром паблізу г. Канева, якая была зроблена з натуры 26 чэрвеня 1890 года з палубы парахода «Аляксандр». Унучка Фёдара Ігнатавіча Ксенія Юр'еўна Стравінская ў свой час перадала ў падарунак Ленінградскаму дзяржаўнаму тэатральнаму музею альбом, у якім сабраны 161 малюнак, і 22 малюнкі на асобных лістах. (Больш за 20 малюнкаў пакінула ў сябе.) Дар мастака дапамагаў Фёдару Ігнатавічу Стравінскаму глыбока асэнсаваць унутраны вобраз героя і праўдзіва паказаць яго ў сцэнічным увасабленні.

Так, ужо ў 1876 годзе склаўся тып Сен-Бры ў выкананні Ф. Стравінскага. Тады ж узнік і першы аўтапартрэт ў ролі графа. Праз 13 гадоў Стравінскі зноў занатоўвае гэты вобраз, дапаўняе яго ў 1892 годзе. Ярка адлюстроўваюцца характарныя рысы французскага арыстакрата XVI стагоддзя. Халодны, бледны, выцягнуты твар, закручаныя ўверх калючыя вусы, касцюм са зборчатым белым каўнерам. Насупленыя бровы, калючыя насцяроржаныя вочы, зламаная лінія рота раскрываюць падазронасць і жорсткасць вяльможы, які хавае фанатызм свайго трывожнага часу, поўнага рэлігійных раздораў, за бранёй высакамернасці радавітага арыстакрата. У Марыінскім тэатры Фёдар Стравінскі занатаваў сябе ў ролі Фарлафа. Меднатвары крыкун з рыжымі валасамі і пышнымі вусамі. Ён па-баявому адзеты, на ім шлем, аднак адчуваецца, што Фарлаф «воін сціплы сярод мячоў». Абвіслыя раздутыя шчокі, малюсенькія неспакойныя вочкі, тлусты мясісты падбародак паказваюць, што гэтага віцязя нельга перамагчы на пірах. За такім абліччам хаваецца баязлівая душа чалавека, які перш за ўсё любіць паесці. Такое ўвасабленне гэтага вобраза тлумачыць пастаянны поспех артыста.

Чатыры аўтапартрэтныя замалёўкі прысвяціў Ф. Стравінскі

вобразу Алаферна. Першы быў зроблены 3 чэрвеня 1889 года. У чэрвені, ліпені, кастрычніку (за 10 дзён да прэм'еры) ён зноў намаляваў сябе ў гэтай ролі. Летам 1892 года Фёдар Стравінскі вяртаецца да вобраза Алаферна, дэталёва прапрацоўвае адзін з малюнкаў. У выніку быў створаны цыкл малюнкаў, якія дапаўняюць адзін другі і ствараюць featureразнабаковую характарыстыку гэтага вобраза. Асноўная сутнасць яго была ўвасоблена талентам Ф. Стравінскага на сцэне: Алаферн — неўтаймаваны тыран і славалюбец, які змятае ўсіх і ўсё для задавальнення сваіх жаданняў.

Такімі ж выразнымі, па-мастацку таленавітымі з'яўляюцца адлюстраванні Стравінскім вобразаў Мефістофеля, дона Бартэла, Мельніка, Тангейзера, дзячка Восіпа, Вандроўніка, Мамырава, Мазепы, Іаана Грознага, купца Калашнікава і многіх іншых. Ён намаляваў сябе амаль ва ўсіх ролях, якія выконваў на сцэне Марыінскага тэатра. Па замалёўках Ф. Стравінскага можна прасачыць не толькі амаль увесь яго творчы шлях, але і адчуць подых гістарычнай эпохі, у якой жывуць яго персанажы.

Летам 1892 года Стравінскія ўпершыню выязджаюць за граніцу ў Вену, Прагу, Дрэздэн, Берлін. Фёдар Ігнатавіч імкнуўся пабываць у тых месцах, дзе жылі і дзейнічалі героі опер: Луўр, старажытныя гарады Германіі.

Падчас паездкі ў Швейцарыю ў 1893 годзе Стравінскі, які вельмі любіў оперу Дж. Расіні «Вільгельм Тэль», наведаў Рутлі, дзе прадстаўнікі 4 кантонаў у 1307 годзе прынеслі клятву аб барацьбе супраць габсбургскіх заваёўнікаў. Гэта, па словах самога артыста, дапамагло яму стварыць яркі і праўдзівы вобраз Геслера, аднаго з персанажаў оперы. Сярод партрэтных замалёвак, зробленых Ф. Стравінскім падчас падарожжа, ёсць мужчына ў тырольскай шляпе з жорсткім выразам твару і подпісам «Геслер». Такім бачыў яго вобраз Ф. Стравінскі.

У вывучэнні эпохі і мастацкім увасабленні персанажаў опер на гістарычныя тэмы Ф. Стравінскі важнае месца адводзіў кнігам, якія палюбіў яшчэ ў юнацтве. Пасля пераезду ў Пецярбург Фёдар Ігнатавіч пачынае ствараць сістэматычную бібліятэку. Сам ён лічыў пачаткам свайго збіральніцтва 1883 год. У лістападзе 1884 года ў Пецярбургу ў кніжнай краме Вольфа ён сустрэўся з вядомым рускім бібліяфілам, гісторыкам рускай літаратуры Пятром Аляксандравічам Яфрэмавым (1830—1907) і пачаў наведваць яго бібліяфільскія сходы, якія праводзіліся кожны чацвер. Завязаліся цесныя сяброўскія адносіны. Ф. Стравінскі быў не проста бібліяфілам, а глыбокім даследчыкам.

Аснову яго кнігазбору складалі творы па гісторыі, гісторыі тэатра, музыкі і літаратуры, выяўленчага мастацтва, філасофіі, палітычнай эканоміі, па пытаннях права, даведачныя выданні, энцыклапедыі, каталогі, слоўнікі і іншыя выданні як на рускай, так і на замежных мовах.

Для Фёдара Ігнатавіча Стравінскага кнігі былі яго рабочым інструментам. У 1898 годзе ў размове з рэдактарам «Вестника театров и музыки» А. Капцяевым ён адзначыў: «Я перачытваю ў сябе дома, не наведваючы Публічнай бібліятэкі, усе тыя гістарычныя кнігі, якія дапамагаюць мне ўсвядоміць асобу, якую я адлюстроўваю, калі яна належыць гісторыі, калі ж яна міфічная, то вывучэнне маё накіроўваецца ў бок абстаноўкі і асяроддзя. І толькі тады, калі ў маім уяўленні канчаткова паўстане вобраз героя, я прыступаю да вывучэння вакальнага боку партытуры»[21].

У артыкуле, прысвечаным Фёдару Ігнатавічу Стравінскаму ў XXXI томе Энцыклапедычнага слоўніка Брокгауза і Эфрона, адзначаецца, што «унікаючы ва ўнутраны сэнс кожнай ролі С(травінскі) вывучаў літаратуру, якая мае адносіны да яе, і гэта спарадзіла ў ім схільнасць да збіральніцтва гістарычных кніг і гравюр. Бібліятэка С(травінскага) ўяўляе з сябе шырокую калекцыю рэдкіх экземпляраў»[22]. Колькі-небудзь поўнага апісання унікальнай бібліятэкі Ф. Стравінскага не існуе, а сам збор кніг, гравюр і нот пасля яго смерці быў часткова прададзены, а часткова проста раскрадзены.

Ф. Стравінскаму было ўласціва глыбокае пачуццё патрыятызму, хаця ў сваёй перапісцы з роднымі і сябрамі ён неаднаразова адзначае ўсё тое адмоўнае, што было характэрна для царскай Расіі, грамадскага і артыстычнага асяроддзя таго часу . Аднак ён ніколі не займаўся палітыкай у прамым яе сэнсе. Яго палітыкай была культурная дзейнасць. Ф. Стравінскі ганарыцца тымі здабыткамі, якія мае Расія. 27 чэрвеня (6 ліпеня) 1894 года ён піша Э. Напраўніку з Гамбурга: «Вы зразумееце мяне, дарагі мой настаўнік, якая асалода і радасць чуць знаёмыя гукі на чужбіне, далёка ад усяго роднага... Выкананне Вашых твораў было прыемным і пахвальным сюрпрызам для людзей сапраўды рускіх, тут жывучых (я не кажу аб розных Галіцыных, Трубяцкіх і futtu quanti (ім падобных. — **В. К.**), якіх я ніколі не лічыў рускімі, гэтыя паны баяцца размаўляць на роднай мове, каб не быць прылічанымі да нацыянальнасці, ад якой яны адкручваюцца ўсё жыццё... Публіка прыняла абедзве рэчы (творы Э. Напраўніка — **В. К.**) (асабліва Fandango) апладысментамі, а таксама «Камарынскую», якая выконвалася вечарам»[23].

Адной з рыс яго характару, якая сфарміравалася пад уплывам таго, што ён рос у небагатай сям'і і сам «выбіваўся ў людзі», была акуратнасць і беражлівасць у адносінах да грошай і рэчаў. Захаваліся вялікія «Расходныя кнігі», дзе Фёдар Ігнатавіч Стравінскі вельмі падрабязна запісваў свае прыбыткі і затраты, а таксама найбольш важныя падзеі ў сям'і. Яны дапамагаюць зразумець круг яго інтарэсаў, якія канцэрты, спектаклі, музеі, выстаўкі, карцінныя галерэі ён наведваў, якія кнігі, гравюры, іншыя рэчы купляў, з кім сустракаўся, чые дні нараджэння ці юбілеі адзначаў падарункамі, каму і якімі грашовымі сумамі дапамагаў[24]. «Расходныя кнігі» былі перададзены К. Стравінскай Публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Пецярбургу (цяпер Расійская нацыянальная бібліятэка).

Але Ф. Стравінскі не быў сквапным да грошай. Пра гэта яскрава сведчыць тое, што акрамя сваёй асноўнай работы артыста Марыінскага тэатра ён звыш 500 разоў выступаў у канцэртах, якія амаль усе былі бясплатныя. На іх прысутнічала ў асноўным студэнцкая моладзь і дэмакратычная інтэлігенцыя, якой не па кішэні былі білеты ў Марыінку. Ф. Стравінскі прымаў актыўны ўдзел у канцэртах, якія арганізоўваліся на карысць студэнтаў Медыка-хірургічнай акадэміі. Падчас іх склаліся добрыя адносіны з А. Барадзіным. Стравінскі бескарысна прымаў удзел у дабрачынных канцэртах на карысць бедных слухачак Вышэйшых жаночых педагагічных курсаў у Петраградзе, вучаніц Каломенскай жаночай гімназіі. Часта выступаў у Бясплатнай музычнай школе, у тым ліку ў святочным канцэрце з нагоды яе 25-годдзя, якое адзначалася ў сакавіку 1887 года.

Захавалася нямала запісаў аб яго дапамозе бедным артыстам, жабракам. Ф. Стравінскі прымае актыўны ўдзел у стварэнні музея Міхаіла Іванавіча Глінкі пры Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі, матэрыялы для якога збірала сястра кампазітара Людміла Іванаўна Шастакова-Глінка. Ён перадае для музея клавір (клавіраусцуг) оперы «Жыццё за цара», які быў выдадзены ў Мілане з італьянскім тэкстам, і клавір гэтай оперы, выдадзены ў Парыжы на французскай мове.

Здавалася, усё ідзе добра, аднак у другой палове 1890 гадоў становішча Ф. Стравінскага ў тэатры ўскладняецца. 20 жніўня 1896 года заканчваецца чарговы кантракт, і дырэкцыя імператарскіх тэатраў яго не працягвае, а падпісваецца загад, згодна з якім Ф. Стравінскі застаецца на службе на працягу 5 гадоў з гаранты ій 35 спектакляў у сезон у першыя 3 гады і 30 спектакляў у нас тупныя 2 гады з аплатай па 165 рублёў за выступленне.

9 красавіка 1897 года ў гэты загад былі ўнесены змены. З 20 жніўня 1896 года Ф. Стравінскаму прызначалася пенсія як артысту I разрада ў памеры 1 140 рублёў у год і гарантавалася па 35 спектакляў на ўсе 5 гадоў з аплатай па 165 рублёў за спектакль. Калі улічыць, што да гэтага артыст атрымліваў па 8 000 рублёў за тэатральны сезон, то гэта было значным паніжэннем яго сталага заробку да 4 950–5 775 рублёў у год.

4 чэрвеня 1897 года Ганна Кірылаўна з сынам Ігарам выязджаюць на лячэнне ў Германію, а 10 чэрвеня сям'ю напаткала вялікае гора — у маёнтку Пячыскі, дзе ў тое лета адпачывалі Стравінскія, нечакана, не дажыўшы да 22 гадоў, памёр старэйшы сын Раман, студэнт Пецярбургскага універсітэта. Каб захаваць памяць аб сыне, 22 мая 1898 года Ф. Стравінскі засноўвае стыпендыю імя Рамана Стравінскага для бедных студэнтаў юрыдычнага факультэта Санкт-Пецярбургскага універсітэта, праваслаўнага веравызнання, ураджэнцаў Кіева, якія перайшлі на 2 курс і вышэй, у памеры 3 тысячы рублёў у год[25].

У лістападзе 1897 года Фёдар Ігнатавіч Стравінскі зноў пачынае выступленні на сцэне. Сябры і кіраўніцтва імператарскімі тэатрамі імкнуцца падтрымаць старэйшага артыста. 28 студзеня 1898 года ён атрымлівае друкаваны экземпляр «Анчара» і «Прарока» М. Рымскага-Корсакава з даравальным подпісам: «Глыбокапаважанаму артысту Фёдару Ігнатавічу Стравінскаму на памяць. М. Рымскі-Корсакаў, 28 студзеня 1898 г.».

У красавіку 1898 года Ф. Стравінскі нечакана для сябе быў узнагароджаны ордэнам Св. Станіслава III ступені. У сваіх «Расходных кнігах» ён адзначае: «Трэцяга красавіка ў пятніцу 1898 г. у 11 з паловай гадзіны раніцы зусім нечаканым для мяне сюрпрызам я зрабіўся кавалерам ордэна Св. Станіслава 3-й ступені. Гэта першы ордэн, атрыманы мной за ўсё маё жыццё. Не скажу, каб гэта была занадта шчодрая ўзнагарода за 22-гадовы перыяд маёй дзейнасці на імператарскай Рускай опернай сцэне ў Санкт-Пецярбургу. Дарэчы, я і гэтага не чакаў ды і не выказваў ніякага жадання быць узнагароджаным калі-небудзь чым-небудзь. У адзін і той жа час многія мае малодшыя таварышы атрымалі той жа ордэн за ўдвая меншы, чым у мяне, час дзейнасці. Лепшая для мяне ўзнагарода за маю працу – гэта ўвага з боку публікі, якая слухае мяне 22 гады, – усё на адной сцэне ў Санкт-Пецярбургу»[26].

У другой палове 1898 года здароўе Фёдара Ігнатавіча значна пагаршаецца. У 1899 годзе ён упаў на сцэне і моцна выцягнуў спіну. Яму прапаноўваюць пасаду галоўнага рэжысёра Імпе-

ратарскай Санкт-Пецярбургскай оперы, аднак артыст адмаўляецца ад гэтай прапановы і працягвае выступаць на сцэне.

У лістападзе 1900 года дырэкцыя імператарскіх тэатраў звяртаецца з хадайніцтвам да Мікалая II пра наданне Фёдару Ігнатавічу Стравінскаму звання «Заслужаны артыст імператарскіх тэатраў» з выдачай устаноўленага залатога знака і дазволам бенефіса за 25-гадовую службу ў тэатры. У хадайніцтве адзначалася, што Фёдар Стравінскі з часу паступлення на службу дырэкцыі з 20 жніўня 1876 года пастаянна вылучаўся выдатным талентам, высокамастацкім выкананнем, з гэтай прычыны атрымаў поўную прыхільнасць публікі і таму вельмі карысны дырэкцыі. «Высочайшее соизволение» было атрымана, Фёдару Ігнацьевічу Стравінскаму прысвойвалася званне «Заслужанага артыста імператарскіх тэатраў» і ўручаліся адпаведныя знакі. Яму ўстанаўлівалася пенсія 1 140 рублёў у год і па 200 рублёў за кожны ўдзел у оперным спектаклі.

3 студзеня 1901 года увесь тэатральны Пецярбург урачыста адзначаў 25-гадовы творчы юбілей любімага спевака. У Марыінскім тэатры была пастаўлена опера А. Сярова «Юдзіф», у якой юбіляр выконваў партыю Алаферна. М. Рымскі-Корсакаў прысвяціў Ф. Стравінскаму арыю «Анчар — дрэва смерці» на словы Аляксандра Пушкіна і падараваў яму свой партрэт, які зараз захоўваецца ў Пецярбургскім тэатральным музеі. Ф. Шаляпін у сваім віншаванні адзначыў: «Ад глыбіні душы маёй віншую дарагога рускага мастака з высокаўрачыстым днём юбілея. Слава магутнаму рускаму таленту, перамогшаму сілу руціны і застою». У. Стасаў з нагоды юбілею пісаў: “Гэта юбілей, які нам трэба, які мы абавязаны адсвяткаваць... для таго, каб выказаць высокаму мастаку, як мы ўдзячны яму за ўсё, што прыносіць нам яго талент на працягу чвэрці стагоддзя, за тыя мінуты, часы шчасця, асалоды, мастацкага любавання і нацыянальнай гордасці, якія ён даваў нам так багата паспытаць»[27]. Ганна Мікалаеўна Субоціна некалькі гадоў вышывала унікальны абрус, на якім змешчаны ноты асноўных оперных арый з рэпертуара Ф. Стравінскага; яго яна перадала артысту з нагоды юбілею. Свае падарункі і віншаванні даслалі знакамітаму артысту не толькі родзічы і сябры, але і сотні паклоннікаў. 3 (16) лютага Ф. Стравінскага прыняў імператар Мікалай II і гутарыў з ім амаль 30 хвілін. 8 мая пад канец тэатральнага сезона Фёдар Ігнатавіч Стравінскі быў узнагароджаны ордэнам св. Анны III ступені.

У чэрвені сын Ігар скончыў поўны курс гімназіі, а Юрый – Інстытут грамадзянскіх інжынераў. Сям'я адпачывала ў Пячыс-

ках, а з верасня пачаўся новы тэатральны сезон. У лістападзе Ф. Стравінскі цяжка захварэў на інфлюэнцу і толькі перад Новым годам вярнуўся на сцэну. 3 лютага 1902 года на дзённым спектаклі ён выконвае партыю Цунігі ў оперы «Кармен». Гэта было апошняе выступленне Стравінскага на сцэне. Ён ўдзельнічаў амаль у 1 400 спектаклях. З 11 верасня 1873 года і да юбілею выканаў каля 70 роляў у рускіх і замежных операх[28].

У пачатку лета ён разам з Ганнай Кірылаўнай выязджае на лячэнне ў Германію. Аднак стан здароўя пагаршаецца. 16 кастрычніка артыста ў цяжкім стане прывозяць у Пецярбург. 21 лістапада яго не стала, а 25 лістапада адбылося пахаванне.

Праводзіць у апошні шлях аднаго з лепшых оперных спевакоў расійскай сцэны, нашага земляка Фёдара Ігнатавіча Стравінскага прыйшлі ўсе артысты Марыінскага тэатра, сотні людзей, шчырых прыхільнікаў яго велізарнага таленту. Ён быў пахаваны на Волкаўскіх праваслаўных могілках у Пецярбургу, затым перазахаваны на могілках Навадзявочага манастыра, а ў 1936 годзе яго астанкі і помнік з яго магілы перанесены на Ціхвінскія могілкі Аляксандра-Неўскай лаўры (Некропаль майстроў мастацтва).

Ганна Кірылаўна Стравінская намнога перажыла мужа. Памерла яна ў 1939 годзе. Пахавана на праваслаўных могілках Сен-Жэнёў каля Парыжа.

Юрый Фёдаравіч Стравінскі працаваў архітэктарам і памёр перад самым пачаткам Вялікай Айчыннай вайны.

Ігар Фёдаравіч Стравінскі ў 1905 годзе скончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта, з 1914 года (памёр у 1971 г.) жыў за мяжой. Яго творы сталі здабыткам сусветнай мастацкай культуры.

Гурый Фёдаравіч Стравінскі стаў артыстам, спеваком (бас). Памёр ад перытаніту на Румынскім фронце ў 1917 годзе.

*Спасылкі*

[1]Энциклопедическій словарь. Издатели: Ф. А. Брокгаузъ, И. А. Эфронъ. Т. XXXI. СПб., 1901. С. 720.

[2]Большая советская энциклопедия. М., 1976. Т. 24. Кн. 1. С. 544; Музыкальная энциклопедия. М., 1981. Т. 5. С. 312–313.

[3]*Гозенпуд А.* Русский оперный театр XIX века. Л., 1973. С. 44, 211.

[4] *Ф. Стравинский.* Статьи, воспоминания. М., 1985. С. 304.

[5]Беларуская энцыклапедыя: У 18 т. Мн., 2002. Т. 15. С. 192.

[6]Там жа. Мн., 2000. Т. 10. С. 155.

[7]Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Мн., 1987. Т. 5. С. 131–132.

[8]*Кушнер В.* Беларускія карані Фёдара Стравінскага // Беларускі гістарычны часопіс. 2003. № 5. С. 33–44.

[9] Ф. Стравинский. Статьи, письма, воспоминания. Л., 1972. С. 174.

[10]Там жа. С. 176.

[11]*Чайковский П.* Полное собрание сочинений. М., 1953. Т. II. С. 221.

[12] Ф. Стравинский. Статьи, письма, воспоминания. Л., 1972. С. 180.

[13]Там жа.

[14]*Ларош Г. А.* Избранные статьи о Глинке. М., 1953. С. 123.

[15] Ф. Стравинский. Статьи, письма, воспоминания. Л., 1972. С. 205–206.

[16]Там жа. С. 184–185.

[17]Там жа. С. 185.

[18]*Стасов В. В.* Статьи о музыке: В 5 вып. Вып. 4. 1887–1893. М., 1978. С. 260–262.

[19] Ф. Стравинский. Статьи, письма, воспоминания. Л., 1972. С. 94, 96.

[20]*Стасов В. В.* Статьи о музыке. С. 206.

[21] Ф. Стравинский. Статьи, письма, воспоминания. Л., 1972. С. 20–21.

[22]Энциклопедическій словарь. Т. XXXI. С. 270.

[23] Ф. Стравинский. Статьи, письма, воспоминания. Л., 1972. С. 134–135.

[24] И. Ф. Стравинский. Переписка с русскими корреспондентами: Материалы биографии. 1882–1912. М., 1998. Т. 1. С. 14–123.

[25]Там жа. С. 56.

[26]Там жа. С. 55.

[27]*Стасов В. В.* Статьи о музыке. Выпуск 5-А. 1894–1906. М., 1980. С. 260.

[28]Там жа. С. 261.

*Васіль Кушнер*

# Станіслаў БОГУШ-СЕСТРАНЦЭВІЧ (1731–1826)



адзел Рэчы Паспалітай і новы еўрапейскі тэрытарыяльны перадзел, насуперак чаканням царызму, не вырашылі ніводнай праблемы расійскай знешняй палітыкі. Больш таго, няпросты працэс адаптацыі «нованабытых земляў» да расійскай рэчаіснасці не вырашыў, а хутчэй ускладніў праблемы, што стаялі перад Расіяй. Хаця ідэйная парадыгма Расійскай імперыі – праваслаўе, самадзяржаўе, народнасць – набудзе сваё «класічнае» ўвасабленне пазней, у гады Мікалая I, тым не менш ужо да канца XVIII стагоддзя яе змест і сэнс выявіліся досыць яскрава. Не менш яскравым было і тое, што на землях былой Рэчы Паспалітай гэта палітыка не спрацоўвала. Дзяржава ў асобе самадзяржаўя была здольна правіць і кіраваць толькі пры дапамозе сістэмы надзвычайных мер і кожным сваім захадам – увядзеннем генерал-губернатарстваў, ваеннага становішча, сістэмы асобага заканадаўства і шматлікіх адміністрацыйных абмежаваннняў – толькі падкрэслівала адметнасць нованабытых зямель ад цэнтральных расійскіх губерняў. Карціну маналітнай народнасці безумоўна «сапсавалі» асобы польскай і яўрэйскай нацыянальнасці. Украінцы і беларусы не выказвалі асаблівага жадання лічыцца часткай «рускага племені». Праваслаўе, сутыкнуўшыся з каталіцтвам і іудаізмам, апынулася ў складанай сітуацыі і здолела абгрунтаваць свае прэтэнзіі на валоданне рэлігійнай ісцінай толькі з дапамогай магутнай дзяржаўнай падтрымкі. Узаемаадносіны царызму і каталіцкай канфесіі – найбольш яскравае сведчанне і адлюстраванне таго складанага комплексу праблем, з якімі сустрэлася расійская агульнаімперская ідэалогія і практыка на Беларусі.

Напярэдадні першага падзелу Рэчы Паспалітай рымска-каталіцкая царква на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага падзялялася на 4 дыяцэзіі, якія да 1772 года налічвалі 36 дэканатаў, 562 парафіі і 916 касцёлаў і капліц. Колькасць каталіцкіх манастыроў па ваяводствах размяркоўвалася наступным чынам: у Віленскім – 90 мужчынскіх і 10 жаночых, у Інфлянцкім – 16 мужчынскіх, у Троцкім – 34 мужчынскія і 7 жаночых, у Брэст-Літоўскім – 37 мужчынскіх і 4 жаночыя, у Віцебскім – 21 мужчынскі і 4 жаночыя, у Навагрудскім – 28 мужчынскіх і 8 жаночых, у Полацкім – 17 мужчынскіх і 2 жаночыя, у Мсціслаўскім – 17 мужчынскіх і 1 жаночы, у Мінскім – 25 мужчынскіх і 6 жаночых, у Жмудскім – 17 мужчынскіх і 3 жаночыя.

«Каталіцкая спадчына» ставіла перад самаўладдзем няпростую задачу. Ужо амаль сто гадоў ў дзяржаве дзейнічала ўсталяваная яшчэ Пятром I сістэма ўзаемаадносін царквы і дзяржавы, адпаведна якой адбылося поўнае падпарадкаванне праваслаўнай царквы царскаму ўрадаваму апарату, яна была пазбаўлена патрыярхату, а яе святары па-сутнасці пераўтварыліся ў дзяржаўных чыноўнікаў. Цяпер царызму неабходна было стварыць уласную мадэль узаемаадносін з вернікамі і клірам двух «новых» для яго хрысціянскіх канфесій – рыма- і грэка-католікамі. Ужо пасля першага паддзелу Рэчы Паспалітай указам ад 14 снежня 1772 года Кацярына II абавязала губернатараў пільнаваць, каб каталіцкае духавенства не схіляла праваслаўных вернікаў да пераходу ў сваю рэлігію. Адначасова былі прыняты меры па недапушчэнню непасрэдных стасункаў мясцовых католікаў з Ватыканам: тым жа указам папскія булы і распараджэнні маглі быць абвешчаны на далучаных да імперыі тэрыторыях толькі пасля ўхвалення іх імператрыцай. Наступным крокам стала заснаванне ў 1773 годзе Беларускай каталіцкай епархіі ў Магілёве. Узначаліў яе 42-гадовы біскуп Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч.

XVIII стагоддзе вядома літаратарам як эпоха авантюрных раманаў. Аднак жыццё часам пераўзыходзіць самы вытанчаны літаратурны сюжэт. Будучы галоўны пастыр католікаў Расійскай імперыі нарадзіўся 3 верасня 1731 года ў Троцкім ваяводстве, на Гарадзеншчыне ў вёсцы Занкі (зараз Ваўкавыскі раён) ў сям'і збяднелалага шляхціча-кальвініста. Яго выхаванне аплачвала кальвініcцкая абшчына, яна ж накіравала яго на вучобу за мяжу, ва універсітэты Кёнігсберга, Франкфурта, Амстэрдама, Лондана. Яго чакала рамяство хатняга выхаваццеля. Аднак у лёс умяшаўся выпадак: Станіслаў едзе ў Кёнігсберг

прадаць бацькоўскае збожжа і становіцца ахвярай рабаўнікоў. Вайсковая служба палохала меней, чым бацькоўская кара, і літоўскі шляхціч завербаваўся ў прускі гусарскі полк. Ён трывала трымаўся на кані, атрымаў афіцэрскі чын, аднак з-за дуэлі, на якой быў паранены ў руку (1751), у чыне харунжага перайшоў у драгунскі полк Літоўскай гвардыі, дзе даслужыўся да капітана.

Пасля адстаўкі, прычыны якой дакладна невядомы, Станіслаў займае пасаду выхавацеля сыноў князя Радзівіла. Аднак гусарскае мінулае нагадвала аб сабе: адбыўся бурны раман з прадстаўніцай знатнага роду, і справа ішла да вяселля. Здавалася, што адзінай перашкодай для сямейнага жыцця была жорсткая ўмова – жаніх мусіў змяніць веравызнанне. У выніку з кальвініста Богуш-Сестранцэвіч пераўтварыўся ў каталіка. Гэта аказалася больш простым, чым трапіць пад вянец – шлюб урэшце так і не адбыўся. Тым не менш у лёсе С. Богуша-Сестранцэвіча ўсё ж адбыўся чарговы круты паварот. Накіраваўшыся разам з Радзівіламі ў Варшаву, ён паступае ў Галоўную калегію піяраў у манастыры Св. Крыжа. Пачалася, не без апекі віленскага епіскапа Масальскага, імклівая рэлігійная кар'ера: 29 красавіка 1763 года Богуш-Сестранцэвіч прыняў святарства, 20 траўня прыведзены ў жмудскія канонікі, 29 траўня пастаўлены ў іпадыяканы, 12 чэрвеня – ў дыяканы і 14 чэрвеня – у прэсвітэры. З 15 кастрычніка 1767 года Богуш-Сестранцэвіч – віленскі канонік. У час адсутнасці Масальскага ён кіруе па яго даручэнню Віленскай дыяцэзіяй (біскупствам).

Пасля пропаведзі ў Вільні 3 лістапада 1770 года з асуджэннем замаху на жыццё караля Станіслава Аўгуста імя Богуша-Сестранцэвіча становіцца вядомым і пры Пецярбургскім двары. У 1773 годзе ён прызначаецца каад'ютарам віленскага дэканата і епіскапам мальскім (in patribus infidelium), а указам ад 22 лістапада таго ж года па асабістаму выбару Кацярыны II узначальвае новастораную Беларускую епархію. З гэтага часу яго лёс звязаны з расійскім прастолам.

Біскуп энергічна бярэцца за справу: асабіста рэвізуе усе касцёлы сваёй епархіі, у 1778 годзе ўсталёўвае каталіцкую духоўную семінарыю ў Магілёве, рэфармуе манастыры, патрабуючы належнай адукацыйнай падрыхтоўкі манахаў і адкрыцця пры кожным манастыры вучылішча для дзяцей. Між тым уладныя і фінансавыя рэсурсы цалкам заставаліся ў руках самадзяржаўя і выкарыстоўваліся ў якасці галоўнага інструмента і аргумента ў яго канфесіянальнай палітыцы. Царкоўныя ўладанні ў

Расійскай імперыі былі секулярызаваны яшчэ ў 1762 годзе, і лёс уласнасці каталіцкай царквы на абшарах былой Рэчы Паспалітай цалкам залежаў ад волі расійскага манарха.

Царскі рэжым літаральна купляў лаяльнасць каталіцкага кліра. Пры гэтым царызм вёў дастаткова няпрыкрыты гандаль з Ватыканам, неаднаразова пагражаючы пагоршыць і без таго няпростае становішча католікаў у імперыі і нават наогул забараніць каталіцкую веру ў яе межах. Кожная новая прыступка царкоўнай іерархіі, на якую ўступае С. Богуш-Сестранцэвіч, была вынікам дасягнутага з немалымі цяжкасцямі кампрамісу: 10 студзеня 1784 года спецыяльным папскім нунцыем Аркецці ён узведзены ў сан архіепіскапа. 14 лютага 1786 года С. Богушу-Сестранцэвічу было падаравана права насіць знакі кардынальскай годнасці. Папа Пій VI у 1795 годзе надаў яму званне Апостальскага дэлега на тэрміновы час. Імператар Павел I 28 красавіка 1798 года прысвоіў яму тытул мітрапаліта ўсіх рымска-каталіцкіх цэркваў Расіі і прызначыў старшынёй Духоўнай калегіі.

Такім чынам, самадзяржаўе поўнасцю забрала ў свае рукі адміністрацыйна-тэрытарыяльнае кіраванне справамі католікаў Расійскай імперыі. Узаемаадносіны папскага і царскага прастолаў вызначалі знешнепалітычныя аспекты гэтай праблемы. С. Богуш-Сестранцэвіч па-сутнасці быў заложнікам такой палітыкі. Аднак нельга адмаўляць і таго, што знаходзячыся больш чым паўстагоддзя паміж Сцылай і Харыбдай – Ватыканам і Пецярбургам – Богуш-Сестранцэвіч здолеў стаць трэцім бокам складаных палітыка-канфесійных стасункаў. Прычым у многіх выпадках ён змог весці ўласную самастойную палітыку.

Становішча ўскладнялася тым, што і ўнутры самой рымска-каталіцкай канфесіі на рубяжы XVIII-XIX стагоддзяў ішлі вельмі няпростыя працэсы. Найперш гэта датычыла ўзаемаадносін папскага прастола і ордэна езуітаў. Гэту сітуацыю царызм імкнуўся выкарыстаць ва ўласных інтарэсах. Пры заняцці кафедры Богуш-Сестранцэвіч атрымаў ад Кацярыны II распараджэнне сачыць за дзейнасцю езуітаў «яко за коварнейшим из всех прочих латинских орденов». Аднак, неўзабаве пасля булы 1773 года папы Кліментa XIV аб скасаванні ордэна езуітаў, Пецярбург узяў манахаў пад сваю апеку. Дазваляючы езуітам працягваць сваю дзейнасць у межах Расійскай імперыі, царызм відавочна імкнуўся прадэманстраваць Ватыкану сваю моц. У двухсэнсоўным становішчы чарговы раз апынуўся Богуш-Сестранцэвіч. Папская була па волі імператрыцы ў Расіі не была апуб-

лікавана, па яе ж распараджэнню, але супраць сваёй волі, Богуш-Сестранцэвіч дае ў 1779 годзе дазвол езуітам на стварэнне навіцыяту ў Полацку.

Барацьба паміж езуітамі і С. Богушам-Сестранцэвічам ішла з пераменным поспехам і развівалася на фоне спроб Ватыкана ўплываць на пецярбургскую палітыку[1] . Менавіта інтрыгі езуітаў прывялі пры Паўле I да апалы мітрапаліта і яго высылкі 14 снежня 1800 года ў маёнтак Буйнічы, што ў 6 вярстах ад Магілёва, а потым і ў больш аддалены маёнтак Маляцічы з забаронай кантактаў з пабочнымі асобамі. Хоць новы імператар у 1801 годзе вярнуў Богуша-Сестранцэвіча з высылкі, а езуіцкі ордэн урэшце пазбавіўся царскай апекі і яго дзейнасць на тэрыторыі Расійскай імперыі была забаронена, 1773 – 1820 гады можна расцэньваць як час вострага супрацьдзеяння паміж езуітамі і мітрапалітам і як час варожасці двух прэтэндэнтаў на вяршэнства ў справах рыма-католікаў пад расійскай уладай.

Складанай праблемай была таксама наяўнасць на новых землях Расійскай імперыі грэка-католікаў. У новых умовах і праваслаўныя, і рыма-католікі былі салідарны ў адмаўленні самастойнай ролі грэка-каталіцкай канфесіі, затое яны зацята спрачаліся паміж сабой за права «клапаціцца» аб уніяцкай пастве. У вачах імператарскай улады з яе імкненнем да уніфікацыі уніяты таксама выглядалі «лішняй» канфесіяй. Аднак у часы Богуша-Сестранцэвіча Пецярбург канчаткова так і не вызначыўся з месцам грэка-католікаў у сістэме дзяржаўнай канфесійнай палітыкі: 29 снежня 1800 года імператарскім загадам было вызначана, што каталіцкі дэпартамент Юстыц-калегіі будзе займацца духоўнымі справамі не толькі католікаў, але і уніятаў. Аднак не прайшло і 5 гадоў, як было створана 2 дэпартаменты: рымска-каталіцкі і грэка-уніяцкі, а 26 ліпеня 1806 года Полацкі архіепіскап Іраклій Лісоўскі быў прызначаны мітрапалітам усіх грэка-уніяцкіх цэркваў Расіі. Асобна адзначым, што пры жыцці Богуша-Сестранцэвіча царызм так і не рызыкнуў абрынуць на уніятаў усю моц дзяржаўнай машыны, што безумоўна сведчыць аб высокім аўтарытэце і дыпламатычных здольнасцях мітрапаліта. Характэрна, што рашучыя крокі «па выкараненню уніяцтва» былі зроблены адразу пасля яго смерці. У канцы 1827 года быў створаны праект пераводу уніятаў у праваслаўе, падпісаны міністрам народнай асветы і старшынёй Дэпартамента замежных веравызнанняў, затым прыняты шэраг іншых захадаў, якія ўрэшце завяршыліся прымусовым скасаваннем грэка-каталіцтва на землях былога Вялікага княства Літоўскага (1839).

У 1814 годзе С. Богуш-Сестранцэвіч знаходзіцца сярод ініцыятараў стварэння Расійскага біблейскага таварыства, заснаванага па ўзору Брытанскага. Узначаліў яго галоўнакамандуючы (менавіта так у той час называлася гэта пасада) Дэпартаментам замежных веравызнанняў, пазней – міністр духоўных спраў і народнай асветы обер-пракурор Свяшчэннага Сіноду А. Н. Галіцын. Таварыства мела каля 300 мясцовых аддзяленняў і за 12 гадоў свайго існавання распаўсюдзіла больш за 700 000 кніг Святога Пісання на 43 мовах. Удзел мітрапаліта ў дзейнасці таварыства прывёў да чарговага вострага канфлікту з Ватыканам. Каталіцкія святары былі пастаўлены перад нялёгкім выбарам: падпарадкавацца энцыкліцы папы Пія VI, якая забараняла распаўсюджанне надрукаванага Расійскім біблейскім таварыствам Новага Запавета на польскай мове, ці арыентавацца на пазіцыю каталіцкага мітрапаліта Богуша-Сестранцэвіча – дзяржаўнага цэнзара гэтага выдання.

Адметнай рысай Богуша-Сестранцэвіча было тое, што ён ніколі не абмяжоўваўся толькі рэлігійнымі справамі. У 1774 годзе ў Магілёве ён адкрыў уласную друкарню, буйнейшую на беларускіх землях таго часу. За чвэрць стагоддзя ў ёй было надрукавана каля 50 выданняў на рускай, польскай, лацінскай і французскай мовах. Прычым гэта была не толькі рэлігійная літаратура, а і свецкія творы, «Беларускія календары» і «Календары Беларускага намесніцтва» на польскай мове. Аднак найбольш цікавым было выданне твораў самаго С. Богуша-Сестранцэвіча: трагедыі ў вершах «Гіцыя ў Таўрыдзе», іншых літаратурных сачыненняў, а таксама гістарычных прац. У 1793 годзе тут пабачыла свет яго гісторыка-краязнаўчая праца «Аб Заходняй Расіі». С. Богуш-Сестранцэвіч – аўтар «Гісторыі Таўрыды» у 2 тамах, «Гісторыі сарматаў і славян» у 4 тамах, філалагічных прац і іншых твораў, якія друкаваліся і ў Заходняй Еўропе. Як прызнанне навуковых заслуг нашага земляка Віленскі, Кракаўскі і Маскоўскі універсітэты выбіраюць яго сваім ганаровым членам.

У пецярбургскі перыяд свайго жыцця мітрапаліт стаў членам Расійскай акадэміі навук і Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі, на працягу 1813 – 1823 гадоў узначальваў Вольнае эканамічнае таварыства. Сучаснікі адзначалі веданне Богушам-Сестранцэвічам інжынернай справы і архітэктуры. Ён уласнаручна чарціў планы, складаў праекты, рабіў малюнкі фасадаў будынкаў.

На наш погляд, адзіным чалавекам у Расійскай імперыі, які мог бы у той час параўнацца з каталіцкім мітрапалітам талентам, становішчам і вядомасцю ў Еўропе, быў дзяржаўны кан-

цлер Мікалай Пятровіч Румянцаў – палітычны дзеяч еўрапейскага маштабу, мецэнат і руплівец дабрачыннасці. Гэта былі людзі аднаго кола, яны неаднаразова сустракаліся, іх ядналі навуковыя і грамадскія інтэрэсы, яны ўваходзілі ў адны і тыя ж навуковыя таварыства. Агульнай старонкай у іх жыцці стаў беларускі горад Гомель. Румянцаву належаў велізарны Гомельскі маёнтак, які дзякуючы яго намаганням пераўтварыўся ў квітнеючы край. Для С. Богуша-Сестранцэвіча Гомель стаў першым месцам, дзе ён самастойна ўзначаліў парафію. У 1816 годзе мясцовае дваранства пры падтрымцы Румянцава і Богуша-Сестранцэвіча паспрабавала адкрыць у Гомелі дваранскую вучэльню на 120 месц «па правілах у прадметах ліцэя Царскасельскага». На яе ўтрыманне мітрапаліт абавязаўся штогод ахвяраваць 1 000 рублёў, а канцлер – 4 000, што па тым часе складала вельмі значныя сумы[2]. Нягледзячы на тое, што на сродкі Румянцава для будучага ліцэя быў пабудаваны двухпавярховы каменны будынак, гэта навучальная ўстанова адкрыта не была з-за супрацьдзеяння папячыцеля Віленскай навучальнай акругі Адама Чартарыскага.

Чаму менавіта С. Богуша-Сестранцэвіча Кацярына II зрабіла галавой усёй каталіцкай царквы Расійскай імперыі? На гэта пытанне мы не можам даць пэўнага адказу. Аднак відавочна, што толькі выдатныя асабістыя здольнасці дапамаглі яму захаваць гэту пасаду пажыццёва. Не будзе перабольшаннем сцвярджаць, што ў сваёй біяграфіі С. Богуш-Сестранцэвіч яскрава ўвасобіў найбольш характэрныя гістарычныя рысы сваёй эпохі – стагоддзя Асветніцтва. З аднаго боку – ён «мяцежны» мітрапаліт, чые дзеянні неаднаразова правакавалі незадаволенасць Ватыкана. З другога – каталіцкі пастыр, спрактыкаваны царадворац, які ў складаных умовах праваслаўнай Расійскай імперыі здолеў паслядоўна і настойліва адстойваць інтарэсы сваёй канфесіі. Чалавек, які прайшоў шлях ад мундзіра гусарскага афіцэра да кардынальскай мантыі, з выхаванцаў кальвінісцкай вучэльні да вышэйшых ступеней іерархіі рымска-каталіцкай царквы. А яшчэ выдавец, навуковец, акадэмік, драматург і прэзідэнт Вольнага эканамічнага таварыства.

1 снежня 1826 года Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, каталіцкі мітрапаліт Расійскай імперыі, сучаснік апошняга польскага караля і чатырох расійскіх цароў, памёр у Пецярбургу. Яго пахавалі тут жа, у касцёле св. Станіслава, пабудаваным у 1823 – 1825 гадах па праекту архітэктара Д. І. Вісконці. Нябожчык быў фундатарам гэтага храма. Дарэчы, па знешняму абліччу пецярбургскі касцёл св. Станіслава вельмі нагадвае касцёл,

пабудаваны ў 1818 – 1822 гадах у Гомелі англійскім архітэктарам Дж. Кларкам па замове М. П. Румянцава.

«Век Просвещення был недолог ...»: на Захадзе на змену яму прыйшла крывавая Французская рэвалюцыя і эпоха не менш крывавых напалеонаўскіх войнаў, для Рэчы Паспалітай ён скончыўся разам з яе падзеламі, у Расійскай імперыі – з рэжымам Мікалая I. 96 гадоў жыцця сучасніка гэтых падзей, мітрапаліта Станіслава Богуша-Сестранцэвіча – гістарычны раман, які яшчэ чакае свайго Дзюма.

Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч быў дзядзькам Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, якому аказваў дапамогу. В. Дунін-Марцінкевіч у 20-х гадах XIX стагоддзя вучыўся ў Пецярбургу на выхаванні і пад апекай Богуша-Сестранцэвіча.

*Спасылкі*

[1] Свае адносіны да езуітаў С. Богуш-Сестранцэвіч выказаў у падрабязнай запісцы на імя імператара Аляксандра I. Гл.: Изображение происшествий в духовенстве Западного последования, в России пребывающем, от того времени, как поручено оное епископу, ныне митрополиту Сестренцевичу Богушу // Русский архив. 1870. Т. 10. С. 1745 – 1768.

[2] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 3014, воп. 1, сп. 39, ар. 1 – 3, 16, 18.

*Літаратура*

*Глаголев А.* Воспоминания о Митрополитах Р. К. церквей в России: Ст. Сестренцевич-Богуше и Гаспаре Колюмне Цецишовском // Журнал Мнистерства внутренних дел. 1835. № 1.

Дневник Сестренцевича, первого митрополита римско-католических церквей в России. Ч. 1–5. СПб.; Пг., 1913 – 1917.

*Каханоўскі Г. А.* Адчыніся, таямніца часу. Мн., 1984.

Краткое начертание деятельной и трудовой жизни... Станислава Богуша-Сестранцевича. СПб., 1826.

*Мурзакевич Н.* Архиепископ католический Станислав Сестренцевич-Богуш // Записки Имп. Одесского общества истории. 1875. Т. 9.

*Stachowski T.* Rys życia I prac naukowych ś.p. St. Siestreńcewicza, arcybiskupa, metropolity. Kraków, 1839.

*Андрэй Кіштымаў*

# Аляксандр СКІРМУНТ (1799–1870)



ераломным момантам у еўрапейскай і сусветнай гісторыі стаў час, калі на тле старога, аграрнага ладу жыцця сталі выразна адбівацца рысы новага, індустрыяльнага грамадства. Эканамічнае развіццё Беларусі, як і усёй Еўропы, адчула на сабе відавочныя наступствы прамысловага перавароту. Яго звёнамі былі новыя паліўна-энергетычныя крыніцы, у першую чаргу – паравыя рухавікі, узнікненне фабрык і заводаў, значнае паляпшэнне шляхоў зносін, працэсы урбанізацыі. З асяроддзя былой шляхты Рэчы Паспалітай выходзілі першыя беларускія прадпрымальнікі, фабрыканты і заводчыкі. І сярод іх зоркай першай велічыні вылучаецца Аляксандр Скірмунт, заснавальнік знакамітай беларускай прадпрымальніцкай дынастыі, шырока вядомай ў свой час і за межамі Беларусі.

Карані роду Скірмунтаў адыходзяць далёка ўглыб стагоддзяў. Скірмунты былі шляхецкім родам уласнага герба (у блакітным полі два чырвоныя сэрцы, а паміж імі дзве сярэбраныя стралы). З XVIII стагоддзя яны ўжывалі герб Дуб з княжацкай мітрай і выводзілі сябе ад легендарнага летапіснага князя Скірманта. Пачынальнікам пінскай лініі роду з'яўляецца Богуш Скірмунт, які ў 1543 годзе быў падстаростам давыд-гарадоцкім. У 1552 годзе польская каралева Бона падаравала Богушу Скірмунту зямельны надзел у Плотніцы (на Століншчыне), за што ён абавязаўся «службу военную земскую служыці». Яго нашчадкі шляхам куплі і шлюбаў атрымалі значныя зямельныя ўладанні ў Пінскім павеце. У старажытных актах ёсць успамін пра Крыштафа Скірмунта, старосты плотніцкага, верагодна

нашчадка Богуша. Па дакументах пінскага магістрата ў 1777 годзе войтам горада быў Адам Скірмунт.

Магчыма б і засталіся Скірмунты сярэднім шляхецкім родам, з гонарам і пачуццём годнасці, але ж без асаблівых заслуг і багацця, калі б не Сымон Скірмунт (1751 – 1835). Спачатку паспяховая дзяржаўная служба ў родных мясцінах, потым – дэпутат Трыбунала Вялікага княства Літоўскага, з 1790 года – каралеўскі камісар, пасол на Чатырохгадовы сойм (1788 – 1792), з 1799 года – маршалак брэсцкі. Усё гэта, а таксама ўдалая жаніцьба з Альжбетай з вядомага роду Ажэшкаў дазволілі яму нажыць нямалую маёмасць і вельмі выгадна распарадзіцца ёй. У 1792 годзе ён за 468 000 злотых выкупляе ў Агінскіх маёнткі Моладава і Парэчча ў Пінскім Палессі. Справа ў тым, што ў канцы XVIII стагоддзя былая магутнасць старых магнацкіх родаў імкліва падала. Іх асабістыя запатрабаванні ўсё часцей не супадалі з іх эканамічнымі і палітычнымі магчымасцямі. Вялікія маёнткі, аблытаныя даўгамі, сталі мяняць сваіх гаспадароў. Вось і на Палессі магнаты Агінскія вымушаны былі развітацца са сваімі ўладаннямі.

Новы ўладальнік пачаў з будаўніцтва ў Моладаве цудоўнага палаца (замест старога драўлянага дома) ў стылі класіцызму паводле праекта архітэктара Гроса. За тры гады быў узведзены аднапавярховы будынак, які нагадваў каралеўскі палац у Віляпуве пад Варшавай. Пакоі і залы ўпрыгожвалі партрэты Скірмунтаў і Ажэшкаў, у тым ліку і пэндзля славутага мастака Валенція Ваньковіча, жывапіс еўрапейскіх майстроў, габелены і старадаўняя мэбля. Вакол палаца быў разбіты парк у англійскім стылі з пейзажнымі ландшафтамі, сістэмай сажалак, пратокаў і каналаў з маляўнічымі масткамі. Француженка Р. Белі ў сваіх успамінах пра падарожжа на Піншчыну адазвалася пра моладаўскі палац так: «Ён як мара пры свеце месяца пад музыку Моцарта. Калоны падобны на лілії, якія падтрымліваюць гірлянды, фасад, як снежная статуя, разгортвае лёгкія і поўныя грацыі матывы».

Напачатку ўсё не выходзіла за рамкі прыгожай панскай задумкі. І па сённяшні дзень старажытныя паркі, а дзе-нідзе і ўцалелыя сядзібныя пабудовы складаюць неад'емную і рамантычную частку беларускага краявіду. Аднак уладанням Скірмунтаў быў суджаны іншы лёс. Сын Сымона Скірмунта – Аляксандр – пераўтварыў глухі палескі куточак у буйны прамысловы цэнтр.

Нарадзіўся Аляксандр Ізідар ужо ў Моладаве 1 (па іншых

звестках – 21) студзеня 1799 года. З юнацтва вызначаўся вельмі дапытлівым і практычным розумам. Пасля заканчэння ў 20-гадовым узросце са ступенню магістра фізіка-матэматычнага факультэта Віленскага універсітэта ён адпраўляецца ў Нямеччыну, Францыю і Бельгію для прадаўжэння вучобы, дзе праводзіць некалькі гадоў.

Яшчэ пры жыцці – выпадак даволі рэдкі – бацька перадае сыну права кіравання капіталамі і маёнткамі, якія ахоплівалі амаль 30 тысяч дзесяцін зямлі ў Кобрынскім і Пінскім паветах. Аляксандр Скірмунт энергічна ўзяўся за справу. І пачаў сваю дзейнасць з дасюль невядомай на беларускіх землях вытворчасці, новай нават для Заходняй Еўропы. Ён будуе ў Моладаве ў 1830 годзе цукровы завод – першы на Беларусі.

Хаця трысняговы цукар быў вядомы еўрапейцам з часоў Аляксандра Вялікага, нават у XVIII стагоддзі ён працягваў заставацца прадметам раскошы. Такое становішча захоўвалася да таго часу, пакуль не з'явіліся цукровыя буракі. Зрэшты, буракі «сталі цукровымі» толькі ў 1747 годзе, калі нямецкі хімік Андрэас Маргграф выдзеліў з іх цукар у цвёрдым стане. Але час панавання трысняговага цукру працягваўся па-ранейшаму. І толькі эпоха напалеонаўскіх войнаў, калі ў выніку кантынентальнай блакады дастаўка цукру ў Еўропу з далёкіх калоній была цяжкай, прымусіла паглядзець на цукровыя буракі як на рэальную альтэрнатыву цукроваму трыснягу.

Не выпадкова, што менавіта Аляксандр Скірмунт, і менавіта ў 1830 годзе арганізоўвае новую па тых часах галіну вытворчасці. Сваю ролю тут адыграла не толькі знаёмства з перадавым заходнееўрапейскім вопытам, але і тое, што ў год адкрыцця завода малады прадпрымальнік атрымлівае дзяржаўную прывілею (патэнт) на уласнае вынаходніцтва ў галіне вытворчасці цукру: апарат з выкарыстаннем пары для паскоранага выпарвання цукровага сіропу. Трэба адзначыць, што ў Расійскай імперыі вынаходніцтва стала прызнавацца відам інтэлектуальнай уласнасці і атрымала юрыдычную абарону на падставе царскага маніфеста ад 17 чэрвеня 1812 года. Цяпер правы вынаходніка сталі абараняцца шляхам выдачы дзяржаўных прывілей. Пры выплаце асаблівай пошліны ўладальнік прывілеі на працягу пэўнай колькасці гадоў манапольна распараджаўся сваім вынаходніцтвам.

Сутнасць вынаходніцтва А. Скірмунта была ў прымяненні так званага «пракату» – металічнай, з невялікім ухілам, паверхні, па якой тонкім слоем сцякаў цукровы сіроп, які знізу

награваўся парай. «Пракат» дазваляў значна паскорыць тэхналагічны працэс: замест звычайных пры агнявым награванні 4 – 5 гадзін на «пракаце» выпарванне доўжылася толькі 3 – 4 хвіліны. Гэта была першая ў сусветнай цукровай тэхніцы ўстаноўка бесперапыннага дзеяння[1]. Сам А. Скірмунт, атрымаўшы 10 снежня 1830 года прывілею тэрмінам на 10 гадоў (№ 61 па агульнаму ліку выданых да того часу ў царскай Расіі), стаў першым афіцыйна прызнаным беларускім вынаходнікам[2]. Аднак першы вопыт яго прадпрымальніцкай дзейнасці нельга назваць цалкам паспяховым. Вадзяны рухавік і нязначныя поспехі ў вырошчванні і апрацоўцы новай для тых мясцін тэхнічнай сельскагаспадарчай культуры – цукровых буракоў – стрымлівалі вытворчасць. Да таго ж праз некалькі гадоў пасля заснавання завод згарэў і хаця быў хутка ўзноўлены, яго вытворчыя поспехі заставаліся дастаткова сціплымі. Так, у 1840 годзе яны складалі ўсяго 300 пудоў цукру-рафінаду на суму 3 150 рублёў срэбрам і 180 пудоў цукру-пяску на суму 1 387 рублёў 80 капеек. Працавала на ім 30 рабочых з прыгонных сялян пад кіраўніцтвам майстра. Гістарычны архіў захаваў яго імя – Давыд Вырвіч, таксама з прыгонных[3]. У 1848 годзе завод спыніў сваё існаванне.

Але да таго часу ў суседнім маёнтку Парэчча на поўную магутнасць запрацавала новае тварэнне А. Скірмунта – суконная фабрыка. Тэкстыльная вытворчасць у Беларусі існавала спрадвеку побач з заняткамі сельскай гаспадаркай. Сукнавальні стваралі як дадатковую крыніцу прыбыткаў. Аднак размах, з якім ўзяўся за справу гаспадар Парэчча, пераўзышоў усе папярэднія пачынанні. Ён сам распрацаваў усю тэхналогію, закупіў замежнае абсталяванне, запрасіў з Германіі вопытных майстроў, якія напачатку абучалі рабочых з мясцовых сялян. У 1836 годзе фабрыка дала першую прадукцыю і хутка вылучылася ў лідэры сваёй галіны. Можна шмат гаварыць пра яе вытворчыя поспехі, а можна і проста пералічыць узнагароды, якія прысуджаліся яе тканінам на усерасійскіх і міжнародных, у тым ліку сусветных, выставах: 1865 год, Масква, Усерасійская мануфактурная выстаўка – вялікі сярэбраны медаль, а дырэктар фабрыкі Аляксандр Скупеўскі ўдастоены пахвальнага ліста; 1867 год, Парыж, Сусветная выстаўка – ганаровы водгук; 1873 год, Вена, Сусветная выстаўка – медаль заслугі; 1878 год, Парыж, Сусветная выстаўка – вялікі сярэбраны медаль; 1882 год, Масква, Усерасійская мастацка-прамысловая выстаўка – залаты медаль; 1896 год, Ніжні Ноўгарад, Усерасійская прамысловая і мастацкая выстаўка – сярэбраны медаль; 1901 год, Мінск, Юбілейная

сельскагаспадарчая і саматужна-прамысловая выстаўка – залаты медаль. Прадукцыю парэцкай фабрыкі ведалі ў Пецярбургу, Маскве, Варшаве, Вільні, Кіеве, Адэсе[4].

У розныя гады колькасць рабочых на фабрыцы вагалася ад 200 да 450 чалавек. Ад паслуг нямецкіх, пераважна з Сілезіі, спецыялістаў парэцкі фабрыкант хутка адмовіўся. Ён зрабіў стаўку на мясцовых ураджэнцаў. Большасць рабочых жыла на фабрыцы: там былі дамы з 90 кватэрамі для сямейных і 4 інтэрнаты для несямейных працаўнікоў. Уладальнік аплачваў харчаванне, кватэрную плату, утрымліваў за свой кошт доктара і фабрычную бальніцу на 12 ложкаў. Дзейнічала бясплатнае вучылішча, дзе дзяцей вучылі грамаце і ткацкаму рамяству[5].

Праз трыдцаць гадоў А. Скірмунт вярнуўся да свайго першага вопыту прадпрымальніцкай дзейнасці. Тут жа, у Парэччы, ён будуе новы цукровы завод. Па аб·ёмах вытворчасці новае прадпрыемства ў 50 разоў пераўзышло свайго моладаўскага папярэдніка, і працавала на ім у 10 разоў больш рабочых. Размяшчаўся завод у чатырохпавярховым каменным будынку на беразе Ясельды, меў некалькі паравых машын і выпрацоўваў да 15 тысяч пудоў цукру за сезон. Прадукцыю збывалі ў Пецярбург, Маскву, Варшаву, суседнія губерні. Як і парэцкія тканіны, яна неаднаразова экспанавалася на расійскіх і міжнародных выставах, у тым ліку на сусветных – у Вене ў 1873 годзе (дыплом ухвалення) і Парыжы ў 1878 годзе (бронзавы медаль). Але з цукрам быццам бы злы рок праследаваў гаспадара. У 1879 годзе парэцкі цукровы завод згарэў і больш не узнаўляў сваю дзейнасць. Аднак працягвала дзейнічаць тэкстыльная фабрыка, новы буйны вінакурны завод у Моладаве, пабудаваны ў 1865 годзе, паспяхова развівалася шматгаліновая сельскагаспадарчая вытворчасць, лясная гаспадарка, вяліся меліярацыйныя работы.

Прадпрымальніцкая жылка ў Аляксандра Сымоновіча безумоўна была, але нельга сказаць, што ім кіравала толькі імкненне да нажывы. Ён жа не толькі развіваў свае прадпрыемствы, але і дапамагаў іншым прамыслоўцам. Так, у сваім маёнтку Альбрыхтава пад Пінскам Скірмунт аддаў варшаўскаму купцу Робэрту Ботэ зямельны участак і пабудовы для арганізацыі фабрыкі стэарынавых свечак і вытворчасці мыла – таксама новай справы для тагачаснай Беларусі. Хутка гэта фабрыка стала адной з буйнейшых у Расійскай імперыі[6]. Ён таксама заснаваў паравы млын у Пінску і фабрыку сельскагаспадарчых прылад у Дастоеве.

Расло багацце А. С. Скірмунта, раслі і яго дзеці. Амаль ад-

разу пасля вяртання ў 1823 годзе з-за мяжы ён парадніўся са старажытным родам Сулістроўскіх, калі ажаніўся ■ дачкой мінскага губернатара Канстанцыяй. Ад гэтага шлюбу ў іх нарадзілася шасцёра сыноў і пяць дачок. Як і яго бацька, Аляксандр Сымонавіч яшчэ пры жыцці ў 1860 годзе перадае кіраванне фабрыкамі ў Парэччы старэйшаму сыну, таксама Аляксандру, а ў Моладаве – сыну Генрыху. Але і на схіле гадоў дух прадпрымальніцтва ў А. Скірмунта не згас. Ён едзе ў Крым, набывае там участак у даліне Балаклавы, разводзіць лепшыя гатункі венгерскага і рэйнскага вінаграду, а калі вінаграднік пачаў даваць прыбытак, перадае яго яшчэ аднаму свайму сыну – Казіміру. Чаму менавіта вінаград так прывабіў сталага жыхара далёка не вінаграднай Беларусі – невядома. Пасля крымскага удалага вопыту А. Скірмунт заснаваў другі вінаграднік далёка нават ад Расійскай імперыі – у Італіі, на беразе Адрыятычнага мора.

Аднак плёну свайго апошняга пачынання ён не паспеў убачыць. 22 ліпеня 1870 года ў 72-гадовым узросце патрыярх беларускага прадпрымальніцтва і заснавальнік прадпрымальніцкай дынастыі памёр у Германіі, куды выехаў на лячэнне. На радавых могілках Скірмунтаў у Моладаве пазнаць пахаванне Аляксандра Скірмунта лёгка па выразнаму надпісу – «рэфарматару».

Аляксандр Ізідар Скірмунт вядомы і як грамадскі дзеяч. У 1832 – 1834 гадах ён быў маршалкам шляхты Пінскага павета. У 1834 годзе атрымаў прыдворнае званне камергера.

Такім чынам, у другой палове XIX стагоддзя спадчына Скірмунтаў была падзелена. Аднак нашчадкі Аляксандра Скірмунта не збіраліся перапыняць тое, што было створана немалой працай. Рэканструяваліся старыя прадпрыемствы, будаваліся новыя, працягвалася інтэнсіўнае гаспадарчае жыццё. Не згасла эканамічная слава скірмунтаўскіх уладанняў. Не цураліся яго нашчадкі і свету прыгожага: Алена Скірмунт (1827 — 1874) вучылася жывапісу і скульптуры ў Вільні, Берліне і Парыжы. Яе дачка Канстанцыя (1852 – 1934) набыла вядомасць як гісторык і публіцыст. Унук А. Скірмунта Генрых (1868 – 1939) – апошні ўладальнік Моладава – паэт, кампазітар, аўтар оперы «Пан Валадыёўскі» паводле рамана Г. Сянкевіча.

Вельмі лагічна заўсёды выглядае і шлях з бізнеса да палітыкі. Сын Аляксандра Аляксандравіча Скірмунта, Раман (1868 – 1939), стаў вядомым грамадскім дзеячам, дэпутатам першай Дзяржаўнай думы, Членам Дзяржаўнага савета Расійскай імперыі, старшынёй Беларускага нацыянальнага камітэта, адным са стваральнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Яго стрыеч-

ны брат Канстанцін (1866 – 1949) пры царскай уладзе – член Дзяржаўнага савета, а потым дыпламат, пасол і міністр замежных спраў Польшчы.

Палессе XIX стагоддзя, балоцісты, забыты Богам і людзьмі край – быццам не самае лепшае месца для рэалізацыі смелых дзелавых праектаў. Але цывілізатарская роля бізнеса і тут выразна сябе праявіла. У гэты перыяд з беларускай гістарычнай арэны практычна сыходзяць тытаны сярэднявечча, такія стара-магнацкія дынастыі, як Радзівілы, Сапегі, Агінскія. Новая эпоха патрабавала новых дынастый. Іх карані таксама маглі губляцца ў сівой даўніне, аднак сапраўдны росквіт прыйшоўся на XIX стагоддзе. У адрозненне ад мінулых часоў іх уплыў, вядомасць, багацце і магутнасць засноўваліся не на велічыні зямельных уладанняў, не на высокіх дзяржаўных пасадах і блізкасці да вялікакняжацкага і каралеўскага двара, не на вайсковай доблесці, а на здольнасці прыстасавацца да новых эканамічных умоў, паспяховай гаспадарчай палітыцы, лідэрстве у асобных галінах вытворчасці. І тут Аляксандру Скірмунту належыць самае пачэснае месца.

*Спасылкі*

[1] *Иванов С. З., Лепешкин И. П.* Очерки по истории техники отечественного сахарного производства. М., 1955. С. 70.

[2] Указатель хронологический, предметный и алфавитный выданных в России привилегий (за исключением выданных по Департаменту сельского хозяйства). С 1814 по 1866 гг. СПб., 1866. С. 11.

[3] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродна. Ф. 1, воп. 20, спр. 232, ар. 104 ад. – 105.

[4] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей – НГАБ). Ф. 21, воп. 1, спр. 14, ар. 528; спр. 139, ар. 961; ф. 295, воп. 1, спр. 55, ар. 189; спр. 1935, ар. 116 – 117.

[5] НГАБ. Ф. 21, воп. 1, спр. 54, ар. 189 – 189 ад.

[6] *Недошвин И.* Очерки развития стеаринового производства в России // Записки Казанского экономического общества. 1858. № 10.

*Літаратура*

*Вяроўкін Шэльта Ул.* Скірмунты // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 6. Кн. 1. Мн., 2001.

*Андрэй Кіштымаў*

## КАРОТКІЯ ЗВЕСТКІ ПРА АЎТАРАЎ

**Брычыкава Алена** – дацэнт Беларускага Нацыянальнага тэхнічнага універсітэта.

**Бутэвіч Анатоль** – пісьменнік.

**Галенчанка Георгі** – доктар гістарычных навук, загадчык аддзела Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі.

**Гапоненка Вольга** – кандыдат фізіка-матэматычных навук, супрацоўнік музея гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі.

**Грыцкевіч Анатоль** – доктар гістарычных навук, загадчык кафедры гісторыі і музеязнаўства Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры.

**Кіштымаў Андрэй** – кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі.

**Кушнер Васіль** – кандыдат гістарычных навук, галоўны рэдактар «Беларускага гістарычнага часопіса».

**Мархель Уладзімір** – кандыдат філалагічных навук, загадчык аддзела Інстытута літаратуры імя Я. Купалы Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі.

**Саверчанка Іван** – доктар філалагічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі.

**Скалабан Віталь** – кандыдат гістарычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.

**Скарабагатаў Віктар** – заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, мастацкі кіраўнік творчага аб'яднання «Беларуская капэла».

**Тарасаў Сяргей** – кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела археалогіі сярэдневяковага перыяду Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі.

**Шалькевіч Вячаслаў** – доктар філасофскіх навук, прафесар кафедры дзяржаўна-прававых дысцыплін Мінскага інстытута кіравання.

**Янушкевіч Язэп** – кандыдат філалагічных навук, загадчык аддзела археаграфіі Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы.

## ЗМЕСТ




Навукова-папулярнае выданне

**Славутыя імёны Бацькаўшчыны**
**Зборнік**
**Выпуск другі**

Рэдактар З. А. Лысенка
Мастацкі рэдактар П. М. Драчоў
Тэхнічны рэдактар В. А. Басава
Карэктар З. А. Лысенка
Вёрстка А. У. Каршакова
Камп'ютэрны набор А. А. Федарэнка

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 28.11.2003. Фармат 60 x 90/16.
Папера афс. Гарнітура Школьная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 24.
Ул.-выд. арк. 20. Тыраж 2000 экз. Зак. 2059.

Выдавецтва «Беларускі фонд культуры».
Ліцэнзія ЛВ № 241 ад 11.04.98.
220029, г. Мінск, Камунальная наб., 6.

Друкарня УП «Светач».
Ліцэнзія ЛП № 187 ад 09.01.2003.
220034, г. Мінск, вул. Першамайская, 7.

**Пераплётныя работы выкананы на ААТ "Паліграфкамбінат імя Я. Коласа", вуліца Чырвоная, д. 23.**